F. Kopečný, H. Plevačová.— Svažek 2. Spojky, častice, zájmena a zájmenná adverbia.— Praha, 1980.
ESSJ, пробны сшытак — Etymologický slovník slovanských jazyků. Ukázkové číslo.— Brno, 1966.
Этимол. слов. — Этимология русских диалектных слов.— Свердловск, 1978.
Янкоўскі, Бел. мова — Ф. М. Янкоўскі. Беларуская мова, 3-е выд. Мн., 1978.

## МОВЫ І ДЫЯЛЕКТЫ

англа.-сакс.— англасаксонскае
арэнб.— арэнбургскае
беламор.— беламорскае
брэтонск.— брэтонскае
валож.— валожынскае
ворап.— воранаўскае
гарадоцк.— гарадоцкае
еніс.— енісейскае
калым.— калымскае
кіраўск.— кіраўскае
нідэр.— нідэрландскае
паст.— пастаўскае
праванс.— правансальскае
пячор.— пячорскае
рэтарам.— рэтараманскае
с.-ірл.— сярэднеірландскае
семіц.— семіцкае
сімб.— сімбірскае
стаўрап.— стаўрапольскае
тах.— тахарскае
тульск.— тульскае
уральск.— уральскае

# Г

**Га!** выклічнік, які ўжываецца ў розных функцыях: 1 водгук (Нас., Касп., Сцяшк.); 2 пытанне, кліканне (Нас., Касп., Шат., Бяльк.); 3 пагарда (Нас.). Для абазначэння розных псіхалагічных станаў гэты выклічнік ужываецца і ў іншых слав. мовах. Параўн. рус. *га!*, укр. *га!*, польск. *ha!*, чэш. *ha!* і г. д. Прымарны выклічнік, вядомы таксама ў іншых індаеўрапейскіх і неіндаеўрапейскіх мовах (ням. *ha!*, франц. *ha!*, лац. *ha!*, грэч. *ᾶ*, ст.-інд. *hā*). Гл. Слаўскі, 389—390; Рудніцкі, 513.

**Га** 'гектар' (РБС), рус. *га*, укр. *га*. Запазычанне (праз рус. мову) новага часу з франц. *ha* 'тс' (якое з'яўляецца скарачэннем слова *hectare* 'гектар'). Параўн. Шанскі, 1, Г, 3 (у рус. мове слова фіксуецца з 1932 г.).

**Габ** 'вяз, Ulmus' (Весці, 1969, 4, 125), *габіна* 'вяз гладкі, звычайны, Ulmus laevis L.' (Гродз. Ан.; Кіс.) — Кіс., 135. Польск. *gab, gabina* 'тс'. Раней лічылі, што гэтыя слав. словы роднасныя з літ. *guobà, gúobas* 'тс', лат. *guôba* (і далей з слав. назвамі дрэў **gabrъ, *grabrъ, *grabъ*). Параўн. Буга (Rinkt., 1, 604), які параўноўвае слав. **gabrъ*, польск. *gab, gabina* з балт. словамі і аддзяляе **grabъ* (II, 104, 340; Фрэнкель, 1, 176—177). Непакупны (Лекс. балтызмы, 29) указвае, што польск. словы лакалізуюцца ў гаворках Аўгустоўскага павета па суседству з Гродзеншчынай. Польск. і бел. словы ўтвараюць пэўны арэал каля паўднёвай граніцы Літвы і з'яўляюцца запазычаннем з літ. мовы.

Застаецца няясным пытанне пра шлях запазычання ў бел. мову (прама з літ. мовы ці праз польск.). Таксама няясна, як утварылася вытворнае *габіна* — самастойна (ад *габ*) ці гэта запазычанне з польск. *gabina*? Формы *габ* могуць адлюстроўваць літ. *gúobas*, а *габіна, gabina* (<**gaba?*), магчыма, узыходзяць да літ. *guobà* (для тыпу *габіна* гэта меркаванне не абавязковае: *габіна* можа быць утворана прама ад *габ*, а не ад *габа*).

**Габары́т** (БРС). Рус. *габари́т*, укр. *габари́т*. Запазычанне з франц. мовы *gabarit*. У гэтай форме слова вядома ў рус. мове ўжо з 1891 г. Гл. Шанскі, 1, Г, 4. Непасрэднай крыніцай запазычання для бел. слова з'яўляецца, відаць, рус. *габарит*.

**Габа́ць** 'хапаць, браць' (Байк. і Некр.). Параўн. укр. *га́бати*

'хапаць', рус. дыял. *габа́ться* 'барацца', чэш. *habati*, славац. *habat'* 'хапаць' і г. д. Агляд форм і семантыкі ў Трубачова (Эт. сл., 6, 76—77), які прымае магчымую сувязь з літ. *gobéti* 'жадаць' і з утварэннямі тыпу **xapati*. Гл. Слаўскі, 1, 243.

**Габеле́н**, *габеле́навы* (БРС). Рус. *гобеле́н*, укр. *гобеле́н*. Запазычанне з франц. *gobelin* 'тс' (якое зыходзіць да ўласнага імя *Gobelin*). Параўн. Клюге, 263; MESz, 1, 1067. Фасмер (1, 423) дапускае магчымасць запазычання праз ням. мову. Рус. *гобеле́н* вядома ўжо ў 1835 г. (гл. Шанскі, 1 (4), с. 111). Яно, мабыць, было непасрэднай крыніцай бел. слова.

**Габёлак** 'рубанак'. Гл. *гэ́бель*.

**Габіна** 'вяз звычайны'. Гл. *габ*.

**Габіне́т** уст. 'кабінет' (БРС). Укр. дыял. *габіне́т*. Запазычанне з польск. *gabinet* 'тс', а гэта з іт. *gabinetto* 'тс' (Слаўскі, 244; Брукнер, 130). Параўн. *кабіне́т*.

**Га́біт** 'манаскае адзенне ўвогуле і асабліва ў каталіцкіх манахаў' (Нас.), Укр. *га́біт, габит* (з XVII—XVIII стст.). Запазычанне з польск. *habit* 'тс' (вядомага з XVI ст.) < лац. *habitus* 'тс' (Слаўскі, 390; Кюнэ, Poln.,,55). Параўн. яшчэ Рудніцкі (515), які ўкр. словы выводзіць прама з лац. У ст.-бел. мове ў XVIII ст. засведчана *габитъ* 'выгляд, аблічча' < лац. *habitus* 'тс' (гл. Булыка, Запазыч., 76). Лац. слова пранікла ў многія еўрап. мовы. Параўн. Слаўскі, там жа; MESz, 2, 9. Сюды ж *га́бітнік* 'ксёндз, які ходзіць у габіце' (Нас.). Паколькі гэтага слова няма ў польск. мове, то яго трэба лічыць беларускім утварэннем ад запазычанага *га́біт*.

**Га́блі** 'вілкі з тупымі зубамі для насыпання бульбы' (КЭС), 'вілы з густа пастаўленымі зубамі' (Сцяшк.), укр. *га́блі, ка́блі* 'вілы з трыма зубамі'. Першакрыніцай з'яўляецца ням. *Gabel* 'тс'. Рудніцкі (778) прымае для ўкр. непасрэднае запазычанне з ням., а Шалудзька (Нім., 28) мяркуе пра пасрэдніцтва польск. *gabel*.

**Га́вань** 'гавань' (БРС). Рус. *га́вань*, укр. *га́вань* (з XVIII ст.). Першакрыніцай слова з'яўляецца гал. *haven*. У рус. мове слова ў розных формах (*хавен, гавен, гавон, гаван*) вядома з Пятроўскай эпохі. Гл. Фасмер, 1, 379. У бел. мове, магчыма, запазычанне непасрэдна з рус. мовы.

**Гаваркі** 'гаварлівы, гаваркі' (БРС; Янк. I, 57; Шат.; Касп.; Сцяшк. МГ), *гаво́ркі* 'гаварлівы, прыветлівы' (Нас.). Рус. дыял. *го́воркий, говорко́й*, укр. *говірки́й*. У іншых слав. мовах няма. Здаецца, усх.-слав. новаўтварэнне па ўзору старых прыметнікаў на *-к-* (мадэль **govorъkъjь*). Няма ў Трубачова, Эт. сл.



**Гаваро́к** 'гаварун, балака' (Нас.), 'гаварун' (Некр., 219), 'той, хто многа гаворыць' (Інстр. III, 61), 'дзеці, якія па-дарасламу развАжаюць' (Інстр. III, 58), *гывaро́к* 'гаварун, чалавек, які любіць гаварыць, умешваецца ў чужыя размовы' (Бяльк.). Рус. дыял. *говоро́к* 'гаварун, гаварлівы, балака' (СРНГ, 6, 257—258). Утварэнне (беларуска-рускае), якое адпавядае слав. мадэлі **govorъkъ* (nomen agentis на *-*ъkъ*: **govoriti*).

**Гавару́н** 'гаварлівы чалавек' (Янк. III, 17; Бяльк.; Інстр. III, 58). Рус. *говору́н* 'гаварлівы чалавек, балбатун, балака', укр. *говору́н* (Рудніцкі, 667; няма ў Грынч.). Усх.-слав. утварэнне адлюстроўвае прасл. словаўтваральную мадэль **govorunъ* (nomen agentis на *-*unъ* ад **govoriti* 'гаварыць'). Аналагічныя фармацыі з суфіксам ёсць і ў некаторых іншых слав. мовах. Параўн., напр., славен. *govorŭn* 'хвалько, фразёр'.

**Гавары́ць** 'гаварыць'. Рус. *говори́ть*, укр. *говори́ти*, польск. gowоrzyć, чэш. *hovořiti*, ст.-слав. **говорити**, балг. *гово́ря*, серб.-харв. *гово̀рити* і г. д. Прасл. **govoriti*. Паводле Трубачова, Эт. сл., 7, 76, утварэнне ад **govorъ* (слова, відаць, гукаперайма́льнага паходжання; параўн. ст.-інд. *jóguve* 'рабіць шум', літ. *gaũsti* 'гучаць' і г. д.). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 424; Бернекер, 1, 339.

**Гаварэ́ц** іран. 'гаварун' (Сцяшк.). Беларускі архаізм (у рус. і ўкр. мовах няма). У аснове ўтварэння ляжыць прасл. мадэль **govorьсь* (утварэнне суф. *-*ьсь* ад **govoriti*). Астаткі гэтай фармацыі сустракаюцца ў некаторых слав. мовах. Параўн. ст.-чэш. прозвішча *Hovořec* (Гебаўэр, Sl. stč., 1, 479), славен. *govórec* 'той, хто гаворыць'.

**Гавіцца** 'гаіцца, зажываць' (Сцяшк.). Дыялектная форма (устаўное, гіатычнае *-в-* між галоснымі) слова *га́іць* (гл.).

**Гаво́рка** 'размова' (БРС, Гарэц., Мядзв., Касп., Бяльк.), 'гутарка, размова' (Яруш., БРС, Нас.), 'гаворка, дыялект' (БРС, Яруш., Гарэц., Нас., Касп., Шат.), 'пагалоскі, размовы' (БРС, Бяльк.), 'манера гаварыць, акцэнт мовы' (Гарэц., Мядзв., Бяльк.). Рус. дыял. (смал., пск.) 'гутарка, размова; погалас, чуткі; манера гаварыць, вымаўленне; гаворка, дыялект; настаўленне, славеснае павучанне', укр. *гові́рка* 'вымаўленне, манера гаварыць; дыялект, гутарка, гаварэнне; погалас, плётка'. Усх.-слав. утварэнне ад **govoriti* па прасл. мадэлі «дзеяслоўная аснова + суф. *-*ka*», якая мела значэнне галоў-

ным чынам nomen actionis (*govorъka). Параўн. балг. падобныя фармацыі (з прэфіксамі) *поговóрка, уговóрка*.

**Гавэ́нда** 'размова, гутарка' (Сцяшк., Мядзв., Бір. Дзярж.; Сцяц., зэльв., Жд. 2), 'пустая, беззмястоўная гутарка' (Касп.), *гавэ́нды* 'пустыя размовы' (Бяльк.), 'недарэчныя, безвысноўныя размовы' (Шат.). З XVI ст. у бел. помніках зафіксавана форма *гаведа* 'размова, плёткі' (Булыка). Параўн. і ст.-укр. (XVI ст.) *гавенда*. Запазычанне з польск. *gawęda* (а гэта ўтварэнне суф. *-ęda* да прасл. *gav-, *gov-: *govoriti і г. д.). Гл. Слаўскі, 261 (там і агляд літ-ры). Параўн. *гавэ́ндзіць, гавэ́ндаць*.

**Гавэ́ндаць.** Гл. *гавэ́ндзіць*.

**Гавэ́ндзіць** 'гаварыць' (слонім., Арх. Бяльк.), *гаве́ньдзіць* 'размаўляць, траціць час у пустых размовах' (Бяльк.), рус. смал. *гаве́ндить* 'гаварыць пустое'. Бясспрэчна, запазычанне з польск. *gawędzić* 'тс', як і *гавэ́нда* (гл.). Запазычана з польск. і слова *гавэ́ндаць* 'гаварыць пустое, бяссэнснае' (Шат.). Параўн. польск. рэдкае *gawędać* 'гаварыць' (Варш. сл., I, 810).

**Гавя́да** 'скаціна', таксама *гаўя́да* (гл. ДАБМ, карта № 293). Прасл. *govędo 'буйная рагатая жывёла, скаціна' (рус. дыял. *говя́до*, укр. дыял. *гов'ядо*, балг. *гове́до*, серб.-харв. *го̀ведо* і г. д.). Утварэнне суфіксам *-ęd-o* да і.-е. *g$^{u}$ōu̯-s 'буйная рагатая жывёла'. Агляд літ-ры ў Трубачова, Эт. сл., 7, 74—75. Усх.-палес. *гóўе, гаўя́* 'буйная рагатая жывёла, скаціна', магчыма, <*govьje (<*govь <і.-е. *g$^{u}$ou̯-); гл. Борысь, БЛ, 1979 (15), 47—48.

**Гавя́джы** дыял. 'жывёльны, для жывёлы' (БРС), *гавя́жы* (Сцяшк.). Рус. *говя́жий*, чэш. *hovězí*, славац. *hovädzí*, в.-луж. *howjazy*, н.-луж. *gowjezy*, ст.-слав. **говѧждь**, балг. *гове́жди*, серб.-харв. *го̀веђи*, славен. *govéji*. Прасл. *govędjь 'гавяжы', прыметнік на *-i̯o* ад *govędo 'жывёла' (гл.). Прынамсі, праславянскім з'яўляецца словаўтваральны тып. Параўн. Бернекер, 338; Траўтман, 94.

**Гавя́жы.** Гл. *гавя́джы*.

**Га́гыль** 'нячысцік, нячыстая сіла' (Бяльк.). Мяркуем, што можна гэта слова параўнаць з укр. *а́гел* 'сатана, д'ябал' (Грынч.), таксама *га́гел* (апошняе на Сумшчыне, гл. Дарашэнка, ДБ, 9, 106) і далей з рус. царкоўным *а́ггел* 'злы дух, д'ябал, сатана' (Даль). Усё паходзіць, мяркуем, з грэч. ἄγγελος 'пасланец (>ангел)' (вымаўляецца: ангелос). У адрозненне ад слова *ангел* (гл.) тут замацавалася вымаўленне паводле графікі, напісання (магчыма, для дыферэнцыяцыі гэтых двух аднолькавых па паходжанню слоў). Сатана (як і бог) мае сваіх



пасланцоў, ангелаў. Па хрысціянскай рэлігіі ангелы, якія праграшылі, знаходзяцца пад узначальваннем сатаны і служаць яму пасланцамі. Параўн. у ст.-рус. помніках: «оуготованыи огнь диѩволоу и ангеломъ ѥго» (Сразн., I, 22). Гл. таксама ў ст.-укр. помніках: «Мѣлъ злый Аггелъ розмову з першою родителкою нашею» (Цімчанка, 7). Адсюль *а́ггел* (*а́гел*) (<*ангел*) 'пасланец д'ябла' >'злы дух, д'ябал'. У бел. развіўся пратэтычны гук *г-* (*га́гыль* <*а́гыль* <*а́гел*). Не пераконвае Рудніцкі (521), які думае пра табуістычную дэфармацыю слова *ангел*.

**Гад** 'гад, змяя', *га́дзіна, гадзю́ка*. Рус. *гад* (*га́дина, гадю́ка*), укр. *гад, гадю́ка*, польск. *gad*, чэш. *had*, балг. *гад* і г. д. Прасл. *gadъ. Паводле Фасмера (1, 381), Трубачова (Эт. сл., 6, 82) з і.-е. *g$^{u}$ōdh- (: *g$^{u}$ēdh-): параўн. ст.-англ. *cwēd* 'дрэнны', літ. *gė́da* 'сорам'.

**Гадава́ць** 'гадаваць' (БРС). Укр. *годува́ти* 'тс', чэш. *hodovati* 'банкетаваць' і г. д. Прасл. *godovati (з вельмі шматлікай семантыкай), вытворнае ад *godъ 'свята; час і да т. п.'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 6, 190—191.

**Гадані́на** 'людскія размовы, балбатня, пагалоска' (Нас., Яруш.). Бясспрэчна, запазычанне з польск. *gadanina* 'балбатня' (да *gadać* 'балбатаць, гаварыць'). Параўн. *гада́ць*. Бернекер (1, 288) беспадстаўна лічыць *гадані́ну* бел. словам.

**Гада́нне** (= *гадані́на*, гл.) 'людскія размовы, балбатня, пагалоска' (Нас.). Сюды ж, відаць, адносіцца і *гада́нне* 'пагалоска, чутка' (Касп.). Запазычанне з польск. *gadanie* 'тс' (ад *gadać* 'гаварыць, размаўляць, балбатаць').

**Гадаты́вус** 'рэзанёр, гаварун' (ужывалася пераважна шляхтай, Нас.). Запазычанне з польск. *gadatywus* 'тс'. Гэта апошняе ўтворана ў польск. мове на базе дзеяслова *gadać* 'балбатаць, гаварыць' і суфіксальнай часткі *-tywus* (паводле лац. слоў на *-t-ivus*). У польск. мове гэта спачатку, можа, жартоўнае утварэнне (параўн. яшчэ іншыя лацінізаваныя польскія ўтварэнні ад *gadać* — *gadateusz, gadeus* 'гаварун'). Але бел. *гадатыўка* 'гаваруха, гаварлівая (гаворыцца пераважна ў колах шляхты)' (Нас.) утворана на беларускай глебе ад *гадатывус* (у польск. мове слова *gadatywka* няма, гл. SW).

**Гада́ць** 'гаварыць, расказваць' (Нас.), *га́даць* 'пляткарыць' (КЭС). Рус. дыял. (смал). *гада́ть* 'гаварыць', укр. дыял. (лем.) *гада́ти* 'гаварыць, размаўляць' (гл. Рудніцкі, 522, 781). Запазычанне з польск. *gadać* 'тс' (а гэта да прасл. *gadati, гл. Слаўскі, 247—248). Толькі ў польск. мове, калі не лічыць славен. дыял. *gadati* 'балбатаць, плявузгаць', слав. *gadati атрымала значэнне 'размаўляць, гаварыць' (з XV ст.). Можна ставіць

пытанне: ці бел. *гада́ны* 'гавораны, казаны' (Нас.), якое Насовіч (там жа) выводзіць ад *гада́ць*, не адлюстроўвае непасрэдна польск. *gadany* (ад *gadać*)?

**Гадзі́на.** Гл. *год.*

**Га́дка** 'пагалоска, размова' (Касп.), 'размова, гутарка' (Нас.). Запазычанне з польск. *gadka* 'размова', 'гутарка, пагалоска, чутка' (ад *gadać*), як і многія словы гэтай групы (параўн. *гадаць, гаданіна, гаданне, гадула*).

**Гаду́ла** 'пустамеля, балбатун' (Нас.). Запазычанне з польск. *gaduła* 'тс' (ад *gadać* 'гаварыць').

**Гаду́лька** 'гаваруха' (Касп.) Слова не вельмі яснага паходжання. Бясспрэчна, звязана з *гадаць* 'гаварыць', запазычаным з польск. мовы (гл.), але словаўтварэнне вельмі незразумелае. Ад вядомага ў бел. мове *гадула* 'пустамеля' (польск. *gaduła* 'балбатун, пустамеля', 'балбатлівая жанчына') мы б чакалі хутчэй *гадулка*. Утварэнне ад *гадула* з экспрэсіўным *-'ка*?

**Газ**$_1$ 'газ' (БРС). Рус. *газ*, укр. *газ* 'тс' і г. д. Слова, якое штучна ўтворана брусельскім хімікам І. Б. ван Гельмантам (1577—1644 гг.) на аснове грэч. слова χάος 'хаос'. У рус. мове гэта слова, паводле Фасмера (1, 382), з ням. або гал. *Gas* ці франц. *gaz*. Гл. яшчэ Шанскі, 1 Г, 7; Клюге, 233; MESz, 1, 1037. У бел. мову гэта слова папала праз пасрэдніцтва рус. або польск. мовы. Паколькі няма дакладных даных наконт гісторыі яго ў бел. мове, то прыходзіцца толькі меркаваць, улічваючы агульную сітуацыю і ролю, якую ігралі гэтыя абедзве мовы ў фарміраванні лексікі бел. мовы новага часу (асабліва навукова-тэхнічнай).

**Газ**$_2$ 'тканіна газ' (БРС). Рус. *газ*, укр. *газ* 'тс'. Запазычанне з франц. *gaze* 'газ, вуаль'. Звычайна першакрыніцай гэтага слова лічаць назву месца *Газа* ў Палесціне. Гл. Фасмер, 1, 382. Іншыя этымолагі ўказваюць, што ў гэтым месцы ніколі не выраблялі такую тканіну і не гандлявалі ёю. Таму першакрыніцай франц. *gaze* лепш лічыць іспан. *gasa* < араб. *kazz* < перс. *käž*. Гл. Клюге, 236; Локач, 91; Шанскі, 1, Г, 8 (апошні ў пэўным сэнсе вельмі заблытана перадае сутнасць этымалогій Локача і інш.).

**Газ**$_3$ 'вельмі шырокі брод у рацэ ці возеры' (Яшкін). Як відаць з крыніц, якія прыводзіць І. Я. Яшкін (лепел.), слова гэта вядома на вельмі абмежаванай тэрыторыі (параўн. яшчэ ў Яшкіна, там жа, *Газ* — урочышча на Красенскім возеры на Дзісеншчыне) і, здаецца, з'яўляецца рэліктавым словам. Як лічыць Трубачоў, Эт. сл., 6, 113—114, ёсць сувязь з праўд.-слав. мовамі; параўн. серб.-харв. *gȃs* 'брод', славен. *gâz*, балг. *га́зя*



'брадзіць і да т. п.' БЕР (III, 224) неабгрунтавана разглядае яго як толькі паўд.-слав. лексему. Этымалогія ўсёй групы слоў няясная (некаторыя меркаванні БЕР, там жа: лічыцца цёмным па паходжанню словам; праблематычна звязваць яго з арм. лексемай або думаць, што яно запазычана з дака-мізійскай крыніцы). Трубачоў, там жа, бачыць тут і.-е. *$g^{u}\bar{a}$- 'ісці'.

**Газ-газ-газ** 'падзыўныя словы для гусей' (ДАБМ, 896). Падзыўныя словы наогул вельмі цяжка паддаюцца этымалагізацыі. Гэта ж форма адзінкавая, таму пра яе нельга нічога сказаць пэўнага.

**Га́за** 'газа' (БРС, Шат., Бяльк., Касп., Гарэц., Др.-Падб., Яруш.). Укр. *гас, газ* 'газа'. Польск. *gaz, gaza, gas* 'тс'. Для ўкр. *гас* Рудніцкі (579) прымае паходжанне ад слова *газолін* (і пад уплывам слова *гасити, гаснути*). Уся група слоў не вельмі яснага паходжання. Зразумела, што ёсць сувязь з *газ*$_1$ (гл.), але значэнне 'газа' растлумачыць не проста. Параўн. яшчэ балг. *газ* 'нафта, газа', якое БЕР (III, 224) лічыць запазычаннем з тур. *gaz yağı* (а гэта калька з англ. *gas oil*). Можна ўказаць яшчэ на наяўнасць двух значэнняў і ў рум. *gaz* 'газ, газа'. Гэтыя значэнні ёсць і ў венг. *gáz* (гл. MESz, 2, 1037). Для надзейнай этымалагізацыі і значэнняў (яўна другасных) гэтага слова не хапае дакладных гістарычных даных і можна толькі меркаваць, што супадзенне значэнняў 'газ, газа' тлумачыцца канкрэтнымі тэхналагічнымі дэталямі (можна, напр., меркаваць пра першапачатковы перанос назваў, звязаных з *газавым* асвятленнем пры дапамозе *газы*). Здаецца, што першапачаткова перанос назвы для *газы* меў месца іменна у рум. мове, што, магчыма, тлумачыцца канкрэтнымі мясцовымі ўмовамі.

***Га́за*** 'лямпа' (Сцяц.). Бясспрэчнае запазычанне (параўн. і выбухное *г*). Але слова ў такой форме і з такім значэннем няма ў іншых мовах. Таму можна меркаваць, што гэта новаўтварэнне на беларускай глебе: *га́за* 'лямпа' атрымалася, відавочна, скарачэннем слоў тыпу *газні́к, газніца, газоўка*. Фармальна бел. слова супадае з польск. *gaza* 'газа', але значэнні слоў разыходзяцца.

**Газа** 'халоднае і хмурае асенняе надвор'е' (Кліх). Няясна.

**Газе́та.** Рус. *газе́та*, укр. *газе́та*, польск. *gazeta* і г. д. Запазычанне з зах.-еўрап. моў. Першакрыніцай слова з'яўляецца іт. *gazzetta* 'тс' (гэта назва ўтворана ад *gazzetta* 'дробная манета': «плата за чытанне зводу навін, газета»). Рус. *газета* запазычана з франц. мовы (Шанскі 1, Г, 9). Бел. *газета* — запазычанне з рус. мовы. Але бел. дыял. *газэ́та* (Шат., Бяльк., Сцяшк., Касп., Яруш., Мядзв.) узята непасрэдна з польск. мовы (таксама Слаўскі, 1, 264; ён лічыць, што паланізмам

з'яўляецца і ўкр. *газе́та*). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 382. Іншыя этымалогіі, што прапанаваліся рознымі даследчыкамі, гл. у Шанскага (там жа).

**Газні́к**, *газні́ца* 'газоўка' (БРС), *газні́ца* (Шат., Бяльк., Касп., Др.-Падб., Яруш., Гарэц., Інстр. І), *газу́лька* (Шат.). Утварэнне ад *газа* (гл.), але дэталі гісторыі гэтых слоў пакуль што не зусім ясныя. Можна меркаваць, што гісторыя іх узнікнення і пашырэння на ўсх.-слав. тэрыторыі досыць складаная. Аб гэтым сведчыць тое, што падобныя словы ёсць ва ўкр. мове. Так у Грынчанкі з розных месц Украіны адзначаецца: *газни́к, газни́ця, га́сни́к, га́сни́ця* 'газоўка'. Вельмі цікавым з'яўляецца і тое, што падобных слоў няма ў польск. гаворках (гл. у Карловіча), але ў рус. ёсць *га́сник, га́сница* 'газоўка' (гл. СРНГ, 6, 151—152), *га́зник* 'тс' (там жа, 94), як і *гас, газ* 'газа' (там жа, 93—94, 150).

**Газо́н** (БРС). Рус. *газо́н*, укр. *газо́н*. Запазычанне ў рус. мове (на пачатку XVIII ст.) з франц. *gazon* 'тс' (а гэта са ст.-в.-ням.). Гл. Фасмер, 1, 382 (некалькі іначай гісторыю франц. слова прадстаўляе Шанскі, 1, Г, 10). Не зусім ясна, як франц. слова трапіла ў бел. мову: праз якую мову-пасрэднік? Рудніцкі (785—786) для ўсіх гэтых слоў прымае як непасрэдную крыніцу франц. мову.

**Газо́ўка** 'газоўка'. Гл. *газнік, газніца*.

**Газы́нка** 'лямпа' (Сцяшк.). Таго ж паходжання, што і *газні́к, газні́ца* (гл.), г. зн. звязана са словам *га́за* (гл.). Але дэталі ўтварэння гэтага слова невядомыя, таму яго гісторыя застаецца незразумелай.

**Газэ́та**. Гл. *газета*.

**Га́ітыся** 'марудзіць' (Бесар.). Звязана з укр. *га́ятися* 'тс', *га́яти* 'замаруджваць, затрымліваць'. Аб укр. слове падрабязна Рудніцкі (586), які знаходзіць сувязь гэтага дзеяслова з дзеясловам **gajiti* 'даглядаць, ахоўваць і да т. п.'; пры гэтым ён не тлумачыць развіццё семантыкі, але яго этымалогія здаецца вельмі праўдападобнай. Можна так уявіць сабе семантычныя змены, што прывялі да значэння 'марудзіць': 'даглядаць, ахоўваць' — 'ахоўваць, рабіць старанна' — 'рабіць старанна, марудзіць'.

**Гаі́ць** (БРС, Шат., Касп., Гарэц., Шпіл.). Укр. *гої́ти* 'тс', рус. *го́ить* 'даглядаць, адкормліваць', польск. *goić*, чэш. *hojiti*, балг. *гоя́* 'адкормліваць', серб.-харв. *го̀јити*, славен. *gojíti*, і г. д. Прасл. *gojiti, gajǫ*. Лічыцца звязаным з **žiti*, авест. *gaya* 'жыццё, час жыцця', літ. *gajùs* 'той, што лёгка вылечвае' і да т. п.; гл. Фасмер, 1, 427 (там і літ-ра). Іншую версію падтрымлівае Талстой (Геогр., 55): бел. *гаі́ць* звязана з серб.-харв. *га́јити* 'вырошчваць, даглядаць', польск. *gaić*, чэш. *hájiti* і да т. п.



**Гай**$_1$ 'гай' (БРС, Шат., Нас., Бяльк., Сцяшк., Яшкін, Касп., Грыг., Мядзв., Шн., Бес., Булг.). Агляд значэнняў бел. слова гл. Яшкін, 43—44; Талстой, Геогр., 48—50; ДАБМ, 913. Укр. *гай*, рус. *гай*, чэш., славац. *háj*, польск. *gaj*, в.-луж. *haj*, н.-луж. *gaj*, серб.-харв. *га̑ј*, славен. *gáj*. Слав. **gajь*. Звычайна тлумачыцца як звязанае са слав. дзеясловам **gojiti* 'даглядаць, ахоўваць' (гл. Фасмер, 1, 383, там і агляд іншых версій, якія Фасмер не прымае, здаючца досыць праўдападобнымі пасля дэталёвага аналізу Талстога, Геогр., 48—56). Талстой лічыць, што, падобна да таго як слова **šuma* 'лес' звязана з **šuměti*, слова **gajь* роднаснае лексеме **gajiti* 'крычаць, шумець' (там жа, 54—55).

Некаторыя спецыфічныя значэнні бел. слова, напр. 'могілкі' (гл. Яруш.; ДАБМ, 913), тлумачацца з прамежкавага 'гай, асабліва на могілках' (Гарэц.).

**Гай**$_2$ 'непрыгодная для апрацоўкі зямля паміж палёў' (Шатал.: *«Мы зовом гаем між полей неудобную землю, де ростэ трава, а лес не ростэ»*). Не выклікае сумнення сувязь з *гай*$_1$ (гл.). Дыяпазон семантыкі славянскай лексемы **gajь* вельмі шырокі (параўн. Яшкін, 43—44, і асабліва Талстой, Геогр., 48—54). Талстой (Геогр., 50) спецыяльна адзначае, што ў бел. гаворках *gajь* мае і спецыфічнае значэнне 'адсутнасць расліннасці'. *Гай* 'непрыгодная для апрацоўкі зямля паміж палёў' якраз адносіцца іменна да гэтай катэгорыі семантычнага развіцця.

**Га́йворон** 'жаваранак палявы, Alauda arvensis L.' (палес., КЭС). Рус. *га́йворон* 'крумкач; грак', укр. *га́йворон*. Зыходнае для ўсх.-слав. моў **gajьvornъ*. Вельмі блізка да гэтай формы стаіць **ga-vornъ*, якое адлюстроўваецца ў польск. *gawron*, чэш. *havran*, серб.-харв. *га̏врāн* і г. д. У прасл. **ga(jь)vornъ* бачаць звычайна складанае слова, у другой частцы якога **vornъ* (параўн. **vornъ* 'крумкач', *vorna* 'варона'). Першая частка слова **ga-*, **gajь-* не мае агульнапрынятага тлумачэння. Тут бачаць гукапераймальнае *ga-*; іншыя зыходзяць са складанага слова **gavo-vornъ* (дзе першая частка адлюстроўваецца, напр., ва ўкр. *га́ва* 'варона'). Ёсць і спробы зыходзіць з прасл. **kavornъ* (параўн. прасл. назвы птушак: **kava*, **kavъka* і балт.: літ. *kóvarnis*, лат. *kuōvarnis*), якое паходзіць з больш даўняга **kāvo-vornos*. Аб гэтым слове пісалі вельмі многа, але і сёння яшчэ няма канчатковай,

агульнапрынятай этымалогіі. Са шматлікай літ-ры параўн. Слаўскі, 1, 263—264; Бернекер, 298; Фасмер, 1, 383; Брукнер, 137; Махэк$_1$, 100; Махэк$_2$, 163. Дарэчы, Махэк лічыць, што другая частка слова *vornъ гукапераймальнага паходжання (ён параўноўвае яе з венг. *varjú* 'варона').

**Га́йда!** выклічнік (БРС, Яруш.), *гайда́* (Касп., Нас., Сцяшк., Ант.). Рус. *айда́, гайда́*, укр. *гайда́*. Запазычанне з цюрк. моў: тат. *aida, äidä*. Ёсць і ў іншых слав. мовах. Гл. Фасмер, 1, 64; Корш., AfslPh, IX, 500; Локач, 61. Памылкова Брукнер (170), здаецца, не лічыў *hajda* запазычаннем. У нас адзначана *гайда́* 'разгул', што, відавочна, з'яўляецца пераносным, метафарычным ужываннем слова *гайда́* як выклічніка. Параўн. у Федар. (4, 98): *«на дзень гайды́, а на век беды»*. Ад *гайда́* 'разгул' утворан дзеяслоў *гайда́чыць* 'весці разгульнае, бестурботнае жыццё' (Нас.). Параўн. і ўкр. *га́йда* 'вісус, гарэза'.

**Гайда́** 'разгул' (Нас.). Гл. *гайда!*

**Гайда́й.** Гл. *гайдар.*

**Гайда́к** 'від танца' (Мат. Гом., 3; Шн.). Відавочна, кантамінацыя слова *гайду́к* 'від танца' (гл.) і *гайда́ць*. Не выключаецца, што пэўны ўплыў магло таксама мець і слова *гайда́!* (гл.).

**Гайдама́к** 'гайдамак' (БРС), *гайдама́ка* 'разбітны чалавек, гуляка, п'яніца' (Нас., Мал.), *гайдама́чыць* 'весці марнатраўнае жыццё', 'мантачыць' (Нас.). Рус. *гайдама́к*. Запазычанне з укр. *гайдама́ка*, а гэта з тур. *hajdamak* 'грабежнік'. Гл. Фасмер, 1, 383 (там і іншая літ-ра).

**Га́йданка** 'гушкалка' (Сцяшк.), *гайда́нка* 'арэлі' (Янк. II), *гайда́нка* (БРС) = рус. 'качка, боўтанка'. Утварэнне ад *гайда́ць, гайда́цца* (гл.) паводле аналагічнай мадэлі *гуля́ць — гуля́нка*.

**Гайда́р,** *гайда́й* 'паганяты жывёлы' (палес., Выгонная Л. Ц., вусн. паведамл.), *гайда́й, гойда́й* 'гандляр коньмі' (лун., Шатал.). Параўн. *гайдай* у песнях (Дзмітр.). Як відаць з геаграфіі слова, у бел. мове яно вядома толькі на поўдні. Укр. *гайда́р(ь), гайдай* 'пастух авечак' (агляд іншых форм гл. у Рудніцкага, 528). Як мяркуе Рудніцкі (там жа), мабыць, ад выклічніка *га́йда* (цюрк.). Гэта этымалогія ёсць ужо ў Цімчанкі. Слоў *гайда́р, гайда́й* няма, здаецца, у рус. мове (няма ў Даля і ў СРНГ). Можна думаць, што гэтыя словы ўтварыліся ва ўкр. мове (параўн. і ўкр. прозвішча *Гайда́й, Гайда́р*).

**Гайда́ць** (БРС, Шат.), укр. *гойда́ти*. Паводле Рудніцкага (673), утварэнне на базе выклічніка *гой!, гойда!*

**Гайда́чыць** 'марнатравіць, транжырыць' (Юрч.). Відавоч-



на, ад *гайда́к* 'від танца'. Першапачатковае значэнне 'танцаваць, скакаць'.

**Гайду́к** 'гайдук' (БРС, Яруш.), 'казачок у памешчыка; дарослы слуга, высокі, у прыгожым убранні' (Шат.), 'служка ў багатага пана; аб'ездчык па віннаму водкупу; чумак, работнік на стругах, барках і да т. п.' (Нас.). Рус. *гайду́к*. Запазычанне з укр. *гайду́к*, польск. *hajduk* 'тс' < венг. *hajdúk* (мн. л. ад *hajdú*). Фасмер, 1, 383—384; Бернекер, 1, 375; Локач, 61 і далей. Гл. таксама падрабязна Слаўскі, 1, 392. Сюды ж *гайду́к* 'назва танца' (Нас.), польск. *hajduk* 'тс' (Слаўскі, там жа). Слаўскі лічыць, што ў рус. і ўкр. мовах *гайдук* — запазычанне з польск. Параўн. і Шанскі, 1, Г, 11.

Ст.-бел. *гайдукъ* вядома з XVI ст. (Булыка, Запазыч., 76). Незразумела, чаму Булыка (там жа) лічыць, што венг. *hajdúk* запазычана з тур. *hajdud*.

**Гайдэ́шка** 'арэлі' (Янк. II). Да *гайдаць* (гл.).

**Га́йка** 'гайка', 'жалезнае кольца, якое набіваецца на што-н. для змацавання' (БРС, Касп., Нас.). Рус. *га́йка*, укр. *га́йка*. Паводле Фасмера (1, 384), цяжкае слова. Шанскі (1, Г, 11—12) мяркуе, што ўкр. і бел. словы запазычаны з рус., дзе гэта слова ўтворана суфіксам *-ка* ад дзеяслова *гаить* 'закрываць; затрымліваць'.

**Гайкнуць,** *гайкаць* 'уздыхнуць, вохнуць' (Шэйн, Песні). Гукапераймальнае. Няясна, якая сувязь з рус. *га́йкать* 'крычаць «гай»' (аб гэтым апошнім гл. Фасмер, 1, 384).

**Га́йна** 'логава, беспарадак' (Янк. III). Гл. *гайно́*.

**Га́йнік$_1$** 'расліна Epipactis Sw.' (БРС, Кіс.). Калі меркаваць, што спачатку *гайнік* азначаў расліну Epipactis palustris Grantz, якая расце ў сырых мясцінах, на багнах, то ёсць магчымасць звязаць яе назву з *гайно́* 'бярлога, логава' (гл. *гайно́*), г. зн. што спачатку *гайнік* — расліна, якая сустракаецца на *гайне́*, на брудных, балоцістых месцах. Параўн. Нейштадт, Определитель, 174.

**Га́йнік$_2$** 'чорны бусел' (Шатал.). Ці не таго ж самага паходжання, што і *гайнік*$_1$? Чорны бусел сустракаецца на багнах і сырых месцах. Іншая магчымасць тлумачэння: *гайнік* ад *гайно* 'гняздо чорнага бусла, вельмі масіўнае і грубае'? Да рэалій параўн. Флінт, Птицы, 64—65.

**Гайнікі** 'мера даўжыні' (Сцяшк.: «*Гайн'ик'и́ и ро́зныйа был'и́, и со́рак м'е́траў, і во́с'им'ис'ат, йи́м'и кал'и́с'ц'и м'е́рал'и з'амл'у́*»). Відавочна, з *гоннікі (з дысіміляцыяй -н'н'- > -йн') да *gonъ 'мера даўжыні' (<*gъnati).

**Га́йніць** 'ганьбіць' (Мат. Гом., 3). Фанетычнай зменай з *га́ніць* 'тс' (гл.). Параўн. аналагічную з'яву ў словах тыпу бел. дыял. *ба́йня* < *ба́ня*.

**Гайно́** 'бярлога, логава' (БРС, Шат., Бяльк., Мат. Гом., 3, Шатал.); 'бярлог' (Яшк., Касп., Грыг., Мядзв.), таксама 'гняздо' (Мат. Гом., 3), *га́йна* 'логава, беспарадак' (Янк. III). Укр. *гайно́* 'гной, кал; падсцілка з саломы для жывёлы; бярлога; беспарадак', рус. *га́йно́* 'гняздо, логава звера; гняздо птушкі; сабачая будка, палатка; хлеў; падсцілка для свіней і да т. п'. Няма ў слоўніках Слаўскага і Фасмера. Рудніцкі (531) хоча бачыць тут эўфемізм для выходнага слова **govьno*. Няпэўна.

Невядома, ці ёсць нейкая сувязь з чэш. *hejno*, славац. *hajno*, польск. дыял. *gajno* 'стада авечак, сагнаных разам' (аб гэтых словах гл. Махэк$_2$, 164).

**Гайня́** 'зграя сабак, ваўкоў' (Інстр. II, Бір. Дзярж., БРС), 'група дзяцей, якія сваволяць' (Жд. 2). Няпэўна, ці ёсць нейкая сувязь з *гайно*$_1$. Хутчэй з *ганя́* (> *гайня́*; параўн. *байня* < *баня*, *гайніць* < *ганіць* і да т. п.) да **gonъ*, **gъnati*: **gonь*. Параўн. Янк. II, 49.

**Гайстр,** *гайсцёр*. Гл. *гайсцер*.

**Га́йстра**. Гл. *гайсцер*.

**Гайстры́ць** 'вастрыць' (Сцяц. Мат. Гом., 3). Да **ostriti* (> *вастры́ць*) з пратэтычным *г-* (замест *в-* літ. мовы) і з «устаўным» *-й-*.

**Гайсцер** 'бусел чорны' (Мат. Гом., 3, Інстр. II), *га́йсцёр* 'Ciconia nigra', *гайстр, гайсцёр* 'Ciconia nigra L., бусел чорны; Ciconia ciconia L., бусел белы', *га́йстра* 'назва птушкі' (Сержп. Грам.). Параўн. укр. *га́йстер* 'бусел' (Лысенка ССП, Лысенка СПГ, Грынч.). Гэта слова запазычана з польск. дыял. *hajster*, а гэта з ням. дыял. *Heister* 'тс'. Гл. Цімчанка, I, 501 (ва ўкр. мове слова вядома з XVIII ст.); Фасмер, I, 64; Рудніцкі, 532. Агляд этымалагічных версій назваў бусла гл. Клепікава, ВСЯ, 5, 149—158.

**Гайцё́ц** 'бацька' (Сцяшк.). Форма слова *айцёц* з пратэтычным *г-*. Запазычанне (ужо ў ст.-бел. мове) з польск. *ojciec*. Гл. ЭСБМ, I, 98.

**Га́йсцёр**. Гл. *гайсцер*.

**Гак**$_1$ 'гак, кручок' (БРС, Шат., Нас.), 'шып у падкове, загнутыя канцы падковы' (Шат., Касп., Нас.), 'збытак, адлегласць' (Шат., Касп., Бяльк.), 'каса' (Касп.). Таксама ўжываецца як геаграфічны тэрмін ('намыты вадой паўвостраў', 'неглыбокае месца ў рацэ, дзе намыта пясчаная каса', 'прырэчны роўны заліўны луг', гл. Яшкін). Ст.-бел. *гакъ* (з XVI ст., Булыка, Запазыч.). Слова гэта вядома ў многіх слав. мовах і лічыцца запазычаннем з ням. мовы (с.-в.-ням. *hāke(n)*). Гл. Махэк$_2$, 156; Брукнер, 167. Рус. *гак* 'жалезны крук, гак' Фасмер (I, 384) выводзіць прама з гал. *haak*. (Слаўскі I, 393) і лічыць бясспрэчным, што бел. і ўкр. *гак* запазычан праз пасрэдніцтва польск. мовы (так і Булыка, там жа, 77).



**Гак**$_2$ 'гака, капачка для копкі бульбы'. Гл. *га́ка*.

**Гак**$_3$ 'калісьці мера або ўчастак зямлі ў Заходняй Беларусі і Ліфляндыі' (Яшкін, Нас.). Параўн. рус. (з Пятроўскай эпохі) *гак* 'мера зямлі ў Остзейскіх правінцыях', якое Фасмер, I, 384 (услед за Міклашычам), выводзіць з ням. *Haken*, с.-в.-ням. *hake*. Параўн. таксама Слаўскі (I, 393), які, здаецца, дапускае магчымасць польскага пасрэдніцтва.

**Га́ка** 'лапата для копкі бульбы' (Сцяшк. МГ, Сцяц.). У гэтым жа значэнні ўжываецца і форма *гак* (Сцяц.). Лічыцца словам таго ж паходжання, што і *гак*$_1$, г. зн. запазычаннем з ням. мовы (с.-в.-ням. *hāke, hāken*), дзе значэнне 'плуг' добра засведчана. Пасрэднікам пры запазычанні магла быць польск. мова (параўн. Слаўскі, I, 393).

**Га́кан** 'моцны штуршок' (Касп.). Бясспрэчна, звязана з дзеясловам *га́каць, гакну́ць*. Адносна словаўтварэння можна меркаваць, што тут дыялектная дэрывацыя тыпу *штурхну́ць : штурхану́ць : штурха́н* (параўн. *штурханёц*). Параўн. і ўкр. *штурха́н*. У аснове такой дэрывацыі ляжыць дзеяслоўная суфіксацыя (не субстантыўная). Утварэнне ад дзеяслова пры дапамозе спецыяльнага суфікса *-ан-* (г. зн. *га́каць : га́к-ан*) менш верагоднае.

**Га́каць** 'гакаць' (Бяльк.), 'секчы' (Сцяц.), *гакну́ць* (Касп.), *га́кнуць* (БРС). Параўн. рус. *га́кать* 'вымаўляць глыбокі гартанны гук (*га, ага*), калі сякуць дровы, ударaюць цяжкім молатам і г. д.', 'моцна ўдарaць, біць' (СРНГ). Ад прымарнага выклічніка *га*! Дзеяслоў *га́каць* утвoран пры дапамозе звычайнага ў такіх фармацыях суфікса *-к-*. Аналагічны па паходжанню і дзеяслоў *го́каць* (гл.). Не мае да *гакаць* ніякага дачынення ням. дзеяслоў *hacken* 'секчы' (гэта выпадковае супадзенне).

**Га́ла** (ж. р.) 'голае месца' (БРС), 'прастора між лесу' (Сцяшк. МГ), 'лапіна' (Шатал.), *га́ла* (н. р.) 'балотная сенажаць, чыстая ад зарасніку' (Шат.), *гал* 'прагаліна ў лесе' (Бяльк., Яшкін). Слова гэта вядома галоўным чынам ва ўсх.-слав. мовах (перш за ўсё на Палессі) і часткова ў зах.-слав.

**Гáла**$_2$ 'круглы ком, шар (скручаны)' (БРС), *гáлка* 'невялікая гала' (Нас.). Паводле Бернекера (1, 301) і Фасмера (1, 388), этымалагічна звязаны рус. *гáлка* 'шкляная гала', *галýшка*, укр. *гáлка, галýшка*, бел. *гáлы* 'вочы; ягадзіцы', славен. *gâlka* 'чарнільны арэшак', славац. *hálka* 'галка, невялікая гала, вярхушка вежы', польск. *gałka* 'гала, булавешка і г. д.', *gały* 'вочы'. Але, як мяркуе Фасмер (там жа), вывядзенне гэтай групы слоў з позняга с.-в.-ням. *galle* (<лац.) няпэўнае (насуперак Міклашычу, 50; Бернекеру, 1, 292; Праабражэнскаму, 1, 117 і інш.) і, прынамсі, частка гэтых слоў, магчыма, спрадвечна славянскага паходжання (так Ільінскі, RS, 6, 217; Патабня, РФВ, 3, 163). Гл. яшчэ меркаванні Слаўскага (253), які таксама бачыць тут славянскае ўтварэнне (магчыма, да **golъ* 'голы'; тлумачэнне семантыкі ў Слаўскага).

Магчыма, сюды і *гáлы* 'ягадзіцы' (Нас.), хоць не выключаецца і сувязь гэтага слова з **golъ* 'голы'.

Для бел. слова крыніцай, відаць, з'яўляецца польск. *gałka*. Аб гэтым сведчыць ст.-бел. *кгалка, галка* 'прадмет круглай формы' (слова вядома ў помніках XVI ст.). Гл. Булыка, Запазыч., 147.

**Галавá.** Слова прасл. паходжання: рус. *головá*, укр. *головá*, польск. *głowa*, чэш., славац. *hlava*, ст.-слав. **глава**, балг. *главá*, серб-харв. *глáва* і г. д. Прасл. **golva* (acc. *sg.* **golvǫ*). Роднасныя: літ. *galvà*, ст.-прус. *galwan* (acc. *sg.*). Далейшыя сувязі няпэўныя. Падрабязны агляд версій гл. Фасмер, 1, 429; Слаўскі, 1, 292—293.

У якасці геаграфічнай назвы ў бел. мове вядома *галавá* 'паўвостраў на павароце рэчкі; калена ракі' (Яшкін). Прасл. *golva* дае шмат вытворных праславянскага характару: *галавá, галавéнь, галавíзна, галаўнá.*

**Галаварэ́з** (БРС, Нас.), рус. *головорéз* 'тс'. Утварэнне ад **golova*+**rězati*. Фармальна з гэтым словам супадае *галаварэ́з* 'царкоўнае свята адсячэння галавы Іаана Хрысціцеля' (Нас.). У Шаталавай у гэтым значэнні зафіксавана *галаварэ́зы*. Параўн. і ўкр. дыял. *головосíк* (таксама *головосíки* — мн. л.), *головствéння* (гл. Грынч.). Гэта, відавочна, калька царкоўнага паходжання. Але адкуль?

**Галавацяп** (БРС). Як і ўкр. *головотя́п*, запазычанне з рус. мовы. У рус. мове. гэта слова зафіксавана з 1869 г. (аўтарам яго з'яўляецца Салтыкоў-Шчадрын). Гл. Шанскі, 1, Г, 119.

**Галавáч.** У бел. мове гэта слова мае некалькі значэнняў: 'раскідзістае дрэва на адкрытым месцы' (Сцяшк. МГ), 'вялікая сасна на полі; векавы лес' (Яшкін), 'апалонік (паўзуны)' (Сцяшк. МГ, Шатал., Жд. 3), 'галавень' (Жд. 2). Таксама шмат вытворных з такой суфіксацыяй і рознымі значэннямі і ў іншых слав. мовах (падрабязны агляд матэрыялу дае Трубачоў, Эт. сл., 7, 7, але бел. мова прадстаўлена толькі прыкладам на 'апалонік' з Жд. 3). Прасл. фармацыя **golvačь* (ад **golva* 'галава'+суф. *-(a)čь*). У аснове назвы ляжыць прыкмета 'вялікай галавы' (сюды 'апалонік' і 'галавень'). Далей метафарызацыяй узнікае 'раскідзістае дрэва' ('з вялікай кронай'), 'вялікая сасна' і, урэшце, 'векавы лес'.



Можна ставіць пытанне: ці ўсе слав. словы, якія прыводзіць Трубачоў пад праформай **golvačь*, праславянскага паходжання? Даная словаўтваральная мадэль ва ўсе часы была прадуктыўнай (і ў перыяд самастойнага існавання асобных слав. моў). Так што лепш гаварыць пра словаўтваральную мадэль **golvačь* праславянскага характару.

**Галавéнь** 'назва рыбы' (БРС, Касп., Шат., Нас.). Параўн. рус. дыял. смал. *голавúнь* 'тс'. Паколькі гэтыя назвы ізаляваныя (сувязь з назвамі тыпу рус. дыял. *головня́* 'галавень' няпэўная, таму што рус. слова ж. р.), то, здаецца, пераконвае меркаванне Трубачова (Эт. сл., 7, 10) пра сувязь рус. *голавúнь* з назвамі тыпу рус. *голáвль, голóвль, гóловéль*, укр. *головéль* 'тс'. Калі гэта так, мы можам прыняць дысіміляцыю *л — л > л — н (*галавéль > галавéнь)*. Зыходнай формай, якой Трубачоў надае статус праславянскай, з'яўляецца **golvjь* (вытворнае з суф. *-jь* ад **golva* 'галава').

**Галавéнька**$_1$ 'апалонік (паўзун)' (Шатал.). Наўрад ці ёсць сувязь са словамі тыпу *галавéнь* (назва рыбы з вялікай галавой) ці *галавéнька* 'спарыння' (Шатал.). Хутчэй за ўсё трэба думаць пра нейкую кантамінацыю розных па значэнню, але падобных па форме слоў (**golv-* 'галава'). А можа, гэта памяншальная форма (суф. *-енька*) ад *галава*?

**Галавéнька**$_2$ 'галавешка' (Шатал.). Па паходжанню гэта памяншальная форма ад прасл. **golvьńa* 'галавешка, факел і да т. п.' (асноўная форма бел. **галаўня* зафіксавана ў бел. мове вельмі слаба; яе няма ў большасці слоўнікаў; Трубачоў (Эт. сл., 7, 12) прыводзіць бел. *галаўня*, але адкуль?). Прасл. **golvьńa* (рус. *головня́*, укр. *голóвня*, польск. *głownia*, чэш. *hlavně*, *hlaveň*, ст.-слав. **главьнꙗ**, балг. *главня́*, серб.-харв. *глáвња* і г. д.) лічыцца звязаным з прасл. **golva* 'галава' (г. зн. першапачаткова 'галоўка палена, што гарыць'). Гл. Фасмер, 1, 429—430 (там і агляд ранейшай літ-ры). Менш пераконвае сувязь са ст.-інд. *jurvati* 'паліць', *jūrṇiṣ* 'жар' і г. д. Іншыя этымалогіі яшчэ больш няпэўныя. Падрабязны агляд славянскіх форм і абгрунтаванне сувязі з **golva* гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 12—13.

**Галавéшка** (БРС, Касп., Сцяшк. МГ, Нас., Шат.). Па паходжанню гэта спачатку памяншальная форма ад прасл. **golvьńa* 'галавешка', утвораная суфіксам **-eš-ьka* (параўн. суф. **-exa*). Суфіксы з элементам *x* звычайна злучаюцца са словамі ў іх усечанай форме (звычайна выпадае склад або толькі зычны). Калі асноўнае слова *(*галáўня)* знікла з ужытку, у яго функцыі распаўсюдзілася вытворнае *галавешка* (таксама *галавенька*, гл.; але гэта апошняе толькі ў частцы дыялектаў).

**Галавíзна** 'галавізна' (БРС), 'прыдатныя да яды часткі галавы жывёлы' (Шат.). Вытворнае прасл. характару ад **golva* 'галава' (суф. *-izna*). Прасл. **golvizna* з рознымі значэннямі вядома не ва ўсіх слав. мовах, але размеркаванне гэтага слова такое (ст.-слав., славен., чэш., славац., польск., рус., бел.), што дазваляе думаць пра яго прасл. характар, але, магчыма, толькі як марфалагічнае ўтварэнне (значэнні слоў, наогул, маюць дачыненне да *галавы*, але канкрэтная іх семантыка не дазваляе зыходзіць з аднаго прасл.). Падрабязны агляд форм і значэнняў **golvizna* па слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 10.

**Галадавáць**. Гл. *галадаць*.

**Галадамéр** 'ненаедны' (Сцяц. Словаўтв.). Гл. *галадамíрыць*.

**Галадамíра**, *галадамíрны* 'той, хто мала есць' (Нас.). Гл. *галадамíрыць*.

**Галадамíрыць** 'паміраць з голаду; марыць голадам' (Нас.). Не вельмі яснае ўтварэнне. Здаецца, гэта складанае слова, але не выключаецца, што яно сапсаванае; магчыма, гэта нейкае жартаўлівае ўтварэнне. Акрамя Насовіча, яно быццам больш нідзе не зафіксавана. Няма яго таксама ў рус. і ўкр. мовах. Можна меркаваць, што яно ўзнікла ў якімсці дыялекце як гібрыд двух слоў: *голад* (дакладней, пэўнай формы гэтага слова) і *мерці, мярэць* і да т. п. Тады 'паміраць з голаду' будзе першапачатковым значэннем, а 'марыць голадам' — другасным. Другаснымі (вытворнымі) па паходжанню і па значэнню з'яўляюцца і зафіксаваныя ў Насовіча *галадамíра, галадамíрны* 'той, хто мала есць'. Яшчэ далей стаіць яўна занесенае з іншых дыялектаў *галадамéр* (Сцяц. Словаўтв.) 'ненаедны (якога цяжка накарміць)'. Паколькі гісторыя гэтай групы слоў застаецца невядомай, то, акрамя вельмі гіпатэтычных меркаванняў, сказаць што-небудзь пэўнае пра іх сапраўднае паходжанне вельмі цяжка.

**Галадáць** (БРС). Дзеяслоў, які суадносіцца з прасл. назоўнікам **goldъ* 'голад' (гл. *голад*). Гэты марфалагічны тып *(*goldali)* вядомы ў частцы слав. моў. Параўн. яшчэ рус. *голодáть*, укр. дыял. *голодáти*. У адных і тых жа слав. мовах могуць сустракацца паралельна і іншыя марфалагічныя тыпы гэтага дзеяслова. Так, вельмі пашыраны тып **goldovali *goldujǫ*. Параўн. бел. *галадавáць* (Нас., Касп., Шат.), укр. *голодувáти (<голодовати)*, рус. дыял. *голодовáть*, славац. *hladovat'*, чэш. *hladověti* і г. д.



**Галадóк** 'расліна Scleranthus annuus L.' (рус. *дивáла*). Гл. БРС, Кіс. Паходжанне гэтага слова няяснае. Няма яго і ў суседніх мовах.

**Галадóў** 'голад, галодны час' (Нас.): *«другі год галадоў церпім»*. Гэтай формы няма ў іншых усх.-слав. мовах (і ў іншых слав.). Калі гэта сапраўдны назоўнік, то яго можна лічыць вельмі рэдкай дыялектнай формай, утворанай ад дзеяслова *галадавáць* зваротным словаўтварэннем. Але не хапае дадатковых даных, іншага матэрыялу, таму такое тлумачэнне застаецца вельмі праблематычным.

**Галадóўля** 'голад, галадаванне' (БРС, Касп., Шат.). Як і *галадóўка*, утварэнне ад дзеяслова *галадавáць*. Суф. *-оўля* звычайна з'яўляецца пры вытворных назоўніках (для абазначэння дзеяння) ад дзеясловаў з марфемай **-ov- (*-ou̯-): будавáць — будоўля* і г. д.

**Галайстрá** 'галота' (БРС). Бліжэйшыя адпаведнасці ва ўкр. мове. Параўн. укр. *галáйстра* 'натоўп, гурт народу, дзяцей', *халáйстра, халáстра* 'зброд' (прыклады са слоўніка Жэляхоўскага), *галайстрá* 'натоўп дзяцей' (паўночнанаддняпроўскае). Паколькі ва ўкр. мове гэтыя словы ў заходніх дыялектах, то можна меркаваць, што яны запазычаны з польск. мовы. Параўн. польск. *chałastra, hałastra, hałajstra* 'тс'. Гэта слова ёсць і ў чэш. мове (*halastra, chalastra* 'тс', у ляшскіх гаворках) і ў славац. (*hajstra, hajštra, hojštra* 'грубая жанчына'). Лічыцца словам няяснага паходжання (Махэк$_2$, 157; Брукнер, 175, 676; апошні дае вельмі няпэўную этымалогію: магчыма, звязана з *chátra, chasa*, чэш. словамі для «зброду»).

Адносна бел. слова можна толькі меркаваць, што яно, як і ўкр. слова, запазычана з польск. мовы. Падрабязны агляд этымалагічных версій гл. у Слаўскага, 1, 398.

**Галаканíць** 'гаманіць' (Сцяц. Словаўтв.). Падобныя словы ёсць, напр., у рус. і ўкр. мовах. Параўн. у Даля: *галáнить, галáчить, галáшить* 'гарланіць, крычаць, шумець і да т. п.' (гл. і СРНГ, 6, 104—105). Параўн. далей укр. *галáкати* 'крычаць', *галáйкати* (Грынч.). У аснове гэтай групы слоў ляжыць, як здаецца, гукавы комплекс *гал-, гала-, галай-*, што азначае

'шум, шумець, крычаць і да т. п.' Ад гэтага *гал(а)-* пры дапамозе дзеяслоўнага «ўзмацняльнага» суф. *-к-* было ўтворана *гала-к-* (гл. укр. дзеяслоў *гала́кати*). Далей да гэтага апошняга тыпу ўтварэння быў дададзены «ўзмацняльны» суф. *-ан-* (*галакан-*), што і з'явілася базай дзеяслова *галака́ніць*. Параўн. яшчэ *штурхаць — штурхнуць — штурхан* (гл. пад *гакан*) і *гакан* 'моцны штуршок' (там жа). «Узмоцненымі» («падоўжанымі») формамі лічыў другія словы ў парах тыпу *hákaty — hałakaty, hajkaty — hałájkaty* ва ўкр. мове Смаль-Стоцкі (гл. Slavia, 5, 6—7). Аб дэрывацыі ад выклічніка *hala-* гл. таксама ў Слаўскага, 1, 397.

**Галалёдзіца.** Параўн. рус. *гололе́дица*, укр. *гололе́диця* (гэта слова не адзначана ў Шанскага, 1, Г, 120), славац. дыял. *holol'adica*, славен. *gololedica*. Можна меркаваць, што гэта ўтварэнне суфіксам *-*ica* ад **gololedъ* 'тс' (агляд літ-ры гл. у Шанскага, там жа). Інакш, але, здаецца, не вельмі пераканаўча Гараеў (107) і Праабражэнскі (1, 141) звязваюць **gololedica* з *голоть* (*голодь*) і далей з укр. *ожеле́диця, ожеледь* (якія быццам маюць і.-е. сувязі). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 431—432.

Сюды ж і *галалёд* 'галалёдзіца' (агляд форм і геаграфіі слоў *галалёдзіца, галалёд* гл. у Яшкіна, 45). Параўн. рус. *гололед*, славен. *gololèd*, далей польск. *gołoledź*. Слаўскі (1, 314) лічыць і **gololedъ* і **gololedica* праславянскімі фармацыямі.

**Галалёд.** Гл. *галалёдзіца*.

**Галаля́дзь** 'сукаватае дрэва; месца ў ствале сасны, адкуль расце некалькі сукоў, найчасцей чатыры' (Яшкін). Па паходжанню складанае слова (ад *голы* і *ляда, лядзь*; форму *лядзь* гл. у Яшкіна пад *ля́да*), але не вельмі зразумелая семантыка гэтага ўтварэння. Паколькі няма іншых даных, этымалогія застаецца досыць праблематычнай. Але іншую версію, як здаецца, прапанаваць нельга, бо фармальна слова *галалядзь* надта празрыстае.

**Галамо́ўза** 'бязрогая скаціна', 'плюгавы чалавек' (БРС), 'нікчэмны чалавек' (Сцяшк. МГ). Сюды і *галамоўзы* 'бязвусы, без барады' (Шатал.). Гэта слова дакладна адпавядае рус. дыял. *голомо́лза* 'балбатун, пустамеля; нерастаропны чалавек, разіня.' Фасмер (1, 430) мяркуе, што першапачатковае значэнне 'даіць упустую', і лічыць, што слова складаецца з *гол-* ('голы') і *молз-*, якое адпавядае ст.-слав. **мльзж млѣсти** 'даіць' (параўн. і *molozivo*). Магчыма, што гэта так. Заўважым, што на ўсх.-слав. тэрыторыі ёсць сляды дзеяслова **mьlz-* 'даіць'. Параўн. палес. *мо́ўзать* 'кусаць без зубоў, дзяснамі (пра дзіця, сысуна)' (Ніканчук, Бел.-укр. ізал., 61). Але *гала-*



*мо́ўзы* 'бязвусы, без барады', здаецца, не сюды. Параўн. рус. дыял. *голомо́зый* 'лысы', *голомы́сый* 'тс', *голомы́зый* 'безбароды; без лісцяў (аб дрэвах)', укр. *голомо́зий* 'лысы', *ми́дза*, бел. *мы́са* 'морда'. Тут адбылася кантамінацыя слоў *моўза* і *мыса*.

**Галамо́ўзы** 'бязвусы, без барады'. Гл. *галамо́ўза*.

**Галамя́** 'галышом' (Сцяшк. МГ). Па сваёй марфалагічнай структуры, здаецца, мае дакладную адпаведнасць, напр., у рус. дыял. *голомя́* 'басанож' (СРНГ, 6, 323). Паводле словаўтварэння, гэты тып слоў можа адносіцца да вельмі старажытнай марфалагічнай структуры (ці не звязваецца з вытворнымі з архаічным суфіксам **-men?*).

**Гала́ндка.** Гл. *гала́нка*.

**Гала́нка** 'парода кароў, курэй' (БРС). Параўн. рус. *гола́нка, гала́нка*, якое азначае 'галандскую гародніну', а таксама 'пароду курэй, кароў, гатунак селядца і г. д.' З *гала́ндка* < *гол(л)андка*; ад назвы краіны. Сюды ж і *гала́ндка* 'грубка' (Сцяшк. МГ), рус. *гала́нка* 'тс'. Назва ўзнікла на базе словазлучэння тыпу *голландская печь* з дапамогай суфікса *-к(а)*. Гл. Фасмер, 1, 385; Шанскі, 1, Г, 118. Прынамсі, для назвы 'грубкі' крыніцай бел. слова з'яўляецца, магчыма, рус. назва.

**Галантарэ́я** (БРС), рус. *галантере́я*. Запазычанне з зах.-еўрап. моў (хутчэй за ўсё з ням.): ням. *Galanterie* 'тс' < франц. *galantérie* 'галантнасць, ветлівасць'. Гл. Фасмер, 1, 385; Шанскі, 1, Г, 13. Націск у слове сведчыць супраць версіі аб польскім (*galanteria*) пасрэдніцтве пры запазычанні. Бел., як і ўкр., слова ўзята непасрэдна з рус. мовы.

**Гала́нтны** (БРС). Рус. *гала́нтный*, укр. *гала́нтний*. Бел. і ўкр. словы запазычаны непасрэдна з рус. мовы. Рус. *гала́нтный* узята з франц. *galant* 'ветлівы, галантны' або ням. *galant* (< франц.). Падрабязна аб гісторыі запазычання ў рус. мове гл. Фасмер, 1, 385; Шанскі, 1, Г, 13—14.

**Галапу́н** 'певень' (Жд. 2). Няяснае слова. Нічога падобнага не знаходзіцца ні ў іншых дыялектах, ні ў суседніх мовах. Можна меркаваць, што гэта нейкае мясцовае наваўтварэнне. Кантэкст у слоўніку, дзе зафіксавана гэта слова, такі: *«Галапун гэты чырвоны, толькі і грабецца ў гародзе»*. Мяркуем, што гэта жартоўная назва, дакладней, сапсаванае слова **калупу́н* (ад *калупаць*; параўн.: *«...толькі і грабецца ў гародзе»*) з азванчэннем пачатковага *к* > *г* і пераходам ненаціскнога *у* > *а*.

**Га́лас** 'крык, шум, бойка і да т. п.' (БРС, Нас., Шат.),

таксама *галáс* (Нас., Сцяшк. МГ). Шатэрнік выводзіў гэта слова з польск. *hałas*, але апошняе само запазычана *(h-)* з усх.-слав. (бел., укр.) моў (гл. Слаўскі, 1, 397, які, праўда, услед за іншымі даследчыкамі лічыць, што польск. слова ўзята з укр. мовы). Этымалогія ўсх.-слав. слова няпэўная. Магчыма, гэта гукапераймальнае ўтварэнне (ад выклічніка *hala!*). Іншыя шматлікія версіі (агляд іх гл. у Слаўскага, 1, 397—398) пераконваюць менш. З *гáлас* звязана бел. дыял. *галасавáць* 'гучна крычаць' (Шатал.); параўн. і ўкр. *галасувáти* 'тс'.

**Галасавáць**$_1$ (на выбарах) (БРС). Рус. *голосовáть*, укр. *голосувáти*. Паводле Шанскага (1, Г, 121), з'яўляецца ўласна рус. словам (зафіксавана з 1863 г.). Як мяркуе Шанскі (там жа), паралельныя ўтварэнні ў іншых слав. мовах, магчыма, узніклі па рускай мадэлі.

**Галасавáць**$_2$ 'гучна крычаць' (Шатал.). Да *галас* 'крык, шум, бойка і да т. п.' (гл). Невядома, аднак, дакладна, ці *галасавáць* ад *гáлас*, ці *гáлас* ад *галасавáць*?

**Галасíць** 'галасіць' (БРС, Касп., Шат., Нас.), рус. *голоси́ть*, укр. *голоси́ти*. З рознымі значэннямі, якія ўваходзяць у кола семантыкі зыходнага **golsъ* 'голас', сюды адносяцца польск. *głosić*, чэш. *hlásiti*, серб.-харв. *гла́сити*, царк.-слав. *гласити*. Звязана з **golsъ* 'голас' (гл.). Слаўскі, 1, 292.

**Галаснíк** 'грыф (у скрыпцы)' (Шат.). Параўн. укр. *голосни́к* 'адтуліна ў сярэдзіне дэкі бандуры, гітары і г. д.' (Грынч.). Ці не запазычанне гэта з польск. *głośnik*?

**Галаснікí** 'доўгае пер'е ў хвасце пеўня' (Шатал.). Гэтага слова няма ў іншых слав. мовах, невядома яго гісторыя, матывацыя (унутраная форма).

**Галатá** 'беднасць; бедната, галота' (Шат.). Як і *гало́та*, утварэнне ад **golъ* 'голы; бедны' (суф. *-ota*). Параўн. рус. *голотá* 'бедната', укр. *голо́та* 'тс'. Хістанне ў націску адлюстроўвае дыферэнцыяцыю значэнняў гэтага ўтварэння (у некаторых мовах): *-otá* (для абстрактных назваў), *-óta* (для канкрэтных назваў). Матэрыял з іншых слав. моў (але без рус. мовы) і агляд этымалогій гл. у Слаўскага, 1, 426—427. Фантастычна Фасмер, 1, 431 (да ц.-слав. *глота*, балг. *гло́та* 'натоўп, стада', серб.-харв. *гло̏та* 'сямейства' і г. д. < прасл. **gъlota*).

**Галаўня́**$_1$ 'спарыння' (Сцяшк. МГ, Шатал.), *галаве́нька* 'тс' (Шатал.). Гэта назва сустракаецца ў радзе слав. моў. Параўн. рус. *головня́*, укр. *голо́вня́*, польск. *głownia*, балг. *главня́* 'тс'. Гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 76—79; Трубачоў, Эт. сл., 7, 12—13. У гэтай жа форме, але з іншым значэннем



('галавешка') **golvьńa* сустракаецца ў многіх слав. мовах і дыялектах (агляд гл. Трубачоў, там жа). Гэта значэнне лічыцца зыходным, а 'Ustilago, хвароба зерневых, спарыння' — другаснае. Гл. Выгонная, там жа; Трубачоў, Эт. сл., 7, 13. Будзішэўска (Słown., 300) меркавала, што значэнне 'Ustilago' — гэта інавацыя, што, бясспрэчна, няправільна (параўн. геаграфію слова і семантычныя паралелі, якія прыводзіць Выгонная, там жа, с. 77).

**Галаўня́**$_2$ 'верхні вушак у дзвярах' (Шатал.). Можна меркаваць, што тут, магчыма, захоўваецца адно з архаічных значэнняў слова **golvьńa*, менавіта 'штосьці важнае, галоўнае і да т. п.' Гэта значэнне не зафіксавана ў Трубачова (Эт. сл., 7, 12—13), што, аднак, не сведчыць аб немагчымасці яго існавання ў мінулыя часы. Менш верагодным здаецца вывядзенне «верхняга вушака ў дзвярах» з якога-небудзь вядомага значэння прасл. **golvьńa*.

**Галашчáчка** 'непакрытая карова' (Сцяц.). Няяснае слова. Сувязь з *голы*, здаецца, бясспрэчная, але словаўтварэнне вытлумачыць цяжка. Магчыма, складанае слова. Можна асцярожна ставіць пытанне: ці няма тут нейкай сувязі са словам *галашчок* (гл.)? У аснове такога называння мог ляжаць метафарычны перанос значэння 'непакрыты': 'непакрытая (снегам) зямля (і таму замёрзлая)' → 'непакрытая карова' (гл. меркаванні адносна першаснай семантыкі слова *галашчок*).

**Галашчóк** 'моцны мароз' (Шат., Яшкін), таксама 'замёрзлая зямля без снегу' (Шатал.), 'першы лёд на балоце, на рацэ', 'мёрзлыя рунныя палі, груд з азімымі пасевамі', 'адкрытае месца, узгорак, дзе вецер здзімае снег; гальнае замёрзлае балота' (гл. у Яшкіна, там і геаграфія слова). Сустракаецца і форма *галашчóка* (Яшкін). Аналагічныя словы ёсць у іншых усх.-слав. моў. Параўн. рус. *голоще́к* 'галалёдзіца; чысты тонкі лёд без снегу', укр. *голощі́к*, *голощóк* 'галалёдзіца; лёд, непакрыты снегам'. Можна меркаваць, што ў аснове назвы ляжыць вобраз: 'голыя, замёрзлыя шчокі', 'шчокі непакрытыя, таму замёрзлыя'. Усе іншыя значэнні другасныя, узніклі пры дапамозе метафарызацыі. Гэта асабліва адносіцца да розных назваў рэльефу.

**Галгаянка** 'дурнаватая жанчына' (Жд. 2). Слова невядомага паходжання: не знаходзіцца роднасных або падобных лексем, якія маглі б праясніць этымалогію *галгаянкі*.

**Галдá** 'галас' (Сцяшк. МГ, Шат.), *галдáць* 'невыразна гаварыць' (Шат.). Дакладныя адпаведнікі ў рус. мове. Параўн. рус. *гáлдá* 'крык, галасныя размовы, лаянка; крыклівы чалавек', *галдéть* 'крычаць, лаяцца, лаяць каго-н.; гаварыць, раз-

маўляць; зваць каго-н.; лодарнічаць', *гáлдить* (аналагічныя значэнні) і да т. п. Этымалогія не вельмі ясная. Паводле Фасмера, звязана з польск. *gałda* 'шум, гвалт' і далей праз **galьda* з германскімі формамі (гоц. *goljan* 'вітаць', ням. *gellen* 'голасна гучаць, крычаць'). Падрабязна Брукнер, 48, 209 (гл. яшчэ Брукнер, 140: пад *giełda*). Гл. яшчэ Шанскі, 1, Г, 14 (які лічыць першапачатковай формай у рус. мове окаючыя *гóлдá* і да т. п.). Усё ж такі канчатковай этымалогіі яшчэ няма (мяркуемая суфіксацыя *-d-* не можа быць бясспрэчнай).

Бел. дзеяслоў *галдáць* не мае адпаведнасці ў рус. мове, дзе прадстаўлены толькі марфалагічныя тыпы *галдéть, гáлдить*.

**Галдáвы** 'гугнявы' (Жд. 2). Бясспрэчна, звязана з *галдаць* 'невыразна гаварыць', якое адносіцца да *галдá* 'галас' (гл.).

**Галдáць** 'невыразна гаварыць' (Шат.). Гл. *галдá* 'галас'.

**Галдýн** 'варэнік з мясам або грыбамі' (Шат.). Шатэрнік (там жа) выводзіць гэта слова з польск. *kołdun, kołduny*.

**Галдýнка** 'вядзьмарка' (Шатал.). Відавочна, дыялектная змена слова **колдунка*. Параўн. рус. *колдýн, колдовáть* (аб рус. слове гл. Фасмер, 2, 287—288). А ці не запазычана *галдýнка* (<**колдунка*) проста з рус. мовы (дзе *колдýн* і яго вытворныя вядомы вельмі шырока)?

**Галдýшка** 'гузік з аўчыны' (Шатал.). Цёмнае слова, няма адпаведнасцей у суседніх мовах. Магчыма, тут нейкая аснова **голд-*, якая азначала 'штосьці круглае, камяк, катылёк'. Параўн. (але гэта вельмі няпэўна) рус. дыял. *голдыжина* (пск.) 'купіна'.

**Галéлы** 'шэлег' (манета; Нас., з заўвагай: «Dinarii Halenses была мелкая саксонская манета»). З формы *галеръ* 'назва манеты', якую прыводзіць Булыка (Запазыч., 77), форму *галéлы* атрымаць немагчыма, нават калі лічыць, што тут адбылася асіміляцыя: *галéлы* <**галеры*. Трэба шукаць іншае зыходнае слова. З нумізматычных даследаванняў вядома, што назва манеты *denarii Hallenses* ці проста *Hallenses* (ад назвы швабскага горада *Hall*) ужывалася і ў форме *Halleri* (гл. R. Kiersnowski, Wstęp do numizmatyki polskiej wieków średnich. W-wa, 1964, с. 121). Гэта апошняя праз пасрэдніцтва польск. мовы патрапіла ў бел.: *галéлы* (націск!) <*Halleri* (з асіміляцыяй *l—r* >*l—l*).

**Галéнь** 'дзяркач' (Касп., Бяльк., Шатал.). Рус. *голéнь* (таксама *голúк*) 'тс'. Утварэнне суфіксам *-ень (*-ьпь)* ад прыметніка *гóл-ы*.



**Галéра** (БРС, Касп.). Ст.-бел. *кгалера, галера* 'судна, галера'. Булыка (Запазыч., 146—147) мяркуе, што гэта слова ў ст.-бел. мове непасрэдна з польск. *galera* (<іт.). Рус. *галéра* (з XVII ст.) запазычана з ням. *Galeere* або іт. *galera* (так Фасмер, 1, 386). Шанскі (1, Г, 14) лічыць, што першакрыніцай рус. слова з'яўляецца хутчэй за ўсё іт. *galera*.

**Галерэ́я** (БРС) (гэтага слова няма ў Булыкі, Запазыч.). Рус. *галерéя*, укр. *галерéя*. Думаюць, што ў рус. мове гэта слова запазычана з ням. *Galerie* або з франц. *galerie* (гл. Фасмер, 1, 386; там і літ-ра). Шанскі (1, Г, 15) лічыць, што ў рус. мове *галерея* з ням.

**Галéта** 'галета' (БРС). Рус. *галéта*, укр. *галéта*. У бел. і ўкр. мовах гэта, відавочна, запазычанне з рус. мовы. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *galette*, якое трапіла ў рус. мову ў сярэдзіне XIX ст. Гл. Фасмер, 1, 386; Шанскі, 1, Г, 15.

**Галéтнік** 'бядняк' (БРС, Касп., Нас.). Ад прыметніка **golъ* 'голы; бедны' ў слав. мовах утвараецца шмат назоўнікаў з рознымі суфіксамі, у тым ліку з суф. **-eta* (паралельная фармацыя, быццам з апафоніяй, да *-ota*). Адсюль шырока вядомае слав. **golota* і менш пашыранае **goleta*. Гэта апошняе мы знаходзім, напр., у бел. *галітá* 'беднасць' (у Нас. *голитá*) <**gol-eta*. Адсюль пры дапамозе суф. *-нік* утворана *галéтнік* (або з суфіксам *-ік* ад прыметніка **gol-et-ьпъ*). Суфікс **-eta* з элементам *-j-(*-et-ja)* дае пачатак новаму фарманту — **-eč-a* (усх.-слав.). Параўн. бел. *галéча* 'беднасць' (Касп.), укр. *голéча* 'галота, беднякі' (у рус. мове *голéча* мае больш абстрактнае значэнне — 'галалёдзіца').

**Галéц** 'рыба галец' (БРС), рус. *голéц* 'тс' (у рус. мове вядома з XIV—XV стст.). Утварэнне ад прыметніка *голы (*golъ)*: рыба так названа па сваёй слізкай шкурцы. Гл. Бернекер, 1, 325; Праабражэнскі, 1, 142; Фасмер, 1, 428; Шанскі, 1, Г, 117.

**Галéча**. Гл. *галéтнік*.

**Галёкаць** 'крычаць, аукаць' (БРС, Шат.), 'моцна крычаць' (Жд. 1). Утварэнне ад выклічніка **галё* (параўн. польск. *hala!*) з тыповым суфіксам *-k-* у адпаведным дзеяслове. Аб падобных выклічніках гл. Слаўскі, 1, 394 *(hala)*; Брукнер, 167.

**Галёнка** 'галёнка' (БРС, Шат., Касп., Нас.). Рус. *гóлень*, укр. *голíнка*, польск. *goleń*, чэш. *holeň*, балг. *гóлен*, серб.-харв. *гȍлијен* і г. д. Слова засведчана ўжо ў ст.-слав. мове **(голѣнь)**. Думаюць, што гэта ўтварэнне ад прыметніка **golъ* 'голы' суфіксам **-ěnь* (першапачатковае значэнне 'голая косць'). Брукнер, 149; Міклашыч, 70 і наст. Іншая версія (роднаснасць

з грэч. γυῖον 'рука, нага,' γύαλον 'дупло, упадзіна') пераконвае менш. Гл. Фасмер, 1, 428; Шанскі, 1, Г, 117. Вельмі падрабязна Слаўскі, 1, 311—312.

**Галёнкі** 'халявы' (Нас.). Магчыма, вытворнае (пераход у мн. л.) ад слова *галёнка* (гл.).

**Галёны**$_1$ 'бліскучыя шнуркі, ніткі і да т. п.' (Касп.), 'шнур з бліскучымі ніткамі залатога колеру' (Бяльк.). Запазычанне з польск. *galon* 'галун' (<франц. *galon;* гл. Фасмер, 1, 390: пад *галун*$_2$).

**Галёны**$_2$ 'галёнкі' (Жд. 2; адз. л. *галёна*). Здаецца, рэліктавая форма ад слав. **golenь* 'галёнка' без суфікса *-к(а)*, але з пераводам старых асноў на *-і* ў *а*-асновы.

**Галёпам** 'галопам' (Шат.). Запазычанне з польск. *galopem* 'тс' (ад *galop* 'галоп', а гэта з франц.; параўн. *галоп*).

**Галёрка** (БРС). Рус. *галёрка,* укр. *гальорка.* Першакрыніцай з'яўляецца рус. *галёрка,* якое ўзнікла тут у другой палавіне XIX ст. Па паходжанню гэта прастамоўнае ўтварэнне ад *галерея.* Бел. і ўкр. словы запазычаны з рус. у новыя часы.

**Галёш** (БРС, Шат.), *галёшы* (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *kalosz* 'тс' (з азванчэннем *k* > *g* у бел. мове). Адносна паходжання польск. слова Брукнер (214) мяркуе аб яго запазычанні з франц. *galoche* (а гэта з раманскімі сувязямі). Аб складанасці праблематыкі, звязанай з паходжаннем гэтага слова наогул, гл. Шанскі, 1, Г, 19—20 (там і агляд версій).

**Галік** 'гаплік' (Бяльк.). Няясна.

**Галіна́** (БРС, Шат.). Параўн. у Насовіча *голина* 'галіна дрэва, асабліва без лісця'. Утварэнне суфіксам **-ina* ад **golъ* 'голы' (параўн. адносна семантыкі *галлё,* гл.). Форма **golina* са значэннем 'галіна, галінка', здаецца, толькі беларуская. У рус. гаворках *голина́* — гэта 'голае месца, голая зямля', 'аўчына са збрытай шэрсцю, на якой вышываюць' (гл. СРНГ), ва ўкр. мове *голина́* 'адборны зерневы хлеб, акрамя аўса' (Грынч.). Таму можна лічыць бел. *галіна́* самастойным утварэннем, пашыраным толькі на бел. тэрыторыі.

**Га́ліна** 'асобная паляна ў лесе, асобная чыстая прастора сярод кустоў' (Цэнтр. і Усх. Палессе) (Яшкін). Падрабязна аб гэтай групе слоў, зыходным для якіх з'яўляецца **galo, *galь* з цэнтрам пашырэння ў Палессі, гл. Талстой, Геогр., 104—110. Зыходным для гэтага геаграфічнага тэрміна трэба лічыць прасл. **golъ* 'голы' (**gal-: *gol-* — гэта старое чаргаванне галосных, яшчэ з праславянскай эпохі). Такім чынам, першаснае значэнне слова было 'адкрытая, незарослая, голая мясціна'. Магчыма, сюды адносіцца і *га́лка* 'месца паміж кустамі, дзе расце трава' (Яшкін), але гэта не зусім надзейна, таму што корань **gal-* аб'яднаў, здаецца, зусім не роднасныя па паходжанню словы.



**Галіта́** 'беднасць'. Гл. *галетнік.*

**Га́ліца** 'галка'. Гл. *галка*$_1$.

**Га́ліцца** 'галіцца' (Касп., Нас., Бяльк., Сцяшк. МГ), *га́ліць* 'выклікаць у каго-н. жаданне да чаго-н.' (Нас.). Вельмі разгалінаванае семантычна сямейства слоў са шматлікай семантыкай. Не заўсёды нават вядома, ці ўсе словы з элементам *гал-* роднасныя этымалагічна. З рус. мовы, што датычыцца складанасці ўсёй семантычнай праблематыкі, гл. СРНГ, 6, 111—113. Ва ўсякім выпадку Слаўскі (1, 251—252) адносіць бел. лексемы да вялікай групы слоў, сярод якіх, напр., серб. дыял. *gáliti* сваёй семантыкай ('жадаць, прагнуць') стаіць вельмі блізка да бел. фармацый. Фармальна карэктнай і семантычна абгрунтаванай была этымалогія Мейе (MSL, XIV, 373) аб сувязі з прасл. **želati, *želěti* 'жадаць'. Агляд іншых, часам вельмі заблытаных этымалагічных канструкцый гл. у Слаўскага, 1, 251—252. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 387.

Здаецца ўсё ж, што ў корані **gal-* адбылося супадзенне розных па паходжанню лексем.

**Галі́ць** 'брыць', *галі́цца* 'брыцца' (БРС, Касп., Нас., Сцяшк. МГ). Укр. *голи́ти, голи́тися.* У рус. мове *голи́ть* 'брыць', *голи́ться* 'брыцца' вядома толькі з паўднёвых гаворак у Даля (гл. СРНГ, 6, 294). Можна ставіць пытанне: ці не запазычаны бел. і ўкр. словы з польск *golić, golić się* 'тс'? Вырашальным тут павінна з'явіцца адносная храналогія адпаведных слоў. Тэарэтычна мяркуючы, значэнне 'брыць' магло развіцца ва ўсх.-слав. мовах самастойна. Але адсутнасць яго ў рус. (акрамя паўднёвых дыялектаў) наводзіць на думку, што гэта ўсё ж такі запазычанне.

**Га́лка**$_1$ 'птушка' (БРС, Касп., Нас., Бяльк.), таксама *га́ліца* 'тс' (Нас., Шатал.), *гали́ца* (Бяльк.). Формы з суфіксам *-к(а)* толькі ўсх.-слав., і ў гэтым сэнсе мае рацыю Шанскі (1, Г, 16), прыводзячы ст.-рус. *галъка,* рус. *га́лка,* укр. *га́лка,* бел. *га́лка* 'тс'. Але паралельна з гэтым ёсць усх.-слав. рус. *га́лица,* бел. *га́ліца,* укр. *га́лиця* 'галка', і такія формы адзначаюцца і ў іншых слав. мовах (балг. *га́лица,* серб.-харв. *галица*). У аснове ляжыць прасл. **galъ* 'чорны' (параўн. серб.-харв. *гао*). Іншая версія: уся група слоў утворана ад гукаперайманьнага **gal-*. Гл. Фасмер, 1, 388—389.

**Га́лка**$_2$ 'шарык, галушка' (БРС, Нас., Сцяшк. МГ). Гэта слова, магчыма, мае дачыненне да групы слоў, якія Фасмер (1, 388) разглядае пад *га́лка*$_2$, адносячы сюды рус. *га́лка* 'шкляны шар', *галу́шка*, укр. *га́лка, га́лушка*, бел. *га́лы* 'вочы; ягадзіцы', славен. *gâłka* 'чарнільны арэшак', славац. *hálka* 'шарык; вярхушка вежы', польск. *gałka* 'шар, набалдашнік', *gały* 'вочы', і якія быццам узяты з с.-в.-ням. *galle* (<лац. *galla*). Фасмер мяркуе, што вывядзенне ўсёй гэтай групы слав. слоў з ням. крыніцы выклікае сумненне з прычыны разнастайнасці значэнняў слав. лексем і што, прынамсі, для часткі з іх трэба ставіць пытанне аб іх спрадвечна слав. паходжанні.

Ст.-бел. *кгалка, галка* 'прадмет круглай формы' запазычана непасрэдна з польск. мовы ў XVI ст. Гл. Булыка, Запазыч., 147. Аб запазычанні сведчыць выбухное *г* (кг) у гэтым слове.

**Га́лка**$_3$ 'месца паміж кустамі, дзе расце трава' (Яшкін). Гл. *га́ліна*$_2$.

**Галкі́пер** 'варатар' (БРС). Рус. *голки́пер*, укр. *голкі́пер*. Бел. і ўкр. словы ўзяты з рус. мовы. У рус. мову гэта назва трапіла з англ. (англ. *goalkeeper* 'тс': *goal* 'вароты; гол', *keep* 'трымаць', *keeper* 'стораж') дзесьці ў канцы XIX — пачатку XX ст. Гл. Шанскі, 1, Г, 117—118.

**Галлё** 'галіны, хвораст' (БРС, Шат., Касп., Нас., Бяльк., Сцяшк. МГ), таксама *го́лле* 'тс' (Касп.). Дакладна адпавядае ўкр. *гілля́* (зборн. наз., н. р.). Бел. і ўкр. словы Фасмер (1, 434) параўноўвае з рус. дыял. *голья́* 'галіна, сук' (ж. р., адз. л.!) і далей са славен. *gôl* 'ачышчаны ад сучкоў ствол маладога дрэва', чэш. *hůl* 'палка, галіна'. Далей бачаць сувязь з *галу́за* 'галінка' і да т. п. Больш пераконвае дапушчэнне сувязі прама з **golъ* 'голы; ачышчаны ад лісця'. Тады **golьje* — гэта проста зборны назоўнік з першасным значэннем 'голыя галінкі'. У рус. мове *голья*, магчыма, са старога *гольё* (н. р., зборн. наз.).

**Гало́бля** 'аглобля' (Сцяшк. МГ). Метатэзай гукаў з *агло́бля* (гл.). Падобная з'ява назіраецца і ў іншых мовах. Параўн. укр. дыял. *голо́бля* 'тс'.

**Гало́дны.** Прасл. **goldьnъ* 'галодны' — прыметнік, утвораны ад **goldъ* 'голад' яшчэ ў прасл. часы і вядомы ва ўсіх слав. мовах з найдаўнейшых часоў. Агляд форм гл. Трубачоў, Эт. сл., 6, 200.

**Гало́п** 'галоп' (БРС, Бяльк., Сцяшк. МГ). Рус. *гало́п*, укр. *гало́п*. Запазычанне з зах.-еўрап. моў: ням. *Galopp* (<франц.) або франц. *gàlop*. Параўн. Фасмер, 1, 389. Шанскі (1, Г, 18—19) удакладняе, што запазычанне адбылося (прынамсі, для рус.) з франц. мовы (яшчэ ў Пятроўскую эпоху). Пытанне, адкуль канкрэтна прыйшло гэта слова ў бел. мову (праз якую мову-пасрэднік), пакуль што застаецца адкрытым.



**Галосны**$_1$ (лінгвістычны тэрмін, БРС). Параўн. укр. *голосни́й* 'тс'. Здаецца, што гэта калька рус. *гла́сный* (гук), якая засведчана ўжо ў XVII ст. і з'яўляецца калькай лац. *vocalis* (ад *vox* 'голас'). Аб рускім слове Фасмер, 1, 410; Шанскі, 1, Г, 90.

**Галосны**$_2$ 'вядомы' (Нас.). Насовіч перакладае рускім «гласный» і дае прыклад *«галоснае дзела»*. Можна меркаваць, што, магчыма, гэта запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *głośny* 'вядомы; гучны, нашумеўшы', *głośna sprawa* 'нашумеўшая справа'.

**Га́лстук** 'гальштук'. Гл. *гальштук*.

**Галубі́ца** 'ягада дурніца, буякі' (Бяльк.). Рус. *голуби́ка, голуби́ца* 'тс'. Шанскі (1, Г, 121) прыводзіць яшчэ ўкр. *голубика* (адкуль?). Паводле Шанскага (там жа), гэта вытворныя ад назвы колеру (рус. *голубо́й*, укр. *голуби́й*). Шанскі (там жа) мяркуе, што варыянтнасць суфіксацыі *(-ика, ица)* адлюстроўвае складаныя працэсы трэцяй палаталізацыі, яе непаслядоўнасць. Назва ягады магла ўспрымацца як утварэнне ад *го́луб* (+суф. **-ica* для абазначэння самак). Таму маглі ўзнікнуць другасныя па паходжанню назоўнікі тыпу бел. *галубэ́* 'буякі' (Сцяшк. МГ).

**Галу́біць** (БРС). Рус. *голу́бить*, укр. *голу́бити*. Паводле Шанскага (1, Г, 121), усх.-слав. утварэнне — гэта вытворнае ад назвы птушкі **golǫbь* (параўн. і Булахоўскі, Семас. этюды, 170). Параўн. яшчэ Слаўскі, 1, 427.

**Галу́бнік** 'пярэдняя частка хаты' (Бяльк.). Параўн. рус. *голубни́к* 'галубятня' (таксама для назваў, што абазначаюць розныя часткі хаты, *голу́бница;* гл. СРНГ, 6, 339). Першапачаткова назва гэта была звязана з назвай адпаведнай птушкі, пасля была больш абагульнена.

**Галубцы́** 'галубцы (назва ежы)' (БРС). Рус. *голубцы́*, укр. *голубці́*, польск. *gołąbki*. У аснове назвы ляжыць **golǫbь* — назва птушкі (гэта, магчыма, не па форме, не па знешняму падабенству галубцоў з птушкай, а ў сувязі з вясеннімі і да т. п. абрадамі; гл. Слаўскі, 1, 313). Узаемныя адносіны паміж адпаведнымі словамі са слав. моў вельмі заблытаныя. Рус. *голубцы́*, як мяркуе Шанскі (1, Г, 122), запазычана, відавочна, з укр. мовы. Польск. слова, паводле Слаўскага

2. Зак. 2801

(там жа), узята таксама з укр. мовы. Што датычыцца бел. слова, то таксама можна меркаваць аб яго запазычанні з укр. або рус. мовы (няма ў дыялектных крыніцах).

**Галубы́** 'блакітны' (Сцяшк. МГ). Рус. *голубой*, укр. дыял. *голубий* лічацца ўтварэннем ад _*golǫbь_ 'голуб' (па блакітнаму колеру пер'я). Гл. Булахоўскі, Семас. этюды, 170; Фасмер, 1, 432; Шанскі, 1, Г, 121—122. У бел. мове гэта назва колеру даволі рэдкая. Больш звычайнае запазычанне з польск. *блакітны*.

**Галубэ́** 'буякі' (Сцяшк. МГ). Гл. *галубіца*.

**Галу́за$_1$** 'неабцярэбленая галінка' (Жд. 1), *галу́ска* 'галінка' (Сцяшк. МГ). Адносіцца да вялікай групы роднасных слоў. Пароўн. укр. *га́лузь, галу́за, голу́за, галу́ззя*, рус. дыял. *га́лызь* 'дрэва для пракладкі дарогі', польск. *gałąź, gałęzie* (зборн.), чэш. *haluz*, ст.-чэш. *haluzě* і г. д. Прасл. _*galǫzь_ вядома толькі ў зах.- і ўсх.-слав. мовах (дыялектнае праславянскае). Мяркуюць, што этымалагічна яно адносіцца да _*golъ_ 'голы' (з апафоніяй *о* : *а*). Першапачаткова 'голая галінка і да т. п.'; параўн. яшчэ для абазначэння галінак і да т. п.: _*golь_ 'галінка', _*golьje_ 'галінкі' (зборны назоўнік). Гл. Слаўскі, 1, 252 (там і іншая літ-ра).

Булыка (Запазыч., 77) мяркуе, што ст.-бел. *галонзка, галузка, голузка* 'галінка' запазычана з польск. *gałązka*. Наўрад ці гэта так. Запазычаннем можна лічыць толькі *галонзка*, якое мае прыкметы запазычання (захоўвае *-он*, якое адпавядае польск. насавому гуку).

**Галу́за$_2$** 'свавольнік, гарэза' (Касп.), 'надзвычайны свавольнік; дурны, бесталковы' (Нас.), 'бедны, але фарсісты' (Шат.), 'жэўжык' (Бяльк.), *галузава́ць* 'займацца пустымі размовамі; сваволіць' (Касп.), 'сваволіць, рабіць глупства' (Нас.). Рус. дыял. *галу́за* 'тс' Карскі, як здаецца, няўдала выводзіў з літ. *galvóžis* (РФВ, 49, 13). Сам Фасмер (1, 390) вылучыў даволі фантастычнае тлумачэнне: *галу́за* 'гарэза', магчыма, спачатку мела значэнне 'галіна, сук' і звязана са слав. _*galǫzь_ 'галінка' (якое быццам роднаснае з _*golъ_ 'голы'). Хутчэй за ўсё гэта група слоў звязана з укр. *глузува́ти* 'насміхацца', рус. дыял. *галу́здать* 'гарэзаваць'.

**Галу́за$_3$** 'астрыжаны хлопец або дзяўчынка з кароткімі валасамі' (Сцяц. Словаўтв.). Магчыма, да *галуза$_2$* 'свавольнік, гарэза' (гл.): 'гарэза' — 'астрыжаны гарэза' — 'астрыжаны наогул'. Можна яшчэ згадаць неверагодную этымалогію Фасмера (гл. пад *галуза$_2$*): *галу́за* 'свавольнік, гарэза' звязана з _*galǫzь_ 'галінка' (а гэта да _*golъ_ 'голы', першапачаткова



'голая галінка'). Можа, Фасмер усё ж такі меў рацыю, калі дапусціць, што дзесьці ў дыялектах захавалася значэнне менавіта 'голая галінка' для *галу́за* ('галінка'). Тады магчымы перанос значэння (метафарызацыя): 'голая галінка' — 'астрыжаны хлопец' (<'голы, з голай галавой'), далей 'гарэза' (<'астрыжаны'). Меркаванні гэтыя вельмі праблематычныя, таму што няма дадатковых даных для гісторыі ўсёй гэтай вялікай групы слоў.

**Галу́заваць** 'гарэзаваць і да т. п.' Гл. *галу́за$_2$*.

**Галу́й** 'галадранец' (Сцяц. Словаўтв.). Гэтаму бел. слову ёсць дакладная адпаведнасць у некаторых рус. гаворках. Параўн. рус. кастр. *галуй* 'гультай; той, хто любіць валачыцца; пустамеля' (СРНГ, 6, 118). Этымалогія слова не вельмі пэўная. Можна выходзіць з *гол-уй* (да *голы*), але таксама не выключаецца і сувязь з такімі дзеясловамі, як рус. *га́литься* 'насміхацца', бел. *га́ліцца*.

**Галу́н$_1$** 'галун' (БРС). Рус. *галу́н*, укр. *галу́н* 'тс'. Запазычанне з франц. *galon* (параўн. і іт. *gallone*), магчыма, праз польск. *galon*. Гл. Фасмер, 1, 390 (Шанскі, 1, Г, 20, неабгрунтавана аспрэчвае магчымасць польск. пасрэдніцтва: націск у слове можа адлюстроўваць націск ва ўскосных склонах). Бел. слова, здаецца, праз рус. мову (няма ў ст.-бел. помніках; гл. Булыка, Запазыч.).

**Галу́н$_2$** 'галын' (БРС, Шат., Касп., Нас.). Рус. *галу́н*, укр. *галу́н* 'тс'. Запазычанне праз польск. *ałun, hałun* 'тс', а гэта з ням. (с.-в.-ням.) *alûn* (<лац. *alumen*) 'тс' (ням. *Alaun*). Гл. Міклашыч, 2; Фасмер, 1, 390; Брукнер, 4. Не вельмі зразумелы варыянт бел. *галын* 'тс' (БРС, Касп.).

**Галунэ́** 'жмуты шэрсці, што збілася, у аўчыне' (Шат.). Няяснае слова.

**Галу́ска** 'галінка'. Гл. *галу́за$_1$*.

**Галу́та** 'замёрзлая зямля без снегу' (Шатал.). Гл. *галутвы*.

**Галу́твы** 'замёрзлая зямля або гразь; груда' (віц., Яшкін). Параўн. *галу́та* 'замёрзлая зямля без снегу' (Шатал.). Можна меркаваць, што тут нейкія формы з уканнем (фанетычным або як вынік уплыву іншых слоў — сказаць цяжка). Параўн. падобныя формы з рус. мовы: *голутва́, голудьба* 'замёрзлыя кучы зямлі восенню'. Здаецца, што выходныя формы для бел. мовы былі _*golotva_, _*golota_ ад _*golъ_; параўн. важны элемент семантыкі ў слове *галу́та*: 'замёрзлая зямля без снегу' (!).

**Галу́шка$_1$** 'галушка' (БРС, Касп., Нас., Сцяшк. МГ), так-

сама 'шарык, галачка' (Касп.). Рус. *галу́шка*, укр. *галу́шка*, польск. *gałuszka* (*hałuszka*; гэты апошні варыянт запазычаны з укр.; гл. Брукнер, 133). Адносіны паміж асобнымі словамі ў слав. мовах даволі складаныя. Рус. слова лічыцца запазычаннем з укр. (гл. Шанскі, 1, Г, 20). Укр. *галушка*, паводле Шанскага (там жа), хутчэй за ўсё ўзята з польск. мовы (*gałuszka* < *gała*). Штосьці пэўнае адносна бел. слова сказаць цяжка, бо няма дастатковых даных адносна гісторыі гэтай лексемы. Аб слове *галу́шка* ў бел. дыялектах гл. падрабязна Сцяц. Нар., 36—37, які адзначае, што як назва стравы слова *галушкі* малаўжывальнае і часцей яно сустракаецца ў форме *галушка* (адз. л.) са значэннем мучнога шарыка ў зацірцы.

**Галу́шка**$_2$ 'звязка апрацаванага лёну'. Гл. *галу́шка*$_1$.

**Га́лы** 'ягадзіцы' (Нас.). Гл. *га́ла*$_2$.

**Галы́** 'лыткі' (Бяльк.). Суадносіцца, здаецца, з **golъ* 'голы'. Матывацыя тут такая самая, што і ў слове *галёнкі* (слав. **golěnь* да **golъ*). Аднак не выключаецца, што, магчыма, ёсць сувязь з *га́ла* 'штосьці круглае' (гл. *га́ла*$_2$, *галы* 'ягадзіцы').

**Галыко́ннік** 'валачобнік' (Сцяшк. МГ): *«Галыконнікі ходзяць і спяваюць пад вокнамі, за гета ім даюць чырвоныя яйкі»*. Няясна.

**Галы́н** 'галын'. Гл. *галу́н*$_2$.

**Галы́тар** 'голы, бедны' (Бяльк.). Відавочна, утварэнне ад *голы* 'голы, бедны' па тыпу *багаты́р* 'багацей' (гл.).

**Гальбо́та** 'бедната' (Жд. 2). У аснове гэтага ўтварэння ляжыць зыходнае **golьba* (?) ад назоўніка **golь* (да **golъ* 'голы, бедны'). Бянтэжыць толькі суфіксацыя **-ьba*, якая звычайна сустракаецца ў аддзеяслоўных фармацыях. Далей да **golьba* (?) быў дададзены фармант **-ota*, добра вядомы ў назоўніках з абстрактным значэннем. Параўн. *гальдоба*.

**Гальва́** 'кручок на ворчыку' (Сцяц. Словаўтв.). Няяснае слова.

**Гальдо́ба** 'высокая і худая дзяўчына' (Сцяц. Словаўтв.). Ці не звязана гэта слова з *гальбо́та* 'бедната' (гл.)? Тады трэба прыняць перастаноўку складоў і азванчэнне *-т-* > *-д-*: *гальбо́та* > **гальто́ба* > *гальдо́ба*. З іншага боку не выключаецца, што *гальдо́ба* ўтворана самастойна (параўн. шырока вядомы суфікс **-oba* ў словаўтварэнні назоўнікаў).

**Га́лька**$_1$ 'галька' (БРС). Шанскі (1, Г, 22—23) лічыць гэту лексему ўсх.-слав. (параўн. рус. *га́лька*, укр. *га́лька*).



Фасмер (1, 390) таксама адносіць гэта слова да славянскага па паходжанню (адхіляючы думку, паводле якой гэта запазычанне з комі *gal'a* 'каменьчык, галька'). Фасмер (там жа) (за ім і Шанскі, там жа) думае пра роднаснасць з **golъ* 'голы' (як семантычную паралель, параўн. рус. *голы́ш* 'маленькі круглы каменьчык').

**Га́лька**$_2$ 'сподняя спадніца' (Шатал.), 'сподняя спадніца з карункамі або вышытая ўнізе; нацельная трыкатажная кашуля жанчыны' (Жд., Сцяц. Словаўтв.), 'сподняя спадніца' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *halka* 'спадніца'. Паходжанне польск. слова не вельмі яснае. Магчыма, запазычанне з усх. моў. Агляд версій гл. Брукнер, 167—168; Слаўскі, 1, 395; параўноўваюць з тур. *chali* 'дыван' (так Бернекер, 384; Брукнер, 168). Для надзейнай рэканструкцыі гісторыі слова не хапае надзейных даных. Аб слове *галька* ў бел. мове гл. падрабязны агляд Сцяц. Нар., 100—101.

**Гальні́к** 'дзяркач' (Нас., Бяльк.). Відавочна, таго ж паходжання, што і *гале́нь* 'тс' (гл.), г. зн. звязана са словам *голы*.

**Гальця́па** 'бедната, галота' (Касп.). Падобнае слова ёсць і ў іншых усх.-слав. мовах. Параўн. рус. дыял. *голтепа́* 'тс' (СРНГ, 6, 349), укр. *гольтіпа́*, *гольтяпа́* (Грынч.). Здаецца, усх.-слав. экспрэсіўнае ўтварэнне. Першая частка слова да **golъ* 'голы; бедны', другая, магчыма, да слав. **lep-* 'біць', усх.-слав. **тяпати* (бел. *ця́паць*, укр. *тя́пати*, рус. *тя́пать*).

**Га́льштук** (БРС). Непасрэднае запазычанне з польск. *halsztuk* 'тс', якое ўзята з ням. *Halstuch* 'хустка на шыю' (аб фанетыцы слова, у прыватнасці аб пераходзе ням. *-ch* > *-k* у польск. мове, гл. Слаўскі, 1, 396). Форма, блізкая да бел., існавала калісьці і ў рус. мове: *гальштук* (гл. Шанскі, 1, Г, 20). У форме *га́лстук*, *а́лстук* гэта слова вядома ў сучасных бел. дыялектах, а таксама ў ст.-бел. мове (гл. Сцяц. Нар., 97—98, са спасылкай на слоўнік Гарбачэўскага). Невядома толькі, ці сучасныя дыялектныя бел. *га́лстук*, *а́лстук* працягваюць старыя бел. формы, ці гэта запазычанне новага часу з рус. мовы?

**Галяле́ць** 'бліщчаць (пра ваду на лугах і палях)' (Янк. III). Няяснае слова. Магчыма, ёсць нейкая сувязь са слав. **galo* 'прагаліна і да т. п.', але такая этымалогія застаецца вельмі гіпатэтычнай (няма дадатковых даных), хоць з семантычнага боку яе можна прыняць (**galo* 'прагаліна' — 'прагаліна, голае месца' > 'голае месца з вадой, што бліщчыць', нарэшце, самастойны дзеяслоў *галяле́ць*). Трэба звярнуць увагу на тое, што **galo* ў некаторых мовах (дыялектах) значыць проста 'возера' (напр., укр. *га́ло*; гл. яшчэ Талстой, Геогр., 104—109).

**Галямоўжа** 'неахайны чалавек' (Нас.). Па паходжанню, бясспрэчна, звязана з такімі словамі, як *галамоўзы* 'бязвусы, без барады' (Шатал.), *галамоўза* 'нікчэмны чалавек' (Сцяшк. МГ). Меркаванні аб этымалогіі гл. пад гэтымі словамі. Семантыка лексемы *галямоўжа* не патрабуе спецыяльнага тлумачэння.

**Галяндэ́рскі** 'галандскі' (Нас.). Параўн. укр. (Грынч.) *голе́ндерський* 'тс', *голе́ндер* 'галандзец' (у Цімчанкі гл. *голендерский, алендерский*). Запазычанне з польск. *holenderski* 'тс' (аб польск. слове гл. Брукнер, 172). Сюды адносіцца і *галяндэ́ршчына* 'галандскае палатно' (Нас.).

**Галяні́шча** 'халява' (Шат., Сцяшк. МГ), рус. *голени́ще*. Вытворнае ад **голень* (гл. *галёнка)* суфіксам *-išče*. Фасмер, 1, 428. Шанскі (1, Г, 117) лічыць гэта слова ўласна рускім (ці не памылкова?). Лексема гэта ўжо дээтымалагізаваная (гл. Шанскі, там жа, са спасылкай на Булахоўскага).

**Галя́с** 'чарнільны арэшак' (Нас.). Гэта слова засведчана ўжо ў ст.-бел. помніках з XVII ст. у напісанні *кгалясъ, галясъ* (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *galas* 'тс'. Гл. Слаўскі, 1, 251; Булыка, Запазыч., 117. З польск. запазычана таксама ст.-укр. *голясъ* 'тс' (Слаўскі, там жа). Польск. слова ўзята з лац. *galla* (Слаўскі, там жа; Брукнер, 132, прыводзіць яшчэ і лац. *gallas, gallacium*).

**Галя́ць** 'бегаць (без занятку)' (Сцяц. Словаўтв.). Няяснае слова; няма дадатковых даных, роднасных лексем.

**Галя́чка** 'ігла' (Нас.). Паколькі, здаецца, няма дадатковых даных аб гэтай лексеме, то магчыма толькі выказаць меркаванне (даволі гіпатэтычнае) аб этымалагічнай сувязі з укр. *го́лка* 'ігла'. Бел. слова, мусіць, паходзіць з **голячка,* дзе *-ячка* з'яўляецца суфіксам (у якой функцыі?), а *гол* — аснова, што ва ўкр. *гол-ка,* рус. *игла, iголка.* Не выключаецца і сувязь з *го́лы* (тады, магчыма, гэта нейкая метафарычная або жартоўная назва).

***Галяшо́вачкі*** (з выбухным *г*) 'туфлі парусінавыя або брызентавыя' (Жд. 1). Утварэнне ад *галёш* (гл.). Назва дадзена, відаць, па знешняму падабенству галяшовачак з галёшамі.

**Гам** 'шум, крык' (Нас., Шат., Касп., Бяльк., Шатал.). Параўн. рус. *гам,* укр. *гам.* Паводле Шанскага (1, Г, 23), усх.-слав. слова. Лічыцца звязаным чаргаваннем галосных з коранем **gom-* (параўн. слав. **gomonъ* 'шум', **gomoniti* і т. д.) гукапераймальнага паходжання (гл. Бернекер, 1, 326—327; Праабражэнскі, 1, 118; Фасмер, 1, 390—391; Шанскі, там жа). Сюды адносіцца і дзеяслоў бел. *гамава́ць* 'брахаць; крычаць, лаяць' (Сцяц. Словаўтв.).



**Га́ма** 'гама (музыч. і да. т. п.)' (БРС). Рус. *га́мма,* укр. *га́ма.* Крыніцай запазычання з'яўляецца франц. *gamme* 'тс' або ням. *Gamme* < франц. У аснове тэрміна ляжыць назва грэч. літары γ (γάμμα), якая трапіла ў франц. і ням. мовы з іт. *gamma.* Падрабязна гл. Шанскі, 1, Г, 24—25.

**Гамава́ць**$_1$ 'уціхамірваць, стрымліваць' (Нас.), 'тармазіць' (Сцяц. Словаўтв.). Вядома ўжо ў ст.-бел. мове з XVI ст.: *гамовати* 'ўціхамірваць, стрымліваць' (гл. Булыка, Запазыч., 78). Як і ўкр. *гамува́ти* (у XVI—XVIII стст. *гамовати*), запазычанне з польск. *hamować* < с.-в.-ням. *hamen* (пазней *hemmen*). Гл. Слаўскі, 1, 399 (з падрабязнай літ-рай).

**Гамава́ць**$_2$ 'крычаць і да т. п.' Гл. *гам.*

**Гамазе́я** 'магазін' (Нас.). Рус. дыял. *гамазе́я* 'хлебны свіран, склад', укр. дыял. *гамазе́я, гамазе́й, гамазíя, гамазíй.* Паводле Фасмера (1, 391), метатэза з *магазея;* параўн. рус. *магазе́я, магазе́й* 'свіран, магазін', укр. *магазе́й* 'свіран для хлеба'. Гэтыя апошнія формы паходзяць ад гал. *magazijn* 'склад' (аб гісторыі гал. слова гл. Фасмер, 2, 554—555). Фантастычна Рудніцкі, 551: укр. *гамазей* з *магазин* і з уплывам слова *музей* (!).

**Гама́к** (БРС). Рус. *гама́к,* укр. *гама́к.* Бел. і ўкр. словы ўзяты, як відаць, з рус. мовы. Там гэта запазычанне з франц. *hamac* (дзесьці ў другой палавіне XVIII ст.) < ісп. (назва ўзята ад туземцаў в-ва Гаіці). Гл. Фасмер, 1, 391; Слаўскі, 1, 399; Шанскі, 1, Г, 23.

**Га́ман** 'нікчэмны чалавек; злы' (Нас.), 'злюка' (Касп.). Паводле Насовіча, ад уласнага імя *Амман* (мы знаходзім імя *Аман* у біблейскай кнізе «Эсфирь», дзе ён выступае як ліхадзей). З іншага боку мы знаходзім у ст.-укр. мове *гамонъ* (XVIII ст.) 'разява, дурань і г. д.', якое Цімчанка (1, А—Г) выводзіць з польск. *gamoń* (аб польск. слове гл. Брукнер, 134; інакш Цімчанка, там жа). Магчыма, што і бел. лексема таго ж паходжання, што і ўкр, слова. Але параўн. яшчэ польск. *haman* 'вялікі, цяжкі; няўклюда' (якое Брукнер, 168, выводзіць з біблейскага імя *Haman*), польск. дыял. *haman* 'вялікі, рослы; моцны' (гл. Карловіч, 2, 164).

**Гама́н,** *гыма́н* 'торбачка, машна для грошай' (Бяльк.). Рус. *гама́н,* укр. *гама́н* 'тс'. Паходжанне слова вельмі спрэчнае. Вінэр (ЖСт., 1, 1895, 61) меркаваў, што гэта назва паходзіць ад уласнага імя (біблейскае) *Гаман.* Фасмер (1, 391) сумняваецца, але іншай этымалогіі не дае. Таксама сумняваецца

Рудніцкі, 553 (але яго вывядзенне гэтага слова ад тур.-араб. *hammāl* вельмі няпэўнае). Вытворныя ад *гама́н:* бел. *гамане́ц* (Жд. 2, Бяльк.), *гымане́ц* (Бяльк.), укр. *гамане́ць*.

**Гамана́.** Гл. *гамані́ць*.

**Гамане́ц** 'кашалёк' (Жд. 2, Бяльк.). Гл. *гама́н*.

**Гамані́ць** 'гаварыць, нагаворваць' (БРС, Нас., Шат., Касп., Сцяшк.). Рус. *гомони́ть* 'крычаць, шумець', укр. *гомоні́ти*. Параўн. далей польск. *gomonić się* 'сварыцца; быць не ў ладах', славац. *homonit'* 'шумець, крычаць'. Слав. дзеясловы лічацца вытворнымі ад **gomonъ* (зах.-слав. і ўсх.-слав. словы); параўн. бел. *го́ман* 'размова, шум, крык', укр. *го́мін*, славац. дыял. *homon*, польск. *gomon* і г. д. Сама лексема **gomonъ*, паводле Слаўскага (I, 315—316), знаходзіцца ў этымалагічнай сувязі з усх.-слав. **gomъ: *gamъ* 'галас, шум' (параўн. *гам* 'крык, шум'). Меркаванні аб далейшых сувязях гэтага этымалагічнага гнязда гл. у Слаўскага (там жа). Гл. яшчэ Фасмер, I, 436; Шанскі, I, Г, 125—126. Да гэтага сямейства слоў адносіцца і *гамана́* (Сцяшк. МГ) (адносна словаўтварэння гэтага апошняга параўн. *гавара́* 'гутарка, гаварэнне, мова'), далей *гамо́нка* 'пагалоска' (БРС), 'размова' (БРС, Шат., Касп, Бяльк.).

**Га́мар**$_1$, пра 'вялікі і цяжкі прадмет' (Сцяц. Словаўтв.). Спачатку, мусіць, 'вялікі молат, молат'. Параўн. укр. дыял. (зах.) *га́мер* '(вялікі) молат'. Запазычанне з ням. *Hammer* 'молат', Параўн. Рудніцкі, 555.

**Га́мар**$_2$ 'верхняя ручка ў падоўжнай піле'. Гл. *га́мары*.

**Гама́рка** 'вушка ў піле' (Шатал.). Гл. *га́мары*.

**Гама́рня**$_1$ 'медны завод' (Нас.), 'рудня, медзеплавільная майстэрня, плавільны завод' (Яшкін). Укр. *гама́рня* 'металаплавільны завод'. Як можна меркаваць, гэта запазычанне з польск. *hamernia* 'тс' (а гэта да ням. *Hammer* 'молат'); параўн. ст.-бел. XVI ст. *гамеръ* 'кузня' < польск. *hamer* < ням. (Булыка, Запазыч., 78). Рудніцкі (553—554) бачыць крыніцу запазычання прама ў ням. *Hammerwerkstatt* (без польскага пасрэдніцтва). Такая версія гісторыі адпаведных слоў вельмі няпэўная. Параўн. форму *гамэ́рня* (гл.) з другасным значэннем, якая, як здаецца, пацвярджае магчымасць польскага пасрэдніцтва.

**Гама́рня**$_2$ 'шумная гутарка' (Шат.), 'шум, садом' (Касп.), 'гамарня, шумнае месца' (Бяльк.), 'шумнае месца; будынак музычнай установы; школа' (Яшкін). Укр. *гама́рня* 'крык, шум' (гл. Рудніцкі, 553). Па паходжанню ідэнтычнае з *гама́рня*$_1$ 'плавільны завод і да т. п.' (гл.). Перанос значэння 'плавільны завод, майстэрня і да т. п.' — 'шумнае месца', 'шум, гутарка і г. д.' не патрабуе дакладнага паяснення. Параўн. *гамэ́рня*.



**Га́мары** 'ручкі папярочнай пілы ў выглядзе трубак; у іх убіваюцца калкі' (Шат.), *га́мар* 'верхняя ручка ў падоўжнай піле' (Касп.). Сюды ж *гама́рка* 'вушка ў піле' (Шатал.). Параўн. яшчэ ўкр. *га́мірка* 'нізкая драўляная ручка ў вялікай піле, якой распілоўваюць дрэва на дошкі' (Грынч.). Мяркуем, што гэтыя словы таго ж паходжання, што і *га́мар*$_1$ (гл.), г. зн. запазычаны з ням. мовы. Назва молата была перанесена (у некаторых выпадках з афармленнем суфіксацыяй *-к(а)*) на 'ручку, дзяржальна' (спачатку молата, а потым наогул розных прылад). Гл. яшчэ *га́мар*$_1$.

**Га́матны** 'тоўсты, грубы, гаматны' (БРС), 'завялікі (пра адзенне, абутак)' (Сцяц. Словаўтв.). Няяснае слова. Можа, звязана з укр. *гматни́й* 'гібкі', *гма́тати* 'камячыць, гнуць' (Грынч.), польск. *gmatwać* 'заблытваць і да т. п.', *gmatać* 'тс' (аб гэтых лексемах гл. Слаўскі, I, 297—298). Параўн. яшчэ *га́мтаць* 'камячыць' (БРС), *гамта́ць* 'тс' (Сцяшк. МГ).

**Га́маць** дзіцячае 'есці' (БРС, Нас., Шат., Касп.), *га́мкаць* 'тс' (Нас.). Укр. *га́мати, га́мкати* 'тс', рус. *га́мать, га́мкать*. Утварэнне ад выклічніка *гам*! (які перадае тую ж семантыку — 'есці').

**Гама́ш** 'гамашы' (БРС), *гама́шы* 'чаравікі' (Шат., Сцяшк. МГ). У значэнні 'чаравікі' прамое запазычанне з польск. *kamasz* (адз. л.), *kamasze* 'чаравікі', а гэта з франц. мовы *gamache* (гл. Брукнер, 215). У значэнні 'гамашы', відавочна, запазычанне з рус. мовы (рус. *гамаша;* аб гісторыі рус. слова падрабязна Шанскі, I, Г, 23—24).

**Га́мба** 'недахоп, загана, ганьба' (Сцяц. Словаўтв.). Відаць, з *га́ньба* (асіміляцыя *-ньб-* > *-мб-*). Адсюль і *гамбава́ць* 'прызнаваць кепскім' (Сцяц. Словаўтв.). Параўн. яшчэ *га́мбіць* (гл.).

**Гамбава́ць** 'прызнаваць кепскім'. Гл. *га́мба*.

**Гамбі́сты** 'горды' (Касп.). Адносіцца да групы слоў *га́мба, гамбава́ць, га́мбіць* (гл.). *Гамбісты* <**ганьбісты*. Зыходным значэннем, магчыма, з'яўляецца 'сарамлівы; той, хто саромеецца, ганьбіцца', адсюль далей 'горды'.

**Гамбі́т** 'тэрмін шахматнай гульні' (БРС). Рус. *гамби́т*, укр. *гамбі́т*. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *gambit* 'тс' (а гэта з іт. *gambetto*, дакладней, *dare il gambetto* 'даць падножку'). Гл. Шанскі, I, Г, 24. Бел. і ўкр. словы, відавочна, запазычаны непасрэдна з рус. мовы.

**Гáмбіць** 'ганьбіць' (Нас.). Як і *гамба, гамбаваць* (гл.), узнікла пры дапамозе асіміляцыі *-ньб- > -мб-*.

**Гамéн** 'бязмен' (Бяльк.). Няяснае слова. Хутчэй за ўсё тут адбылася кантамінацыя лексемы *бязмéн* 'бязмен' (гл.) з нейкім іншым словам: з якім, сказаць цяжка (магчыма, можна думаць пра *абмéн* ці штосьці падобнае). Ва ўсякім выпадку па адзінкавай назве нельга меркаваць аб яе этымалогіі, пакуль не знойдзецца новы параўнальны матэрыял.

**Гамеры́чны** (БРС). Рус. *гомери́ческий*, укр. *гомери́чний*. Прыметнік гэты сустракаецца, як правіла, толькі ў выразе *гамерычны смех*. Запазычанне з франц. *homérique* 'тс'. У аснове назвы ляжыць імя вядомага паэта Гамера, у «Іліядзе» якога апісваецца смех багоў. Гл. Шанскі, 1, Г, 125. Бел. і укр. словы запазычаны непасрэдна з рус. мовы.

**Гамёлка** 'луста, кавалак' (Сцяшк. МГ). Няяснае слова. Магчыма, першапачатковым значэннем было 'штосьці тоўстае, вялікае, нязграбнае'. Тады можна параўнаць з укр. дыял. *гамéла* 'тоўсты, непаваротлівы чалавек' (Грынч.), чэш. дыял. *gámel'a* 'дурны, нехлямяжы' (гл. Махэк$_2$, 149, дзе даецца вельмі няпэўная этымалогія). Для ўкр. слова Рудніцкі (554 — 555) прапануе з запытаннем сувязь з *гам!, гáмати* 'есці'. Што можа быць сувязь з 'есці' і 'луста' параўн. у Насовіча: *гáмзаць, гамзíць* 'есці', *гамзу́ля* 'вялікая луста хлеба'. Да чэш дыял. *gámel'a* і да магчымых сувязей гэтай групы слоў з лексемамі са значэннем 'есці' параўн. яшчэ Слаўскі, 1, 253—254 (пад *gamajda*).

**Гáмзаль** 'смуглы' (Жд. 2). Дакладнае значэнне слова невядома (параўн. прыклад, які прыводзіцца ў слоўніку Жыдовіч: *«Вой я ш як гамзаль чорная, мне і загараць ня трэба»*). Лексема *гамзáль* 'быстры, тупы штуршок', якая прыводзіцца ў Насовіча, не падыходзіць па семантыцы. Калі няма сувязі з адным са значэнняў дзеясловаў *гáмзаць, гамзáць*, то, магчыма, запазычанне. Параўн. (але гэта вельмі няпэўная дагадка) укр. *гамсéл* 'іранічная назва, якую даюць жыхарам Таўрычаскай губерні' (Грынч.).

**Гáмзаць** 'паволі есці, жаваць' (Нас.). Зыходным значэннем для гэтай групы слоў (якая ўваходзіць да вельмі разгалінаванага семантычна сямейства з асновай **gъmъz-* у слав. мовах) з'яўляецца 'рабіць паволі, капашыцца і да т. п.' Семантыка 'есці, жаваць паволі' — гэта канкрэтызацыя больш агульнага значэння. Далей сюды адносяцца *гамзíць* 'есці, уплятаць' (Нас.), *гамзíць* 'рабіць неакуратна' (Бяльк.). Аб іншых словах, якія адносяцца да **gъmъz-*, гл. *гамзáць*$_1$, *гамзáць*$_2$, *гамзёць*. Да *гáмзаць* адносіцца і ўкр. *гóмзатися* 'варочацца, капашыцца' (Грынч.), рус. *гомзáть* 'кішэць', *гомози́ть* 'мітусіцца'. Аб гэтым вялікім сямействе слав. слоў гл. у Фасмера (1, 435: пад *гомозá, гомзáть*) і асабліва ў Слаўскага, 1, 277—278. Вельмі падрабязны агляд гл. Трубачоў, Эт. сл., 193—195.



**Гамзáць**$_1$ 'біць штуршкамі, калаціць' (Нас.), *гамзíць* 'ціскаць каленямі або біць кулакамі' (Нас.). Да вялікага сямейства слоў, якія разгледжаны пад *гéмзаць, гамзéль, гамзéць, гамзíць* (гл.). Бел. словы *гамзíць* 'біць, есці' і *гамзíць* 'рабіць неакуратна' Трубачоў (Эт. сл., 7, 194—195) пад праформай **gъmъziti (sę)* разглядае з іншымі словамі з розных слав. моў, не высвятляючы развіцця семантыкі ў бел. лексемах. Магчыма, 'капашыцца' ← *'капашыцца, турбаваць' ← 'турбаваць, біць' ← 'біць'.

**Гамзáць**$_2$ 'гнусавіць' (БРС, Шат., Касп.). Параўн. вытворныя: *гамзáты* 'той, што гаворыць у нос' (Шат., Касп., Бяльк.), *гамзу́н* 'тс' (Шат., Касп.), *гамзáтка* 'жанчына, што гаворыць у нос' (Бяльк.), *гамзацéль, гамзацéнь* 'гамзаты' (Бяльк.). Бясспрэчна, гэта слова адносіцца да прасл. **gъmъz-*, г. зн. да вялікай групы слоў, разгледжаных пад *гáмзаць, гамзéль, гамзáць, гамзíць* і г. д. Але развіццё семантыкі растлумачыць не вельмі лёгка.

**Гамзéль** 'хуткі, тупы штуршок' (Нас.). Бясспрэчна, адносіцца да *гамзáць*$_1$ 'біць' (гл.), *гамзíць* (гл. пад *гамзáць*$_1$). Суфіксацыя *-ел(ь)* < *-el-(ь)*? ад асновы *gъmъz-*? Параўн. яшчэ бел. *гамзацéль* 'гамзаты'. З другога боку, не выключаецца паходжанне ад дзеяслова тыпу **gъmъz-el-iti* (да гэтага параўн. укр. *гамсели́ти* 'калаціць, біць, удараць', Грынч.).

**Гамзéць** 'турбаваць (пра зубы)' (Сцяц.). Відаць, таго ж паходжання, што і іншыя словы, якія адносяцца да прасл. **gъmъz-* (гл. *гáмзаць*, там і літ-ра). Параўн. у Фасмера (1, 435) рус. *гомозá* 'непаседа', *гомози́ть* 'мітусіцца, турбавацца,' *гомзáть* 'кішэць'. Зыходным значэннем можа быць 'капашыцца, пакусваць'→'пакусваць (спачатку аб насякомых)'→'пакусваць, турбаваць'→'турбаваць'. Параўн. Трубачоў (Эт. сл., 7, 193), дзе прыводзіцца в.-луж. *hemzać* 'капашыцца, пакусваць', польск. *giemzać* 'зудзець і да т. п.' Бел. *гамзéць* 'турбаваць (пра зубы)' Трубачоў (там жа, 194) таксама адносіць да слав. **gъmъz-* (пад агульнай праформай **gъmъzěti(sę)*).

**Гамзíла** 'разбойнік' (Нас.). Утварэнне ад *гамзíць* 'біць' (гл. пад *гамзáць*$_1$).

**Гамзíць** 'уплятаць, есці' (Нас.), 'рабіць неакуратна' (Бяльк.). Гл. *гáмзаць*.

**Гамзýля** 'вялікая луста хлеба' (Нас.). Гэта слова можна лічыць аддзеяслоўным утварэннем (параўн. *гáмзаць* 'паволі есці, жаваць', Нас.) суфіксам *-уля*. Але параўн. *гомзýля* 'луста, кусок', якое Фасмер (1, 425) параўноўвае з рус. *гомзá* 'грошы; кашалёк', а Буга (РФВ, 70, 248) звязваў з рус. *гомóла* 'ком'.

**Гамізэ́лька** 'безрукаўка' (Сцяшк. МГ), *камузэ́лька* (Сцяц. Нар., 82). Паводле Сцяцко (там жа), крыніцай слова *камузэ́лька* з'яўляецца польск. *kamizelka* 'камзол, сялянская куртка'. Варыянт *гамізэ́лька* таксама ўзяты з польск., а пачатковае *г-* (замест *к-*) — вынік азванчэння *к* > *г* (пад уплывам наяўных у слове санорных і звонкага *-з-*). Аб этымалогіі польск. слова гл. Брукнер, 215, 251; Слаўскі, 2, 38—39.

**Гамлы́га** 'вялікі кавалак цвёрдай зямлі на ўзараным ці засеяным полі' (слаўг., Яшкін). Азванчэннем пачатковага зычнага (асіміляцыяй) з *камлы́га* 'тс' (гл. матэрыял аб гэтай апошняй форме таксама ў Яшкіна).

**Гамля́чка** 'калёсы на жалезным ходу ў выглядзе калыскі' (Касп.). Няяснае слова.

**Гамóліна** 'розга' (Шатал.). Няяснае слова.

**Гамóн** 'Канец! Прапала!' (Касп.). Параўн. рус. дыял. смал. *гамóн* 'канец, смерць'. Няяснае слова. Магчыма, зыходнае **гомóн*. Параўн. у Даля (паўн. і ўсх.) *гомóн* 'спакой, цішыня' (якое ён сам звязвае з *(у)гомонить*).

**Гамóнка** 'размова' (Шат., Касп., Бяльк.). Гл. *гаманíць*.

**Гáмтаць** 'камячыць' (БРС), *гамтáць* 'тс' (Сцяшк.). Калі гэта не запазычанне з польск. *gmatać* 'тс' (з метатэзай гукаў: **гмáтаць* > *гáмтаць*), то роднаснае гэтаму польск. слову і іншым слав.: польск. *gmatać, gmatwać, gmatusić*, чэш. *hmatati*, славац. *hmatati*, укр. *гмáтати*. Гэту групу лексем Слаўскі (1, 298—299) выводзіць з прасл. **gъm-at-ati (*gъm-atvati)*. Гл. агляд літ-ры і версій Слаўскі, там жа. Параўн. яшчэ бел. *гáматны* 'тоўсты, грубы, завялікі' (гл.).

**Гáмузам** 'агулам' (БРС). Рус. дыял. *гáмузом*, укр. *гáмузом*. Паводле Фасмера (1, 391), адносіцца да дзеяслова *гомзáть* 'кішэць' < **gъmъz-*. Трубачоў (Эт. сл., 7, 195) пад **gъmъz-* разглядае многа славянскіх лексем, у тым ліку рус. *гомоз* 'мноства', *гóмозом* 'усе разам', *гáмаз* 'маса, мноства', *гáмазам* 'разам, агулам', укр. *гáмуз* 'мякаць; бацвінне (ад буракоў, лісты капусты)', *гáмузом* 'агулам', бел. *гáмузам* 'тс', *гамýз* 'шум'. Што гэта слова адносіцца іменна да групы **gъmъz-*, можна не сумнявацца.



**Гамýла** 'клёцкі з бульбы з салам' (Бяльк.). Відавочна, запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *gomółka* 'камяк; круглы сыр' (памянш. форма да **gomoła*). Адсюль бел. *гамýла*. Невядома, ці сюды адносіцца ўкр. *гамýла* 'від кашы; няўдалая ежа (боршч, галушкі)' (Грынч.)?

**Гамэ́лак** 'неразбіты кавалак цвёрдай ці сухой зямлі на раллі', 'вялікі кавалак снегу, лёду са снегам' (слаўг., Яшкін). Магчыма, азванчэннем пачатковага зычнага (асіміляцыяй) з *камэлак* 'тс' (а гэта да слав. **kotьlь* 'камель і да т. п.').

**Гамэ́рня** 'сварка' (Жд. 2). Запазычанне з польск. *hamernia* 'гамарня; плавільны завод і да т. п.' Значэнне тут другаснае (параўн. *гамáрня₂*, гл.). Форма *гамэ́рня* пацвярджае, што і *гамáрня₁* была запазычана непасрэдна з польск. мовы (насуперак Рудніцкаму, 553—554, які выводзіў *гамарня* прама з ням. крыніцы).

**Ган** 'недахоп' (Нас., Касп.). Касляровіч параўноўвае гэта слова з *загáна* 'тс'. Аднак лепш параўноўваць (бо фармальна стаіць бліжэй) з укр. *гáна* 'бессаромнасць, сорам, ганьба', польск. *gana*, чэш. *hana* і г. д., якія адносяцца да слав. **ganiti* 'ганьбіць і да т. п.' (бел. *гáніць*, укр. *гáнити*, рус. дыял. *гáнить*, польск. *ganić*, чэш. *haniti*). Аб слав. **ganiti* падрабязней гл. Слаўскі, 1, 254—255 (там і агляд літ-ры). Форма *ган*, мусіць, нейкае беларускае новаўтварэнне.

**Ганабóлі** 'буякі', *ганабóльнік* 'дурнічнік' (Шатал.). Параўн. яшчэ бел. назвы для Vaccinium uliginosum L.: *п'яніцы, дурніцы, дурава, п'янішніца*, а галоўнае, *галаваболь* (гл. Кіс.). Ва ўкр. мове: *безголов. буяк, дурнопьян, дурниця, дурнина* і, галоўнае, *болиголов* (гл. Макавецкі, Sł. botan.). Нягледзячы на тое што ў рус. мове дакладная адпаведнасць бел. слову — *гонобóль* (гл. Фасмер, 1, 437; варыянты: *гонобóбель, гонóбель, гонобóб, гонобóй*), якое Фасмер (там жа) лічыць магчымым табуістычным словам ('гонит боль') з пазнейшымі эўфемістычнымі трансфармацыямі, зыходзіць, мяркуем, трэба з **головоболь*: дысіміляцыяй плаўных *л—л* і двух губных *в—б* узнікла спачатку штосьці тыпу **гоновоболь*, а потым гаплалогіяй **гоноболь*. Інакш Махэк, Slavia, 23, 1954, 65. Не пераконвае Шанскі (1. Г, 127—128), які, прымаючы дысіміляцыйныя працэсы, зыходзіць ад прыметніка *голубой*.

**Ганавíцы** 'штаны' (Сцяшк.), *ганавíцы* 'рукавіцы' (Шат.), 'споднікі' (Шатал.), 'верхнія мужчынскія штаны' (Сцяц. Словаўтв.). Аб пашырэнні і геаграфіі слова гл. яшчэ Сцяц.

Нар., 86. Лексема гэта ўзнікла метатэзай з *нагавіцы* 'штаны і г. д.' (параўн. слав. формы да бел. *нагавіцы* ў Сцяц. Нар., 87). Гл. Сцяц. Нар., 86. Параўн. яшчэ Фасмер, 3, 79.

**Га́нак** 'ганак' (БРС, Шат., Касп., Нас., Сцяшк.), 'прызба' (БРС), 'веранда' (Жд. 2). Ст.-бел. (з XVI ст.) *кганокъ, кганекъ, ганокъ* (гл. Булыка, Запазыч., 147). Укр. *га́нок,* рус. дыял. *га́нок.* Запазычанне з польск. *ganek* (а гэта з ням., дакладней, с.-в.-ням. *ganc,* ням. *Gang*). Гл. Булыка, там жа; Фасмер, 1, 392; Слаўскі, 1, 254.

**Гана́плечка** 'кароткая кашуля са складкамі каля каўняра' (Шат.), *ганапле́чка* 'мужчынская кашуля са складкамі каля каўняра' (Жд. 1). Гэта — складанае слова. Другая яго частка да *пляча,* а аб першай *(гана-)* можна меркаваць толькі параўноўваючы лексему *гана́пле́чка* з другой, паходжанне якой зусім празрыстае. Гл. у Бялькевіча: *галаплёка (гылаплёка)* 'падбіўка ў верхняй кашулі або сукенцы', *галаплёчка (гылаплёчка)* 'кашуля з галаплёкай, падбіўкай'. Этымалогія гэтых апошніх слоў вельмі простая: **golo-pleka, *golo-plečьka* да **golъ* 'голы' і **plek-* 'пляча'. Што датычыцца *ганаплечкі,* то гэта слова ўзнікла пры дысіміляцыі плаўных *л—л > н—л.* Адносна **plek-* параўн. утварэнне з гэтай асновай у рус. мове: *подоплека* 'ўнутраны сэнс' (спачатку 'падбіўка сялянскай кашулі'; гл. Фасмер, 3, 299).

**Ганара́р** (БРС). Рус. *гонора́р,* укр. *гонора́р.* Як мяркуюць Фасмер (1, 437) і Шанскі (1, Г, 128—129), запазычанне з ням. *Honorar,* а гэта з лац. *honōrārium* 'узнагарода' (аб гісторыі слова падрабязней гл. у Шанскага, там жа). Можна ставіць пытанне, ці бел. і ўкр. словы не запазычаны праз рус. мову (для канкрэтнай гісторыі бел. і ўкр. слоў не хапае даных). Наўрад ці паміж бел. *ганара́р* і ст.-бел. *гонорариумъ* (XVII ст., гл. Булыка, Запазыч., 84) ёсць прамая сувязь.

**Ганаро́вы** 'пачэсны' (БРС), 'горды, фанабэрысты' (Касп.). Параўн. укр. *гоноро́вий.* Запазычанне з польск. *honorowy* (да *honor* <лац.).

**Га́начка** 'ступенька лесвіцы' (Касп.), *га́нкі, га́начкі* (Нас.). Да *ганак* (гл.). Адносна розных значэнняў слова *ганак* і вытворных ад яго гл. СРНГ, 6, 135 (параўн. і рус. дыял. *га́ночки* 'тонкія стоўпчыкі ў поручнях і г. д.'; СРНГ, там жа).

**Ганашы́ць** 'начыста ашчыпваць' (Шат.), 'спешна прыгатоўваць; прыспешваць; спяшыць' (Касп.). Фармальна добра адпавядае рус. *гоноши́ть* 'клапатліва займацца якой-н. справай; гатаваць, прыгатоўваць; рабіць што-н. хутка, старанна і г. д.' (гл. СРНГ, 7, 10—11). Адносна гэтых слоў гл. Фасмер (1, 437—



438), дзе прыводзяцца розныя версіі (у асноўным малаверагодныя; больш-менш пераконвае ідэя Кіпарскага аб зыходным *гон-* з суфіксацыяй, аналагічнай суфіксацыі ў слове *копошиться*).

**Ганбузава́ць** 'ганьбаваць' (Шатал.). Відавочна, гібрыднае слова, кантамінацыя слоў тыпу *га́ніць, га́ньбіць+бузава́ць.* Але параўн. форму без *г-* (*анбузава́ць* 'перабіраць, капрызіць', Шатал.). З прыкладаў, якія прыводзіць Шаталава, відаць, што гэта па значэнню адно і тое ж слова.

**Га́нгстэр** (БРС). Запазычанне з рус. мовы, куды ў новыя часы патрапіла з англ. мовы: англ. *gangster* 'тс' (ад *gang* 'банда'). Падрабязней гл. Шанскі, 1, Г, 26.

**Га́ндаль** (БРС, Касп.), *га́ндэль* (Нас.). Ст.-бел. (з XVI ст.) *гандель* (гл. Булыка, Запазыч., 78). Укр. дыял. *га́ндель, ге́ндель.* Запазычанне з польск. *handel* 'тс'. Гл. падрабязна Слаўскі, 1, 400. Польск. слова ў XVI ст. было ўзята з ням. *Handel* 'тс' (да дзеяслова *handeln*); Слаўскі, там жа. З ням. *handeln* 'гандляваць' запазычана польск. *handlować.* Адсюль, як лічыць Слаўскі (там жа), узята бел. *гандлява́ць* (Нас., Шат.), укр. *гандлюва́ти, гендлюва́ти* (*гандлевати* было ўжо ў ст.-бел. помніках; гл. Булыка, Запазыч.). Бел. *гандля́р* (БРС, Шат., Касп.; няма ў Булыкі, Запазыч.), укр. *гендля́р* (магчыма, як мяркуе Слаўскі, там жа, праз польск. мову: польск. *handlarz*) таксама ўзяты з ням. *Händler* (да *handeln*).

**Гандзю́ліць** 'балагурыць' (Нас.), *гандзю́рыць* 'гаварыць абы-што' (Жд. 2). Няясныя словы.

**Гандля́** 'ганна' (Жд. 2.). Дыялектная форма звычайнага *ганна́* (а гэта — утварэнне ад *гнаць, гана́ць*). Тут адбыліся складаныя фанетычныя працэсы, субстытуцыя, дысіміляцыя. Развіццё формы слова можна ўявіць сабе па паасобных элементах так: *ганна́* — **ганн'йя* — **ганн'ля́* (субстытуцыяй *й—л'*) — *гандля* (дысіміляцыя *-нн-* > *-нд-* або, што верагодней, устаўное *-д-* паміж *н'—л'*).

**Гандлява́ць** (Нас., Шат.). Гл. *га́ндаль.*

**Гандля́р** (БРС). Гл. *га́ндаль.*

**Гандо́ла** 'гандола' (БРС). Рус. *гондо́ла,* укр. *гондо́ла* 'тс'. Першакрыніцай запазычання з'яўляецца іт. *gondola,* якое трапіла ў рус. мову яшчэ ў Пятроўскую эпоху. Адтуль, здаецца, лексема пранікла ў бел. і ўкр. мовы. Гл. Фасмер, 1, 436. Падрабязна аб гісторыі слова Шанскі, 1, Г, 126—127.

**Гандэ́лак** 'закусачная' (Сцяшк.). Па паходжанню памяншальная форма ад дыял. *га́ндэль 'гандаль',* запазычанага

з польск. мовы (гл. *гáндаль*). *Гандэ́лак* 'закусачная' ўтварылася на базе іншага значэння зыходнага *гáндэль*, менавіта 'гандлёвае прадпрыемства', вядомага ў польск. мове.

**Гане́ц** 'ганец, пасланец' (БРС, Бяльк.). Укр. *гіне́ць, гоне́ць*, рус. *гоне́ц* 'тс', польск. *goniec*, чэш. (ст.-чэш.) *honec* і г. д. Слав. утварэнне (**gonьcь*) ад дзеяслова **goniti* (аб марфалагічнай характарыстыцы дзеяслоўных фармацый гл. Махэк$_2$, 171). Агляд форм у слав. мовах гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 28.

**Гáніць** 'ганіць, ганьбаваць' (БРС, Нас., Шат., Касп., Бяльк.). Укр. *гáнити*, рус. *гáнить* 'тс' (толькі ў зах. і паўд. гаворках, гл. СРНГ, 6, 134—135), польск. *ganić*, чэш. *haněti, haniti*. Гэта слова сустракаецца толькі ў зах.- і ўсх.-слав. мовах (у паўднёвых славян няма). Паходжанне яго спрэчнае. Лічыцца роднасным са слав. дзеясловам **ganjati: *goniti: *gъnati* 'гнаць, ганяць'. З іншага боку некаторыя этымолагі думаюць пра запазычанне з ням. (с.-в.-ням.) *hōna* або роднасасць з **gadъ, *gaditi*. Агляд версій гл. у Слаўскага, 1, 254—255. Шатэрнік (гл. заўвагу ў яго слоўніку), здаецца, хоча лічыць бел. слова запазычаннем з польск. *ganić*. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 392.

**Гáнка** 'загана, недахоп; строгая вымова' (Нас.). Гэта слова, паводле яго семантыкі, наўрад ці можа з'яўляцца памяншальнай формай ад *гáна* (параўн. *ган*, гл.). Хутчэй трэба меркаваць, што яно — аддзеяслоўны назоўнік, утвораны суфіксам *-к(а)*. Параўн. дзеяслоў *гаңіць* (гл.).

**Гано́к** 'плыт' (Касп.). Параўн. рус. дыял. *гоно́к* 'тс', але таксама *гáнок*. Дакладна аб этымалогіі слова, хоць яно і здаецца празрыстым, нічога пэўнага сказаць нельга. Яно можа паходзіць ад дзеяслова *гнаць*. Але бянтэжыць рус. дыял. форма *гáнок* 'тс', якая можа ўказваць на фармальную сувязь са словам *гáнак* (гл.). Гэта апошняе ў дыялектах мае шмат значэнняў (параўн., напр., для рус. мовы агляд у СРНГ, 6, 135). Але ўсё ж такі здаецца, што зыходным трэба лічыць **гоно́к* (: *goniti* 'гнаць'), якое пазней у гаворках у выніку дээтымалагізацыі асацыіравалася з іншым словам (*гáнок, гáнки* 'ганак').

**Гано́рны** 'ганарлівы' (БРС). Укр. дыял. (зах.) *гоно́рний*. Як сведчыць націск у гэтых словах, яны, пэўна, з'яўляюцца запазычаннямі з польск. мовы. Параўн. польск. *honorny* 'тс' (ад *honor*). Польск. *honorny* добра засьедчана ў многіх польск. гаворках (гл. Карловіч, II, 189).

**Гантáль** 'ганталь' (БРС, Сцяшк. МГ, Шат.). Укр. *гонтáль* 'тс', рус. дыял. (на тэрыторыі Літвы) *гóнталь*, Знешне падобнае на ўтварэнне ад *гонт* (гл.), суф. *-аль*. Але вельмі падазронае падабенства з фармацыямі тыпу ўкр. *бретнáль* 'цвік для дошак', *гухнáль* 'цвік для падковы', польск. *hufnal* і г. д., якія запазычаны з ням. *Brettnagel, Hufnagel* і дзе другая частка ням. складаных слоў (*Nagel*) прадстаўлена як *-nal*. Калі прыняць, што *гонт* некаторыя этымолагі выводзяць з ням. *gant* (дыял.), то можна лічыць, што магло існаваць і ням. (дыял.) *gantnagel*, з якога магло атрымацца (дысіміляцыя або выпадзенне аднаго з двух *n—n*) або **гонталь*, або **готналь*. Атрымалася першае.



**Гантэ́ль** 'гантэль' (БРС, часцей у мн. л.). Рус. *ганте́ли*, укр. *гантéлі*. Новае запазычанне з ням. мовы (у рус. мове засведчана з 1935 г.?). Параўн. ням. *Hantel* 'тс'. Крыніцай запазычання для бел. і ўкр. моў з'яўляецца рус. мова.

**Гáнуш** 'аніс' (Нас.), *гáнус, гэ́нус* (Касп.), *гáнусайка, ганушóўка* 'анісавая гарэлка', *гáнусавы, ганушóвы* 'анісавы' (Нас.). Першакрыніцай усіх гэтых слоў з'яўляецца грэч. назва ἄνισον. Дэталі гісторыі паасобных форм у слав. мовах (у тым ліку бел.) не вельмі ясныя. Гл. *ані́с* (Эт. сл. бел. мовы, 1, 115). Ст.-бел. *аныжъ, ганишъ* 'аніс' < польск. (гл. Булыка, Запазыч., 26).

**Ганчáр**$_1$ 'ганчар' (БРС, Шат., Касп., Бяльк., Сцяшк. МГ). Рус. *гончáр*, укр. *ганчáр, гончáр*, польск. *garncarz*, чэш. *hrnčíř*, балг. *грънчáр*, серб.-харв. *грнчар*, ст.-слав. **грънчарь**. Прасл. слова, якое з'яўляецца назвай дзеяча ад прасл. **gr̥nьcь* 'гаршчок', утваранай суфіксам **-arь*. Гл. Слаўскі, 1, 259; Фасмер, 1, 438; падрабязна Шанскі, 1, Г, 129; гл. таксама Трубачоў, Ремесл. терм., 192, 336. Неабгрунтавана Цімчанка (I, 508), якi выводзіць укр. слова з польск. *garncarz*. Вытворнае: *ганчáрня* (Шат., Касп.).

**Ганчáр**$_2$ 'вілкі' (Шатал.): *«Вазьмі ганчара і ўстаў гаршчка ў печ»*. Адсюль відаць, што функцыянальна *ганчáр*$_2$, хутчэй за ўсё, гэта «сапсаванае», трансфармаванае *ганчáрка*.

**Ганчáрка**$_1$ 'анучка, якой бяруць з печы гаршкі' (Нас.). Параўн. рус. дыял. паўд. *ганчи́рка* 'тс', *гончи́рка, гончу́рка, гончáрка* (гл. СРНГ, 6, 136; 7, 13). Даль прыводзіць (пад *ганчи́рка*) і форму *гарнчи́рка*, але няправільна параўноўвае з *гарнец* 'гаршчок'. Укр. *ганчі́рка*. Этымалогія слова спрэчная. Можна звязаць гэта слова з бел. *ганчáр*, укр. *ганчáр, гончáр* (у Грынч.: *ганчáрь, гончáрь*), рус. *гончáр* (ст.-рус. *гърньчаръ, горъчарь*), што добра звязваецца і семантычна. Наўрад ці можна прыняць этымалогію Цімчанкі, I, 508: магчыма, гэта запазычанне з ням. *Handscheure*. Для такой версіі няма ніякіх падстаў. Няясна, якая матывацыя ў слова *ганчáрка* (*гынчáр-*

*ка* — Бяльк.) ’гатунак махоркі’, якое, бясспрэчна, уваходзіць у сямейства лексем *ганча́р, ганча́рка*.

**Ганча́рка**$_2$ ’гатунак махоркі’ (Бяльк.). Няяснае слова. Відаць, звязана з *ганчар, ганчарка*$_1$ (гл.), але матывацыя застаецца незразумелай (няма дадатковых даных аб самой рэаліі і яе гісторыі).

**Ганча́рушкі** ’гліністая глеба’ (Сцяшк. МГ). Паколькі няма падобных роднасных форм і лексема гэта, здаецца, адзінкавае ўтварэнне ў зах. бел. гаворках, то дэталі яго паходжання застаюцца няяснымі. Ясна толькі адно: гэта слова звязана, відаць, з *ганча́р*$_1$. Дэталі словаўтварэння таксама вытлумачыць цяжка. А ці не паходзіць слова *ганча́рушкі* ад уласнай назвы **Ганчарушкі* (<*ганча́р*)?

**Га́ньба** ’ганьба’ (БРС, Нас., Шат., Касп.), таксама ’прыродная вада’ (Шат., Касп.), укр. *ганьба́*, польск. *gańba* (старая форма), *hańba* (больш новая форма, пад уплывам чэш. мовы; гл. Слаўскі, 1, 401—402), чэш. *hanba*, н.-луж. *gańba*, в.-луж. *hańba*. Прасл. **ganьba* (уласна дыял. прасл., толькі ў зах.- і ўсх.-слав. мовах) — утварэнне ад дзеяслова **ganiti*. Гл. падрабязна Слаўскі, там жа. Бернекер (1, 376) лічыў усх.-слав. словы паланізмамі, але, паводле Слаўскага (там жа), без дастатковай аргументацыі. Булыка (Запазыч., 78—79) лічыць ст.-бел. *ганьба, ганба* паланізмамі (як і вытворныя адсюль дзеясловы). Аб запазычанні, магчыма, сведчыць націск у бел. слове (*га́ньба;* параўн. укр. *ганьба́*). Сюды *ганьбава́ць, га́ньбіць* (БРС, Нас., Касп.), ст.-бел. *ганбити* (Булыка, Запазыч.), *гане́бны* (ст.-бел. *ганебный;* Булыка, Запазыч.). Укр. (ст.-укр.) *ганба* Цімчанка (1, 506) таксама лічыў запазычаннем з зах.-слав. моў (чэш. *hanba*, польск. *hańba*).

**Ганьбава́ць**, *га́ньбіць, гане́бны*. Гл. *га́ньба*.

**Гаця́ць.** Рус. *гоня́ть*, укр. *ганя́ти* і г. д. Аблаўтная форма да **gъnati*, **goniti*, якая (ітэратыўнае значэнне) адлюстроўвае вакалізм *«а»* (<*о*): **ganjati* (<**gonjati*).

**Га́па** ’разява’ (Сцяц. Словаўтв.). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. дыял. *gapa*, *gap* ’тс’ (якое звязваецца па паходжанню з польск. *gapa* ’варона’; гл. Слаўскі, 1, 255—256).

**Гапа́к** ’гопак’ (БРС). Рус. *гопа́к*, укр. *гопа́к* ’тс’. Лічыцца запазычаннем з укр. мовы, дзе назва танца *гопа́к* з’яўляецца вытворнай ад выклічніка *гоп!* Гл. Фасмер, 1, 438. Аб паходжанні самога выклічніка думаюць, што рус. *гоп!* — гэта ўкраінізм (гл. Шанскі, 1, Г, 129) і наогул падобны выклічнік і ва ўкр. і ў польск. мовах <ням. *hopp, hops* (гл. Фасмер, там жа). Насуперак гэтаму Слаўскі (1, 428) укр. *гоп*, польск. *hop*, чэш. *hop* лічыць проста гукапераймальнымі (падрабязна Махэк$_2$, 176, які лічыць *hop-* элементарным, першапачатковым, незапазычаным).



**Гапашы́ць** ’трапаць лён’ (Сцяшк. МГ). Няяснае слова. Магчыма, звязана з дзеясловам **pachati*. Параўн. вельмі шырокі дыяпазон значэнняў, напр., у рус. *паха́ть* (гл. у Даля), уключаючы ’рэзаць, крышыць і да т. п.’ *(пахать хлеб, мясо)*.

**Га́піць** ’біць’, *га́піцца* ’біцца’ (Шатал.). Няяснае слова. Няма ў суседніх мовах. Этымалогія гэтай лексемы не можа пакуль што выходзіць за рамкі агульных меркаванняў і дагадак. Магчыма, гэта гукапераймальнае ўтварэнне (ад выклічніка тыпу ўкр. *геп!*, які передае гук пры падзенні або ўдары: *ге́пати* ’ўдарыць; падаць з шумам і да т. п.’). А магчыма, ёсць і нейкая сувязь са словам тыпу ўкр. *га́пка* ’задняя частка цела, podex’: **гапіць* <*’біць па задняй частцы цела’ (→’біць наогул’).

**Га́пка**$_1$, *апе́лька* ’пятля для кручка’ (Жд. 1), *га́пка* ’пятля ў адзенні’ (Сцяц. Словаўтв.), *га́пка, гапе́лечка, гапе́лька* ’пятля’ (Шатал.), *га́пачка* ’самаробны гузік; пятля’ (Сцяшк. МГ). Падрабязны агляд форм гл. Сцяц. Нар. лекс., 125. Сцяцко (там жа) лічыць, што бел. форма *га́пка* ўзята з польск. *haptka* ’тс’ (гэта з’яўляецца дыялектнай формай польск. *haftka* <ням.; аб этымалогіі гл. Слаўскі, 1, 390). Гэта магчыма, але можна лічыць зыходным і польск. *haftka;* на бел. глебе замена *ф* > *п*, што звычайнае ў слав. мовах. Параўн. *га́птка, га́фтка*.

**Га́пка**$_2$ ’свіны страўнік’ (Шатал.). Няясна. Магчыма, ад уласнага жаночага імя *Гапка* (ад уласных імён нярэдка ўтвараюцца назвы розных прадметаў, у прыватнасці назвы часцей цела). Параўн. укр. дыял. *га́пка* ’задняя частка цела, podex’ (Грынч.).

**Гапл́ік** ’кручок (у адзежы)’ (БРС, Касп., Нас., Бяльк., Шатал.). Ст.-бел. *гапликъ* ’засцёжка’ (гл. Булыка, Запазыч., 79). Зыходным для бел. (ст.-бел.) слова з’яўляецца, паводле Булыкі (там жа), Рудніцкага (563), ст.-польск. *heftlik* <ням. *Heftel*. Але пры такім тлумачэнні няяснай застаецца форма бел. слова (у прыватнасці, *а* замест *е*). Гэта *а* ёсць і ў іншых мовах: укр. *гапли́к* ’тс’ (з XVI ст., гл. Цімчанка, 1, 508, які прыводзіць зыходнае ням. *Haftel*), рус. дыял. *га́плик, гаплю́к* ’кручок на вудачцы’ (якое Фасмер, 1, 392, правільна тлумачыць з зыходнага ням. *Haftel, Heftel* праз польск. *heftlik*). Вытворным ад *гапл́ік* з’яўляецца зафіксаванае ў Бяльк. *гапл́ічка*

'драцяная пяцелька'. Форма *гаплюк* 'гаплік' (Бяльк., Сцяц. Славаўтв., Сцяшк. МГ), якая сустракаецца (Бяльк.) і са значэннем 'малы чалавек' (гэта — бяссрэчная метафара: 'кручок' — 'малы чалавек'), узнікла адаптацыяй да вядомага ў слав. мовах суфікса *-юк*. Неверагодным было тлумачэнне Карскага (гл. Сцяц. Нар., 124): *гаплю́к* запазычана з цюрк. моў (відаць, на падставе, як мяркуе Сцяцко, там жа, ацэнкі элемента *-юк* у якасці цюркскага).

**Гаплі́чка** 'драцяная пяцелька' (Бяльк.). Гл. *гаплі́к*.

**Гаплю́к** 'гаплік; малы чалавек'. Гл. *гаплік*.

**Гаптава́ць** 'вышываць' (Шат.), *гафтаваць*. Ст.-бел. *гафтовати* (гл. Булыка, Запазыч., 80: пад *гафтъ*). Укр. *гафтува́ти, гаптува́ти* (з XVI ст.). Запазычанне з польск. *haftować* 'тс', а гэта з с.-в.-ням. *heften*, ням. *heften*. Гл. Слаўскі, 1, 390—391.

**Га́птка** 'пятля' (Сцяшк. МГ), *га́пгачка* (Сцяшк. МГ, Шат.), *га́фтка*. Бел. *га́фтка* (засведчана з XVI ст., Булыка, Запазыч., 80), укр. *га́фтка* (вядомае з XVIII ст.) запазычаны, паводле Слаўскага (1, 390), з польск. *haftka* 'тс', а гэта з с.-в.-ням. *haft* (ням. *Haft*); памяншальную форму польск. слова Корбут (PF, IV, 485) тлумачыў запазычаннем з ням. памяншальнага *haftchen* 'тс'. Форму *га́птка* (як і *га́пка*, гл.) можна тлумачыць непасрэдным адлюстраваннем польск. дыял. *haptka* < ням. (так Сцяц. Нар., 125), але тут (у адрозненне ад *га́пка*) поўнасцю захоўваецца кансанантная група *-ptk-*.

**Гапцава́ць** 'многа есці' (Шат.). Няма ў рус. і ўкр. мовах у гэтым значэнні. Фармальна падыходзіць для параўнання ўкр. *гопцюва́ти* 'танцаваць топаючы; скакаць (аб конях)', але семантыка вельмі адрозніваецца. Таму можна меркаваць, што бел. лексема — гэта нейкае жаргоннае слова, магчыма, запазычана з укр. мовы і ўжываецца ў метафарычным значэнні. Паколькі пакуль няма дадатковых даных аб гісторыі слова *гапцава́ць* у бел. мове, то больш пэўнага аб ім сказаць нічога нельга.

**Гар** (м. р.!) (БРС, Шат.). Параўн. рус. *гарь* (ж. р.). Дакладная адпаведнасць бел. лексеме і па марфалагічнай характарыстыцы (м. р.!) ёсць у рус. уральскіх гаворках: *гар* 'непрыемны запах'. Усё да слав. **gorěti*. Словы **garь, *garъ* (?) адлюстроўваюць вакалізм *a* (< *ō*).

**Га́ра** 'гарэлка' (Шат., Сцяшк. МГ). Няма ў іншых усх.-слав. мовах. Польск. дыял. *hara* 'тс' запазычана з бел. мовы (гл. Карловіч, II, 168). Можна меркаваць, што *га́ра* — гэта жаргоннае ўтварэнне ад *гарэ́лка* 'тс'. Параўн. і польск. *gocha, gochna* < *gorzałka* (аб польск. словах гл. Брукнер, 151: пад *gorzeć*). Трэба дадаць, што ў Шат. *га́ра* кваліфікуецца як пагардлівая назва.



**Гара́** 'гара'. Параўн. рус. *гора́*, укр. *гора́*, польск. *góra*, чэш. *hora*, балг. *гора́* 'лес', серб.-харв. *го̀ра*, ст.-слав. **гора** і г. д. Прасл. **gora* 'гара; лес'. Лічыцца роднасным з прус. *garian* 'дрэва', літ. *girià* 'тс', ст.-інд. *giriṣ* 'гара', авест. *gairi-* і г. д. Гл. Фасмер, 1, 438; раней Бернекер, 1, 329; Траўтман, 78. Падрабязны агляд слав. слоў, іх семантыкі, геаграфіі гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 29—31 (там і новыя меркаванні адносна першапачатковай семантыкі і.-е. лексемы). Агляд семантыкі слова *гара́* як геаграфічнай назвы (назвы рэльефа) гл. у Яшкіна, 46. Звычайнымі з'яўляюцца ў слове **gora* новыя значэнні 'верхняя частка хаты', 'верх і да т. п.' (зафіксавана ў бел. мове; гл. Нас., Шат., Касп., Бяльк., Сцяшк. МГ), таксама і ў іншых ўсх.-слав. мовах (рус., укр.).

**Гарабе́й** 'верабей' (Сцяшк. МГ), *гарабе́шак* 'тс' (Шатал.). Параўн. таксама формы *арабей, верабей* (гл.). Формы з пачатковым *г-* (замест *в-*; гэтыя апошнія з'яўляюцца зыходнымі, прасл. тыпы можна звесці да **verb-*: **vorb-* з рознай суфіксацыяй; гл. Трубачоў, Слав. языкозн., V, 177) другаснага паходжання. Яны адлюстроўваюць трактоўку зыходнага пачатковага гука **v-* (адсюль мена *г : в*). Можна таксама меркаваць і аб дадатковым моманце: ва ўкр. мове побач з формамі *воробе́ць, горобе́ць* існуе і *гворобе́ць*. Гэта можа сведчыць і аб іншай фанетычнай з'яве — устаўцы перад пачатковым *в-* «паразітнага» гука *г*. Але першы варыянт тлумачэння больш верагодны.

**Гарава́тка** 'ўзгорачак' (Касп.), 'купка лесу на гары' (Яшкін). Утварэнне суфіксам *-к(а)* ад прыметніка **гараваты* 'гарысты'. Параўн. рус. дыял. *горова́тый* 'крыху гарысты' (СРНГ, 7, 54: кур., арл., тул., калуж.); параўн. і рус. *горови́тый*, укр. *горови́тий*. Лексема **гороватъка* з'яўляецца на ўсх.-слав. глебе беларускім неалагізмам (няма ў СРНГ і вядомых укр. слоўніках).

**Гарава́ць** 'бедаваць, цярпець нястачы' (БРС, Касп.). Рус. *горева́ть*, укр. *горюва́ти*. З іншых слав. моў Махэк$_2$ (176) прыводзіць чэш. дыял. *horovati* (гл.). Вытворнае ад зыходнага **gor'e* (гл. *го́ра*). Янк. (III) прыводзіць *гарава́ць* з іншай семантыкай: «працаваць працягла, настойліва» (развіццё такой семантыкі не патрабуе тлумачэння).

**Гарагу́ля** 'нявеста', *гырагу́ля* (жартаўл., Бяльк.): *«Яна ўжо гырагуля»*. Слова няяснага паходжання. Не знаходзіцца нічога адпаведнага ў іншых усх.-слав. мовах. Наўрад ці можна

параўноўваць з бел. дыял. *гаргáра* 'сварлівая жанчына' (Касп.).

**Гарадавíк** 'гарадавы' (БРС). Уласна бел. форма (няма ў іншых усх.-слав. мовах), неалагізм ад больш пашыранага і вядомага ў рус., укр., бел. мовах слова *гарадавы́* (рус. *городовóй*, укр. *городовúй*).

**Гарадавы́** 'гарадавы, гарадавік' (БРС). Рус. *городовóй*, укр. *городовúй*. Паводле Шанскага (1, Г, 141), уласна рус. слова, вядомае ўжо з 1711 г. Яно ўзнікла марфолага-сінтаксічным спосабам словаўтварэння на аснове прыметніка *городовóй* < *городовый* (у помніках: *городовый прикащикъ* і г. д.). Бел. і ўкр. лексемы, відавочна, запазычаны з рус. мовы. Параўн. *гарадавíк*.

**Гарадзíць** 'гарадзіць' (БРС, Шат., Касп., Бяльк.). Рус. *городúть*, укр. *городúти*, польск. *grodzić*, чэш. *hraditi*, балг. *градя́*, серб.-харв. *грáдити*, ст.-сл. **градити**. Прасл. **gorditi* 'будаваць, гарадзіць, ствараць і да т. п.', дзеяслоў на *-iti*, утвораны ад прасл. **gordъ* 'горад і да т. п.' Аб *гарадзíць* < **gorditi* гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 35 (дзе дэталёва прыводзіцца параўнальны матэрыял з усіх слав. моў). Ад *гарадзíць* утворана суфіксам *-ба гарадзьбá* 'будаванне агароджы' (БРС, Шат., Касп.). Але гэта слова, здаецца, не з'яўляецца вытворным прама на бел. глебе, а паходзіць з прасл. **gordьba* (з адпаведнымі паралелямі ў іншых слав. мовах). Гл. Трубачоў, там жа, 38. Уласна бел. з'яўляецца *гарадзьбíк* 'чалавек, які робіць агароджу' (Бяльк.).

У пераносным сэнсе ўсх.-слав. **goroditi* ўжывалася і ў фразеалагічных зваротах ('гаварыць бяссэнснае, глупства'). Гл. Шанскі, 1, Г, 139—140.

**Гарадні́чы** 'гараднічы' (БРС). Рус. *городнúчий*, укр. *городнúчий*. Бел. і ўкр. лексемы запазычаны з рус. мовы (як і польск. *gorodniczy*). У рус. мове гэта слова, паводле Словаря русского языка XI—XVII вв. (вып. 4 (Г—Д). М., 1977), вядома ўжо з XVII ст. *(недакладна Шанскі: з XVIII ст.) і ўтворана на базе прыметніка *городничий* (параўн. *городничий старецъ*).

**Гарáж** 'гараж' (БРС). Рус. *гарáж*, укр. *гарáж* 'тс'. Запазычанне з франц. мовы (у рус. мове на пачатку XX ст.): франц. *garage*. Гл. Шанскі, 1, Г, 27. Дакладна невядома, але можна меркаваць, што на пашырэнне гэтага слова ў бел. і ўкр. мовах уплывала рус. мова.

**Гарантавáць** (БРС). Укр. *гарантувáти*, рус. *гарантúровать*. Запазычанне з франц. мовы *(garantir)* або ням. *(garantieren* < франц.). Параўн. *гарáнтыя*. Слаўскі, 1, 383; Фасмер, 1, 392; Шанскі, 1, Г, 27; Рудніцкі, 802.



**Гарáнтыя** (БРС). Рус. *гарáнтия* (з Пятроўскай эпохі), укр. *гарáнтія*. Як і гарантавáць (гл.), запазычанне з франц. *(garantie)* або ням. (*Garantie* < франц.) мовы. Гл. Слаўскі, 1, 383; Фасмер, 1, 392; Шанскі, 1, Г, 27—28 (там і меркаванні аб магчымым польскім пасрэдніцтве); Рудніцкі, 802.

**Гарáны** 'невялікія горкі, узгоркі' (Яшкін). Няясна. Магчыма, аднасіцца да *гара* (гл.), але суфіксацыя *-ан-* не вельмі зразумелая (параўн. яшчэ ў рус. мове не вельмі яснае *городáн* 'агарод?'; гл. СРНГ, 7, 57; з бел. мовы Сцяцко (БЛ, 1978, 12, 46) прыводзіць *будáн* як утварэнне ад *буда*).

**Гарапáшны** 'гаротны' (БРС), *гарапáшнік* 'гаротнік' (БРС). Параўн. рус. дыял. *горепáшница* 'бедная, няшчасная жанчына', *горепáшник* 'гаротнік' (СРНГ, 7, 35), укр. *горопáха* 'гаротнік, бядняга', *горопáшний* 'гаротны'. Да **gor'e* 'гора' і **pachati* 'араць'. Параўн. яшчэ ў Даля рус. *пашнúк* 'той, хто ў бядзе, бядняга'. Рудніцкі (689) укр. *горопáха* адносіць да **gora* 'гара'. Семантычна амаль аднолькавае з бел. *гарапáшнік*, рус. *горепáшник*, укр. *горопáха* (< **горепáха*) іншае слова для гэтага паняцця: рус. *горемы́ка* (аб ім гл. Шанскі, 1, Г, 132).

**Гаратáй** 'араты' (Сцяшк. МГ). Паводле Мартынава (Лекс. балтызмы, 24—25), гэта форма ўтварылася з **ратай* пад уплывам слова *гарáць* (< *орать*). Параўн. яшчэ меркаванні Супруна, ЭСБМ, 1, 144 (пад *арáты*).

**Гáрац** 'гарнец' (Жд. 1). У аснове ляжыць запазычаная з польск. мовы (параўн. і выбухное *г*) лексема *гáрнец* 'тс' (гл.), якая ва ўскосных склонах мае формы р. скл. *гáрца*, мн. л. *гáрцы*, якія ўтварыліся ў выніку спрашчэння групы зычных (*гáрнца* > *гáрца; гáрнцы* > *гáрцы*). Ад гэтай новай асновы ўтварылася форма наз. скл. *гáрац*. Гл. *гáрнец, гáрчык*. Параўн. і ўкр. *гáрець* 'тс'.

**Гарáчка** 'гарачка' (БРС, Сцяшк. МГ), 'тыф' (Шат., Касп.). Рус. *горя́чка*, укр. *гаря́чка, горя́чка*, польск. *gorączka*, чэш. *horečka* і г. д. (гл. Слаўскі, 1, 319). У аснове ляжыць стары слав. дзеепрыметнік **gorǫt-*, **goręt-* (гл. *гарáчы*), ад якога суфіксам *-ka* быў утвораны адпаведны назоўнік (Слаўскі, там жа; там і аб праблематыцы, звязанай з польск. суфіксам *-cz-*). Вельмі няпэўна Шанскі, 1, Г, 145, які гэту групу слоў лічыць звязанай з дзеясловам тыпу рус. *горячúть* (?!).

**Гарáчы**. Рус. *горя́чий*, укр. *гаря́чий, горя́чий*, польск. *gorący*, чэш. *horoucí*, серб.-харв. (старое) *гòрӯħ*, ст.-слав. **горѧ** (gen. sg.

**горжшта, горжшта**). Прасл. **gorǫt-* (секундарнае **goręt-*) — дзеепрыметнік да **gorěti* 'гарэць'. У некаторых слав. мовах ён зрабіўся прыметнікам. Гл. Слаўскі, 1, 319; Шанскі, 1, Г, 145. Параўн. *гарáчка*.

**Гарбáр** 'гарбар' (БРС, Сцяшк. МГ), 'шавец' (Бяльк.). У ст.-бел. помніках гэта слова засведчана з XVII ст. у формах *кгарбаръ, гарбаръ* (Булыка, Запазыч., 147). Укр. *гарбáр*. Бел. і ўкр. словы запазычаны з польск. *garbarz* (Булыка, там жа; Слаўскі, 1, 256), якое ўзята з с.-в.-ням. *gerwer* (Слаўскі, там жа), утворанага ад дзеяслова *gerwen, garwen, gerben* 'вырабляць кожу'. Сюды ж і *гарбáрня* (БРС).

**Гарбáта** 'чай' (БРС, Касп., Нас., Бяльк., Сцяшк. МГ). Укр. дыял. зах. *гербáта, гарбáта* 'тс'. Запазычанне з польск. *herbata* (дыял. *harbata*) 'чай'. У першай частцы гэтага слова лац. назва расліны наогул *(herba)*, у другой бачаць пaўд.-кіт. назву чаю *tē*. Як думаюць некаторыя даследчыкі (агляд гл. у Слаўскага, 1, 416), у польск. мову назва трапіла праз гал. *herba thee* (адсюль і іт. *erba tè*). Гл. Слаўскі, там жа; Брукнер, 171. Паводле іншай версіі (Слаўскі, там жа), у другой частцы слова трэба бачыць лацінізаваную форму назвы чаю *-thea* (такая форма засведчана даўно).

**Гарбáты** 'гарбаты'. Рус. *горбáтый*, укр. *горбáтий*, польск. *garbaty*, чэш. *hrbatý*, балг. *гърбáт*, серб.-харв. *гр̀бат* і г. д. Прасл. **gъrbatъ (*gъrbatъjь)* 'гарбаты'. Прасл. утварэнне суфіксам *-atъ* ад **gъrbъ* 'горб'. Падрабязны агляд слав. форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 198—199. Прасл. характар мае і бел. дыял. *гарбáч* 'гарбаты' (Бяльк.: *гырбáч*); параўн. рус. дыял. *горбáч*, укр. дыял. *горбáч* (два гэтыя словы з некалькі іншай семантыкай), чэш. *hrbáč*, славен. *grbač* і г. д. (прасл. **gъrbačь;* гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 198: пад **gъrbačь*).

**Гарбáч** 'гарбаты' (Бяльк.). Гл. *гарбáты*.

**Гарбéль** 'гарбаты' (БРС). Гл. *гарбы́ль*.

**Гарбýз** 'гарбуз' (БРС, Шат., Касп., Нас., Бяльк., Сцяшк. МГ). Укр. *гарбýз* 'тс', рус. *арбýз, гарбýз* 'кавун', *гарбýз* 'гарбуз', польск. *harbuz, arbuz* 'кавун', серб.-харв. *кáрпуза*, балг. *карпýз* 'кавун'. Запазычанне з усх. моў. У аснове ляжыць кыпч. *χarbuz* (параўн. тур., крым.-тат. *karpuz*), якое паходзіць з перс. *χarbūza*. Фасмер, 1, 83—84. Гл. яшчэ Слаўскі, 1, 403; Брукнер, 168. Аб двух храналагічна розных запазычаннях гэтага слова ў польск. мове гл. у Слаўскага, там жа. Адносна лексемы *гарбýз* як назвы стравы гл. Сцяц. Нар., 41.

**Гарбýль** 'нарост на дрэве або целе' (Нас.), 'гарбаты чалавек' (Шатал.). Гл. *гарбы́ль*.



**Гарбýша** 'рыба гарбуша' (БРС), укр. *горбýша*. Новае запазычанне з рус. *горбýша* 'рыба гарбуша'. У рус. мове гэта слова вядома ўжо ў слоўніках канца XVIII ст. Паводле Шанскага (1, Г, 130), гэта слова ў рус. мове з'явілася спачатку ў далёкаўсходніх дыялектах. Назва дадзена рыбе за вялікі горб, які вырастае ў самцоў. Гл. Шанскі, там жа.

**Гарбы́ль** 'узгорак, бугор' (Касп.), 'маленькае ўзвышша на роўным месцы' (Яшкін), 'горб', 'нарост на дрэве або целе' (Нас.), 'аполак, сегментальная ў папярочным сячэнні дошка' (Сцяшк. МГ, Шатал.). Бясспрэчна, гэта лексема звязана з іншымі словамі, утворанымі таксама ад асновы *горб-* і якія маюць падобную суфіксацыю. Параўн. *гарбéль* 'гарбаты' (БРС), далей *гарбýль* 'нарост на дрэве або целе' (Нас.), 'гарбаты чалавек' (Шатал.). Як бачым, каранёвая частка гэтых слоў тая ж самая, а суфікс мае адзін і той жа кансанантны элемент *(-l)*. Такім чынам, мы маем зыходнае **gъrb-ylь, *gъrb-ulь* і **gъrb-elь (*gъrb-ělь?)*. Першыя дзве лексемы маюць суфіксацыю, якая звязана апафанічнымі адносінамі *(-y-lь: -u-lь← ←*-ū-lь:*ou̯-lь)*. Адносна *-elь* сказаць штосьці пэўнае аб яго непасрэднай сувязі з названымі суфіксамі цяжка (маем на ўвазе яго вакалічны элемент). Але ўсе тры базіруюцца на кансанантным *-l-* (агляд гэтай суфіксацыі гл. у Слаўскага, SP). Роднаснасць суфіксацыі, яе аднатыпнасць у функцыянальным плане дазваляюць меркаваць, што ўсе тры лексемы — гэта паралельныя ўтварэнні, аднолькавыя па словаўтваральнай структуры і па семантыцы. Іх паралелізм існавання можна высветліць тым, што яны ўзніклі ў розных дыялектах (у якіх выступала адна з форм названай суфіксацыі). Сама аснова **gъrb-* мае шмат значэнняў (так было і ў прасл. дыялектах; агляд семантыкі прасл. **gъrbъ* гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 199—201), якія добра высвятляюць дыяпазон 'горб' — 'гара, узвышша' і г. д. Параўн. аналагічныя ўтварэнні і ў рус. гаворках: *горбýль* 'маленькае ўзвышша; намёт снегу; дошкі-аполкі; агароджа з такіх дошак; пірог з бульбяной начынкай' (СРНГ, 7, 23), *горбы́ль* 'горб; гарбаты чалавек; патыліца ў чалавека; нос чалавека; невялікае ўзвышша; пень; агароджа з дошак-аполкаў; рыба сазан' (СРНГ, 7, 25).

**Гаргáра**₁ 'сварлівая жанчына' (Нас., Касп.). Этымалогію дае сам Насовіч: «звукоподражание свойственно грызущимся собакам». Далейшае расшырэнне семантыкі адбывалася так: 'сварлівая жанчына'→'злая, худая, вялікая жанчына'→'вялікая, нясkладная рэч'. Гэта другая «стадыя» зафіксавана ў Бяльк.: *«Піліп за жонку ўзяў нейкую гыргару: ростам пад неба, а худая-прыхудая»*. Апошнюю стадыю фіксуе БРС: «вялізная, няскладная рэч».

**Гарга́ра**$_2$ 'вялізная, няскладная рэч' (БРС). Гл. *гаргара*$_1$.

**Гарга́ч** 'булён' (Касп.). Няяснае слова.

**Гарда́** 'чароўнае зелле', таксама *горд* (Сл. паўн.-зах.). Відавочна, тое ж, што і рус. *горд* 'Viburnum lantana, від каліны чорнай' (таксама *гордо́вына, горди́на, гордо́вик*), укр. *горд, гордовина, гордина, гордовид, гордовик, гордівка* (Макавецкі, Sl. botan., 397). Лічыцца няясным словам (Праабражэнскі, 1, 146; Фасмер, 1, 439).

**Гарда́вы** 'картавы' (Жд. 1). Слова ўзнікла азванчэннем глухіх (*к* > *г*, *т* > *д*) пад уплывам санорнага *р* з *карта́вы* 'тс' (гл.).

***Гардадо́лік,** *гордодо́лік* 'жаваранак' (лун., Шатал.). Цёмнае слова.

**Гардзе́ль**$_1$ 'глотка, горла' (Сл. паўн.-зах.), 'горла' (Сцяшк.). Запазычанне з польск. *gardziel* 'тс' (ужо ў ст.-бел. мове ў XVII ст. было ўзята з польск. *гардель;* гл. Булыка, Запазыч., 79). Да паходжання польск. слова гл. Слаўскі, 1, 258 (< зах.-слав. **gr̥t-ělь*).

**Гардзель**$_2$ 'ліна' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *гарде́ль, карде́ль* 'ліна для падымання ветразя'. У рус. мове з гал. *kardeel, kordêl* 'ліна' (а гэта з франц. *cordelle*). Гл. Фасмер, 1, 393. У бел. мову слова пранікла, відаць, з рус. мовы.

**Гардзі́на**$_1$ (БРС). Рус. *гарди́на* 'тс', укр. *гарди́на*. Запазычанне з ням. *Gardine* 'тс' (франц. *courtine*). Гл. Фасмер, 1, 393. Шанскі (1, Г, 29) удакладняе, што ў рус. мове гэта слова (у форме *гордина*) было ўжо ў Пятроўскую эпоху і вядома, прынамсі, з 1709 г. Можна меркаваць, што бел. слова (як і ўкр.) запазычана непасрэдна з рус. мовы.

**Гардзі́на**$_2$ 'карціна, малюнак' (Бяльк.). Азванчэннем зычных *к* і *ц* узнікла з *карціна;* пры гэтым, магчыма, пэўны ўплыў мела, здаецца, і асацыяцыя са словам тыпу рус. *гарди́на* (асацыяцыя, так сказаць, «па функцыі» або лепш «па месцу»: тое, што *вісіць на сцяне*).

**Га́рдзіць,** *гардзі́цца* 'грэбаваць, пагарджаць' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *gardzić* (ужо ў ст.-бел. мове засведчаны *гардити, гардитися,* гл. Булыка, Запазыч.). Таксама запазычаннем з польск. з'яўляецца і ўкр. *га́рдитися*. Параўн. Слаўскі, 1, 258; Булыка, Запазыч., 79. Выходным з'яўляецца прасл. **gr̥diti, *gr̥dъ* (Слаўскі, там жа) або (у іншым напісанні) **gъrditi, *gъrdъ* (Трубачоў, Эт. сл., 7, 202, 206).

**Га́рды** 'горды, ганарысты, недаступны' (Нас.), 'горды' (Касп., Сл. паўн.-зах.). Сюды ж *га́рда* 'горда' (Нас., Касп.), *га́рдасць* 'гордасць' (Нас.). Ст.-бел. *гардый, гардо, гардость* (Булыка, Запазыч.). Укр. *га́рдий* (ст.-укр. *гардый*). Запазычанне з польск. *hardy* 'тс' (таксама *gardy*), *hardość* (*gardość*). Гл. Слаўскі, 1, 405; Булыка, Запазыч., 79; Цімчанка, I, 509; Рудніцкі, 1, 571. Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 440.



**Гарды́ня** 'гордасць', *гардыня́* 'горды чалавек' (Нас.). Рус. *горды́ня,* укр. *горди́ня,* ст.-сл. **гръдынꙗ** і г. д. (агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 207—208). Прасл. **gъrdyni*. Можна, аднак, ставіць пытанне, ці ўсх.-слав. словы ўсё ж такі не запазычаны з ц.-слав. мовы.

**Гардэмары́н** 'гардэмарын' (БРС). Рус. *гардемари́н,* укр. *гардемари́н*. Паводле Фасмера (1, 393), крыніцай запазычання з'яўляецца франц. *gardemarine* (Шанскі, 1, Г, 28, мяркуе, што ў рус. мове гэта запазычанне з гал.). У бел. і ўкр. мовах слова, відаць, узята непасрэдна з рус.

**Гардэро́б** (БРС). Рус. *гардеро́б* (з 1722 г.), укр. *гардеро́б*. Запазычанне з франц. *garderobe* 'тс'. Бел. мова атрымала гэта слова, відавочна, праз пасрэдніцтва рус. мовы. Гл. Фасмер, 1, 393; Шанскі, 1, Г, 28—29 (які, аднак, пытання аб ролі рус. мовы не ставіць).

**Гаржы́шча** 'ржэўнік' (Сцяшк.). Утварэнне з пратэтычнымі гукамі *г* і *а* на базе слав. **ržišče* 'тс'. Параўн. яшчэ *аржысько* (гл.).

**Гаржэ́тка** 'гаржэтка' (БРС). Запазычанне з рус. *горже́тка* 'тс' (у рус. мове ўтварэнне на базе франц. *gorgerette* > *горжет* + суф. *-ка;* аб складанай гісторыі слова гл. у Шанскага, 1, Г, 133).

**Гарзо́ліць** 'балбатаць, гаварыць абы-што' (Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Га́ріда** 'дрэнь' (Бяльк.). Кантэкст: *«Гаріда ты, што ты мне сьвіньню пыдкладывыіш!»* Відавочна, тое ж, што і рус. *а́ред* 'вельмі стары чалавек, стары скнара, буркун, злы чараўнік', паходжанне якога спрэчнае (гл. Фасмер, 1, 85: магчыма, ад біблейскага імя 'Ιάρεδ; параўн. яшчэ Краўчук, ВЯ, 1968, № 4, 122) і якое ўжываецца і як лаянка.

**Га́рка** 'нізкае месца, дзе вясной доўга стаіць вада; багністае месца, балота' (Яшкін). Магчыма, з **garьka* (памяншальная форма да **garь* < **gorěti*).

**Гарка́вы**$_1$, *гарка́віць* (БРС). Гл. *га́ркаць*.

**Гарка́вы**$_2$ 'гаркаваты, горкі' (Нас., Бяльк., Касп.). Здаецца, прасл. слова **gorьkavъjь:* серб.-харв. *го̏ркав,* чэш. *hořkavý,*

польск. *gorzkawy*. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 55. Далей сюды рус. назва рыбы *горькáвка* (там жа), бел. назва расліны *гаркáўка* (параўн. у Бяльк.: *«Калі сырваць яе — унізе выступаець горкае малако»*).

**Гáркаць** 'гаркаць (пра сабаку); лаяцца' (БРС, Нас., Сцяшк., Касп.). Сюды ж дыял. *гаркáць* 'гаркавіць'; адсюль утворана *гаркáвы*, ад якога атрымаўся дзеяслоў *гаркáвіць* (БРС). Параўн. яшчэ *гаркавáць* 'варкаваць' (Бяльк.). Прасл. **gъrkati* (для перадачы розных гукаў) са шматлікім адлюстраваннем у слав. мовах. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 209.

**Гарлáн,** *гарлáніць* (БРС, Шат.). Рус. *горлáн, горлáнить*. Паводле Шанскага (1, Г, 135), рус. *горлáн* утворана ад *гóрло* (у значэнні 'сварлівы чалавек') суфіксам *-ан*.

**Гарлапáн** 'гарлапан' (БРС, Бяльк.), *гарлапáніць* (БРС). Рус. *горлопáн* 'тс'. Паводле Фасмера (I, 442, са спасылкай на Сабалеўскага, РФВ, 71, 443), складанае слова: *горло*+*пан*. Іначай Шанскі, I, Г, 136: утварэнне суфіксам *-ан* ад **горлопа* 'крыкун' (< *горло*).

**Гарлáты.** Гэта бел. дыял. слова Трубачоў (Эт. сл., 7, 203) адносіць да ліку прасл. дыялектызмаў: прасл. **gъrdlatъ(jь)*: серб.-харв. *гр̀лат*, чэш. *hrdlatý*, польск. *gardłaty*, рус. *горлàтый* і г. д.

**Гарлáць** 'гарланіць' (Нас.). Рус. дыял. *горлáть*, укр. *горлáти* 'тс'. Здаецца, усх.-слав. утварэнне ад **gъrdlo* 'горла'.

**Гарлáч** 'збанок', 'збанок з доўгім горлам', 'збан' (БРС, Нас., Касп.), *гарлáч, гарлáсьцік* 'збанок без ручкі' (Сцяшк., Бяльк.), рус. *горлáч*. Паводле Трубачова (Ремесл. терм., 216), выходзіць да прасл. **gъrdlačь* (да **gъrdlo* 'горла').

**Гарлáчык** 'вадзяная лілія, банька' (БРС, Касп., Бяльк.), *гарлáчыкі* (Нас.). Ад *гарлáч* 'гліняны збанок' (гл.). Назва дадзена расліне па форме кветак, якія нагадваюць збанкі. Параўн. іншыя назвы гэтай расліны ў бел. мове: *бáнька, глечыкі, кушынкі, жбанкі* (Кіс., 87—88); ва ўкр. мове: *глечики, кубишка, кувшинчик, збанок* (Макавецкі, Sł. botan., 243); рус. *кубышка*. Параўн. таксама рус. дыял. назву *горлáчики* (для вадзяных раслін, СРНГ, 7, 39).

**Гарлíвы** 'гарлівы, старанны, руплівы' (БРС, Нас.), *гарлíвасць* (Нас.), *гарлíва* (БРС, Нас., Сцяшк.). Запазычанне з польск. *gorliwy, gorliwość* 'тс' (Слаўскі, I, 320; там і падрабязна аб паходжанні польск. слова).

**Гарлíца**$_1$ 'расліна Berteroa L.' (БРС, Кіс., рус. *икотник*).



Паводле Трубачова (Эт. сл., 7, 203—204), з зыходнага прасл. **gъrdlica* (да **gъrdlo* 'горла').

**Гарлíца**$_2$ 'ангіна' (Сцяшк.). Паводле Трубачова (Эт. сл., 7, 203—204), да зыходнага прасл. **gъrdlica* (< **gъrdlo* 'горла'). Геаграфія слова (толькі ў Сцяшк.), аднак, схіляе да думкі, што гэта запазычанне з польск. Параўн. у Карловіча, II, 55: *«gardlica (gorlica)* 'gruczoły w gardle'*»*.

**Гарлóвы** 'які адносіцца да горла, датычыцца ежы *(горловая справа)*' (Нас.). У параўнанні з сучасным *гарлавы́* націск у слове *гарлóвы* вельмі падазроны: ці не паланізм гэта *(gardłowy)*?

**Гáрля** 'пажарышча; месца, дзе калісьці быў пажар' (Яшкін). Магчыма, з **garьje* (да **garь* < **gorěti*) з дыялектнай зменай *'j* > *'l*.

**Гарля́нка** 'гарлянка, Prunella, адварам якой лечаць боль у горле' (Нас., Шат., Сцяшк., Бяльк., Сл. паўн.-зах., параўн. і БРС), 'Brunella vulgaris L.' (Касп.: *«Напар гарлянкі мне — нешта горла забалела»*). Ад *гóрла* (гл.) суфіксам *-янка*. Назва дана паводле лячэбных уласцівасцей расліны.

**Гарманíсты** 'гарманіст' (Шат., Касп., Сцяшк.). Параўн. рус. *гармонúст*. Да *гармонь* (гл.). Цікавым тут з'яўляецца словаўтваральны тып на *-істы*, які, паводле Мартынава (Лекс. балтызмы, 25), узнік на аснове суфікса катэгорыі nomina agentis *-tajь* з далейшым упадабленнем да суфіксацыі прыметнікаў на *-істы* (сляды балтыйскага ўплыву, паводле Мартынава, тут носяць вельмі апасродкаваны характар). У літаратурнай мове — *гарманіст* (БРС, таксама Сцяшк.); параўн. і рус. *гармонúст*.

**Гармáта** 'гармата' (БРС, Нас., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). У ст.-бел. мове *гармата, армата, ормата* (з XVI ст., Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. мовы (*harmata, armata*) < < лац. *armata* (Булыка, Запазыч., 79). Ст.-укр. *гармата, армата*, укр. *гармáта* можна лічыць запазычаннем з іт. *armata* (гл. Рудніцкі, 1, 573, там і літ-ра).

**Гармідá** 'веліч' (Шат.) = рус. *громадина*. Здаецца, нейкае гібрыднае, кантамінаванае слова (штосьці тыпу *гармідар* + *грамада*?).

**Гармíдар** 'гармідар' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк.), 'зборышча, натоўп людзей' (Жд. 2). Форма *гармíдаль* (Касп.: пад *гармíдар*) — вынік дысіміляцыі *р—р* > *р—л*. Сюды ж *гармíдарны, гармíдаравацъ* (Нас.). Старая этымалогія (Нас.): < літ. *armidaris*. Хутчэй, аднак, гэта запазычанне з польск.

*harmider, hermider* (Кюнэ, Poln., 56). Укр. *гармі́дер* (паводле Рудніцкага, 1, 573, польск. слова < укр.; першакрыніца — перс. мова; параўн. Слаўскі, 1, 407).

**Гармо́лік** 'гармонік' (Шат.). Гл. *гармо́нік.*

**Гармо́нік** 'гармонік' (БРС, Касп., Шат.), 'малы губны гармонік' (Сцяц.). Дысіміляцыяй *(м—н > м—л)* з *гармо́нік* узнікла *гармо́лік* (Шат.); параўн. рус. дыял. *гармо́ль* 'тс' (СРНГ, 6, 144). Рус. *гармо́ника, гармо́нь.* Запазычанне з ням. *Harmonika* (< англ.). Гл. Фасмер, 1, 394; Шанскі, 1, Г, 30. Няясна, як у бел. мове ўзнікла слова м. р.

**Гармо́нія** 'гармонія' (БРС). Ст.-бел. *гармония* 'згода, гармонія' (Булыка, Запазыч.). Запазычанне (як і рус. *гармо́ния*) з польск. *harmonia* 'гармонія' (пазней і 'музычны інструмент', з XIX ст.). Гл. Фасмер, 1, 394; Шанскі, 1, Г, 31; Слаўскі, 1, 407. Польск. *harmonia* < лац. *harmonia* < грэч. ἁρμονία.

**Гармо́ня** 'гармонік' (Сцяц.). Параўн. рус. дыял. *гармония* (СРНГ, 6, 145). Для рус. *гармо́нь* 'тс' Шанскі (1, Г, 31) лічыць зыходным дыял. *гармо́ния* 'гармонік'. *Гармо́нь, гармо́ня* — гэта «скарочаныя» формы да *гармо́нія* (гл.), запазычанага з польск. *harmonia*.

**Гарму́шка** 'страва, прыгатаваная з вады, кусочкаў хлеба і солі' (Сцяшк.), 'накрышаны ў малако (часам у пасоленую ваду) хлеб; цура' (Сцяц.), *гарму́шка* 'цура'. Паводле Сцяц. Нар. (49), запазычанне з польск.*farmuszka, faramuszka, warmuszka* (< ням.) 'поліўка з вады, піва і хлеба; густая поліўка з мукі і інш.' Аднак можна меркаваць, што слова ўзнікла азванчэннем (*к- > г-* пры наяўнасці ў слове санорных гукаў *р, м*) з *карму́шка* 'тс' (гл. *карму́шка*$_2$ ў Сцяшк.).

**Гармя́к** 'армяк' (Сцяшк.). З пратэтычным *г-* да *армя́к* (гл.).

**Га́рнак** 'гаршчок' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *garnek* (Сл. паўн.-зах., 427). Да польск. слова гл. Слаўскі, 1, 259—260.

**Гарнаста́й** 'гарнастай' (БРС, Бяльк.). Рус. *горноста́й, горноста́ль, горноста́рь,* укр. *горноста́й,* польск. *gronostaj,* чэш. *hranostaj,* дыял. *hramostýl,* славен. *gránoselj* і г. д. (агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 48). Прасл. форма дакладна невядома, можна зыходзіць з **gornostalь, *gornostajь.* Агляд версій гл. у Фасмера, 1, 442—443; Слаўскага, 1, 351—352; Трубачова, там жа. Здаецца, што гэта ўсё ж запазычанне са ст.-н.-ням. (ст.-саксон.). Гл. меркаванні Слаўскага (там жа, з ацэнкай версій) і Трубачова (апошні вельмі station ўча выказваецца за запазычанне).



**Гарна́ткі** 'каралавыя пацеркі' (Касп.). Ці не з **гранаткі* (да *грана́т* 'назва мінералу')? У польск. мове ў значэнні 'напаўкаштоўны камень' у XV—XVII стст. ужывалася форма *granatek* (гл. Слаўскі, 1, 338).

**Га́рнец** 'гарнец' (БРС, Сцяшк., Касп., Бяльк., Шат., Сл. паўн.-зах.). Рус. *га́рнец,* укр. *га́рнець.* Запазычанне з польск. *garniec* 'тс' (а гэта вытворнае ад **gъrnъ;* гл. Слаўскі, 1, 260). Ст.-бел. *кгарнецъ, гарнецъ* вядома з XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч., 147). Параўн. *га́рац, га́рчык.*

**Гарні́з** 'карніз' (Шат.), 'паз у дошцы' (Сцяшк.). Азванчэннем *к- > г-* з *карні́з* (гл.).

**Гарні́за** 'ўзор у шалёўцы' (Сцяшк.). Таго ж паходжання, што і *гарніз, карніз* (да апошняга гл. апісанне семантыкі ў Сцяшк.).

**Гарнізо́н** 'гарнізон' (БРС). Рус. *гарнизо́н,* укр. *гарнізо́н.* Паводле Фасмера (1, 394), з ням. *Garnison* (< франц.) або франц. *garnison.* Шанскі (1, Г, 32) першакрыніцай лічыць франц. мову. У бел. і ўкр. мовах слова, відаць, з'явілася праз рус. пасрэдніцтва.

**Га́рнік** 'нагаворнае зелле, трава' (Нас.), 'расліна Alchemilla vulgaris L., гусялапка' (Касп.). Утварэнне на *-(н)ік* да дзеяслова *гарнуць* 'мець прыхільнасць' (гл.).

**Гарні́р** 'гарнір' (БРС). Рус. *гарни́р,* укр. *гарні́р.* У бел. мове (як і ва ўкр.) з рус. *гарни́р* < франц. *garnir* 'убіраць, упрыгожваць' (спачатку дзеяслоў, які на рус. глебе зрабіўся назоўнікам). Гл. Шанскі, 1, Г, 32.

**Гарні́ст** 'гарніст' (БРС). Рус. *горни́ст, укр. горні́ст.* Першакрыніцай з'яўляецца ням. *Hornist* 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 442; Шанскі, 1, Г, 137.

**Гарні́тар** 'касцюм'. Гл. *гарніту́р.*

**Гарніту́р** 'гарнітур' (БРС), 'від тканіны', 'шаўковая тканіна' (Нас.), *гарні́тур* 'касцюм' (Касп.), *гарні́тар* 'касцюм' (Шат.), *гарні́дар* 'гарнітур, касцюм' (Сл. паўн.-зах.). Слова *гарніту́р,* як і рус. *гарниту́р,* запазычана з ням. *Garnitur* (< франц. *garniture*). Гл. Фасмер, 1, 394. *Гарніту́р* у значэнні 'від тканіны, шаўковая тканіна', рус. *гарниту́ра, гарниту́р* 'тс' (таксама *граниту́р, галенту́р, гарлету́р*) < франц. *gros de Tours* (Фасмер, там жа). *Гарні́тур, гарні́тар* 'касцюм', *гарні́дар* < польск. *garnitur* 'тс' (гл. Шат., Сл. паўн.-зах.). Параўн. Кюнэ, Poln., 56.

**Гарно́,** *горно́* 'горан' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *го́ран.*

**Гарну́ць** 'грэбці, веславаць; прытульваць, прыцягваць'

(БРС, Шат.), 'мець прыхільнасць' 'грэбці, веславаць' (Нас.), 'грэбці, заграбаць што-н.' (Касп., Сцяшк., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Адносіцца да вялікай групы прасл. дзеясловаў **gъrtati*: **gъrtnǫti* (бел. *гартáць — гарнýць*) з вельмі разгалінаванай семантыкай. Агляд значэнняў у паасобных слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 214—215. Параўн. *гартáць*.

**Гарнýшак** 'маленькі гаршчок' (БРС, Нас., Касп., Шат., Сцяшк., Бяльк.), *гарнýшак, гарнýшэк* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *garnuszek* 'тс'.

**Гáрны** 'ласкавы, добры, мілы' (Нас.), 'цудоўны, добры' (Касп.), *гáрна* 'добра' (Бяльк., Жд. 2). Паводле Шанскага (1, Г, 33), бел. *гáрны* запазычана з укр. мовы. У самой укр. мове паходжанне гэтага слова не вельмі яснае. Гл. меркаванні ў Шанскага, там жа; Фасмера, 1, 394, Рудніцкага, 1, 575.

**Гарня́к** 'гарняк' (БРС). Відавочнае запазычанне з рус. *горня́к* 'тс' (а гэта да *горá, гóрный*).

**Гарóд** 'агарод' (БРС, Нас., Касп., Сцяшк.). Гл. *агарóд*.

**Гарóмы**: *гарóмы хамут* 'хамут для запрэжкі каня ў плуг' (Сцяшк.). Уласна *арóмы* да *арáць* 'араць'; *арóмы* — гэта былы дзеепрыметнік на **-om-, *-jem-*, што зрабіўся прыметнікам. Сюды ж і *гарóмы* 'ворны' *(гарóмая зямля)* (Сл. паўн.-зах.).

**Гарóнчка,** *горóнчка* 'высокая тэмпература; тыф; грып' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *gorączka* 'тс' (да *gorący* 'гарачы').

**Гарóтны** 'гаротны, няшчасны', *гарóтнік* 'тс' (БРС, Шат., Касп.), *гарóтніца* (Шат.). Параўн. далей *гарóтнасць* (БРС). У аснове ляжыць **gor'etьnъ (< *gor'eta < *gor'e)*. Параўн. напісанне ў Насовіча: *горéтникъ*.

**Гарóх.** Рус. *горóх*, укр. *горóх*, польск. *groch*, чэш. *hrách*, балг. *грáх(ът)*, серб.-харв. *грâх* і г. д. Прасл. **górxъ* 'тс' да і.-е. **ghorso-*. Параўн. ст.-інд. *ghárṣati* 'церці' і балт. назвы раслін: літ. *garšvà* 'Aegopodium podagraria', лат. *gãrsa, gãrses*. Гл. Слаўскі, 1, 346—347; Фасмер, 1, 444; Трубачоў, Эт. сл., 7, 45 (з падрабязнай літ-рай).

**Гарпýн** 'гарпун' (БРС). Рус. *гарпýн*, укр. *гарпýн*. Бел. і ўкр. словы, відавочна, з рус. У рус. мове *гирпýн*, паводле Шанскага (1, Г, 34), з ням. *Harpune* (< гал.).

**Гарсць** 'жменя' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *garść* 'тс' (а гэта з прасл. **gъrstь*; гл. Слаўскі, 1, 260).

**Гарсэ́т** 'гарсэт' (БРС, Нас.: *гарсéт*; Касп., Сл. паўн.-зах.), таксама 'кабат, безрукаўка, станік', *гарсэт* (Сл. паўн.-зах., Шат., Сцяшк., Жд. 1). Запазычанне з польск. *gorset* 'тс' (< франц. *corset*). Гл. Слаўскі, 1, 321; Кюнэ, Poln., 56. Параўн. Фасмер, 2, 338.



**Гарт** 'гарт' (БРС, Касп., Шат., Бяльк., Нас.). Укр. *гарт*. Запазычанне з польск. *hart*, а гэта з ням. *Härte, hart*. Гл. Кюнэ, Poln., 56; Слаўскі, 1, 409; Фасмер, 1, 395.

**Гартавáць**₁ 'гартаваць' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *гартовати* (Булыка, Запазыч.). Укр. *гартувáти*. Запазычанне з польск. *hartować* (< ням. *härten*). Кюнэ, Poln., 56; Булыка, Запазыч., 80; Фасмер, 1, 395.

**Гартавáць**₂ 'выгортваць' (Сл. паўн.-зах.: *«Качаргой гартуеш жар»*). Гібрыднае слова: < *гартавáць*₁ 'гартаваць' + *гартáць* (гл.).

**Гартáй** 'араты' (Шатал., Сл. паўн.-зах.). Зыходзячы з геаграфіі слова, можна меркаваць, што гэта проста варыянт з пратэтычным *г-* да *артáй* (гл.), г. зн. прамое запазычанне з літ. *artójas* 'тс'.

**Гартáнь** 'гартань' (БРС), рус. *гортáнь*, укр. *гиртáн, гертáнь*, ст.-слав. **грътань** і г. д. Лічыцца вытворным з суф. *-t-an-* ад асновы **gᵘer-* 'з'ядаць, паглынаць' (параўн. **gъrdlo*; гл. *гóрла*). Трубачоў, Эт. сл., 7, 213—214.

**Гартáць.** Гл. *гарнýць*.

**Гартóль** 'прыстасаванне для тармажэння плыта; плытнік, які тармозіць плыт' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. лічыць запазычаннем з літ. і параўноўвае з літ. *artà* 'папярочны брус на мачце для прымацавання паруса'.

**Гартэ́нзія** 'гартэнзія' (БРС). Рус. *гортéнзия*, укр. *гортéнзія*. У бел. і ўкр. мовах запазычанне з рус. У рус. мове гэта новае (XIX ст.) запазычанне з вучонай латыні (утварэнне ад жаночага імя *Hortense*). Гл. Шанскі, 1, Г, 143.

**Гарýдзія** 'гармата' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з рус. *орýдие* 'тс' (да рус. слова гл. Фасмер, 3, 154).

**Гарýн** 'губа' (Шатал., Сл. паўн.-зах.): *«Гарун — чорны грыб... Губу з гаруну выраблялі...; на камень гарун лажылі, патом сячом, сячом, гарун загарайся — і закурыць можна»*. Здаецца, з **горýн (< *gorěti)*. У Яшкіна зафіксавана значэнне 'дрэва з нарастам, які ідзе на выраб труту'. Падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 50—51.

**Гарýніцца** 'бедаваць, гараваць' (Сцяшк.). Параўн. аналагічнае па ўтварэнню рус. *при-горю́ниться*.

**Гáрус**₁ 'гарус (від тканіны)' (БРС, Нас.). Ст.-бел. *гарусъ*

3. Зак. 2801

'назва тканіны' (з XVI ст., Булыка. Запазыч.). Рус. *гáрус,* укр. *гáрус.* Запазычанне з польск. *haras, harus* (ням. *Arras, Harras*). Гл. Фасмер, 1, 395; Шанскі, 1, Г, 35.

**Гáрус₂** 'бусел чорны, Ciconia nigra L.' (Касп.). Відавочна, запазычанне. Параўн. лат. *guoris* (да этымалогіі гл. Фрэнкель, 137).

**Гарýсціць** 'прыграбаць да сябе, да сваіх рук' (Шат.). Няясна.

**Гарýчае** 'гаручае' (БРС). Запазычанне з рус. *горю́чее* 'тс'. Да гісторыі рус. слова гл. Шанскі, 1, Г, 144.

**Гарýчы,** рус. *горю́чий.* У бел. мове фіксуецца, здаецца, толькі ў БРС, таму можна меркаваць, што гэта, магчыма, запазычанне з рус. мовы. Па паходжанню гэта дзеепрыметнік ад **gorěti: *gorǫt-i̯-ь-* (з другаснай палаталізацыяй: *-r- > -r'-*). Параўн. Шанскі, 1, Г, 144.

**Гарц** 'мера збожжа' (Сл. паўн.-зах.). Таго ж паходжання, што і *гáрац, гáрчык, гáрнец* (гл.).

**Гарцáбкі** 'самаробныя гузікі з дрэва' (Сцяшк: *гарцáпкі*). Таго ж паходжання, што і *арцáбы, варцáбы* 'шашкі' (Нас.), гл. Значэнне 'гузікі' — вынік пераносу, метафарызацыі.

**Гарцавáць** 'гарцаваць' (БРС, Нас., Шат., Бяльк.), *гарцавáць* 'бегаць, падбрыкваць' (Сл. паўн.-зах.), таксама *гарцáць* (Нас., Бяльк.). Ст.-бел. *гарцоваті, гарцъ, герцъ* (Булыка, Запазыч.). Укр. *гарцювáти,* рус. *гарцевáть.* Запазычанне з польск. *harcować* (а гэта са ст.-чэш. *harcovati;* гл. Слаўскі, 1, 404—405; Шанскі, 1, Г, 35; іначай Брукнер, 168—169; Фасмер, 1, 395).

**Гáрцавень** 'бутля ёмістасцю 3—5 літраў' (Жд. 2). Да *гарц, гарац, гарцавы* (гл.).

**Гáрцавы** 'гарцавы' (БРС), 'які змяшчае ў сабе меру ў гарнец' (Нас.), *гарцóвы* 'тс' (Касп.). Параўн. *гарцавóе* 'від аплаты збожжам' (Сл. паўн.-зах.). Да запазычанага з польск. мовы *гáрнец, гáрнец* (гл.). Форму *гарцóвы* можна таксама лічыць узятай непасрэдна з польск. (параўн. ст.-бел. *кгарцовый,* Булыка, Запазыч.).

**Гáрчык** 'гарнец; назва меры' (Касп., Шат., памянш. ад *гáрнец*), *гáрчык* (Сл. паўн.-зах.), укр. *гáрчык.* Лічыцца памяншальнай формай ад *гáрнец* (гл.); так думае Шатэрнік (гл. пад *гарнец*), але можна ставіць пытанне і аб паходжанні ад *гарац* (гл.). Параўн. і ўкр. *гáрець.* Так, прынамсі, мяркуе Грынч. (гл. пад *гáрець*).

**Гарчы́ца** 'гарчыца' (БРС, Бяльк.), 'гарчыца; расліна свірэпа' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *горчи́ца,* укр. *гірчи́ця,* польск. *gorczyca,* чэш. *horčice, hořčice* 'тс' і г. д. Прасл. **gorьčica* 'гарчыца' таксама азначае розныя расліны (агляд форм Трубачоў, Эт. сл., 7, 52—53). Утварэнне ад прыметніка **gorькъ* 'горкі'.



**Гарчэ́ць** 'рабіцца горкім' (БРС, Нас., Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. *горчáть,* укр. *гірчáти,* серб.-харв. *гр̀чати* 'тс' і г. д. Прасл. **gorьčati* 'тс' (утварэнне ад **gorькъ* 'горкі'). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 52. У бел. мове развіўся другасны па паходжанню вакалізм у тэме дзеяслова.

**Гарчэ́ча** 'гаркота, горкі смак' (БРС). Утварэнне суфіксам *-еча (-эча)* ад *гóркі* (< прасл. **gorькъ*). Адносна суфіксацыі Трубачоў (Проспект, 59—61) мяркуе, што ўкр. і бел. суфікс **-etja* звязаны з паўд.-слав. **-otja* (параўн. бел. *малéча,* укр. *малéча* і серб.-харв. *malòća*).

**Гáрштва** 'гваздзік' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. у гэтым значэнні прыводзіць таксама *гáшта, гáштва* і да *гáшта* прыводзіцца літ. крыніца *góstauta* 'тс'. Але форма гэта не зусім падыходзіць у якасці першакрыніцы. Параўн. лепш літ. *garštis, garšvà;* да гэтых назваў гл. Фрэнкель, 138.

**Гаршч** 'жменя' (Шатал.). Зыходзячы з вакалізму *а,* які тут знаходзіцца пад націскам, і з кансанантнай групы *-шч,* можна думаць, што гэта прамое запазычанне з польск. *garść* 'тс' (слав. **gъrstь*). Параўн. *гарсць* (гл.).

**Гаршчóк** 'гаршчок' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Рус. *горшóк* (дыял. памянш. *горщёчек*), укр. *горщóк.* Лічыцца памяншальнай формай ад слав. **gъrnъ* і яго вытворных (**gъrньсь*). Гл. Фасмер, 1, 445. Падрабязна Трубачоў, Ремесл. терм., 191—200.

**Гаршчóкі** 'жоўтыя гарлачыкі' (Сл. паўн.-зах.). Да *гаршчóк* (гл.); да матывацыі і формы мн. л. параўн. *гарлáчык* 'вадзяная лілія, банька' (гл.).

**Гáры** 'выгаралае месца на тарфяным балоце; пажарышча' (Яшкін). Параўн. рус. *гарь* 'лясны пажар, выгаралае месца', *гáря* 'тс'. Да **garь (*gorěti).* Параўн. прасл. **garь* у розных значэннях у Трубачова, Эт. сл., 6, 102—103.

**Гарыжня́** 'загарадка' (Сл. паўн.-зах.). З *гаражня́;* утварэнне суфіксам *-ня* ад асновы *гара(д)ж-* 'загароджаны'. Параўн. *гараджáнка* 'загарадка' (Сл. паўн.-зах.). Дакладная адпаведнасць у рус. дыял. *горожня́* (СРНГ, 7, 64) і, магчыма, укр. *горíжний* 'агароджаны' (?) (гл. у Грынч.).

**Гарызантáльны** 'гарызантальны' (БРС). Рус. *горизонтáль-*

*ный,* укр. *горизонтáльний.* У рус. мове з польск. *horizontalny* (запазычанне Пятроўскай эпохі), а гэта з вучонай латыні. Гл. Шанскі, I, Г, 134. У бел. мове, відавочна, з рус.

**Гарызóнт** 'гарызонт' (БРС). Рус. *горизóнт,* укр. *горизóнт.* У аснове ляжыць лац. *horizon, -ontis* (<грэч. ὁρίζων), якое праз ням. або польск. мову пранікла ў рус., якая, здаецца, і была крыніцай для бел. і ўкр. Гл. Шанскі, I, Г, 133—134; Фасмер, I, 441.

**Гары́ла** 'гарыла' (БРС). Рус. *гори́лла,* укр. *гори́ла.* Непасрэднай крыніцай слова з'яўляецца англ. *gorilla* 'тс'. Падрабязней гл. Шанскі, I, Г, 134—135.

**Гары́нка** 'ўзгорак' (Бяльк.). Параўн. рус. дыял. *горы́ня* 'гара' (СРНГ, 7, 79—80). У аснове ляжыць **gorynь* (да **gora*+ суфіксацыя *-ynь*). Параўн. і назву р. *Горынь* у Фасмера, I, 445.

**Гары́пні** 'назва гульні гарэлкі', *гары́пень* 'той, хто застаўся без пары ў гэтай гульні' (Нас.). Ад прыпеву *«гары пень»* у гэтай гульні (апісанне гл. у Насовіча).

**Гары́ца** 'невялікая горка' (Сл. паўн.-зах.). Трубачоў (Эт. сл., 7, 45) разглядае прасл. **gorica* (памянш. ад **gora*), але без бел. матэрыялу.

**Гарыцвéт** 'расліна гарыцвет' (БРС). Рус. *горицвéт,* укр. *горицвíт, горéцвiт,* польск. *gorzekwiat,* чэш. *hořikvět,* балг. *гори́цвет* і г. д. Трубачоў (Эт. сл., 7, 46) прыводзіць вялікі матэрыял з розных слав. моў і выстаўляе праформу **gorikvětъ* (складанае слова: імператыў ад **gorěti* +**květъ*).

**Гары́чык** 'агароджанае месца для жывёлы ў полі або ў лесе' (Яшкін). Незразумелае слова.

**Гарэ́за** 'свавольнік, пракуда, вісус' (Нас., БРС, Шат.), таксама *гарэ́знік* (Нас., БРС), *гарэ́зліва, гарэ́зны, гарэ́заваць, гарэ́знічаць, гарэ́зіць* (Нас., Касп., Сл. паўн.-зах., БРС). Рус. дыял. зах. *гарéза* (СРНГ). Этымалогію прапанаваў ужо Насовіч: *гарѣза* 'свавольнік, распуснік, дураслівец' ад *герезія* 'ерась', а *гарѣза* 'натурысты' ад *гаркаць.* Тлумачэнне Насовіча (запазычанне з польск.) для *гарэ́за* 'свавольнік' падтрымліваецца тым, што польск. *herezja* (<лац. мовы, гл. Слаўскі, I, 416—417) у гаворках мае значэнне 'скандалы, дэбошы' (Карловіч).

**Гарэ́лка**$_1$ 'гарэлка' (да *гарэ́ць*) (БРС). Відавочна, запазычанне з рус. *горéлка* 'тс'.

**Гарэ́лка**$_2$ 'гарэлка, спіртны напітак' (БРС, Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., Сцяц. Нар., Сл. паўн.-зах.). Рус. *горéлка,* укр. *горíлка.* Утварэнне па польскаму ўзору: польск. *gorzałka* (да **gorzały* 'гарэлы' <*gorzeć* 'гарэць'). Гл. Фасмер, I, 440; Слаўскі, I, 322. Падрабязна Сцяц. Нар., 72.

**Гарэ́лка**$_3$ 'адтуліна ў бучы' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, метафара да *гарэ́лка*$_1$ (паводле знешняга падабенства з варонкай).

**Гарэ́лкі** 'назва гульні' (БРС, Бяльк.). Рус. *горéлки* 'тс'. Да *гарэць* 'гарэць' (гэта слова паўтараецца ў гульні). Гл. Фасмер, I, 440 (там і апісанне гульні); Шанскі, I, Г, 132 (некалькі іншае тлумачэнне). Параўн. іншую назву гэтай гульні — *гары́пні* (гл.).

**Гарэ́лы**$_1$: *«Горѣлаго шелига не стоишъ»* (Нас.). Насовіч мяркуе, што *гарэ́лы* ў гэтым сэнсе мае сувязь з *галéлы* 'шелег (манета)', гл.

**Гарэ́лы**$_2$ 'карычневы, руды' (Сл. паўн.-зах.). Па паходжанню метафара: 'абгарэлы' — 'абгарэлы, карычневы' — 'карычневы'.

**Гарэ́м** 'гарэм' (БРС). Рус. *гарéм,* укр. *гарéм.* Запазычанне з усх. моў (першакрыніцай з'яўляецца араб. *ḥarām* 'забаронены') праз франц. *harem* 'гарэм'. Гл. Фасмер, I, 393; Шанскі, I, Г, 29.

**Гарэ́ніць** 'гарчыць' (БРС, Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *горéнити* 'тс', рус. дыял. *горéнить, горóнить.* Ад *гор-,* што ў слове **gorьkъ,* з «узмацняльным» суфіксам (магчыма, дзеепрыметнікавага паходжання). Параўн. *бурэ́ніць* (гл.).

**Гарэ́х** 'арэх' (БРС, Касп., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Гл. *арэ́х*$_2$.

**Гарэ́ць** 'гарэць' (ужываецца таксама ў значэнні 'цвісці' — Шат., Жд. 2, Сл. паўн.-зах.). Рус. *горéть,* укр. *горíти,* польск. *gorzeć,* серб.-харв. *гòрети,* ст.-слав. **горѣти** і г. д. Прасл. **gorěti, *gor'ǫ* 'гарэць' (агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 42) звязана з прасл. **grěti, *gъrnъ, *žarъ.* У аснове ляжыць і.-е. **g$^u$her-: *g$^u$hor-* 'гарачы, паліць і да т. п.' Параўн. літ. *garéti* 'гарэць', ст.-інд. *háras* 'жар', *ghṛṇóti* 'гарыць, свеціць', ст.-грэч. θέρομαι 'рабіцца гарачым'. Трубачоў, Эт. сл., 7, 42—43; Слаўскі, I, 322—323; Фасмер, I, 441; Траўтман, 79.

**Гас** 'страх' (Нас.: ад *гаси́ть*). Запазычанне з польск. *gas* 'тс' (а гэта з венг. мовы; гл. Брукнер, 136). Параўн. таксама рус. *гас* у Фасмера, I, 396.

**Гасíнак** 'камашы' (Бяльк.: *«пашоў у гасінкых»*). Няясна.

**Гáсіць** 'моцна стукаць, біць' (БРС, Янк. III). Няясна.

**Гасíць** 'гасіць' (БРС, Касп.), сюды ж *гáснуць* (БРС). Рус. *гасúть*, укр. *гасúти*, польск. *gasić*, чэш. *hasiti*, ст.-слав. **гасити**, балг. *гаcя́* і г. д. Прасл. **gasiti*, **gašǫ*. Лічыцца роднасным з літ. *gėsti* 'пагаснуць, гаснуць', *gesýti* 'гасіць', грэч. σβῶσαι 'пагасіць' і г. д. Гл. Фасмер, 1, 396; падрабязней Слаўскі, 261; Траўтман, 86. Агульны агляд сітуацыі гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 104—105.

**Гáсла** 'паведамленне, сігнал' (Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *гáсло* (гл. Булыка, Запазыч.) 'дэвіз, лозунг, пароль'. Укр. *гáсло*, рус. (старое) *гáсло*. Запазычанне з польск. *hasło*. Фасмер, 1, 396; Булыка, Запазыч., 80; Брукнер, 168; Слаўскі, 1, 410.

**Гаспадáр** 'гаспадар, уладальнік, уласнік' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., МГ, Сл. паўн.-зах.). Слова прасл. паходжання; параўн. ст.-рус. *господарь*, укр. *господáрь*, *госпóдар*, польск. *gospodarz*, чэш. *hospodář*, балг. *господáр*, серб.-харв. *гòсподар*, прасл. **gospodarь* (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 7, 59). Трубачоў (раней Ваян, Gram. comp., IV, 317) выводзіць **gospodarь* ад **gospoda* 'дом, гаспадарства і г. д.' (па паходжанню зборны назоўнік ад **gospodь*; гл. Трубачоў, там жа, 58—62). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 446; Слаўскі, 1, 324—325.

**Гаспадáрка** 'гаспадарка' (БРС, Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). У гэтым значэнні слова запазычана з польск. мовы (параўн. польск. *gospodarka* 'тс'). Таксама з польск. *gospodarczy* ўзята бел. *гаспадáрчы* 'тс'.

**Гаспады́ня** 'ўласніца, гаспадыня' (БРС, Нас., Касп., Шат., Сцяшк. МГ, Сл. паўн.-зах.). Прасл. **gospodyni* 'тс', утварэнне суфіксам *-*yni* ад *gospodь* 'пан, гаспадар'. Параўн. рус. дыял. *господы́ня*, укр. *господúня*, польск. *gospodyni*, чэш. *hospodyni*, *hospodyně*, серб.-харв. *gospòdinja*, ст.-слав. **господыни**. Агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 60. Гл. яшчэ, Слаўскі, 1, 324.

**Гаспóда** 'гаспадарка, двор' (БРС), 'унутранасць панскага дома' (Нас.), 'хата гаспадара, чужая хата' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *госпóда*, але рус. *господá* (мн. л. да *господúн*), далей польск. *gospoda*, чэш. *hospoda*, ст.-слав. **господа** 'гасцініца', серб.-харв. (зборны назоўнік) *гòспòда*. Прасл. **gospoda* па паходжанню зборны назоўнік да **gospodь* 'пан, гаспадар'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 58—59; Слаўскі, 1, 324.

**Гастранóм** 'гастраном' (БРС), *гастранóмія*. Рус. *гастронóм*, *гастронóмия*, укр. *гастронóм*, *гастронóмія*. Запазычанне з франц. *gastronome*, *gastronomie* (<грэч.). Гл. Шанскі, 1, Г, 37—38.



**Гастрóль**, *гастрóлі* (БРС). Рус. *гастрóль*, *гастрóли*. Запазычанне з ням. *Gastrolle* (*Gast* 'госць', *Rolle* 'роля'). Шанскі, 1, Г, 37.

**Гасудáр** 'гасудар' (БРС). Рус. *государь*. У бел. мове, відаць, запазычанне з рус. Рус. слова ўзнікла трансфармацыяй лексемы *господарь*. Фасмер, 1, 448; Шанскі, 1, Г, 150.

**Гасцíнец** 'падарунак' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.), таксама 'бальшак, тракт'. Утварэнне яшчэ ў прасл. мове ад прыметніка **gostinъ* (да **gostь* 'госць'). Агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 65—66. Гл. Слаўскі, 1, 327; Шанскі, 1, Г, 149.

**Гасцíніца** 'гасцініца' (БРС). Слова, вядомае з даўняга часу ў слав. мовах (напр., ужо ў ст.-слав. мове). Агляд матэрыялу ў Трубачова, Эт. сл., 7, 64. Утварэнне суфіксам *-*ica* ад прыметніка **gostinъ* (да **gostь*).

**Гатавáльня** 'гатавальня' (БРС). Укр. *готовáльня*. Запазычанне з рус. *готовáльня* 'тс', якое ўзята з польск. мовы (спачатку мела значэнне 'туалет з рознымі прадметамі'). Польск. *gotowalnia* пранікла ў рус. мову ў XV ст. Падрабязна Шанскі, 1, Г, 151.

**Гатавáцца** 'кіпець' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з польск. *gotować się* 'тс'. Няпэўна.

**Гатавáць**. Гл. *гатóвы*.

**Гатавíзна** 'гатоўка' (Нас.). Ст.-бел. *готовизна* 'тс' (Булыка, Запазыч.). Укр. *готовúзна* 'тс'. Запазычанне з польск. *gotowizna* 'тс' (да *gotowy*); так Булыка, Запазыч., 85. Трубачоў (Эт. сл., 7, 70) мяркуе, што гэтыя лексемы адносяцца да прасл. **gotovizna*, але геаграфія слоў на ўсх.-слав. глебе сведчыць аб запазычанні.

**Гаталя́й** 'гультай' (Шат.). Няясна.

**Гáтар** 'лесапілка (машына); лесапільня (завод)' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з ням. *Gatter* 'лесапільны станок' (так у Сл. паўн.-зах.).

**Гатóвы** 'гатовы'. Параўн. рус. *готóвый*, укр. *готóвий*, польск. *gotowy*, серб.-харв. *гòтов*, ст.-слав. **готовъ**. Прасл. **gotovъ* 'тс'. Найбольш верагоднай з'яўляецца этымалогія Трубачова: **gotovъ* — гэта вытворнае ад **gotŭ* (**g^uatu*, супін да і.-е. **g^uā-* 'ісці'). Да семантыкі параўн. ням. *bereit* 'гатовы' (*reiten* 'ехаць конна'), *fertig* 'тс' (да *Fahrt* 'паездка, падарожжа'); гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 70—72 (там і агляд шматлікіх іншых версій). Прасл. характар маюць і вытворныя: **gotovati*: бел. *гатавáць* (БРС, Нас., Касп., Сцяшк., Сл. паўн.-зах., Бяльк.), ст.-рус.

*готовати,* укр. *готувáти,* польск. *gotować,* серб.-харв. *гòтвати,* ст.-сл. **готовати** і г. д.; **gotoviti:* бел. *гатóвіць* (Бяльк., Сл. паўн.-зах.), рус. *готóвить,* укр. *готóвити,* польск. (старое) *gotowić,* серб.-харв. *гòтовити,* ст.-сл. **готовити** і г. д. Агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 69—70.

**Гатóўка** 'гатоўка' (БРС, Нас., Шат., Бяльк.). Укр. *готíвка* 'тс'. Запазычанне з польск. *gotówka* 'тс'. Параўн. *гатавíзна.*

**Гатóўнасць** 'гатоўнасць' (БРС). Відавочнае запазычанне (як і ўкр. *готóвність*) з рус. *готóвность* 'тс' (да *готовый, готовить*).

**Гатýнак** 'гатунак' (БРС, Касп., Шат.), 'парода' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *гатýнок, гатýнок* 'тс'. Запазычанне з польск. *gatunek* 'тс' (а гэта з ням. *Gattung*). Слаўскі, 1, 261; Рудніцкі, 1, 808.

**Гатычны** 'гатычны' (БРС). Укр. *готúчний,* рус. *готúческий.* Гэта назва стылю ў мастацтве з'яўляецца запазычаннем з франц. *gothique* 'тс' (а гэта ад назвы германскага племя готаў). Гл. Шанскі, 1, Г, 150—151.

**Гауптвáхта** 'гауптвахта' (БРС). Рус. *гауптвáхта,* укр. *гауптвáхта.* Крыніцай запазычання для бел. і ўкр. з'яўляецца, відаць, рус. мова. Рус. *гауптвáхта* < ням. *Hauptwache, Hauptwacht* (ужо ў Пятроўскую эпоху). Фасмер, 1, 397; падрабязна Шанскі, 1, Г, 39.

**Гáўбіца** 'гаўбіца' (БРС). Рус. *гáубица* 'тс' (раней і *гоубица*), укр. *гáубиця.* Фасмер (1, 397) мяркуе, што гэта запазычанне з ням. *Haubitze* 'тс'. Шанскі (1, Г, 38—39) мяркуе, што непасрэдна слова было ўзята з польск. *haubica* (так і ў Слаўскага, 1, 411).

**Гáўкаць** 'гаўкаць' (БРС, Касп., Шат., Сл. паўн.-зах.). Рус. *гáвкать,* укр. *гáвкати,* балг. *гáвкам,* чэш. дыял. *havkat'* і г. д. Утварэнне суфіксам *-к-* ад гукапераймальнага *гав-* (без *-к-* таксама адзначаюцца формы ў слав. мовах: чэш. дыял. *havat* 'гаўкаць'). Гл. Шанскі, 1, Г, 4; Фасмер, 1, 379; Слаўскі, 1, 410; Трубачоў, 6, 110.

**Гáўрык** 'уласнае імя Гаўрыла,' 'ілгун' (Бяльк.). Рус. *Гáврик* 'тс', *гáврик* 'прасцяк, хітрун, хлапец'. У аснове ляжыць запазычанне з грэч. імя Γαβριήλ (гл. Фасмер, 1, 379). Пераход уласнага імя ў катэгорыю агульных назваў вядомы ў многіх мовах.

**Гаўст** 'глыток' (Нас.). Запазычанне з польск. *haust* 'тс' (а гэта з лац. *haustus*). Гл. Кюнэ, Полн., 57.



**Гафрыравáць,** *гафрыраваны* (БРС). Запазычанне з рус. *гофрировать* 'тс', узятага з франц. мовы (*gaufrer* 'тс'). Гл. Шанскі, 1, Г, 152.

**Гафт** 'вышыўка' (БРС, Бяльк.), *гафтавáць* 'вышываць' (БРС, Нас.). Гл. *гаптаваць.*

**Гáфта** 'абкіданая пятля' (Нас.), *гáфтачка* 'пятля для гузіка або гапліка' (БРС, Сцяшк.), *гáфтка* 'драцяная пятля' (Нас., Сцяшк.). Гл. *гапка*$_1$, *гаптка.*

**Гацáць** 'бегаць'. Гл. *гóйсаць.*

**Гáці** 'штаны' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *gacie* (а гэта да прасл. **gatji* 'тс'; усх.-слав. форма — **gači;* параўн. Трубачоў, Эт. сл., 6, 106—108). Гл. *гáшнік.* Параўн. яшчэ ст.-бел. *кгачи, кгати* 'порткі, нагавіцы' (засведчана з XVI ст.) < польск. *gacie* (Булыка, Запазыч.).

**Гаць** 'гаць, грэбля' (БРС, Нас., Шат., Бяльк., Сцяшк., Яшкін), 'твань; плаціна' (Касп.). Вытворныя: *гáтка* (Нас., Сцяшк.), *гáтчына* (Нас.). Параўн. рус. *гать,* укр. *гать,* польск. *gać,* чэш. *hat',* серб.-харв. *гâт, гата* і г. д. Прасл. **gatъ, *gatь.* Агляд матэрыялу ў Трубачова, Эт. сл., 6, 108—109. Вытворнае (**g$^{u}$ā-t-* 'праход і да т. п.') да і.-е. **g$^{u}$ā-* 'ісці, праходзіць'; параўн. ст.-інд. *gātú-* 'праход, дарога', авест. *gātu-* 'месца'. Гл. Слаўскі, 1, 246; Махэк$_2$, 162; Трубачоў, Эт. сл., 6, 108—109. Сюды ж і вытворнае **gatiti:* бел. *гáціць,* рус. *гáтúть,* укр. *гатúти,* польск. *gacić,* серб.-харв. *гáтити* і г. д. (гл. Трубачоў, там жа, 105—106).

**Гáшнік** 'верхняя частка, пояс у штанах' (Касп.). Рус. *гáшник,* укр. *гачнúк.* Вытворнае ад усх.-слав. **gači* 'штаны'. Трубачоў (Эт. сл., 6, 108) прыводзіць аналагічныя словы і для іншых слав. моў і лічыць, што было прасл. **gatjьnikъ:* < <**gatjьnъ* (прыметнік ад **gatji* 'штаны') + суф. *-ikъ.* Няпэўна. Такія ўтварэнні маглі быць самастойнымі.

***Гáшта*** 'гваздзік' (Сл. паўн.-зах.), 'садовая кветка, гашта' (Сцяшк.). Гл. *гáрштва.*

**Гáштва** 'гваздзік' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *гáрштва.*

***Гáшта*** 'густа зарослая лесам даліна' (Яшкін), таксама *гóшча* 'тс' (там жа). Няяснае слова. Наўрад ці звязана з *гýшча* 'густы лес, зараснік, дзе цяжка прайсці; нетры' (гл. Яшкін), якое < *gǫšča* < **gǫstja* (да **gǫstъ* 'густы'). Цяжка вытлумачыць і варыянт *гóшча.* Здаецца, націск тут быў спачатку на канцы слова: зыходнае **гашчá* ўспрымалася як **гошча* (г. зн. пры перанясенні націску на першы склад нібы «аднавілася» «зыходнае» *-о-*, якога тут ніколі не было). Што датычыць

слова *гашча,* то, магчыма, яно звязана з бел. *хашч* 'гушчар, зараснік, нетры' (гл. у Яшкіна), укр. *хащ, хáща* (азванчэнне *х* > *г*?). Для варыянта *гошча* ўсё ж такі, здаецца, знаходзіцца паралель: укр. *хóщик* 'куст' (у Грынч. са знакам запытання).

**Гашэ́тка** 'гашэтка' (БРС). Укр. *гашéтка* 'тс'. Запазычанне з рус. *гашéтка* 'тс', дзе яно з пачатку XX ст. узята з франц. мовы (*gâchette* 'тс'). Параўн. Шанскі, 1, Г, 39.

**Гбаць** 'гнуць; складваць, скручваць, мяць' (Нас.), 'гнуць' (Касп., Сл. паўн.-зах.). Ст.-рус. *гбáти* 'гнуць'. Магчыма, сюды ж славац. *hbať* 'рухаць', н.-луж. *gbaś* 'рабіць, выконваць'. Дзеяслоў **gъbati* звязваюць этымалагічна з **gъbnǫti* (> бел. *гнуць,* рус. *гнуть* і г. д.). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 187—188.

**Гваздáць** 'моцна біць', *гваздзíць* 'тс', таксама *гваздану́ць* (Нас., БРС, Бяльк., Шатал.). Першаснае значэнне 'забіваць, забіць гвозд'. Слав. (прасл.?) **gvozditi* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 184—185).

**Гваздзíк** 'гваздзіка (БРС), *гваздзíка* 'тс' (Сцяшк.). Ст.-бел. *гвоздикъ* 'тс' (Булыка, Запазыч.). Рус. *гвоздúка,* укр. *гвоздúка, гвóздик.* Лічыцца запазычаннем з польск. *goździk* (а гэта калька з с.-в.-ням. *negelkin*). Фасмер, 1, 399; Слаўскі, 1, 330; Брукнер, 166. Шанскі (1, Г, 41—42) хоча тлумачыць рус. назву расліны як самастойнае ўтварэнне на рус. глебе.

**Гвалт,** *гвалтавáць* (БРС, Касп., Шат., Бяльк., Нас., Жд. 2, Янк. III), *гвáлціць* (БРС, Нас.). Ст.-бел. *кгвалтъ, гвалтъ, гвалтити, кгвалтовати* і г. д. (Булыка, Запазыч.). Рус. *гвалт,* укр. *гвалт.* Запазычанне з польск. *gwałt, gwałtować, gwałcić* і г. д. (а гэта з с.-в.-ням. *gewalt*). Фасмер, 1, 398; Слаўскі, 1, 382. Параўн. Шанскі, 1, Г, 40. Сюды ж і прыметнік *гвалтóўны* 'моцны' (Нас.), 'гвалтоўны' (Бяльк.) < польск. *gwałtowny.*

**Гвардзéйскі,** *гвардзéец.* Гл. *гвáрдыя.*

**Гвáрдыя** 'гвардыя' (БРС). Ст.-бел. *гвардия, гвардея* (Булыка, Запазыч.). Рус. *гвáрдия,* укр. *гвáрдія.* Ва ўсх.-слав. мовах гэта запазычанне з польск. *gwardia* (а гэта з іт. *guardia*). Гл. Слаўскі, 1, 383; Фасмер, 1, 398; падрабязна Шанскі, 1, Г, 41. Бел. *гвардзéец, гвардзéйскі* — новыя запазычанні з рус. (у рус. мове гэтыя словы з'явіліся ў другой палавіне XVIII ст., гл. Шанскі, 1, Г, 40—41).

***Гвінá*** 'баравое месца, пакрытае сухой ігліцай' (Сл. паўн.-зах.). Няясна.

***Гвінт*** 'вінт' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *гвинт* 'тс', рус. *винт.* Запазычанне з польск. *gwint* 'тс' < ням. *Gewinde.* Гл. Слаўскі, 1, 385; Фасмер, 1, 317. Параўн. ст.-бел. *кгвинтъ* 'тс' (Булыка, Запазыч.).



**Гвозд**[1] 'цвік' (БРС, Нас., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Рус. *гвоздь,* укр. *гвоздь, гвіздь,* в.-луж. *hózdź,* польск. *gwóźdź,* ст.-слав. **гвоздь** і г. д. Прасл. **gvozdъ, gvozdь* 'тс'. Паводле Трубачова, Эт. сл., 7, 185—186 (там і агляд літ-ры), значэнні 'гвозд' і 'лес' (параўн. *гвозд*₂) звязаны; праформай з'яўляецца і.-е. **ĝuos-d-* (параўн. ням. *Quast, Quaste,* с.-в.-ням. *quast(e)* 'кісць, пучок, мяцёлка, венік').

**Гвозд**[2]. Палес. слова ('сухая ўзвышаная мясціна сярод балот, прастора, пакрытая густым лесам'), якое мае сувязі ў зах.-слав. і паўд.-слав. мовах. Аб магчымасці яго існавання гл. Талстой, Геогр., 61—62 і наст. Гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 7, 185—186; Мартынаў, Этимология 1968, 14 і наст.

**Гвор** 'хваля, якая, б'ючыся аб бераг, стварае працяжны шум' (Яшкін). Няясна. Магчыма, звязана са слав. **gvorъ,* якое мае розныя значэнні (у тым ліку 'бурбалка на вадзе'; параўн. Трубачоў, Эт. сл., 7, 184).

***Гвэ́гня*** 'багна' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, звязана (як гэта наогул бывае ў назвах багны) з гукапераймальным дзеясловам *гвя́гаць* 'гаварыць недарэчнае, звягаць' (Сл. паўн.-зах.).

**Гвя́зда** 'зорка' (Сцяшк.), *гвя́зда* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *gwiazda* 'тс' (< прасл. **gvězda*).

**Геагрáфія** 'геаграфія' (БРС). Рус. *геогрáфия,* укр. *геогрáфія.* Запазычанне, відаць, праз польск. *geografia* з лац. *geographia* (< грэч.). Фасмер, 1, 402; Шанскі, 1, Г, 53.

**Геалóгія** 'геалогія' (БРС). Рус. *геолóгия,* укр. *геолóгія.* Паводле Фасмера (1, 402), запазычанне з польск. *geologia* або лац. *geologia* (< грэч.). Шанскі (1, Г, 54) мяркуе, што рус. *геолóгия* < ням. *Geologie* (а гэта — утварэнне на базе грэч. элементаў).

**Геамéтрыя** 'геаметрыя' (БРС). Рус. *геомéтрия,* укр. *геомéтрія.* Фасмер (1, 402) лічыць непасрэднай крыніцай польск. або лац. *geometria.* Шанскі (1, Г, 55) выводзіць гэта слова непасрэдна з грэч. мовы. Ст.-бел. *геометрия,* паводле Булыкі (Запазыч., 81), з польск. *geometria* (< лац. < грэч.).

**Геб** 'злы дух' (Бяльк.: *«Геб ты! Аткуль узяўся?»*). Няясна.

***Гебнуць*** 'загінуць' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. лічыць гэта запазычаннем з літ. *geĩbti* 'абміраць, паміраць'. Няпэўна.

**Гéвер** 'частка восеці паміж слупамі, якія падтрымліваюць

бэлькі, страху' (Касп.). Відавочна, таго ж паходжання, што і ст.-бел. *геваръ* 'дамкрат', г. зн. запазычанне з польск *hewer* (а гэта з ням. *Heber* < *heben* 'паднімаць'). Гл. Булыка, Запазыч., 81; Брукнер, 171.

***Гéга₁*** 'крэмень' (гродз., таксама ў бел. гаворках Польшчы; гл. Лекс. балтызмы, 40—41), 'камень' (Сцяшк.). Мяркуюць, што гэта магчымае запазычанне (з варыянтам *дзéга)* з літ. мовы. Параўн. літ. *dẽgti, dẽginti* 'паліць', *dẽgas, dẽgalas* 'галавешка, кнот' (гл. Смулкова, Лекс. балтызмы, 40—41; Смулкова, Z polsk. stud. slawist., ser. 2, 1963, 215—221). Параўн. яшчэ Сл. паўн.-зах., 439.

***Гéга₂*** 'парода гусей' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *gẽgalas* 'нырок', *gẽgė* 'зязюлька'. Але, магчыма, і самастойнае ўтварэнне (ад *гéгаць, гéгаць,* гл.). Параўн. польск. *gęga* 'гусь' (< *gęgać* 'гегаць'). Гл. Слаўскі, I, 272.

***Гéгаўка*** 'валляк' (Жд. 1). Няясна. Ці не звязана з *гéгаць, гéгаць*?

**Гéгаць** 'гергетаць' (Сцяшк.), ***гéгаць*** (Жд. 1, Шатал.). Гукапераймальнага паходжання. Параўн. укр. *гéгати,* польск. *gęgać* і далей рус. *гáгать,* польск. *gagać,* чэш. *gágati,* літ. *gagė́ti,* ням. *gāgen* і г. д. Слаўскі, I, 272; Траўтман, 74—75. Да прасл. **gagati* гл. Трубачоў, Эт. сл., 6, 83—84.

**Гегемóнія** 'гегемонія' (БРС). Рус. *гегемóния,* укр. *гегемóнія.* Сучаснае рус. *гегемóния* (адсюль, відаць, бел. і ўкр.) з ням. *Hegemonie* (< лац. < грэч.). Падрабязна аб гісторыі рус. слова Шанскі, I, Г, 44.

**Гéглі,** таксама *гегні* 'рыбалавецкая снасць' (дыялектнае, сустракаецца ў Брасл., Мядз. і іншых раёнах БССР; гл. Лауманэ, Лекс. балтызмы, 17), таксама пераносна (*«рукі, ногі, як гегні»*). Запазычанне з літ. мовы. Параўн. літ. *gẽglinis, gẽgnės* 'рыбалавецкая снасць' (таксама пераносна 'падкаленкі, ногі'). Гл. Лауманэ, Лекс. балтызмы, 17. Параўн. яшчэ Сл. паўн.-зах. ***гéгні.***

**Гéгні** 'рыбалавецкая снасць'. Запазычанне з літ. мовы; падрабязней гл. пад *гéглі.* Сюды і ***гéгня*** 'драўляны шпень у ярме' (Сл. паўн.-зах.).

**Гéгнуць** 'памерці; забіць' (Сцяц.). Здаецца, гукапераймальнага паходжання. Параўн. рус. *гéкнуть* 'ударыць, упасці', *гúгать* 'шумець, запалохваць крыкам', укр. *гигнути* 'шпурнуць, кінуць на зямлю; здохнуць'.

**Гез** 'сляпні, авадні' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск.



*giez* 'тс' (гл. Сл. паўн.-зах.). Да польск. слова гл. Слаўскі, I, 278.

**Гектáр** 'гектар' (БРС). Рус. *гектáр,* укр. *гектáр.* Запазычанне (праз рус.) з франц. *hectar.* Шанскі, I, Г, 46.

***Гéлда*** 'неўрадлівая шаравата-белая глеба; зямля, якую цяжка апрацоўваць' (Яшкін.). Ці не з польск. *giełda* 'натоўп, цісканіна, таўкатня' (> 'утаптанае месца' > 'неўрадлівая глеба')? Аб польск. слове гл. Слаўскі, I, 277.

***Гéлдаць*** 'хутка есці, глытаць' (Сл. паўн.-зах.). Вельмі нагадвае рус. дыял. *колтнýть* 'глытнуць', укр. *ковтáти* 'глытаць', ст.-польск. *kłtać* 'тс' (магчымыя сувязі ў Бернекера, I, 660). Тады ў бел. мове азванчэнне зычных у зыходнага **калтáць* (> **галдáць*). Далей пры перанясенні націску на першы склад «аднаўляецца» «зыходнае» *е.*

***Гéлзаць*** 'кілзаць' (Сцяц.). Як і *кíлзаць* (гл.), запазычанне з польск. *kiełzać* 'тс' (аб паходжанні польск. слоў гл. Брукнер, 227—228). У бел. мове адбылося азванчэнне *k-* > *g-,* што нярэдка бывае ў словах, дзе ёсць санорны *r* або *l.* Параўн. *гéльзаць.*

***Гéліць*** 'балець, нудзіць, ванітаваць, жадаць, карпець' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *gélti* 'ныць'.

***Гельзáць*** 'кілзаць' (Шатал.: *«Каня трэба гельзаць...»*). Дыялектная форма (з азванчэннем пачатковага *к-* > *г-*) да *кілзáць* 'тс' (гл.), якое запазычана з польск. *kiełzać.* Параўн. Бел.-польск. ізал., 47—48. Гл. яшчэ ***гéлзаць.***

***Гéмзовы*** 'шаўровы' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *giemzowy* 'тс' (да *giemza* 'шаўро' < ням. *Gemse;* параўн. Слаўскі, I, 277).

**Гéнезіс** 'генезіс' (БРС). Рус. *гéнезис,* укр. *гéнезис.* Першакрыніца — грэч. γένεσις 'тс'. У рус. мове слова запазычана непасрэдна з англ. або ням. мовы. Бел. і ўкр. лексемы, відавочна, з рус. Параўн. Шанскі, I, Г, 50.

**Генерáл** 'генерал' (БРС). Рус. *генерáл,* укр. *генерал.* У гэтым значэнні запазычанне (у бел. і ўкр. мовах, магчыма, праз рус.) з ням. *General* < франц. *général.* Параўн. Фасмер, I, 401; Шанскі, I, Г, 50. Ст.-бел. *генералъ, енералъ, еноралъ* 'судовы выканаўца' < ст.-польск. *jenerał, generał* (< ням.); гл. Булыка, Запазыч., 111.

**Генерáльны** 'генеральны' (БРС). Рус. *генерáльный,* укр. *генерáльний* 'тс'. Запазычанне з польск. *generalny* < лац. *generalis.* Падрабязна Фасмер, I, 401; Шанскі, I, Г, 51.

**Генéтыка** 'генетыка' (БРС). Рус. *генéтика,* укр. *генéтика.* Запазычанне (праз рус. *генéтика*) з англ. *genetics* 'тс' (<грэч.) з пераафармленнем па тыпу *батáніка, гідрáўліка* і г. д. Гл. Шанскі, I, Г, 51.

**Гéній** 'геній' (БРС). Рус. *гéний,* укр. *гéній.* Бел. і ўкр., магчыма, непасрэдна з рус. Рус. (старое) *гениус, гений* з лац. *genius* або з ням. *Genius* (<лац.); форма *гениуш* — з польск. *geniusz* (<лац.). Гл. Фасмер, I, 402; Шанскі, I, Г, 52 (з удакладненнем паходжання форм).

**Гера́льдыка** 'геральдыка' (БРС). Рус. *гера́льдика,* укр. *гера́льдика.* Непасрэднай крыніцай запазычання з'яўляецца польск. *heraldyka* <ням. *Heraldik* <франц. Шанскі, I, Г, 57.

**Гера́нь** 'герань' (БРС). Запазычанне з рус. *гера́нь* 'тс', якое ўзята з ням. *Geranium, Geranie* (<лац.) або прама з лац. *geranium.* Фасмер, I, 402; падрабязна Шанскі, I, Г, 58.

***Гéраш*** 'дэраш (масць каня)' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *дэ́раш.*

**Герб** 'герб' (БРС). Рус. *герб,* укр. *герб.* Ст.-бел. *гербъ, гэрбъ* (з XVI ст., Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *herb* (першакрыніцай з'яўляецца с.-в.-ням. *erbe* 'спадчына'). Фасмер, I, 402; Шанскі, I, Г, 58; Слаўскі, I, 415.

**Герба́рый** 'гербарый' (БРС). Рус. *герба́рий,* укр. *герба́рій.* Запазычанне з рус. *герба́рий* (якое на пачатку XIX ст. з'явілася ў рус. мове з ням. *Herbarium* або прама з вучонай латыні — *herbarium, herbarius* <*herba* 'трава'). Гл. Шанскі, I, Г, 58—59.

***Гéрга, гéргаўка*** 'крэмень' (Сл. паўн.-зах.). Лічыцца запазычаннем з літ. мовы; параўн. літ. *gérgužė, gargāžė* 'крамяністы камень' (так Сл. паўн.-зах.).

***Гéргаць*** 'гагатаць' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн-зах. лічыць запазычаннем з літ. *gérgėti, gargéti* 'тс'.

***Гергéліць*** 'балбатаць' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *gargaliúoti* 'тс'.

**Гергета́ць** 'гагатаць; лапатаць' (БРС), 'гергетаць; невыразна гаварыць' (Сцяшк.), *гергата́ць* 'гаварыць па-яўрэйску' (Шат.), 'гагатаць' (Шатал.), *гергята́ць* 'гаварыць невыразна' (Жд. 1). Рус. дыял. *горгота́ть, гаргата́ть,* укр. *горгота́ти,* серб.-харв. *гргѐтати* і г. д. Прасл. **gъrgotati* (гукапераймальны дзеяслоў; матэрыял гл. у Слаўскага, I, 406; Трубачова, Эт. сл., 7, 208—209) <**gъrgati* (Трубачоў, там жа).

**Гéрдаць** 'гаварыць невыразна' (Жд. 2). Гл. *гірда́ць.*

**Гердзёлко** 'горла' (Сцяшк.). Гл. *гардзéль*$_1$.



***Гéрзаць*** 'падплятаць (лапці)' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *ker̃zoti* 'зрабіць абы-як'.

**Геркулéс** 'асілак, здаравяка; назва круп' (БРС). Рус. *геркулéс,* укр. *геркулéс.* У аснове ляжыць лац. форма *Hercules* ст.-грэч. імя асілка Ἡρακλῆς (Ἡρακλέης). Як назва круп — запазычанне з рус. *геркулéс* 'тс' (дзе адзначаецца ў слоўніках з 1935 г.). Параўн. Шанскі, I, Г, 59.

***Герля́нт*** 'жаночы галаўны ўбор' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *гірля́нда.*

**Герма́нец,** *герма́нскі* (БРС). Рус. *герма́нец, герма́нский,* укр. *герма́нець, герма́нський.* Слова гэта ў бел. і ўкр. мовах, відавочна, узята з рус., дзе ў кніжнай мове запазычана з лац. (зыходным з'яўляецца лац. *Germania, Germani;* параўн. Фасмер, I, 403). Гл. яшчэ Рудніцкі, I, 605.

***Герма́ш*** 'кірмаш' (Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Гл. *гірма́ш.*

**Герóй** 'герой' (БРС). Рус. *герóй,* укр. *герóй.* Паводле Фасмера (I, 403), запазычанне з франц. *héros* (<лац. <грэч.). Шанскі (I, Г, 62) мяркуе, што крыніцай запазычання з'яўляецца ням. ці франц. мова. Параўн. яшчэ Рудніцкі, I, 607.

**Герóльд** 'герольд' (БРС). Рус. *герóльд,* укр. *герóльд.* Запазычанне з ням. *Herold* 'тс'. Параўн. яшчэ Фогарашы, SSlav., 4, 1958, 64; Рудніцкі, I, 607.

**Герц** 'знаўца, махляр' (Нас.), *гéрцык* 'тс', *гéрцаць* 'мантачыць, махляваць' (Нас.). Няясна. Насовіч мяркуе, што гэта запазычанне ад яўрэяў, якія гавораць па-нямецку.

**Гéрцаг** 'герцаг' (БРС). Рус. *гéрцог,* укр. *гéрцог.* Запазычанне з ням. *Herzog.* Гл. Фасмер, I, 403; Шанскі, I, Г, 63.

**Герэ́зыя** 'ерась, брахня' (Нас.). Ст.-бел. *герезия, герезыя, гереза* 'тс' (з XVI ст., Булыка, Запазыч.). З польск. *herezja* 'тс' (<лац. *haeresis* <грэч. αἵρεσις). Падрабязна Слаўскі, I, 416—417. Параўн. рус. *éресь,* бел. *éрась,* ст.-слав. ѥресь <грэч. (Фасмер, 2, 24). Паланізмам з'яўляецца і бел. (Нас.) *герэты́к* (ст.-бел. *гереmикъ, геретыкъ,* гл. Булыка, Запазыч.) <польск. *heretyk* <лац. *haereticus* (гл. Слаўскі, I, 416).

**Герэты́к** 'ерэтык'. Гл. *герэ́зыя.*

**Гéстка** 'какетка' (БРС), 'верхняя частка адзення' (Касп.), 'жаночая кофтачка' (Шат.), *гéстка* 'гестка' (Сцяшк.), 'какетка, кофта' (Сл. паўн.-зах.), *гéста* 'сукенка' (Бяльк.). Паходжанне слова не вельмі яснае. Сл. паўн.-зах. лічыць запазычаннем з ням. *Gäschen* 'прарэх', *Geschke* 'камізэлька'.

**Гéта** 'гета' (БРС). Рус. *гéтто,* укр. *гéтто.* Запазычанне

з рус. *гетто*. У рус. мове слова ўзята (у XIX ст.) з іт. *ghetto* (падрабязна аб гісторыі гэтай лексемы ў Шанскага, I, Г, 65).

**Ге́тман** 'гетман' (БРС), ст.-бел. *гетманъ* (з XVI ст., Булыка, Запазыч.). Рус. *ге́тман*, укр. *ге́тьман*. Запазычанне з польск. *hetman*, а гэта з с.-ням. дыял. *häuptmann*. Фасмер, I, 403; вельмі падрабязна Слаўскі, I, 419.

**Ге́тры** 'гетры' (БРС). Рус. *ге́тры*, укр. *ге́три*. Запазычанне з рус. мовы. У рус. мове слова вядома з пачатку XX ст. і ўзята з франц. *guêtre* (паходжанне якога не вельмі яснае). Фасмер, I, 403; Шанскі, I, Г, 65.

**Гешэ́фт** 'гешэфт' (БРС), *гешэ́хт* 'сакрэтныя справы' (Бяльк.). Як і рус. *гешефт*, укр. *гешефт*, запазычанне (магчыма, праз польск. мову) з ням. *Geschäft*. Гл. Рудніцкі, 827; Шанскі, I, Г, 65.

**Гзі́тісе** 'гізаваць; дурэць, насіцца' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *gzić się* 'тс' (падрабязна аб польск. слове Слаўскі, I, 387; параўн. таксама Трубачоў, Эт. сл., 7, 215).

**Гзымс** 'гзымс, выступ на коміне' (БРС, Бяльк., Шат., Сл. паўн.-зах.: *гзымс*). Рус. *гзымс* 'карніз' (з 1712 г.), укр. *гзимс*. Запазычанне з польск. *gzyms* 'тс', а гэта з ням. *Gesims* 'тс'. Фасмер, I, 404; Рудніцкі, 828; Слаўскі, I, 388. Параўн. *гзы́мсік* 'прымурак каля коміна печы, выступ' (Сцяшк.).

**Гі́ба** 'мера палатна па даўжыні асновы ад аднаго вугла сцяны да другога, каля 4—6 метраў', *гіба́* 'тс' (Сцяц.), *гі́ба* (Сл. паўн.-зах., Шатал.). Да *гіба́ць* 'гнуць' (гл.). Параўн. таксама *гіба́ці* 'складаць палатно гармонікам (пры адбельванні)' (Сл. паўн.-зах.).

**Гіба́ла** 'бабка, абрубак дрэва, на якім бондар гне абручы' (Бяльк.). Рус. дыял. *гиба́ло* 'тс'. У іншых слав. мовах значэнне адпаведных слоў адхіляецца ад семантыкі ва ўсх.-слав. лексемах. Да **gybati* 'гнуць' (гл. *гіба́ць*), суф. **-dlo*. Прасл. тып утварэння; агляд у Трубачова, Эт. сл., 7, 216 (пад **gybadlo*).

**Гіба́ць** 'гнуць' (БРС, Нас., Сл. паўн.-зах.), 'мясіць, рабіць (каравай)' (Сцяц.). Адносіцца да прасл. **gybati* (апафанічная форма да **gъbnǫti* : **gubiti*): рус. дыял. *гиба́ть*, укр. дыял. *гиба́ть*, польск. дыял. *gibać*, серб.-харв. *ги̏бати*, ст.-слав. **гыбати** і г. д. (падрабязны агляд форм і дыскусія ў Трубачова, Эт. сл., 7, 216—217). Параўн. яшчэ Фасмер, I, 404; Слаўскі, I, 274—275.

**Гі́бель** 'гібель' (БРС, Касп., Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Ужываецца і як прыслоўе 'безліч'. Рус. *ги́бель*, укр. *ги́бель*, *ги́біль*, ст.-слав. **гыбѣль**, балг. *ги́бел*, серб.-харв. *ги̏бељ* і г. д. Няма ў зах.-слав. мовах. Прасл. дыял. **gybelь*, **gybělь* (вытворнае з суф. *-elь*, *-ělь* ад **gyběti*, **gybiti*). Трубачоў, Эт. сл., 7, 217; Фасмер, I, 404; Слаўскі, I, 283—284. Недакладна Шанскі, I, Г, 66 (польск. *gibiel* сюды не адносіцца, гл. у Слаўскага, там жа).



**Гі́беш**, *гі́бяш* (мн. л. *гібяжы́*) 'цяглі', *гі́бяжы* 'загнутыя канцы палазоў у санях' (Сл. паўн.-зах.). Відавочна, да прасл. **gybežь*; параўн. рус. дыял. *гибёж* 'гнуццё, 'выгнутая частка прадмета', славен. *gibežljiv* 'спрытны, спраўны'. Трубачоў (Эт. сл., 7, 217) выстаўляе прасл. **gybežь*, але без бел. матэрыялу.

**Гібе́ць** 'гібець, прападаць' (БРС, Шат., Сл. паўн.-зах.). Укр. *ги́біти*, рус. дыял. *гибе́ть* 'старанна займацца чым-н.', ст.-чэш. *hyběti* 'гінуць', серб.-харв. (XV ст.) *gibjeti* 'гінуць', дыял. *ги̏бети* 'моцна жадаць'. Прасл. **gyběti* 'тс' (роднаснае з **gybnǫti*, **gybati*). Трубачоў, Эт. сл., 7, 217—218.

**Гі́бкі** 'гібкі' (БРС, Шат., Бяльк.), 'багністы' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *ги́бкий*, польск. *gibki*, серб.-харв. *ги̏бак* і г. д. Прасл. **gybъkъ* — утварэнне з суф. *-ъkъ* ад **gybati* (гл. *гіба́ць*). Падрабязны агляд і матэрыял у Трубачова, Эт. сл., 7, 219. Параўн. Фасмер, I, 404; Слаўскі, I, 275.

**Гібры́д** 'гібрыд' (БРС). Запазычанне (відаць, праз рус. *гибри́д*) з ням. мовы (*Hybride*; першакрыніцай з'яўляецца лац. *hybrida* 'падвойнага паходжання' < грэч.). Параўн. Шанскі, I, Г, 67.

***Гі́вяры*** (мн. л.) 'вянец' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з рус. *ки́вер* 'высокі, цвёрды ваенны галаўны ўбор'.

***Гігалле́*** 'сцяблы і лісце бульбы' (раён Івацэвічаў паміж рр. Шчарай і Ясельдай). Паводле Смулковай (Лекс. балтызмы, 41), запазычанне з літ. *gigẽlis* 'Equisetum arvense, пустазелле, палявы хвошч'. Параўн. і *гіге́ль*, *гі́гель* (гл.). Сюды Смулкова (там жа) адносіць і *дзягі́лля* 'тс' (якое сустракаецца ў той жа мясцовасці). Але фанетычная форма слова не вельмі ясная (непасрэдна з *gigẽlis* яе атрымаць нельга).

**Гіга́нт** 'гігант' (БРС). Рус. *гига́нт*, укр. *гіга́нт*. Паводле Шанскага (I, Г, 67—68), для рус. мовы крыніцай з'яўляецца грэч. γίγας, -αντος (у рус. мове з XIV ст. ужо ў форме *гигантъ*). Фасмер (I, 404—405) мяркуе, што ў новыя часы рус. мова запазычыла гэта слова з ням. *Gigant*. Для бел. і ўкр. непасрэднай крыніцай была, здаецца, рус. мова.

**Гі́гель**[1], лаянкавае слова («*Гі́гель ты!*»). Магчыма, звязана з *гіге́ль* 'палявы хвошч' (гл.).

**Гігель**$_2$ 'хвошч' (віц., Янк. Мат.), *гігель* 'палявы хвошч, Equisetum arvense'(Касп.), *гігéль, гігіль* (Сл. паўн.-зах.). Паводле Непакупнага (Лекс. балтызмы, 29), гэта запазычанне з літ. *gegẽlis, gigẽlis* 'тс'. Здаецца, звязаным з гэтым словам Непакупны (там жа) лічыць і бел. лексему *гігель* (без пэўнага значэння, якая сустракаецца на Гомельшчыне). Параўн. яшчэ *гігаллé* (гл.).

**Гігіéна** 'гігіена' (БРС). Рус. *гигиéна*, укр. *гігієна* Запазычанне з зах.-еўрап. моў (ням. *Hygiene*, франц. *hygiène;* першакрыніцай з'яўляецца грэч. мова). Параўн. Шанскі, 1, Г, 68.

**Гігíкаць** 'гігікаць' (БРС, Нас., Касп., Шат.), *гігікі* 'смешкі' (Бяльк.). Укр. *гигú* 'імітаванне гуку смеху, плачу, іржання каня', *гиготáти, гиготíти* 'ржаць'. Гукапераймальнае.

**Гід** 'гід' (БРС). Рус. *гид*, укр. *гід*. Запазычанне з франц. *guide* 'тс' (ад іт. дзеяслова *guidare* 'весці'), Гл. Шанскі, 1, Г, 69.

**Гідзіць** 'гідзіць' (БРС, Нас., Бяльк.), сюды ж *гідкі* (БРС, Нас., Касп., Бяльк.), *гідлíвы* (БРС, Нас., Шат., Сл. паўн.-зах.), *гідóта* (БРС). Адносіцца да групы прасл. слоў **gyditi*, **gydъ*, **gydъkъ* (аб якіх падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 220—221). Параўн. укр. *гúдити, гидкий, гид*, рус. *гúдить, гúдкий, гид*, в.-луж. *hidźić*, чэш. *hyd* і г. д. Лічыцца роднасным з **gadъ* (<*$g^u\bar{o}d(h)$. Гл. Бернекер, 1, 374; Фасмер, 1, 405; Трубачоў, Эт. сл., 6, 220, але магчымы і іншыя тлумачэнні.

**Гідра** 'гідра', 'жывёла з класа паліпаў' (БРС). Рус. *гúдра*, укр. *гíдра*. Запазычанне (у бел., магчыма, праз рус. мову) з новай латыні ў першай палавіне XIX ст. Слова ўзнікла на базе лац. *hydra* 'гідра, вадзяная змяя, міфалагічная жывёла' (<грэч.). У гэтым значэнні крыніцай рус. слова (>бел.) было ням. *Hydra* (<лац. <грэч.). Гл. Шанскі, 1, Г, 69—70.

**Гіéна** 'гіена' (БРС). Рус. *гиéна*, укр. *гієна*. Запазычана ў рус. мове ў XVIII ст. з лац. *hyaena* або ням. *Hyäne* (раней у XI ст. было і непасрэднае запазычанне з грэч. мовы — *уена*). Бел. і ўкр. у новыя часы, відаць, з рус. Параўн. Шанскі, 1, Г, 71—72. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 405.

**Гіж** 'насякомае Oestrus; муха, якая дакучае каровам у гарачыню; іначай *зыкоўка*' (Нас.), *гіж* 'заедзь (авадні, мухі)' (Бяльк.). Няма ў іншых усх.-слав. мовах. Бел. слова паходзіць з **gyžь*, <**gyzjь*. Аснова **gyz-* сустракаецца яшчэ ў назве такога ж насякомага ў бел. *(гіз)* і н.-луж. мове *(gizk)*. Бел.— луж. **gyz-* — гэта апафанічная форма *(ӣ : ū)* да польск. *giez* 'тс' *(*gъzъ)*. Лексема гэта толькі зах.- і ўсх.-слав. Роднаснае: літ. *gužėti* 'спяшацца, бегчы натоўпам', *guža* 'куча чарвей'. Гл. Слаўскі, 1, 278; Міклашыч, 423; Бернекер, 373; Трубачоў, Эт. сл., 7, 224. Параўн. яшчэ *гіжáць, гізавáць, гізанýць*. Гл. яшчэ *гіз*.



**Гіжáць** 'быць надта ўзбуджаным' (Сцяшк.). Гэты дзеясловы звязаны з назвай насякомага *гіж* (гл.). Такая сувязь зразумелая і звычайная. Параўн. у польск. мове *giez* 'авадзень', *gzić się* 'скакаць, бегаць, сваволіць і да т. п.' (гл. гэта слова ў Слаўскага, 1, 387). Сюды ж і *гіжувáць* 'бегаць ад укусаў сляпнёў, аваднёў і мух' (Бяльк.).

**Гіжáць** 'кішэць' (Сцяц.), *гіжэ́ць* 'кішэць, звінець, гудзець, гаманіць, крычаць' (Сл. паўн.-зах.). Здаецца, гэтыя словы ўзніклі азванчэннем зычных з *кішэць* (гл.). Паводле Трубачова (Эт. сл., 7, 224), бел. дыял. *гіжáць* з'яўляцца ітэратывам-дуратывам на *-jati* ад дзеяслова **gъziti* (з падаўжэннем *ъ* > *у*).

**Гіжувáць** 'бегаць ад укусаў сляпнёў, аваднёў, мух'. Гл. *гіжáць*.

**Гіз**$_1$ 'муха-сляпень' (БРС, КЭС). Паводле Трубачова (Эт. сл., 7, 224), можна рэканструяваць прасл. **gyzъ* 'сляпень' на аснове бел. *гіз*, польск. дыял. *giz* і н.-луж. *gizk* 'тс'. Слова **gyzъ* роднаснае быццам з **gъzъ* (> польск. *giez*). Але параўн. *гіз*$_2$, *гіж*.

**Гіз**$_2$ 'гізаванне' (Сцяшк.). Як ад *гіж* 'авадзень' утвораны дзеясловы *гіжáць, гіжувáць* (гл.), так і ад *гіз* 'авадзень' утвараюцца *гіз* 'гізаванне' (параўн. і польск. *giez* 'авадзень', *giez* 'гізаванне скаціны'), *гізавáць* (БРС, Касп., Шат., Сцяшк.), *гізываць* (Бяльк.). Праўда, можна ставіць пытанне: ці *гіз* не запазычана з польск. *giez?* Аб гэтым можа сведчыць і дзеяслоў *гізануць* 'пабегчы, гізануць', засведчаны ў Сцяшк. з выбухным *г*. Дзеяслоў *гізавáць* Сл. паўн.-зах. лічыць запазычаннем з літ. *gizúoti* 'тс'; няпэўна. Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 7, 224.

**Гізавáць** 'гізаваць, бегаць'. Гл. *гіз*$_2$.

**Гізанýць** 'пабегчы, гізануць' (Сцяшк.). Гл. *гіз*$_2$.

**Гíзка** 'снасць для лоўлі ракаў' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *gižỹs* 'станок для віцця вяровак'.

**Гíзнуць** 'кіснуць' (Сцяц.). Дыялектная змена (азванчэнне *к-* > *г-* і *-с-* > *-з-*) слова *кíснуць*. Азванчэнне нярэдка бывае ў гаворках, калі ў слове ёсць гукі *р, л, н*.

**Гíкаць** 'гікаць', *гік, гíкнуць, гíканне* (БРС). Рус. *гúкать, гик* 'тс', чэш. *hýkati* 'крычаць ад здзіўлення', славац. *hykať* 'плакаць'. Гукапераймальнае (Бернекер, 1, 374; Фасмер, 1, 405; Трубачоў, Эт. сл., 7, 221).

**Гíлем** прыслоўе 'чарадой, гуртам' (Шатал.). Рус. дыял.

*гилем* 'тс'. Магчыма, звязана з рус. *гиль* 'смута, мяцеж', 'лухта' і далей з рус. *гуло́м, огу́лом*. Гл. Фасмер, 1, 405; Буга, РФВ, 70, 250; Трубачоў, Эт. сл., 7, 221.

***Гіле́ць*** 'свавольнічаць, гарэзаваць, дурэць' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *gyliúoti* 'шалець'.

***Гілёнь, гіло́нь*** 'джала' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. выводзіць гэта слова з літ. *gyluonis* 'тс'.

**Гіліць** 'біць мяч гілкай', *гілка* 'палка, якой падкідваюць мяч у час гульні' (Бяльк.). Трубачоў (Эт. сл., 7, 221) вельмі непераканаўча аб'яднаў пад праформай **gyliti* далёкія па семантыцы словы: серб.-харв. *гѝлити* 'шчыкатаць', *гѝльати* 'хадзіць па гразі, вадзе, снегу', рус. дыял. *гили́ть* 'смяшыць, балакаць' і рус. дыял. паўд. *ги́лить, гыли́ть* 'падкідваць мяч', укр. *гили́ти* 'падбіваць мяч гилкою'. Лепш меркаваць, што ў бел. мове і паўд.-рус. гаворках гэта проста запазычанне з укр. Параўн. укр. *ги́лка, гі́лка* 'галінка; палка для падбівання мяча; гульня ў мяч'. Непераканаўча таксама (аб укр. словах) Рудніцкі, 1, 614.

***Гіло́с, гілёс*** 'сляпні, авадні' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., з літ. *gyliùs* 'тс'.

**Гіль**$_1$ 'снягір' (БРС, Касп.), рус. *гиль*, укр. *гиль*, польск. *gil, giel*, чэш. *hýl* і г. д. Этымалогія назвы гэтай птушкі вельмі няпэўная. Старая версія аб запазычанні з ням. (с.-в.-ням.) *gel* 'жоўты' не вельмі надзейная (гл. Фасмер, 1, 406; Слаўскі, 1, 278); іншыя думаюць аб гукапераймальным характары гэтай назвы (агляд версій гл. у Слаўскага і Фасмера). Пытанне аб этымалогіі застаецца адкрытым. Сл. паўн.-зах. прыводзіць форму *гіль* 'тс'. Паводле Трубачова (Эт. сл., 7, 221), **gylь* — прасл. слова (магчыма, ад **gyliti*).

**Гіль**$_2$ 'конскі авадзень' (гродз., гл. Цыхун, Лекс. балтызмы, 52; Сцяшк., Шатал., Жд. 1; параўн. яшчэ Сл. паўн-зах.). Паводле Цыхуна (там жа), запазычанне з літ. мовы (параўн. літ. *gylȳs* 'авадзень'). Трубачоў (Эт. сл., 7, 221) думае пра роднаснасць з прасл. **gylь* 'снягір'; няпэўна.

**Гільдыя** 'гільдыя' (БРС). Рус. *ги́льдия*, укр. *гі́льдія*. Запазычанне з ням. *Gilde* 'тс'. Падрабязны агляд гл. у Шанскага, 1, Г, 72. Бел. слова магчыма, запазычана непасрэдна з рус. мовы. Ст.-бел. *кгелда* 'гільдыя' < польск. *giełda* 'тс' (< ням.); гл. Булыка, Запазыч., 149.

**Гільза** 'гільза' (БРС). Рус. *ги́льза* (з 1803г.), укр. *гі́льза*. Першакрыніцай з'яўляецца ням. *Hülse* 'тс'. Фасмер, 1, 406; Шанскі, 1, Г, 72.



**Гільяціна** (БРС). Рус. *гильоти́на*, укр. *гільйоти́на*. Запазычанне з франц. *guillotine* 'тс' (ад уласнага імя ўрача *Guillotin'a*, які прыдумаў гільяціну ў 1789 г.). Фасмер, 1, 406; Шанскі, 1, Г, 72—73.

**Гіля** 'мера палатна ўдаўжыню' (Шатал.). Няясна.

**Гіля-гіля-гіля** 'выклічнік для адгону гусей' (Шатал.), *гіль, гіля* 'тс' (Янк. III). Ці не звязана з дзеясловам *гілява́ць* 'гізаваць'? Гэты выклічнік ёсць і ў іншых слав. мовах.

**Гілява́ць** 'гізаваць' (Сцяшк.). Так, як ад *гіж* (гл.) утвораны дзеясловы *гіжа́ць, гіжува́ць*, а ад *гіз* 'авадзень' — *гіз* 'гізаванне', *гізава́ць*, так і ад *гіль* 'авадзень' утвараецца *гілява́ць*. Сл. паўн.-зах. прыводзіць форму *гілява́ць* і мяркуе, што гэта запазычанне з літ. *gyliúoti* 'гізаваць, гарэзаваць, забаўляцца'.

**Гіме́ць** 'гусці' (КЭС). Рус. дыял. *гиме́ть* 'тс', *гими́ть* 'гусці; шумець, рабіць шум пры перамяшчэнні'. Трубачоў (Эт. сл., 7, 222) рэканструюе прасл. **gymětі*, **gymiti*, якое, магчыма, мае гукапераймальны характар, але даўнасць і далейшыя сувязі гэтых лексем няясныя.

**Гімн** 'гімн' (БРС). Рус. *гимн*, укр. *гімн*. Магчыма, запазычанне праз польск. мову з лац. *hymnus* (< грэч.), грэч. ὕμνος. Гл. Фасмер, 1, 407; падрабязна Шанскі, 1, Г, 73. Параўн. ст.-бел. *гимнъ* 'тс' (Булыка, Запазыч., 82).

**Гімна́зія** 'гімназія' (БРС). Рус. *гимна́зия*, укр. *гімна́зія*. Паводле Фасмера (1, 407), з польск. *gimnazjum* (мн. л. *gimnazja*) або ням. *Gymnasium* (а гэта з лац. *gymnasium*). Першакрыніцай з'яўляецца грэч. мова. Іншыя даследчыкі прапануюць больш дэталёвую гісторыю слова (падрабязны агляд у Шанскага, 1, Г, 74). Але для *гімназі́ст* (БРС), рус. *гимнази́ст*, укр. *гімназі́ст* крыніцай з'яўляецца рус. *гимнази́ст*, утваранае на рус. *глебе* (Шанскі, там жа).

**Гімна́стыка** (БРС). Рус. *гимна́стика*, укр. *гімна́стика*. Запазычанне з ням. *Gymnastik* (< лац. *gymnastica* < грэч.) або з лац. *gymnastica* (< грэч.) ці франц. *gymnastique* (< лац. < < грэч.). Першакрыніцай з'яўляецца грэч. γυμναστικὴ τέχνη. Гл. Фасмер, 1, 407; Шанскі, 1, Г, 75. Рус. *гимна́ст* (> бел. *гімна́ст*, укр. *гімна́ст*) з франц. *gymnaste* (< лац. < грэч.); Шанскі, там жа.

**Гімнасцёрка** 'гімнасцёрка' (БРС). Запазычанне з рус. *гимнастерка* 'тс', якое ўзнікла ў 1907—1908 гг. (гл. Шанскі, 1, Г, 75; Фасмер, 1, 407, выводзіць рус. слова з *гимнастер* 'гімнаст', але, паводле Шанскага, там жа, такая лексема не існавала наогул).

***Гімóра*** 'хвалько, задавака' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., звязана з рус. *кикúмора* 'пачвара'. Параўн. і *гімóры* 'капрызы' (Жд. 1). Хутчэй, можна меркаваць, ёсць сувязь з *гýмар* (: **гумóры*).

**Гінда** 'лаянка' (Бяльк.: «*Гінда ты сьліпая*»). Няясна. Параўн. *гіндзіцца*.

**Гіндзіцца** 'слабець, марнець' (Янк. III). Няясна.

**Гіндрык** 'назва танца' (Касп.). Няясна; відавочнае запазычанне.

**Гінуць** 'гінуць' (БРС, Касп., Шат., Бяльк.). Укр. *гúнути*, рус. *гúбнуть*, дыял. *гúнуть*, польск. *ginąć, gibnąć*, чэш. *hynouti*, ст.-слав. **гыБнжти, гынжти,** балг. *гúна, гúбна*, серб.-харв. *гѝнути, гѝбнути* і г. д. Прасл. **gybnǫti*, якое суадносіцца з **gybati*. Падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 218—219 (там і літ-ра). Сл. паўн.-зах. лічыць гэта бел. слова запазычаннем з польск. *ginąć*, што неверагодна.

**Гіпнóз** 'гіпноз'. Рус. *гипнóз*, укр. *гіпнóз*. У бел. і укр. мовах, відаць, з рус. У рус. мове, паводле Фасмера (1, 407), з франц. *hypnose* (< лац. *hypnosis* < грэч.). Шанскі (1, Г, 78) мяркуе, што рус. слова ўзята з англ. *hypnosis* (< грэч.).

**Гіпóтэза** 'гіпотэза'. Рус. *гипóтеза*, укр. *гіпóтеза*. Для бел. і ўкр. непасрэднай крыніцай з'яўляецца рус. *гипóтеза* (якое, паводле Фасмера (1, 407), запазычана з польск. *hipoteza* або ням. *Hypothese;* першакрыніца — лац. *hypothesis* < грэч.). Шанскі (1, Г, 80) выводзіць рус. слова з лац. *hypothesis* < грэч.

**Гіпс** 'гіпс'. Рус. *гипс*, укр. *гіпс*. Запазычанне з ням. *Gips* < < лац. *gypsum* < грэч. (гл. Фасмер, 1, 407; Шанскі, 1, Г, 81).

**Гіра**$_1$ 'гіра' (БРС, Шат.), *гíра* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *гúря* (ст.-рус. *гыря*), укр. *гúря*. Магчыма, запазычанне з усх. моў; гл. агляд у Шанскага, 1, Г, 82 (параўн. таксама Фасмер, 1, 408). Гл. яшчэ *гіра*$_2$.

**Гіра**$_2$ 'валасы, чуб' (Шат., Сцяц.). Параўн. укр. *гúря* 'коратка астрыжаны', 'гіра'. Зыходным лічыцца **гы́ря* 'гіра, вага' (незразумелага паходжання; агляд версій у Фасмера, 1, 408; Рудніцкі, 1, 619), а 'валасы; коратка астрыжаны' можа быць метафарай. Параўн. *гірка*.

**Гіравáць** 'кіраваць' (Бяльк.: *гірывáць*). Азванчэннем (*к-* > > *г-* на пачатку слова ў наяўнасці сананта *-р-*) з *кіравáць* (гл.).

**Гірдáць** 'шапялявіць', *гéрдаць* 'гаварыць невыразна' (Жд. 2). Няясна.

**Гірка** *(гы́рка)* 'ніжняя шырокая частка збанка' (Шатал.),



*гíрка* 'збанок з адбітым горлам' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *гúрявий* 'нізка астрыжаны', 'сапсаваны, дрэнны' (Грынч.), *гúрявий гóрщик* 'збанок з адбітай верхняй часткай'. Паходжанне ўсх.-слав. **гыря* няяснае (гл. Фасмер, 1, 408; Рудніцкі, 619; там агляд розных версій). Прынамсі, адносна значэнняў 'нізка астрыжаны і да т. п.' і 'збанок з адбітай верхняй часткай' можна меркаваць, ) семантыка 'збанок з адбітай верхняй часткай' (→ 'ніжняя шырокая частка збанка') выводзіцца з 'нізка астрыжаны'. Тут нейкая метафара, назва па падобнасці. Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 7, 222.

***Гірлéна*** 'вялікі сноп абмалочанага жыта' (Сл. паўн.-зах.). Няясна. Да *гірлянда*?

**Гірлянда** 'гірлянда'. Магчыма, з рус. *гирлянда* (а гэта з ням. *Girlande* або франц. *guirlande;* гл. Фасмер, 1, 408; Шанскі, 1, Г, 82). Параўн. і *гірлянда* 'жаночы галаўны ўбор' (Сцяшк.).

**Гірма** 'кудла, кудлатая, непрычэсаная жанчына' (гродз., гл. Цыхун. Лекс. балтызмы, 52), 'непрычэсаная жанчына' (Сцяшк.). Паводле Цыхуна (там жа), запазычанне з літ. мовы. Ён параўноўвае бел. лексему з літ. *gyrtaušà* 'заняпалы чалавек'.

**Гірмáш** 'кірмаш' (Сцяшк.). Азванчэннем *к-* > *г-* (пры наяўнасці ў слове санантаў *-р-* і *-м-*) з *кірмáш* (гл.).

**Гірóк** 'залом у фуражкь .т.). Няясна.

***Гірóс*** 'дрэнная страва, варыва' (Сцяц.). Няясна. Відавочна, запазычанне.

**Гірса** 'гірса, Bromus secalinus L.' (Нас., Касп., Шат.), *гірсá* (БРС), *гíрса* (Сцяшк.) (агляд форм. гл. Кіс., 26; Непакупны, Лекс. балтызмы, 30), таксама *гірс, дырса*. Для найбольш пашыранага варыянта *гірса* крыніцай з'яўляецца літ. *girsa, gìrsė* (Непакупны, там жа). Варыянтнасць *гірса : дырса* назіраецца ў Гродз. вобл. і ў Польшчы (на Беласточчыне). Для варыянта *дырса* крыніцай з'яўляецца літ. *dìrsė*, але лінгвагеаграфічная праблематыка тут вельмі складаная (гл. Непакупны, там жа). Гл. яшчэ Сл. паўн.-зах. Параўн. яшчэ рус. дыял. *гúрса*, польск. дыял. *girsa* (гл. Фасмер, 1, 408).

***Гісóны*** 'цэментныя трубы для студні' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *caisson* 'кесон', якое трапіла ў гаворку праз рус. *кессóн*, польск. *keson*. Форма *гісóны* адлюстроўвае азванчэнне пачатковага *к-* > *г-*, што нярэдка назіраецца ў запазычаных словах (пры наяўнасці ў слове аднаго з санантаў: *-р-, -л-, -м-* ці *-н-*).

**Гісторыя** 'гісторыя'. Ст.-бел. *гистория, гисторея, гисторыя* (< польск. *historia* < лац. *historia* < грэч. ἱστορία); гл. Булыка, Запазыч., 83. Аднак сучаснае бел. слова можа быць запазычаным і з рус. мовы (аб рус. *исто́рия, гисто́рия* гл. Фасмер, 1, 408; Фасмер, 2, 143). Але бел. *гістары́чны*, укр. *істори́чний* < польск. *historyczny*.

**Гісэ́рня** 'ліцейны завод' (Яшкін: з Я. Коласа, На ростанях). Гэта запазычанне з польск. *gisernia* 'тс' (утварэнне суф. *-nia*) ад *giser* 'ліцейшчык', якое запазычана з ням *Gießer* 'тс', ад *gießen* 'ліць'.

**Гіта́ра** 'гітара'. Рус. *гита́ра*, укр. *гіта́ра*. Запазычанне з польск. *gitara* (або ням. *Gitarre*). Першакрыніцай з'яўляецца грэч. κιθάρα (здаецца, усх. паходжання). Гл. Фасмер, 1, 408; Шанскі, 1, Г, 83. Бел. дыял. форма *гіта́р* (Бяльк.) — вынік дэфармацыі.

**Гіц** 'лісце і сцяблы рознай агародніны'. Гл. *гіча́н*.

***Гіцава́ць*** 'награваць, расплаўляць' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з ням. *hitzen* 'награваць', але выбухное *г-* у бел. слове незразумелае.

**Гіцаль₁** 'сабакар; машэннік' (БРС, Касп., Нас.), таксама ў форме *гі́ццаль* 'сабакар' (Сцяц.), 'гарэза, свавольнік' (Сцяц., Шат.), 'агідны, здрадлівы чалавек' (Сцяшк.) і г. д. У ст.-бел. мове *гицель* 'памочнік ката' (гл. Булыка, Запазыч.). Параўн. таксама рус. дыял. *гі́цель* 'жывадзёр', укр. *гі́цель*. Запазычанне з польск. *hycel* 'тс' (а гэта з ням. дыял. *hitzel*; гл. Брукнер, 174; Фасмер, 1, 408; Булыка, Запазыч., 83).

**Гіцаль₂** 'пятля, прышытая да адзення, каб яго вешаць' (Сцяц. Нар., Сцяц., Шат., Сл. паўн.-зах., Касп., БРС). Па паходжанню аднолькавае з *гіцаль₁* (гл.), але значэнне 'пятля, вешалка' (паводле Сцяц. Нар., 115) развілося менавіта ў бел. мове (гл. там і тлумачэнне семантычнага развіцця). Няпэўным з'яўляецца меркаванне (Сцяц., там жа), што ў бел. мове запазычанне прама з ням., дзе быццам *Hitzel* чытаецца *гіццаль* (?; няясна; у ням. слоўніках вымаўлення *z, tz* аднолькава абазначаюцца як *ts*).

**Гіча́н** 'лісце і сцяблы рознай агародніны' (БРС), таксама *гіч, гічка, гіча́нё, гіча́ннік, гічы́ўнік, гіча́нне, гічэ́ўе* (гл. Смулкова, Лекс. балтызмы, 41). Лічыцца запазычаннем з літ. *gỹčas* 'сцяблы табакі' (Смулкова, там жа). Вельмі няпэўна. Ва ўкр. мове, акрамя форм тыпу *гич, гича́, гича́ль* (таксама *гита́ль*), *гича́лля, гі́чка* (гл. Грынч.), ёсць і *гі́ка* (лем.), *гик* (бойк.), што робіць версію аб літ. паходжанні гэтых слоў неверагоднай.



Паводле Рудніцкага (614), паходжанне гэтых лексем няяснае. Параўн. і *гіча́н* 'качан салёнай капусты' (Сцяшк.).

**Гічка** 'ніжняя шырокая частка збанка' (Шатал.). Па сваіх семантычных сувязях гэта лексема вельмі нагадвае слова *гі́рка* 'тс' (гл.). *Гі́чка*, як і ўкр. *гі́чка*, звязана з *гіч* 'сцяблы, лісце і да т. п.' (гл.). Ва ўкр. мове *гі́чка* азначае 'качан кукурузы без зерня; верхняя частка завязанага мяшка вышэй перавязі; валасы' (гэта апошняе значэнне ўжываецца ў іранічным сэнсе). Для нас важнае тое, што як у слова *гі́рка* (гл.), так і ў слова *гі́чка* (укр. *гі́чка*) у семантычным полі сустракаецца значэнне 'валасы, стрыжка', якое можа суадносіцца (метафарызацыя!) з 'часткай збанка'. Для слова *гі́чка* мы, праўда, чакалі б хутчэй значэння 'верхняя частка збанка'. Але параўн. яшчэ бел. дыял. *гі́чка* 'істужка, тасьма; верх завязанага напоўненага мяшка (вышэй завязкі)' (Сл. паўн.-зах.).

**Гіяцы́нт** 'назва кветкі гіяцынт'. Ст.-бел. *гияцынтъ, гиацинтъ* 'тс'; запазычанне праз польск. *hiacynt* з лац. *hyacinthus* (а гэта з грэч.). Гл. Булыка, Запазыч., 83. Але для сучаснага бел. *гіяцы́нт* можна лічыць крыніцай і рус. *гиаци́нт* (аб якім меркаванні ў Фасмера, 1, 404; падрабязна Шанскі, 1, Г, 65).

**Гла́баць** 'забіраць, грабіць' (Нас.), ***гла́баць*** 'мацаць' (Сцяц. Словаўтв.). Форма з чаргаваннем вакалізму да слав. **globiti* (з рознымі значэннямі; параўн. балг. *сглобя́* 'збіраць, змацоўваць', серб.-харв. *згло̀бити* 'тс', польск. *globić*, чэш. *hlobiti* і г. д.). Гл. Фасмер, 1, 413; Слаўскі, 1, 291. Форма **glabati* вядома ў некаторых слав. мовах. Параўн. і польск. *głabać, głabnąć* (у Брукнера, 143: пад *głobić*) 'схапіць, заграбаць'. Можна ставіць пытанне, ці не запазычана *гла́баць* у бел. мове проста з польск. *głabać* 'тс'. Аб гэтым можа сведчыць выбухное *г* у ***глабаць*** 'мацаць', засведчанае ў Сцяц. Словаўтв. Да славянскіх магчымых сувязей параўн. Трубачоў, Эт. сл., 6, 131—134 (пад **globa, *globati, *globiti*).

**Глабі́на** 'аглобля' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *глабня́, гла́бка, агло́бля (аглабня, аглабіна)*. Гл. **globa, *globati, *globiti* ў Трубачова, Эт. сл., 6, 131—134.

**Глабіна́** глыбокае месца на рацэ; таўшчыня торфу на балоце' (слаўг., Яшкін). У гэтым жа значэнні ўжываецца таксама *глубыня́, глубачы́нь* (слаўг., Яшкін, там жа, 49). Слова *глабіна́* цікавіць нас тым, што ў ім адлюстроўваецца іншая фанетычная форма слова *глуб-окі*, а іменна **glъb-*, якое дае *глоб- (з вакалізацыяй ъ > о)*, а не *глыб-* (як гэта звычайна ў бел. і ўкр. мовах), г. зн. *глабіна* < **глъбіна* (праз **глобіна*). Параўн. таксама *глабо́ка* 'глыбока' (Сл. паўн.-зах.) < **glъb-*.

**Гла́бка** 'верхняя планка ў драбінах воза' (Шатал.). Параўн. укр. *гла́бці* 'лубкі ў санях; сані, абшытыя лубкамі' (Грынч.). Паводле Рудніцкага (637), вытворнае ад асновы **glab-*, якая чаргуецца з **glob-* (аб гэтай апошняй гл. Рудніцкі, 650) і ад якой утварылася таксама *аглобля, галобля* і да т. п. Гл. яшчэ ў Фасмера, I, 413: *глоба́* 'папярочная бэлька, жардзіна, доўгі шост', укр. *глоба́* 'дрэва, якое расце коса; жалезны клін'. Гэта група слоў, паводле Фасмера, адносіцца да рус. *огло́бля*, балг. *сглобя́* 'збіраю, змацоўваю', польск. *globić* і г. д. (аб далейшых сувязях гл. у Фасмера). Параўн. яшчэ Слаўскі, I, 291 (пад *globić*).

**Глабня́** 'аглобля' (Шатал.). Выходным з'яўляецца **глобля* 'аглобля' (з **о-глобля*), якое дысімілявалася ў **глобня́* (*л—л > л—н*). Аб паходжанні гэтай групы слоў і магчымых этымалагічных версіях гл. Фасмер, I, 117—118 (пад *огло́бля*). Няясна, аднак, адкуль у слове *глабня́* выбухное *г*. Параўн. і рус. *огло́бень*. Гэта можа сведчыць не аб дысіміляцыі, а аб іншай суфіксацыі ад адной і той жа асновы.

**Глабо́ка** 'глыбока' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *глабіна́*.

**Глабузда́** 'дурань, ненармальны чалавек' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. параўноўвае гэта слова з літ. *grabūzdas* 'няўклюдны'. Але можна таксама меркаваць, што *глабузда́* роднаснае слову *гламазда́* 'няўмека, бесталковы чалавек і да т. п.' (гл.).

**Глава́** 'глава (у кніжцы і да т. п.)', таксама 'глава (дэлегацыі, урада і г. д.)'. Рус. *глава́*, укр. *глава́*. У бел. і ўкр. мовах запазычанне з рус. *глава́* 'тс'. У рус. мове *глава́* (у кнізе) узята са ст.-слав. **глава**, якое перадае грэч. κεφάλιον. Гл. Фасмер, I, 408; Шанскі, I, Г, 83. У знач. 'глава (урада і г. д.)' таксама з рус. мовы, дзе гэта значэнне развілося, здаецца, незалежна ад ст.-слав. мовы.

**Глагала́ць** 'голасна, рэзка гаварыць, гарланіць' (Нас.). Рус. *глаго́лать* 'гаварыць, казаць', укр *глаго́лати*. Выходным з'яўляецца ст.-слав., ц.-слав. *глаголати* 'казаць, гаварыць' (што з'яўляецца рэдуплікаванай формай: **gol-gol-*), з якога і запазычаны (праз царкоўную літ-ру) усх.-слав. словы. У бел мове націск змяніўся паводле дзеяслоўных тыпаў на *-ati (-аць)*, а семантыка набыла адценне жартаўлівасці.

**Глагалы́** 'першая гадзіна на ютрані': *«глаголы моя внуши Господи»* (Нас.). З ц.-слав мовы (параўн. ст.-слав., ц.-слав. **глаголъ** 'слова'; параўн. Фасмер, I, 409); *глагалы́ чыта́ць* (Нас.) 'іржаць' (аб конях; пераносна). Жартаўлівае ўтварэнне (дакладней, словаўжыванне) на базе царкоўнай тэрміналогіі. Аналагічнае адбылося і ва ўкр. мове. Параўн. укр. *чита́ти глаго́ли* 'стаяць без корму' (Грынч.).



**Гла́гаўка** 'прорва, бездань' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, гукапераймальнае па паходжанню (ад слоў тыпу **глаг!, *глагаць*, якія перадаюць бульканне вады; параўн. з падобнымі гукамі: *глак-та́ць, гло́к-аць*).

**Глаго́ліца** 'глаголіца, назва адной са ст.-слав. азбук'. Рус. *глаго́лица*, укр. *глаго́лиця*. Утварэнне ад ст.-слав. **глаголъ** 'слова'. Гл. Фасмер, I, 409; Шанскі, I, Г, 85 (там і агляд праблематыкі). Як назва азбукі з'явілася прыблізна ў сярэдзіне XIX ст.

**Глаго́ль** 'назва літары «г»'. Рус. *глаго́ль*, укр. *глаго́ль*. Запазычанне са ст.-слав. мовы. Параўн. у Міклашыча, Lex. palaeosl., 128: «**глаголи** *indecl. nomen quartae litterae*» (параўн. і 120: «**вѣдѣ** *indecl. nomen tertiae litterae*»). Гл. яшчэ ў Шанскага, I, Г, 85—86 (падрабязна, але падаецца месцамі не зусім зразумела, а аб форме *глаголи* зусім нічога не гаворыцца).

**Гла́дзіць** 'гладзіць' (БРС, Касп., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Рус. *гла́дить*, укр. *гла́дити*, польск. *gładzić*, *чэш. hladiti*, серб.-харв. *гла̏дити*, ст.-слав. **гладити** 'тс'. Прасл. **gladiti* 'тс'. Гэты дзеяслоў з'яўляецца вытворным ад прыметніка прасл. **gladъ-kъ* (гл. *гла́дкі*) яшчэ да таго, калі гэты прыметнік быў расшыраны суфіксам **-kъ* (*< -*kŭ*). Дакладная паралель у літ. *glósti*, *glódžiu* 'гладзіць'. Гл. Слаўскі, I, 287—288; Фасмер, I, 409; Бернекер, I, 300, Траўтман, 90—91.

**Гла́дкі** 'гладкі' (БРС, Шат., Нас., Бяльк.). Рус. *гла́дкий*, укр. *гла́дкий*, польск. *gładki*, чэш. *hladký*, серб.-харв. *гла̏дак*, ст.-слав. **гладъкъ** 'тс'. Прасл. **gladъ-kъ*, прыметнік з асновай на *-й* і суфіксам *-kъ* (у якім бачаць элемент з дэмінутыўным значэннем). Роднасныя формы: літ. *glodùs*, ст.-в.-ням. *glat* (ням. *glatt*) 'тс', лац. *glaber* 'без валос, лысы' (**ghlədh-ro-*). Агляд форм гл. у Слаўскага, I, 287. Гл. яшчэ Фасмер, I, 409; Траўтман, 90—91; Бернекер, I, 300. Сюды і *гладю́чы* 'сыты, мажны' (Сл. паўн.-зах.).

**Гладу́н** 'Herniaria L.' (Кіс., БРС). Укр. *гладу́н* 'тс' (Макавецкі, 178), *гладу́нка*. Апісанне гл. Нейштадт, Определитель, 235—236. Ад *гла́дкі*, **gladъkъ*, але матывацыя няясная. Расліна ўжываецца як лекавая, таксама для прання шэрсці, мыцця сабак і г. д.

**Глады́ш** 'крынка, збанок без ручкі' (БРС, Касп., Шат., Сл. паўн.-зах.), «обгладившийся, замасленный горшок, особенно употребляемый для молока» (Нас.), 'збан' (Сцяшк. МГ), таксама *гладышка* (Сл. паўн.-зах.). Рус. *гладыш* 'тс' (паводле

СРНГ, 6, 182, зах. і паўн.-зах.), *гладышка* 'тс' (паўд., Даль), укр. *гладишка* 'тс' (таксама *гладуш, гладущик*). Гэтыя словы фармальна звязаны са слав. **glad-* 'гладкі' (+суф. *-*yšь, -yšь-ka*). Такое паходжанне названых лексем можна абгрунтаваць і семантычна. Але Трубачоў (Ремесл. терм., 219—220) мяркуе, што формы з *глад-* не спрадвечныя, а другасныя. Зыходным ён лічыць рэканструяваную прасл. аснову **latŭ-*, **latĭ-*, сувязі якой за межамі слав. моў няясныя. Мяркуем, што няма падстаў адмаўляцца ад простай і зразумелай этымалогіі: *гладыш* <**glad-yšь* (да **gladъ-kъ* 'гладкі'). Адсюль і *гладышыкі* 'жоўтыя гарлачыкі' (Сл. паўн.-зах.).

**Гладыя́тар** 'гладыятар'. Рус. *гладиáтор*, укр. *гладіáтор* 'тс'. Бел. і ўкр. словы, мусіць, запазычаны непасрэдна з рус. мовы ў адносна новыя часы. Рус. *гладиáтор*, паводле Шанскага (І, Г, 86), запазычана з лац. мовы (параўн. лац. *gladiātor* 'тс', вытворнае ад *gladius* 'меч') прыкладна ў першай палавіне XVIII ст.

**Гла́зіць** 'глядзець; зяваць; сурочваць' (Нас.). Рус. *глáзить* 'тс' (гл. СРНГ, 6, 187—188). Паколькі гэты дзеяслоў даволі шырока распаўсюджаны ў рус. мове, а ў бел., акрамя Насовіча, здаецца, больш нідзе не зафіксаваны і паколькі зыходная лексема *глаз* 'вока' не характэрна для бел. мовы (*глаз* як запазычанне з рус. сустракаецца ў некаторых гаворках; параўн. Сл. паўн.-зах.), то можна меркаваць, што гэта запазычанне з рус. *глáзить*. Адносна лексемы *глазу́н* 'разява, разявака', зафіксаванай таксама толькі ў Насовіча, можна сказаць, што і яна ўзята з рус. *глазу́н* 'тс' (гл. Даль), хоць і не выключаецца магчымасць самастойнага яе ўтварэння ў бел. мове на базе запазычанага *глáзіць*.

**Глазу́н** 'разява, разявака' (Нас.). Гл. *глáзіць*.

**Глазу́р** 'сінька' (Шатал.). Гл. *глазу́ра*.

**Глазу́ра** 'глазура' (БРС), 'паліва' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *глазу́рь* 'тс' (на пачатку XIX ст. таксама *глазу́ра*; гл. Шанскі, І, Г, 90). Бел. *глазу́ра* і рус. форма *глазу́ра* запазычаны з польск. *glazura* 'тс' (параўн. Фасмер, І, 410; Шанскі, І, Г, 90), якое паходзіць з ням. *Glasur*. Бел. дыял. *глазу́р* 'сінька', відаць, адлюстроўвае рус. форму *глазу́рь*. Сл. паўн.-зах. лічыць слова *глазу́ра* запазычаннем з рус.

**Глактáць** 'хлябтаць; піць непамерна' (Нас.). Параўн. рус. дыял. *глохтáть* 'жадна піць', таксама *глоктáть* (гл. СРНГ, 6, 203—204). Паводле Фасмера (І, 415), кантамінацыя форм **glъtati* і **lъkъtati*. Параўн. яшчэ *глóкаць* (Нас.).

**Глававі́ты** 'прыдуркаваты' (Шат.). Няяснае слова. Можа,



звязана з групай слоў, якія Слаўскі (І, 281) прыводзіць для польск. *glamać* 'чмякаць у час яды, неакуратна есці' (серб.-харв. *glamàzati* 'багата і не да ладу гаварыць; абдурваць і да т. п.') і якія ён лічыць гукапераймальнымі. Няпэўна. Параўн. яшчэ *гламаздá* (гл.).

**Гламаздá** 'расцяпа' (БРС), 'нехлямяжы' (Касп.), 'бесталковы чалавек', 'бесталкоўшчына' (Нас.), 'няўмека' (Сцяшк. МГ), *глымыздá* 'гламазда, няварты чалавек, лішні ў хаце' (Бяльк.). Вельмі цёмнае слова. Няма дакладных адпаведнасцей ні ў рус., ні ва ўкр. мовах. Можна, аднак, параўнаць з серб.-харв. *glamàzati* 'гаварыць багата і не да ладу.; абдурваць', чэш. *hlomoziti* 'шумець, крычаць' (гэтыя словы Слаўскі, І, 281, лічыць гукапераймальнымі і роднаснымі польск. *glamać*). Вытворныя: *гламаздзéнь* 'бесталковы мужчына' (Нас.), *гламаздзíць* 'набіваць галаву, забіваць бакі; навальваць адно на другое' (Нас.). Параўн. яшчэ *гламавáты*. Падрабязны агляд слав. матэрыялу (у тым ліку і ўласныя імёны тыпу ст.-рус. *Гломазда*) і спробу этымалогіі дае Трубачоў, Эт. сл., 6, 137—138.

**Гламбякі́** 'лісце цыбулі' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. звязвае (запазычанне) з літ. *lámbas* 'лісце буракоў', *lámdyti*, *glámdyti* 'камячыць'.

**Гламяну́ць** 'адкусіць вялікі кусок' (Нар. сл., 29). Паводле Трубачова (Эт. сл., 6, 137: пад **gloměti*), роднаснае са славен. *glométi* 'быць жадным, настойліва вымагаць'.

**Гла́сны** (гіст. назва) 'гласны' (назва пасады) (БРС), укр. *глáсний* 'тс' (Грынч.). Запазычанне з рус. мовы: рус. *глáсный* (назва пасады, якая з'явілася ў 1785 г.: *гласный* 'член гарадской думы'; гл. Шанскі, І, Г, 91). У рус. мове, паводле Шанскага (там жа), утварэнне на базе ст.-рус. *гласьныи* 'той, што мае голас' (ад ст.-слав. **гласъ** 'голас').

**Глатáць** 'глытаць' (Сл. паўн.-зах.). З **glъtati* 'глытаць', але з вакалізацыяй *-ъ-* > *о* (як і ў рус. мове: *глотáть*). Сюды ж *глану́ць* 'глытнуць' (<*глот-нуть* са спрашчэннем групы зычных *-тн-* > *-н-*).

**Глáтка** 'аладка' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. формы гэтага слова: *алáтка, аглáтка, галáтка, глáтка*. Мяркуем, што *глáтка* < *галáтка* (з рэдукцыяй першага галоснага); *галáтка* мае пратэтычнае *г-*; з формы *глáтка* атрымалася *аглáтка* дадаваннем пачатковага *а-* перад групай зычных *-гл-* (інакш мяркуе Мартынаў, ЭСБМ, І, 73: *аглáтка* (Сцяшк.) — кантамінацыя *аладка* і *глытаць* ці *гладкі*).

**Глаўна** 'галоўнае' (Сл. паўн.-зах.: *«глаўна, каб ты...»*). Запазычанне з рус. *глáвное* 'тс' (Сл. паўн.-зах.).

**Глéба** 'глеба' (БРС, Касп., Шат.). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *gleba* 'тс' (вядомае з XVIII ст.), якое паходзіць з лац. *gleba* (дакладней, з с.-лац.). Гл. Кюнэ, Poln., 57; Бернекер, 1, 301; Брукнер, 141.

**Глей** 'глей; гразкая, глеістая глеба' (БРС, Нас., Касп., Шат., Сцяшк. МГ, Бяльк.). Лексема прасл. характару. Параўн. рус. *глей,* укр. *глей,* польск. *glej* (але Слаўскі, 1, 282, думае пра запазычанне польск. слова з усх.-слав. моў), чэш. *glej* 'клей, смала на дрэвах' (гэта слова прыводзіць Трубачоў, Эт. сл., 6, 162, але *g-* указвае на запазычанне), серб.-харв. *глêj* 'сорт гліны'. Трубачоў (там жа) лічыць, што гэта прасл. слова. Але Слаўскі (там жа) больш пераканаўча мяркуе, не прыводзячы матэрыялу з серб.-харв. мовы, што гэта толькі ўсх.-слав. лексема прасл. характару. Абодва даследчыкі бачаць сувязь слав. слова з іншымі і.-е. мовамі: с.-н.- ням. *klei* 'гліна', грэч. *γλία* 'клей'. Гл. яшчэ Бернекер, 1, 310; Фасмер, 1, 411.

**Глёк.** Гл. *гляк.*

**Глíна** 'гліна' (БРС). Слова прасл. характару. Параўн. рус. *глúна,* укр. *глúна,* польск. *glina,* чэш. *hlína,* славац. *hlina,* в.-луж. *hlina,* н.-луж. *glina,* балг. *глúна,* серб-харв. *глúна.* Прасл. **glina* 'тс'. Падрабязны агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 123—124. Лічыцца роднасным з і.-е. мовамі. Параўн. грэч. *γλίνη* 'клей, клейкае рэчыва' і некаторымі іншымі і.-е. формамі. Гл. Бернекер, 1, 304; Слаўскі, 1, 284; Траўтман, 92; Фасмер, 1, 412; Трубачоў, Эт. сл., 6, 125—126.

**Глíст** 'гліст' (БРС). Слова, вядомае ў слав. мовах у двух варыянтах: **glista, *glistъ.* Параўн. рус. *глистá, глист,* укр. *глистá, глист,* чэш. *hlísta, hlíst,* польск. *glista,* балг. *глист, глистá,* серб.-харв. *глúста, глûст* і г. д. У слав. мовах гэта лексема, акрамя 'гліст', азначае таксама 'чарвяк, дажджавы чарвяк і да т. п.' Лічыцца роднасным з прасл. лексемамі **glěvъ, *glьjь* (гл. *глей*). Першапачатковае значэнне 'штосьці слізкае'. Агляд форм і этымалагічных версій гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 128—129. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 413; Слаўскі, 1, 284—285; Бернекер, 1, 304; далей БЕР, 4, 249.

**Глíца** 'вясенні вецер' (БРС, Гарэц., Байк. і Некр.). Не вельмі яснае слова. Паводле Трубачова (Слав. языкозн., V, 178), гэта лексема, магчыма, з'яўляецца праславянскім лексічным дыялектызмам бел. мовы. Паходжанне яго лічыцца няясным. Але можна паспрабаваць аб'яднаць слова *гліца* 'вясенні вецер' з бел. словам *ігліца* 'хвоя, адна хваінка', укр. *глúця*



'хвоя, адна хваінка; драўляная іголка і да т. п.' (Грынч.), польск. *iglica,* ст.-польск. *glica* (гл. Слаўскі, 1, 443—444). Тады *глíца,* магчыма, паходзіць з *іглíца.* Паршапачаткова *глíца* як назва ветру магла быць метафарай ('штосьці калючае, як ігла'). У такім выпадку няма патрэбы гаварыць аб спецыфічна беларускім лексічным дыялектызме праславянскага характару, таму што такая метафарызацыя можа здарыцца ў любы час.

**Гліцэрын** 'гліцэрын' (ТСБМ). Рус. *глицерúн.* У бел. мове часцей ужываецца ў форме *гліцэрына.* У такой жа форме слова раней было вядома і ў рус. мове *(глицерина).* Паводле Фасмера (1, 413), запазычанне з ням. *Glyzerin* 'тс'. Шанскі (1, Г, 94) мяркуе, што запазычанне магло быць як з ням., так і з франц. мовы. Але можна думаць, што бел. форма *гліцэрына* хутчэй указвае на польск. мову як непасрэдную крыніцу запазычання. Параўн. польск. *gliceryna.*

**Глóбус** 'глобус' (БРС). Рус. *глóбус,* укр. *глóбус.* У рус. мове, паводле Фасмера (1, 414), запазычанне з ням. *Globus* (< лац. *globus*) або непасрэдна з лац. мовы. Шанскі (1, Г, 95) лічыць, што запазычанне мела месца хутчэй за ўсё з лац. мовы, але яшчэ ў дапятроўскую эпоху. У бел. мове, магчыма, з рус.

**Глог** 'глог' (БРС). Рус. *глог,* укр. *гліг,* чэш. *hloh,* славац. *hloh,* польск. *głóg,* балг. *глог,* макед. *глог,* серб.-харв. *глôг* і да т. п. Прасл. **glogъ* 'глог і пад.' Звычайна тлумачаць як 'калючая расліна' і ўзводзяць да і.-е. *glōgh-* 'вострыё, калоць' (параўноўваючы з грэч. *γλωχίς* 'вастрыё, калючка', *γλῶχες* 'асцюк коласа'). Гл. Бернекер, 1, 306; Траўтман, 91; Фасмер, 1, 414; Слаўскі, 1, 294—295. Іншыя тлумачэнні менш верагодныя (агляд іх гл. у Слаўскага, там жа; Фасмера; падрабязна ў Трубачова, Эт. сл., 6, 136—137). Махэк$_2$ (168) лічыць прасл. назву **glogъ* словам субстратнага паходжання (з так званага «праеўрапейскага» субстрату).

**Глóкаць.** Гл. *глактáць.*

**Глóтка** 'глотка' (БРС., Касп., Бяльк.). Рус. *глóтка,* укр. *глóтка* 'тс'. Параўн. балг. *глъ́тка* 'глотка; глыток', макед. *голтка* 'тс'. Фасмер (1, 415) адносіў да *глотóк* і параўноўваў з лац. *glūtus* 'глыток', улічваючы магчымасць гукапераймання. Трубачоў (Эт. сл., 6, 159) лічыць вытворным ад асновы дзеяслова *glъtati* 'глытаць'. З пункту гледжання лінгвістычнай геаграфіі цікавым з'яўляецца той факт, што гэта лексема вядома толькі на абмежаванай тэрыторыі (няма ў зах.-слав. мовах) і яе можна аднесці да ліку праславянскіх дыялектызмаў. Гэта тым больш цікава, што дзеяслоў, ад якога ўтворана

данае слова, вядомы на больш шырокай тэрыторыі (уключаючы і зах.-слав. мовы).

**Глузд** 'розум, развага' (БРС). Рус. *глузд*, укр. *глузд*. Слова, якое вядома толькі ва ўсх.-слав. мовах (агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 155—156). Архаічнасць структуры слова (можна меркаваць, што тут маем вынік першапачатковай экспрэсіўнай гемінацыі: **glud-d-* > **gluzd-;* гл. у Трубачова, там жа), нягледзячы на тое, што даная лексема зафіксавана на абмежаванай тэрыторыі, дазваляе аднесці яе да ліку праславянскіх. Суадносіцца з лексемамі **gluda*, **gluta* (так ужо ў Бернекера, 1, 309). Параўн. яшчэ *глузды* ў Касп.

**Глум,** *глуміцца, глуміць* 'псаванне; адходы', 'псавацца, псаваць', 'жартаваць і да т. п.' (БРС, Шат., Касп.). Вельмі разгалінаванае сямейства слоў, вядомае ва ўсіх групах слав. моў. Прасл. **glumiti (sę)*, **glumъ*, **gluma* (агляд вялікага матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 147—149). Зыходным для дзеяслова **glumiti* лічацца назоўнікі **gluma*, **glumъ,* якія даследчыкі суадносяць з **glupъ*. Услед за Бернекерам (1, 308) лічыцца роднасным са ст.-ісл. *glaumr* 'шумная забава', ст.-англ. *glēam* 'забава, жарты, гульня', грэч. χλεύη 'жарт' і г. д. Іншыя версіі лічацца не вельмі надзейнымі. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 416; Слаўскі, 1, 296.

**Глуміць,** *глуміцца*. Гл. *глум*.

**Глу́пства** 'дурасць, лухта, недарэчнасць' (БРС, Касп.). Зыходзячы са словаўтваральных асаблівасцей (суфіксацыя), можна лічыць, што гэта слова запазычана з польск. мовы. Параўн. польск. *głupstwo* з ідэнтычнай семантыкай.

**Глухі** 'глухі'. Агульнаславянскае слова праславянскага характару. Параўн. рус. *глухо́й*, укр. *глухи́й*, чэш. *hluchý*, славац. *hluchý*, в.-луж. *hłuchi*, н.-луж. *głuchy*, польск. *głuchy*, балг. *глух*, макед. *глув*, серб.-харв. *глу̑х*, славен. *glúh*, ст.-слав. **глоухъ**. Прасл. **gluxъ*. Асноўнае значэнне слова 'глухі', але адзначаецца таксама 'пусты', 'бясплодны і да т. п.' Агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 146. Аб гэтым слове напісана многа, але, паводле Трубачова (там жа, 146—147), найбольш пераканаўчым трэба лічыць тлумачэнне прасл. **gluxъ* як экспрэсіўнай змены першапачатковага і.-е. **klous-* (якое адносіцца да групы слав. слоў. **sluxъ*, **slušati*). Такое тлумачэнне даў у свой час Махэк$_2$ (170), які знайшоў у літ. мове адпаведныя дублетныя формы. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 417; Траўтман, 91; Слаўскі, 1, 295—296; Фрэнкель, 1, 159 і наст.

**Глушыць.** Да *глухі* (гл.).



**Глы́ба** 'глыба' (БРС). Слова вядома толькі ў рус. і бел. мовах (гл. Трубачоў, Эт. сл., 6, 160). Паводле Трубачова (там жа), роднаснае слову **glyza* (гл. *глы́за*). Ранейшая версія (роднаснасць з лац. *glēba* 'ком зямлі'), якую прапанавалі Брандт, РФВ, 22, 119; Бернекер, 1, 310; Фасмер, 1, 147, не вельмі верагодная, паколькі тут назіраецца неаднолькавы вакалізм.

**Глыбо́кі** 'глыбокі' (БРС), укр. *глибо́кий*, рус. дыял. *глыбо́кий*, чэш. дыял. *hlyboký*, балг. дыял. *глибо́к* і г. д. Прасл. дыял. **glybokъ*. Гэта вельмі архаічная форма, варыянт да **glǫbokъ* 'тс' (параўн. грэч. γλύφω, лац. *glūbō*). Гл. Фасмер, 1, 417—418; Трубачоў, Эт. сл., 6, 160. Параўн. *глабіна́*.

**Глы́за** 'глыба' (БРС, Байк. і Некр.). Роднаснае слова (як і ў выпадку з *глы́бай*) знаходзіцца толькі ў рус. мове. Параўн. рус. *глы́за* 'глыба, ком', якое засведчана ў многіх дыялектах рус. мовы. Трубачоў (Эт. сл., 6, 161—162) звязвае з **gluza*, **gluzъkь* (**gluza* 'шышка') і **glyba* (гл. *глы́ба*). Раней Трубачоў (Слав. языкозн., V, 178) меркаваў, што гэта слова, магчыма, праславянскі дыялектызм бел. мовы, адзін са шматлікіх словаўтваральных варыянтаў агульнай зыходнай асновы, параўноўваючы *глы́за* з прасл. не толькі **glyba*, але і **gluda* (рус. *глу́да*), прасл. **gluta* (славен. *glúta*).

**Глыну́ць.** Гл. глыта́ць.

**Глыта́ць** 'глытаць' (БРС, Шат., Касп.). Параўн. укр. *глита́ти* 'тс', рус. *глота́ть*, ст.-рус. *глътати*, чэш. *hltati*, балг. *гъ́лтам*, серб.-харв. *гу̏тати*, славен. *goltáti*. Магчыма, сюды і польск. дыял. *glutać*. Прасл. **glъtati* 'глытаць'. Найбольш блізкая роднаснасць з лац. *glūtiō* 'тс'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 6, 157—158; Бернекер, 1, 309—310; Фасмер, 1, 414—415; Махэк$_2$, 169.

**Глядзе́ць** 'глядзець'. Рус. *гляде́ть*, укр. *гляді́ти*, чэш. *hleděti*, ст.-польск. *ględzieć* 'тс'. Звычайна параўноўваюць з такімі формамі, як с.-в.-ням. *glinzen* 'блішчаць', лат. *glenst, glendêt* 'глядзець, шукаць' і інш. Гл. Фасмер, 1, 418; Бернекер, 1, 303; Траўтман, 92—93; Праабражэнскі, 1, 129—130; БЕР, 4, 247—248; Махэк$_2$, 167. Падрабязны агляд праблематыкі гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 123.

**Гляк** 'гаршчок з вузкім горлам' (БРС, Шат., Касп.), *глёк* 'тс' (Бяльк., Нас., Байк. і Некр.). Укр. *глек*, рус. *гляк, глек, глёк, гилёк*, ст.-рус. *гълъкъ, голкъ, голькъ*. Вельмі няяснае слова. Раней рэканструявалі прасл. формы тыпу **glьkъ* і звязвалі гэта слова з прасл. *glьjь* 'глей' (гл.). Так Бернекер, 1, 310; Трубачоў, Ремесл. терм., 217—218. Але Фасмер (1, 412) указвае на тое, што формы гэтага слова перашкаджаюць параўнанню

4. Зак. 2801

з *глей*. Таму некаторыя даследчыкі мяркуюць, што гэта слова, магчыма, не спаконвечнае ў славян, і шукаюць крыніцу запазычання. Так, Гаўлава (гл. Этимология, 1966, 96 і наст.) думае, што ў даным выпадку да славян прыйшло культурнае слова з Міжземнамор'я. Параўн. грэч. лексемы, якія, як мяркуюць, маглі быць запазычаны ў слав. мовы: грэч. *γαυλός* 'збан', *γυλλάς* 'від чашы'.

**Гмах** 'вялікі будынак' (БРС). Слова гэта было ўжо ў ст.-бел. мове. Параўн. *кгмахъ, гмахъ, дмахъ* (з XVI ст.) 'будынак, пакой' (гл. Булыка, Запазыч.). Крыніцай слова з'яўляецца польск. *gmach* 'вялікі будынак', таксама 'кватэра' (а гэта з ням., дакладней, с.-в.-ням.*gemach*). Гл. Слаўскі, I, 297.

**Гнаць** 'гнаць'. Рус. *гнать*, укр. *гна́ти*, чэш. *hnáti*, ст.-слав. **гънати** і г. д. Прасл. **gъnati*. Параўн. літ. *giñti* 'гнаць', ст.-прус. *guntwei* 'гнаць', ст.-інд. *hánti* 'біць' і г. д. Гл. Фасмер, I, 419; Трубачоў, Эт. сл., 7, 196—197. Параўн. *ганя́ць* (гл.).

**Гне́сці** 'давіць, ціснуць'. Слова прасл. характару; адносіцца да вялікага сямейства слоў, якія маюць значэнне 'ціснуць, душыць, мясіць і да т. п.' Параўн. рус. *гнести́*, укр. *гне́сти*, чэш. *hnísti*, польск. *gnieść*, балг. *гнетя́*, макед. *гнете*, серб.-харв. *гњѐсти*, славен. *gnésti*, ст.-слав. **гнести**. Прасл. **gnesti*. Роднасныя формы выключна ў герм. мовах. Параўн. ст.-в.-ням. *knetan*, с.-н.-ням. *kneden* 'мясіць, мяць', ст.-англ. *cnedan*, англ. *to knead*. Гл. Фасмер, I, 421; Траўтман, 93; Бернекер, I, 311—312; Трубачоў, Эт. сл., 6, 165—166.

**Гнеў** 'гнеў' (БРС). Параўн. рус. *гнев*, укр. *гнів*, чэш. *hněv*, в-луж. *hněw*, н.-луж. *gniw*, балг. *гняв*, макед. *гнев*, ст.-слав. **гнѣвъ** і г. д. Прасл. **gněvъ*. Гэта вытворнае ад дзеяслова *gněvati (sę)* 'гнявіць, гневацца' (гл. Трубачоў, Эт. сл., 6, 170). Паходжанне самога дзеяслова не вельмі яснае. Агляд версій гл. у Трубачова, там жа, 168—170. Параўн. яшчэ Мартынаў, ЭИРЯ, II, 1962, 55—57. Фасмер (I, 420), улічваючы рус. дыял. *гнев* 'гніль', ц.-слав. *гнѣвъ* 'тс', лічыў магчымай роднасць з **gniti* 'гніць'. Да **gněvъ* адносяцца і шматлікія вытворныя яшчэ праславянскай эпохі: *гне́ўны, гнявíць* і інш. (прасл. **gnevьnъ, *gněviti* і г. д.; агляд гл. у Трубачова, там жа, 168—170).

**Гніда** 'гніда' (БРС, Касп., Шат.). Рус. *гни́да*, укр. *гни́да*, польск. *gnida*, чэш. *hnida*, серб.-харв. *гњи̏да*, балг. *гни́да* і г. д. Прасл. **gnida* 'тс'. Роднаснымі лічацца літ. *glìnda*, лат. *gnida*, ст.-ісл. *gnit* і г. д. Фасмер, I, 421; Слаўскі, I, 303; Брукнер, 147; вельмі падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 6, 173—174 (дзе дэталёва аналізуецца складаная праблематыка). Звычайна звязвалі гэта слова ў слав. мовах з слав. дзеясловам **gniti* 'гнісці' (агляд гл. у Фасмера і Трубачова), але праблематыка тут больш складаная.



**Гніжэ́ць**, *гніжджэ́ць, гвіжэ́ць* 'кішэць; звінець, гудзець; гаманіць, крычаць' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., з літ. *gnižėti* 'кішэць'. Відавочна, не сюды *гіжэ́ць* 'тс' (гл. пад *гіжа́ць*).

**Гнісці**, *гніць* (БРС, Шат., Касп.). Рус. *гнить*, укр. *гни́ти*, польск. *gnić*, чэш. *hníti*, серб.-харв. *гњи̏ти*, балг. *гния́*, ст.-слав. **гнити**. Прасл. **gniti* (чаргуецца з **gnojь*, гл.). Роднаснымі лічацца ст.-в.-ням. *gnītan* 'расціраць', ст.-грэч. *χνίει* 'распадацца на дробныя кавалачкі'. Падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 6, 176—177; гл. таксама Фасмер, I, 421—422; Слаўскі, I, 302—303. Вытворныя *гнілы, гніль* (**gnilъ, *gnilь*) маюць прасл. характар (Трубачоў, там жа, 174—176).

**Гной** 'нагнаенне; гной' (БРС, Шат., Касп., Нас.). Прасл. **gnojь* 'тс' (параўн. рус. *гной*, польск. *gnój*, чэш. *hnůj*, ст.-слав. **гнои**, балг. *гной* і г. д.). Аблаўтная форма да **gniti* (гл. *гнíсці*). Фасмер, I, 422; Слаўскі, I, 305; Брукнер, 147; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 6, 179.

**Гном** 'гном' (БРС). Рус. *гном*, укр. *гном*. Крыніцай запазычання з'яўляецца ням. *Gnom* 'дух зямлі, гор' (< с.-лац. *gnomus* < грэч.). У бел. і ўкр. мовы слова трапіла, магчыма, праз рус.

**Гнуць** 'гнуць' (БРС). Рус. *гнуть*, укр. *гнути*, польск. *giąć*, чэш. *hnouti* 'пасунуць', балг. *гъ́на* 'гнуць', ст.-рус., рус.-ц.-слав. *гънѹти* 'гнуць' і г. д. Агляд шматлікіх форм у слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 188. Лічыцца роднасным з літ. *gùbti* 'гнуцца' (для прасл. праформай з'яўляецца **gъbnǫti*, якое чаргуецца з **gubiti, *gybnǫti, *gybati*). Гл. Трубачоў, там жа, 166, 216, 218. Параўн. яшчэ Фасмер, I, 422—423; гл. таксама *гіба́ць, гібе́ць, гíбель*.

**Гнэ́мбіць** 'біць, таўчы, караць' (зэльв., Сцяц.). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *gnębić* 'тс' (ст.-польск. *gnąbić*; аб паходжанні польск. слова падрабязна Слаўскі, I, 300—301). Параўн. ст.-бел. *гнембити* 'прыгнятаць' (< польск.; Булыка, Запазыч., 83).

**Гню́сны** 'гнюсны' (БРС, Нас., Шат.). Рус. *гну́сный*, польск. *gnuśny* 'інертны, вялы', балг. *гну́сен*, серб.-харв. *гну̏сан*, ст.-слав. **гнѫсьнъ** і г. д. Прасл. **gnusьnъ*. Вытворнае ад **gnus-*, якое параўноўваецца са ст.-ісл. *gnúa* 'церці', грэч. *χναύω* 'скрэбці, драпаць'. Формы тыпу *гню́сны* (з палатальным *н'*) тлумачац-

ца экспрэсіўным характарам слова. Гл. Фасмер, I, 422; Трубачоў, Эт. сл., 6, 184; Брукнер, 147; Слаўскі, I, 305—306.

**Гняды́** 'гняды', таксама *гнéды* (Шат., БРС). Рус. *гнедóй,* укр. *гнідúй,* польск. *gniady,* чэш. *hnědý,* серб.-харв. *гњêд* і г. д. Прасл. **gnědъ* 'тс'. Этымалогіі гэтага слова няпэўныя (напр., сувязь са ст.-слав. **гнѣтити** 'запальваць' або з словам **gnida* і г. д.; агляд у Трубачова, Эт. сл., 6, 167; Слаўскага, I, 301). Магчыма, нейкі слав. неалагізм па тыпу ўтварэння **blědъ* (гл. Слаўскі, там жа).

**Гняздó** 'гняздо' (БРС, Шат., Касп.). Рус. *гнездó,* укр. *гніздó,* польск. *gniazdo,* чэш. *hnízdo,* серб.-харв. *гнијèздо,* балг. *гнездó,* ст.-слав. **гнѣздо** і г. д. Прасл. **gnězdo.* Этымалогія слова вельмі няпэўная. Звычайна думаюць пра сувязь з і.-е. **ni-sdo* 'гняздо' (параўн. ст.-в.-ням. *nēst,* лац. *nīdus,* ст.-інд. *nīḍá* і г. д.), але няясна, як атрымалася слав. форма (агляд версій гл. Фасмер, I, 420; Слаўскі, I, 302; Трубачоў, Эт. сл., 6, 171—173).

**Гóгат** 'гогат' (БРС, Касп., Нас.), *гагатáць.* Параўн. рус. *гóгот, гоготáть,* укр. *гоготáти, гоготíти,* польск. *gogotac* і г. д. Гукапераймальнае ўтварэнне. Падрабязны агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 6, 195—196. Гл. яшчэ Фасмер, I, 425; Траўтман, 74; Бернекер, I, 319; Шанскі, I, Г, 114.

**Год** 'год' (БРС, Шат., Сцяшк. МГ). Рус. *год,* укр. дыял. *год* 'тс'. Паводле Трубачова (Эт. сл., 6, 192), першапачатковае значэнне 'падыходзячы час' і сувязь з дзеясловам прасл. **goditi* (тут даецца агляд і семантыкі дзеяслова). Вытворным з'яўляецца **godina,* якое з рознай семантыкай ('час', 'гадзіна', 'надвор'е', 'дождж' і г. д.) сустракаецца ва ўсіх слав. мовах (агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 187—188; гл. яшчэ Талстой, ВЯ, 1963, I, 33 і наст.).

**Гóдзе** 'годзе' (БРС, Шат., Касп.), *гóдзя* 'тс' (Бяльк.). Рус. дыял. *гóде,* укр. *гóді* 'тс'. У іншых слав. мовах (агляд у Трубачова, Эт. сл., 6, 187) значэнне адпаведных слоў адрозніваецца ад семантыкі ўсх.-слав. лексем. Паводле Трубачова (там жа), гэта вытворнае (прасл. **godě*) ад асновы **godъ,* для якой Трубачоў (там жа, 192) рэканструюе першапачатковае значэнне 'падыходзячы час'.

**Гóдны** 'годны, прыдатны' (БРС, Шат., Касп.). Рус. *гóдный,* укр. *гíдний.* Слова гэта вядома ва ўсіх слав. мовах і мае вельмі разгалінаваную семантыку (дэталёвы агляд у Трубачова, Эт. сл., 6, 192—193). Паводле Трубачова (там жа), большасць гэтых слав. лексем утворана ад прасл. **goditi* (дзеяслова з шырокай семантыкай; гл. Трубачоў, там жа, 188—190).



**Гóжы** 'прыдатны', 'прыгожы', 'варты' (БРС, Касп., Нас.). Усх.-слав. слова (параўн. рус. *гóжий* 'тс', укр. *гóжий* 'тс'). Агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 6, 190 (праформа **godjьjь;* вытворнае ад дзеяслова **goditi;* параўн. *гадзíць*).

**Гóйдаць.** Гл. *гайдáць.*

**Гóйсаць** 'бегаць' (БРС), *гайсáць, гасáць, гóцаць, гацáць* (гл. Сцяшк. МГ, Сл. паўн.-зах., Жд. I, Нас., Шат.). Магчыма, гукапераймальнага (выклічнікавага) паходжання.

**Ґол** 'гол' (БРС). Рус. *гол,* укр. *гол.* Запазычанне (магчыма, праз рус. мову) з англ. *goal* 'тс'. Параўн. Шанскі, I, Г, 116.

**Гóлад** 'голад' Рус. *гóлод,* укр. *гóлод,* польск. *głód,* чэш. *hlad,* серб.-харв. *глâд,* ст.-слав. **гладъ**. Прасл. **goldъ* 'тс'. Параўн. ст.-інд. *gárdha-* 'смага, прага'. Далей параўноўваюць з ц.-слав. **жльдѣти, жьлдѣти** 'прагнуць, жадаць', серб.-харв. *жýдјети* 'тс'. Гл. Фасмер, I, 430; Слаўскі, I, 294; Трубачоў, Эт. сл., 6, 199—201.

**Гóлас** 'голас' (БРС). Рус. *гóлос,* укр. *гóлос,* польск. *głos,* чэш. *hlas,* серб.-харв. *глâс,* балг. *гласът.* Прасл. **golsъ;* утварэнне на *-s-* ад кораня **gol-* (параўн. слав. **gol-gol-ati* 'гаварыць', **gol-golъ* 'слова, мова'), магчыма, гукапераймальнага характару. Гл. Фасмер, I, 431; Слаўскі, I, 292; Трубачоў, Эт. сл., 6, 219—220.

**Гóлле.** Гл. *галлё.*

**Гóлуб** 'голуб'. Рус. *гóлубь,* укр. *гóлуб,* польск. *gołąb,* чэш. *holub,* серб.-харв. *гôлûб,* ст.-слав. **голѫбь**. Прасл. **golǫbь.* Лічыцца словам з не вельмі яснай этымалогіяй (агляд версій гл. у Слаўскага, I, 312—313; Фасмера, I, 432—433; Трубачова, Эт. сл., 6, 216—217). Можна прыняць версію, што прасл. **golǫbь* вельмі нагадвае лац. *columba, columbus* 'тс', але хутчэй гэта паралельныя ўтварэнні (Трубачоў, там жа).

**Гóлы** 'голы' (БРС). Рус. *гóлый,* укр. *гóлий,* польск. *goly,* чэш. *holý,* балг. *гол,* ст.-слав. **голъ**. Прасл. **golъ.* Лічаць роднасным са ст.-в.-ням. *kalo,* ням. *kahl* 'лысы; голы' (так Развадоўскі, Studia, 83—84). Праблематыка, магчыма, больш складаная. Гл. яшчэ Слаўскі, I, 314; Фасмер, I, 433—434; крытычны агляд у Трубачова, Эт. сл., 7, 14—15.

**Гóман.** Гл. *гаманíць.*

**Гóнар** 'гонар' (БРС, Шат., Касп.). Запазычанне з польск. мовы (параўн. польск. *honor* 'тс' < лац. *honor*). Слова вядома ўжо ў ст.-бел. мове (гл. Булыка, Запазыч., 84). Параўн. яшчэ рус. *гóнор* 'тс' (XVII—XVIII стст.) < польск. < лац. (Фасмер, I, 437).

**Го́нты** 'гонты' (БРС, Шат., Касп.), адз. л. *го́нта*. Рус. (з Пятроўскай эпохі) *гонт, го́нот,* укр. *гонт*. Запазычанне з польск. *gont* або чэш. *hont* (першакрыніцай з'яўляецца ням. *gant* 'перакладзіны'). Гл. Фасмер, I, 438.

**Го́пацъ** 'гопаць' (БРС, Шат.). Ад выклічніка *гоп*! Параўн. і рус. *гоп!*, укр. *гоп*! Мяркуюць, што выклічнік — магчымае запазычанне (як і польск. *hop*) з ням. *hopp*! (так Брукнер, 172; Фасмер, I, 438). Слаўскі (I, 428) лічыць, што гэта ўсё самастойныя выклічнікавыя ўтварэнні. Гл. яшчэ Шанскі, I, Г, 129.

**Го́ра** 'гора'. Рус. *го́ре,* укр. *го́ре,* польск. *gorze,* чэш. *hoře,* ст.-слав. **горѥ**. Прасл. **gor'e* 'тс'. Роднасным з'яўляецца прасл. **gorěti* 'гарэць', 'пячы'. Гл. Фасмер, I, 440; Слаўскі, I, 322; Трубачоў, Эт. сл., 7, 40—41. Параўн. семантычную паралель: слав.**pečalь* (ад дзеяслова **pekti* 'пячы').

**Го́рад** 'горад' (БРС, Касп.). Рус. *го́род,* укр. дыял. *го́род,* польск. *gród,* чэш. *hrad,* балг. *гра́дът,* серб.-харв. *гра̂д,* ст.-слав. **градъ**. Параўн. літ. *gar̃das* 'агароджа', ст.-інд. *gṛhás* 'дом', гоц. *gards* 'дом' і г. д. Падрабязны агляд у Фасмера, I, 443; гл. і ў Трубачова, Эт. сл., 7, 37. Крыніцай з'яўляецца і.-е. **ghordho-* або **ĝhordho-* (аналіз у Трубачова, там жа, 37—38).

**Го́ран**, *гарно́* 'горан' (БРС, Нас., Шат., Касп., Сл. паўн.-зах.). Рус. *горн, го́рон,* укр. *горно́, го́рен, горн*. Далей сюды адносяцца польск. *garnek,* чэш. *hrnek* 'гаршчок' і г. д. Роднаснымі з'яўляюцца лац. *fornus* 'печ', ст.-інд. *ghṛṇá-* 'жар'. І.-е. **g$^u$hṛno-* (да дзеяслова **g$^u$her-* 'гарэць'). Гл. Фасмер, I, 442; вельмі падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 210—211.

**Горб** 'горб'. Параўн. рус. *горб,* укр. *горб,* польск. *garb,* чэш. *hrb,* балг. *гъ́рбът,* ц.-слав. **гръбъ**. Прасл. **gъrbъ* (**gṛbъ*). Роднасныя формы: ст.-прус. *garbis* 'гара' (але паходжанне яе няпэўнае; не выключаецца запазычанне з польск. мовы). Гл. Фасмер, I, 439; Бернекер, I, 368—369; Траўтман, 78; асабліва Трубачоў, Эт. сл., 7, 199-201 (які не выключае экспрэсіўнае паходжанне слова).

**Горд** 'чорная каліна'. Гл. *гарда́*.

**Го́рды** 'горды'. Рус. *го́рдый,* укр. *го́рдий,* польск. *gardy,* чэш. *hrdý,* балг. *гръд,* серб.-харв. *гр̂д,* ст.-слав. **грьдъ**. Прасл. **gъrdъ* (**gṛdъ*) 'тс'. Агляд гл. у Фасмера, I, 440; Слаўскага, I, 405—406, асабліва Трубачова, Эт. сл., 7, 206—207. Апошні прымае, як здаецца, экспрэсіўна-інавацыйнае паходжанне слова **gъrdъ* і ўказвае на праблематычнасць і.-е. паралелей.

**Го́ркі** 'горкі' (БРС, Шат., Касп.). Рус. *го́рький,* укр. *гірки́й,* польск. *gorzki,* чэш. *hořký,* балг. *го́рък,* серб.-харв. *го́рак*. Прасл.**gorьkъ* 'тс' звязана з **gorěti* 'гарэць' (першапачаткова **gorьkъ* 'пякучы'). Гл Фасмер, I, 445; Слаўскі, I, 323—324; Трубачоў, Эт. сл., 7, 55—56.



**Го́рла** 'горла'. Рус. *го́рло,* укр. *го́рло,* польск. *gardło,* чэш. *hrdlo,* серб.-харв. *гр̏ло,* балг. *гъ́рло,* ц.-слав. **гръло**. Прасл. **gъrdlo*. Параўн. літ. *gurklỹs* 'валлё, кадык', ст.-прус. *gurcle* 'горла'. Усё да і.-е. **g$^u$ṛ-tlo* (ад кораня **g$^u$er-* 'жэрці, паглынаць'). Гл. Фасмер, I, 441—442; Слаўскі, I, 257; Трубачоў, Эт. сл., 7, 204—205.

**Горн** 'музычны інструмент' (БРС). Рус. *горн,* укр. *горн*. У рус. мове запазычанне з ням. *Horn* у XIX ст. Бел. і ўкр. словы ўзяты з рус.

**Го́рны**$_1$ 'гаротны, сумны' (БРС). Гэта слова ў такім значэнні не сустракаецца ў іншых слав. мовах. Яго няма ў аглядзе Трубачова (Эт. сл., 7, 57—58), дзе разглядаецца матэрыял усіх слав. моў. Таму можна думаць, што гэта самастойнае ўтварэнне на бел. глебе ад *го́ра* (< прасл. **gor'e* 'гора, бяда і да т. п.').

**Го́рны**$_2$ 'фанабэрысты, выхвальны', 'прыгожанькі, прыгожы' (КЭС). Рус. дыял. *гордно́й, го́рдный* 'горды', *горно́й, го́рный* 'тс', польск. *garny* 'горды, пераборлівы', серб.-харв. *гр̏дан, гр̏дан* (у розных значэннях) і г. д. Прасл. **gъrdьnъjь*, якое з'яўляецца вытворным пры дапамозе прыметнікавага суфікса **-ьnъ* ад прасл. прыметніка **gъrdъ*. У бел. мове (як і некаторых іншых слав.) адбылося спрашчэнне кансанантнай групы *-рдн-* > *-рн-*. Агляд форм, семантыкі гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 208.

**Го́стры.** Гл. *во́стры*.

**Госць** 'госць' (БРС, Шат.). Рус. *гость,* укр. *гість,* польск. *gość,* чэш. *host,* серб.-харв. *го̂ст,* ст.-слав. **гость**. Прасл. **gostь*. Роднасныя формы: гоц. *gasts* 'чужы, чужаземец', ням. *Gast* 'госць', лац. *hostis* 'чужы, госць', 'чужаземец, вораг'. Гл. Бернекер, 337; Траўтман, 80; Фасмер, I, 447; Слаўскі, I, 328; Трубачоў, Эт. сл., 7, 67—68.

**Го́цаць.** Гл. *го́йсаць*.

**Го́шча** 'густа зарослая лесам даліна'. Гл. *га́шча*.

**Граб** 'назва дрэва Carpinus betulus' (БРС, Шат., Касп.). Прасл. форма **grabъ* (параўн. яшчэ рус. *граб,* укр. *граб,* польск. *grab*) і таксама **grabrъ* (балг. *га́бър,* славен. *gâber,* чэш. *habr*). Роднасныя формы: ст.-прус. *wosigrabis* 'брызгліна', макед. γράβιον 'драўніна пэўнай пароды дуба і г. д.' Гл. Фасмер, I, 449. Параўн. агляд у Трубачова (Эт. сл., 7, 99—100),

які думае пра роднаснасць са слав. *grebǫ, *grebti (назва ўзнікла, магчыма, у перыяд даўняга збіральніцтва).

**Граба́р** 'землякоп' (БРС, Шат., Касп.). Ст.-бел. *кграбаръ, грабар* 'тс', вядомае ў помніках з XVI ст. Запазычанне з польск. *grabarz* 'тс', а гэта з с.-в.-ням. *grabaere* (ням. *Gräber*). Гл. Слаўскі, 1, 333; Булыка, Запазыч., 150—151; Рудніцкі, 715.

**Гра́біць** 'грабіць' (БРС). Параўн. рус. *гра́бить*, укр. *гра́бити*, польск. *grabić*, балг. *гра́бя*, ст.-слав. **грабити** і г. д. Прасл. **grabiti* 'хапаць, грабіць, браць; зграбаць і да т. п.' Да і.-е. **ghrōbh-*; параўн. ст.-інд. *grāháyati* 'прымусіць схапіць'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 97; Фасмер, 1, 449—450; Траўтман, 95—96; Бернекер, 1, 344; Слаўскі, 1, 333—334. Ад гэтага прасл. дзеяслова ўтворана **grabja, *grabji* 'граблі, грэбень' ('тое, чым зграбаюць'): бел. *гра́блі*, рус. *гра́бли*, укр. *грабли́*, польск. *grabie*, чэш. *hrábě* і г. д.

**Гра́блі** 'граблі'. Гл. *гра́біць*.

**Грабя́ст** 'жэрдзі' (Касп.). Гл. *драбёст*.

**Град** 'град'. Параўн. рус. *град*, укр. *град*, польск. *grad*, чэш. *hrad*, балг. *град*, серб.-харв. *гра̏д*, ст.-слав. **градъ**. Прасл. **gradъ* 'тс'. І.-е. **grōdō-* 'град': параўн. арм. *karkut* 'тс' (< **ga-grōdo*), лац. *grandō* 'град'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 101 (з літ-рай). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 450; Слаўскі, 1, 336; Бернекер, 344.

**Града́** 'града (у розных знач.)' (БРС, Шат., Касп.). З прасл. **gręda*. Параўн. рус. *гряда́*, укр. *гряда́*, польск. *grzęda*, чэш. *hřada*, балг. *греда́* і г. д. Прасл. **gręda* (значэнні: 'бэлька, перакладзіна, мураваная сцяна, градка, мель, востраў, узвышша і да т. п.'). Роднасным лічацца літ. *grindà* 'дошка для падлогі і да т. п.', лац. *grunda* 'дах, страха, дахавыя кроквы', ст.-ісл. *grind* 'рама і г. д.' Корань **gręd-* мае аблаўтную форму **grǫd-*, якая прадстаўлена ў бел. *груд* 'узгорак, груда', *гру́да* 'глыба, кавалак, камяк', рус. *гру́да*, укр. *гру́да́*, чэш. *hruda, hrud*, польск. *gruda, grąd* і г. д. Агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 120—122, 146—148 (з літ-рай).

**Гра́дус** 'градус' (БРС). Ст.-бел. *градусъ* 'ступень'. Паводле Булыкі (Запазыч., 85), запазычанне з лац. *gradus*. З лац. мовы запазычана і рус. *гра́дус*. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Г, 156.

**Гразі́ць** 'гразіць'. Прасл. **groziti* 'гразіць і г. д.' (агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 143): рус. *грози́ть*, укр. *грози́ти*, балг. *грозя́*, серб.-харв. *гро̀зити*. Дзеяслоў утвораны ад прасл. **groza* 'страх; жах; штосьці страшнае; пагроза'; параўн. бел. *граза́* 'граза; навальніца', укр. *гроза́*, рус. *гроза́*, чэш. *hrůza* 'страх, жах', польск. *groza* 'небяспека', балг. *гроза́* 'штосьці страшнае', ст.-слав. **гроза** 'жах'. Магчыма, гукапераймальнага паходжання (**g-r-g-*: параўн. грэч. γοργός 'страшны'). Трубачоў, там жа, 141—142 (з аглядам літ-ры). Сюды ж адносіцца і бел. прыметнік *гро́зны* (прасл. **grozьnъ*; гл. Трубачоў, там жа, 144).



**Гразь** 'гразь' (БРС, Шат., Касп.). Рус. *грязь*, укр. *грязь*, ст.-рус. *грѧзь*, чэш. *hřez*, серб.-харв. *грêз*, славен. *grêz*. Прасл. **gręzь* суадносіцца з дзеясловамі **gręznǫti, *gręziti* (бел. *гра́знуць*, рус. *гря́знуть*, чэш. *hřeznouti*, серб.-харв. *грѐзнути* і г. д.). У аснове ляжыць **gręz-*, якое параўноўваюць з літ. *grimsti* 'тануць'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 125—126; Фасмер, 1, 467—468. Аблаўтны варыянт — **grǫz-* (напр., **grǫznǫti, *grǫzъ*): параўн. бел. *гру́знуць, груз*, рус. *гру́знуть, груз*, укр. *гру́знути, груз* (апошняе азначае 'балота'). Гл. Фасмер, там жа; Трубачоў, там жа, 151. Адносна ўкр. (resp. бел.) *грязь* не пераконвае Слаўскі, 1, 361—362.

**Грак** 'птушка грак' (БРС, Шат., Касп.). Параўн. укр. *грак*, польск. *grak* 'тс'. Параўн. яшчэ балг. *гра́ка* 'варона'. Утварэнне ад слав. гукапераймальнага дзеяслова **grakāti* 'каркаць', 'лаяць; крычаць, голасна размаўляць і да т. п.' Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 102—103; Фасмер, 1, 451. Сюды ж і бел. *гра́кнуць* 'грукнуць', *гра́кнуцца* 'ўпасці' (БРС, Касп.).

**Гра́кнуць** 'грукнуць'. Гл. *грак*.

**Грамада́** 'натоўп, гурт; вясковая абшчына' (БРС, Шат.), таксама *грама́да* (Касп.). Прасл. **gromada* (: **gramada*). Параўн. рус. *грома́да*, укр. *грома́да*, польск. *gromada*, чэш. *hromada*, далей паўд.-слав. (пераважна ў значэнні 'куча', 'каменне', 'гара' і да т. п.): балг. *грома́да*, серб.-харв. *гро̀мада*, *грома́да*, славен. *grmáda, gromáda*. Роднаснае: ст.-інд. *grāma-* 'натоўп, гурт; вёска, абшчына', лац. *gremium* 'бярэмя, ахапак, звязак'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 103; Фасмер, 1, 460—461; Слаўскі, 1, 347—348 (апошні спецыяльна адзначае сувязь з балт. мовамі, аднак Трубачоў, там жа, мяркуе, што літ. *grāmatas* хутчэй запазычанне са слав.).

**Грамадзя́нін** 'грамадзянін' (БРС). Укр. *громадя́нин* 'тс'. Утварэнне ад *грамада́* (укр. *грома́да*). Параўн. Рудніцкі, 740.

**Гра́мата** 'грамата' (БРС). Рус. *гра́мота*, укр. *гра́мота*, ст.-рус. *грамота*. Запазычанне з грэч. γράμματα 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 451; вельмі падрабязна Шанскі, 1, Г, 158.

**Грама́тыка** (БРС). Рус. *грамма́тика*, укр. *грама́тика*. У ст.-бел. мове гэта слова ўжываецца, напр., у Скарыны (гл. Булыка, Запазыч., 85). Першакрыніцай запазычання з'яўляецца

грэч. мова. Сучасная форма слова адлюстроўвае лац. пасрэдніцтва *(grammatica)*. Непасрэдна гэта слова ўзята з польск. мовы (< лац.). Гл. Фасмер, 1, 451; Шанскі, 1, Г, 157.

**Граната** 'граната'. Запазычанне з рус. *граната* 'тс', а гэта з ням. *Granate* 'тс' (< іт. *granata*) або непасрэдна з іт. Гл. Фасмер, 1, 452; Шанскі, 1, Г, 159. Ст.-бел. *кгранатъ* 'граната' ўзята з польск. *granat* (< ням. < іт.); гл. Булыка, Запазыч., 151.

**Гранатовы** 'цёмна-сіні' (Сцяц.). Ужо ў ст.-бел. *кгранатъ, гранатъ* 'гранат; цёмна-сіняя тканіна', *кгранатовый* (Булыка, Запазыч., 151). Запазычанне з польск. *granatowy* 'тс' (Булыка, там жа), як і ўкр. *гранатóвий* 'тс' (націск!). Аб паходжанні ўсёй групы слоў гл. Слаўскі, 1, 339 (с.-в.-ням. *grān, gran* 'назва пэўнай барвы').

**Граніца** 'граніца', 'мяжа' (БРС, Шат., Касп.). Рус. *граница*, укр. дыял. *границя*. Прасл. **granica*, вытворнае ад **granь* 'вугал, насечка, грань'. Гэта апошняе паходзіць з праформы **ghrō-n-* (агляд форм у слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 104—106, які мяркуе, што асабліва трэба звярнуць увагу на значэнне 'галінка', што дае магчымасць тлумачыць паходжанне гэтай асновы ад і.-е. **ghrē-: *ghrō-, *ghə-* ''расці'). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 452—453; Слаўскі, 1, 339—340; Бернекер, 1, 346; Шанскі, 1, Г, 160.

**Грань** 'грань'. Гл. *граніца*.

**Граф** 'граф' (БРС). Рус. *граф*, укр. *граф*. У бел. мове (параўн. ст.-бел. *кграфъ* 'граф', вядомае з XVI ст.) запазычанне з польск. *graf* (< ням. *Graf*; параўн. Слаўскі, 1, 336), гл. Булыка, Запазыч., 151 (не пераконвае Фасмер, 1, 453, які адмаўляе магчымасць польск. крыніцы непасрэдна для ўсх.-слав. моў).

**Графін** 'графін' (БРС). Рус. *графин*. Відавочна, у бел. мове запазычанне непасрэдна з рус. (< ням. *Karaffine* або франц. *carafine*; крыніцай з'яўляецца іт. *caraffina*, запазычанае з араб. крыніцы). Гл. Фасмер, 1, 453; Шанскі, 1, Г, 163.

**Граць.** Гл. *іграць*.

**Грозны.** Гл. *граза*.

**Гром** 'гром'. Сюды ж *грымець*. Параўн. рус. *гром, греметь*, укр. *грім, гриміти*, польск. *grom, grzmieć*, чэш. *hrom, hřměti*, ст.-слав. **громъ, грьмѣти**. У аснове ляжыць і.-е. гукапераймальнае **ghrem-: *ghrom-* (апафанічныя варыянты). Параўн., напр., грэч. χρεμίζω: χρόμος 'шум, гук'. Сюды ж і бел. *грамець*



(але з іншай рэфлексацыяй *-рь-*). Слаўскі, 1, 347, 372—373; Фасмер, 1, 455, 460.

**Гронка** 'гронка' (БРС). Ст.-бел. (з XVII ст.) *кгроно, гроно* 'тс'. Запазычанне з польск. мовы; параўн. польск. *grono* 'тс' (аб польск. слове гл. Слаўскі, 1, 350—351). Форма *грон(к)а* можа быць і спрадвечнай (параўн. Трубачоў, Эт. сл., 7, 139, дзе прыводзяцца і ўсх.-слав. словы), але аб запазычанні сведчыць выбухное «г». Гл. яшчэ Булыка, Запазыч., 152.

**Грошы**, *грош* 'грошы'. У бел. мове запазычанне непасрэдна з польск. *(grosz)* у XV ст. Гл. Булыка, Запазыч., 86. Параўн. рус. *грош*, укр. *гріш*. Польск. *grosz* < ст.-чэш. *groš* < с.-лац. *grossus* Гл. яшчэ Слаўскі, 1, 352; Брукнер, 159. Параўн. Фасмер, 1, 462.

**Грубка** 'галандская печ'. Рус. *груба*, укр. *груба, грубка*. Запазычанне з польск. *gruba, grubka*, а гэта з ням. (с.-в.-ням.) *gruobe*. Гл. Рудніцкі, 741; Фасмер, 1, 462.

**Грубы** 'грубы'. Параўн. рус. *грубый*, укр. *грубий*, чэш. *hrubý*, польск. *gruby* (дыял. *gręby*), балг. *груб*, ст.-слав. **гржбъ**. Прасл. **grǫbъ, *grubъ* (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 7, 145—146). Роднаснымі формамі лічацца літ. *grùbti grumbù* 'калець, дубець', 'рабіцца няроўным, ухабістым'. Падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 145—146; Фасмер, 1, 462—463; Траўтман, 99—100; Бернекер, 1, 355.

**Груган** 'крумкач, груган' (БРС, Касп.). Відавочна, назва гукапераймальнага характару.

**Груд** 'узгорак, груда'. Гл. *града*.

**Груда** 'глыба, кавалак, камяк'. Гл. *града*.

**Грудзі** 'грудзі'. Параўн. рус. *грудь*, укр. *грудь, груди*, ст.-польск. *gręclzi*, чэш. *hruď*, балг. *гръд, гърди* серб.-харв. *грŷд, грŷди*, ц.-слав. *грѫдь, гржди*. Прасл. **grǫdь*. Лічыцца роднасным этымалагічна са слав. **grǫda* і **gręda* (гл. *града*). Назва **grǫdь* з'яўляецца слав. інавацыяй (архаічная слав. назва **pьrsь, *pьrsi*). Трубачоў, Эт. сл., 7, 148—149; Фасмер, 1, 463; Бернекер, 1, 356; Слаўскі, 1, 342—343.

**Груз.** Гл. *гразь*.

**Грузавік** 'грузавік' (БРС). Укр. *грузовик*. Запазычанне з рус. *грузовик* 'тс' (якое ў слоўніках вядома з 1935 г.). Параўн. Шанскі, 1, Г, 184.

**Грузд** 'назва грыба грузд'. Параўн. рус. *груздь, грузд*, укр. *груздь*. Усх.-слав. (**gruzdь, *gruzdъ*) назва прасл. характару. Лічыцца роднасным словам з **grǫda, *gruda* (гл. *града*).

Гэта назва грыба з'яўляецца выключна славянскай. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 158. Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 463—464.

**Грýзнуць.** Гл. *гразь.*

**Грýкаць** 'грукаць' (БРС), дыял. *грюкаць* (Нас.). Рус. дыял. *грýкáть, грюкать,* укр. *грюкати, грýкати.* Параўн. балг. *грýкам* 'рохкаць' і г. д. Прасл. **grukati* — дзеяслоў гукапераймальнага паходжання. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 154—155. Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 466.

**Грунт₁** 'грунт' (БРС). Ст.-бел. *кгрунтъ, грунтъ* 'грунт, зямля, аснова, зямельная ўласнасць' (Булыка, запазыч., 152). Рус. *грунт,* укр. *грунт.* Запазычанне з польск. *grunt* 'тс' < ням. *Grund.* Гл. Фасмер, 1, 464; Шанскі, 1, Г, 184.

**Грунт₂** 'галоўна, важна' (Сцяц.). Запазычанне з польск. *grunt* 'тс' (< ням.).

**Грунтóўны** 'грунтоўны' (БРС). Ст.-бел. *кгрунтовный, грунтовный* (гл. Булыка, Запазыч., 152). Укр. *грунтóвний* 'тс'. Запазычанне з польск. *gruntowny* 'тс'.

**Грýнуць** 'грукнуць, пачуцца' (БРС). Здаецца, запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *gruchnąć* 'з шумам раптоўна ўпасці, грукнуць' і *runąć* 'паваліцца, грымнуць'. Магчыма, кантамінацыя гэтых дзеясловаў.

**Грýпа** 'група' (БРС). Рус. *грýппа,* укр. *грýпа.* Запазычанне з ням. мовы. Параўн. ням *Gruppe* < франц. *groupe* (< іт.). Гл. Фасмер, 1, 464; Шанскі, 1, Г, 185 (апошні падрабязна характарызуе развіццё семантыкі слова).

**Грýца** 'ячныя крупы, крупнік, каша' (БРС. Нас., Шатал.). Запазычанне з польск. *gruca* 'тс' (а гэта з ням. *Grütze* 'тс'). Запазычанне адносна новага часу (няма ў Булыкі, Запазыч.). Параўн. Слаўскі, 1, 363.

**Грýша** 'груша' (БРС). Параўн. рус., укр. *грýша,* польск. *grusza,* чэш. *hruška,* далей балг. *крýша,* польск. дыял. *krusza,* каш. *kreša,* ц.-слав. *хруша.* Параўн. і літ. *kriáušė* 'тс'. Магчыма, старое запазычанне (гл. агляд версій у Фасмера, 1, 465). Трубачоў (Эт. сл., 7, 156—157) выступае за слав. крыніцу гэтых слоў (ад дзеяслова **grušiti, *krušiti* 'драбіць, крышыць'), маючы пры гэтым на ўвазе крупчастую структуру мякаці груш.

**Грыб** 'грыб'. Рус. *гриб,* укр. *гриб,* польск. *grzyb,* чэш. *hřib,* балг. *гриб.* Прасл. **gribъ* 'тс'. Паходжанне слова не вельмі яснае, шмат гіпотэз (агляд у Трубачова, Эт. сл., 7, 127—128). Верагоднай здаецца версія, паводле якой **gribъ* < **gribati* < < **grebti:* у аснове данай назвы ляжыць падабенства грыба



да кучкі зямлі, якую нагарнулі; Трубачоў, там жа, 127. Гл. яшчэ Якабсон, Word, 8, 1952, 387; далей Фасмер, 1, 457—458.

**Грыва** 'грыва'. Рус. *грúва,* укр. *грúва,* польск. *grzywa,* чэш. *hříva,* серб.-харв. *грйва,* балг. *грúва.* Прасл. **griva* 'тс' < і.-е. **gʷrīu̯ā*: ст.-інд. *grīvā́,* авест. *grīvā* 'задняя частка шыі, патыліца'. Гл. Фасмер, 1, 458; Трубачоў, Эт. сл., 7, 129—130.

**Грыжа₁** 'грыжа' (БРС). Рус. *грыжа,* укр. *грúжа* 'тс' (агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 161—162). Да **gryz-ti* 'грызці': **gryz-ja.* Гл. яшчэ Фасмер, 1, 466.

**Грыжа₂** 'сварка, лаянка і да т. п.' (Нас.) 'згрызота' (Шат., Сцяц.), 'грызня' (Жд. 1.). Належыць да слав. (прасл.) **gryža* 'хваляванне, клопаты, гора, хвароба, рана, згрызота і г. д.' (агляд у Трубачова, Эт. сл., 7, 161—162), якое паходзіць з **gryz-ja* (да **gryzti* 'грызці').

**Грыжа₃,** *грыжан, грыжына* 'бручка' (у паўночнай Беларусі; гл. Смулкова, Лекс. балтызмы, 40). Запазычанне з літ. мовы (параўн. літ. *griežtas;* Смулкова, там жа).

**Грызці** 'грызці'. Рус. *грызть,* укр. *грúзти,* польск. *gryźć,* чэш. *hrýzti,* серб.-харв. *грѝсти,* балг. *гризá,* ст.-слав. **грысти**. Прасл. **gryzti* 'тс'. Роднасныя формы: літ. *gráužti,* лат. *graûzt* 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 466; Траўтман, 100; Бернекер, 1, 359; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 160—161.

**Грызь** 'грыжа, пухліна' (Касп.). Да *грызці* (гл.); параўн. адносна семантыкі *грыжа₁.*

**Грыка** 'грэчка' (зэльв., Сцяц.). Ст.-бел. *грика, грыка* (з XVI ст., гл. Булыка, Запазыч., 85). Паводле Булыкі, запазычана з польск. *gryka* (а гэта з ням. *Gricken*). Адносна паходжання польск. слова ёсць і іншая думка (здаецца, больш абгрунтаваная): польск. *gryka* < літ. *grikai,* а ням, назва грэчкі (дыял. прус. *grick*) узята з польск. *gryka* (агляд гл. у Слаўскага, 1, 363).

**Грымéць,** *грамéць.* Гл. *гром.*

**Грымзóлі** 'крымзолі, каракулі' (БРС), таксама *крымзóлі, грымзýль* 'непрыгожае пісьмо' (Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *gryzmolić* 'пісаць каракулямі', *gryzmoły* 'каракулі' (польск. словы да *gryźć;* падрабязна Слаўскі, 1, 363—364).

**Грып** 'грып'. Рус. *грипп,* укр. *грип.* Запазычанне з франц. мовы; параўн. франц. *grippe* 'тс' (паходжанне самога франц. слова не вельмі яснае; агляд версій гл. у Фасмера, 1, 459; Шанскага, 1, Г, 173).

**Грэ́баваць** 'грэбаваць'. Укр. *гребувати, гребати*, рус. *гребать, грёбать*. Фасмер (1, 454) параўноўвае з чэш. *hřebati* 'сварыцца, лаяць' і далей з рус. *гребу́* (так і Бернекер, 1, 348). Падрабязна ў Трубачова, Эт. сл., 7, 108—109 (пад **grebati*, **grěbati*). Лічыцца, што значэнне 'грэбаваць', 'лаяць' развілося з 'капаць, капацца'.

**Грэ́баць**, *грэбці* 'грэбці'. Рус. *гребать*, польск. *grzebać*, чэш. *hřebati*, серб-харв. *грѐбати*, балг. *гре́бам*. Прасл. **grebati*, **grěbati* 'тс'; далей **grebti*. Агляд у Трубачова, Эт. сл., 7, 108—109, 109—110. Прасл. **greb-* да і.-е. **ghrebh-* (літ. *grěbti* 'грэбці', лат. *grebt* 'капаць', ст.-в.-ням. *graban* 'тс' і г. д.). Гл. Фасмер, 1, 454; Бернекер, 1, 347—348; Траўтман, 95—96.

**Грэ́бень** 'грэбень'. Рус. *гребень*, укр. *гребінь*, польск. *grzebień*, чэш. *hřeben*, серб.-харв. *грѐбен*. Прасл. **greby* **grebene* (да асновы **greb-* 'грэбці'). Гл. Фасмер, 1, 454; Трубачоў, Эт. сл., 7, 112—113.

**Грэх**, *грэ́шны*. Прасл. **grěхъ*, **grěšьnъ* 'тс'; параўн. рус. *грех*, укр. *гріх*, польск. *grzech*, чэш. *hřích*, серб.-харв. *грѝјех*, балг. *грехъ́т*, ст.-слав. **грѣхъ**. Этымалогій гэтага слова шмат; звычайна меркавалі, што ёсць сувязь з **grěti* 'грэць' (Фасмер, 1, 456—457). Трубачоў (Эт. сл., 7, 115—116) падтрымлівае этымалогію Бугі: **grěхъ* < **groi̯-so* (параўн. лат. *grèizs* 'крывы'). Агляд літ-ры ў Трубачова, там жа.

**Грэ́цкі** 'грэчаскі' (БРС, Байк. і Некр.). Рус. дыял. *гре́цкий* (параўн. і *грецкий орех*), укр. *гре́цький*, польск. *grecki*, балг. *гръцки*. З прасл. **grьčьskъ(jь)* 'тс'. Параўн. Фасмер, 1, 457; Шанскі, 1, Г, 168—169; гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 162—163. Фасмер (1, 455) указвае, што форма *гре́цкий* народнага паходжання.

**Грэць** 'грэць'. Рус. *греть*, укр. *гріти*, польск. *grzać*, чэш. *hřáti*, серб.-харв. *грѐјати, грѝјати, грѐти*, балг. *гре́я*, ст.-слав. **грѣıати** 'грэць', **грѣти сѧ**. Прасл. **grěti*, **grějati*. Звязана складанымі аблаўтнымі адносінамі з **gorěti* 'гарэць'. Падрабязна аб магчымых і.-е. сувязях слав. **grě-* Трубачоў, Эт. сл., 7, 116—117.

**Грэ́чка** 'грэчка' (БРС). Параўн. рус. *гре́чка*, укр. *гре́чка* 'тс'. Усх.-слав. утварэнне ад **grьkъ* 'грэк'. Гл. Шанскі, 1, Г, 169; Фасмер, 1, 457.

**Губ** 'мера палатна' (Сцяшк.). Да *гнуць, губі́ць, гіба́ць* (гл.). Параўн. і *гі́ба* 'мера палатна' (гл.). Да гэтай групы слоў, здаецца, адносіцца і *губа́* 'кавалак зямлі, які селянін мог узараць на працягу дня сахой' (Яшкін). Параўн. Трубачоў, Эт. сл., 7, 164—165.



**Губа́** 'губа' (БРС, Сцяшк.). Прасл. **gǫba*. Трубачоў (Эт. сл., 7, 79) лічыць, што значэнні 'грыб' і 'губа' звязаны па паходжанню, і 'губа' выводзіцца з 'грыба'. Звычайна слав. **gǫba* параўноўваюць з літ. *gum̃bas* 'гуз, жаўлак, нарасць', лат. *gum̃ba*. Фасмер (1, 468) лічыць, што ёсць два розныя словы ('губа' і 'грыб'), але не выключае магчымасці аднолькавага іх паходжання.

**Гу́ба** 'губа, трутнік, трут' (БРС, Қасп., Шат., Бяльк.). Таго ж паходжання, што і *губа́* (гл.).

**Губі́ць** 'губіць' (БРС, Нас., Бяльк.). Параўн. рус. *губи́ть*, укр. *губи́ти*, польск. *gubić*, чэш. *hubiti*, серб.-харв. *гу̏бити*, балг. *гу́бя*. Прасл. **gubiti* (аблаўтная форма да **gъb-*; параўн. *гнуць* < **gъbnǫti*). Гл. Фасмер, 1, 469; Трубачоў, Эт. сл., 7, 188—189. Параўн. літ. *gùbti* 'гнуцца'.

**Гуга́ць** 'гуляць, банкетаваць; весці разгульнае жыццё' (Нас.). Трубачоў (Эт. сл., 7, 167) параўноўвае са славен. *gúgati* 'гайдаць, разгушкаць', чэш. *huhati* 'крычаць (пра саву)', рус. *гу́гать* 'гайдаць, разгойдваць'. Паводле Трубачова (там жа), слова экспрэсіўнага паходжання. Гл. яшчэ Бернекер, 1, 361; Фасмер, 1, 469.

**Гугня́ць**, *гугня́віць* (БРС, Шат., Бяльк.), *гугна́ць, гугна́віць* (Нас.). Параўн. яшчэ *гуня́ва* 'гугнява' (Қасп.). Прасл. **gǫgnati* 'гаварыць у нос', **gǫgnili* (слав. матэрыял гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 81—82). Словы гукапераймальнага паходжання (рэдуплікацыя першапачатковага *gn*). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 470.

**Гуд** 'шкляны, плавільны завод' (Яшкін). Параўн. у Даля *гу́да* 'шкляны завод'. Бясспрэчна, звязана з *гу́та*. Формы *гуд, гу́да*, магчыма, з'явіліся як вынік уплыву дзеяслова *гудзе́ць*.

**Гудзе́ць** 'гусці' (БРС, Нас.), 'гудзець' (Қасп., Бяльк.), *гуд* 'гудзенне' (БРС). Рус. *гуде́ть*, таксама 'плакаць', 'іграць на гуслях, шумець', укр. *гудіти*, чэш. *housti*, серб.-харв. *гу̏дјети* і г. д. Прасл. **gǫděti*, таксама **gǫsti*. Родныя формы літ. *gaũsti* 'гучаць, гусці'. Гл. Фасмер, 1, 470—471; Бернекер, 1, 341; Траўтман, 80; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 80, 85.

**Гуж**[1] 'гуж' (БРС, Қасп., Бяльк.). Ад прасл. **gǫžь*; параўн. рус. *гуж*, укр. *гуж*, польск. *gążew, gążwa*, балг. *гъж, гъжва* і г. д. Паводле Фасмера (1, 471), версія аб роднаснасці з прасл. **ǫza* і далей **vęzati* не тлумачыць пачатковага гука *g-*. Таму лепш параўноўваць са ст.-ісл. *kengr* 'крук'. Іншыя даследчыкі ўсё ж лічаць *g-* пратэзай. Агляд матэрыялу і літ-ры ў Трубачова, Эт. сл., 7, 93—94.

**Гуж**$_2$ 'вуж' (Сцяшк.). З *вуж* (<*$\varrho$žь); мена пратэтычных гукаў *в-* > *г-* (так і ў некаторых іншых словах: *гу́зкі-ву́зкі*; (Сцяшк.).

**Гуз**$_1$ 'гуля, нарост' (БРС, Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк.), 'тупы канец снапа' (Нас.). Прасл. **gǫzъ, *guzъ* (падрабязна агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 7, 91—92) з'яўляецца экспрэсіўным утварэннем, роднасным грэч. γογγύλος 'круглы', літ. *gūžis* 'качан'. Гл. яшчэ Бернекер, 1, 343; Слаўскі, 1, 380—381; Траўтман, 101—102; Фасмер, 1, 471—472.

**Гуз**$_2$ 'гузік' (Шатал.). Ст.-бел. *кгузъ, гузъ, кузъ* 'тс' (Булыка, Запазыч.). Або запазычанне з польск. *guz* 'тс' або бел. новаўтварэнне з *гу́зік* (гл.).

**Гуза́рыць** 'гуляць, баляваць' (Жд. 1). Няясна. Ці не з *гуса́рыць* (да *гуса́р*)?

**Гуза́ць** 'вязаць снапы', 'біць вяроўкай' (Нас.). Да слав. **ǫz-: *ęz-* 'вязаць (гл. *вяза́ць* <**vęzati*, *гуж*$_1$). Параўн. таксама Фасмер, 1, 471, і падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 93—94 (але без бел. дзеяслова). Параўн. яшчэ ў Насовіча *гуз* 'вузел; сувязь'.

**Гу́зік** 'гузік' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк.), *гу́зік* 'тс' (Сцяшк.). Падрабязны агляд форм гл. Сцяц. Нар., 124. Ст.-бел. *кгузъ, гузъ, кузъ, кгузикъ, гузикъ* (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *guzik* 'тс' (таксама запазычаны ўкр. дыял. *гузик, гудзик*, рус. дыял. *кузик*). Гл. Слаўскі, 1, 381—382; Кюнэ, Poln., 59.

**Гузы́нства** 'сяброўства' (Касп.). Ці не з **кузынства* (да **кузын* 'дваюрадны брат')? Параўн. польск. *kuzyn* 'дваюрадны брат, сваяк', *kuzynostwo* 'сваяцтва'.

**Гук** 'парастак (на дрэве)' (БРС), 'невялікая галінка' (Шат.). У Яшкіна: 'тоўсты сук, разгаліна, ствол з голлем', 'адгалінаванне дарогі'. Укр. дыял. *гук* 'парастак цыбулі'. Трубачоў (Эт. сл., 7, 169) параўноўвае з рус. дыял. *гук* 'мыс, які ідзе вузкай паласой у мора, возера, раку', далей з укр. *гук* 'свіное рыла' і мяркуе аб роднаснасці са слав. **gyčь*. Параўн. яшчэ Куркіна, Этимология, 1971, 61.

**Гукаўло́ўнік** (БРС). Беларускае новаўтварэнне паводле рус. *звукоуловитель*.

**Гука́ць** 'гукаць' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк.), *гу́каць* 'гаварыць; стукаць' (Нас.), 'гаварыць' (Касп., Жд. 1, Шатал.). Лічыцца гукапераймальным утварэннем прасл. характару. Параўн. рус. *гукать* 'гукаць; гаварыць', укр. *гукати* 'гукаць', польск. *hukać*; балг. *гукам*, чэш. *houkati* 'крычаць, выць' і г. д. Прасл. **gukati* (так у Трубачова, Эт. сл., 7, 169) або хутчэй **gukati, *hukati, *chukati* (так у Слаўскага, 1, 432—433).



**Гул** 'гул' (БРС), *гулкі, гулка* (БРС, Касп., Бяльк.). Рус. *гул, гулкий*, укр. *гул*. Не вельмі яснае слова. Мацэнаўэр (LF, 7, 204), Бернекер (1, 361) параўноўвалі гэту лексему са ст.-ісл. *gaula* 'выць', *gaul* 'выццё'. Няпэўна; гл. Фасмер, 1, 472. Бернекер (там жа) і Фасмер (там жа) дапускаюць роднаснасць з **govorъ, *govoriti* (суфіксальнае утварэнне на *-l-*). Параўн. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 7, 173.

**Гула́** 'лухта, глупства' (Нас.). Няясна. Магчыма, з *хула́*. Аднак не выключаецца, што ёсць сувязь са слав. дзеясловам **guliti*. Параўн. рус. *гу́лить* 'жартаваць', укр. *гули́ти* 'абдурваць' і г. д. (гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 170).

**Гульня́** 'гульня' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк.). Утварэнне ад дзеяслова *гуляць* (гл.).

**Гульта́й** 'гультай' (БРС, Нас., Касп., Бяльк., Сцяшк., Жд. 1). Слова не вельмі яснага паходжання. Параўн. рус. *гультяй, гультай* 'тс', укр. *гультай, гільтай*. Сабалеўскі (Slavia, 5, 448) выводзіў гэтыя словы з **гольтай*. Фасмер (1, 473) звязваў *гультай* з *гулять*. Польск. *hultaj, holtaj*, паводле Слаўскага (1, 435—436), запазычана з укр., якое быццам паходзіць з даўняга **golьtajь *golьtjajь* (так ужо ў Сабалеўскага), да **golъ* 'голы'. Адносна суфіксацыі і магчымых балтыйскіх уплываў параўн. Мартынаў, Лекс. балтызмы, 24. Паводле Трубачова (Эт. Сл., 7, 171), зыходным з'яўляецца назва дзеяча тыпу **gul'ajь* (ад **gul'ati*) з суфіксам *-jь*. Формы тыпу *гульта́й* другасныя (з эпентэтычным *-t-*). Няпэўна.

**Гу́ля,** *гу́ла* 'гуля' (БРС). Рус. *гуля*, укр. *гуля*, польск. *gula* і г. д. Прасл. **gul'a* 'тс' (агляд семантыкі гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 169—170). Лічыцца звязаным са ст.-інд. *gōla-* 'шар', ст.-ісл. *kúla* 'шар, мяч, гуля' і інш. Гл. Фасмер, 1, 473 (там агляд версій). Бернекер (1, 362) прапануе іншую версію: сувязь з серб.-харв. *гу́лити* 'здзіраць скуру, кару'. Гэта тлумачэнне, якое Слаўскі (1, 376) лічыць няпэўным, Трубачоў (там жа, 170) лічыць верагодным.

**Гу́ля** 'голуб і галубка' (Нас.). Відаць, ад гукапераймальнага *гулю-гулю* (Нас.), якім прынаджваюць голуба.

**Гуля́ць** 'гуляць' (БРС, Нас., Касп., Бяльк.), 'танцаваць' (Сцяшк.), 'гуляць, забаўляцца; танцаваць; бяздзейнічаць' (Шат.), 'сваволіць (аб дзецях)' (Жд. 2). Слаўскі (1, 433—434) лічыць польск. *hulać* запазычаннем з укр. мовы. Адносна этымалогіі слова ён мяркуе, што, магчыма, у аснове ляжыць

выклічнік _hu-la!, hul!_ Іншыя версіі, паводле Слаўскага, не пераконваюць. Падрабязны агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 171—172. Паводле Трубачова, прасл. _*gul'ati_ звязана з дзеясловам _*guliti_, які сярод іншых мае значэнне 'весяліцца, жартаваць і да т. п.'

**Гу́ма** _гумка_ 'гума' (БРС). Укр. _гума_. Магчыма, з польск. _guma_ 'тс'. Паводле Брукнера (163), польск. з лац. (?) _gummi_.

**Гумаля́стыка** 'рызіна' (БРС), _гумаляст_ 'тс' (Касп.), _гумалястка_ 'рызінка ў адзенні' (Жд. 2). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. _gumelastyka_ 'рызіна'. Гл. Кюнэ, Poln., 58. Параўн. (адносна польск. слова) яшчэ Брукнер, 163.

**Гумно́** 'гумно' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., Шатал.). Гл. яшчэ Яшкін, дзе прыводзяцца і іншыя значэнні. Слова, вядомае ва ўсіх слав. мовах. Параўн. рус. _гумно_, укр. _гумно_, польск. _gumno_, чэш. _humno_, балг. _гумно_, серб.-харв. _гумно_, ст.-слав. **гоумьно**. Прасл. _*gumьno_. Найбольш верагоднай лічыцца этымалогія Пагодзіна: _*gumьno_ з'яўляецца старым складаным словам: _*gu-_ (звязана этымалагічна з _*govędo_) і _*mьn-_ (апошняе, напр., у дзеяслове _*męti_ 'мяць'). Першапачатковае значэнне 'месца, дзе жывёла топча хлеб'. Гл. Фасмер, 1, 474; Бернекер, 1, 362; Трубачоў, Эт. сл., 7, 173—175.

**Гунаво́та** 'лянівае дзіця' (Жд. 2). Гл. _гу́нсвот_.

**Гу́нсвот** 'нягоднік' (Нас.). Параўн. польск. _huncwot_, чэш. _hundsvut_, укр. _гунцвот_ (сюды, відаць, і ўкр. _гунство_ 'шальмоўства'). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. форму слова, якая ўзята з ням. _Hundsfott_ 'тс' (літаральна 'cunnus canis'). Гл. Слаўскі, 1, 436—437; Брукнер, 173; Кюнэ, Poln., 59. Бясспрэчна, сюды адносіцца і бел. дыял. лаянкавае слова _гунаво́та_ 'лянівае дзіця' (Жд. 2), якое з'яўляецца сапсаваным _гунсвот_. Гл. яшчэ Кіпарскі, ScSl, 7, 62.

**Гу́ня** 'папона, чапрак' (Нас.), 'вялікая цёплая хустка' (Шатал.), _гунька_ 'тс' (БРС, Касп., Шат., Бяльк.), 'самаробная посцілка' (Сцяшк.), 'посцілка' (Жд. 2). Рус. _гу́ня_ 'пашарпанае адзенне', укр. _гу́ня_ 'сярмяга', балг. _гуня_ 'плашч', польск. _gunia_ 'верхняе адзенне з грубага сукна і г. д.' Прасл. _*gun'a_, _*guna_. Лічыцца прасл. запазычаннем з невядомай крыніцы. Агляд версій у Слаўскага, 1, 378—379; параўн. яшчэ Фасмер, 1, 475. Падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 175—177. Ст.-бел. _ґуня_ 'коўдра' Булыка (Запазыч., 86) прыводзіць як запазычанне з польск. _gunia_.

**Гу́ра** 'гурба (снегу)' (Сцяц., Сцяшк., Шат., Бяльк., Жд. 2, Шатал.; гл. яшчэ Яшкін, дзе прыводзяцца і іншыя значэнні). Параўн. ст.-бел. _гура_ 'верх' (з XVI ст.; < польск _góra_, гл.



Булыка, Запазыч., 86). Зэльв., гродз. _гура_ 'гурба', бясспрэчна, таксама запазычана з польск. мовы (аб гэтым можа сведчыць гук _-у-_). Аб польск. слове гл. Слаўскі, 1, 330—331. Іначай Трубачоў, Эт. сл., 7 (пад _*gurati_): бел. лексема — аддзеяслоўнае ўтварэнне на бел. глебе. Параўн. яшчэ ўкр. _гура_ 'маса, гурт' (Грынч.).

**Гу́рба** 'гурба' (БРС, Касп., Шат., Сцяшк., Яшкін). Трубачоў (Эт. сл., 7, 179—180) бел. _гу́рба_ 'гурба' параўноўвае з укр. _гурба_ 'гурт', рус. _гурба_ 'гурт', _гурьба_ 'тс' і мяркуе, што гэта аддзеяслоўнае ўтварэнне (ад дзеяслова _*guriti_), аднак семантыка гэтага дзеяслова не вельмі ясная. Параўн. тлумачэнне _гурьба_ ў Фасмера, 1, 476—477. Паходжанне слова застаецца няясным. Ст.-бел. _гурба_ 'гурт', паводле Булыкі (Запазыч., 86), запазычана з польск. _hurba_, _hurma_ < с.-в.-ням.

**Гурга́н** 'сухі пясчаны востраў сярод балота' (усх.-палес., Яшкін). З _курга́н_ (гл. значэнні гэтай лексемы ў Яшкіна). Яшчэ ў Яшкіна: _гурда́н_ 'курган' < _курга́н_ (→ _гурга́н_, далей дысіміляцыяй двух «г», _г—г_ > _г—д_, _гурда́н_).

**Гурт** 'гурт' (БРС, Шат., Бяльк.), 'вогнішча' (Шатал.). Рус. _гурт_, укр. _гурт_. Запазычанне з польск. _hurt_ < с.-в.-ням. _hurt_. Гл. Фасмер, 1, 476; Бернекер, 1, 379; Слаўскі, 1, 439. Параўн. Булыка, Запазыч., 87. Сюды адносіцца і _гурто́к_, укр. _гурто́к_.

**Густ** 'густ' (БРС, Нас., Касп.). Укр. _густ_ 'тс'. Запазычанне з польск. _gust_ 'густ', а гэта з лац. _gustus_. Гл. Слаўскі, 1, 380; Кюнэ, Poln., 59. Насовіч меркаваў, што гэта непасрэднае запазычанне з лац. _gustus_.

**Густы́** 'густы' (БРС, Шат.). Рус. _густо́й_, укр. _густи́й_, польск. _gęsty_, чэш. _hustý_ і г. д. Прасл. _*gǫstъ_. Параўн. літ. _gánstus_ 'багаты' (Фасмер, 1, 478, указвае, што гэта выключае шмат іншых версій; агляд у Фасмера, там жа; Трубачова, Эт. сл., 7, 87).

**Гусце́ча** 'густы зараснік' (Янк. Мат.). Паводле Трубачова (Слав. языкозн., V, 178), магчыма, адлюстраванне прасл. дыял. _*gǫstotja_ (параўн. _галеча_, _малеча_ і да т. п.), дзе прасл. суфікс _*-otja_, які мае паралелі ва ўкр. і ў паўд.-слав. мовах (у іх зах. групе). Мусіць, недакладнае тлумачэнне. Для бел. _-еча_ (як і для ўкр. _-еча_) зыходным з'яўляецца _-*etja_ (суфікс, які ўзнік на базе _*-eta_, які меў тую ж функцыю, што і _-ota_; магчыма, тут было старое чаргаванне вакалізму _e:o_, _-*eta_: _-*ota_).

**Гусці́** 'гусці, гудзець' (БРС), _гусць_ (Нас., Бяльк.). Гл. _гудзе́ць_.

**Гусь** 'гусь'. Лексема праславянскага характару: рус. *гусь,* укр. *гусь,* польск. *gęś,* чэш. *hus,* славен. *gôs* і г. д. Агляд версій адносна захавання ў слав. мовах формы **gǫsь* (а не **zǫsь*) гл. у Фасмера, 1, 478. Трубачоў мяркуе, што слова мае гукапераймальны характар, таму ў слав. мовах рэгулярнасць фанетычных змен магла і не мець месца (гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 88—89; там і дыскусія).

**Гу́та** 'гута, завод'. Ст.-бел. *гута* 'тс' (Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. *huta* 'тс' (а гэта са ст.-в.-ням. *hutta,* с.-ням. *hutte*). Гл. Слаўскі, 1, 440—441; Кюнэ, Poln., 59; Бернекер, 379—380; Брукнер, 174. Параўн. і рус. *гу́та* (гл. Фасмер, 1, 479).

**Гу́тарыць** 'гаварыць, размаўляць'. Прасл. **gutoriti*. Рус. *гу́торить, гута́рить,* укр. *гу́тір* 'размова, бяседа', *гуто́рити,* славац. *hutoriť*. Лічыцца складаным словам: **gu-* адносіцца да **govoriti,* а другая частка *(*-toriti)* — да літ. *tar̃ti* 'сказаць' (параўн. і слав. **tortoriti*). Гл. Фасмер, 1, 479; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 7, 179—180.

**Гуча́ць** 'гучаць'. Параўн. рус. *гучать,* укр. *гучати,* чэш. *hučeti,* серб.-харв. *гучати* і г. д. Прасл. **gučati* роднаснае **gukati* (гл. *гука́ць*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 7, 166—168.

**Гу́шкаць** 'гушкаць', *гу́шкацца*. Відаць, гукапераймальнага паходжання.

**Гу́шча** 'гушча', *гушча́р* 'гушча'. Прасл. **gǫšča* 'гушча' (у розных значэннях: 'лес', 'асадак'). Агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 89—90. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 479. Зыходнае **gǫstja* (ад прыметніка **gǫstъ* 'густы').

**Гыркаць** 'гыркаць'. Параўн. бел. *га́ркаць,* укр. *ги́ркати,* рус. *гы́ркнуть, га́ркать* і г. д. Агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 7, 209 (пад праформай **gъrkati*). Лексема гукапераймальнага характару. Параўн. Фасмер, 1, 479.

**Гэ́бель** 'гэбель' (БРС), *гебель* (Нас.), *гебаль* (Касп.). Ст.-бел. *гебель* (Булыка, Запазыч.). З польск. *hebel,* а гэта з ням. *Hobel* 'тс'. Гл. Кюнэ, Poln, 57; Брукнер, 170.

**Гэ́ты** 'гэты'. Рус. *э́тот, э́та, э́то*. У аснове ляжыць дэйктычнае *э,* да якога далучаецца **tъ*. Гл. Фасмер, 4, 523. У бел. мове на пачатку слова пратэтычны гук.

**Гяу́р** 'назва іншавераў у мусульман'. Рус. *гяу́р* 'тс'. Запазычанне непасрэдна з рус. мовы. У рус. мове з тур. *giaur,* перс. *gäbr,* а гэта з араб. *kāfir* 'няверны'. Гл. Локач, 50; Фасмер, 1, 480.

# Д

**Да** прыназоўнік. Параўн. рус. *до,* укр. *до,* ст.-рус. *до,* чэш. *do,* славац. *do,* польск. *do,* в.-луж., н.-луж. *do,* балг. *до,* серб.-харв. *дȍ,* славен. *dò,* ст.-слав. **до**. Прасл. **do* 'тс'; паходзіць з і.-е. **dŏ,* якое мела функцыі прыназоўніка-паслялога і было, як думаюць, займеннікавага паходжання. Роднасныя формы: ст.-в.-ням. *zuo,* ням. *zu* 'да', англ. *to* (< герм. **tō*), далей грэч. энклітыка -δε, лац. *-do* (параўн. *endo* 'ў, усярэдзіне'). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 37—38 (у яго ж і агляд літ-ры). Фасмер (1, 519) прыводзіць яшчэ літ. прэфікс *da-,* лат. *da* 'да'. Гл. Яшчэ Бернекер, 1, 203; Траўтман, 42; Слаўскі, 1, 150; Фрэнкель, 1, 78.

**Даба́** 'час' (Раст.), *до́ба* 'пара, суткі' (Байк. і Некр.). Параўн. рус. дыял. *до́ба́,* укр. *доба́,* польск. *doba,* чэш. *doba,* славац. *doba,* балг. *до́ба,* макед. *доба,* серб.-харв. *дȍба* (н. р.!), славен *dóba*. Прасл. **doba* 'тс'. Лічыцца роднасным з літ. *dabà* 'прырода, уласцівасць, характар', *dabar̃* 'цяпер', лат. *daba* 'від, характар', гоц. *gadaban* 'падыходзіць' і г. д. (гл. Фасмер, 1, 520). Думаць, што ў гэтым слове калісьці была аснова на *-r-* (н. р.), дакладней, гетэраклітычная аснова на *-r/n-* (і.-е. **dhabhr̥/-nos*). Сюды адносіцца і слав. **dobrъ* 'добры і г. д.' Гл. яшчэ Траўтман, 42—43; Бернекер, 1, 203—204; Махэк$_2$, 121—122; Слаўскі, 1, 150. Булыка (Запазыч., 98) ставіць пытанне аб тым, што ст.-бел. *доба* 'час, пара' запазычана з польск. мовы. Няясна, якая матывацыя ў яго меркаваннях. Фармальна няма ніякіх прыкмет запазычання, таму пытанне застаецца адкрытым.

**Даба́вак,** дакладней, *у дабавак: «І так ні пайшоў, а тут у дабавак іішчэ сын захварэў»* (Сцяц.). Відаць, запазычанне з рус. *вдоба́вок* 'тс'. Параўн. відавочныя русізмы ў зэльвенскіх гаворках (прыклады з слоўніка Сцяц.): *пасьці́* 'амаль' (< *почти*), *панара́віць, дзе́йсцвіе*.

**Даба́віць** 'дабавіць'. Рус. *доба́вить,* укр. *доба́вити*. Параўн. далей балг. *доба́вя, доба́вям* 'дабаўляць', макед. *добави,* серб.-харв. *дȍбавити* 'дастаць, дабыць', славен. *dobáviti*. Прасл. **dobaviti (*do-baviti)*. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 39. Як відаць з агляду форм, гэтага слова няма ў зах.-слав. мовах, таму яго можна лічыць дыялектным праславянскім. Шанскі (1, Д,

Е, Ж, 144—145) ідзе яшчэ далей і лічыць *добáвить* (а таксама ўкр. *добáвити* і бел. *дабáвіць*) уласна рус. словам (resp. усх.-слав.?).

**Дабáд** 'лебедзь' (Касп.). Трубачоў (Слав. языкозн., V, 178) мяркуе, што, відаць, гэта старое слова з цёмнай формай і, магчыма, праславянскае (праславянскі дыялектызм бел. мовы). Форма яго не дае ўпэўненасці ў тым, што яно звязана з прасл. **elbedь*, **olbǫdь* 'лебедзь' (магчыма, паводле Трубачова, там жа, тут назіраецца табуістычная змена слова). Нягледзячы на тое што слова яўна дэфармаванае, можна меркаваць, што тут, магчыма, адбыліся фанетычныя змены (асіміляцыя): *дабáд* < *лабáд*, а гэта ўжо значна бліжэй да магчымых прасл. форм; параўн. чэш. *labuť*, дыял. *labudek*, славац. *labuť*, *labuď*, *labuda*, польск. *łabędź*, серб.-харв. *лабуд*, славен. *labod* (параўн. Махэк$_2$, 316). Калі бел. дыял. *дабад* сапраўды з ранейшага **лабáд* 'лебедзь', то гэта можа быць каштоўным сведчаннем таго, што ўсх.-слав. гаворкі мелі змешаны характар, г. зн. што ў іх маглі сустракацца элементы зах.-слав., а нават і паўд.-слав. тыпу.

**Дабíтне** 'пераканальна, ясна' (Сцяшк.). Запазычанне з польск. *dobitnie* 'тс' (параўн. і польск. прыметнік *dobitny*).

**Дабрабы́т** 'дабрабыт' (БРС). Укр. *добрóбут*, польск. *dobrobyt* 'тс'. Магчыма, у бел. мове (таксама ўкр.) запазычанне з польск. мовы. Лексема гэта тэрытарыяльна абмежаваная і магчымасць запазычання вельмі верагодная.

**Дабрадзéй** (у розных знач.). Укр. *добрóдій*, рус. дыял. *добродéй*, чэш. *dobroděj*, славац. *dobrodej*, польск. *dobrodziej*, ст.-слав. **добродѣи**. Прасл. **dobrodějь* складанае слова: **dobrъ* і вытворнае ад дзеяслова **děјati*. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 42 (дзіўна, што тут наогул не прыводзіцца бел. матэрыял, нягледзячы на тое, што ён добра засведчаны ў слоўніках); Слаўскі, I, 151. Усё ж такі ў некаторых значэннях гэтага слова, магчыма, выяўляецца польскі ўплыў на ўсх.-слав. мовы (дакладней, у пэўных выпадках трэба лічыцца з магчымымі прамымі запазычаннямі з польск. мовы). Так, у значэнні 'васпан' укр. і бел. словы, бясспрэчна, запазычаны з польск. *dobrodziej* з такой жа семантыкай.

**Дабраду́шны** 'дабрадушны' (БРС). Рус. *доброду́шный*, укр. *доброду́шний*. У рус. мове гэта словаўтваральная калька з грэч. εὔψυχος. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 146. Бел. і ўкр. словы, мабыць, з'яўляюцца запазычаннем з рус. мовы.

**Дабрáнац** 'добрай ночы'. Запазычанне з польск. *dobranoc*



'тс'. Гл. Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10 (карта на с. 13). Параўн. *дабрáнач*, *дабрáнец*.

**Дабрáнач** 'добрай ночы' (БРС, Нас., Касп.). Укр. *добрáніч*. Паводле Кюнэ (Poln., 51), запазычанне з польск. *dobranoc* (аб запазычанні сведчыць, паводле Кюнэ, націск). Усх.-слав. словы па форме (*-ноч* замест *-ноц*) былі адаптаваны да адпаведных сваіх лексем. Параўн. *дабрáнец* (гл.), *дабрáнац* (гл.).

**Дабрáнец** 'добрай ночы' (Сцяшк.). Зыходным з'яўляецца польск. *dobranoc* 'добрай ночы', якое на бел. глебе было пераасэнсавана паводле назоўнікаў з суфіксам *-ец*. Параўн. *дабрáнач*, *дабрáнац*.

**Дабрачы́нец**. Гл. *дабрачы́нны*.

**Дабрачы́ннасць**. Гл. *дабрачы́нны*.

**Дабрачы́нны** 'дабрачынны' (БРС). Укр. *доброчи́нний* 'тс'. Запазычанне з польск. *dobroczynny* 'тс'. Таксама запазычаннем з польск. з'яўляюцца бел. *дабрачы́ннасць*, укр. *доброчи́нність* (< польск. *dobroczynność*), бел. *дабрачы́нец*, укр. *доброчи́нець* (< польск. *dobroczyńca*).

**Дабру́ткі** 'зусім добры (цэлы)' (Сцяц.). Такая суфіксацыя як быццам не характэрна для бел. мовы. Таму можна лічыць, што гэта запазычанне з польск. *dobrutki* (утварэнне ад *dobry*).

**Дабы́так** 'пажыткі, дабро'. Агульнаславянскае слова. Параўн. ст.-рус. *добытъкъ* 'маёмасць', 'здабыча', ст.-укр. *добытокъ* 'жывёла', укр. *доби́ток* 'рабунак, здабыванне,' *доби́ток* 'буйная рагатая жывёла', *добу́ток* 'набытак', *добу́тки* 'ягняты, цяляты і да т. п.', ст.-чэш. *dobytek* 'свойская жывёла', 'скаціна, дабро', чэш. *dobytek*, славац. *dobytok*, польск. *dobytek* 'маёмасць', 'свойская жывёла,' 'прыбытак, выгада', балг. *доби́тък* 'свойская жывёла; скаціна', макед. *добиток* 'жывёла', серб.-харв. *доби̏так* 'прыбытак; выгада'. Прасл. **dobytъkъ* — вытворнае з суф. *-ъkъ* ад дзеепрым. прош. ч. **dobytъ* (ад дзеяслова **dobyti*). Для слоў гэтай групы прымаюць развіццё семантыкі: 'маёмасць' > 'скаціна'. Падрабязны агляд у Трубачова, Эт. сл., 5, 49. Цікава, што ў рус. мове гэта слова вядома толькі ў старых помніках; у сучаснай мове, паводле Трубачова, няма. Але параўн. у СРНГ, 8, 82: *доби́ток* 'дзіця' (кастр.), магчыма, іранічнае.

**Дабы́ць** 'здабыць', *дабывáць* 'здабываць'. Агульнаславянскі дзеясловў праславянскага характару. Параўн. укр. *добу́ти* 'здабыць, набыць, дастаць', рус. *добы́ть* 'дастаць, набыць і г. д.', ст.-рус. *добыти* 'набыць, здабыць; дажыць', чэш. *dobyti* 'зда-

быць, набыць, зарабіць; завалодаць, авалодаць; дастаць, выцягнуць', славац. *dobyť* 'захапіць, авалодаць; дабыць, дабіцца', в.-луж. *dobyć* 'астацца; здабыць, зарабіць; авалодаць, захапіць, перамагчы', н.-луж. *dobyś* 'астацца, выцерпець да канца', польск. *dobyć* 'астацца, прабыць; выцягнуць, дастаць; захапіць, авалодаць', балг. *добúя* 'здабыць; раджаць', серб.-харв. *дòбити* 'здабыць, атрымаць', славен. *dobíti* 'атрымаць і да т. п.' Прасл. **dobyti* (прэфікс **do*+дзеяслоў **byti*). Агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 47—48. Не вельмі ясным застаецца пытанне аб першапачатковым значэнні слова. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што зыходзіць трэба з 'раджаць' (агляд гл. Махэк$_2$, 122). Паводле Трубачова (там жа, 48), лепш думаць, што гэта апошняе з'яўляецца мясцовым сінонімам. Махэк услед за Матлам (гл. Махэк$_2$, 122) лічыць, што развіццё семантыкі ішло так, як у лац. слова *pecu* 'жывёла' > 'маёмасць, грошы'. Зыходным, паводле Махэка, для **dobyti* з'яўляецца 'нарадзіць'. Гэта значэнне было агульным, але сёння захавалася ў балг. мове.

**Дава́льны**: *дав. скл.* Параўн. укр. *дава́льний (відмінок)*. Аналагічным утварэннем з'яўляецца і рус. *да́тельный (падеж)*. Калька грэч. або лац. назвы. Для рус. мовы Фасмер (1, 485) лічыць зыходным лац. *casus dativus*, якое калькуе грэч. δοτικὴ (πτῶσις). Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 17), у рус. мове гэта запазычанне са ст.-слав. мовы, дзе сустракаецца ў перакладзе Граматыкі Іаана Дамаскіна, які зрабіў Іаан, экзарх балгарскі *(дательный)*. У ст.-слав. мове **дательныи** з грэч.

**Даве́дацца** 'даведацца' (БРС). Рус. *доведа́ться*, укр. *дові́датися*, польск. *dowiedzieć się*, чэш. *dověděti se* і г. д. Прасл. **dověděti sę* 'даведацца'. Звязана з **vědati* 'знаць, ведаць', **věděti* 'тс' (параўн. бел. *ве́даць*, рус. *ве́дать*, укр. *ві́дати*, ст.-рус., ст.-слав. **вѣдѣти**, чэш. *věděti*, польск. *wiedzieć*, славен. *védeti*, в.-луж. *wjedźeć*, н.-луж. *wjeźeś* і г. д.). Параўн. *ве́даць* (гл. ЭСБМ, 2, 80). Вельмі дзіўна, што гэта слова (**dověděti sę*) адсутнічае ў Трубачова, Эт. сл., 5. Калі нават не лічыць яго агульнаславянскім, то прынамсі, у якасці праславянскага дыялектызма яно ўваходзіла ў праславянскі лексічны фонд.

**Даве́дка** 'даведка' (БРС). Дакладная адпаведнасць ва ўкр. мове: *до́відка* 'тс'. Па паходжанню гэта ўтварэнне суфіксам -*ка* ад дзеяслова **dovědati sę* 'даведацца'. Спачатку **dovědъka* было аддзеяслоўным nomen actionis. Параўн. рус. *доведка* 'высвятленне чаго-н.' (*Ходил к нему на доведку* — гл. СРНГ, 8, 83), укр. *до́відки* 'разведка, высвятленне' (*«Піду на довідки, що там вони роблять»*— Грынч.). Адсюль і *даве́дка* 'даведка' (дакумент).



**Даве́днік** 'даведнік' (БРС). Укр. *дові́дник* 'тс'. Супольная бел.- укр. калька рус. *спра́вочник*.

**Даво́лі** 'даволі'. Рус. дыял. *доволя́, до́воли*, укр. *дово́лі*. Параўн. далей серб.-харв. *довољ*, славен. *dovòlj, dovoli, dovólje, dovèlj* 'тс'. Узнікла спалучэннем **do* і склонавай формы ад **vol'a* 'воля'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 87—88. Спалучэнне гэтых двух каранёў адбылося ўжо вельмі даўно. Трубачоў указвае на ўтварэнні **dovolъ*, **dovolьnъ*, **dovьlěti*.

**Дагаво́р** 'дагавор' (БРС). Рус. *догово́р*, укр. *до́говір*, славац. *dohovor*, балг. *до́говор*. Шанскі (1, Д, Е, Ж, 152) лічыць гэту лексему ўласна рус; у іншых мовах яна запазычана з рус. У рус. мове адзначаецца ўжо у XVI ст.; утварэнне бязафікснага тыпу ад дзеяслова *договори́ться*.

**Дагма́тык** 'дагматык' (БРС). Запазычанне з рус. мовы. Параўн. рус. *догматик*, якое Шанскі (1, Д, Е, Ж, 151) лічыць уласна рус. словам, якое ў сучасным значэнні адзначаецца ў слоўніках з 1891 г. (раней яно мела некалькі іншую семантыку: 'царкоўны пісьменнік, які тлумачыць дагматы веры', 'від царкоўных песнапенняў'). Першакрыніцай рус. слова з'яўляецца грэч δογματικός, якое ўжывалася як эпітэт вядомых багасловаў.

**Дадава́ць** 'дадаваць' (БРС). Укр. *додава́ти*, польск. *dodawać*, чэш. *dodávati*, балг. *дода́вам* і г. д. Прасл. **dodavati* (да дзеяслова **dodati* < **dati* 'даць').

**Дада́на** 'від стаячага вулля' (Сцяшк.). Утварэнне на базе вядомага ў гэтых гаворках словазлучэння *дада́ныя ву́ллі* 'вуллі без ножак' (*«...без ножкаў, а на калкох»*).

**Дада́так** 'дадатак'. Укр. *дода́ток*, польск. *dodatek*, чэш. *dodatek*, балг. *дода́тък* і г. д. Слав. **dodatъkъ* — утварэнне суфіксам -*ъkъ* ад дзеепрыметніка на -*t*-, ад дзеяслова **dodati* (**do-dati*); параўн. бел. *дада́ць*, укр. *дода́ти*, польск. *dodać*, чэш. *dodati*, балг. *дода́м* і г. д. Як дзеяслоў **dodati*, так і вытворнае **dodatъkъ*, бясспрэчна, маюць прасл. характар, прынамсі, з'яўляюцца прасл. дыялектызмамі. Дзіўна, што ў праславянскім слоўніку Трубачова (Трубачоў, Эт. сл.) няма ні **dodati*, ні **dodatъkъ*. Іншае пытанне, ці не запазычаны бел. *дадатак*, укр. *додаток* з польск. мовы. На гэта пытанне адказаць пакуль што вельмі цяжка, таму што няма дакладных даных аб гісторыі гэтых слоў. Калі нават гэта і запазычанне, то застаецца пытанне аб зах.-слав. дыялектызмах прасл. характару тыпу **dodati*, **dodatъkъ*.

**Дазво́ліць** 'дазваліць'. Рус. *дозволить*, укр. *дозволити*. Гэтыя ўсх.-слав. дзеясловы лічацца запазычаннем з польск. *dozwolić* 'тс'. Гл. Бернекер, 1, 440; Фасмер, 1, 522. Слова запазычана ў XVI ст. Бернекер і Фасмер меркавалі, што зыходным было *do-iz-voliti* (з дзеяслоўнай прэфіксацыяй зах.-слав. тыпу: *do-iz-voliti* > *do-zvoliti*). Слаўскі (1, 159) польск. дзеяслоў *dozwolić* тлумачыць як **do-sъ-voliti* і наогул не ставіць пытанне аб магчымым запазычанні. У рус. мове *дозволить* зафіксавана ў помніках з XVI ст. Булыка (Запазыч.) гэтай лексемы не прыводзіць. Шанскі (1, Д, Е, Ж) лічыць верагоднай версію аб запазычанні рус. слова з польск. мовы, як і магчымасць запазычання ўкр. і бел. лексем.

**Дазо́рац**. Гл. *дазо́рца*.

**Дазо́рца** 'дазорац' (БРС). Параўн. укр. *дозо́рця, дозо́рець*. Слова *дозорца* 'сторож, наглядчык' сустракаецца ўжо ў ст.-бел. помніках XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч.). Слова ўзята з польск. *dozorca* 'тс' (з тыповай зах.-слав. суфіксацыяй). Адносна бел. *дазо́рац*, укр. *дозо́рець* можна меркаваць, што гэта таксама паланізмы, але з замененай суфіксацыяй (з прыстасаваннем яе да ўсх.-слав. тыпу). Трубачоў (Эт. сл., 5, 90) лічыць, што бел. слова *дазо́рац*, укр. *дозо́рець* < прасл. **dozorьcь*. Няпэўна.

**Даі́ць** 'даіць'. Рус. *дои́ть*, укр. *доїти*, чэш. *dojiti*, славац. *dojiť*, польск. *doić*, в.-луж. *dejić, dojić*, н.-луж. *dojś*, балг. *доя́*, серб.-харв. *до̀јити*, ст.-слав. **доити**. Прасл. **dojiti (sę)*. Агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 53—54. Лічыцца каузатывам на *-iti* ад **děti*, якое не захавалася, але існаванне якога можна вывесці з аддзеяслоўных вытворных **dětę*, **děva*. У аснове ляжыць і.-е. **dhē(i̯)-* 'ссаць, карміць грудзьмі'. Роднасныя формы: ст.-інд. *dháyati* 'ссаць', лат. *dêt* 'тс', гоц. *daddjan* 'тс'. Гл. Бернекер, 1, 205—206; Траўтман, 51; Фасмер, 1, 522; падрабязна Трубачоў, там жа. Гл. яшчэ Слаўскі, 1, 152.

**Даказа́ць** 'даказаць, давесці', 'дагаварыць'. З аналагічнымі значэннямі гэты дзеяслоў адзначаецца і ў іншых слав. мовах. Параўн. рус. *доказа́ть* 'даказаць, давесці', дыял. *доказа́ть* 'дагаварыць, паведаміць аб чым-н.; вытлумачыць і г. д.', укр. *доказа́ти* 'дагаварыць, папракнуць, абвінаваціць і да т. п.', чэш. *dokázati* 'даказаць, пацвердзіць, дабіцца; дагаварыць; выканаць, зрабіць і г. д.', славац. *dokázat'* 'даказаць, выканаць, зрабіць', балг. *дока́жа* 'дагаварыць; даказаць', макед. *докаже* 'даказаць; дагаварыць', серб-харв. *дока́зати* 'растлумачыць; данесці, выдаць; пераканаць і г. д.' Лічыцца прасл. утварэннем: **dokazati* (з прэфіксам **do-* ад дзеяслова



**kazati* 'паказваць, гаварыць'). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 57—58; Фасмер, 2, 159; Брукнер, 223; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 156.

**Дакла́д** 'даклад' (БРС). Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 157), бел. *дакла́д* (як і балг. *докла́д*) запазычана з рус. *докла́д* 'тс'. Рус. слова ўтворана бязафіксным спосабам словаўтварэння ад дзеяслова *докладати* 'дакладваць'. У рус. помніках яно вядома з 1474 г. Сюды адносяцца і *дакла́дчык, дакла́дчыца* (гл.).

**Дакла́дна** 'дакладна' (БРС). Укр. *докла́дно* 'тс'. Можна думаць, што гэта запазычанне з польск. *dokładnie* 'тс' (але з пераафармленнем марфалагічнага тыпу на ўсх.-слав. лад). Параўн. *дакла́дны, дакла́днасць*.

**Дакладнасць** 'дакладнасць' (БРС). Укр. *докла́дність* 'тс'. Вельмі верагодна, што гэта запазычанне з польск. *dokładność*. Параўн. яшчэ *дакла́дны, дакла́дна*, якія таксама, здаецца, з'яўляюцца запазычаннямі з польск. мовы.

**Дакла́дны** 'дакладны' (БРС). Укр. *докла́дний* 'тс'. Запазычанне з польск. *dokładny* 'тс'. Параўн. *дакла́днасць, дакла́дна*. Польск. слова з такім значэннем вядома ў помніках з XVIII ст. і звязана з дзеясловам *dokładać (się), dokład*. Слаўскі (1, 154) прыводзіць як паралель ст.-польск. *dołożny* 'дакладны' (< *dołożyć*) і рус. *приле́жный* (< *прилега́ть*).

**Дакладны́** (БРС): *дакладна́я запі́ска* < рус. *докладна́я записка* (а гэтыя словы да *докла́д* > бел. *дакла́д*). Адносна рус. *докладна́я* (уласна *докладная записка*) падрабязна ў Шанскага, 1, Д, Е, Ж, 157. Ужо ў сярэдзіне XV ст. ужывалася слова *докладная* («*а докладную писал чернец Иринарх...*»), якое ўзнікла на базе словазлучэння *докладная грамота*.

**Дакла́дчык** 'дакладчык' (БРС). Запазычанне з рус. *докла́дчик* 'тс' (утварэнне ад *докла́д*, гл.). Параўн. *дакла́дчыца*.

**Дакла́дчыца** 'дакладчыца' (БРС). Запазычанне з рус. *докла́дчица* 'тс'. Параўн. *дакла́дчык* (гл.).

**Дакляравáць** 'абяцаць' (БРС), *дэкляро́ўка* 'абяцаная рэч' (Нас.). Ужо ў ст.-бел. мове *деклеровати* 'аб'яўляць, абяцаць' (гл. Булыка, Запазыч., 90). Запазычанне з польск. *deklarować* 'тс' (а гэта з лац. *declarare*; так Булыка, там жа). Кюнэ (Poln., 50) крыніцай польск. слова лічыць ням. *deklarieren* (< лац.). Параўн. *дакляра́цыя, дэкларава́ць*. У рус. мове XVII ст. існавала лексема *декляровать*, якая таксама з'яўляецца запазычаннем з польск. мовы. Пытанне, аднак, досыць складанае (аб магчымых трактоўках гісторыі гэтай групы слоў гл. падрабязна ў Шанскага, 1, Д, Е, Ж, 56).

**Дакляра́цыя** 'абяцанка' (БРС). У ст.-бел. мове *деклярация, деклярацыя* 'аб'яўленне, абвяшчэнне' (засведчана з 1600 г., гл. Булыка, Запазыч., 90). З польск. *declaracja* 'тс', а гэта з лац. *declarātio*. Параўн. *дакляравáць* (гл.). Гл. яшчэ *дэклара́цыя*. Таксама запазычаннем з польск. мовы з'яўляецца рус. *деклара́ция* (якое прыйшло ў рус. мову ў Пятроўскую эпоху).

**Далібо́г** (БРС). Укр. *да́лебі(г)*, польск. *dalibóg*. Першапачатковае значэнне 'калі бог дасць'. Скарачэннем адсюль узнікаюць формы тыпу бел. дыял. *дальбо́* (Сцяц., Сцяшк.), укр. *да́лебі*. Гл. Слаўскі, 1, 137 (які для пацвярджэння гісторыі слова спасылаецца яшчэ на польск. *bodaj*).

**Далiка́тнасць** 'далікатнасць' (БРС). Кюнэ (Poln., 50) лічыць, што гэта запазычанне з польск. *delikatność* 'тс' (польск. слова зыходзіць да лац.). Таксама можна лічыць, што польск. паходжання і бел. *даліка́тны* 'далікатны' (БРС): польск. *delikatny*. У ст.-бел. мове засведчана толькі *деликатъ* 'пястун' (< франц. *délicat* < лац. *delicatus;* гл. Булыка, Запазыч., 90). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 496. Гл. таксама падрабязна аб сітуацыі з словам *делика́тный* у рус. мове ў Шанскага, 1, Д, Е, Ж, 60 (што мае значэнне і для ўдакладнення этымалогіі бел. слова і яго гісторыі).

**Даліка́тнець** (БРС, Нас.). Магчыма, запазычанне з польск. *delikatnieć* 'тс' (да *delikatny*).

**Даліка́тнічаць** (БРС). Здаецца, запазычанне з рус. *делика́тничать* 'тс' (аб запазычанні сведчыць словаўтварэнне: дзеясловы на *-ичать* характэрны для рус. мовы).

**Даліка́тны** 'далікатны'. Гл. *даліка́тнасць*.

**Далікту́ся** 'вельмі далікатны (пра чалавека)' (Сцяц.). Відаць, запазычанне з польск. мовы, але слова было сапсавана. Параўн. польск. *delikatniś* 'пястуха, недатыка' (утварэнне да *delikatny*). Параўн. яшчэ ст.-бел. *деликатъ* 'пястун' (паводле Булыкі, Запазыч., 90, з франц. *délicat* < лац.). Фанетычная структура польск. слова, відаць, была незвычайнай для ўсх.-слав. моў, і таму яно было перароблена і, магчыма, кантамінавалася з нейкім іншым словам.

**Далі́на** 'даліна' (БРС). Параўн. з аналагічным значэннем рус. *доли́на*, укр. *доли́на*, чэш. *dolina*, балг. *доли́на́* і г. д. (падрабязны агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 61—62). Прасл. **dolina*, вытворнае ад прасл. **dolъ* (гл. *дол*$_1$).

**Дало́нь** 'далонь'. Рус. дыял. *доло́нь*, укр. *доло́ня*, польск. *dłoń*, чэш. *dlaň*, балг. *длан*, серб.-харв. *дла̏н*, ст.-слав. **длань**.



Прасл. **dolnь* 'тс'. Роднасныя формы ў балт. мовах: літ. *délnas, délna* 'тс', лат. *delna*. Параўн. Фасмер, 1, 526; Траўтман, 51; Бернекер, 1, 208; Трубачоў, Эт. сл., 5, 63—64. Гісторыя гэтага слова, здаецца, вельмі складаная (аб чым Трубачоў, там жа).

**Даль,** *далёкі* (БРС). Рус. *даль, далекий*, укр. *даль, далéкий*, польск. *dal, daleki*, серб.-харв. *даљ* і г. д. Прасл. **dalь*, **dalekъ*. Звычайна звязваецца са словамі **dьliti*, **dьlgъ* 'доўгі', якія маюць адпаведнасці ў іншых і.-е. мовах (ст.-інд. *dirghás*, грэч. δολιχός і г. д.). Падрабязны агляд у Трубачова, Эт. сл., 4, 184—185, 186—187.

**Дальбуг** 'далібог' (Сцяшк. МГ). Прамое запазычанне з польск. *dalibóg* 'тс' (польск. слова < *da*+*li*+*bóg*; параўн. Слаўскі, 1, 137). Параўн. *далібо́г* (гл.).

**Даляга́ць** 'балець, турбаваць, непакоіць, мучыць' (пра арганізм) (зэльв., Сцяц.). Ужываецца толькі ў 3 ас. Бясспрэчнае запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dolegać* 'тс'. Да польск. дзеяслова гл. коратка ў Брукнера, 292 (пад *lec*). Параўн. ст.-бел. *долегливость* 'недамаганне' (< польск. *dolegliwość*; гл. Булыка, Запазыч., 99).

**Да́ма** 'дама' (БРС). Рус. *да́ма*, укр. *да́ма*. Запазычанне з польск. *dama* (якое ў XVII ст. было ўзята з франц. *dame*). Гл. Брукнер, 84; Фасмер, 1, 483; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 11.

**Дамаві́на** 'труна' (БРС, Сцяшк.). Рус. *домови́на, домовище*, укр. *домови́на* 'тс'. Да *дом*; эўфемістычная назва. Гл. Фасмер, 1, 528; Трубачоў, Эт. сл., 5, 70—71.

**Дамасе́д** 'дамасед' (БРС). Рус. *домосе́д*, укр. *домосі́д*. Параўн. далей славац. *domased* 'тс', чэш. *domased* 'лежань'. Трубачоў (Эт. сл., 5, 68) лічыць гэтыя словы прасл., аналогія ёсць у лац. мове *(domisēda)*. Шанскі лічыць, што гэта, магчыма, толькі ўсх.-слав. утварэнні; гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 168.

**Дамату́р** 'дамасед' (Нас., Сл. паўн.-зах.). Як мяркуе Кюнэ (Poln., 51), гэта запазычанне з польск. *domator* 'дамасед', якое, паводле Брукнера (93), ад польск. *dom*, але трансфармаванае паводле лац. слоў, на *-tur*.

**Дані́на** 'даніна' (БРС, Нас.). Гэта слова можна лічыць вытворным ад прасл. **danь* 'тс'. Аднак і форма **danina*, магчыма, таксама ўжо была прасл. (**danina*: параўн. укр. *дани́на*, рус. *дани́на*, польск. *danina*, серб.-харв. *да̀нина*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 187. Фармальна гэта ўтварэнне фармантам *-n-* ад *da-* 'даць, даваць', але Трубачоў (там жа, 188) дапускае больш складаную гісторыю гэтага слова (магчыма, што тут гетэраклітычныя варыянты **dor-: *don-*).

**Данічка** 'гаршчок для кветак, вазон' (зэльв., Сцяц., Сцяшк. МГ). Запазычанне з польск. *doniczka* 'тс' (a гэта ў польск. мове памяншальная форма да *donica* 'вазон; міска, гаршчок' < *dojnica* 'гаршчок для малака'; аб польск. слове падрабязна гл. у Слаўскага, I, 155—156). Параўн. ст.-бел: *дуница* 'гаршчок' (з XVI ст., Булыка, Запазыч., 103) < польск. *dunica* 'тс' (а гэта, відаць, фанетычны варыянт да *donica*; параўн. Брукнер, 94).

**Данясе́нне** 'данясенне' (БРС). Bідавочнае запазычанне з рус. *донесе́ние* 'тс'.

**Дапе́ра** 'цяпер' (Шатал.). Ужо ў ст.-бел. помніках *доперо* 'толькі, усяго' (XVI ст.). Як і ўкр. *допі́ро, допі́ру,* запазычанне з польск. *dopiero* (аб якім Слаўскі, I, 156). Гл. Булыка, Запазыч., 100; Слаўскі, там жа.

**Дапля́гі** 'шмат, многа' (Сцяшк.). Мусіць, запазычанне з польск. *do plagi* 'тс' (гл. *пля́га*) або можа быць самастойным утварэннем на беларускай глебе ад запазычанага з польск. мовы слова *пля́га (пля́га)*. Лексемы такога тыпу вельмі лёгка запазычаюцца з адной мовы ў другую. Словы *плякга, пляга, плакга, флякга* 'няшчасце' вядомы ўжо ў ст.-бел. мове (гл. Булыка, Запазыч.). У польск. мове гэта лацінізм (лац. *plaga*; аб гэтым гл. Брукнер, 416—417).

**Дапну́ць** 'дабрацца, дайсці, знайсці, дапасці' (Сцяц.). Як здаецца, можна ставіць пытанне, ці не з'яўляецца гэта лексема запазычаннем з польск. мовы. Параўн. польск. *dopiąć* 'дабіцца, дайсці', *dopinać* 'дабівацца, дасягаць'. Аб магчымасці запазычання сведчыць геаграфія пашырэння слова (зах. гаворкі бел. мовы), а таксама, як здаецца, не зусім звычайны для бел. мовы марфалагічны тып дзеяслова. Прамым запазычаннем з польск. з'яўляецца і бел. *дапя́ць* (БРС) 'дабіцца, дайсці, апынуцца'.

**Дапя́ць.** Гл. *дапну́ць*.

**Дар** 'дар'. Прасл. слова. Параўн. рус: *дар*, укр. *дар*, польск. *dar*, чэш. *dar*, серб.-харв. *да̂р*, балг. *дар*, ст.-слав. **даръ**. Параўн. далей і.-е. **dōro-* 'дар' (грэч. δῶρον 'дар') < *do-* 'даць' (слав. **da-ti*: бел. *даць*, рус. *дать*, укр. *дати*, польск. *dać*, чэш. *dáti*, балг. *дам*, серб.-харв. *да̏ти*, ст.-слав. **дати**). Сюды адносяцца (< *даръ*) і дзеясловы *дарава́ць, дары́ць,* якія Трубачоў (Эт. сл., 4, 190—191) адносіць да прасл. фармацый (**darovati*, **dariti*), а не да ўтварэнняў у паасобных мовах. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 484; Бернекер, 1, 179; Слаўскі, 1, 138.

**Дарава́ць.** Гл. *дар*.

**Даравíзна** 'падарунак'. У ст.-бел. мове *даровізна* ў значэнні 'падарунак, падаравальны запіс' вядома з XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч.). Запазычанне з польск. мовы (параўн. польск *darowizna,* вытворнае ад дзеяслова *darować*). Аб запазычанні гл. у Кюнэ, Poln., 50.



**Дарагí** 'дарагі'. Рус. *дорого́й*, укр. *дороги́й*, польск. *drogi*, чэш. *drahý*, серб.-харв. *дра̂г*, балг. *драг*, ст.-слав. **драгъ**. Прасл. **dorgъ* 'тс'. Лат. *dārgs* 'дарагі', з якім параўноўваюць слав. слова, магчыма, запазычана са слав. моў. Іншыя версіі таксама вельмі няпэўныя. Трубачоў (Эт. сл., 5, 77) думае пра слав. інавацыю (можа, сувязь з **dьržati*). Агляд праблематыкі ў Трубачова, там жа. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 531.

**Дара́дца** 'дарадца' (БРС). Запазычанне з польск. *doradca* 'тс'. Параўн. аналагічнае ўтварэнне ад *рада* 'парада', *радити* ў ст.-бел. мове (гл. Булыка, Запазыч., 273).

**Дарашава́ты** 'брудна-карычневы, жаўтаваты (аб конях)' (Шат.). Шатэрнік (79) выводзіць гэта слова з польск. *deresz* (гл. *дэ́раш*). Але хутчэй гэта запазычанне прама з польск. *dereszowaty* 'тс'. Аб польск. слове гл. Слаўскі, 1, 14; Брукнер, 87 (лічыцца запазычаннем з венг. мовы; параўн. венг. прыметнік *deres* 'тс').

**Да́рма́** 'дарма' (БРС, Шат.). Рус. *дармо́, дарма́, дармя́*, укр. *да́рма́, да́рмо*, польск. *darmo*, чэш. *darmo*, славен. *dármo* 'тс' і г. д. Прасл. **darьmo* (утварэнне ад **dariti* 'дарыць'). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 192—193.

**Даро́га** 'дарога'. Прасл. слова. Параўн. рус. *доро́га*, укр. *доро́га*, польск. *droga*, чэш. *dráha* 'тс', серб.-харв. *дра̏га* 'яр, лагчына' і г. д. Праформа **dórga*. Найбольш верагоднае тлумачэнне: **dorga-*, вытворнае ад **dьrgati* 'рваць, вырываць, расчышчаць'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 75. Гл. далей Фасмер, 1, 530; Бернекер, 1, 212; Траўтман, 45; Слаўскі, 1, 167.

**Дары́ць.** Гл. дар.

**Дарэ́ктар** 'дамашні настаўнік' (БРС). З польск. *dyrektor* (< лац.) 'тс'. Параўн. ст.-бел. *директоръ* 'духоўны настаўнік' (Булыка, Запазыч., 96).

**Дарэ́мнасць** 'дарэмнасць' (БРС, Нас.), *дарэ́мны, дарэ́мна* (Нас.). Укр. *даре́мний. даре́мно, даре́мність* 'тс'. Запазычанне з польск. *daremny, daremność, daremnie*. Аб запазычанні сведчыць гук «е» (зыходным тут з'яўляецца тв. склон польск. назоўніка *darem*, ад *dar*). Гл. Кюнэ, Poln., 50; Бернекер, 1, 179.

**Дарэ́мны.** Гл. *дарэ́мнасць*.

**Дасканáлы** 'дасканалы' (БРС). Параўн. укр. *доскона́лий*, рус. *доскона́льный*. Лічыцца запазычаннем з польск. *doskonały*

'тс' (у польск. мове слова зафіксавана ў помніках, прынамсі, з XV ст.). У ст.-бел. помніках няма (параўн. Булыка, Запазыч.). Гл. Слаўскі, 1, 157; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 173. Апошні ўказвае, што, паводле гістарычных даных, слова прыйшло з мовы паўднёва-заходняй Русі, куды яно трапіла з польскай крыніцы.

**Даспéхі** 'даспехі' (БРС). Рус. *доспéхи* 'тс', таксама 'работа, майстэрства'. Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 83), прасл. слова (з іншай семантыкай у іншых слав. мовах), якое ўтворана ад дзеяслова **dospěti*. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 83.

**Дастáтак** 'дастатак' (БРС). Рус. *достáток,* укр. *достáток,* чэш. *dostatek,* серб.-харв. *дòстатак* 'тс' і г. д. Прасл. **dostatъkъ* 'тс' — утварэнне ад дзеяслова **dostati* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 84—85).

**Дастóйны** 'дастойны' (БРС). Рус. *достóйный,* укр. *достóйний,* польск. *dostojny,* чэш. *důstojný,* балг. *достóен* і г. д. Прасл. **dostojьnъ* 'тс' — утварэнне ад слав. **dostojь* 'годнасць' (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 85—86; Слаўскі, 1, 157).

**Дастрэ́нчыць** 'дагадзіць' (Шат.). Запазычанне з польск. *dostręczyć*. Па паходжанню гэта дзеяслоў з прэфіксам *do-*. Адносна этымалогіі польск. *stręczyć* параўн. Брукнер, 518.

**Дасýжы** 'дасужы' (БРС). Рус. *досýжий,* укр. *досýгий*. Утварэнне ад **dosǫgъ* 'вольны час; час, вольны ад працы' (гэта апошняе — дэрыват ад прасл. **dosęg(a)ti*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 81—83; Фасмер, 1, 532.

**Дасціпнасць,** *дасціпны*. Гл. *дóсціп*.

**Дасэ́ні**. Гл. *дзéсань*.

**Дáта** 'дата' (Нас.: «ужываецца галоўна памешчыкамі і шляхтай»). Ст.-бел. *дата* (засведчана з XVI ст., гл. Булыка, Запазыч., 88). Паводле Кюнэ (Poln., 50), запазычанне з польск. *data,* а гэта ўзята з лац. мовы (так і ў Булыкі, там жа). У даным выпадку рус. *дáта* не можа быць непасрэднай крыніцай запазычання для бел. мовы, таму што ў рус. мове гэта слова з'явілася вельмі позна (паводле Шанскага, 1, Д, Е, Ж, у XIX ст.).

**Датклíвы** 'далікатны' (БРС). Слова гэта было ўжо вядома ў ст.-бел. мове з XVI ст. Запазычанне з польск. *dotkliwy* 'тс' (гл. Булыка, Запазыч., 101).

**Датлá** 'датла, зусім' (БРС). Параўн. укр. *дотлá,* славац. *do tla*. У аснове ляжыць спалучэнне **do* з словам **tьlo* 'аснова, зямля': укр. *тло,* ст.-рус. *тьло,* серб.-харв. *тлȅ,* польск. *tło* і г. д. (прасл. **tьlo;* аб далейшых сувязях гл. у Фасмера, 4, 65). Параўн. таксама Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 178.



**Датычыць,** *датычыцца* 'датычыцца' (БРС). Запазычанне з польск. *dotyczyć* 'тс'. Запазычанне адносна новага часу (няма ў Булыкі, Запазыч.).

**Даўбня́**. Гл. *дóўбня*.

**Дáўні,** *даўнó* (БРС). Рус. *дáвний,* укр. *дáвній,* польск. *dawny,* чэш. *dávný, dávní,* серб.-харв. *дȃван,* ст.-слав. **давьнъ**. Прасл. **davьnъ* 'даўні' — утварэнне ад асновы **davě* 'нядаўна; сёння раніцай; раней; даўно' і г. д. (гл. у Трубачова, Эт. сл., 4, 198). Параўн. ст.-інд. *dáviya-* 'далей', лац. *dū-r-are* 'вытрымліваць, працягвацца', грэч. **δηρόν** 'доўга' і г. д. Гл. Фасмер, 1, 480—481; Бернекер, 1, 181; Трубачоў, там жа.

**Дах** 'дах'. Укр. *дах* 'тс'. Запазычанне (гл. Кюнэ, Poln., 50) з польск. *dach* 'тс', якое ўзята (у польск. мове гэта слова вядома з XV ст.) з ням. *Dach* 'тс' (да польск. слова гл. Брукнер, 83—84, але Слаўскі, 1, 136, удакладняе, што польск. слова *dach* запазычана з с.-в.-ням. *dach*). У бел. мове слова *дах* засведчана з XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч., 88).

**Даць**. Гл. *дар*.

**Дáча** 'даванне' (Байк. і Некр.), таксама палес. (гл. Клімчук, Лекс. Палесся. М., 1968, 30). Узыходзіць да прасл. праформы **datja* (ад **dati*). Параўн. агляд форм ў Трубачова, Эт. сл., 4, 195—196: значэнні лексем, паколькі яны паходзяць з аддзеяслоўнага імені, вельмі шматлікія (ад nomen actionis да назваў канкрэтных прадметаў). Параўн. яшчэ Папоўская-Таборская, Бел.-польск. ізал., 103.

**Дачкá** 'дачка'. Параўн. рус. *дочь,* укр. *дочкá,* польск. *córa,* чэш. *dcera,* серб.-харв. *кħи,* балг. *дъщеря́,* ст.-слав. **дъщи**. Прасл. **dъktʼi*. Параўн. ст.-інд. *duhitár-,* грэч. **θυγάτηρ**, літ. *duktẽ* 'тс' (далейшы аналіз вельмі няпэўны). Гл. Бернекер, 1, 243—244; Фасмер, 1, 533; асабліва Трубачоў, Эт. сл., 5, 178—179 (з бібліяграфіяй).

**Дачынéнне** 'дачыненне' (БРС). Магчыма, паланізм. Параўн. польск. *mieć do czynienia* 'мець справу' (з кімсьці).

**Дашчэ́нту** 'дашчэнту' (БРС, Байк. і Некр.). Слова гэта сустракаецца і ва ўкр. мове (*дощéнту*). У бел. мове. лексема вядома з XVI ст. (*дощенту;* гл. Булыка, Запазыч., 101). Слова, якое прыйшло з польск. мовы (параўн. польск. *doszczętu* 'тс'). Кюнэ, Poln., 50.

**Дбаць** 'клапаціцца'. Засведчана ўжо ў ст.-бел. мове: *дбати* (гл. Булыка, Запазыч., 88). Паводле Кюнэ (Poln., 50), бел. лексема запазычана з польск. *dbać* 'тс'. Кюнэ (там жа) аргументуе магчымасць запазычання з польск. мовы тым, што

5. Зак. 2801

гэта слова вядома толькі ў зах. славян. Булыка (там жа) таксама лічыць слова запазычаным. З іншага боку некаторыя этымолагі лічаць бел. *дбаць*, укр. *дбати* спаконвечна славянскімі лексемамі, якія выходзяць да прасл. **dъbati* (так мяркуе, напр., Слаўскі, 1, 142, але без рус. матэрыялу). Да прасл. **dъbati* адносіць бел., укр. і рус. (рус. дыял. *дбать*) Трубачоў; гл. яго дадатак да Фасмера, 1, 486 (пад *дбать*), а таксама Трубачоў, Эт. сл., 5, 172—173. Няясна.

**Два,** *дзве*. Рус. *два, две*, укр. *два, дві*, польск. *dwa, dwie*, чэш. *dva, dvě*, балг. *два, две*, ст.-слав. **дъва, дъвѣ**. Прасл. **dъva*, **dъvě*. Параўн. літ. *dù, dvì*, ст.-інд. *duvāu, duvā́*, грэч. δύω, лац. *due*, гоц. *twai, twōs*. І.-е. **d(u)uō*, **d(u)uoi* 'два'. Параўн. Брукнер, 105; Траўтман, 64; Фасмер, 1, 486; Трубачоў, Эт. сл., 185—186.

**Двайга́** 'двое' (Сцяц.). Бясспрэчнае запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dwojgo* 'двое' (параўн. таксама р. скл. *dwojga* ад лічэбніка *dwoje* 'двое'). Адносна польскіх форм гл. Слаўскі, 1, 183. Параўн. яшчэ ст.-бел. *двойкга, двойга* 'двое' (якія дакладна адлюстроўваюць польскую форму *dwojgo*; гл. Булыка, Запазыч., 88).

**Два́кроць** 'два разы' (Нас.). Запазычанне з польск. *dwakroć* 'тс'.

**Двана́стка** 'ўкладка жыта ў капу па 12 снапоў' (Сцяшк.). Відавочнае запазычанне з польск. мовы. У аснове ляжыць польск. назва лічэбніка *dwunastka*.

**Двана́ццаць**. Рус. *двена́дцать*, укр. *двана́дцять*, польск. *dwanaście*, чэш. *dvanáct*, серб.-харв. *два̏наест*, балг. *двана́десет*. Прасл. **d(ъ)va/d(ъ)vě na desętе* < **d(ъ)va* + *na* + *desętе* (мес. скл. ад **desętь*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 186; Фасмер, 1, 487.

**Дварані́н** 'дваранін' (БРС). Рус. *дворяни́н*, укр. *дворяни́н*, польск. *dworzanin*, ст.-чэш. *dvořěnín* і г. д. Шанскі (1, Д, Е, Ж, 30) мяркуе, што гэта слова агульнаславянскае, што вельмі няпэўна. Паводле Слаўскага (1), польск. слова вядома толькі з XV ст.; Фасмер (1, 489) указвае, што рус. слова ў значэнні 'чалядзін князя' вядома з XVII ст., рус. слова і польск. *dworzanin* — гэта калькі з с.-н.-ням. *hövesch*. Слав. словы хутчэй у большасці самастойныя ўтварэнні па вядомай мадэлі.

**Двар́эц** 'дварэц' (БРС). Рус. *дворе́ц*, укр. дыял. *дворе́ць*. Усх.-слав. утварэнне ад *двор* (гл. падрабязна ў Шанскага, 1, Д, Е, Ж, 29).

**Два́ццаць** 'дваццаць' (БРС). Рус. *два́дцать*, укр. *два́дцять*, польск. *dwadzieścia*, чэш. *dvacet*, серб.-харв. *два̏десет*, балг. *два́десет*. Прасл. **d(ъ)va desętе* (спалучэнне лічэбніка **dъva* і формы ад **desętь*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 186; Фасмер, 1, 486; Бернекер, 1, 187.



**Дваю́радны** 'дваюрадны' (БРС, Шат.). Рус. *двою́родный*, укр. *двою́рідний* 'тс'. Усх.-слав. лексема, утвораная з выразу *дъвою родоу* (да *дъва* і *родъ*). Гл. Фасмер, 1, 489; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 30—31.

**Два́які** 'дваякі' (БРС). Рус. *двоя́кий*, укр. *двоя́кий*, чэш. *dvojaký*, серб.-харв. *дво̏јак*, балг. *двоя́к*. Прасл. утварэнне суфіксам *-akъ* ад лічэбніка **d(ъ)vojь* < **dъva* 'два'. Гл. Фасмер, 1, 489; Трубачоў, Эт. сл., 5, 190—191.

**Дво́жды** 'двойчы' (Нас.). Параўн. рус. дыял. *дво́жды, дво́жди, дво́жжи* (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 187). Дыялектная форма да прасл. **d(ъ)va šьdi* 'двойчы' (<*d(ъ)va* 'два' і *šьd-*, апошняе да дзеяслова **jьti*, **xoditi*), якая ўзнікла, відавочна, аналогіяй.

**Дво́йчы** 'двойчы' (БРС, Нас., Шат., Касп.). Параўн. рус. дыял. *дво́йчи, дво́ича*, укр. *дві́чи, дві́йчи*, ст.-польск. *dwójcy, dwujcy, dwajcy*, ст.-слав. **дъвоици**. Прасл. **d(ъ)vojьtji* < <**d(ъ)va* + іменная форма **jьtjь* 'ход'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 193. Параўн. *дво́жды*.

**Двор** 'двор' (БРС, Нас., Шат., Касп., Сцяшк. МГ). Рус. *двор*, укр. *двір*, польск. *dwór*, чэш. *dvůr*, серб.-харв. *дво̏р*, балг. *двор*, ст.-слав. **дворъ**. Прасл. **dvorъ* лічыцца роднасным са слав. **dvьrь* 'дзверы'. Параўн. далей ст.-інд. *dvā́ram* 'вароты, дзверы', лац. *forum* 'пярэдні двор', лат. *dvars* 'брамка'. Фасмер, 1, 489; Бернекер, 1, 241; Траўтман, 63; Трубачоў, Эт. сл., 5, 169—170. Спецыяльна для **dvьrь* параўн. гоц. *daúr*, літ. *dùrys*, лац. *forēs*, ст.-інд. *dúraḥ* і г. д. (Трубачоў, Эт. сл., 5, 171—172).

**Двуру́шнік** 'двурушнік' (БРС). Запазычанне з рус. *двуру́шник* 'тс' (у рус. мове слова вядома з XIX ст.). Падрабязна аб гісторыі яго ў рус. мове гл. у Шанскага, 1, Д, Е, Ж, 32.

**Джаз** 'джаз' (БРС), *джазба́нд* 'тс'. Рус. *джаз, джазба́нд*, укр. *джаз*. Запазычанне з англ. *jazz, jazzband* 'тс' (ад імя музыканта *Jaz* < *Charles*). Фасмер, 1, 510; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 100—101.

**Джгаць** 'біць, муштраваць', 'сячы (праападкі)', 'хутка ісці, заўзята есці' (Сцяц.), 'хутка ісці, ехаць' (Шат.), 'джаліць' (БРС). Запазычанне з польск. *dźgać* 'калоць, пароць'.

**Дзага́рак** 'гадзіннік' (Сцяшк.). Бясспрэчнае запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *zegarek* 'тс', якое з'яўляецца памяншальнай формай. Параўн. таксама польск. *zegar* 'тс',

ст.-польск. *zeger*. У аснове польскіх назваў ляжыць ням. Seiger 'клепсідра'. Гл. Булыка, Запазыч., 121; Брукнер, 651.

**Дзвéры** 'дзверы'. Гл. *двор*.

**Дзе** 'дзе'. Укр. *де*, рус. *где*, польск. *gdzie*, чэш. *kde*, балг. *де*, *кѫдѣ*, ст.-слав. **къде**. Прасл. **kъ-de* (пытальны займеннік **kъ-* + частка *-de*). Параўн. ст.-інд. *kúha (*kúdha)* 'тс', авест. *kudā* і г. д. Слаўскі, 1, 271; Траўтман, 144; Бернекер, 1, 674—675; Фасмер, 1, 400.

**Дзéва** 'сузор'е Дзевы (БРС). Запазычанне з рус. *Дéва* 'тс' (у рус. мове гэта калька лац. назвы сузор'я *Virgo*).

**Дзéвер** 'дзевер, брат мужа' (БРС). Рус. *дéверь*, укр. *дíвер*, ст.-польск. *dziewierz*, чэш. *deveř*, балг. *дéвер*, ц.-слав. *дѣверь*. Прасл. **děverь*. І.-е. **daiu̯er-*. Параўн. літ. *dieveris*, ст.-інд. *devâr-*, лац. *lēvir*, ст.-грэч. δαήρ. Фасмер, 1, 491; Траўтман, 43; Бернекер, 1, 198; Трубачоў, Эт. сл., 5, 19.

**Дзевянóста**. Рус. *девянóсто*, укр. *дев'янóсто*, ст.-рус. *девѧносто*, ст.-польск. *dziewiętnosto*. Праформа **devę(t)nosъto*. Паводле Трубачова (Эт. сл., 4, 220), лічыцца прасл. дыялектызмам. Параўн. лац. *nōnāginta* і да т. п. Гл. Трубачоў, там жа; Фасмер, 1, 492.

**Дзевятнáццаць**. Рус. *девятнáдцать*, укр. *дев'ятнáдцять*, польск. *dziewiętnaście*, чэш. *devatenáct*, балг. *деветнáйсет* і г. д. Прасл. **devętь na desęte*. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 224.

**Дзéвяць**. Рус. *дéвять*, укр. *дéв'ять*, польск *dziewięć*, чэш. *devět*, серб.-харв. *дȅвет*, балг. *дéвет*, ст.-слав. **девѧть**. Прасл. **devętь* (марфалагічная інавацыя; параўн. тэарэтычнае **devę-* (**deven-* < **neu̯n-*). Параўн. літ. *devynì*, ст.-інд. *náva*, авест. *nava*, лац. *novem* і г. д. Трубачоў, Эт. сл., 4, 222—223; Фасмер, 1, 492—493; Бернекер, 1, 188—189; Траўтман, 198.

**Дзед** 'дзед'. Рус. *дед*, укр. *дід*, польск. *dziad*, чэш. *děd*, серб.-харв. *дjȅд*, балг. *дя́до*, ст.-слав. **дѣдъ**. Прасл. **dědъ* — форма з рэдуплікацыяй (якая назіраецца і ў словах **baba*, **tata*), але з пэўнымі асаблівасцямі (экспрэсіўнасць утварэння). Фасмер, 1, 494; Трубачоў, Эт. сл., 4, 227—228. Параўн. ст.-грэч. τήθη 'бабуля' (< і.-е. **dhēdhā*).

**Дзелавíты** 'дзелавіты' (БРС). Укр. *дíловúтий*. Здаецца, запазычанне з рус. *деловúтый* 'тс' (якое з'явілася ў рус. мове даволі позна).

**Дзéля** 'дзеля, для' (БРС, Касп., Шат.). Параўн. укр. дыял. *діля* 'для', ст.-польск. *dziela* 'для', ст.-слав. **дѣлꙗ**. Прасл. **děľa* (звязана з прасл. **dělo*). Як семантычную і марфалагічную



паралель параўн. лац. *causa* 'справа', *causā* 'для'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 234—235; Фасмер, 1, 497; Слаўскі, 1, 147.

**Дзень**. Параўн. рус. *день*, укр. *день*, польск. *dzień*, чэш. *den*, серб.-харв. *дȃн*, балг. *ден*, ст.-слав. **дьнь**. Прасл. **dьnь* < < і.-е. **din-*; параўн. ст.-інд. *dínam* 'дзень', літ. *dienà*, лац. *diēs* 'дзень' і г. д. Агляд гл. у Фасмера, 1, 498—499; Трубачова, Эт. сл., 5, 213—214. Гл. яшчэ Бернекер, 1, 253—254.

**Дзеньдóбры** 'дабрыдзень' (Нас., Касп.). Паводле Кюнэ (Poln., 52), запазычана з польск. мовы. Параўн. польск. *dzień dobry* 'тс'. Як мяркуе Кюнэ (там жа), аб запазычанні сведчыць парадак слоў, які дакладна адпавядае польскаму ў гэтай форме звяртання.

**Дзéрава** 'дрэва', таксама і ў форме *дзéраво* (Сцяшк.). Апошняе, аднак, азначае 'матэрыял для будаўніцтва'. Форма *дзéрава* зыходзіць, бясспрэчна, да прасл. лексемы **dervo*, якое дало пачатак славянскім формам: рус. *дéрево*, укр. *дéрево*, польск. *drzewo*, чэш. *dřevo*, балг. *дрéво*, серб.-харв. *дрȇво*, ст.-слав. **дрѣво** і г. д. Роднаснымі формамі для прасл. **dervo* 'дрэва' лічацца літ. *dervà* 'смала; смалістае дрэва', ст.-інд. *dāru-* 'дрэва', кімр. *derwen* 'дуб' і г. д. Тут вельмі разгалінаванае сямейства слоў з шматлікімі роднаснымі формамі, аблаўтнымі суадносінамі вакалізму і да т. п. З вялікай літаратуры параўн. Слаўскі, 1, 174; Фасмер, 1, 502; Трубачоў, Эт. сл., 4, 211—213.

**Дзеразá** 'расліна дзераза' (БРС). Рус. *дерезá*, укр. *дерезá* (агляд матэрыялу ў Трубачова, Эт. сл., 4, 205—206). Паводле Трубачова (там жа), вытворнае ад дзеяслова **derti* 'драць' (суф. *-eza*). Няпэўна Фасмер, 1, 502: зыходная форма *dьrz-* і сувязь з рус. дзеясловам *дёргать*.

**Дзéўка**, *дзяўчы́на*. Рус. *дéва*, *дéвка*, укр. *дíвка*, польск. *dziewa*, *dziewczyna*, чэш. *dívka*, балг. *дéва* і г. д. Прасл. **děva*, **děvica*, **děvъka* 'тс'. Зыходным з'яўляецца **děva* — утварэнне, роднаснае з *dojiti* (*děva* 'тая, што корміць або можа карміць груддзю'). **Děva* — прасл. інавацыя. Трубачоў, Эт. сл., 5, 17—18; гл. далей Фасмер, 1, 491; Бернекер, 1, 197.

**Дзець** 'дзець'. Звязана з прасл. **děti* 'рабіць, дзець, пакласці і г. д.' (шмат розных значэнняў; агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 4, 229—230). Прасл. **dě(ja)ti* < і.-е. **dhē* 'ставіць, класці, рабіць'. Гл. Трубачоў, там жа; Фасмер, 1, 509; Бернекер, 1, 193.

**Дзёшава**, *дзешавéць* (БРС). Параўн. рус. *дешёвый*, укр. *дешéвий*. Паводле Трубачова (Эт. сл., 4, 219—220), слова няяснай структуры, але, магчыма, даўняга паходжання. Этыма-

логіі яго няпэўныя (ад слав. *desiti, *desnica і інш.). Агляд у Фасмера, 1, 509—510; Трубачова, там жа.

**Дзе́яць** 'рабіць і да т. п.' Таго ж паходжання, што і дзеяслоў *дзець* (гл.), г. зн. ад прасл. **dě(ja)ti* < і.-е. **dhē-* 'ставіць, класці, рабіць'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 229—230.

**Дзёгаць** 'дзёгаць'. Рус. *деготь*, укр. *дёготь*, польск. *dziegieć*, чэш. *dehet*. Прасл. **degъtь* 'тс'. Лічыцца роднасным з літ. *degùtas* 'тс' (параўн. літ. *dègti* 'паліць'). Раней меркавалі, што слав. слова запазычана з балт. моў (аргументам тут было тое, што няма адпаведнага слав. дзеяслова: у слав. мовах выступае аснова **žeg-* <**geg-* 'паліць', а не **deg-*, як у балт.). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 204—205; Фасмер, 1, 493; Бернекер, 1, 182—183; Брукнер, 109. Незалежна ад праблематыкі існавання слав. базавага дзеяслова для **degъtь* трэба звярнуць увагу, што ў ст.-чэш. мове *dehet* абазначае таксама пэўнае дрэва (Tergentinbaum, terebinthus; гл. у слоўніку Гебаўэра). Гэта магчымы каштоўны рэлікт даўніны, які, мяркуем, зусім не падмацоўвае ідэю запазычання з балт. моў.

**Дзёран** 'дзёран' (БРС), *дзярно́* 'тс' (Касп.). Рус. *дерн*, укр. *дёрен*, польск. *darń*, чэш. *drn*, балг. *до́ран, дъ́рен, дъ́рн*. Прасл. **dьrnъ* 'тс' — утварэнне ад **dr-*: **der(ə)-* 'драць' (параўн. ст.-інд. *dirṇá-* 'той, што лопнуў, трэснуў'). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 224—225; гл. далей Фасмер, 1, 504; Бернекер, 1, 256.

**Дзёрзкі** 'дзёрзкі' (БРС). Параўн. рус. *дёрзкий*, укр. *дерзки́й*, польск. *dziarski*, чэш. *drzký*, балг. *дързък*, серб.-харв. *др̏зак*. Прасл. **dьrzъkъ* — утварэнне суфіксам *-ъkъ* ад **dьrzъ* 'тс' (< і.-е. **dhr̥su-s* 'тс'). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 228—229; Фасмер, 1, 503—504; Бернекер, 1, 257—258.

**Дзі́ва** 'дзіва'. Параўн. рус. *ди́во*, укр. *ди́во*, польск. *dziwo*, серб.-харв. *ди̏во*, ст.-слав. **диво**. Прасл. **divo* 'тс'. Сувязі са слав. **divati, *diviti, *divъ*. Гл. Фасмер, 1, 513; Бернекер, 1, 202—203; Трубачоў, Эт. сл., 5, 33—34. Параўн. мн. л. у рус. дыял. *диве́са́*. Магчыма, бел *дзіво́сны* паходзіць ад *дзіво́сы* (мн. л.), што нагадвае форму мн. л. у старых асноў на *-es-*. Ад **divo* ўтворан прыметнік на *-ьnъ* **divьnъ* (бел. *дзі́ўны* і інш.). Агляд у Трубачова, Эт. сл., 5, 36—37. Таксама дзеяслоў **diviti, *diviti sę*, паводле Трубачова (там жа, 33), утворан ад **divo*.

**Дзіві́ць**, *дзіві́цца*. Гл. *дзі́ва*.

**Дзівасі́л** 'дзівасіл'. Параўн. рус. *девяси́л*, укр. *дев'яси́л*, чэш. *devětsil, devesel, divisel*, балг. *девеси́л*, серб.-харв. *деве̏сиљ* і г. д. Прасл. **devęsilъ*. Складанае слова: **devę* (архаічная форма лічэбніка **devętь*) і **sila* 'сіла'. Гл. Фасмер, 1, 491; Бернекер, 1, 189; Трубачоў, Эт. сл., 4, 221. Назва дадзена паводле пэўных уласцівасцей расліны.



**Дзіво́сны**. Гл. *дзі́ва*.

**Дзі́да** 'кап'ё, піка' (БРС). Першакрыніцай з'яўляецца тур. *džida* 'тс'. У бел. мове з польск. *dzida* (<тур.). Гл. Слаўскі, 1, 192.

**Дзік** 'дзік, вяпрук' (БРС). Рус. дыял. *дик*, укр. *дик* 'дзікая свіння', польск. *dzik* 'тс'. Да слав. **dikъ* 'дзікі і да т. п.' Гл. Слаўскі, 1, 204.

**Дзікі** 'дзікі'. Параўн. рус. *ди́кий*, укр. *ди́кий*, польск. *dziki*, в.-луж. *dziki*, балг. *ди́кый* (з слоўніка Герава) і г. д. Прасл. **dikъ*. Лічыцца роднасным прасл. **divъ, *divokъ*, літ. *dỹkas*, лат. *diks* (але, магчыма, балт. лексемы запазычаны са слав. моў). Траўтман, 54; Бернекер, 1, 199—200; Фасмер, 1, 514; Трубачоў, Эт. сл., 5, 29—30.

**Дзіра́**, *дзі́рка*. Да прасл. **dira*, утворанага ад ітэратыўнага дзеяслова *-dirati* (да **dьrati*, гл. *драць*). Агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 30—31; гл. яшчэ Бернекер, 1, 201; Фасмер, 1, 515.

**Дзірва́н** 'неапрацаванае, зарослае травой поле' (БРС, Сцяшк.). Старое запазычанне з літ. мовы. Параўн. літ. *dirvó-nas* (да *dirvà;* аб этымалогіі літ. слоў гл. Фрэнкель, 1, 97). Ужо ў ст.-бел. мове сустракаюцца формы *дирванъ, дырванъ* у значэнні 'аблога' (формы гэтыя вядомы з XVI ст., гл. Булыка, Запазыч., 96).

**Дзі́ўны** 'дзіўны'. Гл. *дзі́ва*.

**Дзіця́** 'дзіця' (мн. л. *дзе́ці*). Рус. *дитя́ (де́ти)*, укр. *дитя́ (ді́ти)*, польск. *dziecię*, чэш. *dítě (děti)*, балг. *дете́* і г. д. Прасл. **dětę* 'дзіця', **děti* 'дзеці'. Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 13), **dětę* звязана з **dojiti* ў значэнні 'ссаць, смактаць' (гл. там жа крытычны агляд іншых версій). Фасмер, 1, 516; Бернекер, 1, 196; Траўтман, 51.

**Дзы́нкаць,** *дзвы́нкаць* 'бразгаць, брынкаць' (БРС). Калі гэта не гукапераймальныя ўтварэнні, то можна меркаваць, што гэта запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dźwięk* 'гук', *dźwięczeć* 'гучаць' (параўн. таксама запазычанне з польск. мовы ў ст.-бел. помніках: *дзвенкъ* 'гук'; гл. Булыка, Запазыч., 94).

**Дзьмуць,** *дзьму́хаць*. Формы, што ўзніклі кантамінацыяй на базе старых слав. форм. **duti* і **dǫti* (**duti* **dujǫ; *dǫti: *dъmǫ*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 99—100.

**Дзю́ба.** Гл. *дзю́бацъ*.

**Дзю́бацъ** 'дзюбаць' (БРС). Рус. дыял. *дю́бать* 'тс'. Параўн. чэш. *d'ubati*, славац. *d'ubat'* 'тс'. Трубачоў (Эт. сл., 5, 37) мяркуе, што тут дзеяслоў, утвораны ад *d'ub-* < і.-е. *dheub(h)-* 'глыбокі', 'даўбці' (аб кантамінацыі з *zobati 'тс' гл. у Махэка$_2$, 132). Ад дзеяслова ўтворана бел. *дзю́ба*.

**Дзюрча́ць**, *дзюрчэ́ць*. Параўн. рус. *журча́ть*, укр. *журча́ти, джурча́ти, дзюрча́ти*. Лічыцца гукаперайма льным утварэннем. Фасмер, 2, 68 (са спасылкай на Праабражэнскага, 1, 239).

**Дзябё́лы** 'дзябёлы' (БРС, Касп., Шат.). Параўн. рус. *дебе́лый, дебёлый*, укр. *дебе́лий*, балг. *дебе́л*, серб.-харв. *дѐбео*. Прасл. *debelъ вядома толькі ў паўд. і ўсх. слав. мовах. Утварэнне ад асновы *deb-, *dob- (параўн. *dobrъ). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 201—203; Бернекер, 1, 182; Фасмер, 1, 490; Траўтман, 47.

**Дзя́га** 'раменны пояс' (Сцяшк.). Параўн. рус. дыял. *дя́га* 'скураны рамень', 'сіла, рост', укр. дыял. палес. *дяг* 'паласа лыка', славен. *déga* 'рамень', ст.-рус. *дѧгъ* 'тс'. Гэты назоўнік, як мяркуюць (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 24—25), таго ж кораня, што і прасл. дзеяслоў *dęgt'i, які захаваўся дрэнна (у кампазіцыі *obdęgati). З і.-е. моў параўн. літ. *deñgti* 'пакрываць'.

**Дзя́гілля** 'сцёблы і лісце бульбы'. Здаецца, запазычанне з літ. мовы. Падрабязней гл. пад *гігаллё*. Але гл. Фасмер, 1, 561.

**Дзягно́** 'ежа з канапель' (Бяльк., Касп.). Параўн. рус. дыял. пск. *дягно́* 'пена пры кіпячэнні тоўчанага канаплянага семя'. Трубачоў (Эт. сл., 5, 25—26) параўноўвае гэтыя словы з рус. *дягло́* 'малокі ў рыбы' і аб'ядноўвае іх пад праформай *dęg(ъ)no, dęg(ъ)lo*.

**Дзя́дзька** 'дзядзька'. Параўн. укр. *дя́дько*, рус. *дя́дя*. Усх.-слав. лексемы. Лічыцца, што яны ўзніклі асіміляцыяй з *дѣдѧ* (< *dědъ*). Гл. Фасмер, 1, 561; Трубачоў, История терм., 85; Бернекер, 1, 191; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 230—231.

**Дзяжа́** 'дзяжа'. Параўн. рус. *дежа́*, укр. *діжа́*, польск. *dzieża*, чэш. *díž*, серб.-харв. *dìža*, славен. *déža*. Прасл. *děža (< *děz-i̯ā). Параўн. гоц. *deigan* 'мясіць', *daigs* 'цеста', літ. *diežti* 'калаціць' і г. д. Гл. Фасмер, 1, 494; Трубачоў, Эт. сл., 5, 23—24.

**Дзяжу́рыць**. Магчыма, запазычанне з рус. мовы (*дежу́рить*), дзе яно сустракаецца ўжо з эпохі Пятра I і ўзята з франц. *être de jour* 'быць на дзяжурстве'. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 46.

**Дзяк** 'дзяк'. Рус. *дьяк*, укр. *дяк*. Запазычанне з грэч. мовы (διάκος). Гл. Фасмер, 1, 560; Бернекер, 1, 198—199; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 226.



**Дзя́каваць** 'дзякаваць' (у помніках ст.-бел. мовы гэта слова засведчана з XV ст. у форме *дяковати*, гл. Булыка, Запазыч., 104). Укр. *дя́кувати* 'тс', рус. дыял. (зах., паўд., Даль, СРНГ) *дя́ковать* 'тс'. Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dziękować* 'дзякаваць' (ад *dzięki* < ням.). Гл. Слаўскі, 1, 204; Фасмер, 1, 561.

**Дзя́кі** 'дзякуй' (Нас.). Параўн. ст.-бел. *дяка* 'падзяка, удзячнасць' (з XVI ст., Булыка, Запазыч.), укр. *дя́ка* 'падзяка'. Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dzięka, dzięki* 'тс' (с.-в.-ням. *danc*). Гл. Слаўскі, 1, 204; Фасмер, 1, 561.

**Дзялі́ць** 'дзяліць'. Рус. *дели́ть*, укр. *діли́ти*, польск. *dzielić*, чэш. *děliti*, ст.-слав. **дѣлити**. Прасл. *děliti. Роднасныя формы: літ. *dailýti*, гоц. *dailjan*, ням. *teilen*. Гл. Фасмер, 1, 496; Траўтман, 43; Бернекер, 1, 195.

**Дзяншчы́к** 'дзяншчык' (БРС). Запазычанне з рус. *денщи́к* 'тс' (а гэта калька франц. *dejour* 'днявальны'). Фасмер, 1, 499; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 71—72.

**Дзяньгу́б** 'гультай, лодыр' (Бяльк.). Трубачоў (Эт. сл., 5, 214) знаходзіць балг. слова *денгу́ба* 'чалавек, які дарма марнуе час', 'марнаванне часу' і параўноўвае яго з бел. лексемай. Ён лічыць, што, магчыма, быў прасл. фразеалагізм *dьnь gubiti, які звязвае бел. мову з паўд.-слав.

**Дзяржа́ва** 'дзяржава' (БРС). Рус. *держа́ва*, укр. *держа́ва*, польск. *dzierżawa* 'уладанне, арэнда', чэш. *država* і г. д. Утварэнее ад *dьržati. Прасл. *dьržava (падрабязна гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 231—232).

**Дзярка́ч** 'венік' (БРС). Рус. дыял. *дерка́ч*, укр. *дерка́ч*. Вытворнае ад *dьrkati* 'выдаваць пэўныя гукі'; гукапераймальнае ўтварэнне. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 222.

**Дзясна́** 'дзясна'. Параўн. рус. *десна́*, укр. *я́сни*, польск. *dziąsna*, серб.-харв. *dêsna* і г. д. Прасл. *dęsn-, магчыма, ад і.-е. назвы зуба (літ. *dantìs*, ст.-інд. *dant-*, лац. *dens* і г. д.). Бернекер, 1, 190; Фасмер, 1, 506; Трубачоў, Эт. сл., 5, 26—27.

**Дзя́цел** 'дзяцел'. Параўн. рус. *дя́тел*, укр. *дя́тел*, польск. *dzięcioł*, ст.-чэш. *dětel*, серб.-харв. *djȅtao*, балг. *дѐтел*. Прасл. *dętelъ. Утварэнне суфіксам *-tel-*. Дзеяслоўная аснова, ад якой утворана назва, праблематычная (*delb- або *dьlb-: літаральна 'той, які доўбае'). Параўн. Фасмер, 1, 562; Бернекер, 1, 190—191; Трубачоў, Эт. сл., 5, 27—28.

**Длонь** 'далонь' (Нас.). Запазычанне з польск. мовы. Параўн.

польск. *dłoń* 'тс' (а гэта да прасл. **dolnь* : рус. дыял. *доло́нь*, бел. *дало́нь*, укр. *доло́нь, доло́ня*, чэш. *dlaň*, ст.-слав. **длань** і г. д.). Гл. Кюнэ Poln., 51.

**Длуба́нне** 'калупанне' (Нас., Байк. і Некр.). Паводле Кюнэ (Poln., 51), запазычанне з польск. *dłubanie* 'тс' (да *dłubać*). Параўн. *длу́баць* (гл.). Але форма *длу́банне* 'тс' (БРС) можа быць і незапазычанай, утворанай у бел. мове ад запазычанага *длу́баць*.

**Длу́баць** 'калупаць, пароць' (Сцяц., БРС). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dłubać* 'тс' (а гэта да прасл. **dьlbati*; гл. Слаўскі, 1, 148; агляд слав. форм. гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 206, пад праформамі **dьlbati, *dьlbiti*). Гл. яшчэ Кюнэ, Poln., 51.

**Для** прыназоўнік (БРС). Параўн. рус. *для*, укр. *для*, польск. *dla*, чэш. *dle* і г. д. Паводле Фасмера (1, 517), узнікла скарачэннем з *děl'a* (параўн. ст.-рус. *дѣля*, ст.-слав. **дѣлꙗ**, укр. *ді́ля*, бел. *дзе́ля*). Шмат іншых версій. Агляд у Фасмера; гл. яшчэ Слаўскі, 1, 146—147; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 142—143.

**Днець** 'днець'. Лексема прасл. характару. Прасл. **dьněti*: рус. *днеть*, укр. *дні́ти*, чэш. *dněti, dníti* і г. д. Дзеяслоў, вытворны ад слав. **dьnь* 'дзень'. Падрабязны агляд у Трубачова, Эт. сл., 5, 212.

**Дно** 'дно' (БРС). Параўн. рус. *дно*, укр. *дно*, польск. *dno*, чэш. *dno*, серб.-харв. *дно* і г. д. Прасл. **dъno* з больш старога **dъbno*. Роднаснымі формамі лічацца літ. *dubùs* 'глыбокі', *dùgnas* 'дно' (**dubnas*). Гл. Фасмер, 1, 519. Падрабязны агляд у Трубачова (Эт. сл., 5, 174—175), дзе даецца новае тлумачэнне і прыводзяцца новыя факты.

**До** 'назва ноты' (БРС). Рус. *до*, укр. *до*. Запазычанне з італ. *do* (можа, праз франц. мову). Гэта сістэма нотнага запісу паходзіць ад італьянца Гвіда Арэцца (Guido Arezzo, XI ст.); спачатку нота *do* называлася *ut* (гл. Meyers Neues Lexikon, 2. Aufl., Bd. 12. Leipzig, 1975, с. 598а).

**До́блесны** 'доблесны' (БРС), *до́блесць* 'доблесць' (БРС). Запазычанне з рус. *до́блестный* 'тс', *до́блесть*. У рус. мове *до́блесть* лічыцца запазычаннем са ст.-слав. **доблесть** 'тс' (гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 145). У Фасмера (1, 520) рус. *до́блесть* разглядаецца як спрадвечнае слова, не запазычанне. Таксама Трубачоў (Эт. сл., 5, 40) разглядае гэтыя словы як працяг прасл. **dobl'estь*. Вельмі няпэўна.

**До́блесць** 'доблесць' (БРС). Гл. *до́блесны*.

**Добраахво́тнасць.** Гл. *добраахво́тны*.



**Добраахво́тны** 'добраахвотны' (БРС). Звязана з рус. *добро-хо́т* 'добразычлівец', *доброхо́тный*. Хутчэй за ўсё запазычанне з ц.-слав. крыніцы. У рус. мове лічыцца ст.-рус. калькай грэч. εὔνους 'тс' (гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 147)). Трубачоў (Эт. сл., 5, 42) адносіць **dobroxъtъ, *dobroxotъ* да ліку прасл. лексем. Няпэўна. Сюды адносіцца і *добраахво́тнасць*, якое або з'яўляецца калькай рус. *доброво́льность* або самастойным утварэннем ад *добраахво́тны*.

**Добразычлі́васць.** Гл. *добразычлі́вы*.

**Добразычлі́вы** 'добразычлівы' (БРС), укр. *добрози́чли́вий*. Здаецца, запазычанне (дакладней, калька) з рус. *доброжела́тельный, благожела́тельный* (параўн. *доброхо́т* у Шанскага, 1, Д, Е, Ж, 147). Сюды адносіцца *добразычлі́васць*, якое калькуе рус. *доброжела́тельность, благожела́тельность*.

**Добранадзе́йнасць.** Гл. *добранадзе́йны*.

**Добранадзе́йны** 'добранадзейны' (БРС). Здаецца, што гэта калька рус. *благонадежный* 'тс'. *Добранадзе́йнасць* калькує відавочна, рус. слова *благонадежность*.

**Добраназме́рнасць.** Гл. *добранаме́рны*.

**Добранаме́рны** 'добранамерны' (БРС). Калька рус. *благонаме́ренный* 'тс'. Лексема *добранаме́рнасць* (БРС) з'яўляецца, як можна меркаваць, калькай рус. *благонаме́ренность*.

**Добрапрысто́йны** 'добрапрыстойны' (БРС). Можна меркаваць, што гэта калька рус. слова *благопристо́йный* 'тс'. Таксама з'яўляецца калькай *добрапрысто́йнасць* (рус. *благопристо́йность*).

**Добрасардэ́чны** 'добрасардэчны' (БРС). Здаецца, запазычанне з рус. *добросерде́чный* 'тс', якое, паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 146—147), з'яўляецца пераафармленнем старога *добросе́рдый* (форма *добросерде́чный* вядома з XVII—XVIII стст.). Калькай з рус., відаць, з'яўляецца і *добрасардэ́чнасць* (рус. *добросерде́чность*).

**Добрасумле́нны** 'добрасумленны' (БРС). Відавочная калька з рус. *добросо́вестный* 'тс'.

**Добрасусе́дскі** 'добрасуседскі' (БРС). Рус. *добрососе́дский*, укр. *добросусі́дський*, польск. *dobrosąsiedzki*, балг. *добросъ-се́дски*. Калька з ням. *gutnachbarlich*. У рус. мове першая фіксацыя ў 1935 г. (слоўнік Ушакова). У бел. і ўкр. мовах, відаць, запазычанне непасрэдна з рус. мовы. Параўн. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 147.

**До́бры** 'добры' (БРС). Рус. *до́брый*, укр. *до́брий*, польск.

*dôbry,* чэш. *dobrý,* серб.-харв. *dȍбар,* ст.-слав. **добръ** і г. д. Прасл. **dobrъ*. У аснове ляжыць і.-е. **dhabhro-* (ад асновы **dhabh-*): лац. *faber* 'рамеснік', арм. *darbin* 'каваль', ст.-в.-ням. *taphar* 'моцны; смелы'. Фасмер, 1, 520—521; Трубачоў, Эт. сл., 5, 45—46; Махэк$_2$, 122; Бернекер, 1, 205; Слаўскі, 1, 151.

**До́вад** 'довад, доказ' (БРС). Рус. *до́вод,* укр. *до́від,* польск. *dowód,* чэш. *důvod,* балг. *до́вод* і г. д. Ужо ў ст.-рус. мове *доводъ* 'тс'. Паводле Слаўскага (1, 158—159), агульнаславянскае ўтварэнне. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 149 (ад дзеяслова *доводити*). У Трубачова (Эт. сл., 5) няма (відаць, не лічыцца праславянскім).

**Дог** 'дог' (сабака) (БРС). Рус. *дог,* укр. *дог.* Запазычанне з англ. мовы (англ. *dog* 'сабака') на пачатку XIX ст. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 150.

**До́гма** 'догма' (БРС). Рус. *до́гма,* укр. *до́гма.* У рус. мове запазычанне з лац. мовы (лац. *dogma* < грэч.) у XVII ст. Ст.-бел. *догма* (вядомае з слоўніка Бярынды, гл. Булыка, Запазыч.), паводле Булыкі (там жа), узята прама з грэч. *δόγμα*.

**До́днік** 'світанне' (Сцяшк.). Утварэнне на базе прыслоўя *до́дніка* 'на світанні' (Сцяшк.): < *до-дні-ка* < *до дня* 'да дня, перад світаннем' + суфікс *-ка,* які часта ўтварае прыслоўе. Адсюль назоўнік м. р. *до́днік* (з усячэннем вакалізму суфікса).

**До́дніка** прыслоўе 'на світанні' (Сцяшк.). Гл. *до́днік* 'світанне'.

**До́ждж** 'дождж' (БРС). Рус. *дождь,* укр. *дощ,* польск. *deszcz,* серб.-харв. *да̏жд,* ст.-слав. **дъждь**. Прасл. **dъždžь* (агляд форм у слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 195—196). Вядомая этымалогія: < **dus- diu-* 'дрэннае неба, дрэнны дзень' (агляд версій гл. у Трубачова, там жа; Фасмера, 1, 521—522), паводле Трубачова, не з'яўляецца надзейнай. Трубачоў (там жа, 196) мяркуе, што прасл. лексема хутчэй за ўсё прасл. інавацыя (можа, гукапераймальнага характару: параўн. літ. *duzgė́ti* 'шумець').

**До́за** 'доза' (БРС). Рус. *до́за,* укр. *до́за.* Запазычанне з франц. мовы (*dose,* а гэта з вучонай латыні: *dosis* < грэч. *δόσις*). Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 153—154. Фасмер (1, 522) дапускае і ням. пасрэдніцтва, што менш верагодна (упершыню слова сустракаецца ў Фанвізіна ў «Пісьмах з Францыі»; гл. Шанскі, там жа).

**До́йлід** 'цясляр', 'до́йлід' (БРС). Ст.-бел. *дойлидъ, дойлида* (з XV ст., гл. Булыка, Запазыч., 99). Запазычанне з літ. *dailìdė* 'тс' (аб гэтай групе слоў у літ. мове гл. у Фрэнкеля, 1, 79—80). Фрэнкель, там жа (з літ-рай). Гл. яшчэ Кіпарскі, Лекс. балтызмы, 14; Аткупшчыкоў, там жа, 33. Вытворныя: *до́йлідны, до́йлідства* (БРС) (аб гэтых вытворных некаторыя меркаванні ў Аткупшчыкова, Лекс. балтызмы, 33); у ст.-бел. мове *дойлидовая, дойлидовъ, дойлидский* (гл. Булыка, там жа, 99).



**Док** 'док' (БРС). Рус. *док,* укр. *док* 'тс'. Паводле Фасмера (1, 523), запазычанне з гал. *dok* або англ. *dock* у Пятроўскую эпоху. Шанскі (1, Д, Е, Ж, 156) думае пра запазычанне толькі з гал. мовы. Гал. *dok* дакладнай этымалогіі не мае.

**До́кер** 'докер' (БРС). Рус. *до́кер,* укр. *до́кер.* Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 157), запазычанне з англ. *docker* 'тс' на пачатку XX ст.

**До́ктар** 'доктар' (БРС). Слова гэта было ўжо ў ст.-бел. мове: *докторъ* 'доктар; настаўнік багаслоўя' (тут яно лічыцца паланізмам: польск. *doktor* < лац. *doctor;* гл. Булыка, Запазыч.). Рус. *до́ктор,* укр. *до́ктор.* Польск. або ням. пасрэдніцтва пры запазычанні прымаецца і для рус. мовы (не выключаецца таксама і непасрэдна лац. крыніца; гл. Фасмер, 1, 523; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 157—158). У лац. мове *doctor* — гэта ўтварэнне на *-tor* ад дзеяслова *docere* 'вучыць'.

**Дол$_1$** 'ніз, зямля'. Прасл. **dolъ* (агляд значэнняў гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 64—65): рус. *дол,* укр. *діл,* чэш. *důl,* польск. *dół,* балг. *дол,* ст.-слав. **долъ**. Лічыцца роднасным з гоц. *dal* 'даліна, нізіна', ст.-ісл. *dalr,* ст.-в.-ням. *tal* 'даліна' (параўн. таксама ў кельцкіх мовах *dol* 'даліна'). Гл. Фасмер, 1, 523; Бернекер, 1, 208—209; Трубачоў, Эт. сл., 5, 65 (апошні падкрэслівае, што вельмі характэрным з'яўляецца адсутнасць роднасных форм у балт. мовах, дзе паняцце ямы, нізіны выражаецца асновай **daub-, *duob-*).

**Дол$_2$** 'магіла' (Сцяшк.). Выходзячы з спецыфічнага значэння слова ('магіла'), можна думаць, што гэта непасрэднае запазычанне з польск. *dół* (прасл. **dolъ*), якое сярод іншых мае і семантыку 'магіла'. Агляд форм гл. у Трубачова (Эт. сл., 5, 64—65), які лічыць (неабгрунтавана) бел. *дол* 'магіла' спрадвечнай лексемай. Іменна значэнне слова і яго геаграфія (зах. гаворкі бел. мовы) сведчаць аб запазычанні гэтай лексемы з усх.-польск. гаворак.

**До́лар** 'долар' (БРС). Рус. *до́ллар,* укр. *до́лар.* Запазычанне з англ. мовы ў XIX ст.: англ. *dollar* 'тс' (аб гісторыі слова гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 163).

**До́лата** 'долата' (БРС). Рус. *долото́,* укр. *долото́,* чэш.

*dláto*, польск. *dluto*, балг. *длато́*. Выходным для гэтых форм з'яўляецца прасл. **dolbto* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 60), якое лічыцца больш старым, чым **delbto* (балг. *длето́*, серб.-харв. *длѐто*, чэш. *dletko;* гл. Трубачоў, Эт. сл., 4, 205). Параўн. ст.-прус. *dalptan* 'прабойнік'. Утварэнне з суфіксам *-*to* ад асновы **dolb-*, якая мае іменны вакалізм *-o-*. Формы тыпу **delb-* лічацца другаснымі. У аснове ляжыць **delb-*: **dьlb-*: **dolb-* 'дзяўбці'. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 526; Траўтман, 54; Бернекер, 1, 183.

**До́ля**. Рус. *до́ля*, укр. *до́ля*, польск. *dola*, славац. *dol'a*, балг. *до́ля*. Прасл. дыял. **dol'a* 'тс'. Звычайна звязваецца з і.-е. **del-* 'аддзяляць і да т. п.' (Слаўскі, 1, 154—155; Бернекер, 1, 209; Траўтман, 44) і параўноваецца з літ. *dalìs* 'частка, доля', *dalýti* 'дзяліць', усх.-літ. *dalià* 'частка', ст.-інд. *dalam* 'частка, кавалак' і г. д. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 526. Мартынаў (Лекс. балтызмы, 26—27) лічыць, што *доля* (бел., укр. і польск. лексемы) — гэта рэзультат пранікнення літ. (усх.-балт.) *dalià* (г. зн. запазычанне). Паводле Мартынава, даказаць прасл. характар гэтай лексемы цяжка, тым больш што яна не этымалагізуецца на слав. глебе, а літ. *dalìs, dalià* суадносіцца з дзеясловам *dalýti, dalinti*.

**Дом** 'дом'. Прасл. слова; параўн. рус. *дом*, укр. *дім*, польск. *dom*, чэш. *dům*, серб.-харв. *до̂м*, балг. *домъ̀т*, ст.-слав. **домъ**. Прасл. **domъ*. Роднасныя формы: ст.-інд. *dámas* 'дом', авест. *dam-*, грэч. δόμος, лац. *domus*. Звычайна звязваецца з грэч. **δέμω** 'будую', гоц. *timrjan* 'будаваць' і г. д. Супраць такой сувязі выступаюць некаторыя лінгвісты. Гл. Фасмер, 1, 526—527; Траўтман, 44; Бернекер, 1, 210; падрабязна, з матэрыялам і літ-рай Трубачоў, Эт. сл., 5, 72—73.

**До́мна** 'домна' (БРС). Рус. *до́мна*, укр. *до́мна*. У рус. мове упершыню адзначаецца у 1663 г. (у форме *домня*), а ў сучаснай форме — у творах Пятра I. У формах ***дъмьница, домница*** вядома ўжо ў XVI ст. Звязана з дзеясловам ***дъмѫ дѫти*** (паводле Шанскага, *з дъмати*) 'дзьмуць'.

**До́нар** 'донар' (БРС). Рус. *до́нор*, укр. *до́нор*. Паводле Шанскага (I, Д, Е, Ж, 169—170), магчыма, запазычанне з англ. мовы на пачатку XX ст. Упершыню зафіксавана ў 1931 г. Параўн. англ. *donor* 'ахвяравальнік, донар' (< лац.).

**Донжуа́н** 'донжуан' (БРС). Рус. *донжуа́н*, укр. *донжуа́н* 'тс'. Ад уласнага імя Дон Жуан (Дон Хуан). Літаратурны герой, уведзены ў іспанскую літаратуру Цірса дэ Маліна (Tirso de Molina), 'бессаромны спакуснік'. Гл. Meyers Neues Lexikon, 2. Aufl., Bd. 3. Leipzig, 1972, с. 656а.



**До́ня,** *до́нька* 'дачка' (памяншальныя формы ад *дачка́*, гл.). Параўн. рус. *до́ня, до́нька, до́нюшка* 'тс', укр. *до́ня, до́нька, до́нечка* 'тс'. Формы гіпакарыстычнага характару з спецыфічным суфіксам *-н-;* гл. Фасмер, 1, 529.

**До́раб,** *даро́бка* 'скрынка' (Нас.). Трубачоў (Слав. языкозн., V, 178) лічыць гэта праславянскім дыялектызмам (**dorbъ*), які, акрамя бел. мовы, засведчаны таксама (с. 172) у рус. (дыял. *до́роб* 'скрынка, сіта') і ўкр. (*дороба́йло* 'сіта'). Слав. **dorbъ* звязана з літ. *darbas* 'пляцёнка з лісцяў,' ст.-інд. *darbhás* 'пучок травы', *dṛbháti* 'звязвае, пляце'. Гл. Фасмер, 1, 530; Трубачоў, Эт. сл., 4, 74. Цікава, што прасл. лексема з вельмі надзейнымі і.-е. сувязямі рэканструюецца ў даным выпадку толькі на аснове ўсх.-слав. даных, што наогул трапляецца не вельмі часта.

**До́с** 'досыць' (Касп.). Форма, якая ўзнікла скарачэннем. Гл. *до́сыць*.

**До́сіць**. Гл. *до́сыць*.

**До́сціп** 'досціп' (БРС, Байк. і Некр.), *дасці́пнасць* 'дасціпнасць' (БРС). Паводле Кюнэ (Poln., 50), запазычанне з польск. *dowcip, dowcipność* 'тс' (Кюнэ, там жа, як аргумент прыводзіць той факт, што гэтыя словы вядомы толькі заходнім славянам; параўн. і чэш. *důvtip*). Аб польск. словах гл. падрабязна Слаўскі, 1, 158. Няясным, аднак, застаецца фармальны бок запазычання. Бел. формы тыпу *до́сціп, дасці́пны* і г. д. маглі б зыходзіць да польск. форм тыпу *dowścipny*, але апошнія засведчаны толькі з тэрыторыі Беларусі (Litwy; гл. Слаўскі, там жа.). Ужо ў ст.-бел. мове засведчаны ўсе вядомыя сёння формы: *довтипъ, довтепъ, довтыпъ, довстипъ, довципъ, довтипный, довтипность* (з XVI ст., гл. Булыка, Запазыч., 98—99).

**Досць** 'досыць' (БРС). Як і *до́сыць* (гл.), узыходзіць да слав. **do syti* (**do sъti*). Наўрад ці можна думаць пра запазычанне з польск. *dość* 'тс' (< *dosyć*; гл. Слаўскі, 1, 158—159), хоць такая магчымасць не выключаецца (бел. *досць*, здаецца, на ўсх.-слав. тэрыторыі ізаляванае, няма ў іншых усх.-слав. мовах, калі не лічыць укр. дыял. *до́ста*). Агляд роднасных форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 86—87.

**До́сыць** 'досыць' (БРС, Нас., Байк. і Некр.), таксама *до́сіць, дос* (Касп.). Паводле Кюнэ (Poln., 51), запазычанне, як і ўкр. *до́сить*, з польск. *dosyć* 'тс'. Вельмі няпэўна. Хутчэй за ўсё не запазычанне, а роднасныя формы. Гл. у Фасмера, 1, 532: рус. дыял. *до́сыть*, бел. *до́сыць*, польск. *dosyć*,

чэш. *dosť, dosti,* славац. *dosti* <*do syta.* Так жа мяркуе (але без. бел. форм) Слаўскі, 1, 157. Параўн. *досць* (гл.). Агляд форм. гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 86—87.

**До́ўбня** 'доўбня', 'дурны, цурбан' (БРС). Слова, вядомае ў многіх слав. мовах. Параўн. ст.-рус. *Долбня* (уласнае імя), рус. *долбня́,* укр. *до́вбня,* ст.-чэш. *dlubna,* чэш. *dlubna, dlubně,* балг. *длъ̀бня* (з іншым значэннем 'штосьці выдзеўбанае, заглыбленне; дзёўбанне'), балг. дыял. *длъбня́* 'драўляны молат', славен. *dôlbnja* 'даўбанне, выдзёўбванне'. Прасл. **dьlbьna* (паводле Трубачова, Эт. сл., 5, 207). Цікава, што ў некаторых слав. мовах гэтага слова няма (напр., у польскай, славацкай, сербскахарвацкай), што сведчыць аб дыялектным яго характары ў праславянскі час. Лічыцца вытворным з суфіксам *-ьna (-ьn'a)* ад дзеяслова **dьlbti* 'дзяўбаць' (Трубачоў, там жа).

**Доўг** 'доўг' (БРС). Рус. *долг,* укр. дыял. *довг,* ст.-рус. *дългъ, длъгъ, дълъгъ, долгъ,* чэш. *dluh,* славац. *dlh,* польск. *dług,* балг. *дълг,* дыял. *длъг,* серб.-харв. *ду̑г,* ст.-слав. **длъгъ.** Прасл. **dъlgъ* 'доўг' (так у Трубачова, Эт. сл., 5, 179; у Фасмера, 1, 524, і іншых праформа **dьlgъ.* Аргументацыя Трубачова: «Праформа слав. **dьlgъ,* якую пры гэтым дапускалі, трэба сказаць, занадта блізка падводзіць нас да вядомага **dьlgъ.* прыметніка 'доўгі', каб гэту блізкасць ігнараваць»). Слова даволі цёмнае па этымалогіі. Лічылі роднасным з гоц. *dulgs* 'доўг', ірл. *dligid* 'доўг' (гл. Фасмер, 1, 524; Бернекер, 1, 224; Траўтман, 55 і наст.). Не вельмі абгрунтаванымі былі версіі аб запазычанні з герм. моў або кельцкіх. Лічыцца няпэўным і збліжэнне з прыметнікам 'доўгі' *(*dьlgъ),* якое прапанавалі Праабражэнскі, 1, 188—189, і Брукнер, 90. Агляд версій гл. яшчэ ў Трубачова, 5, 180.

**До́ўгі** 'доўгі' (БРС). Рус. *до́лгий,* укр. *до́вгий,* чэш. *dlouhý,* славац. *dlhý,* польск. *długi,* балг. *дъ̀л(ъ)г,* серб.-харв. *ду̑г,* ст.-слав. **длъгъ.** Прасл. форма **dьlgъ* 'доўгі'. Праславянская лексема мае вельмі надзейныя адпаведнасці ў і.-е. мовах. Параўн. ст.-інд. *dirghás,* авест. *darəga-,* ст.-перс. *darga-,* грэч. δολιχός, літ. *ìlgas,* хец. *dalugaeš* (мн. л.). Вельмі цікавай з'яўляецца дакладная адпаведнасць вытворнага прасл. **dьlgostь* 'даўжыня' і хец. *dalugašti-* 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 524—525; Бернекер, 1, 251—252; Траўтман, 55; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 5, 207—209 (з адпаведнай літ-рай).

**До́ўжыць,** *до́ўжыцца,* таксама *даўжы́ць.* Рус. *должи́ть,* укр. *довжи́ти,* чэш. *dloužiti,* серб.-харв. *ду̏жити* і г. д. Прасл. **dьlžiti* 'тс'. Вытворнае ад прыметніка **dьlgъ* 'доўгі' (гл. *до́ўгі*). Агляд форм у слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 211.



Цікава, што гэта прасл. слова не з'яўляецца агульнаславянскім і ў мінулым было, відаць, праславянскім дыялектызмам; яго няма, напр., у польск. мове.

**До́хнуць** 'дохнуць' (БРС). Рус. *до́хнуть,* укр. *до́хнути,* славац. *dochnúť.* Фармальна ідэнтычны (акрамя націску) дзеяслоў з *dъxnǫti* 'дыхнуць' (да **dъxati* 'дыхаць'). Агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 177; параўн. яшчэ Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 179—180; Фасмер, 1, 533; Траўтман, 64—65. Звяртае на сябе ўвагу тое, што, відавочна, значэнне 'дохнуць' развілося толькі ў некаторых слав. мовах (ва ўсх.-слав. і славац.). Гэтую з'яву можна лічыць семантычнай інавацыяй усх.-слав. моў (у славац. мове запазычанне з укр.?).

**До́шка** 'дошка' (БРС). Укр. *до́шка,* рус. *доска́,* польск. *deska,* чэш. *deska,* балг. *дъска́,* серб.-харв. *да̏ска,* ст.-слав. **дъска.** Прасл. **dъska.* Славянскае запазычанне з герм. моў. Параўн. ст.-англ. *disc* 'стол, блюда', ст.-в.-ням. *tisc* (ням. *Tisch* 'стол'). Герм. формы запазычаны з лац. *discus* 'міска' < грэч. δίσκος. Іншыя тлумачэнні вельмі няпэўныя, як і няпэўным з'яўляецца вывядзенне слав. слова непасрэдна з лац. або грэч. крыніцы. Гл. Фасмер, 1, 532; Трубачоў, Эт. сл., 5, 184—185; Мартынаў, Лекс. взаим., 61 і наст. Не вельмі зразумелыя бел. і ўкр. формы (адкуль *-ш-* замест *-с-?*). Прасл. характар мае і вытворнае *дашча́ны.* Параўн. укр. *до-ща́ний,* рус. *дощано́й,* чэш. *deščený* (дыял.), балг. *дъ̀счен,* серб.-харв. *да̏шчан* і г. д. Прасл. **dъščanъ(jь).* Падрабязны агляд форм у Трубачова, там жа.

**Драбаві́к** 'паляўнічая стрэльба' (БРС). Запазычанне з рус. *дробови́к* 'тс' (да *дробь* 'шрот'; аб гэтым слове гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 193).

**Драбёст** 'лата' (БРС), 'жэрдзі' (Сцяшк.), *драбясцё* (Нас.), *драбясце́* 'жэрдачкі' (Сцяц.), *дра́бясць* 'тонкія жэрдкі' (Сцяшк.), *драбясцё, грабя́ст* 'паплёт' (Шатал.), *дра́бяст, дрэ́бяст, грэ́бяст.* і г. д. (Сл. паўн.-зах.) 'латы, жэрдкі для лат, паплёт'. Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *grebėstas* 'тс' (з дыялектнай зменай *г* > *д*).

**Драбі́ны**, 'драбіны, лескі' (БРС, Касп., Байк. і Некр., Сл. паўн.-зах.), *драбі́на* 'тс' (Касп., Шат., Сцяшк.). Укр. *драби́на.* Паводле Кюнэ (Poln., 51), запазычанне з польск. *drabina* 'тс' (аб запазычанніз польск. ужо ў Брукнера, 94). Паходжанне польск. слова не вельмі яснае (меркаванні гл. у Брукнера, там жа; Бернекера, 1, 219). У бел. помніках няма (няма, прынамсі, у Булыкі, Запазыч.). Сюды ж і *драбі́ны* 'воз; ра-

шотка ў возе' (БРС, Нас., Касп., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.), укр. *драбина* 'рашотка ў возе, яслях', *драбчастий віз, драбинястий віз* і да т. п. Можна меркаваць, што гэта другое значэнне таксама ўзята з польск. мовы. Параўн. польск. *wóz drabny* (ужо ў 1584 г., гл. Брукнер, 94), *wóz drabiniasty* (там жа). Трубачоў (Эт. сл., 5, 101) зыходзіць з прасл. **drabъ* (звязанага, як ён мяркуе, з прасл. **dьrati*) і пад гэтай праформай аб'ядноўвае вялікую групу слоў з рознай семантыкай.

**Драбіны**$_2$ 'воз; рашотка ў возе'. Гл. *драбіны*$_1$.

**Драбіць** 'драбіць' (БРС, Сл. паўн.-зах.). Рус. *дробить*, укр. *дробити*, польск. *drobić*, чэш. *drobiti*, балг. *дробя*, ст.-слав. **дробити**. Прасл. **drobiti* 'драбіць і да т. п.' Лічыцца роднасным з гоц. *gadraban* 'выдоўбваць, высякаць'. Фасмер, 1, 539; Бернекер 1, 226; Трубачоў, Эт. сл., 5, 119. Слаўскі, 1, 166 (услед за Махэкам) непераканаўча звязвае слав. слова з літ. *trapùs* 'ломкі'.

**Драбніца** 'дробязь; глупства' (БРС, Касп.). Слова вядома і з канкрэтным значэннем 'акалот' (Шатал.), 'дробная салома' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *дрібниця* 'дробязь; глупства', ст.-рус. *дробьница* 'дробны жэмчуг', балг. *дробница* 'груша (дрэва) з дробнымі пладамі' і г. д. (агляд значэнняў у слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 121). Прасл. **drobьnica*— утварэнне з суф. *-*ica* ад прыметніка **drobьnъ* (ад асновы **drob-*; гл. *драбіць*).

**Драбок** 'крошка, кавалак' (БРС, Касп., Сл. паўн.-зах.). Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 120), да прасл. **drobъ* (а гэта да **drobiti* 'драбіць', гл.).

**Драбы** 'рэбры, косці; касцяк, каркас' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.), 'воз' (Касп., Сл. паўн.-зах.). Паводле Фасмера (1, 545), які і рус. *дрябы* 'воз для снапоў', бел. *драбіна*, укр. *драбина*, польск. *drabina*, роднаснае з с.-ням. *treppe, trappe* 'лесвіца' (так і Бернекер, 1, 219). Іначай Трубачоў (Эт. сл., 5, 100—101), які пад праформамі **drabъ*, **draby* аб'яднаў вялікую групу слоў і лічыць, што ёсць сувязь з прасл. **dьrati* 'драць'.

**Драбяза** 'драбяза, дробязь' (БРС, Нас., Касп., Шат.), *драбіза* (Бяльк.), 'дробныя адходы саломы' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. далей *драбязга* 'тс' (Касп.), *драбазга* 'дробязь' (Байк. і Некр.), *драбязговы* 'дробязны' (БРС), *драбязіць* 'ісці дробным крокам' (БРС). Пад праформай **drobězgъ* Трубачоў (Эт. сл., 5, 118) аб'яднаў вялікую групу слоў тыпу бел. (укр. *дрібʼязок*, рус. *дробезга*, польск. *drobiazg*, ст.-чэш. *droběz*



і г. д.). Зыходным з'яўляецца дзеяслоў **drobiti* і яго гняздо; суфіксацыя — *-*ězgъ*. Ст.-бел. *дробязкгъ, дробязокъ* 'дробязь' запазычаны, паводле Булыкі (Запазыч., 102), з польск. *drobiazg*.

**Драга** 'драга' (БРС). Рус. *драга*, укр. *драга*. Праз рус. мову слова запазычана з франц. *drague* 'тс' (< англ.). Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 181.

**Драгаман** 'драгаман' (БРС). Рус. *драгоман*, укр. *драгоман*. Запазычанне з усх. моў: з араб. мовы ў Егіпце, дзе форма *targŭman* была ўзята еўрапейцамі (параўн., напр., ням. *Dragoman*). Першакрыніцай з'яўляецца асірыйскае *targŭmanu* 'тс'. Гл. Клюге, 140.

**Драгба** 'дрыгва' (Касп., Сл. паўн.-зах., Яшкін). Таго ж паходжання, што і *дрыгва* (гл.), г. зн. з зыходнага **dręg-* (> **дряг-* > *драг-*). Форма *драгба* па свайму каранёваму вакалізму (*а* < *'а* < *ę*) стаіць бліжэй да зыходнага **dręg-*, чым *дрыгва* (дзе адлюстроўваецца сувязь не з **dręg-*, а з **drьg-*, **drъg-*; параўн. бел. *дрыжаць*, укр. *дрижати*). Суфіксальная частка (*-ба*) адлюстроўвае ўплыў слоў са старым фармантам *-ба* (прасл. *-*ьba*). Параўн. *драгва* (Нас., Шат., Бяльк.), *дрыгба* (Сл. паўн.-зах). Гл. Фасмер, 1, 545 (аб бел. *дрягва*). Іншая версія ў Трубачова, Эт. сл., 5, 139 (праформа **drъgъva*; няпэўна).

**Драгун** 'драгун' (БРС). Рус. *драгун*, укр. *драгун*. Першакрыніца — франц. *dragon* (< лац.). Гл. Фасмер. 1, 533—534; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 181. У ст.-бел. мове слова (*дракгунъ*) вядома з XVII ст. і запазычана непасрэдна з польск. *dragun* < франц. Гл. Булыка, Запазыч., 101. Параўн. яшчэ Клюге, 140.

**Дражніць** 'дражніць' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Рус. *дразнить, дражнить*, укр. *дражнити*, польск. *drażnić*, чэш. (ст.-чэш) *drážniti*, серб.-харв. *дразнити*. Прасл. **drazniti*, магчыма, ад **draznь*, вытворнага з суф. *-znь* ад асновы **dra-*. Падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 5, 104 (з аглядам версій). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 534; Бернекер, 1, 221; Слаўскі, 1, 162; Махэк$_2$, 127.

**Дражэ** 'дражэ' (БРС). Рус *драже*, укр. *драже*. Запазычанне (праз рус. мову) з франц. *dragée* 'тс'. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 182.

**Драіць** 'драіць' (БРС). Рус. *драить* 'тс'. Запазычанне (праз рус. мову) з гал. *draaien* 'круціць'. Гл. Фасмер, 1, 534.

**Дракон** 'дракон' (БРС). Рус. *дракон*, укр. *дракон*. У ст.-рус.

мове (Максім Грэк) лічыцца запазычаннем прама з грэч. δράκων 'тс'. Паводле Фасмера (1, 534), у іншых выпадках у рус. мове гэта запазычанне з лац. *dracō, -ōnis* (<грэч.). Гл. яшчэ Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 183. Прыметнік *дракóнаўскі (драконаўскія законы)* — запазычанне з франц. (магчыма, праз рус. мову) *draconique* або ням. *drakonisch*. У аснове ляжыць імя афінскага заканадаўца Дракона (Δράκων). Гл. Фасмер, 1, 535.

**Дракóнаўскі** (драконаўскія законы). Гл. *дракóн*.

**Дрáла;** *даць драла* 'даць цягу' (БРС, Нас., Касп., Шат.). Відавочна, звязана з дзеясловам *драць* у значэнні 'ўцякаць' (параўн. рус. *удрáть, удирáть* 'уцякаць').

**Дрáма** 'драма' (БРС). Рус. *дрáма*, укр. *дрáма*. Першакрыніцай з'яўляецца грэч. δρᾶμα. Слова запазычана праз лац. *drama* або ням. *Drama* (так Фасмер, 1, 535). Шанскі (1, Д, Е, Ж, 183) мяркуе, што для рус. мовы пасрэднікам было іменна лац. слова. Прыметнік *драматы́чны*, рус. *драматúческий*, укр. *драматúчний* запазычаны з ням. *dramatisch* або франц. *dramatique* (Фасмер, 1, 535; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 183—184).

**Драматýрг** 'драматург' (БРС). Рус. *драматýрг*, укр. *драматýрг*. Запазычанне (праз рус.?) з франц. *dramaturge* (а гэта з грэч. мовы). Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 184—185.

**Драматы́чны**. Гл. *дрáма*.

**Драмáць** 'драмаць' (БРС, Шат., Сл. паўн.-зах.). Рус. *дремáть*, укр. *дрімáти*, польск. *drzemać*, чэш. *dřímati*, серб.-харв. *дрéмати*, балг. *дрéмя*, ст.-слав. **дрѣмати**. Прасл. **drěmati* 'тс'. Роднаснымі формамі лічацца лац. *dormire* 'спаць', ст.-інд. *drāti* 'тс', грэч. δαρθάνω 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 537; Бернекер, 1, 223—224; Траўтман, 60; Трубачоў, Эт. сл., 5, 108.

**Дранцвéць** 'дранцвець' (БРС, Касп.), *дрантвéць* 'тс' (Сцяшк., Нас., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *drętwieć* 'тс' (у польск. мове гэта ўтварэнне ад прыметніка *drętwy*, лексема ў польск. мове вельмі архаічная, але ізаляваная і этымалогія яе не вельмі пэўная; гл. Слаўскі, 1, 165).

**Драп** 'драп (тканіна)' (БРС). Рус. *драп*, укр. *драп*. Запазычанне з ням. *Drap* (<франц.) або прама з франц. *drap* 'тс' (<с.-лац.). Гл. Фасмер, 1, 535; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 185—186.

**Дрáпаць** 'драпаць, драць' (БРС, Нас., Касп., Шат.), 'уцякаць' (Нас.), *драпанýць* 'хутка ўцячы' (Касп.). Прасл. **drapati* 'драпаць, драць': рус. *дрáпать, дря́пать*, укр. *дрáпати, дря́пати*, польск. *drapać*, чэш. *drápati*, славац. *driapat'*, балг. *дрáпам*, серб.-харв. *дрáпати* і г. д. У некаторых слав. мовах развілося



значэнне 'ўцякаць' (польск., рус., бел.). Дзеяслоў **drapati* звязаны з прасл. **dьrati*. Параўн. Фасмер, 1, 535; Бернекер, 1, 220; Трубачоў, Эт. сл., 5, 101—102.

**Драпéжны** 'драпежны' (БРС, Нас., Касп., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *drapieżny* 'тс' (запазычанне ўжо ў ст.-бел. мове, гл. Булыка, Запазыч., 101). З польск. мовы ўзяты і шматлікія вытворныя: *драпéжыць, драпéжства* (Нас.), *драпéжнік, драпéжніцкі, драпéжніцтва* (БРС); яны вядомы і ў ст.-бел. мове (Булыка, там жа). Насуперак Трубачову (Эт. сл., 5, 102) ст.-рус. *драпежити* з'яўляецца звычайным паланізмам. Здаецца, Слаўскі (1, 161) лічыць бел. *драпéжны, драпéжыць* роднаснымі з польск. лексемамі, што вельмі няпэўна.

**Драпіравáць** 'драпіраваць' (БРС). Рус. *драпировáть*, укр. *драпірувáти*. Бел. і ўкр. словы ўзяты з рус. мовы. У рус. мове гэта запазычанне з ням. *drapieren* (<франц.) або непасрэдна з франц. *draper*. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 186.

**Дрáпкі** 'доўгія вітыя або плеценыя махры ў ручніку' (БРС), *дрáпка* 'матузок' (Шатал.). Няяснае слова.

**Драсён** 'расліна драсён' (БРС, Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.), *дрóсень* (Шат.), *дрóсель, дрóсінь* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Назва гэта азначае расліну Polygonum L. і мае дакладныя адпаведнасці ва ўкр. *дря́сен* 'тс' і серб.-харв. *дресан*. У іншых слав. мовах назвы фармальна адрозніваюцца: славац. *rdesno*, славен. *rdésen* і да т. п. Трубачоў (Эт. сл., 5, 110—111) выстаўляе прасл. зыходную праформу **drěstьnъ* і лічыць, што гэта ад'ектыўнае вытворнае ад іншай назвы — прасл. **drěstъ* (параўн. Мяркулава, Очерки, 41—42). Шматлікасць бел. форм у дыялектах тлумачыцца тым, што тут адбыліся фанетычныя змены, у прыватнасці дысіміляцыі (ці асіміляцыі?) плаўных: *р—н* > *р—л*.

**Дратавáць** 'таптаць' (БРС, Шат., Касп.). Запазычанне з польск. *tratować* 'тс' (а гэта з ням. *treten*; гл. Брукнер, 576).

**Дрáтва** 'дратва' (БРС, Касп., Шат.). Рус. *дрáтва*, укр. *дратва* 'тс'. Запазычанне з польск. *dratwa, dratew*. Слаўскі (1, 161—162) лічыць, што была зах.-слав. форма **draty* (<с.-в.-ням. *drāt* 'тс'); параўн. і чэш. *dratev* (гл. Махэк$_2$, 126).

**Драўля́ны,** *драўня́ны* 'драўляны' (БРС, Нас., Сл. паўн.-зах.). Беларускае ўтварэнне ад запазычанага з польск. мовы слова *дрэ́ва* (гл.; параўн. у Трубачова, Эт. сл., 4, 212).

**Драфá** 'драфа' (БРС). Назва гэтай птушкі сустракаецца ў слав. мовах у розных формах: рус. *дрофá, дрохвá*, укр.

*дро́хва́, дро́фа,* балг. *дро́пла,* серб.-харв. *дро̏пља,* ст.-чэш. *droptva,* чэш. *drop,* славац. *drop,* польск. *drop.* Раней (гл. Фасмер, 1, 542) зыходнай прасл. формай лічылі **dropy* (р. скл. **dropъve*). Лепш арыентавацца на ст.-чэш. *droptva* (гл. у Гебаўэра, Sl. stč., I, 839; сустракаюцца таксама формы *dropa, dropfa, drofa*) і лічыць зыходным **dro-pъty* (да і.-е. **dr-/*der-* 'хутка бегаць' і **pъt-* 'птушка'). Падрабязны агляд матэрыялу і этымалагічных версій гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 125—126 (там і літ-ра).

**Дра́хлы** 'драхлы' (БРС). Рус. *дря́хлый,* рус.-ц.-слав. **дрѧхлыи** 'пануры, смутны, марудны, лянівы, стомлены і да т. п.', **дрѧсълыи** 'пануры', укр. *дряглий* 'стары, падгніўшы', ст.-сл. **дрѧхлъ** 'смутны, лянівы', **дрѧселъ** 'пануры, смутны', балг. *дре́хъл* 'абадраны', серб.-харв. *дре̏сео* 'смутны', в.-луж. *drjechły* 'брудны' і г. д. Прасл. **dręx(ъ)lъ(jь), *dręsьlъ(jь), *dręselъ(jь).* Лічыцца звязаным з літ. *drumsti* 'муціць, перамешваць'; сляды апафаніі вакалізму бачаць у ст.-рус. *дроухлъ* (**drǫx-* : **dręx-*). Агляд літ-ры гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 112—113. Сюды ж вытворныя тыпу *драхле́ць, дра́хласць* (БРС). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 544 (спецыяльна аб рус. слове *друхлый*).

**Дра́хма** 'мера вагі (25 млгр)' (Сцяшк. МГ). Слова гэта ўжывалася таксама калісьці ў польск. мове на тэрыторыі Зах. Беларусі. Запазычанне з польск. *drachma* 'тс'.

**Драць** 'драць, рваць' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк. і інш.). Рус. *драть,* укр. *дра́ти,* польск. *drzeć,* серб.-харв. *дра̀ти,* ст.-сл. **дьрати**. Прасл. **dьrati, *derǫ* (агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 218): да і.-е. **der-/*dr-* (параўн. літ. *dirti,* ст.-інд. *dṛṇā́ti,* грэч. δέρω 'здзіраць' і г. д.). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 504—505; Бернекер, 1, 185—186; Траўтман, 52.

**Драч** 'птушка дзяркач' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк.). Іншыя яе назвы: *дзярка́ч, дзярга́ч* (параўн. рус. *дерга́ч, держа́ч,* укр. *деркач*). Назва, магчыма, асноўваецца на гукаперайманні. Параўн. Фасмер, 1, 501.

**Драчо́на** 'назва ежы' (БРС, Касп., Сцяшк.). Параўн. у Бяльк.: 'блін з дранай бульбы; ляпёшка з пшанічнай мукі з яйцамі і салам або маслам'. Таксама *драчо́нік* (БРС, Жд. 2, Сл. паўн.-зах.). Рус. дыял. *дрочена* 'тс'. Да дзеяслова прасл. **dročiti* (з шматлікай семантыкай). Рус. назву ежы (без бел. матэрыялу) звязвае з гэтым дзеясловам Трубачоў, Эт. сл., 5, 123. Слова *дрочена* лічыць уласна рускім Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 196. У рус. мове яно адзначаецца з XVII ст. і, паводле Шанскага, утворана марфолага-сінтаксічным спосабам на базе словазлучэння *дроченая картошка, дроченая яичница.*



**Дрэ́ва** 'дрэва' (БРС, Бяльк.). Гл. *дрэ́ва.*

**Дрэ́гка** 'дрогка, труска' (Бяльк.). Гл. *дро́гкі.* Лексема з беларускай тэрыторыі з вакалізмам «е» не прыводзіцца наогул у падрабязным этымалагічным слоўніку прасл. мовы (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 138, дзе пад праформай **drъgъkъjь* прыводзіцца толькі бел. *дро́гкі* і рус. смал. *дре́хкий*). Але ўсё сведчыць аб тым, што і формы з вакалізмам «о», і формы з вакалізмам «е» канцэнтраваліся фактычна на беларускай этнічнай тэрыторыі, г. зн. што прасл. лексема **drъgъkъjь* (можна дадаць і яе варыянт **drьgъkъjь*) з'яўляецца праславянскім дыялектызмам бел. мовы, што вельмі важна для гісторыі праславянскіх дыялектаў.

**Дроб**[1] 'дроб' (матэматычны тэрмін)' (БРС). У гэтым значэнні запазычанне з рус. *дробь* 'тс' (вядомага з XVIII ст.). Аб рус. слове гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 192—193.

**Дроб**[2] 'шрот' (Бяльк.). Запазычанне з рус. *дробь* 'шрот' (вядома з 1639 г.), якое звязана з *дробь* 'дробязь, малыя часткі чаго-н.' Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 193.

**Дро́бны** 'малы, дробны' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах. і г. д.). Гэта слова ўтворана яшчэ ў прасл. час (прасл. **drobьnъ(jь);* агляд матэрыялу гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 122) і лічыцца вытворным ад асновы **drob-* (да **drobiti, *drobь*).

**Дро́бязь** 'дробязь, глупства' (БРС, Шат., Бяльк.), *дро́безь* (Касп.). Этымалагічна звязана са словам *драбяза́, драбязго́вы* (гл.).

**Дро́вы** 'дровы' (БРС, Нас., Касп., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах. і г. д.). Таксама *дро́ва* 'тс' (Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Рус. *дрова,* укр. *дро́ва,* польск. *drwa,* чэш. *drva,* балг. *дърва́* 'тс', ст.-сл. **дръва** 'дровы'. Прасл. **drъva* (мн. л. ад **drъvo* 'дрэва'). Агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 141—142. Гл. яшчэ Фасмер, 1, 539; Бернекер, 1, 232; Траўтман, 53; Слаўскі, 1, 171. Як і прасл. **dervo* 'дрэва', мае і.-е. адпаведныя формы (са ступенню рэдукцыі); параўн. грэч. δρῦς 'дрэва, дуб'.

**Дро́гі** 'калёсы, развалкі'. Гл. *дро́жкі.*

**Дро́гкі** 'дрогкі' (БРС, Байк. і Некр., Бяльк.), *дро́хка* 'страшна' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 138), бел. слова звязана з рус. дыял. смал. *дрехкий* 'тс'. Гэтыя словы, магчыма, з'яўляюцца прасл. дыялектызмамі; супольная праформа — **drъgъkъjь* (вытворнае ад дзеяслова **drъgati* 'дрыжаць, дрыгаць і г. д.'). Параўн. таксама (з вакалізмам

«е») і бел. *дрэ́гка* 'дрогка, труска' (Бяльк.), якое сведчыць аб складанасці дыялектнага размеркавання розных тыпаў вакалізму ў каранёвай частцы данай лексемы. Прасл. **drъgъkъjь* адлюстроўваецца і ў бел. назвах для балота, дрыгвы ў тыпе **drъgъkyni* (суфікс *-*yni*); параўн. у Яшкіна: *драгкінь, драгкіня́, дрогкінь* (няма ў Трубачова, Эт. сл., 5, што вельмі дзіўна).

**Дро́гкінь,** *драгкінь, драгкіня́* 'балота, дрыгва' (Яшкін). Гл. *дро́гкі.*

**Дро́ж** 'дрыжыкі' (БРС, Шат.). Утварэнне прасл. эпохі. Параўн. рус. *дрожь* 'тс', ст.-рус. *дрожь,* рус. дыял. *дрощ,* польск. *dreszcz.* Трубачоў (Эт. сл., 5, 144) выстаўляе прасл. **drъžь.* Але, магчыма, што частка форм (польск. *dreszcz,* рус. *дрожжа́ть*) паходзіць ад **drъzgi̯-* (гл. Фасмер, 1, 540—541). Атрымліваецца, што пад адной праформай **drъžь* нельга тлумачыць гэту групу слоў. Відаць, што фанетыка-марфалагічныя адносіны былі тут вельмі складаныя. Лічыцца, што фармальна **drъžь* добра адпавядае літ. *drugỹs* 'ліхарадка' (гл. Фасмер, там жа; Трубачоў, там жа). Гл. далей *дрыжа́ць.*

**Дро́жджы** 'дрожджы' (БРС, Нас., Шат., Бяльк.). Рус. *дро́жжи,* ст.-рус. *дрожди,* укр. *дрі́жджі,* польск. *drożdże,* серб.-харв. *дрѐжда* і г. д. Прасл. **droždža, *droždži, *droždžьje* (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 128—129, там і агляд форм.). У аснове ляжыць **drozg-* (**drozgi̯-*), якое прадстаўлена ў ст.-ісл. *dregg* 'дрожджы', англ. *dregs,* літ. *drãgės* і г. д. Агляд літ-ры ў Фасмера, 1, 540; Трубачова, там жа.

**Дро́жкі** 'калёсы, вазок' (БРС). Відаць, запазычанне з рус. *дро́жки* 'тс' (як і ўкр. *дро́жка;* гл. Фасмер, 1, 540). Аб гэтым сведчыць адсутнасць гэтага слова ў гаворках. Рус. *дро́жки* < *дрога́* 'брус, які злучае пярэднюю і заднюю восі павозкі'. Адсюль і рус. *дро́ги* 'від павозкі'. Магчыма, такога ж паходжання і бел. *дро́гі* 'калёсы, развалкі' (Бяльк., Сл. паўн.-зах.).

**Дрозд** 'дрозд' (БРС, Касп., Сцяшк.). Рус. *дрозд,* укр. *дрізд,* польск. *drozd,* чэш. *drozd,* балг. *дрозд* і г. д. (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 126—127). Першапачатковая форма **trozdъ;* параўн. ст.-прус. *treste,* літ. *strãzdas,* лац. *turdus* і г. д. Лічыцца словам гукапераймальнага характару. Гл. Фасмер, 1, 541; Трубачоў, там жа.

**Дро́нак** 'тоўстая палка, якой закрываюць у хляве выхад з дзвярэй; металічны вал, што злучае малатарню з прывадам' (Сцяц.). Запазычанне (як і *дронг* 'жэрдка', гл.) з польск. *drąg* 'жэрдка і г. д.' Паколькі *drąg* вымаўляецца [*dronk*], то *-к-* успрымалася як суфіксальная частка; адсюль форма *дро́нак.*



**Дронг** 'жэрдка' (Сцяшк.), *дронг, дронк* 'ручка, рубель, падгерац і да т. п.' (Сл. паўн.-зах.), 'трайня' (Шатал.). Запазычанне з польск. *drąg* 'тс' (польск. слова вядома з XV ст. і адносіцца да прасл. сямейства слоў **drǫgъ:* ст.-чэш. *drouh,* серб. *дру̂г,* ст.-сл. **дрѫгъ** і г. д.; гл. Слаўскі, 1, 162). Параўн. ст.-бел. *дронжокъ* 'металічны прут, жэрдка' < польск. *drążek* (бел. слова з XVII ст., гл. Булыка, Запазыч., 102).

**Дро́сень,** *дро́сель, дро́сінь* 'драсён'. Гл. *драсён.*

**Дрот** 'дрот' (БРС, Байк. і Некр., Сцяшк., Нас., Касп., Шат., Бяльк. і інш.). Ужо ў ст.-бел. *дротъ* 'тс' (з XVI ст., гл. Булыка, Запазыч., 102) Укр. *дріт,* рус. дыял. *дрот.* Запазычанне з польск. *drót, drut* 'тс' (а гэта з ням. *Draht,* с.-в.-ням. *drât*). Фасмер, 1, 542; Брукнер, 95; Кюнэ, Poln., 51; Бернекер, 1, 221; Слаўскі, 1, 170.

**Дро́цік** 'від зброі' (БРС). Запазычанне з рус. *дро́тик* 'тс' (у рус. мове слова вядома з 1682 г.). Паходжанне рус. слова не вельмі яснае. Лічыцца запазычаннем з грэч. δόρυ 'кап'ё'. Іншыя шукаюць іранскую крыніцу; агляд версій у Фасмера, 1, 542. Трубачоў (Дополн., 1, 542) тлумачыць рус. слова з **гротик* < *грот* 'дроцік'. Параўн. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 195.

**Друг** 'сябар' (БРС, Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Гл. *дру́гі.* Прасл. **drugъ.* Сюды адносяцца і **družina, *družьba, *družьnъjь, *družiti.* Гл. Трубачоў, Эт. сл., 1, 131—137.

**Дру́гі** 'другі, іншы' (БРС, Нас., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах. і г. д.). Рус. *друго́й* 'іншы', 'другі', укр. *дру́гий* і г. д. Падрабязны агляд форм ва ўсіх слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 131—132. Прасл. **drugъ, *drugъ(jь)* лічыцца этымалагічна звязаным з *друг* 'сябар і да т. п.' (прасл. **drugъ;* агляд форм у Фасмера, 1, 543; Трубачова, там жа). Роднасныя формы: літ. *draũgas* 'прыяцель', лат. *dràugs* 'тс', ст.-ісл. *draugr* 'муж' і г. д. Гл. Фасмер, там жа; Бернекер, 1, 230—231; Траўтман, 59; Трубачоў, там жа.

**Дружалю́бны** 'дружалюбны' (БРС). Рус. *дружелю́бный.* Відавочнае запазычанне з рус. мовы (у бел. мове няма ў іншых крыніцах).

**Дружба́нт** 'сябар маладога ў час вяселля, шафер' (Сцяц., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Утварэнне ад **дру́жба* 'шафер' (параўн. польск. *drużba* 'тс', чэш. *družba* 'тс', укр. *дру́жба* 'тс') суфіксам *-ант,* узятым з іншамоўных слоў з гэтым фармантам. Да суфіксацыі ў слове **družьba* гл. Слаўскі, 1, 171. А ці не звязана з назвай гульні ў карты: польск. *drużbant* (< ням. *Drosselbart* 'барада драздa' ў караля ў гэтай гульні; параўн. Брукнер, 99). Адсюль пры дысіміляцыі (*r—r* > *r—n*)

магла ўзнікнуць назва *дружбант*. Аднак семантычная матывацыя тут застаецца няяснай.

**Друз** 'шчэбень, друз' (БРС), 'перабітая і засохлая камякамі зямля; смецце з зямлёй' (Шат.), 'трэскі; смецце; кавалкі гліны, цэглы' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. дыял. *друз* 'смецце'. Параўн. далей рус. *друзга́* 'наогул усё рыхлае і сухое; смецце, сухое лісце і да т. п.'. *друзг* 'галлё', ст.-рус. *друскъ* 'галлё', польск. *druzga* 'асколкі і да т. п.' Лічацца аддзеяслоўнымі ўтварэннямі прасл. характару (агляд форм. гл. у Фасмера, 1, 543; падрабязна ў Трубачова, Эт. сл., 5, 133). Не выключаецца, аднак, што некаторыя формы могуць быць самастойнымі ўтварэннямі ў паасобных слав. мовах. Гл. *дру́згаць, друзгата́ць*. Сюды адносіцца і бел. *дру́зачка* 'трэска, кавалачак'.

**Дру́зачка** 'трэска, кавалачак'. Гл. *друз*.

**Дру́згаць** 'разбіваць' (Байк. і Некр.), *друзгата́ць* 'тс' (БРС). Параўн. чэш. *druzgati* 'драбіць', славац. *druzgat'* 'ламаць', ст.-польск. *druzgać*, серб.-харв. *дру̏згати* 'давіць, мяць' і г. д. Прасл. **druzgati* 'тс'. Роднасныя формы: літ. *druzgė́ti* 'распадацца на дробныя часткі', грэч. *θραύω* 'разломваю'. Гл. Фасмер, 1, 543; Траўтман, 61; Трубачоў, Эт. сл., 5, 133—134. Бернекер (1, 222) неперакана́ўча лічыць рэканструяванай для рус. *друзг* 'галлё' зыходнае **drǫzgъ*.

**Дру́злы** 'друзлы' (БРС), 'азызлы' (Касп.). Паводле Трубачова (Слав. языкозн., V, 178), відаць, прасл. лексічны дыялектызм бел. мовы. Зыходная форма **drǫzlъjь*, якую Трубачоў (там жа) параўноўвае з літ. *drumzlùs, drumzlinas, drumžlùs* 'мутны'. Сюды ж з іншай формай вакалізму і крыху іншай суфіксацыяй адносяцца, паводле Трубачова, і ст.-слав. **дрѧселъ, дрѧхлъ,** рус. *дря́хлый* і г. д. Сюды адносіцца і бел. *дру́знуць* 'друзнуць' (БРС). Параўн. яшчэ *дра́хлы* (гл.).

**Дру́знуць** 'друзнуць'. Гл. *дру́злы*.

**Друк**$_1$ 'друк' (БРС, Байк. і Некр., Нас., Касп. і інш.). Гэта слова было ўжо ў ст.-бел. (з XVI ст., гл. Булыка, Запазыч., 102). Укр. *друк* 'тс'. Запазычанне з польск. *druk* 'тс' (а гэта з ням. *Druck* 'тс'). Бернекер, 1, 99; Кюнэ, Poln., 51; Булыка, Запазыч., 102. Вытворныя адсюль *друкава́ць, друка́р, друка́рня* і інш. Можна ставіць пытанне, ці гэта самастойныя ўтварэнні ад *друк* на бел. глебе ці запазычанні таксама з польск. мовы. Булыка (Запазыч., 102) аднёс *друкарня, друкаръ, друковати* да дэрыватаў (пад *друкъ*). На с. 15 ён гаворыць, «што прыводзяцца дэрываты, утвораныя на беларускай глебе». Аднак давесці самастойнасць адзначаных бел. слоў немагчыма. Таму іх можна таксама лічыць паланізмамі: *друкава́ць* (ст.-бел. *друковати*) < польск. *drukować; друка́р* (ст.-бел. *друкаръ*) < польск. *drukarz; друкарня* (ст.-бел. *друкарня*) < польск. *drukarnia*. Для *друка́р* ёсць сляды яго польск. паходжання (*дру́кар* — Нас.) або прама ням. Нават *друкава́ць* магло быць прамым запазычаннем з ням. мовы. Яшчэ Бярында пісаў: *«дрꙋкꙋю: з алманска, выбиваю, албо вытискаю»*.



**Друк**$_2$ 'дубіна' (БРС), *дрюк* 'тс' (Бяльк.). Рус. *друк, дрюк,* укр. *друк, дрюк,* чэш. *drouk* 'жалезны прут, шпень', славац. *drúk* 'кол, жэрдка', балг. дыял. *дрък* 'сцябло кукурузы', серб.-харв. *друк* 'даволі тоўсты кол'. Прасл. **drǫkъ* 'друк і да т. п.' Гэта форма лічыцца варыянтнай (другаснай; паводле Фасмера, 1, 544, узнікла пад уплывам **sǫkъ* 'сук') да прасл. **drǫgъ* 'тс' (якая суадносіцца з дзеясловам **dręgati*). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 130—131, 129—130. Сюды памяншальнае *дручок*.

**Друкава́ць** 'друкаваць'. Гл. *друк*$_1$.

**Друка́р** 'друкар'. Гл. *друк*$_1$.

**Друка́рня** 'друкарня'. Гл. *друк*$_1$.

**Дручо́к** 'дручок'. Гл. *друк*$_2$.

**Друшля́к** 'прабойнік', 'друшляк' (БРС). У значэнні 'друшляк' адзначаецца ў ст.-бел. помніках з XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч.). Рус. *дуршла́г, друшла́г, дуршла́к, друшла́к,* укр. *друшля́к*. Запазычанне з польск. *druszlak, durszlak* 'тс' < ням. *Durchschlag*. Булыка, там жа, 103; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 213—214. Фасмер (1, 555) лічыць рус. лексемы прамым запазычаннем з ням. мовы, што недакладна (крытыку гл. у Шанскага, там жа, 214): на пачатку XX ст. у рус. мове з'явіліся формы тыпу *друшла́к*, а не *дуршла́к*.

**Дрыгаце́ць** 'дрыжаць' (БРС, Касп., Шат.). Утварэнне з «узмацняльным» суфіксам ад слав. **drъg-* (параўн. **drъgati, *drъgъtati, *drъgъtěti* ў Трубачова, Эт. сл., 5, 137—138). Праформа **drъg-ot-ěti* пацвярджаецца, напр., укр. дыял. *дрого-та́* 'дрож', славац. *drgotat'* 'грукатаць' і бел. словам. Ва ўсякім разе мадэль **drъg-ot-ěti* носіць прасл. характар і не можа быць зведзенай да **drъgъtěti,* як гэта ў Трубачова.

**Дры́гаць** 'дрыгаць' (БРС). Параўн. рус. *дры́гать*, укр. *дри́гати,* польск. *drgać, drygać,* славен. *dŕgati*. Сюды ж і формы тыпу рус. дыял. *дро́гать* 'трасці, топаць нагамі і г. д.' Зыходным з'яўляецца прасл. форма **drъgati (sę),* якая адпавядае літ. *drugỹs* 'ліхаманка'. Група слоў **drъgati (sę)* звязана з **drъžati* 'дрыжаць', **drъžь* 'дрыготка'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 137—138, 144—145; Фасмер, 1, 544, 540—541.

**Дрыгва́** (БРС, Касп., Бяльк., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Сю-

ды ж *драгба́* 'тс' (Касп.). Паводле Трубачова (Слав. языкозн., V, 178), гэта прасл. дыялектызм: прасл. **dręg(ъ)va*, роднаснае літ. *drė̃gnas*, лат. *drḗgns* 'сыры'. Лексема гэта, прынамсі, усх.-слав. (рус. *дря́гва*, укр. *дряговина* 'балота'). Фасмер (1, 545) лічыць яго звязаным з рус. *дрягá* 'сутарга', *дрягáть* 'калаціцца', *дрягвá* 'ад студзеню' (зыходнае **dręg-*). Параўн. *драгба́*. Адносна назвы *дрыгвá* 'застылы адвар' гл. Сцяц. Нар., 49—50.

**Дрыжа́ць,** *дрыжэць*. Рус. *дрожáть*, укр. *дрижáти*, *дріжáти*, чэш. *držeti*, польск. *drżeć*. Прасл. **drъžati* 'дрыжаць' звязваецца этымалагічна з літ. *drugȳs* 'ліхаманка', лат. *drudzis*. Параўн. Фасмер, 1, 540; Трубачоў, Эт. сл., 5, 138—144; Бернекер, 1, 231; Слаўскі, 1, 175. Бел. форма *дрыжáць*, укр. *дрижáти* тлумачацца спецыфічным фанетычным развіццём (прасл. *-*rъ*- не пад націскам пераходзіць у бел. і ўкр. мовах у *-*ry*-).

**Дрызíна** 'дрызіна' (БРС). Рус. *дрезúна*, укр. *дрезúна*. Бел. лексема, магчыма, запазычанне з рус. У рус. мове гэта слова запазычана ў сярэдзіне XIX ст. з ням. *Draisine*, *Dräsine* (ад імя вынаходніка дрызіны). Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 188—189.

**Дры́ліх** 'цік (тканіна)' (Нас., Касп.). Паводле Кюнэ (51), запазычанне з польск. *drelich* 'тс' (а гэта з ням. *Drellich* 'тс').

**Дрыль** 'дрыль' (БРС, Сл. паўн.-зах.), 'лобзік' (Шат.). Рус. *дрель* (старое таксама *дриль*). Фасмер (1, 537) прымае запазычанне з гал. *drilboor* або ням. *Drillbohrer* 'тс'. Шанскі (1, Д, Е, Ж, 190) мяркуе, што трэба дапусціць пры запазычанні польск. пасрэдніцтва (польск. *dryl*, *drel*). Дадатковым аргументам тут, паводле Шанскага, можа быць напісанне ў Даля *дриль*, *дрыль* (апошняе можа ўказваць на польск. *dryl*).

**Дрымо́та,** *дрымóтны*, *дрымýчы*. Да *драмáць* (гл.).

**Дрын** 'кій' (Сцяшк.), 'кіёк, дручок' (Сцяц.), 'палка' (Сл. паўн.-зах.). У слоўніку Трубачова (Эт. сл., 5, 145) бел. слова адсутнічае. Параўн. рус. дыял. *дрын*, укр. дыял. *дрін* 'тс'. Паводле Трубачова, там жа (у Фасмера, Бернекера гэтых слоў няма), магчыма, да і.-е. **drūno-* (ад і.-е. **dru-* 'дрэва'); параўн. ст.-інд. *druṇa-* 'лук (зброя)', перс. *durūna* 'дуга, вясёлка; лук'; першапачатковае значэнне 'драўляны' (гл. яшчэ Трубачоў, ВЯ, 1975, № 1, 135). Няпэўна.

**Дрынду́шка** 'частушка', 'дробязь, цацка' (БРС), *дрындуха* 'частушка' (Шат.). Параўн. у Насовіча: *дры́ндаць* 'ленавацца; хадзіць, спяваючы', *дры́нда* 'гультай', 'ад плуга'. Слаўскі (1, 172) прыводзіць вялікую групу слав. слоў са шматлікай семантыкай і лічыць, што гэта ўсё лексемы гукапераймальнага характару. Параўн. польск. *drynda* 'вазок', *dryndać* 'павольна ехаць, трэсціся на возе', укр. *дрúнда* 'вазок', *дрúндати* 'бегчы рыссю', серб.-харв. *др̏ндати* 'балбатаць, размаўляць' і г. д. Паводле Сл. паўн.-зах., *дры́ндаць* 'хадзіць без справы, бадзяцца' < польск. *dryndać*.



**Дры́нкаць** 'брынкаць, бразгатаць' (БРС). Гукапераймальнае. Параўн. чэш. *drnčeti*, *drčeti*, рус. *трéнькать* і г. д. Гл. Махэк$_2$, 128; Фасмер, 4, 98.

**Дры́хнуць** 'дрыхнуць' (БРС, Нас., Бяльк.). Рус. *дры́хнуть*, *дры́хать*, чэш. дыял. *drychmat* 'драмаць, спаць', серб.-харв. *дрúхати* 'моцна спаць', славен. *dríhati* 'спаць'. Прасл. **dryxati*, **dryxnǫti* 'тс'. Даўнейшыя этымалагічныя версіі гл. у Фасмера, 1, 545. Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 144—145), прасл. дзеяслоў з'яўляецца экспрэсіўным утварэннем, якое ўзнікла з усечанай асновы дзеяслова **drěmati* 'драмаць', да якой далучылася суфіксальная частка *-x-ati*.

**Дрэ́ва** 'дрэва' (БРС, ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.), таксама *дрéва* (Бяльк.). Укр. *дрéво* (памянш. форма *древко*) 'тс' (Грынч.); параўн. і гуц. *древорýб* 'павець для дроў' (Грынч.: з Шухевіча). Адносна бел. слова (без укр. матэрыялу) Трубачоў (Эт. сл., 4, 212) заўважае: «блр. литер. *дрэ́ва* неисконно». Сапраўды, бел. і ўкр. формы нельга вытлумачыць з якой-небудзь прасл. зыходнай формы, таму можна меркаваць, што гэта запазычанне з польск. *drzewo* 'тс' (< прасл. **dervo*; аб апошнім гл. Трубачоў, там жа, 211—212) з субстытуцыяй польск. гука *rz* усх.-слав. *-р-*. Дзіўна, што ў ст.-бел. мове (гл. Булыка, Запазыч.) не адлюстраваны гэты паланізм.

**Дрэйф**, *дрэйфавáць* (БРС). Параўн. *дрэ́йфіць* (гл.). Запазычанне праз рус. мову.

**Дрэ́йфіць** 'баяцца' (БРС). Рус. *дрéйфить* 'тс'. Відавочна, узята з марскога жаргону. Параўн. рус. марское *дрéйфить* (*дрейфовáть*) < гал. *drijven* 'адкланяцца ад курсу, дрэйфаваць'. Да *дрейфовáть*, *дрейф* гл. Фасмер, 1, 537; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 189.

**Дрэ́нны** 'дрэнны'. Гл. *дрэнь*.

**Дрэ́нчыць** 'мучыць' (Нас.), 'не даваць спакою' (БРС, Сцяшк., Бяльк.), 'сцябаць малых дзяцей', 'моцна хацецца' (Шат.). Запазычанне з польск. *dręczyć* 'мучыць; моцна ўдараць'. Шат., 88; Слаўскі, 1, 165. Аб польск. слове гл. Слаўскі, 1, 164—165. Гл. таксама Кюнэ, Poln., 51.

**Дрэнь** 'дрэнь, дрэнны' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). У дыял. і *дрень* (Бяльк.). Слова не вельмі

яснага паходжання. Здаецца, можна лічыць, што яно роднаснае рус. *дрянь* 'тс' (па адной версіі **драньь* ад *драть;* па іншай з **дрябнь* да *дряблый;* гл. Фасмер, 1, 546; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 198). Вакалізм у бел. слове не зыходны, а трансфармаваўся па тыпу *барса́ць: бэ́рсаць, ва(д)зга́ць: вэ́дзгаць, даўжа́р: дэ́ўжар.* Хутчэй, аднак, зыходным з'яўляецца тып рус. *дрянно́й,* бел. **дранны́,* адкуль пасля перанясення націску на першы склад «аднавіўся» вакалізм *«э»: *дранны́→ дрэ́нны;* адсюль ужо *дрэнь.* Параўн. польск. *drań* (Слаўскі, 1, 161). Бел. словы могуць паходзіць і прама ад **dranь, *dranьnъ (*dьranъ, *dьranьnъ)* без палаталізацыі *(*r > r').*

**Дрэсірава́ць** 'дрэсіраваць' (БРС). Рус. *дрессирова́ть,* укр. *дресирува́ти.* Паводле Фасмера (1, 538), запазычанне з ням. *dressieren* (< франц.) або прама з франц. *dresser* (< італ.). Шанскі (1, Д, Е, Ж, 191) дапускае толькі запазычанне з франц. крыніцы. Выходзячы з агульнай сітуацыі, можна меркаваць, што бел. слова, магчыма, узята непасрэдна з рус. мовы, а не з франц. ці ням.

**Дрэ́ўка**$_1$ 'дрэўка (сцяга і г. д.)' (БРС). Запазычанне з рус. *дре́вко* 'тс' (у рус. мове гэта, паводле Шанскага, 1, Д, Е, Ж, 188, рус. утварэнне на базе запазычанага са ст.-слав. мовы слова *дре́во* < **дрѣво**).

**Дрэ́ўка**$_2$ 'цурка (для палення)' (БРС), *дрэ́ўкі* 'тс' (Шат.). Відавочнае запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *drzewka* (мн. л.) 'дровы'. Можна думаць і пра самастойнае ўтварэнне гэтага слова ў бел. мове на базе запазычанага з польск. мовы *дрэ́ва* (гл.).

**Дрэ́чыцца** 'дражніцца' (Сцяшк.). Вакалізм у гэтым слове другасны. Зыходным з'яўляецца **драчы́цца* 'тс' (слав. **drǫčiti;* агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 122—123). Гук *э* нібы «аднаўляецца» пад другасным націскам.

**Дуб**$_1$ 'дуб'. Рус. *дуб,* укр. *дуб,* польск. *dąb,* чэш. *dub,* серб.-харв. *ду̑б,*ст.-слав. **джбъ.** Прасл. **dǫbъ*'дуб' (падрабязны агляд форм і семантыкі гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 95—97). Паводле Трубачова, прасл. **dǫbъ* — гэта назва-эўфемізм, якая звязана з лексікай з шырокай семантыкай: **dǫbrava, *dъbrь.* У аснове ляжыць і.-е. **dheubh-* 'глыбокі', але Трубачоў разумее **dǫbъ* як іншасказальнае слова: першапачаткова 'нізіннае (дрэва)'.

Сюды адносіцца і бел. *дуб* 'вялікі човен' (Бяльк.), рус. *дуб,* укр. *дуб.* Прасл. характар маюць **dǫbiti* (бел. *дубіць* і г. д.); гл. Трубачоў, там жа, 91—92; прасл. *dǫbina* (у тым ліку бел. *дубі́на,* рус. *дуби́на,* укр. *дуби́на*).



**Дуб**$_2$ 'вялікі човен'. Гл. *дуб*$_1$.

**Ду́ба,** *ду́бам, дубка́* 'дыбам' (БРС). Параўн. рус. *ду́ба стоять,* укр. *ду́бом, ду́ба* 'дыбам', чэш. *dubkem,* славац. *dubkom* (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 145; праформа **dubъ, *dubъkъ,* але семантычнай матывацыі няма). Фасмер (1, 549) прыводзіць рус. дыял. *ду́бью* 'дыбам', укр. *ду́бом стати,* польск. *dębem stać,* чэш. *dubkem* і звязвае гэтыя лексемы з *дуб* (параўноўваючы з ням. *sich bäumend* 'устаючы на дыбы', да *Baum* 'дрэва').

**Дубаве́цце** 'дробязь, глупства' (Касп.). З **dǫbo-větьje* 'дубовае галлё' (>'дробязь, глупства'). Яшчэ адзін прыклад існавання ў гаворках значнай колькасці складаных слоў.

**Ду́бальт** 'удвайне, удубальт' (БРС, Нас., Байк. і Некр., Касп., Бяльк.). Запазычанне з польск. *dubelt* 'тс'. Польск. слова, паводле Брукнера (101), з ням *dupel* 'падвойны', аднак ням. форма не тлумачыць наяўнасць *-t* у польск. слове, таму, мяркуем, лепш выходзіць з ням. *doppelt* (гібрыдная форма, вядомая з XVI ст., паводле Пауля, Wörterb., 7. Aufl., 129, якая ўзнікла з *doppel* < франц. *double* шляхам кантамінацыі з *gedoppelt*). Паводле Кюнэ (Poln., 52), польск. *dubelt* узята з н.-ням. *dubbelt* або ўстарэлага ням. *duppelt.*

**Дубальто́вы** 'падвойны' (БРС, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dubeltowy* 'падвойны' (а гэта, паводле Брукнера, 101, з ням. *dupel* 'тс'; хутчэй, аднак, з ням *doppelt* 'тс'; падрабязней гл. пад *ду́бальт*).

**Дубальто́ўка**$_1$ 'дубальтоўка, паляўнічая стрэльба' (БРС, Сцяшк., Шат., Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *dubeltówka* 'тс' (ад *dubeltowy* 'падвойны' < ням. *dupel;* гл. Брукнер, 101).

**Дубальто́ўка**$_2$. Гэта назва азначае розныя рэаліі: 'вялікая суконная хустка' (Сцяшк., Сцяц.), 'падвойнае акно' (Сцяшк.). У аснове ляжыць запазычаны з польск. мовы прыметнік *дубальто́вы* 'падвойны' (гл.). Назвы для 'хусткі' і 'падвойнага акна' могуць быць утворанымі ўжо на бел. глебе (параўн., напр., выраз *дубальто́выя ра́мы* 'падвойныя рамы', БРС). Але не выключаецца, што *дубальто́ўка* ў адзначаных вышэй значэннях — запазычанне з польск. дыялектаў.

**Дуба́с** 'вялікі, тупы нож' (Нас.: Вілен., Ковен., Гродз. губ.). Укр. *дубас* 'вялікі нож'. Няясна. Параўн. фармальна ідэнтычнае, але з іншым значэннем рус. *дуба́с* 'від лодкі'. Магчыма, спачатку 'лодка грубай работы' > 'грубы прадмет'.

Параўн. у рус. гаворках (СРНГ, 8, 223): *дубас* «с заостренным носом и тупою кормою грубой работы, наподобие простого корыта». Адсюль, відаць, метафарычна: 'грубы, тупы прадмет' (> 'тупы нож; тупы, вялікі нож'). Лексему *дубáс* 'лодка' Фасмер (1, 548) выводзіць ад **dǫbъ* 'дуб' (насуперак Міклашычу, які выходзіў з тур. *tombaz*).

**Дубáсіць** 'дубасіць' (БРС), 'біць друкамі, палкай' (Нас.), 'вельмі моцна біць' (Касп., Шат.), 'моцна ісці (пра дождж); гучна ісці, цікаць (пра гадзіннік): сячы' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *дубáсить* 'біць', укр. *дубáсити*. Магчыма, да *дуб* (гл.), пераносна 'палка, дручок'.

**Дубéц** 'дубец' (БРС, Нас., Касп., Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Рус. *дýбéц* 'палка, дубец', укр. *дубéць* 'тс'. Вытворнае (спачатку, магчыма, толькі памяншальнае 'малы, малады дуб') ад прасл. **dǫbъ* 'дуб'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 95—96.

**Дубéць,** *дубянéць* 'дубець' (БРС, Нас.). Рус. дыял. *дубéть, дубéнить,* укр. *дубíти* 'тс'. Вытворнае (**dǫběti*) ад слав. **dǫbъ* 'дуб' (спачатку 'рабіцца цвёрдым, як дуб').

**Дубíна**. Гл. *дуб*$_1$.

**Дубíца** 'човен, выдаўбаны ў выглядзе карыта' (Касп., Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. дыял. *дубúца* 'тс'. Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 91), да прасл. **dǫbica* (< **dǫbъ* 'дуб'), якое азначае розныя рэаліі (агляд матэрыялу ў Трубачова, там жа, але без бел. лексемы).

**Дубíць**. Гл. *дуб*.

**Дублíраваць** 'дубліраваць'. Рус. *дублúровать*. Відавочна, запазычанне з рус. мовы (дзе слова ўзята з франц. *doubler* 'тс'). Параўн. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 202.

**Дубрóва** 'дуброва' (БРС, Бяльк.). У Яшкіна *дубрóва* 'дубовы лес, гай,' 'лісцевы лес, мяшаны лес', 'бярэзнік', 'сасоннік, хваёвы лес', 'трава, якая расце ў лесе або від кармавых траў', 'балота'. Падрабязны агляд семантыкі слова гл. у Талстога, Геогр., 44—48; гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 5, 93—94 (з вялікай літ-рай). Прасл. форма рэканструюецца як **dǫbrava, *dǫbrova* (лексема вядома ва ўсіх слав. мовах). Звычайна слова звязваецца з **dǫbъ,* але гл. удакладненні ў Трубачова (сувязь з **dǫbъ* мае больш шырокую семантычную аснову). Гл. яшчэ Фасмер, 1, 548.

**Дубрэ́ць** 'рабіцца цвёрдым' (Касп.). Няясна. Магчыма, архаізм (з тэарэтычнага прыметніка **dǫbrъ* 'дубовы' > 'цвёрды'; параўн. прасл. **dǫbrъ* у Трубачова, Эт. сл., 5, 95).



**Дубэ́льтка** 'дубальтоўка, двухствольная стрэльба' (Сцяшк., Касп.). Відавочна, як і *дубальтóўка* (гл.) 'тс', запазычанне з польск. мовы. Параўн. кантэкст (пад *паядынька,* гл.): *«У брата паядынька* (< польск. *pojedynka* — Р. К.), *а ў м'мн'е дубельтка на два ствалы»* (Сцяшк.).

**Дубэ́льты** 'другія рамы' (БРС, Сцяшк., Жд. 2). Запазычанне з польск. мовы (*dubelt* 'удвая'; аб паходжанні гл. пад *дýбальт).*

**Дугá** 'дуга', Рус. *дугá,* укр. *дугá,* польск. *dęga,* чэш. *duha,* серб.-харв. *дýга, дӱга,* ст.-слав. **джга**. Прасл. **dǫga;* вытворнае ад дзеяслова **dęgti;* параўн. **dęga, *dęgъ* 'рамень, пояс' (славен. *déga* і г. д.). Гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 98—99, 24—26; Фасмер, 1, 549, 561. Гл. *дзяга.*

**Дудá** 'дуда, дудка' (БРС, Нас., Касп., Шат., Сл. паўн.-зах.). **Duda, *dudъka* вядома ва ўсіх слав. мовах (агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 146) і з'яўляецца старым утварэннем гукапераймальнага характару. Сюды адносяцца і дзеясловы **dudati, *duděti* (у тым ліку і бел. *дудзéць*), **duditi* (параўн. і бел. *дýдзіць*), якія маюць прасл. характар (гл. у Трубачова, там жа, 147). Таксама прасл. словам можна лічыць і **dudarь* (параўн. і бел. *дудáр*). Магчыма, сюды адносіцца і бел. *дýды* 'жарты, падман' (Нас.).

**Дудáр**. Гл. *дудá.*

**Дудзéць,** *дýдзіць.* Гл. *дудá.*

**Дýдка** 'дудка'. Гл. *дудá.*

**Дýдкі!** выклічнік (БРС). Запазычанне з рус. *дýдки!* 'тс'. Рус. слова (упершыню адзначаецца ў 1834 г.) паходзіць ад *дýдка* 'дудка' (параўн. пустую сярэдзіну дудкі). Падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 206.

**Дуднéнне** 'гудзенне' (Сцяшк.). Паколькі слова адзначаецца на абмежаванай тэрыторыі (у зах. гаворках), можна меркаваць, што гэта запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dudnieć* 'глуха гучаць, грымець' (аб прасл. групе слоў з праформы **dud(ь)něti* гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 149—150).

**Дудýк** 'маўчун' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *dudùkas* 'разявака'. Няпэўна. Хутчэй да *дудýкаць* (гл.).

**Дудýкаць** 'нягучна размаўляць' (БРС, Сл. паўн.-зах.), 'размаўляць' (Касп.), 'глуха і павольна гаварыць' (Янк. III). Відавочна, гукапераймальнае. Параўн. і рус. *дудýка* 'той, хто ўвесь час балбоча,' *дудýкать* 'дудзець, выдаваць гук, як гук дудкі', *дудýчить* 'гаварыць увесь час, балбатаць абы-што'

6. Зак. 2801

(СРНГ, 8, 251). Параўн. і літ. *dudénti* 'нягучна размаўляць' (аб гэтым гл. Фрэнкель, 1, 84). Звяртае ўвагу, што бел. і літ. мовы ўтвараюць тут пэўную ізаглосную тэрыторыю (дакладней, літ. мова і паўн.-зах. гаворкі бел. мовы).

**Ду́ды** 'падман' (Нас.). Гл. *дуда́*.

**Ду́жа** 'вельмі'. Гл. *ду́жы*.

**Ду́жы** 'моцны', сюды і *ду́жа* 'вельмі'. Прасл. **dužьjь* 'тс' (утварэнне ад **dugъ*: ст.-рус. *дугъ* 'сіла', чэш. *duh;* гэта параўноўваюць з літ. *daũg* 'многа', гоц. *daug*, ням. *taugen* 'падыходзіць' і г. д.). Агляд форм (у тым ліку польск. *dużo*, рус. *дюже*, бел. *ду́жа*, укр. *ду́же*) гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 167—168, 150; гл. яшчэ Фасмер, 1, 550; Слаўскі, 1, 181—182. Прасл. характар мае **dužiti* (параўн. бел. *ду́жыць;* няма ў Трубачова), **dužati (sę)* (параўн. бел. *ду́жацца*); гл. Трубачоў, там жа, 166— 167.

**Ду́жыць**. Гл. *ду́жы*.

**Ду́йка** 'мяцеліца з ветрам' (Касп.). Гл. *ду́я*.

**Дукава́цца** 'крыўляцца' (Шат.). Гл. *дукава́ць*.

**Дукава́ць** 'павучаць (часта з цялесным пакараннем)' (Касп.), 'настройваць, падвучваць, падбухторваць кагосьці' (Янк. III). Відаць, з *адукава́ць* 'выхоўваць' у выніку адпадзення пачатковага ненаціскнога *а-* (а гэта з польск. *edukować;* < <лац. *educare* 'выхоўваць'). Параўн. *адука́цыя* (гл.). Магчыма, сюды адносіцца і *дукава́цца* 'крыўляцца' (Шат.).

**Дука́т** 'дукат'. Рус. *дука́т*, укр. *дука́т*. Запазычанне з італ. *ducato* 'тс' праз ням. *Dukat*. Першакрыніцай з'яўляецца с.-лац. *ducatus* (вытворнае ад *duca* 'герцаг'). Гл. Фасмер, 1, 550; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 206—207.

**Ду́крыць** 'разумець' (Касп.), *дукры́ць* 'вучыць, настаўляць' (Жд. 2). Няясна.

**Ду́кса** 'той, хто вечна дзьмецца (на каго-н.)' (Касп.). Відавочна, запазычанне з літ. *dùksas* 'уздых, стогн', *dūksáuti* 'ўздыхаць' (да этымалогіі літ. слова гл. Фрэнкель, 1, 115).

**Дукт** 'мяжа; абвод граніц' (Яшкін). Запазычанне з польск. *dukt* 'прасека' (<лац. *ductus;* гл. Брукнер, 103).

**Ду́ла** 'дула' (БРС), 'лужына' (Касп.), 'багаты рыбай заліў ракі' (Яшкін), 'pars posterior, anus' (Нас.). У Трубачова (Эт. сл., 5, 148—149) пад праформай **dud (ь)lo* параўноўваецца шмат слав. слоў з рознай семантыкай (ад 'канец трубы' да 'ямка ў зямлі, варонка'). Частка прыкладаў выводзіцца ад дзеяслова **duti* 'дуць, дзьмуць' (суфікс **-dlo*); іншыя формы, магчыма, зыходзяць да **dud-ыl-*. У нашым выпадку, бясспрэчна, трэба зыходзіць з **du-dlo*. Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 551.



**Ду́ла** (ж. р.) 'завея' (Касп.). Магчыма, дзеепрыметнікавая форма на *-л-* ад *дуць* (гл.). Параўн. Фасмер, 1, 551.

**Дуле́ць** 'пыліць (у час красавання збажыны); гарэць без полымя, тлець' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *dulěti* 'трухлець, тлець'. Але параўн. рус. дыял. смал. *дуле́ть* 'гарэць, тлець, гнісці' (Трубачоў, Эт. сл., 5, 154, выходзіць з прасл. **dulěti*, а Фасмер, 1, 551, рус. *дуле́ть* 'гніць' звязвае з рус. *дуль* 'дупло').

**Дулукі́** («*зваліўся дулукі*» 'на падлогу, на зямлю', Касп.). Відаць, з *дулуйкі́* <**долойкі́* 'тс'. Параўн. рус. дыял. *доло́й* 'уніз, на зямлю'. Параўн. таксама рус. смал. *доло́йки* 'прэч, вон, далоў', *дулаки́ (быть в дулаках)* 'зваліцца на падлогу' (гл. СРНГ).

**Ду́лька** 'адходы пры трапанні льну' (Сцяшк., Жд. 1, Сл. паўн.-зах.), 'дробныя часткі валакна, пыл пры апрацоўцы льну' (Шатал.). Паводле Сл. паўн.-зах., магчыма, запазычанне з літ. *dùlkes* 'пыл, пылок ад раслін'.

**Ду́ля** 'груша дуля', 'дуля' (БРС, Нас., Касп., Шат., Сцяшк.). Рус. *ду́ля* 'груша', укр. *ду́ля* 'груша'. З польск. *dula, gdula*, а гэта з лац. *cydonea* (<грэч.). Гл. Фасмер, 1, 552; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 207—208.

**Ду́ма**$_1$ 'дума, думка', *ду́маць*, таксама *дума́* 'думка' (Нас., Касп., Шат.). Лексемы **duma*, **dumati* вядомы амаль ва ўсіх слав. мовах (акрамя чэш. і славац., дзе *dumati, dumat'* запазычаны з польск.). Семантыка іх розная ('думаць', 'памятаць', 'гаварыць', 'меркаваць' і г. д.); падрабязны агляд форм, значэння гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 154—156. Найбольш абгрунтаванай этымалагічнай версіяй (агляд версій у Трубачова, там жа) з'яўляецца дапушчэнне сувязі **duma, *dumati* з **dъmǫ, *dǫti* 'дуць' (адсюль і шматлікасць семантыкі адпаведных слоў у слав. мовах). Параўн. яшчэ Мартынаў, Лекс. взаим., 82—84. Ад **dumati* ўтвораны бел. *ду́мка*, укр. *ду́мка*.

**Ду́ма**$_2$ 'ганарыстасць, пыха' (Нас.). Запазычанне з польск. *duma* 'тс', якое звычайна лічыцца герм. па паходжанню. Гл. Слаўскі, 1, 179; Брукнер, 103. Параўн. і *ду́мны* 'горды, ганарысты' (гл.). Гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 5, 154—156.

**Думаўё** 'дамавіна' (Касп., Сл. паўн.-зах.). З **domovьje;* параўн. слав. **domovina*, **domovišče* 'жыллё' (гл. Трубачова, Эт. сл., 5, 70—71), якія ўжываюцца і ў значэнні 'дамавіна'.

Гл. яшчэ Фасмер, 1, 528 (пад *домовѝна, домовѝще*). Эўфемістычная назва.

**Ду́мбла,** *ду́мбля* 'твань' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *dum̃blas* 'тс'.

**Ду́мны** 'горды' (Нас., Байк. і Некр.). Паводле Кюнэ (Poln., 52), запазычанне з польск. мовы. Параўн. польск. *dumny* 'горды' (аб паходжанні польск. слоў гл. Брукнер, 103; Слаўскі, 1, 179). Параўн. *ду́ма₂* (гл.). Гл. яшчэ Слаўскі, там жа; Трубачоў, Эт. сл., 5, 154—156.

**Дуна́іць,** *дуна́ць* 'драмаць, хістаючыся ў розныя бакі' (Нас.). Запазычанне са ст.-яўр. мовы. Паводле Насовіча, звязана слова з тым, што пры малітве яўрэі нахіляюцца ў розныя бакі, гаворачы: *adonái* 'божа!'

**Дуна́й** агульная назва вялікай ракі ў беларусаў' (Яшкін), рус. дыял. *дуна́й* 'ручаёк з-пад зямлі', укр. *дуна́й* 'разліў вады', польск. дыял. *dunaj* 'далёкая незнаёмая рака, мора'. Ад уласнай назвы ракі *Дунай;* гл. Фасмер, 1, 553 (да тлумачэння ўласнай назвы *Дунай* гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 156—157). Параўн. яшчэ Брукнер, 103.

**Дуна́ць** 'драмаць, хістаючыся ў розныя бакі'. Гл. *дуна́іць*.

**Дунда́р** 'гром, пярун' (Сл. паўн.-зах.). Як мяркуе Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ *dundùlis* 'гром'.

**Дундзе́ць** 'грукатаць' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *dundė́ti* 'тс' (гл. Сл. паўн.-зах.).

**Дундзіць** 'гаварыць недарэчнае, бубніць' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *dundė́ti* 'гаварыць' (гл. Сл. паўн.-зах.).

**Ду́ндзіць** 'ссаць' (Шат., Сцяц., Сл. паўн.-зах.), *ду́нда* 'соска' (Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Дуница** 'гаршчок' (ст.-бел., з XVI ст.). Гл. *данічка*.

**Ду́нуць** 'хутка кінуцца з месца; моцна ўдарыць' (БРС). Сюды ж і *дуну́ць* 'уцячы' (Бяльк.). Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 157), адносіцца да прасл. **dunǫti* са значэннем 'дзьмуць, дзьмухнуць' (рус. *ду́нуть,* укр. *ду́нути,* ст.-чэш. *dunúti,* серб.-харв. *ду́нути,* ст.-слав. **доунѫти**), роднаснага з **duti*. Значэнні 'хутка кінуцца, уцячы, моцна ўдарыць' яўна секундарныя.

**Дуну́ць** 'уцячы'. Гл. *ду́нуць*.

**Ду́па** 'pars posterior, anus', укр. *ду́па* 'тс'. Кюнэ (Poln., 52) прыводзіць бел. слова з Дабравольскага і мяркуе, што, зыходзячы з гукавых і лінгвагеаграфічных момантаў, трэба лічыць гэту лексему запазычаннем з польск. *dupa* 'тс'. Параўн. *ду́пка*



(гл.). Падрабязны агляд форм і семантыкі прасл. **dupa* 'дзюрка, яма, дупло, anus і г. д'. гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 157—158 (тут наогул не ставіцца пытанне аб магчымым запазычанні некаторых усх.-слав. слоў гэтай групы з польск. мовы; няпэўна).

**Ду́пель₁** 'назва птушкі'. Рус. *ду́пель, ду́бель*. Лічыцца запазычаннем з ням. *duppelt, Doppelschnepfe* або праз польск. *dubelt* 'тс' з н.-ням. *dubbelt*. Фасмер, 1, 554 (са спасылкай на Бернекера, 1, 238; Брукнера, 101; Гараева, 99).

**Ду́пель₂** 'дупло'. Гл. *дупло́*.

**Дупёлка,** *дупёлко* 'бочачка' (Сцяшк.). Да *дупло́* (гл.).

**Ду́пка** 'тупы канец яйка, пушка, пятка' (Бяльк.). Відавочна, памяншальная форма ад *ду́па* 'anus' (гл.), запазычанага з польск. мовы. Метафара. Параўн. і ўкр. дыял. *ду́па* 'тупы канец яйца'.

**Дупле́т** 'дуплет' (БРС), *дубле́т* 'двайны стрэл' (Сцяшк.). Рус. *дупле́т, дубле́т*. Запазычанне з франц. *doublet* (ад *double* 'двайны'). Форма *дупле́т* не вельмі ясная (дапускаюць уплыў іншых слоў, напр. лац. *duplicata,* ням. *doppelt* 'двайны'). Гл. Фасмер, 1, 549; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 201.

**Дуплё** 'дупло'. Гл. *дупло́*

**Дупло́** 'дупло' (БРС). Вядома таксама шырока і форма *дуплё;* сустракаецца і *ду́пель* 'дупло' (Шат.). Рус. *дупло́* (дыял. *дуплё*), укр. *дупло́,* польск. *dziupło, dupło,* балг. *ду́пло,* серб.-харв. *ду̏пло* і г. д. Лічыцца ўтварэннем з суф. *-l-* (**dup(ь)lo,* **dup(ъ)lo*) ад прасл. **dupa* (вядомае ў розных значэннях 'яма', 'дзюрка', 'нара', 'дупло', 'podex' і г. д.). Гл. Фасмер, 1, 554; Бернекер, 1, 237—238; Брукнер, 104.

**Ду́рань** 'дурань'. Укр. *ду́рень* 'тс'. Субстантываваная форма прыметніка **durьnъ* 'дурны і г. д.' (гл.). Трубачоў, Эт. сл., 5, 163.

**Дурдо́ла** 'дурыла, дурань' (Нас.). Няясна. Нейкае кантамінаванае слова (першая частка да *дур-* 'дурны, дурань, дурыць'; параўн. аднасна ўтварэння ў Насовіча таксама *дуры́лда, дуры́нда* 'дурань').

**Дурма́н** 'дурман' (БРС), 'расліна дурнап'ян' (Бяльк.). Рус. *дурма́н,* укр. *дурма́н* 'тс'. Паводле Фасмера (1, 555), звязана з *дур-* (што ў словах рус. *дурно́й, одуря́ть*). Таксама Махэк₂ (135) мяркуе, што запазычанае з рус. мовы чэш. *durman* звязана з *durný,* таму што расліна вельмі ядавітая. Іншая версія (падрабязна аб гэтым Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 212—213,

з аглядам літ-ры) выводзіць слова з цюрк. моў, а сувязь са слав. *dur-*, *durьnъ* і г. д. лічыць народнай этымалогіяй.

**Дурніцы** 'ягады буякі' (БРС, Нас., Касп., Бяльк., Сцяшк., Жд. 2). Параўн. іншыя назвы гэтай расліны: *п'яніца, галава-боль* (гл. Кіс.). Укр. *дурниця* (таксама *болиголов, дурнопян, дурнина, пияки*), у рус. мове *пьяница* (*дурница* азначае розныя травы), у ням. *Rauschbeere*. Ужо Насовіч пісаў: «*ягода, имеющая одуряющее, наркотическое свойство*». Назва ўтворана ад *дурны* (паводле ўласцівасцей расліны). Параўн. *буякі* 'тс' (гл.).

**Дурны** 'дурны і да т. п.' Рус. *дурной*, укр. *дурний*, чэш. *durný*, серб.-харв. *ду̑ран* 'запальчывы, злы' і г. д. (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 163). Утварэнне (прасл. **durьnъ*) ад прасл. **durъ* 'дзікі; наравістасць; шаленства; дурасць', **durь* 'дурасць; шаленства; галавакружэнне і г. д.' (гл. Трубачоў, там жа, 162—163), якія звязаны, магчыма, са слав. **duxъ*, **duti* (Трубачоў, там жа, 162; іншыя версіі вельмі няпэўныя). Параўн. *дурань, дурыць, дурэць*.

**Ду́рстацца** 'корпацца' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з літ. *dùrstytis* 'тс' (так Сл. паўн.-зах.).

**Ду́рстаць** 'тузаць' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з літ. *dùrstyti* 'тыкаць, торкаць' (гл. Сл. паўн.-зах.).

**Дурыць** 'дурыць'. Рус. *дурить*, укр. *дурити*, польск. *durzyć* 'дурыць', серб.-харв. *ду̏рити се* 'злавацца' і г. д. (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 161). Прасл. **duriti (sę)*— каузатыўны дзеяслоў, звязаны з **dur-* (гл. *дурны*).

**Дурэць** 'дурэць'. Рус. *дуреть*, укр. *дуріти* 'тс', польск. *durzeć* 'упадаць у задуменнасць і да т. п.', чэш. *dufeti* 'быць у збянтэжанасці, глядзець азадачана', славен. *duréti* 'тупа, бяздумна глядзець' (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 160—161, але без бел. матэрыялу). Прасл. **durěti* звязана з прасл. **dur-* (гл. *дурны*).

**Дусіць** 'душыць' (Нас., Сл. паўн.-зах.). З польск. *dusić* 'тс' (аб польск. слове Слаўскі, 1, 180—181; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 5, 164—165).

**Дуст** 'дуст' (БРС). Рус. *дуст*, бел. *дуст*. Запазычанне праз рус. мову з англ. *dust* 'тс'. Падрабязней Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 214.

**Дух** 'дух'. Рус. *дух*, укр. *дух*, польск. *duch*, чэш. *duch*, балг. *дух(ът)*, серб.-харв. *ду̑х*, ст.-слав. **доухъ**. Прасл. **duxъ*. Роднасныя формы: літ. *daũsos* 'паветра', грэч. θεός 'бог і г. д.' Аблаўтныя слав. формы: **dъxnǫti*. Гл. Фасмер, 1, 556; Траўтман, 65; Бернекер, 1, 235. Падрабязна Трубачоў, Эт. сл. 5, 151—154 (з літ-рай), які зыходзіць з і.-е. **dhou̯so-*.



**Духавенства** 'духавенства' (БРС). Запазычанне з рус. *духовенство* 'тс', якое ўзята з польск. мовы (*duchowieństwo*). У польск. мове гэта з'яўляецца калькай з ням. *Geistlichkeit* 'тс'. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 216; падрабязна Вінаградаў, Очерки, 32.

**Духваць** 'думаць, меркаваць, спадзявацца' (Сл. паўн.-зах.). Ужо ў ст.-бел. мове было *дуфати, духвати* 'верыць' (гл. Булыка, Запазыч.). Гэта запазычанне з польск. *dufać, duchwać* 'тс' (падрабязна аб польск. слове гл. у Слаўскага, 1, 178).

**Духі** 'духі' (БРС). Запазычанне з рус. *духи* 'тс'. У рус. мове гэта з'яўляецца семантычнай калькай (з канца XVIII ст.) франц. *parfum* 'тс'. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 215.

**Духме́нь** 'духата' (БРС). Па суфіксацыі ідэнтычнае з *духмяны* (гл.), г. зн. утворана суфіксам **-men-* з **duxъ* 'паветра, дух, водар і г. д.'

**Духмяны** 'пахучы, водарны' (БРС, Касп.). Рус. *духменый, духмяный*. Утварэнне суфіксам **-men-* ад **duxъ* 'пах, духмянасць, водар'. Трубачоў (Эт. сл., 5, 151) рэканструюе прасл. дыял. **duxmenъ* 'духмяны'.

**Духоўны** 'духоўны' (БРС). Рус. *духовный*, укр. *духовний*. Непасрэднай крыніцай запазычання з'яўляецца, як здаецца, рус. *духовный* 'тс', якое ўзята са ст.-слав. **доуховьныи** (у ст.-слав. мове гэта калька грэч. πνευματικός 'тс'). Параўн. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 217.

**Дуць** 'дуць, дзьмуць' (Бяльк., Сл. паўн.-зах.). Рус. *дуть*, чэш. *douti*, славен. *dúti*, балг. *дуя се* і г. д. Прасл. **duti* 'дуць і да т. п.' Агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 166. І.-е. **dheu-*: **dhou̯-* (параўн. ст.-інд. *dhūyáte* 'трасецца', літ. *dujà* 'туман, пар' і г. д.). Лічыцца, што ў слав. мовах змешваліся формы **duti* і **dǫti*. Гл. Фасмер, 1, 555—556; Трубачоў, там жа.

**Дучай** 'адтуліна ў верхнім камені жорнаў' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *дучай* 'тс'. Запазычанне з польск. *duczaj* 'тс' (а гэта з італ. *doccia* 'водаправодная труба, жолаб'). Падрабязны агляд форм і семантыкі гл. у Фасмера, 1, 556; вельмі дэталёва Слаўскі, 1, 176. Іначай аб паходжанні польск. слова Брукнер, 102 (лічыць слав. словам; непераканаўча). Параўн. *ду́чка*.

**Ду́чка** 'алавяны ці гліняны шарык для гульні ў дучку' (Касп.). Параўн. рус. *ду́чка* 'ямка, у якую заганяецца шар пры гульні ў дучку'. У бел. мове *ду́чка* 'шарык' < *ду́чка* 'ямка для гульні ў дучку, у якую заганяецца шарык'. Лічыцца ідэнтычным словам з *дучай* (гл.). Гл. Фасмер, 1, 556; Слаўскі, 1, 176.

**Душ** 'душ' (БРС). Рус. *душ*, укр. *душ* 'тс'. Першакрыніцай

з'яўляецца франц. *douche* 'тс' (<італ. *doccia*). Фасмер, 1, 556; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 217—218.

**Душа́** 'душа і да т. п.' (БРС). Рус. *душа́*, укр. *душа́*, польск. *dusza*, чэш. *duše*, серб.-харв. *ду̏ша*, балг. *душа́*, ст.-слав. **доуша**. Прасл. **duša*, вытворнае з суфіксам *-j-* ад **duxъ*. Магчыма, аднак, што было ўжо і.-е. слова **dhousiā* (параўн. літ. *daũsios* 'паветра; рай', мн. л.). Гл. Фасмер, 1, 556; Бернекер, 1, 239; вельмі падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 5, 164.

**Душа́нне** 'бажба'. Гл. *душа́цца*.

**Душа́цца** 'бажыцца, прысягацца' (Нас.), *душа́нне* 'бажба' (Касп.). Відавочна, вытворнае ад *душа́* (першапачаткова 'бажыцца, прысягацца душой').

**Ду́шны** 'душны'. Рус. *ду́шный*, укр. *душни́й*, балг. *ду́шен* і г. д. Прасл. *dušьnъ*, прыметнік да **duxъ* і іншых роднасных слоў гэтага гнязда. Агляд гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 165—166.

**Душы́ць** 'душыць' (БРС). Рус. *души́ть*, укр. *души́ти*, балг. *душа́* 'тс', серб.-харв. *ду̏шити* і г. д. Прасл. **dušiti* (з націскам на другім складзе), каузатыўны дзеяслоў да **dъxnǫti*. Падрабязны агляд матэрыялу і меркаванні аб месцы націску гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 164—165.

**Дуэлі́ст**. Гл. *дуэ́ль*.

**Дуэ́ль** 'дуэль' (БРС). Рус. *дуэ́ль*, укр. *дуе́ль*. Паводле Фасмера, 1, 557 (так і Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 220), з ням. *Duell* (<лац.) або прама з лац. *duellum* 'тс'. *Дуэля́нт* 'дуэлянт' (БРС), відавочна, з рус. *дуэля́нт* 'тс' (якое, паводле Шанскага, там жа, з ням. *Duellant*); *дуэлі́ст* 'тс' (БРС) з рус. *дуэли́ст* 'тс' (а гэта з франц. *duelliste;* гл. Шанскі, там жа).

**Дуэля́нт.** Гл. *дуэ́ль*.

**Дуэт'** 'дуэт' (БРС). Рус. *дуэ́т*, укр. *дуе́т*. Першакрыніцай з'яўляецца італ. *duetto* 'тс'. Запазычанне адбылося, магчыма, праз пасрэдніцтва ням. *Duett* 'тс' (<італ.). Гл. Фасмер, 1, 557.

**Ду́я** 'мяцеліца, завіруха' (Касп.), *ду́йка* 'мяцеліца з ветрам' (Касп.). Рус. смал. *ду́йка* 'тс' (слова вядома таксама на Урале); параўн. рус. смал. *ду́йма* 'тс'. Вельмі няпэўным (параўн. словаўтваральны момант) здаецца тэарэтычна магчымае вывядзенне гэтага слова з **duti* 'дуць, дзьмуць'. Хутчэй гэта (параўн. геаграфію слова) запазычанне з літ. *dujà* 'дробны дождж, туман' (аб літ. слове гл. Фрэнкель, 109).

**Ды** злучнік, часціца. Відавочная, фанетычная па паходжанню варыяцыя злучніка і часціцы *да* (гл.); параўн. Трубачоў,



Эт. сл., 4, 180. Сюды адносяцца і камбінацыі тыпу *дый* (< *ды*+ +*і*), *дык* (< *ды*+*к*).

**Ды́ба** 'прылада катавання' (БРС), 'слуп у студні, на якім вісіць крук для выцягвання вядра з вадой' (Касп.). Да *ды́ба́ць* (гл.).

**Ды́ба́ць** 'чыкільгаць, ісці' (БРС, Нас.), 'павольна ісці' (Касп., Бяльк., Сл. паўн.-зах., Жд. 2). Рус. *ды́ба́ть*, укр. *ди́бати*, польск. *dybać* 'падпільноўваць; падкрадвацца', славац. *dibat'*, серб.-харв. *dibati* 'хістацца, гайдацца' і г. д. Прасл. **dybati* (агляд форм і семантыкі ў Трубачова, Эт. сл., 5, 197—198). У аснове ляжыць тэарэтычная база **dъb-(<*dū-bo-)*, якую параўноўваюць з герм. **tuppa-* 'пучок валасоў, каса'; матывацыю гл. у Трубачова, там жа. Форма **dybati* — ступень падаўжэння. Гл. яшчэ Фасмер 1, 557. Аддзеяслоўным прасл. утварэннем з'яўляецца **dyba* (з рознымі значэннямі; агляд гл. у Трубачова, там жа, 197); сюды адносіцца і бел. *ды́бы* 'хадулі; доўгія ногі', *ды́ба* 'прылада катавання' (БРС), 'слуп у студні, на якім вісіць крук для выцягвання вядра з вадой' (Касп.).

**Ды́біцца** 'тапырыцца, станавіцца дыбам' (БРС). Да сямейства прасл. **dybati, *dyba;* гл. *ды́ба́ць*. Сюды ж і *дыбкі́* (*на дыбкі́*).

**Ды́бы** 'хадулі; доўгія ногі' (БРС). Гл. *ды́ба́ць*.

**Дыва́н**$_1$ 'дыван, пакрывала на ложак' (Сцяшк., Сцяц. Нар., Сл. паўн.-зах., Шатал.), 'дыван' (БРС). Укр. дыял. *дива́н* 'дыван'. Запазычанне з польск. *dywan* 'тс'. У польск. мове гэта значэнне тыпова польскае (Слаўскі, 1, 187), таму і можна меркаваць аб запазычанні іменна з польск. мовы. Выходным для гэтай групы слоў з'яўляецца тур. *divan* 'двор, рада, сход' (<перс. *dīvān;* гл. Локач, 42). У польск. мове 'дыван' < <'пакой, засланы дыванамі' (Слаўскі, там жа, са спасылкай на Карловіча, Wyr. obce, 141). Рус. *дива́н* 'канапа', чэш. *divan* 'нізкая канапа' маюць некалькі іншую семантыку. Рус. слова, паводле Фасмера (1, 512—513) і Шанскага (1, Д, Е, Ж, 113), запазычана непасрэдна з франц. *divan* 'тс' (<араб. < <тур.-перс.). Гл. яшчэ Кюнэ, Poln., 52.

**Дыва́н**$_2$ 'мяккая мэбля на спружынах' (Сцяшк.). Зыходзячы са значэння (параўн. *дыва́н*$_1$), трэба лічыць гэта слова запазычаннем адносна новага часу з рус. *дива́н* 'канапа' (аб рус. слове гл. пад *дыва́н*$_1$).

**Дыва́н**$_3$ 'дыван, дзяржаўная рада ў Турцыі; месца пасяджэнняў; збор арыентальных твораў' (ТСБМ). Рус. *дива́н*, польск. *dywan*, чэш. *divan*, балг. *дива́н* і г. д. Выходным з'яўляецца

тур.-перс. *divan (dīvān)*. Па паходжанню гэта слова ідэнтычнае з *дывáн*₁ (гл. там падрабязна аб гісторыі лексемы). Гл. яшчэ Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 112-113.

**Дывано́вы**, прыметнік ад *дывáн*₁ (БРС). Паколькі само слова *дывáн*₁ запазычана з польск. мовы, то можна меркаваць, што і прыметнік *дывано́вы*, які дакладна адпавядае па значэнню і націску польск. *dywanowy*, таксама запазычанне.

**Дыверсáнт** 'дыверсант' (БРС). Рус. *диверсáнт*, укр. *диверсáнт*. З ням. *Diversant* 'тс' (да *Diversion* 'дыверсія'). Таксама з ням. *Diversion* запазычаны бел. *дывéрсія*, рус. *дивéрсия*, укр. *дивéрсія* (магчыма, праз польск. *dywersja*). Гл. Фасмер, 1, 513; падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 114.

**Дывíзія** 'дывізія' (БРС). Рус. *дивúзия*, укр. *дивíзія*. Запазычанне з польск. *dywizja* 'тс' (а гэта з лац. *divisio* 'дзяленне'). Гл. Фасмер, 1, 513; падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 115.

**Дыгáты**, *ды́гусь* 'цыбаты' (Сцяц.). Гл. *ды́гусь*.

**Ды́гаць** 'моцна біцца (пра сэрца)' (Сцяц.). Выбухное *г* сведчыць пра запазычанне. Параўн. польск. *dygać* 'трасціся' (аб польск. слове гл. Слаўскі, 1, 185; дзіўна, што Слаўскі, там жа, бел. *ды́гаць* ставіць у адзін рад з польск. словам і не ставіць нават пытання аб магчымасці запазычання). Калі праўда, як мяркуе Слаўскі (там жа), што ў аснове дзеяслова ляжыць выклічнік тыпу *dygu!, dyk!*, можна думаць і пра самастойнасць бел. лексемы (*ды́гаць* < **дыкаць* з азванчэннем інтэрвакальнага *-к-* > *-г-*). У Насовіча *ды́гаць* 'прысядаць, рабіць рэверанс; павольна, нібы прысядаючы, ісці'. Трубачоў (Эт. сл., 5, 198) дапускае магчымасць запазычання з польск., але і роднаснасць з іншымі слав. формамі (прасл. **dygati*). Параўн. яшчэ Фасмер, 1, 557.

**Дыгля** 'высокая, худая жанчына' (Жд. 2). Няясна. Можа, з **ды́хля* (параўн. у Шат. *дыхля́к* 'слабасільны чалавек').

**Ды́гусь** 'цыбаты, з доўгімі нагамі', таксама *дыгáты* (Сцяц., Сл. паўн.-зах.: 'высокі'). Запазычанне з польск. дыял. *dyguś, dygaty* 'тс' (а гэта да польск. *dygać*, аб якім Слаўскі, 1, 185).

**Ды́далем** 'прахам' (*«Хай яно ды́далем пойдзе!»*, Шат.), *ды́далам* 'у беспарадку' (Сл. паўн.-зах.). Няясна.

**Дызентэ́рыя** 'дызентэрыя' (БРС). Рус. *дизентерúя*, укр. *дизентерíя*. Запазычанне з ням. *Dysenterie* (а гэта з вучонай латыні < грэч.). Падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 118.

**Ды́кта** 'фанера' (Сцяц.). Запазычанне з польск. *dykta* 'тс' (паходжанне польск. слова няяснае; няма ў Слаўскага і Брукнера). Слова сустракаецца таксама ў форме *ды́хта* (Шат., Сцяшк.), *дыхт* (Сцяшк.). Параўн. польск. *dychtować, dyktować* (< ням. *dichten, dicht* 'шчыльны'; гл. Брукнер, 106), ст.-бел. *дыфтоване* (XVII ст.) 'ушчыльненне' (Булыка, Запазыч., 104: < < польск. *dychtowanie* < ням. *dichten*).



**Дыктавáць** 'дыктаваць' (БРС). Рус. *диктовáть*, укр. *диктувáти*. Ужо ў ст.-бел. было *дыктовати, диктовати* (з XVII ст.), якое Булыка (Запазыч., 103) лічыць запазычаннем з польск. *dyktować* (< ням. *diktieren*). Рус. *диктовáть*, паводле Фасмера (1, 514), з ням. *diktieren* або франц. *dicter* (< лац. *dictāre*). Шанскі (1, Д, Е, Ж, 120) для рус. слова бачыць непасрэдную крыніцу ў польск. *dyktować* (< франц. або лац.).

**Дыктáтар** 'дыктатар' (БРС). Ст.-бел. *диктаторъ* 'тс' (вядомае з XVII ст.) Булыка (Запазыч., 96) лічыць непасрэдным запазычаннем з лац. *dictator*. Невядома, ці сучаснае бел. слова працягвае ст.-бел. традыцыю. Рус. *диктáтор* Шанскі (1, Д, Е, Ж, 119) лічыць запазычаннем са ст.-слав. **диктаторъ** (з XII ст.); няпэўна.

**Дыктату́ра** 'дыктатура' (БРС). Рус. *диктату́ра*, укр. *диктату́ра*. Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 119—120), з ням. або франц. моў (з сярэдзіны XIX ст.): ням. *Diktatur* (< франц.), франц. *dictature* 'тс'.

**Дыл**, *дыло́к* 'самая мяккая мука пры сеянні, парашок'. Паводле Трубачова (Эт. сл., 5, 200—201), як і рус. *дыл* 'пыл, якое-н. расцёртае ў парашок рэчыва', *дыль* 'мучное, хлебнае, крухмальнае рэчыва ў збожжы', роднаснае літ. *dūlis* 'туман, пара', *dùlkė* 'пылінка': да і.-е. **dhū-l-* (Трубачоў, там жа, не згаджаецца з тлумачэннем Абаева: параўнанне з асец. формамі).

**Ды́лда** 'высокі, непаваротлівы, нязграбны чалавек', засведчана ў Вілен., Ковен., Гродз. Мін. губ. (Нас.), 'высокі, сутулаваты' (Шат.), 'даўгавязы чалавек' (Бяльк.), 'высокі худы чалавек' (Касп.); гл. і Сл. паўн.-зах.; рус. *ды́лда* 'тс', таксама 'жардзіна'. Лаўчутэ (Лекс. балтызмы, 19) этымалогіі рус. слова (бел. матэрыял ніхто раней не прыводзіў) лічыць непераканаўчымі і мяркуе, што гэта запазычанне з балт. моў; параўн. літ. *dìlda* 'непаваротлівы, неправорны чалавек', лат. *dilda* 'дылда' (Лаўчутэ, там жа, 19—20). Гл. яшчэ агляд версій у Фасмера, 1, 558.

**Дылетáнт** 'дылетант' (БРС). Рус. *дилетáнт*, укр. *дилетáнт*. Для рус. крыніцай запазычання з'яўляецца ням. *Dilettant* або франц. *dilettant* 'тс' (першакрыніца — італ. *dilettante* 'аматар'); так Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 121. Фасмер (1, 514)

выводзіў рус. слова з ням. (<італ.) або прама з італ. Для бел. непасрэднай крыніцай трэба лічыць рус. слова.

**Дыле́ць** 'імжаць' (Жд. 1). Няясна. Магчыма, звязана з *дыл, дыло́к* (гл.) 'мяккая мука, парашок'. Тады тут метафара ('дробны парашок, мука' > 'дробны дождж' > 'імжаць').

**Дылёўка** 'тоўстая дошка'. Гл. *дыля*.

**Ды́лі** 'калі' (Касп.). Няясна.

**Дыліжа́нс** 'дыліжанс' (БРС). Праз рус. *дилижа́нс* 'тс' з франц. *diligence* 'тс' (<*voiture de diligence*). Гл. Фасмер, 1, 514—515; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 121.

**Ды́ля** 'адна з дзвюх рам варштата' (Сцяц.), 'тоўстая дошка' (БРС, Шат., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.; Шатал.: *дыль*). Запазычанне з польск. *dyl* 'бэлька, брус; распіленае ўздоўж бервяно; тоўстая дошка'. Параўн. ст.-бел. *дыль, дылъ* 'тоўстая дошка' (з XVI ст., Булыка, Запазыч., 103). Польск. слова з ням. *Diele* (параўн. Слаўскі, 1, 185). Вытворныя: ст.-бел. *дилеванье, дылеванье, дылованье, дылеваный, одылеваный* (Булыка, там жа), бел. *дылёўка* 'тоўстая дошка' (гэта апошняе ці не з польск.?; параўн. польск. *dylować, dylowanie*).

**Дым** 'дым'. Рус. *дым,* укр. *дим,* польск. *dym,* серб.-харв. *ди̂м,* балг. *дим,* ст.-сл. **дымъ**. Прасл. **dymъ*. Роднасныя: літ. *dū̃mai,* лац. *fūmus,* ст.-інд. *dhūmá-s* 'дым', ст.-грэч. θυμός 'дух (бодры)'. Агляд форм у Фасмера, 1, 558; падрабязна Трубачоў, Эт. сл., 5, 203 (з літ-рай). Прасл. характар мае бел. *дымі́ць* (гл. Трубачоў, там жа, 202: пад **dymiti*), але бел. *дыме́ць,* здаецца, лакальнае ўтварэнне.

**Ды́мба** 'высокі, нязграбны чалавек' (Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з літ. *dìmba* 'хто высокі' (так Сл. паўн.-зах.).

**Ды́мніца,** назва расліны (БРС) = рус. *дымя́нка;* таксама 'курная хата' (Касп.), 'дымаход, ляжак' (Бяльк.). Утварэнне прасл. характару суфіксам *-*ica* ад прыметніка **dymьnъ* (**dymьnica;* агляд форм і семантыкі ў слав. мовах гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 203—204).

**Дынамі́т** 'дынаміт' (БРС). Рус. *динами́т,* укр. *динамі́т.* Назва, якую прыдумаў вынаходнік дынаміту Нобель на аснове грэч. δύναμις 'сіла' і якая зрабілася міжнароднай. Параўн. ням. *Dynamit,* франц. *dynamite.* Гл. Фасмер, 1, 515 (дадатак Трубачова); Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 122.

**Ды́нда** 'гультай' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *dìnda* 'тс'. Параўн. *ды́ндаць* 'хадзіць без справы', якое ўзята з літ. *dìnduoti* (Сл. паўн.-зах.).



**Ды́ні** 'пахвіны' (Сл. паўн.-зах.). Гэту лексему можна лічыць рэліктам на бел. глебе прасл. **dymę* (р. скл. **dymene*). Параўн. у Трубачова, Эт. сл., 5, 202 (без бел. матэрыялу): чэш. *dymě* 'пах', в.-луж. *dymjo,* польск. *dymię,* серб.-харв. *dimje,* ст.-рус. *дымѣ*. У бел. мове ўзнікла новая форма — **dyn'a* (магчыма, з **dym'a* > **dymja* > **dymn'a* > **dyn'a*).

**Ды́ня** 'дыня' (БРС). Слова, вядомае ў многіх слав. мовах: рус. *ды́ня,* укр. *ди́ня,* польск. *dynia,* чэш. *dýně,* серб.-харв. *ди̏ња* і г. д. Паходжанне слова не вельмі яснае. Ёсць версія аб сувязі з дзеясловам *дуць* (першаснае значэнне 'надутая'). Іншыя думаюць аб запазычанні з розных моў, што таксама не вельмі надзейна (дакладнага праматыпа няма). Агляд шматлікіх версій гл. у Фасмера, 1, 559.

**Дыплама́т** 'дыпламат' (БРС). Рус. *диплома́т,* укр. *диплома́т.* Паводле Фасмера (1, 515), запазычанне з ням. *Diplomat,* франц. *diplomate* або польск. *dyplomata* (параўн. рус. старое *дипломата*). Шанскі (1, Д, Е, Ж, 125) лічыць, што крыніцай запазычання з'яўляецца франц. *diplomate.* Таксама з франц. (магчыма, праз ням. *Diplomatie*) запазычаны бел. *дыплама́тыя,* рус. *диплома́тия,* укр. *диплома́тія* (франц. *diplomatie*). Шанскі, там жа, 126.

**Дыпло́м** 'дыплом' (БРС). Рус. *дипло́м,* укр. *дипло́м.* Бел. і ўкр., відаць, з рус. *дипло́м* (дзе слова ўзята з франц. *diplôme;* гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 124—125; на ням. або франц. крыніцу ўказвае Фасмер, 1, 515).

**Дырван,** *дирван* 'аблога'. У такой форме гэта слова (запазычанае з літ. мовы) сустракаецца ў ст.-бел. помніках з XVI ст. Няпэўным, аднак, здаецца вывядзенне яго непасрэдна з літ. Крыніцай можа быць і польск. *dyrwan* (<літ.).

**Дырва́н** 'аблога'. (Гарб.) Гл. *дзірва́н*.

**Ды́рда** 'дзяўчынка-гарэза, якая выйшла з дзіцячага ўзросту і бегае ў кароткай кашулі', 'чалавек высокага росту і асабліва той, хто мае доўгія ногі', *ды́рдас* 'хлопчык-гарэза, які выйшаў з дзіцячага ўзросту і бегае ў кароткай кашулі' (Нас.). Паводле Лаўчутэ (Лекс. балтызмы, 19), гэтыя два словы ў даных значэннях зафіксаваны толькі ў бел. мове і на слав. глебе не этымалагізуюцца. Лаўчутэ мяркуе, што крыніцай гэтых лексем былі літ. **dirda,* **dirdas* (параўн. літ. *dirdinė́ti* 'сланяцца, бяздзейнічаць'). Ад *ды́рда,* відавочна, утвораны дзеяслоў *ды́рдзіцца* 'выцягваць ногі пры смерці' (Касп.). Параўн. яшчэ вельмі няпэўныя меркаванні ў Сл. паўн.-зах. (пад *ды́рда*). Няпэўна таксама Трубачоў (Эт. сл., 5, 201) звязвае *ды́рда* з *ды́лда*.

**Дырдас.** Гл. *дырда.*

**Дырса** 'расліна каласоўнік, Bromus secalinus L.' Варыянтная форма да *гірса* (гл.), якая запазычана з літ. *dirsė* (Непакупны, Лекс. балтызмы, 30). Але лінгвагеаграфічная праблематыка тут даволі складаная, таму што ў суседніх літ. гаворках Дзукіі пашыран іменна варыянт *girsa, girsė* (Непакупны, там жа). Параўн. *гірса* (гл.). Аб літ. слове гл. Фрэнкель, 1, 96 (пад *dirsa*, якое і трэба разглядаць як крыніцу для бел. *дырса*, польск. *dyrsa*).

**Дырыжабль** 'дырыжабль' (БРС). Рус. *дирижабль*, укр. *дирижабль.* Запазычанне (праз рус. мову) з франц. *dirigeable* 'тс'. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 127.

**Дырыжор** 'дырыжор' (БРС). Запазычанне з рус. *дирижер* 'тс' (у рус. мове гэта новаўтварэнне з пачатку XIX ст. ад дзеяслова *дирижировать*). Фасмер, 1, 515; падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 127—128. Таксама, відаць, узята з рус. *дирижировать* (< франц. *diriger* 'тс') і бел. *дырыжыраваць* 'тс'.

**Дырэктар** 'дырэктар' (БРС). Рус. *директор*, укр. *директор.* Лічыцца ў рус. мове запазычаннем з ням. *Direktor* або польск. *dyrektor* (першакрыніца — лац. *director*). Фасмер, 1, 515; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 127. У бел. мову, магчыма, прыйшло з рус. Ст.-бел. *директоръ* 'духоўны настаўнік' вядома з XVI ст. (Булыка, Запазыч.) < польск.; яно не звязана традыцыяй з *дырэктар* у сучасным значэнні. Бел. *дырэкцыя*, рус. *дирекция*, укр. *дирекція* запазычаны з польск. мовы (*dyrekcja;* параўн. і Булыка, Запазыч.), але ў сучасным значэнні слова, відаць, узята з рус. Параўн. Фасмер, 1, 515; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 127.

**Дысертацыя** 'дысертацыя' (БРС). Рус. *диссертация*, укр. *дисертація.* Запазычанне з рус., дзе гэта лексема ўзята з польск. *dysertacja* або ням. *Dissertation* (першакрыніца — лац. *dissertatio* 'даследаванне'). Гл. Фасмер, 1, 516; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 134. З рус. мовы запазычаны і бел. *дысертант*, укр. *дисертант* (< рус. *диссертант;* гэта новаўтварэнне да *диссертация;* адзначаецца з 1927 г.). Гл. Шанскі, там жа, 134.

**Дыск** 'дыск' (БРС). Рус. *диск*, укр. *диск.* Запазычанне з франц. *disque* 'тс' (< лац. *discus* < грэч.). Гл. Фасмер, 1, 515; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 128.

**Дыскусія** 'дыскусія' (БРС). Рус. *дискуссия*, укр. *дискусія.* Лічыцца запазычаннем з франц. *discussion* 'абмеркаванне, дыскусія' (< лац.). Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 131. Але бел. *дыскуціраваць* узята прама з рус. *дискутировать* (< ням. *diskutieren* < < лац.); Шанскі, там жа.



**Дыспаноўка** 'распараджэнне' (Нас.). Кюнэ (Poln., 52) звязвае гэта слова з польск. *dysponować, dysponowanie* (< лац.). Параўн. яшчэ ст.-бел. *диспоновати* 'распараджацца, прычашчаць' (з XVII ст., Булыка, Запазыч., 97) < лац. *disponere.*

**Дыспансер** 'дыспансер' (БРС). Рус. *диспансер*, укр. *диспансер.* Запазычанне з франц. *dispensaire* 'тс' (< англ. *dispensary* 'аптэка, амбулаторыя'). Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 132.

**Дыспетчар** 'дыспетчар' (БРС). Праз рус. *диспетчер* з англ. *dispatcher* 'тс'. Падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 133.

**Дыспут** 'дыспут' (БРС). З рус. *диспут* 'тс' < польск. *dysput* 'спрэчка' (< лац.). Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 133—134; параўн. таксама Фасмер, 1, 516. Вядомае ў дыялектах *дыспут* 'спрэчка' (Нас., Касп.) запазычана прама з польск. *dysput.*

**Дысцыпліна** 'дысцыпліна' (БРС). У сучасным значэнні, відаць, з рус. *дисциплина* 'тс' (< польск. *dyscyplina* < лац.). Фасмер, 1, 516; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 137. Ст.-бел. *дисциплина, дысцыплина* 'дысцыпліна; бізун' (Булыка, Запазыч.) і дыял. *дысцыпліна* 'строгае выхаванне' (Сл. паўн.-зах.) запазычаны прама з польск. *dyscyplina.*

**Дытка** 'пабочны заработак' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне (параўн. польск. *dytek* 'старажытная манета, роўная шасці грошам').

**Дыхавіца** 'дыхавіца (у людзей, коней)' (БРС, Нас., Касп., Шат., Сцяшк.). Паходзіць з прасл. **dyxavica* 'тс' (ад дзеяслова **dyxati*): ст.-рус. *дыхавица*, укр. *дихавиця*, польск. *dychawica*, чэш. *dýchavice*, серб.-харв. *дйхавица* і г. д. Агляд форм гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 199—200.

**Дыхаць** 'дыхаць' (БРС, Нас., Касп., Шат.). Роднасныя формы: рус. дыял. *дыхать*, укр. *дихати*, польск. *dychać*, чэш. *dychati*, балг. *дихам, дйхам*, ст.-слав. **дыхати**, прасл. **dyxati* 'тс'; агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 199. Параўн. літ. *dūsėti*, лат. *dusêt.* Роднасныя слав. формы (з аблаўтам): **dъxnǫti*, **duxъ*, **duša*, **duxnǫti* і г. д.

**Дыхля** 'дрыгва, зыбкае балота' (Яшкін). Утварэнне (з дзеепрыметнікавым фармантам *-л-*) *ад дыхаць* (балота нібы дыхае).

**Дыхляк** 'слабасільны чалавек' (Шат.). З *дахляк* (да *дохлы*).

**Дыхт,** *дыхта* 'фанера'. Гл. *дыкта.*

**Дыхтоўны** 'моцны (пра матэрыял)' (Нас.), *дыхтоўны* (БРС). Паводле Кюнэ (Poln., 52), запазычанне з польск. *dychtowy* 'тс' (< ням. *dicht*). Параўн. Брукнер, 106. Гл. яшчэ *дыхта, дыкта.*

**Дыхце́ць**$_1$ 'пахнуць' (БРС, Сл. паўн.-зах.), 'смярдзець' (Сл. паўн.-зах.). Паходзіць з прасл. **dyxъtěti* (дзеяслоў з экспрэсіўнай суфіксацыяй *-ъtěti*, роднасны **dyxati* 'дыхаць'). Параўн. укр. *дихті́ти*, чэш. *dychtěti*, балг. *дихтя́* (агляд форм у Трубачова, Эт. сл., 5, 200).

**Дыхце́ць**$_2$ 'уздувацца; няшчыльна прылягаць' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. мяркуе, што гэта запазычанне з літ. *diktěti* 'набракаць, набрыньваць'.

**Ды́шаль** 'дышаль' (БРС, Касп., Шат., Сцяшк.), *ды́шла* 'тс' (Бяльк.). Форма *ды́шаль* (як і ўкр. *ди́шель*) — прамое запазычанне з польск. *dyszel* 'тс' (гл. Слаўскі, 1, 187). Форма *ды́шла* (як і рус. ды́шло) — гэта пераафармленне запазычанага слова па тыпу назоўнікаў на *-о-* (аб гэтым Фасмер, 1, 560; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 225). Польск. слова ўзята з с.-н.-ням. *dysel, disle, dissel* (параўн. Бернекер, 250).

**Дыэ́та** 'дыета' (БРС). Рус. *диета*, укр. *дієта*. Запазычанне, відаць, праз рус. мову з ням. *Diät* (< лац.). Параўн. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 117. Але бел. *дыёта* 'тс' (Насовіч адзначае: «слово употребляется шляхтой и мещанами»), магчыма, узята прама з польск. *dieta* 'тс'.

**Дыя́вал** 'д'ябал' (Нас.). Рус. *дья́вол*, укр. *дия́вол, дія́вол*. Усх.-слав. лексемы запазычаны праз ц.-слав. мову прама з грэч. διάβολος 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 560; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 225—226. Параўн. *д'я́бал*.

**Дыя́кан** 'дыякан' (Нас.). Рус. *дья́кон*, укр. *дия́кон*. Запазычанне праз ц.-слав. *диꙗконъ* з грэч. διάκονος 'тс'. Гл. Фасмер, 1, 560; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 226.

**Дыяло́г** 'дыялог' (БРС). Рус. *диало́г*, укр. *діало́г*. Запазычанне праз рус. мову з франц. *dialogue* (< лац. < грэч.). Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 109—110. Фасмер (1, 512) дапускае магчымасць запазычання ў рус. мове і з ням. *Dialog* (< лац. < < грэч.).

**Дыя́мент** 'дыямент' (Нас., Касп.), *дыяме́нт* 'тс' (БРС). Кюнэ (Poln., 52) мяркуе, што націск і фанетыка слова ўказваюць на запазычанне з польск. *diament* (< лац. *diamantum*, с.-лац. *diamentum*). Адносна польск. слова гл. Брукнер, 89. З польск. мовы запазычана і бел. *дыяме́нт* 'тс' (БРС): націск тут з ускосных склонаў (польск. *diáment*, але *diaméntu*). У ст.-бел. мове слова вядома з XVI ст. у формах *диаментъ, дияментъ, дыяментъ* (гл. Булыка, Запазыч., 95). Параўн. *дыяме́нтавы* (гл.).

**Дыяме́нтавы** 'дыяментавы, алмазны' (БРС). Слова гэта



зафіксавана ў ст.-бел. мове: *диаментовый* 'тс' (гл. Булыка, Запазыч., 95). Як і *дыя́мент, дыяме́нт* таксама запазычаны з польск. мовы (польск. *diamentowy*).

**Дэба́ты** 'дэбаты' (БРС). Рус. *деба́ты*, укр. *деба́ти* 'тс'. У рус. мове запазычанне з англ. мовы (англ. *debate*). Бел. і ўкр. словы, відаць, узяты непасрэдна з рус. Падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 33. Дзеяслоў *дэбатава́ць*, укр. *дебатува́ти* < < рус. *дебати́ровать* (< ням. *debattieren*; магчыма і франц. крыніца; Шанскі, там жа, 32).

**Дэ́баць** 'ісці, дыбаць' (Сцяц., Бяльк.). Дыялектная форма (змена *ы* > *э*) дзеяслова *ды́баць* (гл.).

**Дэбо́ш** 'дэбош' (БРС). Рус. *дебо́ш*, укр. *дебо́ш*. Для ўсх.-слав. моў крыніцай з'яўляецца рус. *дебо́ш*, запазычанае з франц. *débauche* (Фасмер, 1, 490; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 34—35). Бел. *дэбашы́р*, укр. *дебоши́р* < рус. *дебоши́р* (а гэта з франц. *débaucheur*).

**Дэбю́т** 'дэбют' (БРС). Рус. *дебю́т*, укр. *дебю́т*. Першакрыніцай запазычання з'яўляецца франц. *début* 'тс' (ад дзеяслова *débuter* 'выступаць, пачынаць, рабіць першы крок'; адсюль і франц. *débutant* 'дэбютант' > рус. *дебюта́нт* > бел. *дэбюта́нт*, укр. *дебюта́нт*). Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 35—36; Фасмер, 1, 490. Рус. *дебюти́ровать*, бел. *дэбютава́ць*, укр. *дебютува́ти* адлюстроўваюць франц. *débuter*, ням. *debütieren* (< франц.). Гл. Фасмер, 1, 491.

**Дэві́з** 'дэвіз' (БРС). Рус. *деви́з*, укр. *деві́з*. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *devise* 'тс'. Фасмер, 1, 492; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 37—38 (з падрабязнай гісторыяй слова).

**Дэ́гель** 'птушка з доўгімі нагамі' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., звязана з літ. *dẽglas* 'стракаты, пярэсты', *dẽglis* 'той, хто плямісты'.

**Дэграда́цыя** 'дэградацыя' (БРС). Рус. *деграда́ция*, укр. *деграда́ція*. У сучасным значэнні слова ўжываецца з XX ст. Раней яно азначала 'паніжэнне ў пасадзе' (параўн. ст.-бел. *декградовати*; гл. Булыка, Запазыч.: < польск. *degradować* < < франц. *dégrader*). Непасрэднай крыніцай з'яўляецца польск. *degradacja* < лац. *degradatio*. Падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 42—43.

**Дэгуста́цыя** 'дэгустацыя' (БРС). Відаць, з рус. *дегуста́ция* 'тс' (< франц. *dégustation* < *déguster* 'дэгуставаць'). *Дэгуста́тар* 'дэгустатар' < рус. *дегуста́тор* 'тс' (а гэта запазычанне ў канцы XIX ст. з франц. *dégustateur*). Падрабязна Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 43.

**Дэду́кцыя** 'дэдукцыя' (БРС). Рус. *деду́кция*, укр. *деду́кція*. Здаецца, запазычанне з польск. *dedukcja* (<лац. *deductio*). Параўн. Шанскі, I, Д, Е, Ж, 45.

**Дэзерці́р** 'дэзерцір' (БРС). Рус. *дезерти́р*, укр. *дезерти́р*. Першакрыніцай з'яўляецца франц. *déserteur*, якое, магчыма, пры пасрэдніцтве ням. *Deserteur* было запазычана рус. мовай ужо ў XVII ст. Таксама з франц. *déserter* (пры пасрэдніцтве ням. *desertieren*) узяты бел. *дэзерці́раваць*, рус. *дезерти́ровать*, укр. *дезерти́рувати*.

**Дэзінфе́кцыя** 'дэзінфекцыя' (БРС). Рус. *дезинфе́кция*, укр. *дезинфе́кція*. З ням. *Desinfektion* 'тс' (падрабязна Шанскі, I, Д, Е, Ж, 48).

**Дэ́ка**, *дэ́ко* 'дэкаграм' (Сцяц.). Запазычанне з польск. *deka* 'тс' (а гэта размоўная форма, скарачэнне з *dekagram* 'тс').

**Дэка́да** 'дэкада' (БРС). Рус. *дека́да*, укр. *дека́да*. Запазычанне з франц. *décade* 'тс' (<лац.<грэч.). Падрабязна Шанскі, I, Д, Е, Ж, 53.

**Дэкада́нс** 'дэкаданс' (БРС). Як і *дэкадэ́нт* 'дэкадэнт' (БРС), запазычанне (у XIX ст., як і рус. *декада́нс, декаде́нт*, укр. *декада́нс, декаде́нт*) з франц. *décadente, décadence*. Падрабязна Шанскі, I, Д, Е, Ж, 53—54 (з літ-рай).

**Дэкальтэ́** 'дэкальтэ' (БРС). Рус. *декольте́*, укр. *декольте*. Запазычанне ў XIX ст. з франц. мовы (*décolleté* 'дэкальтаваны'). Параўн. Фасмер, I, 495; Шанскі, I, Д, Е, Ж, 57.

**Дэка́н** 'дэкан' (БРС). Рус. *дека́н*, укр. *дека́н*. У значэнні 'дэкан факультэта' запазычанне з ням. *Dekan* <лац. *decānus* (Фасмер, I, 495; Шанскі, I, Д, Е, Ж, 54). Ст.-бел. *деканъ, дяканъ* 'старшы свяшчэннік' <ням. *Dekan* <лац. *decānus* (Булыка, Запазыч.; у гэтым значэнні ў XVI ст. сустракаецца і ў рус. помніках, гл. Шанскі, там жа). *Дэкана́т*, рус. *декана́т*, укр. *декана́т* <ням. *Dekanat* (с.-лац. *decanātus;* гл. Шанскі, I, Д, Е, Ж, 54).

**Дэкара́цыя** 'дэкарацыя' (БРС). Рус. *декора́ция*, укр. *декора́ція*. З франц. *décoration* (Шанскі, I, Д, Е, Ж, 57—58). Сучаснае значэнне слова развілося прыкладна ў 40-х гадах XIX ст. (Шанскі, там жа).

**Дэ́кі** 'саматканыя коўдры' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. параўноўвае з ням. *Decken* 'тс'. Хутчэй запазычанне з польск. *deka* 'тс' (<ням.; аб польск. слове Брукнер, 87). Параўн. і ст.-бел. *дека* 'папона' (з XVI ст., Булыка, Запазыч.).

**Дэкламава́ць** 'дэкламаваць' (БРС). Рус. *деклами́ровать*, укр. *декламува́ти*. Першакрыніцай з'яўляецца лац. *declamāre;* у рус. мове запазычанне з ням *deklamieren* (<лац.). Бел. і ўкр., *відаць*, з польск. *deklamować* (<лац.).

**Дэклараваа́ць** 'дэклараваць' (БРС). Запазычанне з рус. *деклари́ровать* (аб рус. слове падрабязна гл. Шанскі, I, Д, Е, Ж, 56: <ням. *deklarieren* <лац. *declarāre*). Параўн. бел. *дакляравáць* (гл.), якое з'яўляецца запазычаннем з польск. *deklarowác* (<лац.).

**Дэклара́цыя** 'дэкларацыя' (БРС). Укр. *деклара́ція*. Відаць, запазычанне адносна новага часу з рус. *деклара́ция* 'тс' (<польск. *deklaracja* <лац.; аб рус. слове падрабязна Шанскі, I, Д, Е, Ж, 55—56). Старым запазычаннем у бел. мове з польск. з'яўляецца *дакляра́цыя* (гл.).

**Дэкрэ́т** 'дэкрэт' (БРС). Ст.-бел. *декретъ* 'вызначэнне' (з XV ст., Булыка, Запазыч.). У значэнні 'дэкрэт', магчыма, з рус. *декре́т* (<ням. *Dekret* <лац. *dēcrētum;* Фасмер, I, 495; Шанскі, I, Д, Е, Ж, 58). Але не выключаецца, што бел. і ўкр. словы ўзяты з польск. *dekret* (<лац.). Параўн. націск у Бярынды: *де́крет*, але *декре́ту* (што ўказвае на бясспрэчны паланізм).

**Дэлега́цыя** 'дэлегацыя' (БРС), *дэлега́т* (БРС), ст.-бел. *делегатъ* (XVIII ст., Булыка, Запазыч.). Рус. *делега́ция, делега́т*, укр. *делега́ція, делега́т*. Запазычанне з польск. *delegacja, delegat* (<лац. *delegatio, delegatus*). Фасмер, I, 496; Шанскі, I, Д, Е, Ж, 59.

**Дэльфі́н** 'дэльфін' (БРС). Рус. *дельфи́н*, укр. *дельфі́н*. У ст.-бел. мове слова *делфинъ* вядома з XVII ст., але *дэльфін* хутчэй новае запазычанне, магчыма, як і рус. *дельфи́н*, з ням. *Delphin* <лац.<грэч. Гл. Фасмер, I, 497; Шанскі, I, Д, Е, Ж, 63. Ст.-бел. *делфинъ*, здаецца, паланізм (так Булыка, Запазыч.).

**Дэмабіліза́цыя** 'дэмабілізацыя' (БРС). Рус. *демобилиза́ция*, укр. *демобіліза́ція*. Запазычанне з франц. *démobilisation* 'тс'. Шанскі, I, Д, Е, Ж, 65.

**Дэмакра́тыя** 'дэмакратыя' (БРС). Рус. *демокра́тия*, укр. *демокра́тія*. Лічыцца запазычаннем з франц. *démocratie* або ням. *Demokratie* (<лац.<грэч.). Гл. Фасмер, I, 498; Шанскі, I, Д, Е, Ж, 67. Але націск лепш тлумачыць польск. уплывам (параўн. польск. *demokracja*).

**Дэ́ман** 'дэман' (БРС). Рус. *де́мон*, укр. *де́мон*. Кніжнае запазычанне са ст.-слав., ц.-слав. **демонъ, дѣмонъ** 'тс' (а гэта

з грэч. δαίμων 'злы дух, д'ябал'). Гл. Фасмер, 1, 498; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 67.

**Дэманстра́цыя** 'дэманстрацыя' (БРС). Рус. *демонстра́ция,* укр. *демонстра́ція.* Лічыцца запазычаннем з польск. *demonstracja* (<лац. *demonstratio*). У рус. мове вядома ўжо ў Пятроўскую эпоху са значэннем 'доказ'. Фасмер, 1, 498; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 68.

**Дэ́ндзі** 'дэндзі' (БРС). Рус. *де́нди,* укр. *де́нді.* У бел. мове, магчыма, з рус. Першакрыніцай з'яўляецца англ. *dandy* 'тс'. У рус. мове вядома ўжо ў першай палавіне XIX ст. Фасмер, 1, 498; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 70.

**Дэ́нка** 'дошка, на якой рэжуць сала' (Сцяшк.), *дэ́нко* 'круглая драўляная накрыўка да бочкі' (Сцяшк.). Як можна меркаваць, маючы на ўвазе гук *э* (замест *о;* зыходная форма **dъnъko;* параўн. Брукнер, 91), гэта запазычанне з польск. *denko* (памяншальная форма ад *dno* <прасл. **dъno*). Параўн. яшчэ *дэ́нак, дэ́нка, дэ́нко, дэ́нца* 'дошчачка, на якой рэжуць што-н.' (Сл. паўн.-зах.; <польск.), *дэ́нца* (Шатал.), *дэ́нка* 'падстаўка пад патэльню' (Жд. 2).

**Дэ́нко** 'круглая драўляная накрыўка да бочкі' (Сцяшк.). Гл. *дэ́нка.*

**Дэ́нтка** 'камера веласіпеда' (Сцяц., Сцяшк., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *dętka* 'тс' (утварэнне суфіксам *-к(а)* ад *dęty* 'дуты, надуты').

**Дэ́нца** 'драўляная дошчачка, на якой крышаць сала, цыбулю' (Шатал.). Гл. *дэ́нка.*

**Дэпе́ша** 'дэпеша' (БРС). Рус. *депе́ша,* укр. *депе́ша.* Запазычанне з ням. *Depesche* 'тс' (<франц.) або прама з франц. *dépêche* 'тс' (аб гісторыі франц. слова гл. у Фасмера, 1, 499; гл. яшчэ Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 73).

**Дэпо́** 'дэпо' (БРС). Рус. *депо́,* укр. *депо́.* Запазычанне з франц. *dépôt* 'склад' (<лац. *depositum*). Гл. Фасмер, 1, 499; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 74.

**Дэпута́т** 'дэпутат' (БРС). Ст.-бел. (з XVI ст.) *депутатъ.* Паводле Булыкі (Запазыч., 92), ст.-бел. слова запазычана з польск. *deputat* (<лац.). Адносна рус. *депута́т* думаюць, што яно запазычана або з ням. *Deputat* (супраць Фасмер, 1, 499), або з с.-лац. *deputatus* (Фасмер, там жа, мяркуе, што рус. слова можа быць новаўтварэннем). Адносна сучаснага бел. *дэпута́т* няясна, ці яно працягвае ст.-бел. традыцыю, ці запазычана з рус. Гл. яшчэ Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 75.



**Дэ́раш** 'конь пэўнай масці' (БРС), *дэ́раш, дэ́рэш* 'конь любой масці з прымессю іншага колеру' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Кюнэ (Poln., 51), запазычанне з польск. *deresz* 'тс' (<венг. *deres;* аб польск. слове Брукнер, 87). Сюды і *ге́раш* 'дэраш (масць каня)' (Сл. паўн.-зах.) <*д'ераш* (з менай *д'* > *г'* пры палатальным вымаўленні гука *«д»*). Гл. яшчэ Слаўскі, 1, 144; MESz, 1, 619.

**Дэ́рба** 'жанчына высокага росту з тонкімі доўгімі нагамі' (Жд. 1). Няясна; магчыма, нейкая метафара. Параўн. семантыку слав. слоў у Трубачова, Эт сл., 5, 219—220 (пад праформамі **dьrba, *dьrbati, *dьrbiti*).

**Дэ́сань** 'узор' (БРС), *дасэ́ні* 'ўзор ткання ў выглядзе ромбаў' (Шат.), *дэ́сэнь* (Сл. паўн.-зах.), *дысэ́ні* (Жд. 1). Ужо Шатэрнік (80) меркаваў, што гэта з польск. *deseń* (а гэта з франц. *dessin;* так аб польск. слове і Брукнер, 88). Параўн. і *дэсянёвый* 'узорысты' (Шатал.).

**Дэсе́рт** 'дэсерт' (БРС). Рус. *десе́рт,* укр. *десе́рт.* Першакрыніцай з'яўляецца франц. *dessert* 'тс'. Запазычанне або прама з франц. (так Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 83), або праз ням. *Dessert* (<франц.; так Фасмер, 1, 505, які дапускае і прамое запазычанне з франц.).

**Дэ́спат** 'дэспат' (БРС). Рус. *де́спот,* укр. *де́спот.* У ст.-бел. мове (Булыка, Запазыч.) *деспотъ* — гэта 'валадар', таксама і ст.-рус. слова мела значэнне 'пан, валадар і да т. п.' Гэта прамое запазычанне з грэч. δεσπότης 'тс'. У значэнні 'дэспат, бязлітасны валадар, тыран' запазычанне з ням. *Despot* або франц. *despote* (<грэч.). Гл. Фасмер, 1, 507; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 84—85.

**Дэта́ль** 'дэталь' (БРС). Рус. *дета́ль,* укр. *дета́ль.* Запазычанне з франц. *détail* 'тс' (Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 88—89; Фасмер, 1, 508, дапускае таксама магчымасць ням. пасрэдніцтва).

**Дэтанава́ць** 'збіваць з толку, перабіваць; бянтэжыць' (Нас.). З польск. *detonować* 'тс' (<лац. *detonāre*). Гл. Кюнэ, Poln., 51.

**Дэ́ўж** 'даўжыня'. Гл. *дэ́ўжар.*

**Дэ́ўжар** 'далечыня' (Сцяшк.), 'надта доўгі' (Сцяц.). Зыходным з'яўляецца **даўжа́р* (<**dьlžarь*) да *до́ўгі.* Пасля перанясення націску на першы склад нібы «аднавіўся» вакалізм *э* (якога там ніколі не было!). Параўн. у фанетычным плане *барса́ць,* але *бэ́рсаць* (замест *бо́рсаць*). Такога ж паходжання і *дэ́ўш* (дакладней, *дэ́ўж*) 'даўжыня' (Сл. паўн.-зах.): <**dьlžь* (параўн. *дэ́ўж* 'даўжыня', Жд. 2). Лексема

*dьlžь — прасл. слова (параўнальны матэрыял, але без бел. гл. у Трубачова, Эт. сл., 5, 211—212).

**Дэфе́кт** 'дэфект' (БРС). У гэтым значэнні вядома ў ст.-бел. мове з XVI ст. (гл. Булыка, Запазыч.). Аднак няясна, ці сучаснае бел. слова працягвае ст.-бел. традыцыю (якая, паводле Булыкі, там жа, асноўваецца на запазычанні з польск. *defekt* (<лац.), ці гэта (як і рус. *дефе́кт*) запазычанне з ням *Defekt* (<лац.). Параўн. Фасмер, 1, 509; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 94.

**Дэфензы́ва** 'контрразведка ў буржуазнай Польшчы' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *defensywa* 'тс'.

**Дэ́чыць$_1$** 'крочыць; хутка рабіць' (Сл. паўн.-зах.). Сл. паўн.-зах. думае аб запазычанні з літ. *dėti* 'хутка хадзіць, хутка рабіць'.

**Дэ́чыць$_2$** 'гаварыць недарэчнае, бубніць; казаць адно і тое ж' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Сл. паўн.-зах., запазычанне з літ. *dėti* 'абгаворваць'.

**Д'я́бал** 'д'ябал' (БРС, Сцяшк., Нас., Шат., Сл. паўн.-зах.). Запазычанне з польск. *diabeł* (у ст.-польск. была яшчэ форма *diaboł*). Польск слова са ст.-чэш. *diábel* (чэш. *ďábel*) <лац. *diabolus* <грэч. διάβολος (гл. Слаўскі, 1, 146). Запазычанне сведчыцца наяўнасцю гука *-б-* (ва ўсх.-слав. мовах, дзе слова ўзята прама з грэч. мовы, формы тыпу рус. *дья́вол*, укр. *дия́вол, дія́вол*). Іншая форма слова — *дзя́бал* (*дзя́бэл* — Нас.), якая, паводле Кюнэ (Poln., 52), таксама запазычана з польск. *diabeł* (*djabeł*).

**Дяхто́ль** 'дзяцел' (Сл. паўн.-зах.). Няяснае слова. Магчыма, нейкая экспрэсіўная і кантамінаваная форма да *дзя́цел*.

# Е, Ё

**Еванге́лле** з ц.-слав. мовы, дзе **евангелик** <грэч. εὐαγγέλιον 'добрая вестка' (Фасмер, 2, 5). Форма *евангелія* (Яруш.) запазычана з польск. (польск. *ewangelia*).

**Евор** 'дзіцячая гульня (дзеці ходзяць парамі)' (ТС). Па паходжанню звязана з *явар (гуляць у явар)* (НС). Гэта таксама гульня хлопчыкаў і дзяўчынак парамі, падобная да гульні ў гарэлкі. Ці існуе сувязь *явар* з назвай дрэва? (гл. Цыхун, НС, с. 268). Тэрыторыя, на якой распаўсюджана гульня ў явар (гл.),— заходнебеларуская.

**Егі́пта** 'пагібельнае месца, зайздросны чалавек' (ТС). Тут наглядаецца сувязь з біблейскім матывам кары егіпецкай.

**Едва́б** 'шоўк' (Нас., Шат., Касп., Сцяшк., Шпіл., Шн.), ст.-бел. *едвабъ* 'тс'. Запазычанне з польск. *jedwab*, якое ў сваю чаргу са ст.-чэш. *hedvabie* (Булыка, Запазыч., 105). Ст.-чэш. *hedvabie*, відавочна, герм. паходжання. Сярод лексем найбольш блізкая да верагоднай крыніцы ст.-в.-ням. *gutawebbi*, ст.-сакс. *godowebbi* (Слаўскі, 1, 551).

**Ёдкі** 'які раз'ядае, з'едлівы' (толькі ў літаратурнай мове, магчыма, з рус. *едкий*) (БРС, ТСБМ), 'ядомы' (Касп., Мат. Гом., Шат., Сцяц. Клім., Сл. паўн.-зах., ТС), 'востры' (Мат. Гом.) да *есці* (гл.).

**Едло́вец** Гл. *ядло́вец*.

**Ёднасць** 'адзінства' (БРС, ТСБМ, Яруш.) <польск. *jedność* (Булыка, Запазыч., 106).

**Една́ць папа́** 'дамаўляцца аб вянцы' (Рам.) <польск. *jednać* 'угаворваць, схіляць на свой бок'.

**Едранец**, *едрынец, ядранец* 'Pimpinella saxifraga' (Кіс.). Ад **бедранец* пад уплывам *ядраны* 'цвёрды, сільны'. Параўн. рус. *бедренец* у тым жа значэнні, польск. *biedrzeniec*, якія да *bъdrьnьcь* <*bъdrъ* 'бадзёры, сільны'.

**Ёдрыністы** 'поўны колас (збожжа)' (Шн.) <польск. *jędrny* ў тым жа значэнні. Польск. форма ад *jędro*. Бел. спрадвечнае *ядраны* (гл.).

**Е́жа** 'тое, што ядуць і п'юць, прадукты харчавання' (ТСБМ). Рус. *ежа* 'тс', укр. *їжа* 'тс', серб.-харв. *jȅђа*, славен. *jeja* 'тс', польск. *jedza*, славац. *jedza*, н.-луж. *jěza* 'тс', прасл. *ědja*. Знайсці дакладную адпаведнасць за межамі слав. моўнай глебы цяжка. Толькі для прасл. *ěda, ědь* мы знаходзім балтыйскія і іншыя індаеўрапейскія паралелі (параўн. адпаведна літ. *ėda, ėdis*). Таму насуперак Трубачову (Эт. сл., 6, 40—41) *ědja* з'яўляецца славянскай інавацыяй.

**Ез** 'перагародка, якую ставяць рыбакі на рацэ, з праходам, у якім расстаўляюць нерат' (БРС, Шат., Серб., Горб., Бяльк., Кірн., Мат. АС, Янк. I, ТС) (гл. таксама *яз*), рус. *ез* 'тс', укр. *ёз* 'тс', ст.-рус. *ѣзъ* 'тс', балг. *яз* 'гаць', серб.-харв. *jâз* 'тс', славен. *jêz* 'плаціна, дамба', чэш. *jez* 'гаць, плаціна', польск. *jaz* 'гаць, перагародка на рацэ', ст.-луж. *jěz* 'тс'. Прасл. *ězъ*. Балт. паралелі: літ. *ežẽ*, лат. *eža*, ст.-прус. *asy* 'мяжа'. Гэта балта-слав. лексема звязана генетычна з балта-слав. назвай *возера* (гл.). Параўн. Ільінскі, Slavia, 2, 251—252; Вайда, BSL, 29, 38—40; Фрэнкель, LP, 4, 99; Буга, II, 508; Сэмерэні, ВЯ, 1967, 4, 18; Тапароў, Эт. сл., I, 120—121.

**Е́здзіць.** Рус. *ездить*, укр. *їздити*, балг. *яздя* 'ездзіць вярхом', серб.-харв. *jѐздити*, славен. *jézditi* 'тс', чэш. *jezditi* 'ездзіць', польск. *jezdzić* 'тс', в.-луж. *jězdźić* 'тс'. Прасл. *jězditi* ўтворана ад назоўніка *jězda*, які ў сваю чаргу ад прэзентнай формы дзеяслова *jědǫ* 'еду' (*zd* < экспрэсіўн. *dd*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 184.

**Еката́ць** 'галасіць, вішчаць, скавытаць' (БРС, ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Касп., Жд. 3) — ітэратыўны дзеяслоў, утвораны ад назоўніка *ёкат*, які адносіцца да ітэратыўных назоўнікаў на *-otъ*. Выходную форму гл. пад *ёкаць*.

**Е́каць** (пра гукі авечак) (ДАБМ), да *ёкаць* (гл.).

**Ельмо́жня** 'міласціна' (Шн.) < польск. *jałmużna*. Польск. *jałmużna* < чэш. *almužna*, якое ў сваю чаргу са ст.-в.-ням. *almōsan* < н.-лац. *alimosina* < грэч. ἐλεημοσύνη 'міласціна' (Міклашыч, 2; Бернекер, 27). Бел. *ельможня* — вынік пазнейшай кантамінацыі з *вельможны*.

**Е́льніца** 'Abies Dietr.— alba Mill, піхта белая' (Кіс.), да *ёлка* (гл.).

**Еля́к** 'казадой' (Сержп. Грам.), рус. *елёк* 'тс'. Як гэта асабліва бачна, паводле рускай формы, кантамінацыя з *лялёк* (рус. *лелёк*). Па паходжанню звязана з рус. алан. *ёлак* 'кажан' (з фін.) (параўн. цытату з ТСБМ, 2, 574: «Казадой ляціць мякка і плаўна, бясшумна, як кажан», да чаго можна дадаць, што казадой — гэта начная птушка з кароткай дзюбай і вялікім ротам). Формы з пачатковым *л* іншага паходжання. Гл. *лелек*.



**Е́мя** 'ежа, харчы' (Касп., Шат., Гарэц., Бяльк.). Рус. бранск. *емье*, рус. *емень*, ст.-рус. *ѣмена* (параўн. *сѣмя/ѣмя=сѣмена/ѣмена*). Зерне можа прызначацца на *семена* (насенне) або *емена* (на з'яданне). Такім чынам, зыходны назоўнік *еме* (<**ědmę*) сустракаецца толькі на беларускай глебе і на бранскім сумежжы. Таму выклікае сумненне сцвярджэнне Трубачова (6, 42) аб балта-славянскай і нават індаеўрапейскай старажытнасці бел. *емя* (параўн. літ. *ėdmeẽ* 'ежа', лат. *ēdmenis*, ст.-інд. *adma* 'тс', якія адпавядаюць і.-е. *edmen/edmn̥*). Хутчэй бел. *еме* (гл. *еміна*) — рэзультат балтыйскай лексічнай інфільтрацыі. Гл. яшчэ Ваян, BSL, 59, 142; Экерт, SIW 54.

**Е́міна** 'харчовыя прадукты' (Гарэц., Др.-Падб.) (гл. *е́мя*). Параўн. рус. пск. *емины*, рус. смал. *имины* 'тс'. Гэтыя формы ўзыходзяць да рэгулярных рэфлексацый н. р. мн. л. **ědmena* (**edmen*) пад уздзеяннем форм Nomina collectiva на *-іна*.

**Ендала́** 'вялікая нарасць або пухліна' (ТСБМ); няясна. Магчыма, звязана з *яндоўка, яндула* (Яблонскіс). Параўн. *яндоўка* 'вялікі нос'. Аб балтыйскім паходжанні гэтай групы слоў гл. Лаўчутэ, 26.

**Е́нза** 'які любіць укалоць, задзірака' (Нас.). Запазычанне з польск. *jędza* 'ведзьма'.

**Е́нчыць** 'жаласна стагнаць, ныць, назойліва прасіць аб чымсьці' (БРС, ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., СБГ, Яруш., Мядзв., Клім., Бір. Дзярж.) < польск. *jęczyć* 'тс'.

**Е́ра** 'аер' (З нар. сл.) магчыма, да **а́ера*. Nomen collectivum да *а́ер* (гл.).

**Е́рша** 'нерат без унутранай гарлавой адтуліны, нібы доўгі конус' (Дэмб.), *ершоўка* 'такі ж нерат меншага памеру — для лоўлі яршоў' (Дэмб.). Рус. *ёрша, ершовка* 'тс'. Кантамінацыя *верша* (гл.) і *ёрш* (гл.)

**Е́сці** (ТСБМ). Рус. *есть*, укр. *їсти*, ст.-рус. *ѣсти*, ст.-слав. **ѣсти**, балг. *ям*, серб.-харв. *jȅсти*, славен. *jésti*, чэш. *jísti*, славац. *jesť*, польск. *jeść*, в.-луж. *jěsć*, палаб. *jest* і інш. Прасл. *ěsti, ědmь* ~ літ. *ėdu, ė̃sti* 'есці, прагна есці'. І.-е. **ēd-* (ст.-інд. *ádmi*, хец. *e-itmi*, лац. *edō*). Для балта-слав. стану характэрна падаўжэнне каранёвага *е* (Покарны, I, 287—288, Ваян, III, 452).

**Е́ўна** 'крыкун, гарлапан' (Бір. Дзярж.). Няясна. Ці не да *еўнух* (гл.) з фальшывай дэкампазіцыяй (*еўн-ух*) і народнаэтымалагічным пераасэнсаваннем.

**Е́ўнух** < грэч. εὐνοῦχος.

**Е́хаць** (ТСБМ). Рус. *ехать*, укр. *їхати*, балг. *яхам*, серб.-

харв. *jàхати,* славен. *jâhati,* чэш. *jeti,* польск. *jechać,* в.-луж. *jěć,* н.-луж. *jěś.* Як аб гэтым сведчаць чэш. *jeti,* в.-луж. *jěć,* н.-луж. *jěś,* першаснай формай для прасл. з'яўляецца *jěti/jati,* якая дакладна адпавядае літ. *jóti,* лат. *jât* 'ехаць вярхом'. Іншыя індаеўрапейскія паралелі: ст.-інд. *yāti* 'ісці, ехаць', ст.-іран. *yāti,* хец. *iia* 'ісці'. Слав. формы з х-пашырэннем (*jěxati/jaxati*) адпавядаюць ітэратыўным утварэнням (Махэк$_2$, 221; Ваян, III, 332; Трубачоў, 6, 169—171).

**Еч** 'стрававод' (Янк. Мат.); параўн. рус. *еча* 'ежа'. Магчыма, ад **ěstja* (> **есча* > *еча*), якое ў сваю чаргу ад назоўніка *estь* (ст.-рус. *ѣсть* 'ежа'), *-ěsti* 'есці'.

**Ёгліць** 'вельмі хацець' (Жд. 2). Гл. *ягліць.*

**Ёдка** 'халадна і вільготна' (Бяльк., ТСБМ), *ёдкі* 'пранізліва халодны' (напр., аб вадзе) (Мат. Гом.), *ёдка* 'балюча ад холаду; колкі мароз' (Гарэц., Др.-Падб.). Арэал распаўсюджання — уласна беларускі (усходнія раёны). Рус. смал. *ёдко* 'холадна'. Ці не звязана з *едкі* < *есці*? Параўн. *кусачы мароз.*

**Ёкаць** 'ёкаць' (БРС, ТСМБ), 'ікаць' (Нас., Шат., Касп., Бяльк., Яруш., Гарэц.), рус. *ёкать* (у розных значэннях). Гукапераймальнае (рус. *ёк-ёк*). Відавочна, не звязана з *ікаць* (гл.). Апошняе, магчыма, кантамінавалася з *ёкаць* (параўн. асноўнае значэнне бел. *ёкаць*).

**Ёлап** 'неўрадлівая пясчаная глеба' (Нар. сл.), магчыма, да *ёлуп* (гл.). Тады ўтворана таксама з **о-луп.* Параўн. *лупняк* 'сланец, патрэсканая глеба', *лупа* 'струп'.

**Ёлка** (Кіс., Шат., Касп., ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., Яруш, БРС) 'ёлка, Picea excelsa Link' (гл. таксама *яліна*) узводзіцца да **edlъka, edlь.* Формы з *-ъка*-суфіксацыяй маюць вельмі абмежаваны характар: галоўным чынам беларуска-руская тэрыторыя. Прасл. *edlь, edla* маюць рэфліксацыі ва ўсіх слав. мовах і дакладныя паралелі (для прасл. *edla*) у балт.: ст.-прус. *addle,* літ. *ẽglė,* лат. *egle* (Трубачоў, Эт. сл., 6, 14—15).

**Ёлкасць** 'горыч' (Янк. III, Яруш.), рэгулярна да *ёлкі* (гл.).

**Ёлкі** 'ёлкі, горкі' (БРС, ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Бяльк., Сцяшк., Янк. II, Янк. Мат., Гарэц., Яруш.). Укр. *ілкий,* рус. *ёлкий,* польск. *jełki, iłki* 'тс'. Аднак паралелі не абмяжоўваюцца ўсх.-слав. і, магчыма, польск. моўнай тэрыторыяй. Махэк$_2$ (729) выводзіць чэш. *žluknouti* 'прагоркнуць' з **jьzjьlъk-nǫti,* а Гадравіц (ZfS, VII, 1962, 651—652) сюды ж адносіць серб.-харв. *žlkak,* славен. *žolhek* 'горкі, ёлкі'. Такім чынам, слова мае рысы праславянскага ўтварэння, можа быць рэканструявана, як *elъkъ* < *elъ* (*й* — аснова) + рэгулярная для гэтай асновы



*-къ*-суфіксацыя; *elъ* у сваю чаргу ад *olъ* (балта-слав. назва піва) (Трубачоў, Эт. сл., 6, 22).

**Ёлуп,** *ёлоп* 'дурань, асталоп, бесталковы тупы чалавек' (БРС, ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Мядзв., Яруш., Гарэц., Бір. Дзярж.). Укр. *йолуп, йолоп* 'тс', рус. смал. *ёлуп,* польск. *jołop.* У рускіх і польскіх дыялектах запазычана з беларуска-ўкраінскага арэала, дзе гэта слова можна лічыць інавацыяй. Надзейна вызначыць этымалогію лексемы цяжка. Для яе існуюць некалькі этымалагічных версій. Бернекер (308) выводзіў укр. *йолуп* з укр. *оглуп* (апошняе да *глупы*). Існуе магчымасць выпадзення фрыкатыўнага *г* у форме *оглуп.* Параўн. бел. *арэх* (гл.) < *агрэх.* Можна таксама выводзіць рус. *олух* з **оглух* (укр. *оглух* 'той, хто дрэнна чуе'). Брукнер (KZ, 45) звязваў *ёлуп* з *яловы,* што яшчэ менш верагодна. Слаўскі (I, 584) гаворыць пра магчымасць усходняга паходжання, але не прыводзіць крыніцы. Апрача гэтых версій, якія зарэгістраваны ў літаратуры, можна разгледзець магчымасць новай этымалогіі, якая грунтуецца на беларускіх дзеяслоўных і прыметнікавых формах *ёлупіць* 'вытрэшчваць вочы' (Нас.), *ёлуплівы* 'вытрашачаны (аб вачах)', 'дурнаваты'. Калі гэта так, дык *ёлуп* узыходзіць да **о-луп.* Параўн. *лупіць* (вочы). Змена пачатку слова (*ёлуп* < **олуп*) таксама мае аналагічныя прыклады (*ёлкі* < **олъкъ, ён* < *он* і г. д.). Пацвярджае гэту этымалагічную версію бел. *валапокі,* рус. смал. *волопокий* 'зіркасты' (< **волопо-окий*). У *волопокий* мы выдзяляем *волоп-* (< **олуп*). Такім чынам, *волопокий: лупаты (ёлуплівы)* = *вірлавокі* : *вірлаты* (усе лексемы маюць агульнае значэнне 'вірлавокі, лупаты').

**Ёлупень** 'дурань, асталоп' (Бяльк., БРС, ТСБМ, Бір. Дзярж., ТС) да папярэдняга. Рэгулярная словаўтваральная мадэль. Параўн. *вязень* < *вязаць.* Абсалютная большасць такіх імён аддзеяслоўнага паходжання (SP, I, 138), што таксама пацвярджае апошнюю этымалогію *ёлуп.*

**Ёмка** 'чапяла' (БРС, ТСБМ, Шат., Сцяшк., Мат. Гом., Шатал., Шн., Выг., Янк. I, БДА, Маш.). Рус. *ёмка* 'тс' да прасл. *ęti, jьmǫ* 'браць'.

**Ёмкі**$_1$ 'зграбны, спрытны, зручны' (БРС, ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Бяльк., СБГ, Мат. Гом., Мядзв., Жд. I, Марц., Янк. III). Рус. *ёмкий* 'тс', укр. *емкий* 'тс' — усходнеславянская інавацыя з семантычным пераходам 'ёмісты, вялікі, сільны', 'зграбны, спрытны, зручны'. Не выключан, аднак, балтыйскі ўплыў. Параўн. літ. *imlùs, jamlùs, jamùs* 'спрытны' (Фрэнкель, 185). Балтыйскія прыметнікі маюць аснову на *-й-*, да якой на славян-

скай моўнай глебе заканамерна дадаваўся фармант *-ъкъ*. Параўн. *ёмкі$_2$*.

**Ёмкі$_2$** 'ёмісты, вялікі, ладны' (ТСБМ, Шат., Мат. Гом., Яруш.). Рус. *ёмкий* 'тс'. Беларуска-руская інавацыя з *-ъкъ*-суфіксацыяй ад прасл. *ęti, jьmǫ* 'браць'. Параўн. літ. *imti, imti* 'тс', лац. *ēmō, emere* 'прымаць'.

**Ён,** *яна, яно* 'асабовы займеннік 3-й ас.' Укр. *він, вона, воно,* рус. *он, она, оно,* ст.-рус. *онъ, она, оно,* балг. *он, она, оно,* серб.-харв. *ȍн, ȍна, ȍно,* славен. *ȍn, óna, óno,* польск. *on, ona, ono,* чэш. *on, ona, ono,* в.-луж. *won, wona, wono.* Ётацыя пачатку беларускіх форм пад уплывам ускосных склонаў *(ён — яго)* (Карскі, 1, 304—305). Іншыя індаеўрапейскія паралелі: літ. *añs* 'тс', ст.-іран. *ana-* 'гэты' і інш. (ESSJ, 2, 529—533).

**Ёрбалка** 'бервяно, на якое кладзецца столь' (Касп.). Магчыма, кантамінаваная форма. Крыніца першай часткі слова *(ёр-)* невядомая.

**Ёрзаць,** *ёрзацца* 'неспакойна сядзець, круціцца' (БРС, ТСБМ, Шат., Нас., Касп., Бяльк., ТС), *ёрза* 'непаседлівы чалавек' (Мат. АС, З нар. сл.). Рус. *ёрзать* 'неспакойна сядзець, круціцца, мітусіцца, церціся аб штосьці, дамагацца', *ёрза* 'непаседа, дураслівец, свавольнік, гарэза', *ёрзун* 'які любіць заляцацца да жанчын, распуснік', *ёрзунья* 'распусніца'. Гэта беларуска-рускае слова, магчыма, балтыйскага паходжання. Параўн. літ. *er̃žilas, ar̃žilas* 'жарабец', *eržùs, aržùs* 'прагны, пахатлівы'. У якасці непасрэднай крыніцы ў такім выпадку была б заходнебалтыйская форма.

**Ёрш** 'Acerina cernua L.' (ТСБМ). Рус. *ёрш* 'тс'. Паралелі за межамі беларуска-рускага арэала невядомыя. Укр. *йорш* — запазычанне з рус. мовы.

**Ёсць** 'форма дзеяслова быць' (ТСБМ). Спарадычна *ё, ёсь. Ёсць* адзіная форма ў 3-й ас., дзе перад асабовым канчаткам адбыўся пераход (нерэгулярны) *e* > *o* з папярэдняй мяккасцю (Карскі, 2, 260). Спробу тлумачэння гэтай формы гл. у Копечнага (Slavia, 31, 2, 262).

**Ёўня** 'будынак для сушкі снапоў' (БРС, ТСБМ, Нас., Шат., Янк. II, Касп., Гарэц., Бяльк., Шн., ДАБМ). Рус. смал. *евня, ёвня,* укр. *евня.* Абмежаваны арэал і немагчымасць этымалагізацыі на слав. глебе даўно прывялі да думкі аб балтыйскім паходжанні лексемы. Да таго ж сельскагаспадарчыя будынкі часта маюць на беларускай моўнай глебе назвы балтыйскага паходжання (параўн. *пуня, клуня, асець,* гл.). Патабня, РФВ, 5, 254; Карскі, Белорусы, 133; Карскі, РФВ, 49, 19; Сабалеўскі, Slavia, 5, 450; Ільінскі, Slavia, 2, 263; Урбуціс, Baltistica,



1969, 5 (1), 58. У якасці крыніцы або слова, блізкага да крыніцы, указваецца літ. *jáuja* 'ёўня'. У старабеларускіх помніках мы знаходзім таксама варыянт, які непасрэдна суадносіцца з літ. словам *евья* (Карскі, Белорусы, 133; Булыка, Запазыч., 105; Булыка, Лекс. запазыч., 99), *евьи* 'ёўні' (Гарб., 120).

**Ёўдзіцца** 'ўладжвацца, уладкоўвацца' (Мядзв.). Няяснае слова. Да рус. *ёлзать* 'неспакойна сядзець'? Ці з балтыйскай (параўн. літ. *jáudytis* 'сваволіць', лат. *jaudlt* 'рухаць, варушыць')?

**Ёўзнуць** 'уцячы' (Выг.) да *ёўзацца* (гл.).

**Ёўзацца** 'неспакойна сядзець, рухацца ўвесь час'. Рус. *ёлзать* 'тс'. Сувязь з *ёрзаць* 'тс' дапусціць нельга.

**Ёўкало** 'дзіцячая назва івалгі' (ТС). Гл. *ёўчык.*

**Ёўкнуць** 'шуснуць, праваліцца пад лёд, у «акно» на балоце, на дрыгве' (Янк. II). Ці да *ёкнуць* (гл.)? У такім разе незразумелым застаецца *ў.*

**Ёўчык** 'сініца (?)' (Мат. Гом.). Укр. *йовчик* 'камянка з сямейства драздоў (Oenathe Oenathe)' (Нікан.). Магчыма, звязана па паходжанню з укр. назвамі івалгі *ева, евка* (параўн. Нікančук, БЛ, 5, 1974, 66).

**Ёцка** 'маленькае парася' (Шат.). Магчыма, да воклічаў для адгону свінні. Параўн. з укр. *ацю,* бел. *ацю,* укр. *ацю,* польск. *a ciu.* Аналагічныя ўтварэнні *цюця* 'сабака', *дзюдзя* 'свіння' (Цыхун, ЭСБМ, 1, 226); параўн. таксама Краўчук, ЭСБМ, 2, 73—74; Смаль-Стоцкі, Приміт., 114—115, 117.

**Ёшка** 'сквапная дурніца' (ТС). Няясна.

# Ж

**Ж,** *жа* часціца, злучн. супр., далуч. Цяпер — паўн.-слав., аднак прадстаўлена ў выглядзе **же** ў ст.-слав., а ў складзе вытворных і складаных слоў — у сучасных паўд.-слав. мовах, таму па паходжанні прасл. **že,* у якім скарачаўся галосны. Прасл. слова ўзыходзіць да і.-е. **ge* ці **gᵘe,* або **ghe* (параўн. літ. *-ga- nèsanga* 'бо', ***betaiga*** 'але', ст.-прус. *anga* 'ці'). Непалаталізаваны варыянт **go* прадстаўлены як частка слова *няўго́* 'няўжо' (Шат.) і шэрагу паўд.-слав. слоў, у тым ліку серб.-харв. *нѐголи* 'няўжо'. ESSJ SG, 1, 310, 334—335; 2, 759—760; Фасмер, 2, 39; Траўтман, 73—74; Тапароў, A — D, 85—86; Покарны, 1, 417.

**Жа́ба**$_1$ 'земнаводная жывёліна' (ТСБМ). Рус., укр., балг., макед. *жаба,* польск. *żaba,* чэш., славен. *žába,* серб.-луж. *žaba,* палаб. *zobo* 'жаба, рапуха'. Ст.-слав. **жаба** 'жаба'. Прасл. **žaba* <**gēbā* < і.-е. *gᵘēb(h)-* 'слізістае, жаба, крот' (Покарны, 1, 466): ням. *Quappe* 'апалонік; мянтуз', ісл. *kvap(i)* 'жэле, халадзец', швед. дыял. *(s)kvabb* 'нешта тлустае', англ. *quab* 'балота', ст.-прус. *gabawo* 'жаба' (Тапароў, E — H, 124—127). Фасмер, 2, 31. Міёр. *жа́біна* 'згустак сопляў' (Нар. словатв., 162), магчыма, адлюстроўвае не пераноснае значэнне, а старажытную семантыку. Гэта датычыць, магчыма, і *жабер* 'студзяністыя водарасці' (Яшкін; гл. *жабурынне*). Параўн. памор. *žaba* (побач з 'лягушка', 'жаба', 'смоўж') 'засохшыя соплі' (Лорэнц, Pomor.). Калі першаснае значэнне 'жывёліна', не выключана гукапераймальнае паходжанне і.-е. слова (Махэк$_2$, 721; Скок, 3, 669; Покарны, 1, 466, не ўпэўнена). Гл. Хэмп, Этимология, 1981, 35—37.

**Жа́ба**$_2$ 'хвароба горла' (Бяльк., Шат.). Значэнне 'хвароба горла, рота' вядома ў рус., укр., польск. (Карловіч), чэш., славац., славен., балг., макед., серб.-луж. (у апошніх для формы *žabka*), таму можа лічыцца агульнаславянскім. Параўн. таксама літ. *gēbenė* 'пухір, прышч, высыпка'. Відаць, ад назвы жывёліны (Фасмер, 2, 31). Падобны перанос параўн. у лац. *rana* 'жаба; нарыў на языку ў жывёліны', ням. *frosch im Halse* ці англ. *frog in the throat* літар. 'жаба ў горле, хрыпата', тур. *kurbağacik* 'жабяня; запаленне жыл шыі' (Радлаў, Опыт). Паводле Махэка (Studie, 123), жаба ў народных павер'ях —



ведзьма, што прыносіць хваробу. Трэба ўлічваць яшчэ *жабіць* 'перагінаць' (гл.), магчыма, 'сціскаць' і лац. *angina* 'ангіна' ў сувязі з дзеясловам *ango* 'душыць, сціскаць'. Мяркулава, Этимология, 1963, 72—78.

**Жа́ба**$_3$ 'дэталь у плузе для прымацавання паліцы і ручак' (Шатал.), *жа́бка* 'рэгулятар мельнічных жорнаў' (Касп., Сцяшк. МГ, Шатал.). Рус., укр., дыял. *жа́бка* 'тс'; у іншых слав. мовах *žaba, žabka* таксама абазначаюць розныя 'прылады для прыяднання або замацавання дэталей' (польск., чэш., славац., славен., серб.-харв., балг.). Улічваючы іншамоўныя тыпалагічныя паралелі (англ. *frog* 'жаба', 'засаўка', узб. *бақа,* кірг. *бака* 'жаба', 'крыжавіна, на якой замацаваны верхні камень жорнаў' і г. д.), хутчэй за ўсё перанос назвы жывёліны паводле формы і ўяўнай функцыі (быццам жаба трымае, седзячы, тое, што знаходзіцца пад ёю).

**Жа́ба**$_4$ 'загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам' (Нар. слова, 253; Влад., 210). Чэш. *žaba* 'тс' (PSJČ), балг. *жа́ба* 'тс' (БЕР). Прыналежнасць да тэрміналогіі ткацтва, што мае старажытны характар, а таксама фіксацыя ва ўсіх групах слав. моў указваюць на, магчыма, старажытны характар значэння. Ці перанос ад *жаба* 'непрыемная жывёліна' або 'загана, выкліканая ўздзеяннем жабы — ведзьмы', ці непасрэдна звязаны з дзеясловам *жабіць* (гл.)? Няясна.

**Жа́ба**$_5$ 'карабатае месца на астрыі касы' (Жд. 1). Магчыма, звязана з паняццем няроўнасці ці непрыемнасці да *жа́ба*$_1$ (параўн. *жа́ба*$_4$) або з карабатасцю да дзеяслова *жа́біць* (гл.). Але не выключана і сувязь з *жа́бры:* рус. дыял. *жабри́, жа́бры* 'зазубіны на восцях, вудцы; ніжняя сківіца' (СРНГ).

**Жа́ба**$_6$ 'адмоўная назва дзяцей' (ТСБМ), *жабянё, жабу́цька,* 'малая жаба, дзіця' (Шат.), *жа́біца, жабу́ха* 'рабая, маршчыністая жанчына' (Нас). Перанос ад *жа́ба*$_1$ па падобнасці. Такія пераносы вядомы і іншым слав. мовам. Найбольш замацавана ў чэш. і славац. *žaba* 'дзяўчынка' (без адмоўнага адцення).

***Жабанець,** *жэбоніты* 'бубнець, ціха і невыразна гаварыць' (пін., Нар. лекс., 107). Укр. *жебоніти,* дыял. *жубоніти, жубелйти* 'бубнець, манатонна гучаць, гусці'. Параўн. рус. кур. *жабта́ться, жебта́ться* 'наракаць, скардзіцца', паўн. *жу́борить, жу́брить* 'жаваць', 'есці марудна, няясна гаварыць', укр. *бубоні́ти, залебоніти* 'бубнець, лепятаць, гусці', серб.-харв. *жу̏борити, жубо́рити, жа̂морити,* славен. *žuboríti, žamóriti* 'мармытаць, цурчаць, гусці', серб.-харв. *жа̂мор* 'шэпт', балг. *жабу̀ркам, жубо̀ря,* макед. *жуборка, жуберка* 'цурчаць', н.-луж. *žeboriś* 'на-

ракаць, скардзіцца', чэш. мар. *žemořit* 'жабрачыць'. Грынчанка (1, 469) дае хутчэй за ўсё народна-этымалагічнае тлумачэнне ўкр. дзеяслова ў форме *жабоніти:* «размаўляць... падобна да няяснага шуму, які ствараюць часам жабы (без гучнага квакання)». Фасмер (2, 32) лічыць, што рус. *жабтаться, жебтаться* не трэба аддзяляць ад *жабо́та* 'клопат'. Аднак іх, верагодна, не трэба аддзяляць і ад *шептаться*. Зубаты (1, 2, 126) непераканаўча параўноўваў рус. словы з літ. *gėbėti* 'магчы'. Сувязь палес. слова з рус. няпэўная. Наяўнасць бел. *забабоны, бубнець,* укр. *бубоніти, залебоніти, забобони* ўказвае на магчымасць кораня *-бон- (-бън-)* са значэннем гаварэння, аднак існуюць і ўкр. варыянты *лебедіти, жубелити,* а таксама іншыя слав. варыянты тыпу *жубор-, жабор-, жамор-*. Гэта дае падставу для параўнання з непалаталізаванымі словамі блізкіх значэнняў: *гоман (гамана, гам), гаманіць* (гл.), рус. *гомон, гомонить,* укр. *гомін (гамір, гам), гомонити* 'тс', польск. *gomon, gomonić* 'тс', чэш. *hamoniti,* дыял. *hobořit,* мар.-славац. *hamár* (чэш. і славац. *homoniti* Махэк$_2$, 159, лічыць русізмам). Не выключаецца і сувязь з *гаварыць* (гл.). У чэш. і славац. пашыраны дзеясловы *žebroniti, žabroniti, žobronit* 'настырна выпрошваць, жабрачыць', які ўзводзіцца да *žebrati* (Голуб-Копечны, 443; Махэк$_2$, 724), гл. *жабрак;* гэта слова магло (са стратай *-r-*) быць запазычана ва ўкр. або ўзаемадзейнічаць з усх.-слав. словам тыпу **жуборѣти*. Для слав. слоў гэтага тыпу існуе балт. паралель: літ. *žaberiúoti, žabaruoti, žė̃belioti, žebeliúoti* 'балбатаць', *žiaũberoti* 'жаваць, як конь', *žiõburoti* 'злёгку зяваць', лат. *zabelêt* 'слюнявіць', *zabene* 'хто многа і невыразна гаворыць', *zabelet* 'высмейваць', літ. *žaberė̃t* 'скардзіцца', *žabelêt, žabinât* 'гаварыць лухту', *žebinât* 'марудна есці, жаваць'. Фрэнкель (1283, 1293) для першых чатырох слоў дапускаў магчымасць запазычання з ням. *sabbeln*- 'слінявіць, балбатаць', што ў святле слав. паралелей мала верагодна. Буга (1, 495; 3, 695) параўноўваў перадапошняе з рус. *жуборить, жубрить* 'есці цяжка, жаваць марудна'. Лічыць названыя слав. паралелі запазычанымі з балт. цяжка, хутчэй тут агульныя словы, а пачатковае *ж* — варыянт да *з* (як *зябры-жабры* і інш.). Тады трэба суаднасіць *жуборить* з рус. *зубарить, зуборить* 'кпіць, часаць зубы, балбатаць', а таксама ўлічыць рус. дыял. *зубанить, зубенить, зубаниться, зубониться* 'марудна есці, спрачацца, кпіць' для этымалогіі *жабанець* як балта-слав. слова. Для серб.-харв. *жу̏борити* 'цурчаць' Ільінскі (ИОРЯС, 16, 4, 25) устанавіў і.-е. праформу **g'heu-b(h)-or;* у Покарнага (1, 447—449) *g'heu-* 'ліць', але няма варыянта гэтага кораня з *-b(h)-*, а *g'hēu-: g'ho(u)-: g'həu-* са значэннем 'зяваць' з падаўжэннем *g'heubh* выступае ў словах са значэннямі 'жменя; прорва'.



**Жабе́ніцца** 'ўпірацца, калі просяць' (Бяльк.), 'раздумваць' (Жд. 3), *жабіня́ць, жабіня́цца* 'ўпірацца' (Бяльк.). Параўн. літ. дыял. *zabainioti* 'блытаць', лат. *zabelêt* 'не даваць ад жаднасці ўстрымлівацца', што дазваляе лічыць бел. *жабеніцца* запазычаннем з літ. Калі ўлічыць славесны характар «упірання» ці роздуму, магчыма звязваць з *жабанець* (гл.) Іншае тлумачэнне — праз сувязь з *жа́біцца* 'моршчыцца' ці 'перагінацца', адкуль магчыма развіццё значэння 'ламацца'.

**Жа́бер** (Жд. 2). Гл. *зябер.*

**Жа́біць** 'перагінаць' (Юрч., Яўс.), *жа́біцца* 'моршчыцца, набываць бугрысты выгляд' (ТСБМ). Рус. кастр., бранск. *жа́биться* 'карабаціцца' (СРНГ, Растаргуеў, Бранск.). Вытворнае ад *жа́ба$_1$* ў сувязі з уяўленнем пра бугрысты, зморшчаны характар скуры або сагнутыя ногі жывёліны. Бел. і бранск., магчыма, незалежна ад кастр., а таксама ад ярасл. *жабиться* 'кпіць', алт. і том. *жабить* 'лаяць, сварыцца (на каго-н.)'. Параўн. *жа́ба$_2$*. Грыгор'еў, УЗ Мазыр. ГПИ, 1, 1958, 156; Мяркулава, Этимология, 1963, 77.

**Жабка$_1$** памянш. да *жа́ба$_{1-4}$* (гл.).

**Жа́бка$_2$** 'падкоўка на абутку' (зэльв., Жыв. сл, 141). Улічваючы геаграфію, магчыма, з польск. *żabka* 'тс'. У слав. мовах, у тым ліку польск. *żabka,* укр. *жа́бка,* серб.-харв. *жабица* 'стрэлка ў капыце, нарасць на назе каня', балг. дыял. *жаба* 'мускул на назе'. Аналагічны перанос у іншых мовах (англ. *frog* 'жаба' — 'стрэлка ў капыце', грэч. βάτραχος 'жаба' — 'частка капыта', якуцк. *баҕа* 'жаба' — 'стрэлка пад капытом'; Пякарскі), таму апошняе да *жа́ба$_1$*, а адсюль па падобнасці перанос на 'падкоўку'.

**Жа́бка$_3$** 'гатунак школьнага пяра' (ТСБМ). Ад *жа́ба$_1$* па знешняму выгляду.

**Жа́бка$_4$** 'каменьчык, які кідаецца на водную паверхню, а ён падскоквае' (КЭС). Рус., укр. *жабка,* польск. *żabka,* чэш. *žabka,* серб.-харв. *жа̏бице,* славен. *žábica* 'тс'. Відаць, паводле жабячых (да *жа́ба$_1$*) падскокаў.

**Жа́бнік$_1$** 'пасудзіна для захоўвання жаб' (ТСБМ). Ад *жа́ба$_1$*, відаць, праз прым. *жабн-ы* з суф. *-ік (*жабнае месца)*.

**Жа́бнік$_2$** 'расліна Hydrocharis L. (парэз), водарасць, якая свабодна плавае'. Відаць, ад *жа́ба$_1$* паводле суіснавання ў вадаёме або іншых прыкмет. Выкарыстоўваецца і як назва іншых раслін (параўн. рус. дыял. *жабник* 'Filago L. Ranunculus ficaria L., Menyanthes trifoliata L.' і інш., укр. *жабник* 'Filago L.').

7. Зак. 2801

**Жа́бнік**$_3$ 'від шчупака' (навагр., Жыв. сл., 9). Ад *жа́ба*$_1$, паводле таго, што гэты від паядае жаб. Параўн. рус. дыял. *жабник* 'журавель' (СРНГ), укр. *жабоїд* 'бусел'.

**Жабра́к,** *жабрава́ць*. Укр. *жебра́к, же́брати, жебрува́ти* 'тс', *же́бри* 'жабраванне', рус. пск., прыбалт. *жебра́к, жеброва́ть* (відаць, з бел.), польск. *żebrak, żebrać,* чэш. *žebrák, žebrati,* славац. *žobrák, žobrat',* в.-луж. *žebrjak, žebrić,* н.-луж. *žebrak, žebriś,* славен. *žebrâvec, zebráti,* серб.-харв. *жѐбрак, жебрачити, џе́брак, џѐбрати* 'тс'. Літ. *žebrõkas, žebravoti,* лат. *žabravât* 'тс' з бел. або польск. (Фрэнкель, 1294); венг. *zsebrák* (з 1456 г.) 'тс' са слав. (MESz, 3, 1212). У ст.-бел. з канца XV ст. фіксуецца *жебракъ* (Булыка, Запазыч., 113), зафіксаваны дзеяслоў *жебрати* (Гіст. лекс., 116). Прынята этымалогія бел. слова з польск. мовы, дзе, паводле Брукнера (663), з XV ст. з ням. *seffr* 'бадзяга' (Мартынаў — Міхневіч, Маладосць,1970, 7, 150; Булыка, Запазыч., 113). Калі так, відаць, праз чэш., бо іначай незразумела пашырэнне ў серб.-харв. і славен. Скок (1, 471) лічыць адпаведныя словы гэтых моў запазычанымі з чэш. < ням. і далей турцызіраванымі у серб.-харв. *ž > dž.* Махэк$_2$ (724) лічыць польск. і ўкр. запазычанымі з чэш., а для чэш. і славац. прыводзіць (як Голуб — Копечны, 443) шэраг дыялектных і экспрэсіўных варыянтаў, напр. *škebrati, škemrati, žebronit* (гл. *жабанець*), *žgamrat* 'жабраваць' і г. д. Як і Міклашыч (406), Голуб — Копечны (443), Махэк$_2$ (724) не даюць, уласна кажучы, этымалогіі, на ням. паходжанне не ўказваюць, што можна расцэньваць як прызнанне слав. паходжання. Тады ці не трэба параўнаць з бел. *кубрак* 'чалавек, які просіць на царкву' (Нас.), *кубрыць* 'кпіць' (Нас.), укр. дыял. *кубрак* 'бедны чалавек' (Жэлях.), *кубрячити* 'п'янстваваць', рус. наўг. *кубра* 'свавольнік'. Параўн., аднак, польск. *kubrak* 'куртка', якое тлумачаць, хаця і мала верагодна, у сувязі з укр. *кубрак* 'бядняк' з цюрк. *kubur* 'адзенне' (SWO, 405) або як запазычанне з лац. ці ням. (Слаўскі, 3, 299). Калі ўлічыць магчымую сувязь з *жабанець* (гл.) і формамі тыпу *škomořiti/žemořiti,* ці не трэба да гэтай групы аднесці і *скамарох*?

**Жа́бры,** *жэбры* 'жабры' (Нас., Бяльк., Шат.), *зя́бры* (Касп., Яўс. ), *шчы́бры* (Нас.). Рус. *жа́бры,* паўд. *зя́бры* 'жабры, сківіцы', укр. *зя́бра, жа́бри* 'жабры; гакі на восцях', балг. дыял., макед. *жабри,* славац. *žiabre,* чэш. (< рус. Махэк$_2$, 721), в.-луж. (запазычанае, паводле Пфуля, 1039) *žabra.* Шанскі (1, Ж, 272) лічыць верагодным суфіксальнае (з суф. *-r-*) утварэнне ад той самай асновы, што *жа́ба* 'рот, горла > хвароба рота, горла', роднаснае ням. *Kiefer* 'сківіца' (Хірт, BB, 24, 258), авест. *zafarə* 'рот, зяпа' (Махэк$_2$, 721). Паводле Фасмера



(2, 31), апошнія параўнанні недастаткова абгрунтаваныя. Міклашыч (405) параўноўваў з літ. *žióbris, žiobrȳs* 'рыба Abramis vimba', што няпэўна фанетычна і семантычна. Патабня (РФВ, 4, 210) выказваў думку пра сувязь з *губа* і ст.-інд. *jámbhatē* 'хапае', што мала верагодна. Параўн. яшчэ літ. *žeberúoti* 'лавіць восцямі', *žebérklas* 'восці, гарпун' у сувязі з укр. значэннем. Ці не звязана з *жаваць* (гл.)? (І.-е. **gi̯eu-* магло атрымаць падаўжэнне *-r-, *u̯ > w > b*). Няясна.

**Жа́брыца** 'расліна Seseli L.' (Кіс.). Рус. *жа́брица,* укр. *жа́бриця,* польск. *żebrzyca.* Відаць, ад *жа́бры* (гл.) па знешняму выгляду парасона.

**Жабуры́нне** 'жабіна ікра' (ТСБМ), 'раска' (Шатал.), 'водарасці' (Яшкін), *жабе́рнік* 'тс' (Шатал., Жыв. сл., 23), *жабе́р* 'раска; стаячая, пакрытая плесенню вада з сапрэўшымі водарасцямі; студзяністыя водарасці' (Яшкін; Нар. словатв., 97). Рус. дыял. паўд. (дан., краснадарск.) *жабури́нье* 'зялёныя водарасці ў стаячай вадзе', *жабури́нья, жабурё́нья* 'ўнутранасць дыні, гарбуза і некаторай іншай агародніны, пладоў', укр. *жабури́ння* 'жабіна ікра, водарасці, унутранасць дыні; слізкая маса, што ўтвараецца на стаячай вадзе', дыял. *жабу́р* 'водарасці, балота', зах.-балг., макед. *жабарник, жабурник, жабурнак* 'жабурынне, месца, дзе водзяцца жабы', чэш. *žabinec* 'раска, месца, дзе жывуць жабы', славац. *žaburina* 'жабіна ікра, раска, стаячая вада, балота', *žabinec* 'раска, розныя водарасці, стаячая вада, балота'. Значэнне месца вядома і бел. мове. Яно, відаць, і абумоўлівае суфіксацыю *-нік* у *жабе́рнік.* Не выклікае цяжкасцей і суфікс *-нне.* Элемент *-р-* прадстаўлены яшчэ ў балг., макед. *жабор* 'жаба-самец', *жубу́ря се, жабу́ркам* 'трымае ваду ў роце', в.-луж. *žabr* 'нарыў на нёбе'. Параўн. таксама *жа́бры. -р-* можна лічыць яшчэ праславянскім, дзе яно можа быць з балта-слав., і.-е. (параўн. шэраг балтыйскіх гідронімаў з *gabr,* якія не атрымалі пакуль што дастатковага тлумачэння, Тапароў, Е — Н, 127; параўн. літ. *žúobris* 'лемех', Траўтман, 364). Фасмер рус. дан. *жебуриньи* 'выжымкі, жамерыны' лічыць запазычаным з цюрк. (тат. *чүпрə* 'закваска' і інш.). Хутчэй тут кантамінацыя *жабуринье* 'жабіна ікра, слізкая вада' і *жемиринье* 'жамерыны' (дан.), звязанага з коранем *жаць*$_2$. Семантычна неверагодна запазычанне з літ. *žabarýnas* 'малады лес' (Лаўчутэ, Сл. балт., 45).

**Жава́ка** 'жвачка' (глус., Янк. II). Гл. *жва́ка.*

**Жава́ла** 'першая пара сківіц у ракападобных, мнаганожак, насякомых' (ТСБМ). Рус. *жва́ло* 'тс', серб.-харв. *жва̏ло* 'сківіцы', чэш. арг. *žválo* 'цыгарка'. Відаць, новая тэрміналагічная калька рус. тэрміна ў бел., хаця ўтварэнне тыпу **žьva(d)lo*

магло існаваць у прасл. са значэннем 'тое, чым жуюць, сківіца', укр. *жувальця* 'тс'. Абмежаванасць значэння і пашырэння — у карысць новага бел. утварэння.

**Жа́варанак**₁, *жаўранак, жаўрук* (ТСБМ), *жарва́нак* (Мат. Гом.) 'птушка Alaudidae'. Рус. *жа́воронок*, дыял. *жа́вронок*, укр. *жайворонок*, дыял. *джа́ворок, джа́воронок*, палаб. *zevornăk*; параўн. рус. дыял. *зговоронок* (Праабражэнскі, 1, 220), *сковронок, щевронок*, польск. *skowronek*, чэш. *skřivan, skřivánek*, дыял. *skovránek, skovránok*, (славац. *skovran, skovránok*, серб.-луж. *škowronk*, в.-луж. *škowrončk*, н.-луж. *škobronk*, славен. *škrjánec, skrjánček*, ц.-слав. *сковраньць* (Міклашыч, Lex. paleosl., 846) 'тс'; параўн. яшчэ рус. *скворе́ц*, в.-луж. *škorc*, балг. *скорец*, балг. уст. *сколовранец* 'шпак' (трэба ўлічваць, што рус. дыял. пск. *жаворонок* 'шпак'). Шанскі (1, Ж, 272) лічыць *жаворонок* утвораным з суфіксам *-ък-* ад уст. і фалькл. *жаворонъ* (Словарь, II, 180). Агульна прынята думка аб тым, што другая частка ўсх.-слав. слова суадносіцца з *воран* (гл.), прапануецца шэраг паясненняў першай часткі (Фасмер, 2, 32, 3, 644). Трэба, відаць, прыняць неабходнасць агульнага разгляду варыянтаў з пачатковымі *жа-* і *ск(о)-* у сувязі з іншымі падобнымі суадносінамі (гл. *жабанець, жабрак*). Формы тыпу *жаўрук*, н.-луж. *škobronk*, калі іх не разглядаць як пазнейшыя (усечаную або з падстаноўкай *b* замест *w*), пярэчаць уяўленню аб складаным характары слова. Паколькі назвы жаваранка і шпака, што належаць да вераб'іных, перакрыжоўваюцца, магчыма дапускаць агульнасць *жавор-, сковор-* і *сквор-* у рус. *скворец*, а тады шукаць тлумачэнне кораня **sk(o)v(o)r-*. Цікавыя ў гэтых адносінах *скверціся* 'крычаць, верашчаць, плакаць з крыкам', *скверашчаць* 'тс' (Нас.), а магчыма, і чэш. рэдк. *škovrati* 'вытвараць трэлі (пра птушак)', *скавытаць*, укр. *скав(у)чати* 'скавытаць'. Адсутнасць (ці невыяўленасць) надзейных неславянскіх паралелей ускладняе, аднак, тлумачэнне ўказанага гіпатэтычнага кораня і хутчэй сведчыць у карысць кампазітнага характару слова, але ні супастаўленні са ст.-слав. **гавранъ** 'воран' і яго адпаведнікамі, якія даюцца ў пацвярджэнне гукапераймальнага характару *жа-, га-, ско-*, ні супастаўленне з *сквар-, жар-* (Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 288—285), ні паясненні праз экспрэсіўны характар першай часткі (Брукнер, 496; Махэк₂ 550) не могуць лічыцца пэўнымі.

**Жа́варанак**₂, *жаўранак, жаўрук* 'булачка, што выпякаецца 9(22) сакавіка' (Нас.). Рус. *жа́воронок*, укр. *жа́воронок* 'тс'. Ад *жа́варанак*₁ у сувязі з веснавым прылётам птушак (у сакавіку), магчыма, дахрысціянскага характару. На гэта ўказвае абрад клікання вясны, запісаны Г. Цітовічам (Ант., 34, 564): у час выканання песні *«Жавароначкі, прыляціце, вясну красную прынясіце»* дзяўчаты і маладзіцы падкідвалі ўгору выпечаных з цеста жаўрукоў, а мужчыны «акампаніравалі» на берасцяных пастухоўскіх трубах. Жаваранкі і ў іншых песнях (параўн. БНТ, Весн. песні, № 158—160). Гл. Іванаў, Тапароў, Слав. яз. мод. системы, 129. Параўнанне 40 жаваранкаў з душамі 40 мучанікаў (9 сакавіка — дзень 40 мучанікаў), на якое ўказвае Насовіч, позняе (параўн. *саракі*). 9 (22) сакавіка — дзень пачатку вясны. Пра ўсх.-слав. абрад гл. В. К. Соколова, Весенне-летние календарные обряды русских, украинцев и белорусов. М., 1979, с, 67—93.



**Жава́ць**, *жваць, жую*. Рус. *жева́ть*, укр. *жува́ти*, польск. *żuć, żwać*, в.-луж. *žuć*, н.-луж. *žuś*, палаб. *zavăt*, чэш. *žvykati*, уст. *žváti*, славац. *žut', žuvat'*, славен. *žvekáti, žvečiti*, серб.-харв. *жва́кати, жва́тати*, балг. *жва̀кам*, макед. *џвака, жвака* 'тс'. Ст.-сл. **жьвати, жоуѭ**. Прасл. **žьvati, *žuję (*zjьv-)* з і.-е. **g(i)eu-, g'(i)eu-* 'жаваць' (Покарны, 400): літ. *žiáunos*, лат. *žaũnas* 'сківіца, жабры', ням. *kauen*, англ. *chew*, новаіранск. *jāvidan* 'жаваць'. Фасмер, 2, 39—40; Шанскі, 1, Ж, 280; Траўтман, 372.

**Жаве́ль** (ТСБМ). З рус. *жаве́ль*, дзе зафіксавана з 1863 г., франц. *javel, javelle* з 1824 г. < *eau de Javelle* 'вада Жавеля' паводле назвы мясціны пад Парыжам (зараз частка Парыжа), дзе фабрыкуецца з канца XVIII ст. гэта вада. Укр. *жаве́ль*, як і бел., Шанскі, 1, Ж, 272; Блох-Вартбург, 345.

**Жаві́на**, *жаві́ны, жаві́кі* 'ажына' (Кіс., Касп., Бяльк., Юрч.; лельч., Жыв. сл., 210), *жаві́ніна* 'ягада ажыны', *жаві́ннік* 'ажыннік' (Юрч., Яўс.). Усечаная без пачатковага галоснага слав. назва ажыны **ož-ev-ina* > бел. *ажаві́на, ажэві́ны* (Шат., Кіс.) і **ož-ev-ika* > рус. *ежевика* ад **ožь* 'вожык'. Суф. **-in-* часта выкарыстоўваецца ў назвах ягад: *журав-ін-ы, аж-ын-а, кал-ін-а*, першасна, магчыма, у сінгулятыўным значэнні (гл. *ажы́на*). У рус. дыялектах сустракаецца форма са стратай пачатковай галоснай: *жевика, жевига, жеваника, жевинина* (СРНГ). Параўн. Шанскі, 1, Е, 253 (дзе памылковае сцвярджэнне пра толькі ўсх.-слав. характар слова: Махэк (Jména rostl., 101) прыводзіць чэш. *ježina*, польск. *jeżyna*).

**Жа́га** 'пякотка' (гом., лун., Шатал.), *жо́га* (Мат. Гом., Бяльк.). Рус. арл., кур. *жёга* 'пякотка', укр. *жага́* 'смага', чэш. *žáha*, в.-луж. *žaha*, славац. *žáha* (Калал, паводле Шафарыка, дае і *žiaha*), укр. *зга́га* 'смага, пякотка', польск., н.-луж. *zgaga*, славац. *zhaha*, серб.-харв. *zgăga* 'пякотка'; параўн. балг., макед. *жега*, серб.-харв. *жѐга*, ц.-слав. *жєга* 'спёка'. Бяссуфікснае, відаць, яшчэ прасл. утварэнне ад кораня *žeg-* (< **geg-*); магчыма, варыянт *жа́га* адлюстроўвае форму з

*а* < *ё* < **е*, а варыянт *жóга* — форму з *о* < *е* <**ě*. Семантычны ход той самы, што і ў *пякотка* — *пячы*. Махэк$_2$ (727) бачыць у *žáha* ступень **gōg-;* у гэтым выпадку патрабуе тлумачэння пераход **g* > **ž;* ступень **gōg-* прадстаўлена ў формах тыпу *згага*. Голуб — Копечны (441), абапіраючыся на ст.-чэш. *zháha*, лічаць форму *žáha* пазнейшай, утворанай у выніку кантамінацыі *zháha* — *žhu*. Гл. Мяркулава, ОЛА, 1974, 255—257. Гл. *згáга*.

**Жагáры** 'трэскі' (Сцяшк. МГ), 'тонкія сухія галінкі' (Зданюкевіч, Лапатаўшчызна), *жагýры, жагяры* 'тонкае сучча, лом; трэскі' (Сл. паўн.-зах.). Польск. *żagary*. З літ. *žãgaras* 'галлё, ламачча', лат. *žagari* 'тс' (< літ.). Цыхун, Лекс. балтызмы, 52; Фрэнкель, 1284; Лаўчутэ, Сл. балт., 45 (дзе іншая літ-ра).

**Жáгаўка** 'шчупак, Esox' (Мат. Гом., З нар. сл., 277), 'непаседа' (Мат. Гом.), *жаглáк* 'шчупак' (Мат. Гом.). Улічваючы значэнне 'непаседа', супастаўляецца з *жыг* 'момант', *жыга, жыгун* 'непаседа', г. зн. звязваецца з коранем слоў *жагаць, жыгаць* 'бліскаць' (гл.) праз сэнс 'хутка гарэць', адкуль 'хутка рабіць', 'быць хуткім'. Іншая магчымасць: *жыгаць* 'кусаць'. У абодвух выпадках прамежкавыя формы — незафіксаваныя прыметнікі **жагавы (*жиговъ, *жаговъ?)*, **жаглы* 'хуткі' або 'кусліві'. Не выключана, што *жáгаўка* звязваецца з 'хуткім', а *жаглáк* (параўн. *жáгліўка, жáгляўка)* — з 'куслівым'.

**Жáгва** 'грыб Piptoperus або іншыя з сям'і Polyporaceae, губа; трут' (бяроз., Шатал.; тураў., КСТ). Польск. *żagiew* 'грыб Polyporus'; параўн. рус. кастр., уладз., маск. *жáгра, жагара* 'тс' (СРНГ, Іванова), серб.-харв. *жêг* 'трут'. Паводле Міклашыча (406), польск. (і славац. *žahev*, якое, аднак, не пацвярджаецца *SSJ* і Калалам) і рус. словы ўзыходзяць да слав. кораня **žeg-*. Гэта прымаюць Брукнер, 664; Фасмер, 2, 32—33. Гараеў (105) побач з гэтым прыводзіць балт. паралелі са значэннем 'галлё' (гл. *жагáры*), а Праабражэнскі (1, 220) адзначае няяснасць утварэння. Бел. і польск. формы ўказваюць на прасл. аснову на **ū* (параўн. Бернштэйн, Чередования, 232—234, дзе шэраг прыкладаў назваў раслін на **-ū: *bruky, *bъty, *kl'uky, *bolgy* 'баравік' і інш.). Этымалогія і словаўтваральная мадэль слоў на **-ū* часта няясныя, шэраг з іх запазычаныя *(*pigy, *bruky, *tyky)*, ёсць і аддзеяслоўныя (**stęgy* 'раменьчык для абутку' і інш.). Лучыц-Федарэц (Бел.-польск. ізал., 80—81) лічыць, што бел.-польск. паралель (Тарнацкі, Studia, к. 77) адлюстроўвае ўплыў балт. словаўтваральнай мадэлі (літ. *degtùvas* 'запал, запальнік' пры *dègti* 'паліць'), што не зусім пераканаўча, бо не тлумачацца шляхі і магчымасці такога ўплыву. Паколькі пашырэнне слова паўн.-слав., магчыма, трэба ўлічыць рус. *чага* 'жагва' < комі *тшак* 'тс' (Фасмер, 4, 310; Мацвееў, Финно-угор. заимствования, 37), хаця слова вядома і на Палессі (Ніканчук, Матеріали, 62), а таксама суадносіны *č* — *s* у фіна-ўгор. мовах (Основы финно-угорского языкознания, 122—124) пры пошуку крыніцы слав. кораня. Няясна. Ст.-бел. *жакгва, жакгев* 'галавешка, факел' < < польск. *żagiew* 'тс' (Булыка, Запазыч., 112).



**Жáгіль** 'вочап у студні' (смаляв., ДАБМ, каментарыі, 809). З літ. дыял. *žãgilas* (Урбуціс, Baltistica, V (1), 59; Лаўчутэ, Сл. балт., 66).

**Жагíні**, *жэгéні, жэгíні, жэгяні, жáглі* (з выбухным *г*) 'азярод'. З *žaginiaĩ* 'тс' (Сл. паўн.-зах.; Урбуціс. Baltistica, V (1), 59; Лаўчутэ, Сл. балт., 30).

**Жáгліўка** 'пякучая крапіва' (гарадоц., Нар. лекс., 34). Як і *жáгляўка* (гл.), утворана ад незафіксаванага прыметніка (**жаглівы* 'кусліві'). Параўн. *жыгучка* 'крапіва' (гл). Цікава адзначыць славац. *žihl'ava* 'крапіва' з блізкай суфіксацыяй.

**Жагляваць** 'веяць (пра вецер)' (Сцяц.). Выбухное *г* і месца пашырэння (гродз.) указваюць на польск. крыніцу: *żaglować* 'узнасіцца ў паветра (аб птушцы, планеры)', з далейшым пашырэннем значэння. Польск. форма звязана з *żeglować* 'кіраваць суднам, асабліва парусным' (> ст.-бел. *жекглевати, жеглевати, жаклевати, жеклевати* 'тс' (Булыка, Запазыч., 113), *żagiel* 'парус' (> ст.-бел. *жагель, жакгель* 'тс' (Булыка, Запазыч., 112) < ням. *Segel* 'парус' (Брукнер, 660—661).

**Жáгляўка** 'мурашка' (Янк. I). Як і *жáгліўка* (гл.), відаць, да *жыгáць* 'калоць; кусаць' (гл.) праз прыметнік на *-ляв-* (**жаглявая мурашка* 'кусліваая мурашка').

**Жагнáць** 'благаслаўляць' (ТСБМ). Польск. *żegnać*, чэш. *žehnati*, славац. *žehnat'*, в.-луж. *žohnować*, н.-луж. *žognowaś*, славен. *žẹ̑gnati*, харв. *žegnati* 'благаслаўляць' (Скок) (і ў розных мовах развітыя адсюль значэнні 'развітвацца', 'дзякаваць', 'выказваць жаданне'). Ст.-бел. *жекгнати, жегнати* 'тс' з канца XV ст. (Булыка, Запазыч., 113—114). З польск. (зафіксавана ў канцы XIV ст. у значэнні 'чараваць', з XV ст. 'благаслгаўляць'; Рэчак), дзе (магчыма, праз чэш.) з ням. *segnen* (Брукнер, 664), дзе з ц.-лац. *signare* 'адзначаюць крыжам' ад лац. *signum* 'знак', ц.-лац. 'знак крыжа' (Дудэн, 633). Літ. *žegnóti(s)* < < польск. ці бел. (Фрэнкель, 1295).

**Жагнýцца** 'сцепанууцца, скалануцца ад вельмі гарачай ці халоднай вады' (навагр., З нар. сл., 57). Магчыма, тлумачэнне праз семантычны пераход ад *жагнацца* 'хрысціцца' (са спалоху, ад нечаканасці) або хутчэй *жахнуцца* 'спалохацца' (адно

з адценняў значэння: 'у жаху адхіснуцца', ТСБМ) з экспрэсіўным азванчэннем зычнага *(x > г)*. Не выключана кантамінацыя абодвух слоў.

**Жагры** 'саха' (**г** выбухное). З літ. *žãgrė* (Сл. паўн.-зах.).

**Жада́ць** 'хацець нешта зрабіць, зычыць' (ТСБМ). Рус. дыял. *жада́ть* 'тс', укр. *жада́ти* 'жадаць, дамагацца', польск. *żądać* 'тс', в-луж. *žadać* 'дамагацца, хацець', н-луж. *žedaś* 'жадаць', чэш. *žádati*, славац. *žiadat'* 'дамагацца, жадаць', балг. *жадувам* 'хацець', макед. *жеднее* 'тс', серб.-харв. *жéђати, жѐднети* 'моцна хацець', славен. *žéjati* 'хацець'. Ст.-слав. **жадати** 'мець смагу; моцна хацець', ст.-рус. *жадати* 'тс'. Гэта значэнне замацавалася ў рус. мове за другаснай формай гэтага ж дзеяслова — стараславянізмам *жаждаць*. У бел. і ўкр. для перадачы такога значэння замацаваўся дзеяслоў *прагнуць, прагнути*. Гэта адзначыў ужо Бярында (36), перакладаючы *жадаю* 'прагну'. За дзеясловам *жада́ць, жадати* асталося значэнне 'моцна хацець', суадноснае са значэннем рус. *желать*, якое не мае бел. і ўкр. паралелей, што ўказвае на магчымасць пэўнай семантычнай кантамінацыі. Пры станаўленні значэнняў слова *жада́ць* на бел. (і ўкр.) мову мела, відаць, уздзеянне польск. *żądać*, што адлюстравалася ва ўкр. *жадати* 'моцна хацець, вымагаць' (як і ў польск.). Апошняе адценне не замацавана ў бел., дзе развілося спецыфічнае адценне значэння 'зычыць, выказваць добрыя пажаданні'. Прасл. **žęd-* (з насавым інфіксам цяп. ч.) параўноўваецца з літ. *gedáuti* 'жадаць чагосьці, імкнуцца да чагосьці', *gedė́ti* 'імкнуцца, тужыць', а таксама шэрагам форм і.-е. моў з іншымі ступенямі чаргавання галосных. І.-е. корань, відаць, **gᵘhedh-* 'прасіць, хацець'. Фасмер, 2, 33; Скок, 3, 675; Махэк$_2$, 721; Брукнер, 663; Покарны, 1, 448. Траўтман (82), Фрэнкель (144) суадносяць літ. словы са слав. **žьdati* 'чакаць', якое ў Покарнага (1, 426—427) трапляе ў іншы корань **gheidh-* з тым жа значэннем 'жадаць'.

**Жадзён** 'які церпіць нястачу ў самым неабходным' (ТСБМ), *жа́дны* 'прагны, скупы' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *жа́дный*, польск. уст. *żądny* 'прагны', чэш. уст. *žadný* 'жадаючы', в.-луж. *žadny* 'прагны; нячасты', н.-луж. *žadny, žedny* 'пажадлівы, агідны; нячасты', балг. *жа̀ден, жѐден*, макед. *жеден*, серб.-харв. *жéдан*, славен. *žéjen* 'прагны'. Як і *жада́ць* (гл.), да прасл. **žęd-*; прыметнік утвораны з суфіксам **-ьn-* ад бессуфіксальнага імя **žędъ*. Шанскі, 1, Ж, 273; Шанскі, ЭИРЯ, 3, 67; Пятлёва, Этимология, 1970, 213.

**Жа́дзіна**, *жадзёба, жаднюга* 'скнара' (Сл. паўн.-зах.). З рознымі суфіксамі ад асновы *жадзён* (гл.).



**Жа́дны** 'ніякі, ніводны' (ТСБМ), *жо́дны* 'тс' (Багушэвіч). Рус. дыял. смал., кур., варонеж., паўд., свярдл. *жа́дный*, укр. *жо́ден, жо́дний, жа́дний*, польск. *żadny*, чэш. *žádný*, славац. *žiaden, žiadny*, в.-луж. *žadyn, žane*, н.-луж. *žeden* 'тс'. Ст.-бел. *жадный, жаденъ* (з 1338 г.) 'ніякі'. Выказваецца думка, што ст.-бел. < польск. Гіст. лекс., 91—95; Булыка, Запазыч., 112; Трубачоў, ВЯ, 1959, 1, 28—33; Махэк$_2$, 721. Апошні лічыць польск. < чэш. у сувязі з адсутнасцю насавога галоснага. Брукнер (660) ставіў пры ўказанні на ўкр. < польск. пытальнік. Сяткоўскі (Bohemizmy fonetyczne w języku polskim, II, 1970, 25—27) дапускае магчымасць узаемадзеяння ўнутраных і знешніх фактараў пры замацаванні польск. формы, паколькі насавыя засведчаны ў ст.-польск. і славін. Гл. яшчэ Булахаў, Прым., 3, 73—75. Існуюць дзве этымалагічныя версіі паходжання слова: з кораня **žęd-* (гл. *жада́ць, жадзён*) або з выразу **ni-že-jedьnъ*. Агляд іх даў Трубачоў, які прыводзіць шэраг фактаў і паралелей і абгрунтавана схіляецца да другой, звяртаючы ўвагу на ўкр. *жо́ден* (пра ўкр. слова гл. Бяўзэнка, Доповіді і повідомл., Ужг. ДУ, 4). Паводле Трубачова, безумоўна, характар польск. запазычання мае форма *жа́дны*. Літ. *žẽdnas* 'жадны' < бел., польск. (Фрэнкель, 1295).

**Жазло́** 'посах асобай формы, сімвал улады; палачка ў рэгуліроўшчыка вулічнага руху; стрыжань з дужкай пры рэгуліроўцы руху паяздоў' (ТСБМ). Рус., укр. *жезл.*, дыял. *жезло́*, чэш. *žezlo*, уст. *žezl*, славац., в.-луж. *žezlo*, балг. *жезъл*, макед. *жезол*, серб.-харв. *жѐзло*, славен. *žêzlo* 'тс'. Ст.-слав., ст.-рус. **жьзлъ** 'посах, жазло', ст.-бел. *жезлъ*. Параўн. серб.-харв. *жéжељ* 'посах, кол'. Лат. *ziz(i)ls* 'посах' < ст.-рус. (Пагодзін, Следы, 161; Мюленбах — Эндзелін, 4, 730). Ст.-бел., а таксама шэраг сучасных слав. слоў з сімвалічным значэннем могуць узыходзіць да ст.-слав. Першаснае канкрэтнае значэнне 'посах' адлюстроўваецца ў ст.-слав. **жьзлъ**, серб.-харв. *жежељ* і, магчыма, рус. калым. *жезе́л* 'посах'. Трубачоў (Зб. Раманскаму, 137—140) супастаўляе са ст.-ісл. *geisl* 'посах' (ням. *Geissel* 'пуга'), а далей з грэч. χίλιοι 'тысяча'. Апошняе семантычна цяжка: 'посах з зарубкамі' хутчэй мог бы абазначаць дзесятак, сотню, што прызнаў і Махэк$_2$ (726), адмовіўшыся ад папярэдніх параўнанняў з *žehlo* (Махэк$_1$, 594), да якіх, па сутнасці, прыйшоў Младэнаў (165), параўноўваючы *жезъл* са словамі з коранем **žig-*, і якія падтрымлівае БЕР (1, 531), звязваючы з *жегъл* (гл *жыга́ла$_1$*). Да Трубачова звычайна ст.-сл. **жьзлъ** параўноўвалі з ням. *Kegel* 'кол', што мае фанетычныя цяжкасці, як і этымалогія І. Шмідта, да якой узыходзіць пункт гледжання Трубачова. Фасмер (2, 40) прыхільна аднёсся да параўнання з арм. *gzri* 'чарот'. Скок (3, 679) не атаясамлі-

вае ў адрозненне ад Трубачова серб.-харв. *жѐзло* і *жежель*, звязваючы апошняе з ц.-слав. **жѧжєль** 'ашыйнік'. Аб *žęželь* гл. Варбот, Этимология, 1979, 32—34.

**Жак** 'рыбалоўная прылада'. Рус. дыял., укр. *жак* 'тс'. Ст.-бел. *жак* 'тс' з 1599 г. (Булыка, Запазыч., 113) з польск. *żak* 'тс' < ням. *Sack* 'мяшок, кішэнь' (Брукнер, 661). Рус. праз бел., укр. з польск. Фасмер, 2, 33. Герм. з лац. *saccus* 'мяшок, фільтр' (у рымскія часы) < грэч. *σακκος* 'грубая тканіна' < semiцк. *saq* 'тканіна з валасоў, мяшок' (Дудэн, 582; Вальдэ — Гофман, 2, 458—459). Такое ж канчатковае паходжанне мае *сак* 'рыбалоўная прылада; адзенне' (гл.).

**Жакéй**. З рус. *жокéй* < франц. *jockey*, англ. *jockey* 'тс'. У рус. зафіксавана з першай палавіны XIX ст. (1845 г., у Грыбаедава ў форме *жоке*). На рус. (а не польск.) крыніцу ўказвае націск. Англ. *jockey* ад паўн.-англ. або шатландскага ўласнага імя *Jock* < *Jack* (Джэк) з памяншальным *-y* (Concise Oxford Dictionary$_5$, 654). Шанскі, 1, Ж, 295.

**Жакéт** 'кароткае жаночае верхняе адзенне', *жакéтка* 'тс', 'пінжак' (ТСБМ). З рус. *жакéт* 'тс' (на што ўказвае націск). У рус. зафіксавана *жакéтка* (1858 г.), *жакéт* (1866 г.), у польск. *żakiet, żakietka* фіксуецца з 1872, 1882 гг. (Вечаркевіч, SW). Дыял. *жáкят* 'тс' (Сл. паўн.-зах.) з польск. У рус. (і польск.) з франц. *jaquett* (1375 г.) — памяншальнага ад *jaque* 'куртка' (1364 г.), якую насілі сяляне, таму, магчыма, ад уласнага імя *Jacque*, частага сярод сялян, ужыванага як мянушка (Блох — Вартбург, 344), або араб. *schakk* 'куртка' (Даза, 418). Фасмер, 2, 34; Шанскі, 1, Ж, 273.

**Жакí** 'дзеці, што хадзілі на каталіцкі вялікдзень з вітаннямі і рацэямі па хатах' (валож., Жыв. сл., 41), 'валачобнікі' (Сл. паўн.-зах.). Рус. смал. *жак* 'вучань, студэнт', укр. *жак* 'шкаляр, бурсак' (Грынч.). Ст.-бел. *жакъ* 'каталіцкі царкоўны служыцель, шкаляр' (1423—1438 гг., Булыка, Запазыч., 112—113). З польск. *żak* 'вучань, царкоўны служыцель' (з XV ст., Рэчак) < чэш. *žak* < раманск. (магчыма, паўн.-італ. *zago*), с.-лац. *zaco* < лац. *diacus* < грэч. *διάκονος* (> *дыякон, дзяк*, гл.). Брукнер, 661; Фасмер, 2, 34; Голуб — Копечны, 441; Махэк$_2$, 721; Скок, 3, 670; Безлай, 1, 101.

**Жакт** 'жыллёва-арэнднае кааператыўнае таварыства, якое існавала ў 20—30-я гады' (ТСБМ). Паралельная з рус. *жакт* або запазычаная з рус. абрэвіятура 20-х гадоў. Шанскі, 1, Ж, 274. На магчымасць паралельнага ўтварэння ўказвае іншая структура адпаведнай абрэвіятуры на Украіне: *житлокооп*.

**Жал** 'крыўда' (Бяльк.): *«жалу б ні було, каб свой конь стравіў авёс, а то чужэй»* (Краснап.). Відаць, суадносіцца з *жаль* (гл.) і іншымі як бяссуфіксны назоўнік. Але не выключана запазычанне літ. *žalà* 'крыўда, шкода', магчыма, кантамінацыя з адназначнымі слав. словамі. Супраць гіпотэзы запазычання геаграфія.



**Жáла**. Гл. *джáла*.

**Жалабáціцца** 'выгінацца, карабаціцца' (Карэліц., Нар. сл., 86). Параўн. укр. *жолóбитися* 'карабаціцца', рус. *желобúть* 'рабіць жолаб' і да т. п. Утворана суф. *-іц* + *ца* ад прым. **жалабаты* 'жалабаваты', вытворнага ад наз. *жолаб*.

**Жалабóк** гл. *жóлаб*.

**Жáлаванне** (ТСБМ). У 60-х гадах XIX ст. з рус. *жалование* 'тс' (Гіст. лекс., 238). Ст.-рус. *жалование* 'падарунак' ад *жаловати* 'аказваць міласць, жалець', якое мае той самы корань, што *жаль* (гл.). Значэнне 'плата за працу, што выдаецца ў вызначаны тэрмін' атрымала ў XVIII ст. (Булахоўскі, 3, 367—368; Гарбачэвіч, РР, 1967, 5, 41—42).

**Жаламýсцік** 'расліна бружмель, Lonicera L.' (Касп.), *жымаласць* 'тс' (Кіс.), *жаламýдзіна* (Касп., Яшкін), *жыламаць* 'расліна ядловец, Juniperus L.' (Нас., Юрч.). Рус. *жимолость* 'бружмель', арханг. *желомýдина, желомут(ник), желомýстник*, калін. *желомýдник, желомýстина*, пск. *желомýдняк*, укр. *жúмолость*, польск. *zimolza*, чэш. *zimolez* 'бружмель', славен. *zimolęz* 'кізіл', серб.-харв. *зѝмолист* 'каліна'. Формы *жаламусцік* і *жымаласць* тлумачацца, відаць, метатэзай зычных; гэта і іншыя змены выкліканы пошукам унутранай формы назвы расліны, маюць народна-этымалагічны характар. Этымалогія слова няпэўная: зводзяць да **зимолистъ* (Праабражэнскі, 1, 233), **zimozel(en)* (Махэк, Jména rostl., 223), **ži-molztь* < *ži-mlza*, дзе *-mlz-* з **mlzǫ* 'даю, ссу' (Трубачоў, Дополн., 2, 56), звязваюць з *жыла* (Гараеў, Доп., 2, 12; Шанскі, 1, Ж, 291). Гл. яшчэ Фасмер, 2, 55. Ці не трэба лічыць, прынамсі, для *жыламаць* крыніцай або вытокам уплыву літ. *žalùmas, žālymas* 'зялёная расліна, зеляніна'? Гл. яшчэ Трубачоў, ZSl, 3, 5.

**Жалапáцца** 'гарлапаніць' (карэліц., Нар. сл., 86; Жыв. сл., 70, 78). Укр. *желіпáти* 'крычаць, раўці'. Параўн. яшчэ славен. *žlabotáti, žlabráti* 'балбатаць', якія Плетаршнік параўноўвае з ням. *schlabbern* 'тс'. Літ. *žlèptelėti* 'ляпнуць', лат. *žļebêt, žleberêt* 'балбатаць', відаць, з зах.-слав. I.-е. корань **ghelp-* 'крычаць' (Покарны, I, 350, 428). Гл. яшчэ *жалапáць*.

**Жалапáць** 'піць' (Сцяц.), *жолопáты* 'жэрці, жаваць' (Клім.), *жалубáць* 'есці' (чэрв., Жд. 2; жлоб., Жыв. сл., 115), 'піць' (маладз., Янк. Мат., 98; вілейс., Нар. сл., 139). Рус.

прыбалт. *желубáть* 'есці (пра жывёл)' (< бел.?), укр. *желіпáти* 'марудна есці', *жолопáти* 'жэрці', польск. *żłopać* 'піць многа (пра жывёл, пагардліва пра людзей)', дыял. *żłepać*, памор. *žlepa* 'тс', славен. *žlę̑bati* 'многа піць'; параўн. балг. *жлѐвя* 'жаваць'. Літ. *žliaũbti* 'жэрці, уплятаць', лат. *žļebinât* 'жаваць'. Калі рэканструяваць прасл. **želp-* або **želb-*, трэба лічыцца з тым, што літ., а магчыма, і лат. словы запазычаны са слав. (польск., памор.). І.-е. асновай для адзначанай прасл. рэканструкцыі магло б быць **gel-*, *g<sup>u</sup>el-* 'глытаць' (Покарны, 1, 365) з лабіяльным пашырэннем: **gelb-*. Параўн. швед. дыял. *kulp* 'глыток'. Гл. яшчэ *глытаць, жалапацца, жлокаць*. Меркаванні пра запазычанне *жалубаць* з літ. (Лаўчутэ, Сл. балт., 109) патрабуюць дадатковай фанетычнай і семантычнай аргументацыі.

**Жалдóбак** 'камяк (у ежы)' (Касп.). Няясна. Параўн. *жолуд, жалубаць (жалапаць), жайлак, калдуны* (БРС). Рус. *колобок* і пад. Спалучэнне *-лд-* можа ўказваць на запазычаны характар, але гэта не ўносіць пакуль што яснасці. Трэба адзначыць рус. яросл. *жёлды* 'залоза', звязанае з *жёлвь* 'жаўлак' (?).

**Жалéза**₁ Рус. *желéзо*, укр. *залíзо*, польск. *żelazo*, чэш., славац., в.-луж. *železo*, н.-луж. *zelezo*, палаб. *zil'ozü*, балг. *желязо*, макед. *железо*, серб.-харв. *жѐлезо*, славен. *želę̑zo* 'тс'. Ст.-слав., ст.рус. **желѣзо** 'тс'. Літ. *geležìs*, лат. *dzèlz(i)s* 'тс', ст.-грэч. χαλκός 'медзь'. Покарны (1, 435) дае праформу **ghel(ĕ)g̅h-*. Паводле Трубачова (ВСЯ, 2, 1957, 31—34), які адкідвае думку некаторых папярэднікаў (Мейе, Общеслав., 408) пра запазычаны характар слова, яно звязваецца са словамі, што абазначалі камяні, косці (перанос па падобнасці і функцыі): польск. *głaz*, рус. *глаз* 'каменьчык' > 'вока', ст.-слав. **желы**, бел. *жаўлак* (гл.), грэч. χέλῦς 'чарапаха', *галава* (гл.). Тады выдзяляецца і.-е. корань **ghel-* 'камень'. Улічваючы польск. *żeliwo* 'чыгун', *-z-o* (<*-g'h-) мае суфіксальны характар (Шанскі, 1, Ж, 281). Гл. яшчэ Фасмер, 2, 42—43; Траўтман, 83; БЕР, 535 (дзе этымалогія Трубачова кваліфікуецца як няпэўная).

**Жалéза**₂ 'жалезная рэч' (у тым ліку 'свяцільня') (Сл. паўн.-зах.). Пераноснае, паводле матэрыялу, ад *жалéза*₁.

**Жалéзка** 'чыгунка' (пераважна ў мове партызан у 1941—1945 гг., ТСБМ). Рус. кіраўск. *желéзка* 'тс' (СРНГ). Утворана на базе спалучэння *жалезная дарога* ў выніку кандэнсацыі пры дапамозе суфікса *-к-а*; параўн. *чыгунны шлях* > *чыгýнка* і г. д. (Ісачанка, Slavia, 27, 1958, 338). Магчыма разглядаць і як павышэнне актыўнасці слова, якое існавала яшчэ ў XIX ст., але магчыма новаўтварэнне. Уст. *жалéзніца* 'чыгунка' (1881 г.) з укр. уст. *желізниця* (Жэлях.) ці *залізнúця* (Гіст. лекс., 261). Параўн. у Коласа («На ростанях») *жалязняк* 'чыгуначнік'.



**Жалéзнік** 'гаршчок' (шчуч., З нар. сл., 42). Рус. наўг., пск., прыбалт. *желéзник* 'коўш, кацёл', чэш. *železník*, в-луж. *železnik*, н.-луж. *zeleznik* 'тс'. З суф. *-ік* утворана ў выніку кандэнсацыі словазлучэння тыпу *жалезны гаршчок*. Параўн. *чыгун*.

**Жалéзніца** 'шчотка з металічнымі зубамі для часання лёну' (мядз., Нар. сл., 59). *Жалезн-(ая шчотка)* + *іц-а*.

**Жалéзы** 'пастка' (докш., Янк. Мат., 138). Рус. смал., калін., наўг., пецярб., калуж., валаг. *желéзо*, *желéзы* 'тс', самар., калуж. 'кайданы', польск. *żelaza* 'пастка', чэш. *železa*, славац. *železo* 'пастка, кайданы', серб.-харв. *жѐлеза* 'пастка', славен. *želę̑za*, балг. *железа* 'кайданы'. Ст.-слав., ст.-рус. **желѣза** 'кайданы'. Параўн. с.-в.-ням. *îzen* 'кайданы, ланцугі'. Улічваючы тэматычную прыналежнасць і пашырэнне значэння, магчыма, яшчэ праславянскае пераасэнсаванне, хаця не выключана і пазнейшае семантычнае ўтварэнне.

**Жалéйка** 'музычны інструмент'. Рус. смал., тамб. *жалéйка*, тул., варонеж., разан., калуж., горк., пск., смал. *желéйка*, пск., калін. *жалея́* 'тс'. Паводле Мартынава — Міхневіча (Маладосць, 1970, 7, 150), ад назоўніка *жаль* (гл.) з суф. *-ейка* па характары гуку, якім вылучаўся гэты народны інструмент. Дакладней, непрадуктыўны суф. *-ейка* суадносіцца з дзеяслоўнымі асновамі: *варейка, лупейка, калатэйка* (Сцяцко, Афікс. наз., 37), а значыць, не з *жаль*, а з *жалець*. Але ці толькі жаллівыя гукі выдае дудка? Даль побач з такім тлумачэннем дапускаў магчымасць суаднясення з *жилиться* (Даль, 1, 524), што не матывуецца, а таму мала верагодна. Трэба ўлічыць пск. *жёледь, жёледка* 'трыснёг, з якога робяцца дудкі, жалейкі'. *Жёледка* магло пераўтварыцца ў *желейка, жалейка*. Пераход *д* > *й* адзначаецца яшчэ: *маладзец* — *малайцы, рада* — *райца (радца)*, Карскі, 351. Назвы муз. інструмента па матэрыяле сустракаюцца; параўн. *ражок, рог, кастаньеты*. У далейшым, верагодна, адбывалася кантамінацыя народнаэтымалагічнага характару з коранем *жаль*. Адносна паходжання *желедь, желедка* гл. у Фасмера, 2, 41, *жёлдь* I, дзе ён адкідвае сувязь з *жалуд*, прапанаваную Міклашычам (407), і схіляецца да думкі Шахматава пра першасную форму **жьльдь*, што, аднак, не тлумачыць паходжання гэтага кораня.

**Жалéтка**₁ 'камізэлька' (Бяльк.; навагр., Нар. сл., 76, 236; Сл. паўн.-зах.). З рус. *жилéтка* (з 1784 г.), *жилéт* (з 1799 г.)

'тс', франц. *gilet* 'тс' (з 1557 г.) < ісп. *jileco* (суч. > *jaleco*) < < араб. (XVI ст.) *jalako, jaleko* 'куртка' < тур. *yelek* 'камізэлька'. Даза, 362; Блох — Вартбург, 290. Паводле іншай, менш верагоднай версіі, франц. *gilet* ад імя шута *Gille* (Шанскі, 1, Ж, 292).

**Жале́тка₂** 'лязо для бяспечнай брытвы' (шчуч., 3 нар. сл., 42). Новае (відаць, 20—30-я гады) запазычанне з польск. *żyletka* 'тс' < франц. *Gillette* (прозвішча вынаходніка, адкуль і назва фірмы). Дарашэўскі, 10.

**Жа́лець** 'тлець' (Янк. I; брагін., 3 нар. сл., 156; жыт., Мат. Гом.), *ужале́ць, ужале́цца, ужа́ліцца* 'ўпрэць, добра зварыцца' (Юрч., Бяльк., Жд. 1; беш., Нар. сл., 97; полац., Вусн. інф. А. Я. Баханькова). Рус. сімб. *жа́леть* 'награвацца, брадзіць', укр. бук. *жа́літи* 'псавацца (пра харчовыя прадукты)'. Параўн. *жаліць* 'пячы (пра крапіву)'. Памор. *žaləc* 'гарэць, тлець', н.-луж. *žalny* 'палымнеючы, гарачы'. Выгонная (Бел.-польск. ізал., 22—27) упершыню звярнула ўвагу на гэтыя суадносіны, указвае на сувязь *жалець* 'тлець' са ст.-польск. *żal* 'гарэнне' і словамі тыпу *жальня* (гл.), *жальнік* 'могілкі'. *Жаль* (гл.) і пад. адносяцца да і.-е. *$g^{u}el$- 'калоць', 'боль, мука, смерць'; значэнне 'гарэць' у яго і.-е. паралелях амаль не прадстаўлена (толькі лат. *dzelt*). Таму *жа́лець* 'тлець', відаць, суадносіцца з *жар* (гл.); і.-е. коранем *$g^{u}her$- (Покарны, 1, 495) і *$g^{u}hel$-. Супрун, Зб. Геаргіеву, 268—272; Куркіна, Этимология, 1981, 164; Бернштэйн, Чередования, 12; Пятлёва, Этимология, 1973, 44—47. Гл. *жу́ляць, жу́раць*.

**Жало́ба** 'смутак', 'памінкі' (Сл. паўн.-зах.). Ад кораня, прадстаўленага ў *жаль* (гл.) з суфіксам *-оба*.

**Жало́жнік** 'вугал насупраць печы' (Сцяшк. МГ: *«уся пасуда ў нас стаіць у жаложніку»*). Відаць, недакладна ўказана семантыка; фанетычная асіміляцыя: першае *ж* замест *з*: *заложнік* 'паліца для пасуды' (гл).

**Жало́за** (Сцяшк. МГ). Гл. *зало́за*.

**Жало́нка** 'пасудзіна ў свідравіне' (ТСБМ). З рус. *жело́нка* 'тс', памянш. ад *жёлн, жолон*, звязанага з *жёлоб* (гл. *жо́лаб*). Фасмер, 2, 43.

**Жалу́д** 'плод бульбы' (расон., Шатал.). Акцэнтны варыянт *жо́луд* (гл.). Перанос значэння па функцыі, памеру, а магчыма, і горкаму смаку.

**Жалу́дак** 'страўнік' (Сл. паўн.-зах.). З рус. *желу́док* 'тс' няпэўнага паходжання (Фасмер, 2, 44).

**Жалу́дачак** 'частка сэрца' (ТСБМ). З рус. *желу́дочек* 'тс', утворанага як памяншальнае ад *желудок* 'страўнік' з няпэўнай этымалогіяй. Фасмер, 2, 44.



**Жаль**, *жа́ласлівы, жа́ласны, жа́ласць, жа́ліцца, жа́льба* і іншыя вытворныя (ТСБМ). Рус. *жаль* 'шкада', укр. *жаль* 'жаль', польск. *żal*, чэш. *žal*, славац. *žial*, в.-луж. *žel*, н.-луж. *žal*, балг., макед. *жал* 'тс', серб.-харв. *жа̑о* 'шкада', славен. *žàl* 'шкада, жаль'. Ст.-слав. **жаль** 'шкада'. Літ. *gėlà* 'боль; жаль', ням. *Qual* 'мука', арм. *kel* 'нарыў'. Прасл. **žalь* утворана з асновай на *-ь* (< *ĭ*) на базе і.-е. кораня *$g^{u}el$- 'калоць, боль, мука, смерць' (Покарны, 1, 470—471). Фасмер, 2, 34—35 (дзе і іншая літ-ра); Скок, 3, 671. Гл. яшчэ *жалець*.

**Жальня́** 'могілкі' (Шпіл.), *жальнік* 'тс' (Яшкін). Рус. паўн. *жальник*, польск. *żalnik* 'тс'. Выгонная (Бел.-польск. ізал., 24—26) звязвае з *жалець* (гл.), г.зн. са спальваннем трупаў, насуперак Львову (Очерки по лексике памятников ст.-слав. письменности, 1966, 103; ЭИРЯ, 5, 66—68), які лічыў, што *жаль(ник)* абазначала надмагільнае збудаванне там, дзе адсутнічала спальванне трупаў. Міклашыч (406), Брукнер (661) лічылі, што адпаведныя словы якраз абазначаюць месцы спальвання трупаў. Наяўнасць *жа́лець* 'тлець' пацвярджае гіпотэзу Міклашыча і Брукнера, якія аб гэтым слове не ведалі.

**Жаля́зка₁** (ТСБМ), *жале́зка* (Нас.) 'лязо (нажа, гэбля і г. д.)'. Рус. алан., валаг. *желе́зка* 'частка гэбля', абл. *желе́зко* 'жалезны наканечнік, лязо, вастрыё'. Форма з *-я-* з польск. *żelazko* 'жалезныя часткі розных прадметаў' (Сцяц. Словаўтв., 123). Форма, зафіксаваная Насовічам,— руска-беларускае ўтварэнне ад назоўніка *жалеза* з памянш. суфіксам *-к-а*. Параўн. чэш. *želízko*, славац. *železko*, славен. *železo* 'лязо, наканечнік'.

**Жаля́зка₂** (ТСБМ), *жале́зка* (Нас.), *зале́зка* (Байк. і Некр.), *зяле́зка* (Гарэц.) 'прас'. З польск. *żelazko* 'тс', безумоўна, форма *жаля́зка* (Сцяц. Словаўтв., 123). Форму *желѣзко*, якую дае Насовіч (154), магчыма тлумачыць як трансфармаваны на ўсх.-слав. лад паланізм або як незалежнае ўсх.-слав. утварэнне (у адрозненне ад *жаля́зка₁* не зафіксавана адпаведнае рус. слова, што зніжае верагоднасць уласна ўсх.-слав. утварэння). Слова пашырана, апрача польск., у н.-луж. *zelezko* 'прас', а ў в.-луж. *železko* 'жалезны стрыжань — укладыш у прас'. Славен. *železo*, палаб. *zil'ozü* маюць значэнне 'прас'. Усе гэтыя мовы мелі сувязь з ням., а паколькі ў герм. мовах слова са значэннем 'жалеза' выкарыстоўвалася і ў значэнні 'прас', магчыма, што польск. трэба лічыць калькай, хаця не выключана і ўтварэнне (пераасэнсаванне) на слав. глебе.

**Жалязня́к₁** 'парода, што змяшчае жалезную руду' (ТСБМ).

Рус. *железня́к*, укр. *залізня́к*, славац. *železniak*, славен. *železnjak* 'тс'. Утворана ў выніку кандэнсацыі са спалучэння тыпу *жалезны камень*. Час утварэння няпэўны, хаця наяўнасць слова ў мовах усіх трох груп, а таксама семантыка і словаўтварэнне (гл. SP, 1, 89) не выключаюць вельмі даўняга яго паходжання.

**Жалязня́к**$_2$ 'рыдлёўка' (абл., ТСБМ, Сцяшк. МГ, Сл. паўн.-зах.). Рус. калуж. *железня́к*, смал. *желе́зник* 'лапата'. Утворана ў выніку кандэнсацыі са спалучэння *жалезная лапата* пры дапамозе суфікса *-як*, відаць, даволі позна (XIX—XX стст.).

***Жаме́ра**, *жоме́ра* 'страва з цёртай бульбы' (мазыр., З нар. сл., 163). Утворана, як і *жамяра́*$_1$, з кораня *жем-* (гл. *жа́мка*) і суфікса *-ер-а* са зборным значэннем.

**Жаме́рыны** 'адходы пасля выціскання соку або алею з чаго-н.' (ТСБМ), 'адходы ад воску' (глыб., рагач., З нар. сл., 208), 'цвёрдае нясмачнае мяса' (драг., Нар. лекс., 223). Рус. пенз. *жаме́рина* 'кавалак макухі', укр. *жемери́ння* 'жамерыны'. Утворана ад *жамяра́*$_1$ (гл.) з суфіксам *-ина*, у мн. л. *-ин-ы;* параўн. *скалоціны, атрушыны, перажовіны* і г. д. у значэнні 'адходы' (Сцяц., Афікс. наз., 44). Гл. *жмуха́, жаць*$_2$.

**Жа́мка** 'пернік' (Мат. Гом., Нар. словатв., 127). Рус. кур. *жа́мка* 'тс', кастр. (1853 г.) *жа́мочка* 'ласая ежа з маку і мёду', пск., калін., сімб., куйбыш. *жамо́к* 'пернік', 'сціснуты кавалак ежы (напр., хлеба)', горк., калін., куйбыш., валаг., алан. *жёмо́к* 'пернік з мядовага цеста'. Параўн. яшчэ славен. *žemèk* 'рэчыва з сыру, якое выціскваецца', серб.-харв. *жѐмичка* 'белы хлябец' звязана, відаць, з *жемља* 'тс' < ням. *Semmel*. Утворана суфіксам *-ък-* ад дзеяслоўнай асновы *жьм-, жем-* 'ціснуць'. Гл. *жмаць, жаць*$_2$.

**Жамкі́** 'цiскі (пчалярскія)' (вілейс., З нар. сл., 208). Рус. дан. *жимки́* 'слясарныя цiскі', урал. 'заціскачкі на канаце для замацавання ваганеткі', арханг., каз., сіб. *жо́мы* 'ціскі'. Утворана як мн. л. ад аддзеяслоўнага назоўніка з суф. *-ък-* і асновай *жем-* Гл. *жмаць, жаць*$_2$.

**Жамяра́**$_1$ 'шалупінне' (Касп.), 'жамерыны' (полац., Нар. сл., 76, 198), 'адходы ад воску' (ашмян., З нар. сл., 208), *ажаме́ры* 'жамерыны' (полац., Нар. сл., 76, 195), *жамяру́ха* (ашмян.) *жэмухі* 'адходы ад воску' (рагач., З нар. сл., 208). Рус. калін., пск. *жемёра, жемера́, жимера́*, 'жамерыны', 'адходы ад воску', 'гушча ад кофе, чаю, квасу', кур. *жемери́ха* 'жамерыны.' Суфікс *-ер-а, -'ар-а* мае, відаць, як і *-ар-а* (Сцяц., Бел. нар. сл., 202), зборнае значэнне. Корань *жем-, жьм-* прад-



стаўлены ў *жаць*$_2$ і шэрагу іншых слоў (гл. *жмаць*). Першаснае значэнне 'адходы пры выцісканні', як *жаме́рыны* (гл.).

**Жамяра́**$_2$ 'драбяза (пра дзяцей)' (вілейс., Жыв. сл., 78, 94). Рус. уладз. *жемера́, жимера́* 'непаседа'. У выніку пераасэнсавання *жамяра́*$_1$ (гл.): 'дробныя рэчыўныя адходы' > 'драбяза наогул' > 'дробныя дзеці'.

**Жамярва́** 'галота (пра дзяцей)' (Сцяц.). Утворана ад асновы *жамяра́*$_2$ (гл.) з суфіксам *-в-а*, які мае зборнае значэнне. Параўн. Карскі, 2—3, 24; Сцяц., Афікс. наз., 202: *дзятва, пацанва.*

**Жана́цік** 'жанаты чалавек; той. хто хоча жаніцца' (Юрч., Жд. 3). Рус. разм. *жена́тик* 'тс'. Ад *жанат-ы* з дапамогай суфікса *-ік* у выніку кандэнсацыі выразу тыпу *жанаты мужчына*, відаць, паралельна з рус.

**Жанда́р**. Рус. *жандарм*, укр. *жандар, жандарм*, польск. *żandarm*, дыял. *żandar* (ёсць у Карловіча), в-луж. *žandarm*, чэш. *žandarm*, дыял. і кніжн. зняваж. *žandar*, славац. *žandar*, славен. *žandar, žandâ̄rm*, серб.-харв. *жа̀ндāр, жа̏ндар, жа̀ндарм, жа̏ндарм*, балг. *жанда́р, жанда́рин, жанда́рм*, макед. *жандар, џандар, жандарм* 'тс'. У XIX ст. (Гіст. лекс., 245) з польск., дзе з франц. *gendarme* (з XV ст.) 'воін цяжкай кавалерыі' < < *gens d'armes* 'людзі са зброяй'. Блох—Вартбург (287), магчыма, праз ням. *Gendarm*, дзе з канца XVIII — пачатку XIX ст. (Пауль, 232). Рус. *жандарм* (з 1711 г. < франц.) 'конны воін' > 'жандар' магло зрабіць уплыў на бел. націск. Канчатковае *м* магло быць утрачана ў крыніцы запазычання ў слав. мовы, хутчэй у ням., бо з франц. менш было шырокіх непасрэдных кантактаў. З другога боку, магчыма ўтрата *м* у выніку аналогіі да слоў тыпу *арандар, уладар, гаспадар,друкар* (Вярхоў, Назоўнікі на *-ар(-яр)* у беларускай мове, 1970, 27).

**Жані́ба** 'жаніцьба' (Жд. 2). Суфікс *-ьba* выкарыстаны ў слав. утварэннях таго ж значэння адыменнага і аддзеяслоўнага характару: *жані́цьба*, рус. *жени́тьба*, славац. *ženitba*, серб.-харв. *жѐнитба* і да т. п., памор. *žeńba*, славац. *ženba*, славен. *žę̂nba*, серб.-харв. *жѐмба* і да т. п. Варыянт з *-іба* мае пашырэнне ў бел. мове, прычым гаворка ідзе не толькі аб лексічных балтызмах (Лаўчутэ, Baltistica, 1. priedas, 1972, 90—91; Мартынаў,Праславянская и балтославянская суффиксальная деривация имен, 1973, 17), але аб словаўтваральным уплыве балт. моў на слав., у першую чаргу бел. (параўн. *сялі́ба, садзі́ба*). Гл. Слаўскі, SP, 1, 62.

**Жані́ло** 'жаніх' (зэльв., Нар. словатв., 16). Рус. прыбалт. *жени́ла*, кастр., маск., калуж. *женихáло*, укр. *жени́ло*, чэш.

*ženil* 'тс'. Улічваючы наяўнасць зах.-слав. паралелі, магчыма, прасл. аддзеяслоўны агентыўны назоўнік на *-lo, -l* (Слаўскі, Sł. pfasłow., 103—104). Аднак не выключана і новае экспрэсіўнае ўтварэнне (Карскі, 2—3, 25; Сузановіч, Имена существительные с суффиксом *-л(о)* и их производные в русском языке, канд. дыс., 1973, дадатак, 75).

**Жаніх.** Рус., укр. *жених,* польск. дыял. *żenich,* чэш. *ženich,* славац. *ženích,* славен. *ženih,* серб.-харв. *жѐнӣх, жѐних,* балг. *женѝх.* Ст.-слав. **женихъ**, ст.-рус. *женихъ.* Прасл. аддзеяслоўны назоўнік з суфіксам *-х-ъ* і асновай **ženi-ti* (гл. *жаніць*). Слаўскі, SP, 1, 73; Шанскі, 1, Ж, 285; Трубачоў, История терм., 95.

**Жаніць.** Рус. *женить,* укр. *женити,* польск. *żenić,* чэш. *ženiti,* славац. *ženit',* в.-луж. *ženić,* н.-луж. *žéniś,* славен. *žéniti,* серб.-харв. *жѐнити,* балг. *жѐня,* макед. *жени.* Ст.-слав. **женити**, ст.-рус. *женити.* Прасл. адыменны дзеяслоў з суфіксам **-i-ti* ад асновы **ženь* (Мейе, Общеслав., 192); параўн. н.-луж. *žeń* 'жаніцьба'. Магчыма і суаднясенне з **žena* 'жанчына, жонка' (Шанскі, 1, Ж, 284). Гл. *жонка, жанчына.*

**Жаночы.** Укр. *жіночий* 'тс'. Зах.-рус. (ст.-бел. і ст.-укр.) утварэнне ад *женъка* 'жанчына' (укр. *жінка* 'жанчына'). Утворана як прыналежны прыметнік (параўн. *дзявочы*). Пра зах.-рус. характар слова (а не запазычанне з укр.) сведчыць пашырэнне слова ў гаворках (Сцяшк. МГ). Гл. *жонка.*

**Жанчына.** Улічваючы націск і абмежаванае літаратурнае пашырэнне, хутчэй не ўласна бел. утварэнне *(жен-ък-а, женък-ина),* а запазычанне са ст.-польск. *żenczyzna* (з XV ст. ад **žen-ъk-izna*) з пазнейшым падвядзеннем пад усх.-слав. мадэль без *-z-* (параўн. *ojczyzna, айчына,* гл.). Параўн. ст.-укр. (канец XVII ст.) *женщизна* (Цімчанка).

**Жапень** 'кароткая палка' (Бяльк.). Магчыма, утворана з суфіксам *-ень* (як *лядзень* 'ільдзіна'), аб якім гл. Сцяц., Бел. нар. сл., 152. Аб аснове гл. Фасмер (2, 61—62), аднак яе пашырэнне ў бел. мове фіксуецца абмежавана.

**Жар** 'гарачае вуголле', 'страснасць, заўзятасць', разм. 'спёка', 'гарачка' (ТСБМ). Рус., укр. *жар,* польск. *żar* 'тс', памор. *žωr* 'гарачае вуголле', чэш. *žár,* славен. *žâr* 'гарачае вуголле', 'полымя', 'зарыва', славац. *žiar* 'напал', 'ззянне', в-луж. *žar* 'гарачае вуголле', 'спёка', 'заўзятасць', балг., макед. *жар,* серб.-харв. *жâр* 'тс'. Ст.-рус. (XII ст.) *жаръ* 'вуголле, полымя'. Параўн. ст.-сл. **жеравъ** 'распалены', ц.-слав. *пожаръ* 'пажар' (Міклашыч, Lex. paleosl.). Прасл. **žarъ* 'гарачае (тлеючае) вуголле, спёка (ад яго)', адкуль развіліся іншыя пераносныя



значэнні. Значэнне 'гарачка' магло ўзнікнуць і ў сувязі з уяўленнямі аб чырвоным колеры (параўн. *жара, жары*). Прасл. **žarъ* < **gērъ,* што звязана з *гарэць* (гл.), мае паходжанне з і.-е. кораня **g$^{u}$her-* 'горача'; ст.-інд. *gharma* 'гарачае вуголле, спёка', ст.-грэч. θερμός, лац. *formus* 'цёплы' і інш. Гл. Фасмер, 2, 35; Скок, 1, 592—593; Траўтман, 79; Покарны, 1, 495 (з літ-рай).

**Жара** 'спёка', 'гарачка' (ТСБМ). Рус. *жара* 'спёка', укр. *жара* 'тс', 'гарачка', славац. *žiara* 'зарыва, гарачыня', серб.-харв. *жàра* спёка', славен. *žara* 'сып'. Варыянт ж. р. ад таго ж кораня, што *жар* (гл.). Не выключана, што значэнне 'гарачка' ўзнікла на базе значэння 'сып', вядомага шэрагу моў. Гл. *жары.*

**Жарабя,** *жарэбны, жарабок, жарабец, жарэбчык, жаробка* і інш. Рус. *жеребенок,* укр. *жереб'я,* польск. *źrebię,* в.-луж. *žrěbjo,* н.-луж. *žrěbje,* палаб. *zribą, zribă,* чэш. *hříbě,* славац. *žriebä,* балг. *ждребя, жребя,* макед. *ждребе, жребе,* серб.-харв. *ждрêбе,* славен. *žrebè.* Ст.-слав. **жрѣбѧ**, ст.-рус. *жеребя* 'тс'. Прасл. **žerbę* ўтворана з суфіксам **-ent-* > **-ę-* ад асновы **žerb-,* і.-е. **gerbh- /*g$^{u}$erbh-/ *g$^{u}$reb-* (Трубачоў, Происх., 53). Апошняе са значэннем 'плод, маладая жывёла, дзіця' (Покарны, 1, 485) суадносіцца з грэч. βρέφος 'тс'; з слав. параўноўваюць таксама ст.-інд. *gárbha* 'чэрава, плод', авест. *garəva-* 'тс' (Трубачоў, Происх., 53; Фасмер, 2, 48). Скок (3, 673) далучае і супастаўленне з ням. *Kalb* 'цяля'; Махэк$_2$, (188) параўноўвае з герм. **xvelpa-z* (ням. *Welf*) 'іштаня', хец. *huelpi* 'маладая жывёла'. Бенвяніст (Индоевр., 182) адзначаў, што падзел асноў I **g$^{u}$er-bh-* і II **g$^{u}$r-ebh-* адбыўся яшчэ ў і.-е., што і адлюстравалася ў санскр. і грэч. формах. Слав., натуральна, належыць да першай.

**Жарало** 'адтуліна (у зямлі, посудзе, дрэве, гармаце)' (ТСБМ, Нас.), 'крыніца, вірыстае месца на рацэ, вокнішча ў балоце' (Яшкін). Рус. дыял. *жерело* 'адтуліна ў розных прадметах', паўд., зах. 'крыніца', укр. *джерело* 'крыніца', польск. *źródło,* н.-луж. *žrědło,* чэш. *zřídlo,* славац. *žriedlo, žrielo* 'тс', балг. *жрелò, ждрелò* 'цясніна, крыніца', серб.-харв. *ждрело* 'глотка', 'цясніна', 'адтуліна', славен. *žrélo* 'адтуліна, выхад з цясніны, рот (жывёлы)', *žerélo* 'адтуліна (у печы, у вулеі)'. Ц.-слав. *жрѣло* 'голас', ст.-рус. *жрѣло, жрело* 'голас', *жерело* 'вусце', 'голас', 'горла', 'крыніца', 'дула'. Зыходная прасл. форма **žerdlo* з першасным значэннем 'горла, глотка', адкуль перанос на геаграфічны аб'ект, адтуліну ў нейкім прадмеце (параўн. 'рот'), а таксама 'голас'. Аналагічнае значэнне маюць балт. словы : ст.-прус. *gurcle* 'глотка, горла', літ. *gurklỹs*

'зоб, адамаў яблык', 'горла пасудзіны', дыял. *gurklė* 'глотка', лат. *gurklis* 'глотка, зоб' (Траўтман, 89—90). І.-е. корань *g$^u$er- 'глытаць, глотка, зяпа' (Покарны, 1, 474—475). Суфіксацыя мае балта-слав. характар, слав. назвы на *-lo* ўтварыліся з інструментальным значэннем (SP, 1, 103). Корань прадстаўлены таксама ў *жэрці, горла, жарло* (гл.). Сучаснае пашырэнне пераносных, у асноўным геаграфічных, значэнняў прасл. *žerdlo можа сведчыць у карысць гіпотэзы аб тым, што перанос адбываўся яшчэ ў прасл. перыяд, што вяло да семантычнага размежавання *gъrdlo і *žerdlo; месца *žьr(d)lo ў гэтай семантычнай групе няясна. На другасны характар прасл. значэння *žerdlo 'крыніца' ўказваюць і яго суадносіны з *koldędźь* (гл. Мартынаў, Лекс. взаим., 67). Паводле Куркінай (Этымалогія, 1967, 132), першаснае значэнне *žerdlo/*žьrdlo 'бяздонне'; яго першасны характар можна пастуліраваць для некаторых геагр. значэнняў, але не для лексемы ў цэлым. Курыловіч (L'apophonie, 230) тлумачыць і.-е. апафанічнае адрозненне *žerdlo і *žьrdlo.

**Жа́ранікі** 'смажаная бульба' (Мат. Гом). Параўн. рус. урал. *жа́реньки* 'смажаныя піражкі'. Ад дзеепрыметніка *жа́раны* < *жарыць*$_1$ (гл.) з дапамогай суфікса *-ік*. Параўн. укр. *варе́ник* 'вараны піражок'. Гл. *жаронка*.

**Жара́так** 'жар у печы' (Жд. 2, Шатал.). Рус. дыял. паўн. *жера́ток*, 'заглыбленне ў печы для жару', *жара́ток* 'тс', 'прысак', н.-луж. *žoratk, žoratki* 'жар, прысак', польск. *żarzątek* 'жар', серб.-харв. *жера́так* памянш. ад *жера* 'жар', Ст.-рус. *жератъкъ* 'прысак, сера, смага', *жаратъкъ, жаратникъ* 'заглыбленне ў печы для жару' (з XVII ст.), ц.-слав. *жаратъкъ* 'тс', ст.-бел. («Александрыя» XVII ст.). Ваян (Gram. comp., IV, 702) тлумачыць як назоўнік, суадносны з прыметнікам на *-ат-* (паралельна з засведчанымі ў ст.-слав. утварэннямі на *-av:* **жєравъ**), утвораны з дапамогай *-ъкъ*. Аб пашырэнні слова ў паўн.-рус. гаворках і вар'іраванні гл. Дзярагін, Этимология, 1966, 177.

**Жардаго́н** 'гарэза' (Касп.). Рус. калін. *жерздогон* 'рыбак, які ловіць рыбу пад ільдом, працягваючы жэрдкай невад з адной палонкі ў другую'. Ад першаснага вытворча-рыбацкага тэрміну, прадстаўленага ў рус., перанос на агульнаацэначнае абазначэнне чалавека.

**Жарла́ты** 'абжорлівы' (Сцяшк. МГ). Мадэль з суфіксам *-ат-* указвае на словаўтваральную суадноснасць з *жарло́* (гл.). *Жарло* < *жерло* < *жьрло* 'горла', 'рот', а *жарлаты* 'той, хто мае (вялікі) рот', як *вусаты* 'той хто мае вусы'.

**Жарле́т** 'жалейка' (Жд. 2). Калі ўлічыць укр. палес. *джуре-ле́т* 'цурчаць', можа, гукапераймальнае. Не выключана кантамінацыя з *флажале́т* 'від флейты'. Няясна.



**Жарлі́вы** 'абжорлівы' (міёр., Нар. сл., 112). Польск. *żarliwy* 'палкі', чэш. *žárlivý*, славац. *žiarlivý*, в.-луж. *žarliwy* 'раўнівы'. У бел. суадносіцца з *жэрці*, у той час як зах.-слав. формы суадносныя з *жар*. Нельга выключыць, што ў бел. запазычанае з больш шырокім значэннем 'палкі' спецыялізавалася ў сэнсе 'палкі да ежы', аднак магчыма і ўтварэнне на ўласнай глебе з прыметнікавым суфіксам *-лів-* або *-ів-* (ад *жарля́ць* 'жэрці'; гл. *жарло́*$_1$).

**Жарлі́ца**, *жэ́рліца* 'рыбалоўная снасць для лоўлі драпежнай рыбы на жыўца' (ТСБМ). Рус. маск., разан., уладз., сарат., дан. *же́рли́ка, же́рлиха* 'тс'. Ст.-рус. (XVII ст.) *жерлица, жерлика* 'тс'. Утворана ад асновы *жерл- з суфіксам *-ица*. Аснова можа нележаць да назоўніка *жерло* 'зяпа' (гл. *жарло́*$_1$) або дзеяслова *жарля́ць* (гл.).

**Жарло́**$_1$, *жерло́* 'абжора' (Нас.). Рус. дыял. свярдл., арханг. *жорло́* 'абжора, п'яніца', лайл. *жерло́, жерело́* 'зяпа'. Ст.-рус. *жьрло, жерло* 'горла'. Назва чалавека — пераносная ад *жерло́* 'горла, рот', 'той, які мае «вялікі» рот'. Параўн. *жарло́*$_3$. Параўн. *жарля́ць* 'жэрці' (Нас.): дзеяслоў, утвораны ад *жарло́*. Параўн. польск. *żarło* 'ежа'. Прасл. выходная форма для сучасных форм тыпу *жарло́* была *žьrlo або *žьrdlo. Яна, відаць, суадносілася з *žьr-ti (> *жэрці*), бо суфікс *-lo* звычайна далучаецца да дзеяслоўнай асновы і ўтварае nomina instrumenti (SP, 1, 103). Параўн. *горла, жарало*.

**Жарло́**$_2$ 'джала (пчалы)' (пін., бяроз., Шатал.). Рус. дыял. лаянк. *жерло́, жерело́* 'рот'. Назва джала — перанос ад *жерло́* 'горла', 'рот', засведчанага ў ст.-рус. Гл. *жарло́*$_1$.

**Жарло́**$_3$, *жэрло* 'крыніца' (саліг., Нар. словатв., 108; Яшкін). Рус. *жерло́* смал. 'адтуліна ў печы', пск., куйбыш., урал. 'частка рабалоўнай снасці', урал. 'рот,' пск. 'пратока', паўд.-зах. крыніца', алан. 'топкае месца ў балоце', укр. *жерло* 'адтуліна ў гармаце, печы, іншых прадметах', дыял. 'крыніца', в.-луж. *žórło* 'тс', серб.-харв. далм. *ждр́ло* 'тс'. Гл. таксама іншаслав. паралелі ў артыкуле *жарало́*. Геаграфічнае значэнне — пераноснае ад першаснага 'рот, горла'.

**Жарло́чны** 'пражэрлівы' (Жд. 2) з польск. *żarłoczny* 'тс', утворанага ад *żarłok* 'абжора', з тым жа коранем, што *жэ́рці* (гл.). *Жарлокъ* 'абжора' < польск. засведчана ў ст.-бел. на пачатку XVII ст. (Гіст. лекс., 96; Булыка, Запазыч., 113).

**Жарлюк** 'рыба, праглынутая рыбай' (мазыр., ЭШ, рук.).

Ад дзеяслова *жарляць* з прадуктыўным на Брэстчыне (Сцяцко, Афікс. наз., 77) суфіксам *-юк* (параўн. *знайдзюк*). Гл. *жарліца*.

**Жарлянка** 'жаба'. Рус. смал. *жерлянка* 'тс'. Утворана з суфіксам *-анк-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 179—180) ад *жарло* 'зяпа' (гл. *жарло*₁; параўн. *вушанка, ікранка*).

**Жарляць**, *пажарляць, жерляць* 'есці, жэрці' (Нас.). Дзеясловы утвораны з суфіксам *-аць* на базе назоўніка *жарло* 'зяпа' (гл. *жарло*₁).

**Жарнасек** 'чалавек, які робіць і насякае жорны' (ТСБМ), адкуль і пераноснае 'моцны мужчына' (Касп.). Рус. *жерносек*, чэш. уст. *žernosek* 'тс', в.-луж. тапонім *Žornosyki* (Пфуль). Паводле мадэлі, старое слав. складанае слова (параўн. *дрывасек, каменачос, свінапас*) засведчана ў рус. крыніцах з XVII ст. (як мянушка, Тупікаў), у бел.— з XVII—XVIII стст. (Бірыла, Бел. антр., 1, 214; 2, 145), утворана ад **žernъ* (гл. *жарон*) і **sěkъ* (гл. *сячы*). Параўн. ст.-рус. (XVII ст.) *жерноковъ, жерноклевъ*.

**Жарнік** 'касцёр' (Мат. Гом.). Рус. дыял. паўн.-ўсх. *жарник* 'тс'. Ад *жар* (гл.) з суфіксам *-нік* або ад прыметніка **жарны* 'такі, што змяшчае жар' (паўн. польск. *żarny* 'тс') з суфіксам *-ік*. Пра назоўнікі з *-нік* гл. Сцяц., Афікс. наз., 55.

**Жарнуць** 'ударыць з вялікай сілай'. Аднакратны дзеяслоў утвораны ад *жарыць*₂ (гл.).

**Жаролка** 'шыбеніца' (ЭШ). Параўн. рус. дан., цвяр. *жерелка, жерёлка* 'каўнер', кур., маск., куйбыш. 'бусы'. Відаць, той самы семантычны ход, што ў фраземе *сталыпінскі гальштук* 'кара праз павешанне'. Корань прадстаўлены ў *жарало* (гл.) са знач. 'горла'.

**Жарон** 'млынавы камень', *жорны* 'ручны млын' (ТСБМ), *жорваны* 'жорны' (Шатал., Мат. Гом., Янк. II). Рус. *жёрнов*, дыял. пск. *жерён, жерон*, пск., смал., калін., наўг. *жёрн, жёрн*, наўг. *жерно* 'тс', укр. *жорно*, мн. *жорна*, польск. *żarna*, чэш. *žernov, žerno, žerna*, славац. *žarnov* 'тс', балг. дыял. *жерка, жрѐни* 'млын', *жерновен камък* 'жарон', серб.-харв. *жрвањ, жрван* 'жоран, жорны', славен. *žrne, žrnev* 'ручны млын'. Ст.-слав. **жрънъ, жрънъви** 'млын', ст.-рус. *жърновъ, жорны*. Прасл. **žьrnъ* належала да наз. на *-й*, у выніку пашырэння ўзнікла форма **žьrnovъ*, адкуль у выніку метатэзы — *жорваны*. Аб гэтым гл. Фасмер, 2, 49, Экерт, УЗ Инст. слав., 27,50. Прасл. **žьrnъ* роднаснае балт. словам: літ. *gìrna*, мн. *gìrnos* 'жорны', лат. *dzir̃nus* 'млын', ст.-прус. *girnoywis* 'жорны' (Фрэнкель, 163—164; Тапароў, Е — Н, 245—247; Траўтман, 89), а таксама словам іншых і.-е. моў: ст.-інд. *grāvan-* 'камень для выціскання сомы', арм. *erkan*, ст.-ірл. *bráu*, мн. *broon*, гоц. *qairnus* 'млын', ням. *Quirne* 'жорны'. Гэтыя словы як падоўжанні з *n* Покарны (1, 477) далучае да і.-е. кораня *gᵘer-, gᵘere-* 'цяжкі'. Гл. яшчэ БЕР, 1, 537; Безлай, Posk. sv., 32; Скок, 3, 685—686; Ваян, Gr. comp., II, 1, 271; Бернштэйн, Чередования, 223; Сцяц. Словаўтв., 142; Аткупшчыкоў, Из истории, 231.



**Жаронка** 'што-н. смажанае' (Сл. паўн.-зах.), 'грыбы смажаныя', *жаранка* 'бульба смажаная' (Мат. Гом.), *жаренка* 'што-н. смажанае' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. урал. *жареньки* 'піражкі смажаныя', *жаренки, жарёнки* 'смажаная ежа'. Паводле спосабу прыгатавання, ад дзеяслова *жарыць*₁ (гл.) з суфіксальным *-ан-к-а* або *-он-к-а* < *-ен-ък-а*, як і падобныя назвы ежы: *мачанка, сечанка, паранка*.

**Жаронкі** 'канаплянае шалупінне' (Касп.). Рус. смал. *жаронцы* 'прылада для абдзіркі канапель'. З тым жа коранем, што *жарон* (гл.). Трэба ўлічыць, што *жерновать* у пск. гаворках азначае 'здзіраць шалупінне з грэчкі'; шалупінне ўзнікае пры апрацоўцы на жорнах, жаронках, але хутчэй семантычны ход не ад прылады да прадукту, а ад працэсу.

**Жаронцы** 'каменьчыкі ў страўніку птушак' (брасл., Нар. словатв., 134), *жаронцы, жаронкі* 'страўнік у птушак, пуп' (Сл. паўн.-зах.). Рус. пск. *жаронки*, смал., пск., калін. *жерёнки*, кастр. *жерновки*, калуж. *жёрны* 'птушыны страўнік'. Значэнне 'каменьчыкі...' можа мець другасны народна-этымалагічны характар. Першасны, відаць, пераносны (па функцыі 'перамолванне' ежы) ад *жарон* (гл.). Цікава ў гэтым плане, што ў дыялектах вядома рус. *жерновки* 'каменьчыкі ў рака каля страўніка', польск. *żarna* 'сківаца рака'.

**Жароцце** 'спёка' (драг., Нар. словатв., 144). Параўн. укр. *жарота* 'тс'. Ад *жарыць*₁ (гл.) з суфіксам *-оцце* па мадэлі, адзначанай у словах *плюхоцце, гараццё* (Сцяц., Афікс. наз., 89).

**Жар-птушка** 'казачная птушка з агністым пер'ем'. Рус. *жар-птица*, укр. *жар-птиця*, серб.-харв. *жа̑р-пти̏ца*, балг. *жар-птица* (са спасылкай на рус. казкі) 'тс'. Параўн. у Плетаршніка славен. *žâr-žêna* 'міфічная істота, падобная да вілаў'. Слова *жар* выступае ў спалучэнні ў якасці прыметніка са значэннем 'вогненны' (гл. *жары*). Іначай у Шанскага, 1, Ж, 277: складанне слоў *жар* 'агонь, гарачае вуголле' і *птица*. Трэба мець на ўвазе познюю (1825 г.) фіксацыю спалучэння ў слоўніках, што можа ўказаць на пазнейшае штучнае ўтварэнне слова. Але Іваноў і Тапароў (Слав. яз. мод. системы, 141—142) пераканаўча звязваюць жар-птушку (і славац. *pták-ohnivák*) са старажытным культам агню.

**Жарства** 'буйны пясок з дробнымі каменьчыкамі', лёзн. *жаршня́* (Яшкін), *жораст* (Шат.) 'тс'. Рус. дыял. зах. *жерства*, укр. *жорства*, польск. *żarstwa* 'тс'. Фасмер (2, 50) параўноўвае з авест. *zarstva-* 'камень', спасылаючыся на Петарсана, AfslPh, 34, 380. Трубачоў (Слав. языкозн., V, 172) згаджаецца з гэтым, рэканструюючы прасл. форму *žьrstva*. Барталамэ (1684) параўноўвае ст.-іран. *žarstva-* 'камень' з марсійскім і сабінскім *hernae* 'скала'. У Покарнага (1, 443) прадстаўлен корань *ĝher- 'шкрабаць': літ *žarstýti* 'зграбаць', грэч. χαράδρα 'цясніна, бездань, шчыліна ў зямлі'; Покарны, 1, 446 — корань *ĝherzd(h)- 'калючыя зёрны, ячмень': ст.-в.-ням. *gersta* 'ячмень', грэч. κρῖ 'тс', а таксама яшчэ некаторыя карані са спалучэннем гутуральнага *i-r*, з якімі магчыма суаднесці разглядаемае слав. слова.

**Жарсць** 'жаданне' (Касп.). Відаць, аказіяльнае ўтварэнне ад асновы *жар* (гл.) з фармантам *-сць* паводле ўзору *страсць*, *жарасць* 'спёка'.

**Жарт**, *жартаваць*. Рус. пск., смал., урал. *жарт*, укр. *жарт*, польск. *żart*, серб.-луж. *žort*, чэш. *žert*, славац. *žart* 'жарт'. Ст.-бел. (XVI ст.) *жартъ* 'кашчунства', 'жарт'. Паводле Булыкі (Запазыч., 113), ст.-бел. < польск. < чэш. < ням. *Scherz* 'жарт'. Мартынаў — Міхневіч (Маладосць, 1969, 2, 146) указваюць с.-в.-ням. *scherz* 'жарт'. Аднак яшчэ Брукнер (662) выказваў сумненні наконт апошняга *-t*. Махэк$_2$ (726) прапануе лічыць ст.-чэш. слова запазычаным са ст.-в.-ням. *serten* 'брахаць, падманваць'. На такое значэнне магло б указваць і тое, што Зізаній супастаўляе *кощунъствую* — *жарътую* (да таго ж у дзеяслоўнай форме). Укр. з польск., рус. з бел. На ням. першакрыніцу ўказвае Гіст. лекс., 116.

**Жару́шнік** 'расліна Rorippa Scop'. (Кіс., 112). Рус. *жеру́шник* 'тс'. Параўн. рус., укр. *жеру́ха*, укр. *жерлуха*, рус. *жерлюха* 'расліна Nasturtium R. Br. або Lepidium sativum', польск. *żerucha* 'Nasturtium', чэш. *řeřicha*, ст.-чэш. *žeřucha* 'Lepidium; Nasturtium', славац. *žerucha* 'Lepidium'. Паводле Махэка, чэш. слова ад кораня *жэр-ці* (гл.) у сэнсе 'паліць, мець востры смак'. Даль (1, 536), відаць, дапускаў метатэзу *жеруха* — *рѣжуха*. Гэтыя версіі могуць быць дастасаваны і да *жару́шнік*.

**Жа́ры** 'цёмна-чырвоны; жоўта-карычневы; рыжы' (глуск., Янк. II; Сл. паўн.-зах.). Аб масці каня 'краснаваты, руды конь' (з паясненняў у Сл. паўн.-зах.). Укр. бук. *жарий* 'рыжы, вогненна-чырвоны', славен. *žâr* 'вогненна-чырвоны'. Параўн. рус. уладз., вяц. *жар* 'чырвоны колер', кур. *жаровый* 'чырвоны, аранжавы', серб.-харв. *жа̂р* 'чырвань, румянец'. Відаць, прасл. адгалінаванне імені *žarъ* у значэнні прыметніка ў выніку канвер-



сіі паводле колеру тлеючага вуголля, абазначанага тым жа іменем у функцыі назоўніка. Гл. *жар*, *жар-птушка*.

**Жа́рыць**$_1$ 'смажыць' (Нас., Сцяшк. МГ), 'моцна прыпякаць' (ТСБМ). Рус. *жа́рить* 'смажыць', 'моцна прыпякаць', укр. *жа́рити* 'тс', польск. *żarzyć* 'распальваць', чэш. *žářiti* 'спальваць', славац. *žiarit* 'выпраменьваць цяпло, святло; пячы (на агні)', балг. *жа́ря*, макед. *жа́ри*, серб.-харв. *жа́рити* 'грэць (аб сонцы)', 'жаліць (пра крапіву)', балг. рэдк. 'пячы (смажыць) на агні', славен. *žaríti* 'распальваць', 'выпраменьваць', 'пячы на вуголлях'. Ст.-рус. *жарити* 'смажыць' (XVII ст.). Ц.-слав. *жарити* 'frigere' (Міклашыч, Lex. palaeosl.) энантыясемія?. Дзеяслоў утвораны ў прасл. з суфіксам *-i-ti на базе кораня *žar- (гл. *жар*).

**Жа́рыць**$_2$ 'рабіць што-н. заўзята, з азартам' (ТСБМ), 'моцна біць' (Касп.), 'сцёбаць', 'моцна ісці (пра дождж)' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *жа́рить* 'рабіць што-н. заўзята', укр. *жа́рити* 'тс'. Развіццё значэння *жа́рыць*$_1$, верагодна, праз этап 'моцна прыпякаць' шляхам абагульнення семы 'моцна' з магчымай канкрэтызацыяй дзеяння ў гаворках.

**Жарэ́ць** 'гарэць' (Сцяшк. МГ). Славен. *žaréti* 'гарэць, тлець'. Таго ж кораня, што *жар* (гл.), з суфіксам *-ě-ti; параўн. ст.-рус. *синѣти*, *цѣлѣти*, бел. *гарэць* (гл.). Утворана, магчыма, яшчэ ў прасл. Гл. яшчэ *жу́раць*. Р. Казлова (ССл, 1980, 6, 87—92) звязвае з *жа́ры* (гл.).

**Жасмін** 'язмін' (Кіс.). Гл. *язмін*.

**Жасцёр** 'куст або дрэва сямейства крушынавых, Rhamnus L.' (ТСБМ), *жасты́рь* 'расліна, якая ўжываецца, калі баляць зубы або жывот' (Нас.), *жыстор*, *жысцёр(ына)*, *жыстар*, *жысцяр(ына)*, *засцір* (Кіс.). Рус. *жо́стер*, *жёстер*, *жесть*, *жёрест*, укр. *жо́стир*, *жестер*, *жосціл*, ст.-польск. *rzeszecina*, *rzeszenica*, *trzęsiecina*, польск. *szakłak*, *sakłak*, *szelestena*, *szestelena*, н.-луж. *rašešin*, *rašešyna* 'тс', балг. дыял. *же́щель* 'Acer tataricus', *ше̏стил* 'Acer platanoides', серб.-харв. *же́шља*, *жѐстика*, *жѐст*, *же̑ст*, *жѐстила* 'Acer tataricus', славен. *žestílj*, *žestika* 'Acer monspessulanum'. Паводле Петарсана (Lunds Univ. Årsskr. NF., Bd. 19, № 6, с. 41 і наст.), роднаснае англа.-сакс. *gorst* 'дзікі цёран', ст.-інд. *ghr̥stiṣ* 'дзікі кабан', рус. *жерех*, але найстаражытная форма няясная (Фасмер, 2, 49). Скок (3, 677) суадносіць з *жёсток* 'жорсткі', што патрабуе семантычнага ўдакладнення. Гл. яшчэ Махэк, Jména rostl., 145. Улічваючы, што жасцёр мае калючкі, ці не трэба параўнаць з і.-е. сям'ёй назваў раслін, да якой належаць ням. *Gerste* 'ячмень', магчыма, грэч. ἄ-χερδος 'дзікая груша, глог', *ĝherzd(h) 'калючае' (гл. Покарны, 1, 446), аб чым між іншым можа сведчыць і тое,

што назва *жэстэліна* выкарыстоўваецца і для назвы калючай слівы 'Prunus spinosa L.' (стол., Лексика Пол., 420) побач з назвай для жасцёра (*жыстылі́на*, стол., Нар. лекс., 124). Гл. *жарства*.

**Жаўква́** 'жоўты пясок, пясчаная зямля пад глебай' (глуск., Янк. III), *жо́лква* 'жоўты пясок' (Лексіка Пал., 100), *жаўкле́ц* 'жоўты пясок, пясчаная зямля' (слаўг., Яшкін, 64). Паводле Брукнера (665), польск. тапонім *żółkiew* (параўн. укр. уласнае імя *Жо́вква*) да *жо́ўкнуць* (гл.). Як і ў *жо́ўкнуць, жо́ўклы*, тут адбылася семантычная кантамінацыя з *жо́ўты* (гл.). Параўн. *жаўкры́нец, жаўтапёс, жаўця́к*₁.

**Жаўкля́к** 'жоўты гурок' (гом., лун., Шатал.; глуск., Янк. III; брагін., Нар. словатв., 127), *жаўтля́к* (гом., хойн., Шатал.; брагін., Нар. словатв., 127), *жаўця́к* 'тс', *жаўкля́к* перан. 'хворы чалавек' (Янк III). Рус. *желтя́к*, укр. *жовтяк*, дыял. *жовкляк, жовтляк* 'жоўты агурок'. Ад *жо́ўклы* з дапамогай суфікса *-як-*, як і іншыя назвы раслін (*бяля́к* 'шампіньён', *пазня́к* 'грыб' і да т. п.). *Жаўця́к*, паводле той самай мадэлі, ад *жо́ўты, жо́ўць*₂ (гл.). У форме *жаўтляк* адлюстроўваецца кантамінацыя першага і другога названых шляхоў утварэння слова.

**Жаўкры́нец** 'неўрадлівая глеба' (лун., Шатал.), *жоўкрэнец* 'пясчаны грунт, пясок' (пін., Яшкін, 65), *жо́вэнец* 'жоўтая зямля' (пін., Нар. лекс., 101), *жоўклінец, жоўцінец, жоўрэнец* (палес., Выг. дыс.). Сувязь з *жоўты* можа быць другаснай. Варыянтнасць форм на невялікім (зах.-палес.) арэале сведчыць, магчыма, аб пошуку народна-этымалагічнага тлумачэння няяснага слова. Параўн. *жаўква, жаўклець* з некалькі шырэйшым распаўсюджаннем. Ці не звязана з *жоўклы* 'сапсаваны, кепскі'; гл. *жоўкнуць*. Далейшая кантамінацыя вяла да змен у значэнні, звязаных з 'жоўты' > 'пясок'.

**Жаўла́к**₁ 'зацвярдзенне, пухліна', 'акруглы кусок мінералу', *жевла́к* 'тс' (Нас.). Рус. дыял. *жевла́к* 'пухліна, гуз, жаўлак', 'нарыў', 'яйка', 'валляк у курыцы', *желва́к* 'жаўлак', смал. *жевло́* 'пухліна', укр. *жо́вна, жо́вно* 'пухліна, зацвярдзенне ў людзей, жывёл, раслін', 'мускулы', серб.-харв. *жу̏љ* 'мазоль', 'цяжкая праца', славен. *žulj* 'мазоль'. Параўн. рус. *желва́к* 'жаўлак', балг. *желва́к* 'белы кварцавы каменьчык' (Гераў), чэш. *žluna* 'залатуха' (Фасмер), славен. *žẹ̑lva* 'нарыў са свішчом; залатуха', 'чарапаха'. Апошняе слова са знач. 'чарапаха' прадстаўлена ў польск., н.-луж., в.-луж., чэш., балг. (гл. *жаўлак*₂). Ст.-рус. *желвакъ* 'пухліна' (з XVIII ст.), *желы* або *желвь* 'тс' (Лаўр. л.), *жолвачокъ* (XVII ст.) 'заменнае яйка ў гульні', *желватый* 'пра расліну з выступамі, патаўшчэннямі' (1519 г.), *желва* і г. д. 'чарапаха'. Паводле Шанскага (1, Ж, 280—281), рус. *желвак* утвораны з суф. *-ак* ад асновы *желва*, паралельнай да *желы*. Фасмер (2, 41) піша: «верагодна, да *жолвь* 'чарапаха'...». Трубачоў (ВСЯ 2, 33—34) пацвярждае гэта аб'яднанне, а таксама дадае да гэтага кораня *галава, жалеза, залоза*. Трэба, аднак, улічыць іншую магчымасць. Яшчэ Зубаты (Studie, I, 2, 128) адзначыў цяжкасці семантычнага аб'яднання 'чарапахі', 'галавы' і 'жаўлака'. Фасмер пераканаўча адкідвае асобныя тлумачэнні слав. слоў для 'жаўлака' і 'чарапахі', аднак семантычныя цяжкасці іх аб'яднання застаюцца. Серб.-харв. і славен. *žulj* 'мазоль' тлумачыцца ў сувязі з *gula* (Скок, 1, 632; Безлай, 1, 186); гл. *гуля*. Гэта слова ўзводзіцца да і.-е. кораня **gou-, *gəu-* 'згінаць' (Покарны, I, 393) з падаўжэннем *-l-*; пры чаргаванні галосных корань прымае форму **geul-* і дае назву мазаля *жуљ*. Форма *жаўлак* < **ževl-akъ* можа быць дыялектным адлюстраваннем **ge̯ul-* (параўн. *жаўрэць*). Корань узаемадзейнічае з **želū-* 'чарапаха' (< 'касцяное') і так узніклі формы тыпу рус. *желвак*. Слав. дзеясло̆ў на базе кораня **gẹul-* або **geuəl-* прадстаўлен, відаць, у словах тыпу славен. *žaliti* 'муліць, націраць'. Гл. Праабражэнскі, 1, 225; іначӑй БЕР, 1, 523 (з тлумачэннем балг. *желвак* ад *жила*); Мяркулава, Этимология, 1981, 64.

**Жаўла́к**₂ 'чарапаха' (Багушэвіч, Мар. дыс., 175). Польск. *żółw*, н.-луж. *žołw*, в.-луж. *žołwja*, чэш. *želva*, балг. *жълва*, ц.-слав. *жєлъвь, жєлъва*, ст.-рус. *желва, желвь* 'чарапаха'. Прасл. **žely* < і.-е. **ghelū* 'чарапаха' (Покарны, I, 445); параўн. грэч. χέλῦς 'чарапаха'. Сувязь з *жоўты*, аб якой пісаў Мейе (Études, 268), слушна адкідваў Фасмер (2, 41), як і падобнае меркаванне Зубатага (Studie, 1, 2, 124, 128, 133). Першаснае **ghel-* суадносіцца з *галава, жалеза* і мела значэнне 'цвёрдае, касцяное, камень' (Трубачоў, ВСЯ, 2, 33—34). Сувязь з *жаўла́к*₁ мае хутчэй другасны характар.

**Жаўла́ць** 'крычаць' (Мат. Гом.), *жаўні́ць* 'паўтараць адно і тое' (Касп.), *жаўр͡ети* 'размаўляць, жартаваць' (Бес.). Рус. перм., ярасл. *жа́влять* 'жаваць, чаўкаць', валаг. *желва́чить* бурчаць, лаяцца, прасіць', наўг., алан., тамб., смал., валаг. *желнить* 'ціха, доўга гаварыць', балг. дыял. *жавре се, жевря се* 'крыўляцца пры гаварэнні', *джевря(м) се* 'скардзіцца', чэш. *želovati*. У бел. гаворках прадстаўлены тры тыпы падаўжэння (*-l-, -n-, -r-*) і.-е. кораня **gōu-, *gou̯-, *gū-* 'крычаць, клікаць', адлюстраванага ў *говар, гаварыць, гутарыць* (гл.); пры чаргаванні галоснага *о* — *е* вынікаюць формы тыпу **geur-, *geuər-*, адкуль *журыцца* (гл.), *жаўрэць*, а з іншымі падаўжэннямі *жаўлаць, жаўніць*. Параўн. яшчэ гом. *жаўна* 'крыклівае дзіця'.

Гл. *жаўна*. Краўчук, Зб. Крапіве, 195—196; Супрун, Бюлетин за съпост. изследв., 1976, 5, 76. Іначай, як гукапераймальнае, тлумачыць балг. формы БЕР (1, 529), што мала верагодна, калі меIць на ўвазе не ўлічаныя там паралелі.

**Жаўна́** 'чорны (і зялёны) дзяцел; Dryocopus martius', *жолна́*. Рус. *желна́* 'тс', укр. *жовна́* 'тс', дыял. 'івалга', польск. *żołna* 'птушка Merops', н.-луж. *žołma* 'чорны і зялёны дзяцел', в.-луж. *žołma* 'чорны дзяцел', чэш. *žluna* 'зялёны дзяцел', славац. *žlna*, балг. дыял. *жèлнà* 'тс', *жълнà* 'Picus martius', *жлънàтка* 'птушка Emberiza' (Гераў), *жълтỳрка* 'тс', 'івалга', макед. *жолна* 'птушка Picus viridis', серб.-харв. *жу́на* 'Picus martius', славен. *žólna* 'дзяцел'. Ц.-слав. *жлъна* 'Picus martius'. Агляд значэнняў слав. назваў, узыходзячых да прасл. **žьlna*, дала Клепікава (Проблемы индоевропейского языкознания 1964, 106—114): у асноўным словы азначаюць дзятлавых або адзін з відаў, а таксама івалгу Oriolus galbula (укр., польск., чэш., славац., серб.-харв., макед. гаворкі) ці зрэдку (зах.-укр. і паўд.-польск. гаворкі) шчурку залацістую (Merops apiaster). Клепікава лічыць першаснымі для слав. моў значэнні 'дзяцел' і 'івалга'. Літ. *gilnà* 'Dryocopus martius', лат. *dzilna* 'дзяцел'. Традыцыйна зблiжаюць са слав. *жоўты* (гл.) і яго балт. адпаведнікамі (Гараеў, 108: Праабражэнскі, 1, 226; Буга, Rinkt., I, 495; Траўтман, 88; Фасмер, 2, 43; Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 1948, 110; Скок, 3, 687; Шанскі, 1, Ж, 281), указваючы на колер птушкі. Міклашыч (408) побач з параўнаннем з *жоўты* адаслаў да слоў тыпу *жаўлак*. Махэк (Zfsl Ph, 1948, XX, 50—51) выказаў меркаванне пра збліжэнне *жаўна* з літ. *gìlti, gélti* 'жаліць'. Аткупшчыкоў (Из истории, 247—249) развівае гэту думку, указваючы, што корань **gel-* мог азначаць не толькі 'жаліць', але і 'даўбаць'. Тады *жаўна* суадносіцца з *жолаб, жалонка* (гл.), літ. *gélda* 'карыта' (< 'выдаўбанае'), што можа быць суаднесена з тымі словамі, якія Покарны (I, 470—471) дае для кораня *$g^{u}el$-* 'калоць'. Махэк$_2$ (730) прыводзіў грэч. паралель з глухімі варыянтамі кораня κελεός 'жаўна', які ў слав. прадстаўлены ў *калоць*. Суаднясенне Махэка з *gélti*, улічваючы тлумачэнні Аткупшчыкова, здаецца не менш верагодным, чым традыцыйная этымалогія (па колеру) для дзятла, тым больш што назва дастасоўвалася да рознакаляровых відаў, у тым ліку для чорнага дзятла. Для івалгі хутчэй падыходзіць тлумачэнне па афарбоўцы. Верагодна, тут старажытная аманімія назваў розных птушак. Гл. Пятлёва, Этимология, 1975, 47—49. Гом. перан *жаўна́* 'дзіця крыклівае' магло ўзнікнуць на базе назвы івалгі, што дае падставу дапусціць выкарыстанне лексемы *жаўна* ў гэтым значэнні на поўдні Беларусі. Але не выключаецца тады і магчымасць паходжання



назвы птушкі не ад назвы афарбоўкі (*жоў-ты*), а ад кораня са значэннем 'крычаць': і.-е.*gou-*, **gouə-*, **geuə-*. Гл. *жаўла́ць* (дзе і *жаўні́ць*).

**Жаўне́р** 'польскі салдат' (ТСБМ), 'салдат' (БРС). Рус. *жолнер* 'польскі салдат', укр. *жовнір* 'тс', 'салдат'. З польск. *żołnierz*, ст.-польск. *żołdnierz* < ням. *Söldner* . Паводле Кляч-коўскага (Зб. Развадоўскаму, II, 331) і Шцібера (Świat język. Sł., 295), ст.-польск. з ням. праз чэш. пасрэдніцтва да XIV ст. У ст.-бел. фіксуецца яшчэ з канца XV ст. *жолнеръ* з шэрагам вытворных (Булыка, Запазыч., 114—115), ст.-польск. *żołdnierz* зафіксавана ў першай палавіне XVI ст. (Рэчак). Ням. *Sold* 'плата прафесіянальнага салдата', с.-ням. *solt* 'тс' < ст.-франц. *solt* 'залатая манета, аплата салдата' < познелац. *sol(i)dus (nummus)* 'шчырая манета'. С.-в.-ням. *soldenære*, *soldenier* 'наёмны салдат' утворана на гэтай аснове (Дудэн).

**Жа́ўранка**, *жаўронак* (Гом.). Гл. *жа́варанак*$_1$.

**Жаўру́к**. Гл. *жа́варанак*$_1$.

**Жаўтабру́х** 'від вужа'. Рус. дан. *желто́брюх* 'бязногая яшчарка, Ophiosaurus serpentinus', укр. *жовто́брюх* 'від вужа', польск. *żółtobrzuchi* 'маючы жоўтае бруха', чэш. *žlutobřichý* 'тс'. Усх.-слав. назва паўзуна ўтворана як складанае слова: *желт-о-брюх* (гл. *жо́ўты, бру́ха*).

**Жаўтапёс**, *жаўтёпасак* 'пясчаная глеба' (Шат.), *жаўтопе́сок* (Мат. Гом.), *жаўтапесак* (глус., Янк. II) 'тс'. Параўн. *жаўтазём* 'глеба з жоўтага пяску' (Сцяц.). Складанае слова з прыметнікавай асновы *жоўты* (гл.) і назоўніка *пясок* (гл.). Цікава, што апошні прадстаўлены ў форме без суфікса *-ъкъ;* яе можна лічыць або адлюстраваннем старажытнага стану, або пазнейшым усячэннем па мадэлі *жаўтазём*. Трэба пры гэтым мець на ўвазе нерэгулярнае адлюстраванне *ё* ў выглядзе *ё*, якое ўказвае, як і форма *жаўтёпасак*, на пазнейшыя дэфармацыі слова.

**Жаўтапу́зік** 'від бязногай яшчаркі'. Рус. дыял. *желтопу́з* 'від вужа', укр. *жовтопу́з* 'від бязногай яшчаркі'; параўн. чэш. *želtopusik* 'від паўзуноў Ophisaurus apus'. Складанае ўсх.-слав. слова ўтворана з *желт-о-пуз* (гл. *жо́ўты і пу́за*). Бел. форма — памянш. з суфіксам *-ік*. Чэш. слова мае ў другой частцы, відаць, кампанент *pus -a* 'рот', г. зн. азначае 'жаўтароцік'.

**Жаўта́чка** 'жаўтуха (хвароба)' (гом., глус., Янк. III; мядз., Жыв. сл., 41). Укр. дыял. *жовта́чка* 'тс'. З польск. *żółtaczka* 'тс' з падвядзеннем пад бел. форму кораня. Адпаведная суфіксацыя ў назвах хвароб для бел. нетыповая. Параўн. *жаўту́ха*$_1$.

**Жаўткі** 'ўнутраныя органы (ныркі, печань, кішэчнік, страўнік)' (клец., Нар. лекс., 207). Відаць, перанос ад *жаўток* 'унутраная часціна яйка'.

**Жаўтýха**$_1$ 'жоўтая афарбоўка скуры, вочных склераў і г. д.; хвароба, што яе выклікае'. З рус. *желтуха* 'тс' або паралельна з ім. Параўн. укр. *жовтяниця*. Сцяцко (Афікс. наз., 124) адзначае непрадуктыўнасць тыпу назваў хвароб, прычым *краснуха*, відаць, утворана там, дзе *красн.-* азначала 'чырвоны', таму трэба лічыцца з рус. уздзеяннем. Параўн. іншую назву гэтай хваробы *жаўтачка* (< польск.). Шанскі (1, Ж, 282) лічыць *желтýха* ўласна рус. утварэннем, а бел. < рус.

**Жаўтýха**$_2$ 'грыб зялёнка, Tricholoma flavovirens' (Мат. Гом.), *жовтушка* 'нейкі ядомы грыб' (камян., Жыв. сл., 188). Ад прыметніка *жоўты* (гл.) з суфіксамі *-уха* ці *-ушка* паводле пашыранай мадэлі назваў раслін, у тым ліку грыбоў (Сцяц., Афікс. наз., 124, 125).

**Жаўтыр**, *жаўтýшка* 'амялушка, Bombycilla garrulus' (Мат. Гом.). Паводле малапрадуктыўнай мадэлі назваў носьбітаў адзнак, з суфіксам *-ыр* (Сцяцко., Афікс. наз., 127) ці па прадуктыўнай мадэлі назваў носьбітаў адзнак, у тым ліку птушак на *-ушк-а* (Сцяц., Афікс. наз., 125).

**Жаўцéнь** 'кветка жоўтага колеру, жаўтушнік, Erysimum L.' (Бяльк.). Ад асновы прыметніка *жоўты* (гл.) з суфіксам *-ень* (Сцяц., Афікс. наз., 100). Літаратурнае *жаўтушнік* суадносіцца з той самай асновай, але суфіксацыя ўказвае на магчымасць рус. уздзеяння. Бел. дае хутчэй. *жаўтушка* 'Erysimum cheiranthoides L.' як шэраг назваў грыбоў, птушак, ад *жаўтуха* (> *жаўтушка*) утвараецца прыметнік *жаўтушны* і назоўнік з суфіксам *-ік* (рус. *желтýшник*). Польск. *żółcien* назва іншай кветкі (Carthamus)'.

**Жаўцяк**$_1$ 'жоўты пясок' (ТСБМ). Ад прыметніка *жоўты* (гл.) быў утвораны адцягнены назоўнік на *-ь* (*žьltь* > *жоўць*), адкуль з суфіксам *-ак* назва носьбіта адзнакі (параўн. *жвірак* 'від глебы').

***Жаўцяк**$_2$, *жовтяк, жовтéк* 'грыб махавік, Xerocomus' (камян., драг., Жыв. сл., 189, 190). Утварэнне, як і *жаўцяк*$_1$, магчыма, пад уздзеяннем мадэлі назваў грыбоў *сіняк, пазняк*, якія ўтвараліся непасрэдна ад прыметніка з мяккай асновай (гл. Сцяц., Афікс. наз., 131).

**Жах** 'жуда, страх', 'удар'. Рус. кур., паўд., укр. *жах* 'тс'. Параўн. польск. *żachnąć się* 'ўздрыгануцца', *żachliwy* 'баязлівы', чэш. *žas* 'жах', рус. *ужас*. Ст.-слав. **оужасъ**, ст.-рус. *ужасъ*, ц.-слав. *жасати, жасити, жаснѫти* (Міклашыч, Lex.



paleosl.). Праз чаргаванне галосных суадносіцца з *гасіць* (гл.). Значэнне *гасіць* 'удараць' паказвае, што *жах* 'удар' не асобнае гукапераймальнае слова (ТСБМ, 2, 255), а развіццё аднаго значэння (параўн. знач. польск. 'уздрыгнуцца'). Да і.-е. *$g^{u}$es* 'тушыць' (Покарны, 1, 479); гоц. *ugaisjan*, літ. *gąsti* 'пужаць' (гэтыя паралелі патрабуюць пэўных удакладненняў). Фасмер, 2, 36; Праабражэнскі, 1, 471; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 36. Пра паходжанне *-х-* у *жах* як паралель да *страх* (дзе *s* < **ks*) пісаў Эндзелін, Слав.-балт. эт., 70 = Darbu, 2, 230—231.

**Жáціцы** 'жаночыя асобіны канапель' (Сл. паўн.-зах.). Няясна. Паколькі фіксацыя ў адзіным пункце, ці не памылка запісу замест *мáціцы* (параўн. у Даля *матки* 'тс')?

**Жаць**$_1$, *жну* 'убіраць расліны, зразаючы сцёблы'. Рус. *жать*, укр. *жáти*, польск. *żąć*, в.-луж. уст. *žěć*, *žnyć*, н.-луж. *žeś* 'тс', палаб. *zanai* 'жатва', чэш. *žíti, žnouti*, славац. *žat'*, балг. *жъна*, макед. *жнее*, серб.-харв. *жêти*, славен. *žéti* 'жаць'. Ст.-сл. **жѧти**, ст.-рус., ст.-бел. *жати* 'тс'. Прасл. **žęti*, **žьnǫ* 'тс' мае ў адрозненне ад іншых і.-е. моў спецыялізаванае значэнне. І.-е. корань *$g^{u}$hen-(ə)-* меў, паводле Покарнага (1, 491), значэнне 'біць' і суадносіцца са слав. словам *гнаць* (гл.), а таксама з літ. *genéti* 'ачышчаць голле са ствала' (Траўтман, 85), ст.-іран *ǰain-ti* 'ўбіваць', нарв. дыял. *gana* 'ссякаць галлё з дрэва' і інш. Фасмер, 2, 60; Скок, 3, 678; Махэк$_2$, 728; БЕР, 1, 565; Шанскі, 1, Ж, 279; Ваян, RÉS, 41, 1962, 59—60. У бел. прадстаўлены вытворныя *жатва, жнец, жняя, жніво*, вядомыя, відаць, яшчэ ў праславянскі перыяд, і шэраг іншых. Пра ст.-бел. значэнні і вытворныя гл. Шадурскі, дыс., 315—319.

**Жаць**$_2$, *жму* 'ціснуць, праць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *жать*, укр. *жáти*, польск. *żąć* 'ціснуць', в.-луж. *žimać* 'выціскваць', н.-луж. *žeś, žmeś, žmuś*, 'ціснуць', чэш. *žmoliti*, славац. *žmolit'* 'ціскаць, церці', славац. *žmyknút'* 'вылушчыць шляхам ціскання', балг. *жъмка*, серб.-харв. *жêти, жéти* 'сціскваць', славен. *žęma* 'прэс', *ožęmati, ožęti* 'ціснуць, сціскваць'. Ст.-сл. **съжѧти** 'сціскваць', ст.-рус. *жати* 'тс' (зафіксавана з XVII ст.). Прасл. **žęti*, **žьmǫ* 'ціснуць' да і-е. кораня *gem- 'хапаць, сціскваць' (літ. *gùmulas* 'куля', *gãmalas* 'снежная куля; кусок хлеба, мяса', лат. *gumt* 'хапаць', грэч. γέντο 'схапіў', γέμω 'я поўны', нарв. *kams* 'галушка' і інш.). Роднаснае слав. утварэнне з іншым вакалізмам *гамéлак, гамёлка* 'вялікі кавалак (хлеба, сыру)' (гл.). Фасмер, 2, 59; Шанскі, 1, Ж, 278; БЕР, 1, 565; Покарны, 1, 368—369; Скок, 3, 678—679; Траўтман, 88. Сцвярджэнне Крукоўскага (Уплыў, 33), быццам кораня *-жм-* няма ў бел. мове, неабгрунтаванае.

**Жа́чка** 'жняярка' (Юрч.), 'жняя' (Сл. паўн.-зах.; Выг. дыс., 33). Чэш. *žačka* 'тс'. Паводле прадуктыўнай мадэлі, ад дзеяслова *жаць*$_1$ з суфіксам *-ачка* ў агентыўным (асабовым і неасабовым) значэнні (Сцяцко, Афікс. наз., 32).

**Жбан.** Гл. *збан.*

**Жбанкі**, *жбано́чкі* 'гарлачыкі жоўтыя, Nuphar' (Кіс., Сл. паўн.-зах.; Нар. лекс., 217). Як і *гарла́чык* (гл.), паводле формы (Нас., 153).

**Жбунт** 'звязка, скрутак' (КСТ). Кантамінацыя *жмут*$_1$ (гл.), *жгут* і *бунт*$_2$ (гл.).

**Жбурыць** 'моцна біць' (лельч., Нар. лекс., 240), *жбурну́ць* 'кінуць вобземлю' (клец., Жыв. сл., 180). Рус. дыял. *жбурлять* 'кідаць', укр. дыял. *жбу́ риги, жбурнути, жбурляти* 'кінуць, кідаць'. Эмацыянальна-экспрэсіўнае азванчэнне пачатку слова, прадстаўленага ў *шпурнуць, шпурляць* (гл.).

**Жвавы** 'бойкі, рухавы'. Рус. паўд., зах. *жвавый,* укр. *жвавий,* польск. *żwawy,* памор. *žvavï* 'тс', чэш. уст. нар. *žvavý* 'гаваркі, балбатлівы', славац. уст. *žvavosť* 'балбатня', в.-луж. *žwawy* 'хто жуе; балбатлівы'. Міклашыч (413) суадносіў бел. *жвавы* 'вясёлы' з *živ-(žīv-)*. Коген (Уч. зап. БГУ, сер. филол., вып. 1. Мн., 1940, с. 193) выдзяляў суфікс *-ав-*. Таксама Мартынаў — Міхневіч (Маладосць, 1969, 10, 134) узводзяць да *žīv-*. Брукнер (668) лічыў, што *żwawy* да *żuć* 'жаваць', а ўсх.-слав. словы з польск. Паходжанне польск. слова і яго семантыку ў русле думкі Брукнера тлумачыў Атрэмбскі (Życie wyrazów, 130—131). Трубачоў (Этимология, 1965, 63—64), рэканструюючы прасл. дыял. **žьvavъjь,* указваў на семантычнае і фармальнае супадзенне з авест. *ǰvaya* 'жвавы' і дапускаў іранскае ўздзеянне на слав., паколькі больш слав. форм з *žьv-* ён не адзначыў. Аднак такой формай можна лічыць *жэўжык* (гл.). Калі прыняць тэзіс Міклашыча пра **žьv-//*živ-*, і.-е. форма будзе мець выгляд **g$^{u}$ī$^{u}$-* (Покарны, 1, 468). Чэш., славац., в.-луж. і ст.-польск. значэнні ўказваюць на магчымасць прыняцця гіпотэзы Брукнера пра суаднясенне з *жаваць,* аднак, верагодна, бел. і ўкр. формы маглі ўзнікнуць незалежна ад польск. Мсцісл. *жвялы* 'жвавы' і вытворныя *(жвяла, жвяласць), жвялець* 'жвавець' (гл.), чэрв. *жвалы,* укр. дыял. *жва́лий* 'жвавы' (Жэлях.), магчыма, суадносяцца з літ. *žvalus* 'жвавы, лоўкі'. Да гэтай формы ўзводзіць бел. дыял. *жвяла, жвялець* Лаўчутэ (Baltistica, VI, 2, 199). Пры гэтым літ. форма магла ўздзейнічаць на бел., а бел. семантыка на літ. Супрун, Бел.-польск. ізал., 124—129.

**Жва́ка,** *жва́чка* 'ежа (або нейкі прадмет), што шматразова



пераджоўваецца' (ТСБМ). Рус. *жвак, жва́ка, жва́чка,* укр. *жва́ка, жва́чка* 'тс', серб.-луж. *žwak,* в.-луж. *žwačk,* н.-луж. *žwack* 'тс', балг. дыял. *жва́ка, жва́чка* 'тс', серб.-харв. *жва̏ка* 'тс', *жва̑к* 'жавок, адзін рух сківіц пры жаванні'. Няма сумнення пра корань **žьv-a-* (гл. *жава́ць*). Далейшае ўтварэнне або ад *жвакати* бяссуфіксным спосабам (Лідэн у Зб. Міккале, 120, паводле Фасмера, 2, 37) або з суфіксам *-к-,* як *драка* (Шанскі, 1, 5, 279), і памяншальным *-ьк-а* (параўн. *драчка*), што больш верагодна.

**Жвала** 'васкавая залоза ў пчалы' (палес., Лексика Пол., Шатал.). Рус. дыял. *жва́ло* 'сківіца бяззубай жывёлы', укр. палес. *жва́ло* 'васкавая залоза ў пчалы', серб.-харв. *жва̏ло* 'пашча, глотка; цясніна', *жва̏ље* 'сківіца; сліна; цуглі; заедзі', славен. *žvála* 'цуглі'. Макед. *цвало* 'рот звера'. Прасл. **žьv-a-l-o* утворана ад **žьv-a-* (гл. *жава́ць*) з суфіксам *-л-о.* Скок, 3, 690.

***Жварыга,** *жворы́га* 'надакучлівы чалавек' (іван., Нар. лекс., 195). Суфікс *-ыга* быццам бы ўказвае на аснову *жвар-,* аднак яна выразна не суадносіцца з іншымі словамі. Калі дапускаць суаднясенне з *жв-* у шэрагу слоў, маючых значэнне балбатання, надакучлівай размовы *(жвіндзіць, жвянькаць),* застаецца няясным *-п-* і цвёрдасць *-в-*. Не выключана іншае тлумачэнне кораня (параўн. *жывы, жабрак*). Няясна.

**Жваць.** Гл. *жава́ць.*

**Жвінда** 'чалавек, які бурчыць і ные' (навагр., Нар. сл., 9), *жвіндыць* 'абграваць' (усх.-маг., Бяльк.), *жві́ндзіць* 'бедаваць' (карэліц., Марц.). Укр. *жви́ндіти* 'бубнець', *жміндати* 'скупіцца' (Жэлях.). Параўн. *жміндзіць* 'бубнець; есці', *жмінда* 'скупы', *жвянькаць* 'надакучаць размовамі'. Форма і семантыка слова — вынік узаемадзеяння формы і семантыкі шэрагу каранёў, у тым ліку *žьv- (жаваць, жвякаць, жвяліць), gov- (гаварыць)* з чаргаваннем галоснага, *žьm- (жмінда, жаць*$_2$*),* якое стала магчымым у сувязі з эмацыянальна-экспрэсіўнымі адценнямі ў значэнні. Параўн. Лаўчутэ, Сл. балт., 109.

**Жві́ны** 'высмактаныя рэшткі перажаванай ежы' (Нас.). Ад кораня **žьv-* (гл. *жава́ць*) з суфіксам *-ін-ы* (як *скалоціны, аб'едзіны, перажовіны*). Сцяцко, Афікс. наз., 44.

**Жвір** 'буйназярністы пясок'. Рус. дыял. *жвир* 'тс' (Літва, Латвія), польск. *żwir* 'тс' (і шэраг вытворных). Параўн. рус. дыял. *гверста́* 'тс', серб.-харв. *зве̑рст* 'тс'. Фанетыка і геаграфія бел. і польск. форм указваюць на іх літ. паходжанне: літ. *žvyras* 'тс' (Эндзелін, Darbu, 1, 103; Карскі, Труды, 395, Лаўчутэ, Сл. балт., 54; Мартынаў — Міхневіч, Маладосць, 1969, 5, 142). Рус. *гверста* і серб.-харв. *зврст* суадносяцца

8. Зак. 2801

з літ. як роднасныя. Фрэнкель, 1328—1329; Траўтман, 375; Фасмер, 1, 398—399; Брукнер, 668; Скок, 3, 668. Гл. яшчэ *жарства*. Аб пашырэнні *жвір* у бел.-польск. сумежжы гл. Зданцэвіч, Зб. Фальку, 347—399. Урбуціс, Baltistica, 19, 150.

**Жвот** 'жывот', *жвацісты* 'з вялікім жыватом' (гродз, З нар. сл., 32). З *жывóт* у выніку рэдукцыі ненаціскнога галоснага.

**Жвя́каць** 'шумна пераважоўваць' (ТСБМ). Рус. *жвакать*, дыял. пск., смал., калін., кастр. *жвякаць* 'есці, жаваць, жвякаць, гаварыць', укр. *жвакати* 'гучна пераважоўваць', польск. *żwakanie śledziony* 'гук, які ствараецца селязёнкай каня' (у Сянкевіча, магчыма, з усх.-слав.). Чэш. *žvýkati*, славац. *žviakat'* 'пераважоўваць, балбатаць', в.-луж. *žwakać*, н.-луж. *žwakaś* 'пераважоўваць', балг. *жвакам* 'жаваць', макед. *жвака*, *џвака* 'жаваць, балбатаць', серб.-харв. *жва̏кати* 'тс', славен., *žvekáti* 'тс'. Кантамінацыя гукапераймальнага дзеяслова, на што ўказвае суфікс -*ка*-, і кораня, прадстаўленага ў *жаваць*: **žьv-*, які, відаць, мог спалучацца як з тэмай -*а*-, так і з інш.

**Жвялéць** 'жвавець' (мсцісл., Юрч.) і вытворныя *жвяла*, *жвялей*, *жвяласць* Лаўчутэ лічыць утворанымі на аснове літ. запаз. *žvaléti* 'бадрыцца', *žvalùs* 'жвавы' (Baltistica, VI, 2, 199). Літ. уздзеянне на бел. формы з -*л*- не выключана (гл. *жвавы*, дзе і форма *жвалы*), хаця форма *жвалы* (і ўкр. *жвалий*) 'жвавы' можа тлумачыцца і як вынік варыянтнасці суфікса -*ав*-/-*ал*-. Пры тлумачэнні мяккасці -*в*- трэба ўлічыць аналагічныя адносіны ў *жвакаць* — *жвякаць*, а таксама магчымасць уздзеяння антанімічнага *вялы* (*жвавы* — *вялы* — *жвялы*). Магчыма і зваротнае ўздзеянне бел. семантыкі на літ.

**Жвялёк** 'скрутак' (мсцісл., Юрч. Фраз. 2). З суфіксам -*ок* ад *жвяліць* 'есці бяззуба, комкаючы'.

**Жвяліць** 'бяззуба, комкаючы есці' (мсцісл., Юрч. Сін., 80), *жвяль*, *жвель* 'выклічнік пра павольную яду' (мсцісл., Нар. лекс., 175). В.-луж. *žwalić* 'гаварыць глупства', славен. *žveljáti* 'есці марудна, пераважоўваючы; нешта рабіць марудна', серб.-харв. *жва̀лити* 'зацягваць цуглі; слінявіць, трымаючы ў губах (напр., люльку)', балг. дыял. *жваля* 'пераважоўваць', *жвилим* 'церці; піць'. Параўн. літ. *žvelgseti* 'многа гаварыць' (Шырвід), лат. *zvalkšēt* 'балбатаць, рабіць гук (пра падзенне прадмета і інш.)' (Мюленбах — Эндзелін). У корані адлюстроўваецца, відаць, тое ж **žьv-*, што і ў *жаваць* (гл.), але адбывалася і кантамінацыя з гукапераймальным **žv-* (параўн. *жвякаць*), прычым аснова ўтвараецца з living рознымі галоснымі (*а*-, -*ě*-, -*і*-) і зычным -*l*- (дэтэрмінатывам?).

**Жвя́нькала**, *жвенькала* (націск — ?) 'пляткар' (маг., Бяльк., Юрч., Яўс.). Ад *жвя́нькаць* (гл.) з дапамогай суфікса -*ла*.

**Жвя́нькаць** 'надакучаць размовамі, лянівa гаварыць', *жвéнькаць* 'пляткарыць, балбатаць' (маг., Бяльк., Юрч., Яўс.), *жвянь*, *жвяньк* 'выклічнік пра надакучлівыя размовы' (мсцісл., Нар. лекс., 175). Чэш. *žvaniti* 'многа і неразумна гаварыць', в.-луж. *žwamlić* 'гаварыць дурасці', *žwjeńkać* 'жаваць з цяжкасцю', н.-луж. *žwankliś* 'пераважоўваць, балбатаць', славен. *žvenkati* 'звінець'. Відаць, вынік узаемадзеяння шэрагу асноў, прадстаўленых у словах *жаваць* (гл.), *звінець* (гл.), а магчыма, і *гаварыць* (гл.) з чаргаваннем галоснага. Магчыма трактаваць першасным **žьv-e/a-* 'жаваць' з эмацыянальным інфіксам -*н*- (калі не пад уплывам *звенькаць* і да т. п.) і суфіксам -*ka*-.

**Жгаць**$_1$ 'паліць' (Нас.). Рус. дыял. арханг., алан., наўг., смал., кастр., вяцк., перм., свярдл., с.-урал., кіраўск. *жгать* 'тс', чэш., арх. *žhati* 'тс', серб.-харв. *жга̑ти* 'пячы', славен. *žgáti* 'паліць'. Параўн. рус. *жечь*, *жгу*. Ст.-слав. **жєщи, жьгѫ**. Прасл. **žьg-* (з тэмай -*а*-, у той час як у **жєщи** яна адсутнічае, а на месцы -*ь*- выступае -*е*-). Лічаць, што з і.-е. **dhegʷh-* 'гарэць': літ. *degù*, ст.-інд. *dāha-h* 'пажар, спёка', авест. *daxša* 'пажар' і інш. Покарны, 1, 240—241; Фасмер, 2, 38; Траўтман, 49; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 289; Махэк$_2$, 727; Брукнер, 663-664. Скок (3, 674—675) тлумачыць узнікненне слав. **geg-* з **deg-* асіміляцыяй. Корань **deg-* адлюстраваны ў *дзёгаць* (магчыма, з балт.) гл. Фасмер (2, 38) лічыць менш верагодным зробленае Шэфтэловіцам (ZfIndIr, 2, 271) супастаўленне са ст.-інд. *jañj* 'асвятляць, гарэць', ст.-ісл. *kvekva* 'запальваць' і зробленае Зубатым (Studie, I, 1, 127) дапушчэнне, што **geg-* звязана з лат. *dzedzite* 'поле пад папар'. Але Зубаты (Studie, 1, 2, 142) імкнуўся растлумачыць форму **žeg-* паралеллю з **žegrati*. Так ці іначай паходжанне кораня **žeg-*, **žьg-* не можа лічыцца вырашаным канчаткова. Параўн. *жага*, *жыгаць*, *жэгаць*.

**Жгаць**$_2$ (Нас.). Гл. *джгаць*.

**Жгель** 'выклічнік для абазначэння ўдару' (полац., Нар. лекс., 26), *джгель*. Відаць, звязаны з *жгаць*$_2$, *джгаць* (гл.), хаця і можа разумецца як гукапераймальны.

**Жгерну́ць** 'кусн уць, пекануць (пра ката)' (КСТ). Параўн. укр. *шкірити* 'шчэрыць'. Відаць, экспрэсіўнае азванчэнне кораня **šker-*/ **sker* (> *шчэрыць*, гл.), магчыма, пад уздзеяннем *жгаць* (гл.), да якога прыяднаўся суфікс аднакратнага дзеяння -*ну*-.

**Жгіў-жгіў** 'гукапераймальны выклічнік, які імітуе гук пілы' (полац., Нар. лекс., 22).

**Жгур** 'матуз' (Жд. 2.). Паводле Варбат (Этимология русских диалектных слов, Свердловск, 1978, 6), роднаснае *жгут* (і рус. дыял. *жгуль*), але ўтворанае з іншым суфіксам *-р-*. Гэта, аднак, азначала б надта старажытны характар гэтага рэдкага мясцовага слова. Больш верагодна кантамінацыя *жгут* — *шнур* з блізкімі значэннямі.

**Жгут** 'скручаны кавалак матэрыялу'. Рус. *жгут* 'тс', укр. *джгут, жгут*. Паводле Гараева (107), падтрыманага Фасмерам (2, 38), дзеепрыметнік ад дзеяслова з коранем **žьg-* (гл. *жгаць*), першапачаткова як 'шнур для падпальвання'. Праабражэнскі (1, 223) у гэтым не быў упэўнены, а Шанскі (1, Д, Е, Ж) прапануе тлумачэнне *жгут//жигут* (прадстаўленага ў арл., разан. гаворках) як вытворнага з суфіксам *-ут* (як *лоскут*) ад дзеяслова *жигать* (параўн. *жгаць₂*) паводле функцыі *жгута*, якім удараюць. Але галоўная семантычная прымета *жгута* — скручанасць — у абедзвюх этымалогіях застаецца па-за тлумачэннямі. Няясна.

**Жгуто́к** 'вяроўка' (Касп.). Ад *жгут* (гл.) з суфіксам *-ок* (гл.) (Сцяцко, Афікс. наз., 168) і пэўнымі семантычнымі зрухамі ў адносінах да зыходнай формы (як *лакаток* 'падлакотнік').

**Жгу́чка** 'крапіва' (Бяльк.). Рус. дыял. кур., смал., арханг., пск., укр., палес. *жгучка* 'тс'. Утворана, відаць, яшчэ ў ст.-рус. мове ад дзеепрыметніка незал. стану цяп. ч. з суфіксам *-уч-*, суадноснага з дзеясловам *жьг-ти, жьг-а-ти* (гл. *жгаць₁*) з суфіксам *-ьк-а* паводле дзеяння. Параўн. *пякучка, трасучка*.

**Жда́нкі** 'ўсё, падрыхтаванае да прыёму госця' (Нас.), 'тое, чаго чакаюць' (ТСБМ). Рус. дыял. пенз., урал., пецярб., кастр., сарат., арханг., калуж., перм. *жданки* 'тс', укр. *жда́нки* 'тс'. Утворана, відаць, на ст.-рус. глебе з дзеепрыметніка прошл. ч. залеж. стану ад дзеяслова *жьда-ти* — *жьда-н-* з дапамогай суфікса назоўнікаў *-ък-: жьданък-*. Гл. *ждаць*.

**Ждаць** 'чакаць' (ТСБМ, Нас.). Рус. *ждать* 'тс', укр. *ждати* 'тс', польск. дыял. *żdać* 'тс', памор. *ždac* 'тс', чэш. *ždáti* 'тс', славац. уст. *ždat'* 'тс', балг. *жда* 'тс', славен. *ždéti* 'тс'. Ст.-слав. **жьдати**. З прасл. **žьdati* < і. е. **gheidh-* (Покарны, 1, 426—427); параўн. літ. *geidžiu, geĩsti* 'жадаць', лат. *gàidît* 'чакаць', ст.-прус. *gēidi* 'чакаюць', с.-в.-ням. *gīt*, ням. *Geiz* 'жаднасць'. Фасмер, 2, 39; Траўтман, 82; Праабражэнскі, 1, 223; Махэк₂, 725; БЕР, 562; Брукнер, 663. Шанскі (1, Д, Е, Ж, 279) указвае на роднаснасць кораня *ждать* < **gьdati* з коранем *год (годить* 'чакаць'). Параўн. яшчэ *жадаць*.

**Жлоб₁** 'жолаб' (смаргон., Шатал.). З польск. *żłób* (р. скл. *żłoba*) 'тс'. Зафіксавана ўжо ў 1589 г. *жлобъ* (Булыка, Запазыч., 114). Параўн. з поўнагалоссем *жолаб*.



**Жлоб₂** 'скнара' (хойн., Шатал.). Рус. наварас. *жло́ба* 'тс', рус., укр. прастамоўн. *жлоб* 'скнара, эгаіст, упарты, неразвіты, цёмны чалавек', польск. *żłób* 'цёмны, неразвіты, дурны чалавек'. Параўн. ідыш *[žlob]* 'правінцыял, дзеравеншчына, грубы, неадукаваны чалавек', дзе слова, аднак, не этымалагізуецца надзейна. Параўн. яшчэ *шалапут* (гл.) з магчымасцю экспрэсіўнага азванчэння зычных і польск. непоўнагалоснай формай. Аднак у польск. адпаведная глухая форма, здаецца, адсутнічае, а іначай цяжка тлумачыць бел. форму. Перанос у польск. *żłob* 'жолаб, яслі' на 'вясковец' і далейшае развіццё значэння семантычна неверагодныя. Магчымасць сувязі з *żłopać* 'піць жадна і гучна' (параўн. *жлокаць*): 'той, хто прагна п'е, есць з чвяканнем' > 'скнара, неадукаваны чалавек' не выключана, але і не мае дакладнага семантычнага і фармальнага пацвярджэння, хаця і зафіксавана польск. варш. *żłopak* 'п'яніца' (Вечаркевіч, Słownik; Тувім, Słownik). Слова амаль не фіксавалася ва ўсх.-слав. лексікаграфіі, хаця вядома ў прастамоўі дастаткова шырока.

**Жло́кацць**, *жлокта́ць* 'піць, хлябтаць' (Нас.). Рус. смал., ніжнегар., уладз. *жло́кта́ть*, в.-луж. *žłokać, žłopać*, н.-луж. *žłokaś*, польск. дыял. *żłopać* 'тс', славен. *žloptati* 'ісці хлюпаючы, пляскацца'. Кантамінацыя *лопаць* і *локаць₂*, *локтаць* з экспрэсіўным пасіленнем праз «прэфікс» *ж-* (і «суфікс» *-та-*). Не выключана і другасная сувязь з *жлукціць₂*, *жлуктаць*.

**Жлудзь** 'картачная масць' (Нас.). Рус. *жлуди* 'тс'. Фасмер (2, 58) лічыць форму *жлуди* ад *желуди*. Чарнышоў (Избр. тр., 2, 448) лічыў назву *жолуди* калькай чэш. < ням. назвы, а выпадзенне першай галоснай звязваў (там жа, 452) з формамі ўскосных склонаў мн. л. *желудéй, желудя́м* > *жлудéй, жлудя́м*, адкуль і другасная форма наз. скл. мн. л. *жлуди*. Трэба далучыць яшчэ магчымасць уплыву акцэнтнага варыянта *жалу́д* (гл.), прадстаўленага і ў бел. мове. Формы з мяккасцю апошняга зычнага вядомы і бел. мове (*жолудзь*, Шатал.). Гл. *жолуд*.

**Жлу́кта₁** 'драўляная пасудзіна'. Рус. дыял. смал., паўд., зах., кур., белгарад. *жлу́кта* 'тс', укр. *жлу́кто* 'тс', польск. *żłukto* з літ. *žlùgtas, žlùktas* 'пасудзіна, у якой мыюць бялізну' і 'намочаная бялізна' (Буга, Rinkt., 2, 685—688; Міклашыч, 412; Фасмер, 258; Кіпарскі, Аткупшчыкоў, Талстой у кн. Лексічныя балтызмы 14, 32, 48; Урбуціс, Baltistica, V, 1, 60). Сумненні Праабражэнскага (1, 234—235) пра балт. паходжанне слова наўрад ці апраўданы. Пра этымалогію балт. слова гл. Фрэнкель, 1318.

**Жлýкта**$_2$ 'той, хто многа п'е' (ТСБМ). Рус. дыял. кур., смал. 'тлусты, неахайны чалавек; хто многа п'е'. Перанос значэння з *жлукта*$_1$ (гл.). Ва ўкр. засведчана такая магчымасць шляхам параўнання (Сл. укр. мови): *круглий, як жлýкто*.

**Жлýкціць**$_1$ 'запарваць бялізну' (Нас., Сл. паўн.-зах.). Рус. дыял. смал., паўд., зах., бранск. *жлýктить* 'тс', укр. уст. *жлýктити* 'тс' (Грынч.), польск. *żłukcić* 'тс'. З літ. *žlùgti* 'мачыць бялізну ў шчолаку'. Літ. гл. пад *жлукта*$_1$.

**Жлýкціць**$_2$, *жлуктаць* 'многа піць' (ТСБМ). Рус. дыял. смал., кур., арл. *жлуктить* 'тс', укр. *жлýктити, жлуктíти* 'тс'. Перанос значэння *жлукціць*$_1$ у адпаведнасці з семантычнымі адносінамі *жлукта*$_1$, *жлукта*$_2$. Врачу (Лекс. балтызмы, 6) параўноўвае *жлýкціць* 'піць' з літ. *žlùgti* 'праваліцца, згінуць', хаця літ. семантыка не зусім суадносная з усх.-слав.

**Жлябóўка** 'распусніца' (Касп.). З літ. (Лаўчутэ, аўтарэферат, 9).

**Жмáка** 'вільготнае месца на лузе' (мядз., Нар. сл., 9). Відаць, перанос з назвы жамерын *жмакі* паводле мяккасці і вільготнасці грунту. Гл. *жмуха*. Параўн. чэш. *žmach, žmoch* 'балота, гразь'.

**Жмаць** 'цiснуць' (Касп., Сл. паўн.-зах.), *жмяць* 'прыціскаць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. дыял. *жмать* 'тс'. Варыянтнае афармленне дзеяслоўнага кораня, прадстаўленага ў *жаць*$_2$. Параўн. н.-луж. *žmuś*, чэш. *žmouti* 'сціскваць'. Адлюстроўвае спалучэнне кораня **žьm-* з тэматычным галосным *-a-*: **žьm-a-ti*.

**Жмéня**, *жмяня́* (Сл. паўн.-зах.). Рус. абл., укр. *жмéня* 'тс', чэш. *žmen*, славац. *žmeň*. Ад кораня **žьm- (жаць*$_2$*, жмаць)* з суфіксам **-en-* і далейшым канчаткам *-ja(-i)*. Відаць, яшчэ прасл. рэгіяналізм. Махэк$_2$ (175), улічваючы чэш. *žemně*, мар. *žemenka*, прапануе прасл. форму **žьmьńa* або **žьmьnь*. Фасмер, 2, 58; Міклашыч, 408.

**Жмíнда** 'скнара' (ТСБМ), *жмы́нда* (Касп.), *жмы́ндала* (мядз., Нар. сл., 67) 'той, хто плявузгае', *жмíнда* 'скнара', 'пляткар' (бялын., Янк., Мат., 23), *жмíнда* 'той, хто бурчыць' (лях., Янк. Мат., 123). Укр. *жмíнда* 'скнара' (Жэлях.), польск. *żminda* 'нудны, скупы чалавек'. Параўн. яшчэ рус. *жми́нда*, польск. *żminda*, чэш. *žminda*, в.-луж. *žminda* 'расліна лебяда (Chenopodium L. foliosum, Blitum)' (па Махэку$_2$, 730, в.-луж. < < чэш. < польск. < ням. *Schminkelbeere*. Фасмер (2, 59) абвяргае апошняе, бо слова ў ням. позняе, і спасылаецца адносна ўтварэння яго на Вондрак, Vergl. Gr., 1, 601. Міклашыч (408), Гараеў (111) звязвалі з *žьm-* > *жаць*$_2$). Сувязь назвы нуднага, плявузгаючага, скупога чалавека з раслінай няпэўная.



Слова *жмíнда* ўтворана з дзеяслова **жмíндаць* бязафіксным спосабам, а *жмындала* — з дапамогай суфікса *-ла* (як *калупала, жаніла* і г. д., Сцяцко, Афікс. наз., 48—49). Адсутнасць у запісах значэння дзеяслова 'скнарнічаць' магчыма растлумачыць дэфектнасцю нашых ведаў.

**Жмíндзіць** 'есці' (гродз., Сцяц.), 'пляткарыць' (лях., Янк. Мат, 123), 'муштраваць' (клец., Жыв. сл., 180), *жмíндыць* 'плявузгаць' (бялын., Яўс.). Укр. *жмíндати* 'скнарнічаць'. Утворана ад дзеяслоўнага кораня *žьm- (жаць*$_2$*)* з экспрэсіўным суфіксам *-i-nd-a/i-*. Як і іншыя словы з гэтым коранем, развівае першаснае значэнне 'сціскваць': 'гаварыць невыразна, сціскваючы рот', 'пляткарыць, плявузгаць, нудна паўтараць, муштраваць', 'есці жвякаючы, чмякаючы'; 'скнарнічаць', 'прыціскацца'. Апошняе не адлюстравана ў запісах, аднак фіксуецца ў вытворным назоўніку *жмінда*.

**Жмодзь** 'саранча, навала' (КСТ). Параўн. рус. разан., тамб. *жмуть* 'той, хто прыгнятае, уціскае'. Відаць, пераасэнсаванне старой назвы балт. групы плямён (параўн. для вакалізму ст.-рус. 1689 г. *жмот* 'конь жмудскай пароды'), вядомае і ў іншых выпадках (параўн. *варвары*).

**Жмóтка** 'позыў (пры паносе)' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, звязана з коранем *жаць*$_2$ (параўн. *сцісквае ў грудзях, схваткі*), аднак шлях утварэння няясны.

**Жмуля́каць** 'чмякаць' (Касп.). Параўн. чэш. *žmoliti, žmouliti*, славац. *žmolit'*, славен. *žmuljiti* 'дэфарміраваць сціскваючы', а таксама *чмякаць, жмякаць* і да т. п. Корань **žьm-* (гл. *жаць*$_2$) з суфіксамі *-л'-* і *-ака-ць*.

**Жмур** 'бурбалка' (КСТ). Укр. *жмýри* мн. л. 'зыб, бурбалкі'. Даль фіксуе *жмуркі* 'вочы', паколькі вочы могуць вызначацца рознымі назвамі круглых выпуклых прадметаў (вульг. *шары, банькі; глаза* < круглыя каменьчыкі), магчыма, і тут зварот: *жмуры* 'вочы' (якія жмурацца) > 'бурбалкі'. Іншы ход: *жмурыць* > 'моршчыць' — 'зыб'. Абодва тлумачэнні патрабуюць высянення прамежкавых ступеней.

**Жмýра** 'той, хто жмурыць вочы; каты' (Нас.). Рус. смал., пск. *жмýра* 'той, хто жмурыць вочы; нелюдзень'. Аддзеяслоўны бязафіксны наз. ад *жмурыць*.

**Жмýркі** 'назва гульні' (ТСБМ; гродз., Нар. словаўтв., 256), *жмýркі, змýркі* 'частаванне на другі, трэці дзень пасля хрэсьбін' (пухав., бярэз., Жд.). Рус. *жмýрки* 'назва гульні', смал. 'нябожчыкі', укр. *жмýрки* '(назва гульні', польск. *żmurki* 'тс', чэш. *žmukaná*, уст. *žmukačka* 'тс', славац. *žmúračka*, уст. разм. *žmurky*, серб.-харв. *жмýрка, жмýра, жми́ра* 'назва гульні'.

Відаць, яшчэ прасл. аддзеяслоўны назоўнік (гл. *жмурыць*) з суфіксам *-ък-*, аформлены па мн. л.; на старажытнасць можа ўказваць не толькі агульнаслав. пашырэнне, але і выкарыстанне ў якасці назвы абраду, хаця і гульня можа адносіцца да старажытных.

**Жмуро́ю** 'разам, у сукупнасці' (Віл., Сл. паўн.-зах). Прыслоўе з тв. скл. наз **жмура*. У прыкладах: *пчолы* (або *мошкі*) *ляцяць жмурою*. Магчыма суаднясенне з рознымі сэнсамі: *жмура* экспрэсіўны варыянт ад **хмура* (гл. *хмурынка, хмара*); экспрэсіўнае ўтварэнне ад **чмура* (параўн. *чмурэць* 'дурэць'); ад *жмура* (гл.) < *жмурыць* 'закрываць вочы'. Няясна. Гл. *ашмурэць*.

**Жму́рыць** 'прыплюшчваць вочы'. Рус. *жму́рить*, укр. *жму́рити* 'тс', польск. дыял. *żmurzyć*, в.-луж. *žmrikać* 'маргаць', н.-луж. *žmriś* 'маргаць, жмурыць', чэш. *žmukati* 'жмурыцца ў гульні ў жмуркі', уст. *žmourati* 'тс', славац. *žmuril'*, славен. *žmúriti*, *žmeriti* 'жмурыць', серб.-харв. *жму́рити, жми́рити* 'тс', балг. дыял. *жмуря* (літ. *жумя̀*). Прасл. дыял. **žьmuriti* ўтворана ў выніку метатэзы з **тьžuriti*; параўн. *мігаць*, рус. *мгновение, смежить (очи.)*. Метатэза магла адбывацца пад уздзеяннем народна-этымалагічнага збліжэння з коранем **žьт-* 'сціскваць' (гл. *жаць*$_2$). Шанскі, І, Д, Е, Ж, 295; Фасмер, 2, 60; Міклашыч, 208; Брандт, РФВ, 23, 1, 87; Аппель, РФВ, 4, 3, 65; Махэк$_2$, 730; Скок, 2, 420; Праабражэнскі, 1, 235; Мартынаў — Міхневіч, Маладосць, 1970, 8, 142. Ва ўкр. *мружити*, польск. *mrużyc* сувязь з *маргаць*, а не перастаноўка *r* — *ž*, на што ўказваюць апошнія (Брукнер, 346).

**Жмут**$_1$ 'скрутак, камяк', *жмук* 'тс' (Янк. III), *жмак* 'тс' (Янк. III, Сл. паўн.-зах.), *жмах* 'тс' (Ababurka). Рус. алан. *жмут* 'вяроўка з лыка', *жмак* 'камяк' (Даль), укр. *жмут* 'скрутак', *жмак* 'тс', польск. дыял. *żmut, żmot, żmyt* 'тс', в.-луж. *žmoł* 'камяк', *žmót* 'маток' (Пфуль), чэш. *žmol/ek* 'камяк', славен. *žmukelj, žmik, žmókelj, žmitek* 'камяк, скрутак', балг. *жма́тина* 'скрутак сена', макед *жмучка* 'груз'. Ад кораня **žьт-* (гл. *жаць*$_2$, *жмаць*) з рознымі суфіксамі пасля розных галосных (гл. пра суфіксы *-к-, -х-, -t-, -l-* у Слаўскага, SP, 1, 89—114, 76—86; 3, 38—60), што ўказвае на экспрэсіўны характар вытворных. Безлай (Linguistica, VIII/1, 71—72) сумняваецца ў сувязі з *жаць* і параўноўвае з літ. *miegti, mýgti* 'ціснуць'.

**Жмут**$_2$ 'скнара' (Бялын., Янк. Мат., 23; Яўс.; міёр., З нар. сл., 290), *жмот* 'тс' (Яўс.), *жмуціла* (міёр., З нар. сл., 290). Рус. прастамоўн. *жмот*, дыял. *жмут* 'тс'. Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 294), суфіксальнае вытворнае ад *жмать (жмаць)*. Гл. *жаць*$_2$. Не выключана, аднак, і ўзаемадзеянне альбо нават



семантычнае ўтварэнне ад *жмут*$_1$ 'скрутак' (гл.), супраць чаго адсутнасць на рус. і бел. тэрыторыях фіксацыі форм з *о (жмот)* у знач. 'скрутак'. Гл. Пятлёва, Этимология, 1970, 208.

**Жмух** 'жменя' (драг., Нар. словатв., 144). Параўн. укр. *жмит* 'тс' (Жэлях.). Гл. *жмуха*, дзе паказан шлях утварэння ад кораня **žьт-* (гл. *жмаць, жаць*$_2$) праз дзеясловы тыпу **жмухаць* да бязафікснага назоўніка.

**Жмуха́** 'жамерыны' (драг., Нар. словатв., 144), *жмух, жмуха́, жмыха́, жміха* 'тс' (Сл. паўн.-зах.), *жмых, жмы́ка* 'тс' (Мат. Гом.), *жма́кі* 'тс' (Касп., Абабурка). Рус. *жмых*, дыял. смал., уладз., калуж., варонеж, кур., арл. *жма́ка*, кур. *жмак*, ярасл., разан., уладз. *жмы́ки*, укр. *жма́ки, жмихи* 'тс'. Чэш. *žmach, žmoch* 'гразь, нешта разбітае'. Ад кораня **žьт-* (гл. *жаць*$_2$). З рознымі галоснымі і суфіксальнымі *-х-* ці *-к-* утвараліся дзеясловы тыпу *жмыхаць* ад *žьт-а-ti*, ад дзеясловаў — бязафіксныя назоўнікі тыпу *жмых, жмух* і г. д. (Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 295; SP, 1, 76). Нельга, відаць, выключаць і непасрэднага ўтварэння назоўнікаў *жмакъ* ад *жма-ти*, як *знакъ* ад *знати*. Параўн. *жамерыны, жмаць*. Параўн. паўд.-слав. утварэнні з элементам *-ер-*: балг., макед *жмерки* 'шкваркі', макед. *жмер* 'асадак пры вытапленні сала', славен. *žmeterina* 'адходы воску'.

**Жму́ціць** 'скупіцца' (Бялын., Яўс.). Рус. урал. *жмути́ться* 'тс'. Адсубстантыўны дзеяслоў ад наз. *жмут*$_2$ з суфіксам *-і-ць*.

**Жмы́хаць** 'мыць бялізну' (расон., Шатал.), *жма́хаць* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Рус. дыял. *жмы́хать* 'тс', укр. *жминка́ти, жма́кати* 'тс', славац. *žmýkat'* 'тс', славен. *žmikati* 'сціскваць (у тым ліку вінаград, сыр, бялізну)', *žmúlja* 'пральная дошка'. Ад. прасл. **žьт-* (гл. *жаць*$_2$) з суфіксамі *-уха-, -аха-* (Слаўскі, SR, 1, 76) ці *-ука-* ўтварыліся дзеясловы з абазначэннем дэфарміруючага сціскавання; магчыма, менавіта на гэта ўказваў экспрэсіўны суфікс. Параўн. рус. *жмакать* 'неахайна сціскваць', серб.-харв. *жми̏кати* 'выціскваць' і інш. У гаворках адбывалася семантычная спецыялізацыя: пераход да 'праць'.

**Жмя́каць** 'чмякаць' (Нас.). Рус. дыял. *жмякать* 'есці з чмяканнем; сціскваць; ударыць, кідаць', укр. *жма́кати* 'жаваць', балг. дыял. *жми́чка* 'выдаваць гук мокрага прадмета, калі на яго націскваюць'. Паколькі рус. значэнні звязваюць з коранем **žьт-* (*жаць*$_2$), наўрад ці чыста гукапераймальнае, як указвае наконт балг. слова БЕР, 1, 552. Відаць, тут, з аднаго боку, сувязь з гэтым коранем, а з другога — з гукапераймальнымі тыпу *чмякаць, шмякаць*.

**Жне́ўнік,** *жні́ўнік* 'іржышча' (Абабурка, Шатал., Жд. 3,

Жыв. сл., 210). рус. бранск. *жневник* 'тс'. Ад прыметніка *жніўны*, утворанага ад *жніво* або ад *жнеўны* (<*жьн-ѣв-ьн-ъ*) з суфіксам *-ік*.

**Жнец** (ТСБМ), *жэнéц* (Сл. паўн.-зах.). Рус. *жнец*, укр. *жнець*, н.-луж. *žnejc*, *žnic* 'жнец', чэш., славац. *žnec*, славен. *žnjèc*. Ст.-рус. *жьнецъ* (з 1406 г.). Ц.-слав. *жьньць* (Міклашыч, Lex. palaeosl.). Прасл. *žьn-ьcь* (параўн. *жаць*$_1$), як *borьcь, *lovьcь (гл. Слаўскі, SP, 1, 100). Фасмер, 2, 60; Сцяцко, Афікс. наз., 39.

**Жнівень** '8-ы месяц года'. Рус. *жневень* 'іржышча'. Назва месяца, замацаваная ў 10-х гадах XX ст. (Гіст. мовы, 2, 139) паводле с.-г. работы. Параўн. уст. в.-луж. *žnjeńc* 'жнівень', ням. *Erntemonat* 'тс'. Адсубстантыўнае ўтварэнне з суфіксам *-ень* (Сцяцко, Афікс. наз., 152).

**Жнівó** *жніва* 'уборка збожжа; ураджай' (ТСБМ), *жнітвó* (в.-дзвін., Шатал.). Рус. абл. *жнивá* 'час уборкі', дыял. *жнúвó* 'жніво', укр. *жнúво*, *жнивá* 'тс', польск. *żniwo* 'тс', н.-луж. уст. *žnivo*, чэш., славац. *žnivo* 'тс', балг. дыял. *жнúво* 'зжатае збожжа'. Ст.-рус. *жниво* (XVI ст.). Ц. слав. *жьниво* (Міклашыч, Lex. palaeosl.). Як бел. словаўтварэнне разглядае Сцяцко (Афікс. наз., 41), але слова мае прасл. характар, калі ўлічыць яго агульнаслав. пашырэнне. Ад кораня *žьn-* (*жаць*$_1$) з суфіксам *-i-v-o* (гл. пра суфікс Мейе, Études, 371—373). Шанскі (1, Д, Е, Ж, 295) лічыць, што гэта адсубстантыўнае ўтварэнне, указваючы на вытворнасць ад *žьnь (параўн. чэш. *žeň* 'жніво'), аднак, магчыма, і аддзеяслоўнае (як ст.-слав. **сѣчиво** ад **сѣк-ж**, **тѧтива** ад **тѧт-и**). Параўн. яшчэ ст.-рус. *жнитво*, *жнитва*.

**Жніўнік** 'ліпеньскі баравік' (мазыр., Жыв. сл., 210). Назва дадзена паводле часу з'яўлення (падчас жніва), магчыма, шляхам кампрэсіі (*жніўны — баравік*) з суфіксам *-ік* або непасрэдна з суфіксам *-нік*.

**Жняя**. Рус. *жнея*, укр. *жнія* (Грынч.), польск. *żnieja*. Ст.-рус. *жнея*, 1559 г. Параўн. польск. м. р. *żnij*, укр. *жній* (Жэлях.). Суфіксальнае вытворнае ад *жаць*$_1$, *жну*, магчыма, яшчэ прасл. або паўн.-слав. характару *žьn-ě-j-a.

**Жóга** 'пякотка' (Бяльк., Мат. Гом.). Гл. *жáга*.

**Жóлаб** 'прадаўгаватае паглыбленне; карыта'. Рус. *желоб* 'прыстасаванне для стоку вады', укр. *жóлоб* 'карыта, прыстасаванне для перасыпання, пералівання', польск. *żłób*, серб.-луж. *žłob*, чэш., славац. *žlab*, славен. *žlêb*, балг., макед. *жлеб* 'тс'. Ст.-рус. *желобъ*, *жолобъ*. Ц.-слав. **жлѣбъ**. Прасл. *želbъ < <*gelbъ*. Ільінскі (РФВ, 1918, 78, 3—4, 198) звязваў са ст.-ісл. *golf* 'унутранасць пасудзіны; падлога'. Фасмер, 2, 61;



Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 282; БЕР, 1, 550; Махэк$_2$, 729; Скок, 3, 683. Пятлёва (Этимология, 1975, 47—49) звязвае з серб.-харв. *ижљити* 'выдаўбаць' і лічыць першасным значэнне 'выдаўбанае'. Іншыя этымалогіі (гл. Фасмер) малаверагодныя.

**Жóлуд** 'плод дуба', *жолудзі*, *жалýдка* 'картачная масць' (Нас.). Рус. *желудь* 'плод дуба', дыял. с.-урал. 'плод бульбы', уст. 'картачная масць', укр. *жолудь* 'плод дуба', уст. 'картачная масць' (Жэлях), польск. *żołądź* 'плод дуба', уст. 'картачная масць', палаб. *zelǫd*, в.-луж. *žołdź* 'тс', н.-луж. *žołž*, чэш. *žalud*, славац. *žalud'*, славен. *želod* 'тс', серб.-харв. *жѐлуд* 'плод дуба', балг, *жѐлъд*, 'тс', макед *желад'* 'плод дуба, картачная масць'. Ст.-слав. **желѫдь**. Ст.-рус. *желудь* 'каштаны, арэхі, жалуды'. Лац. *glans*, *glandis*, грэч. βαλανος, арм. *kalin*, ст.-прус. *gile*, літ. *gile*, лат. *dzile* 'жолуд'. І.-е. *g$^{u}$el, g$^{u}$la- 'тс' (Покарны, 1, 472—473). Брукнер (665) тлумачыў слав. *-d-* як паказчык зборнасці. Грэч. значэнне 'жолуд' і 'падаль' указвае на магчымасць сувязі з βαλλω 'кідаю' і адпаведна тлумачыць семантычны бок паходжання. Іначай Махэк$_2$, 722: і.-е. корань суадносіцца з g$^{u}$ere 'жэрці' і трактуецца як 'ежа вяпрукоў'. Фасмер, 2, 45; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 283; БЕР, 1, 533—534; Скок, 3, 675; Фрэнкель, 151; Тапароў, Е — Н, 234—235. Назва картачнай масці (гл. яшчэ *жлудзь*) — калька ням. *Eichel* праз чэш. і далей рус. ці польск. (Чарнышоў, Избр. тр., 2, 448—452).

**Жом** 'жамерыны' (дзятл., Сл. паўн.-зах.). Рус. *жом* 'жамерыны; прас для выціскання', укр. *жом* 'жамерыны'. Усх.-слав. бязафіксны наз. ад дзеяслова *жаць*$_2$ (гл.): *жьмъ. Фасмер, 2, 61; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 295—296.

**Жонд** 'дзяржава, урад' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *rząd* 'урад' (з коранем *ręd- > *рад-* у *парадак* і г. д.).

**Жóндла** 'джала' (ашм., З нар. сл., 208; воран., іўеў., Сл. паўн.-зах.). З польск. *żądło* 'джала' (гл. *джала*).

**Жондзіць** 'гатаваць страву' (клец., Жыв. сл., 180). З польск. *rządzić* 'уладаць, кіраваць', дыял. 'быць у парадку'; параўн. *przyrządzać* 'рыхтаваць ежу, лекі'. Магчыма, з пэўнага дыялектнага семантычнага варыянта, а магчыма, у выніку адцягнення з прэфіксальнага варыянта.

**Жóнка**, *жынá* (Бяльк.), *жынка* (Сл. паўн.-зах.). Рус. *жена*, *женка*, *жонка*, укр. *жінка* 'жонка; жанчына', польск. *żonka* памяншч. ад *żona* 'жонка', серб.-луж. *žonka* 'тс', славен. *ženka* 'тс', 'самка', серб.-харв. *жѐнка*, балг. *жѐнка*, макед. *женка* 'тс'. Ст.-слав. **жена** 'жонка; жанчына'. Ст.-рус. *жена*, *женка*, *жонка* 'жонка; жанчына'. Прасл. *žena < *gena роднаснае ст.-прус. *genno* 'жанчына; жонка', ст.-інд. *jánis* 'жонка; жанчына', арм.

*kin*, гоц. *qinô* 'тс', грэч. *γυνη*, бэаційскае *βανα* 'жонка', ірл. *ben*, тах. А *śäm*, В *śana* 'жанчына', алб. *zonjë* 'жонка; пані'. І.-е. *$g^u$enā* 'жонка; жанчына' супастаўлялі з **g'en-* 'нараджаць', што, аднак, недастаткова абгрунтавана. Фасмер, 2, 46; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 284; Брукнер, 666; Махэк$_2$, 725; Скок, 3, 677; БЕР; 535—536; Трубачоў, Ист. терм., 105—110; Траўтман, 84; Тапароў, Е — Н, 207—210; Покарны, 1, 473—474. **Ženъka* ўтворана ад **žena* яшчэ на прасл. глебе з дэмінутыўным суфіксам *-ъk-*.

**Жор** 'перыяд, калі рыба кідаецца на яду' (ТСБМ). Рус. *жор* 'час, калі рыба добра бярэцца', дыял. 'апетыт', польск. *żer* 'яда (у жывёл)', чэш., славац. *žer* 'тс'. Бязафіксны наз. ад дзеяслова **žьrati* — *жэрці* (гл.): **žьrъ*; першаснае значэнне магло лепш захавацца ў зах.-слав. мовах 'ежа як працэс'.

**Жо́ра** 'жарабя', *жо́ря* (Бяльк.). Памяншальнае ўсячэнне *жарабя* (гл. *жарабец*) з пераносам націску на першы склад. Для ўсячэння падставай магло быць падвядзенне пад мадэль кароткіх назваў малых жывёл (*ягня, цяля*, дыял. *вайча, казя, каця*, Сцяц., Афікс. наз., 197), звязанае з усячэннем паўторнай суфіксацыі (параўн. *ласянёнак* і *ласё*, там жа, 201). Няясны націск. Не выключана кантамінацыя з *жэрці* (гл.).

**Жораў.** Гл. *жураве́ль*.

**Жо́рван**, *жо́рваны* 'жорны' (Мат. Гом.). Гл. *жаро́н*.

**Жо́ржкі** 'гульня хлопчыкаў — бабкі' (гродз., Нар. словатв., 260). Улічваючы, што *жох$_2$* — назва элемента гульні ў бабкі — звязана, відаць, з гэтым словам, але зазнала ўплыў нейкага іншага слова. Фасмер (2, 62) адзначае *жорж* 'прайдзісвет' у сувязі з *жох* 'тс', указваючы, што непасрэднай сувязі паміж гэтымі словамі, якую бачыў Крастоўскі (ИОРЯС, 4, 3, 1070), няма, бо *жорж* < франц. *George*. Аднак наяўнасць формы *жорж* у двух значэннях *жох* можна лічыць сведчаннем у карысць пэўнай сувязі *жорж — жох*, але сувязі хутчэй кантамінацыйнага характару, калі франц. імя суадносілася са старой назвай *жох*.

**Жо́рсткі** (ТСБМ), *жо́сткій* (Нас.). Рус. *жесткий*, дыял. паўд. *жёрсткий* 'жорсткі', укр. *жорсткий* 'жорсткі, суровы'. Ст.-рус *жестый* 'жорсткі', *жестокий* 'жосткі, суровы'. Ст.-слав. **жест-** (у складаных словах). Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 288), рус. *жесткий*, як і *жестокий*, запазычана са ст.-слав. Фасмер (2, 50) гэта не лічыць. Слав. **žest-* звязана, відаць, з с.-в.-ням. *kes* 'цвёрды грунт, глетчар', ст.-ісл. *kǫs* 'куча (камення)', ст.-ірл. *gall* 'камень' (?). Праабражэнскі, 1, 231; БЕР, 1, 538. Міклашыч (410) параўноўваў з коранем **žeg-*, абапіраючыся на дыял. *жегче* 'больш жорстка'. Скок (3, 667) дапускае такую магчымасць побач з папярэдняй. З'яўленне *-р-* у бел., укр. пад уздзеяннем *шорсткі* (гл.), якое магло ўплываць і на значэнне.



**Жостры** 'хуткі, спрытны' (Песні сямі вёсак), *жо́сткі* 'шустры' (Нас., Касп.). Рус. дыял. сімб. *жу́стро* 'бойка, шустра'. Відаць, вынік кантамінацыйнага ўзаемадзеяння слоў *шустры, жорсткі, вострыі*. Няясна.

**Жо́уклы**. Укр. *жо́вклий* 'жоўклы'. Чэш. *žlukly* 'пратухлы (у прыватнасці, пра тлушч)'. Ад асновы дзеяслова *жоўкнуць* з суфіксам *-л-* (параўн. *блякнуць — бляклы*).

**Жо́ўкнуць** 'рабіцца жоўтым, жаўцець (пра зеляніну)' (ТСБМ). Рус. *же́лкнуть*, укр. *жо́вкнути*, польск. *żółknąć*, славац. *žltnúť*, дыял. *žlknúť*, балг. *жълтвам се*, серб.-харв. *жу̏тнути* 'жоўкнуць', чэш. *žluknouti* 'набываць непрыемны запах і горкі смак, псавацца (пра тлушч)', славен. *žólgniti, žólkniti* 'псавацца (пра арэхі, муку і г. д.)'. Балг., серб.-харв., славац. формы з *-t-* адлюстроўваюць кантамінацыю з *жоўты* (гл.). Для іншых рэканструюецца прасл. **žьlknǫti* са значэннем 'псавацца, горкнуць, жоўкнуць (пра зеляніну)', дзе *-nǫ-ti* — дзеяслоўныя суфіксы. Элемент **žьlk-* (Брукнер, 665) выступае ў значэнні 'горкі' (*жоўклы* агурок, *жаўкляк* таксама, як і тлушч, і арэхі, горкі); ён, аднак, ужо адлюстроўвае ўплыў **žьlt-*. Выходнай слав. формай можна лічыць **zьlknǫti*. Магчыма, такая форма адлюстравана ў чэш. дыял. *zelknouti, zliknúť* 'жоўкнуць', *zalklý* 'затхлы', якія прыводзіць Махэк$_2$, 729. Менавіта ад формы **zьlk-* 'горкі' ўтвораны адцягнены назоўнік ад прыметніка на **ĭ* > *-ь*: **zьlčь* 'жоўць', адлюстраваны ў ранейшых ст.-слав. помніках як *злъчь*. Назва *жоўці* (гл.) потым зазнала ўплыў слова *жоўты*, як і *жоўкнуць*. І.-е. адпаведнікам для **zьlk-* 'горкі', магчыма, трэба лічыць занатаваную у Покарнага (1, 434) форму *g'hēlā*: ст.-інд. *hālā* 'гарэлка', грэч. *χάλις* 'неразбаўленае віно'. Але магчыма, што сюды і корань *g'hel-* (Покарны, 1, 429), прадстаўлены грэч. *χολος* 'жоўць, злосць', ст.-в.-ням. *galla* 'тс'. *-к-* звычайна — пашырэнне кораня. Магчыма, без гэтага пашырэння корань прадстаўлены ў **zъlъ* (гл. *злы*), які ў Покарнага (1, 489—90) семантычна не вельмі верагодна аднесены да сям'і **$ĝh^u$el* 'згінацца': не выпадкова так шырока вядома пераноснае значэнне **žьlčь* 'злоба'. Іншыя тлумачэнні: Махэк$_2$ (729) супастаўляў *žluknouti* (бел. форму ён не ўказваў) з рус. *ёлкий* (і бел. *ёлкі, ёлкнуць*, гл.) і выводзіў *žluknouti* з *jьz-jьlъk-nǫti*. Фасмер (2, 43 і 45), спасылаючыся на познюю фіксацыю *желкнуть*, схільны лічыць яго прадуктам трансфармацыі *желтый*, а ўзнікненне *-к-* на

месцы -т- тлумачыць праз форму *žьltlъ (адкуль желклый), у якой, відаць, адбылася дысіміляцыя. Так ці інача́й форма жоўкнуць (і *zьlčь > жоўць) у далейшым семантычна развівалася побач з жоўты і пад яго моцным уплывам.

**Жо́ўты.** Рус. желтый, укр. жо́втий, польск. żółty, серб.-луж. žołty, чэш. žlutý, славац. žltý, балг. жълт, макед. жолт, серб.-харв. жу̑т, славен. žôlt 'тс'. Ст.-слав. **жлътѣница** 'гатунак салаты', ц.-слав. жлътъ 'жоўты'. Ст.-рус. жьлтый 'тс'. Параўн. яшчэ вытворныя жаўток, жаўцець, жаўціна прасл. характару і шэраг пазнейшых. Прасл. *žьltъ, роднаснае літ. gel̃tas 'жоўты', лат. dzęltęns, ст.-прус. gelatynan 'тс', узыходзіць да і.-е. кораня *g'hel- або *ghel-. Покарны (1, 429—30) лічыць зыходным першы, які мае шэраг і.-е. адпаведнікаў (у тым ліку ст.-іран. zari 'жоўты', лац. helvus 'мёдава-жоўты', брэтонск. gell 'светла-карычневы', ням. gelb 'жоўты' і інш.), але на слав. грунце дае зялёны, залаты (гл.). Тады, паводле Покарнага (услед за Персанам і Крэчмерам), балта-слав. *gel- тлумачыцца запазычаннем з моў kentum. Іншае тлумачэнне балта-слав. форм: праз наяўнасць і.-е. *g$^u$hel-(> *gel-, *gil-), якое давала слав. *žьl- і ўзаемадзейнічала з *g'hel- (Тапароў, E — H, 199). Так ці інача́й у жоўты адлюстравана балта-слав. суфіксацыя *-t-, прычым у слав. корані (у адрозненне ад балт.) -ĭ-. Гл. Фасмер, 2, 43—44; Траўтман, 83—84; Шанскі, 1, Ж, 282; Булахаў, Прым., 3, 76; Махэк$_2$, 730. Гл. яшчэ жоўць$_1$, жоўкнуць, жайна.

**Жоўць**$_1$ 'жоўта-зялёная горкая вадкасць, якую выдзяляе печань', перан. 'злосць'. Рус. желчь, укр. жовч, палес. жовть, польск. żółć, н.-луж. žołś, žołc, в.-луж. žołč, чэш. žluč, славац. žlč 'тс', балг. жлъч 'злосць' уст. 'атрута', жлъчка 'жоўць', 'жоўцевы пузыр', макед. жолч 'жоўць, жоўцевы пузыр', серб.-харв. жу̑ч 'тс', славен. žôlč 'жоўць'. Ст.-слав. **злъчь,** пазней таксама жлъчь, ц.-слав. жлъть 'тс', ст.-рус. жьлчь 'тс'. Бел. поўнасцю адлюстроўвае (як і ўкр. палес., польск., н.-луж.) уплыў слова жоўты на форму слова (пачатковае ж- і канчатковае -ць замест. з- і -чь). Першаснае значэнне да кантамінацыі з жоўты было, відаць, 'горыч', што паслужыла асновай для старажытнага пераносу значэння 'злосць, раздражненне'. Захоўваючы гэта пераноснае значэнне слав. мовы, аднак кантамінавалі слова з жоўты, што прывяло і да семантычнага зруху (адлюстраванага у першым слове слоўнікавага тлумачэння). Гл. жоўкнуць.

**Жоўць**$_2$ 'жоўтая фарба, жоўты колер'. Рус. желть, польск. рэдк. żółć, в.-луж. žołć, чэш. žluť, славац. žlť. Ст.-рус. жлъть 'тс'. Утворана, як адцягнены назоўнік са значэннем апрадмеча-



най адзнакі на -ь(< *-ĭ) ад прыметніка жоўты, відаць, яшчэ ў прасл. мове, як напрыклад, чэрнь (< *čьrnь): *žьltь.

**Жох**$_1$ 'прайдзісвет' (ТСБМ). Рус. жох 'тс'. Улічваючы форму жег 'прайдзісвет', якую Даль прыводзіць у гняздзе жечь, Шанскі (1, Д, Е, Ж, 296), як і Фасмер (2, 62), Праабражэнскі (1, 236), схіляецца да думкі пра сувязь з коранем жьг (гл. жога) і параўноўвае з прожженный, выжига, жиган. Хаця гэта этымалогія патрабавала б падтрымкі як у семантычных, так і ў фармальных адносінах, яна, магчыма, лепей, чым іншыя, напр., сувязь з жокер 'назва карты' (< англ. 'падманшчык') ці з цюрк. джок 'бядняк' (Радлаў, Опыт, 4, 93), альбо шох 'цікавы, гуллівы, жартаўлівы' (там жа, 1026). Гл. жох$_3$.

**Жох**$_2$ 'костка ў гульні' (грозд., Нар. словатв., 269). Рус. дыял. жох 'адна са старон, палажэнне косткі ў гульні; сама костка; спіна, край'. Фасмер (2, 62), крытыкуючы няпэўную сувязь з жаць$_2$, якую адзначыў Гараеў (111), недакладную паралель з польск. żoch 'страўнік' (магчыма, з чэш. žoch, žok < ням. Sack 'мех, мяшок'), выказвае нясмела думку пра магчымасць сувязі з жох$_1$. Ці не трэба ўлічыць магчымасць сувязі з цюрк. джок, у некаторых мовах (напр., казах.) жок 'не, няма, згубленая рэч' (Радлаў, Опыт, 4, 92—93)? Параўн. яшчэ Ціцэ (Tietze), Oriens, 10(1957), 377.

**Жох**$_3$ 'выклічнік, што ўказвае на раптоўнасць' (полац., Нар. лекс., 26). Відаць, звязана з дзеяслоўным коранем *žьg- (гл. жага, жгаць). Параўн. укр. прожогом 'хутка, імкліва'. Гл. жох$_1$.

**Жрэц** 'свяшчэннаслужыцель язычніцкай рэлігіі'. Рус. жрец, укр. жрець, чэш. (з рус. — Голуб — Копечны, 447), славац. žrec, серб.-харв. жрêц (з рус.— Скок, 3, 685), славен. žréc, балг., макед. жрец 'тс'. Ст.-слав. **жьрьць** 'тс'. Ст.-рус. жрецъ 'тс'. Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 297), ст.-рус. запазычана са ст.-слав. Фасмер (2, 63) не выключае, відаць, захавання ўсх.-слав. слова, бо прыводзіць і ст.-рус. дзеяслоў жьру, жерети, ад якога (як і ст.-слав.) утворана з дапамогай суфікса -ьць і слова жьрьць. Той жа корань у рус. жертва. Прасл. *žьrǫ, *žrьti далі ст.-слав. **жьрж, жрѣти** 'прыносіць ахвяру'. Параўн. ст.-прус. girtwei 'славіць', літ. gìrti 'хваліць', лат. dzir̃t(ies) 'пахваляцца', ст.-інд. gṛṇā́ti 'славіць, спяваць'. І.-е. *g$^u$er(ə)- 'уздымаць голас, хваліць' (Тапароў, E — H, 247—249; Покарны, 1, 478). БЕР, 1, 554; Траўтман, 88.

**Жубрава́ць** 'доўга старанна працаваць', 'выпрошваць' (Юрч.). Польск. żubrować 'ачышчаць збожжа ад восцей, прапускаючы яго праз спецыяльны апарат żubrownik'. Першае

бел. значэнне магчыма тлумачыць як развіццё запазычанага польск., другое адлюстроўвае гукавую змену *жабравáць* (гл. *жабрáк*). Але і першае магло ўзнікнуць непасрэдна на бел. глебе ў выніку семантычнага развіцця паводле мадэлі 'выпрошваць' > 'пакутаваць' > 'цяжка працаваць' (параўн. слав. *trǫdъ* 'хвароба' > 'праца'). У сувязі з другім значэннем параўн. яшчэ серб.-харв. *жу̏борити* 'рабіць лёгкі шум', балг. дыял. *жуборя* 'шумець', макед. *жубори* 'тс'.

**Жувíкшч** 'шнуры для замацавання ніта' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *žuvýkštis* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 154; Лаўчутэ, Сл. балт., 66).

**Жудá**₁ 'жах' (ТСБМ). Рус. кур., арл., смал. *жуда* 'тс', 'непакой', 'нястача'. Сюды ж, відаць, рус. *жуть, жуткий* (> *жудь, жудкий*). Параўн. серб.-харв. *жу̑д* 'жаданне', балг. дыял. *жу̏дя* 'не спаць, мучыцца, не засынаючы'. Параўн. літ. *žudýti* 'мардаваць; забіваць, мучыць', *žū́ti* 'гінуць', лат. *zust* 'знікаць, страчвацца', *zudums* 'страта', *zaudēt* 'губіць'. Карскі (Труды, 392—393) указваў на роднасны характар бел. (рус.) і літ. слоў (Фасмер, 2, 63, недакладна прыпісаў Карскаму думку пра балт. паходжанне слова: у Карскага чытаем: «жудá... сродни лит. *žudaũ, žudýti* умерщвлять»). Булахаў (Курс суч., 159) ўказваў на слова *жуда* як балтызм. Мартынаў — Міхневіч (Маладосць, 1970, 7, 150) лічылі *жудасны* ўтвораным па балт. тыпу ад *жуда* (параўн. *дзіва* > *дзівосны*), а пра слова *жуда* адзначалі яго пашыранасць толькі на бел. і рус. глебе і пісалі: «магчыма, таксама з'яўляецца балтызмам». Буга (2, 688) прыводзіў для *жуда* іншыя балт. адпаведнасці: літ. жэмайц. *žiadùs* 'суровы, шурпаты' і да т. п., аднак яны не мяняюць справы, бо Фрэнкель (1303) звязваў іх з тым жа літ. *žudyti*. Трубачоў адносіць рус. і бел. *жуда* да дыялектызмаў прасл. слоўніка (Слав. языкозн., V, 172). Фасмер (2, 63) на семантычнай падставе думку аб балт. паходжанні слова *жуда* лічыў няпэўнай. Ён, аднак, не ведаў семантычна цікавага дадатку Бугі. Праабражэнскі (1, 236) прывёў думку Патабні (РФВ, 2, 10) аб суаднесенасці *жуда* з літ. *gañsti* 'пужацца', што выклікала пярэчанні Фасмера па фанетычных матывах. Скок (1, 564) адносіць серб.-харв. *жуд* < **ghьḷd-* да кораня *glad* 'голад'. БЕР (1, 556) звязвае балт. *жудя* з рус. *жуда*, балт. формамі тыпу літ. *žudyti* і ўслед за Фасмерам, параўноўваючы з ірл. *gūas* 'небяспека', англа-сакс. *gietan* 'забіваць', узводзіць да і.-е. **g'heu̯d-*. Аднак, калі прымаць такі пункт гледжання, слав. формы павінны былі б мець не *ž*, а *z*, а *ж* тлумачыцца як запазычанне з літ. Магчыма, таму Покарны (1, 448), прыводзячы балт., ірл., герм. формы, не ўключыў у адпаведны артыкул слав. Дабрадомаў (РР, 1977, 3, 157—160), зыходзячы з пашырэння слова на бел. і рус. тэрыторыях, выказаў думку пра балт. крыніцу, хаця балт. этымон няясны. Балт. паходжанне прымае Лаўчутэ, Сл. балт., 54. Але балт. паходжанне, калі ўлічваць пашырэнне кораня на балт. тэрыторыі, мала верагодна: трэба або аддзяляць балг. слова (*жу̏дав* 'слабы, няплённы (аб зямлі, збожжы)'), або знаходзіць іншую этымалогію. Шанскі (1, Д, Е, Ж, 300—301) вагаецца паміж рознымі супастаўленнямі кораня. Магчыма, трэба лічыць *жуда* бязафіксным наз. ад дзеяслова *жудзець* (гл.) з развіццём значэння 'гусці, шумець' > 'дакараць' > 'выклікаць непрыемныя пачуцці' ці 'перашкаджаць спаць' (для балг.). Параўн. *жуда*₂. Вытворнае *жу́дасны* зусім не абавязкова балтызм. У слав. мовах ёсць шэраг вытворных ад асноў на *-s-*, спіс якіх не закрыты (параўн. *неба, чуда*), але *жудасны* лёгка тлумачыцца як вытворнае ад *жудасць* (*жуд-ост-ьн-* > *жудостн-* > *жудасн-*). Бардовіч — Шакун, Марфемны слоўнік беларускай мовы, 1975, с. 200.



**Жудá**₂ 'дзеці' (навагр., Нар. словатв., 43). Параўн. рус. арл. *жуд* 'шум, гудзенне'. Магчыма, развіццё знач. 'шум' > 'тыя, хто робіць шум'. Не выключана і сувязь з *жуда*₁, нават перанос 'жах' > 'непакой' > 'крыніца непакою'.

**Жудзéць** 'дакараць, лаяць, павучаць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. арл. *жудéть* 'гусці', *жуди́ть* калуж. 'гусці крыламі', смал. 'доўга бурчаць'. Кантамінацыя *гусці* (*гудзець*) з *жузнець, жужэць* (гл. гэтыя словы), якая адбылася ва ўсх.-слав. дыялектах, прычым зафіксаваная бел. форма на першы план высоўвае знач. 'дакараць', у той час як рус. дыялекты хутчэй адлюстроўваюць значэнні агульнага шуму.

**Жужáк** 'вялікая муха, якая кусае летам скаціну' (черв., Нар. лекс., 63), 'авадзень', 'хрушч', 'гнаявік', 'вадзяны жук' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. том. *жужг* 'жук', перм. *жужга* 'гнаявік', цюмен., табол. 'жукі'. Утворана з суфіксам *-ак* ад асновы дзеяслова *жужэць* (гл.).

**Жу́жалка**₁ 'жабянятка' (Сл. паўн.-зах.). Рус. с.-урал. *жужáлка*, свярдл., арханг., том., перм., навасіб. *жужелка* 'жук, насякомае'. Відаць, звязана з памянш. **жужалка, жужаль*₁. Параўн. рус. арханг. *жу́желица* 'яшчарка'. Гэта назва дробнай істоты ўваходзіць, відаць, у кола тых істот, якія называліся першасна зборным *жужаль*₁ паводле Махэка₂, 729.

**Жу́жалка**₂ 'чарнявая жанчына' (Жд.). Параўн. рус. паўд.-сіб. *жу́желица* 'чарнявая дзяўчына'. Семантычны перанос ад першапачатковага памянш. *жужалка* 'чорнае насякомае' (< *жужаль*₁) на асобу.

**Жу́жалкі** 'частка кумпяка (бядра)' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *жужулачкі, журжа*$_1$ 'назвы цацак, што робяцца з касцей парасячай ці авечай нагі'. Параўн. рус. дыял. раст. *журжелка* 'цацка з косці', 'бабка (для гульні)', 'доўгая, худая нага', кур. *жижки* 'калені' (націск?). *Жу-*, як і ў іншых згаданых словах, можа ўзыходзіць да і.-е. **geu-* 'згінаць, скручваць' *(>*žu-)*, прадстаўленага, напр., у літ. *gur̃nas* 'шчыкалатка; пятка; костка, што тарчыць', лат. *gùrns* 'сцягно, кумпяк, костка сцягна, кумпяка', хец. *ku-u-tar (kuttar)* 'верхняя частка пляча', ісл. *kjūka* 'частка пальца'. Другое *ж* можа быць ці рэфлексам старога пашырэння *-g-*, як у названай ісл. форме, ці паўтарэннем, *-l-* стары суфіксальны элемент, *-ьk-* новы суфікс. Покарны, 1, 393— 398; Фрэнкель, 178—179.

**Жу́жаль**$_1$ 'драпежны начны жук, Carabidae' (ТСБМ). Рус. *жу́желица*, укр. *жу́желиця, жу́жіль* 'тс', чэш. *žížala, žížalice* 'род чарвякоў з сям. Lumbricidae', палаб. *zauzălaića* 'чарвяк', славен. *žúžel, žužę̂lica* 'насякомае', балг. *жу̀жел*, макед. *жужел* 'тс'. Ц.-слав. *жоужєль* 'тс', ст.-рус. *жужель* 'тс'. З суф. **-elь* ад асновы **zu-zg- (<*geu)*, відаць, гукапераймальнага характару, як і ў *жук* (гл.). Фасмер, 2, 63—64; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 297; Міклашыч, 412. Махэк$_2$ (729), відаць, справядліва лічыў, што першасна *жужаль* было зборным найменнем розных дробных стварэнняў — насякомых, чарвякоў і г. д., што тлумачыць выкарыстанне слова для абазначэння розных істот у розных слав. дыялектах (гл. *жужалка*$_1$).

**Жу́жаль**$_2$ 'шлак; гразевая або гнаявая жыжка' (ТСБМ), 'крохкая парода' (глус., Янк. III), 'гразь, жабурынне, лёк' (Сл. паўн.-зах.), *жу́жаля* 'бруд у вадзе' (Яўс.). Рус. арл. *жужель* 'дробныя адходы ад бульбы', укр. *жу́жіль* 'шлак', польск. *żużel* 'тс', чэш., славац. *žúžol* 'вугаль', славен. *žužel* 'сасновая сажа', балг. дыял. *жу̀жел, жужель* 'нешта чорнае, перагарэлае'. Па Брукнеру (668), як і *жужаль*$_1$, ад гукапераймальнага і.-е. кораня **geu-* паводле гуку, які выдае металічны шлак. Праабражэнскі (I, 236) указаў на сем. цяжкасць гэтага. Гараеў (111) супастаўляў з *жгу, жечь, жижа* 'агонь', што спатыкаецца з фанетычнымі цяжкасцямі, якія далі Фасмеру (2, 64) падставу лічыць гэту прапанову непераканаўчай. Безлай (лекцыя ў БДУ 14 лістапада 1969 г.) выказваў думку пра сувязь *жужаль* 'шлак' с **jьgъla* (> іголка), абгрунтоўваючы семантычна колкасцю шлаку, а фанетычна пачатковым *d-(*djugъla)*, паходжанне якога, аднак, не тлумачылася. Калі прыняць версію Махэка$_2$ (729) пра першаснае значэнне *жужаль*$_1$ 'сукупнасць дробных стварэнняў — насякомых, мышэй, чарвей і да т. п'., можна зразумець і перанос назвы *жужаль* з дробных нячыстых істот на дробныя нячыстыя прадметы: шлак, жабурынне, бруд, гразь. Параўн. яшчэ *жужалка*$_1$.



**Жу́жаль**$_3$ 'расліна куколь, Agrostemma githagos' (Сл. паўн.-зах.). Можа тлумачыцца як перанос ад *жужаль*$_1$ 'шлак' назву пустазелля, непатрэбнай травы. Іншыя назвы: *тугаль, гугаль, куколь* (гл.), *зязюльчын лён* (Кіс., 10). Першыя тры з іх указваюць на старажытную назву з вялікай варыянтнасцю зычных. Тады *жужаль* — варыянт старажытнай назвы (магчыма, праз **gougolь~*geugelь >žuželь*).

**Жу́жла** 'жук' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. літ. дыял. *žužlá* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, на той жа аснове *жу-, жужг-, жузг-* гукапераймальнага характару, што і *жужэць, жук*$_1$ (гл.) з суфіксам *-л-а* (як *цёрла*, а таксама *зяпло, вякло* (гл.), Сцяцко, Афікс. наз., 48—49). Гл. *жужаль*$_1$.

**Жу́жма**$_1$ 'вялікая колькасць' (чавус., Нар. сл., 132), 'стос, шмат' (Мат. Гом.), *жу́шмо* 'сноп, некалькі жмень (ільну, канапель)', (Лексика Пол., 211—212), 'мера льну, вязка, вялікая колькасць' (Сл. паўн.-зах.), *жу́шма* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Рус. смал. *жу́шма* 'вялікая колькасць', укр. *жу́жмом* 'у пераблытаным выглядзе; разам, вялікай колькасцю', ляшск. *žižmo* 'вялікая колькасць'. Параўн. славен. *žúželj, žušelj* 'жмут'. Паводле Сцяцко (Афікс. наз., 54), *жужма* ад *жужаць* з суфіксам *-ма* са зборным значэннем. Махэк$_2$ (729) таксама лічыў, што тут сувязь з *жужэць*, а першаснае значэнне тыпу 'рой'. Але такое тлумачэнне не ўлічвае значэння 'мера льну', якое цалкам, верагодна, было першасным: пераход ад 'вязка льну' да 'вялікая колькасць' зразумелы. Яно прадстаўлена, відаць, у слове *жма* 'процьма', дзе на ўзнікненне значэння 'вялікая колькасць' магло ўздзейнічаць слова *цьма*. Вывесці значэнне 'мера льну', наадварот, ад значэння 'мноства' цяжка. Параўн. і *жужма*$_2$. Пачатковае *жу-* можа быць вынікам паўтарэння *-ж-* у корані *-жма*. Калі ўлічыць *жулёмак* 'некалькі жмень ільну' (гл.), магчыма ў *жу-* бачыць рэфлекс кораня **geu*, што меў значэнне 'сціскваць, згінаць'. Не выключана і кантамінацыя слова тыпу *жма* са словам, якое мела значэнне 'мноства' і было звязана з *жужэць (* <geu-)*, напр., рус. дыял. *жужг* 'насякомыя; смецце'. Але шэраг слоў мае элемент *жу-* ў значэнні 'вязка' і да т. п. Параўн. *журжа*$_1$, *жужалкі, жушмень*.

**Жу́жма**$_2$ 'неахайная жанчына' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, пераноснае ад значэння *жужма*$_1$ 'вязка льну, сноп'. Але параўн. яшчэ польск. *żużmant* 'народная сукенка (з XVIII ст.)'.

**Жужу́лачкі** 'самаробныя цацкі з касцей, у якіх прадоўбваюць дзірачкі і ўцягваюць нітачкі' (Сл. паўн.-зах). Параўн.

*журжа*₁ 'тс' (?), *журайка* 'калодка з дзіркай (у прыладах)'. Параўн. яшчэ рус. тул. *жижблка* 'вяроўка'. Калі па сувязі з дзеясловам, што мае значэнне 'гусці', магчыма суадносіць з коранем *жужэць* (гл.). Некаторыя іншыя магчымасці гл. *журжа*₁. Фіналь *-ачкі* яўна суфіксальнага характару (< *-ъk-ьk-i*). Калекцыю агульнаслав. слоў на *-i-* гл. Мейе, Études, 2, 412—421; корань **geu-* 'згінаць, скручваць' мог мець пашырэнне *-l-* (Покарны, I, 396—397; гл. *жулёмак*), першае *жу-* можа быць экспрэсіўным паўтарэннем. Гл. яшчэ *жужалкі*. Няясна.

**Жужэ́ць** 'гусці' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *жужжáть*, балг. *жужа* 'тс'. Параўн. славен. *žučati*. Паводле Шанскага (I, Д, Е, Ж, 297), *жужжать* < *жузг-* (як *дребезг-и*) ад гукапераймальнага *жу-* < **geu-*) + *-ати*. Але гэта не тлумачыць пераходу *зг* > > *жж*. Фасмер (2, 64) тлумачыў *жж* як экспрэсіўнае. Пераход *zg* > *zž* > *žž* > *ž* тлумачыцца праз суфікс **-ě-ti*; магчыма, ён адлюстроўваецца ў бел. дыял. форме на *-эць*. Улічваючы балг. форму, відаць, прасл. Міклашыч, 412. Параўн. *жузнець*. Параўн. рус. дыял. назвы насякомых *жузг, жужг, жужга* (СРНГ).

**Жузне́ць,** *жузніць* 'жаваць, бурчаць', *жузня́* 'той, хто бурчыць' (Сл. паўн.-зах.), польск. дыял. *żużnić* 'гучаць, гусці ў вушах', славен. *žužnjáti* 'балбатаць', 'марудна працаваць'. Ад гукапераймальнага кораня **žu-* (< **geu̯*) праз **žuzg-* (параўн. *візг-, піск-*) з суфіксам *-н-е-ць* (або *-н-і-ць*). Параўн. *жудзець*.

**Жуйка** 'жвачка' (Нас.). Рус. арханг., зах., ленінгр., укр. *жуйка* 'тс', польск. *żujka* 'тс'. Ад асновы цяп. ч. *жуй-* (гл. *жаваць*) з дапамогай суфікса *-ьк-* назва аб'екта дзеяння.

**Жук**₁ 'від насякомага' (ТСБМ), мн. л. *жукарэ* (Сл. паўн.-зах.). Рус., укр. *жук* 'тс', польск *żuk* 'від насякомага, Geotrupes', в.-луж. *žuk* 'від насякомага, Bruchus', палаб. *zauk* 'від насякомага, Roßkewaar'. Параўн. чэш. *žukati*, славен. *žučati* 'гусці (пра насякомых)'. Ст.-рус. *жукъ*. Утворана з суф. *-к* ад гукапераймальнай асновы **žu-* < **geu̯-* (Шанскі, I, Д, Е, Ж, 298; Фасмер, 2, 64; Праабражэнскі, I, 237; Ільінскі, AfslPh, 29, 1908, 496; Брукнер, 667). Аснову **geu-*, відаць, трэба суадносіць з дадзенай у Покарнага (I, 403) асновай *gou-* (гл. *гук, гаварыць, гутарыць*).

**Жук**₂ 'пранырлівы чалавек' (ТСБМ). Рус., укр. *жук* 'тс'. Відаць, усх.-слав. сем. перанос ад *жук*₁ па паводзінах.

**Жуко́віна** 'персцень' (Сл. паўн.-зах., Жд., Шат., Жыв. сл., 149), *жыко́віна* (Шат.; бяроз., Шатал., жыт., Лексіка Пол., 286). Рус. наўг., арханг., алан. *жуко́вина* 'тс', 'жучок', укр. *жуко́вина* 'пярсцёнак з каменем' (Жэлях.), *жукови́на* 'жучок' (Грынч.). Параўн. ст.-рус. *жукъ* 'рэльефнае ліццё на метале'; відаць, сем. перанос ад слова *жук*₁ па форме, магчыма, з улікам прыпадабнення лапак жука да захватаў для трымання каменя ў персцені. *Жуковіна* — суфіксальнае вытворнае ад *жук*. Фасмер, 2, 64; Якабсон, Word, 8, 1952, 338.

**Жула́н** 'птушка сям. саракушавых, Lanius cristatus' (БелСЭ). Рус. *жулан* 'Lanius collurio' (БСЭ₃), у дыялектах — таксама іншыя віды птушак (СРНГ), укр. *жула́н* 'жулан' (УРС). Паводле Антропава (канд. дыс.), улічваючы рус. дыял. *желу́н* 'снягір', магчыма, роднаснае *жайна, жоўты* (гл.).

**Жулёмак** 'некалькі жмень ільну' (беш., Нар. сл., 94). Параўн. рус. дыял. цвяр., наўг., перм., сіб. *жу́литься* 'сціскваццца'. Параўн. славен. *žúželj, žuželj* 'нешта скручанае разам'. Корань у *жулёмак* можа тлумачыцца паводле значэння 'сціснутыя сцяблы льну', як і *жменя*: **žul-ьm-ъkъ*. Слав. **žul-* прадстаўляе і.-е. **geul-* (Покарны, I, 396—397) 'згінаць, скручваць'; параўн. арм *kalum* 'бяру, хватаю', ст.-інд. *gōla-h* 'шар'. Элемент *-ьm-* адлюстроўвае былы суфікс (параўн. *-мо*: *пражмо́* 'пражанае калоссе', *мульмо́* 'мазоль', *вязьмо* 'перавясла', Сцяцко, Афікс. наз., 54).

**Жу́лік** 'дробны злодзей' (ТСБМ), *жульма́н* 'тс' (Сл. Паўн.-зах.). Рус. *жу́лик* 'тс', дыял. 'птушка з пароды кулікоў', 'маленькі хлябок', кастр. 'ножык', уладз. 'чорнарабочы', польск. *żulik* 'злодзей', чэш. *žulik* 'махляр, шэльма', балг. *жульо* 'дробны чалавек' (< *жуля* 'церці', БЕР, I, 558). Даль (I, 547) звязваў *жулить* 'прысвойваць' з *жилить* (параўн. бел. *жыліць*) 'тс', *жилиться* 'быць скупым'. Гэта падтрымлівае Шанскі, I, Д, Е, Ж, 298. Праабражэнскі (I, 237), адзначыўшы *жуль* 'ножык' і арг. афен. *жулить* 'рэзаць' згадвае, што «некоторые производят от шулер». Фасмер (2, 65) дадае арг. рус. *жу́лик* 'вучань злачынца' і 'ножык', нерашуча параўноўвае з серб.-харв. *жуљити* 'драць скуру', балг. *жуля* 'драпаць, церці, здзіраць', славен *žúliti* 'церці, жаваць'. Няясна.

**Жуль-жуль-жуль** 'выгук для падзывання авечак' (міёр., Шатал.). Параўн. славен. *žúžka* 'імя чорнай авечкі'. Магчыма, корань **geu-* з пашырэннем *-l-* са значэннем 'скручваць, згінаць' (Покарны, I, 397) > **žul-*. Сярод слоў і.-е. моў, узыходзячых да гэтага кораня, ёсць словы са значэннем 'кучары' (с.-іран. *gūaire*), 'галава' (ням. *Küllbock i Kielbock* 'бязрогі баран'). Але пэўнасці ў такой рэканструкцыі няма, паколькі нам не вядомы іншамоўныя паралелі гэтага выгуку. Няясна.

**Жу́ляць** 'тлець' (стаўб., Нар. сл., 76, 86). Параўн. рус. дыял. цвяр., наўг. *жулиться* 'сціскацца, прыціскацца', перм., том., сіб. *жулькаць* 'шчымець, цісНуць', балг. *жуля* 'пячы, шчымець', *жулка* 'крапіва', серб.-харв. *жу́љати* 'выклікаць боль націраннем, націскам', славен. *žúliti* 'націраць'. Слав. **žul-* суадносіцца з **žur-* (гл. *жураць*) і ўзыходзіць да і.-е. **geul-* /**geur-*. Супрун, Зб. Геаргіеву, 268—272. Гл. *жалець, жураць, жэўлець*.

**Жу́мрыць** 'хрупаць (есці)' (КСТ), кобр. *жо́мраты* 'павольна есці, жаваць' (Жыв. сл., 100). Рус. перм., свярдл. *жумрить* 'жаваць', укр. *жу́мрити, жу́мрати* 'есці' (Грынч.), н.-луж. *žumliś* 'цяжка жаваць, мямліць', в.-луж. *žumlić* 'гаварыць у нос, мямліць', уст. 'намагацца пераЖаваць' (Пфуль). Параўн. серб.-харв. *жумо́рити, жубо̀рити* і *жу̏борити* 'рабіць невялікі шум, ціха і няясна гаварыць', *шумо̀рити, шу̏морити* 'шамацець', славен. *šumoréti, šumréti* 'тс'. Элемент *жу-* суадносіцца, верагодна, з *жав-* у *жаваць* (гл.) < **žev-* < і.-е.**g(i̯)eu-*. Далейшыя часткі кораня (*м, р*) няясныя. Параўн. *жупарыць, жабанець*.

**Жупа́н** 'даўнейшае верхняе мужчынскае адзенне' (ТСБМ), *жу́піца* 'тс' (Сл. паўн.-зах.), *жу́па́* 'дзіцячая вопратка' (КСТ). Рус., укр. *жупа́н* 'тс', польск. *żupan* 'тс', в.-луж., чэш., славац. *župan*, серб.-харв. *жу̏па̄н*, балг. *жупан* 'тс'. Ст.-рус. (з XVI ст.) *жупанъ* 'тс'. У бел. (ст.-бел. *жупанъ* (з 1578 г.), Булыка, Запазыч., 115), як і ўкр., з польск., рус. < бел. укр. Польск. < іт. *giuponne* 'сялянскі пінжак з грубай тканіны' < *giuppa* 'кофта, кабат' < араб. *džubban* 'сукня з воўны'. *Жупіца* (з 1538 г.) таксама з польск., дзе *zupica* 'камізэлька'. Той самы корань у *юбка, шуба* (гл.). Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 298; Фасмер, 2, 66; Брукнер, 668; Махэк$_2$, 731; Бернекер, 1, 460; Міклашыч, 413; Мацэнаўэр, 381; Гютль-Ворт, For. Words, 72. Глогер (Encyklopedia staropolska, 4, 1978, с. 518—520) звязваў назву адзення з назвай старых 'кіраўнікоў жупы' — *жупанаў* што, недастаткова абгрунтавана.

**Жу́парыць,** *жупорыты* 'есці марудна, многа' (Сл. паўн.-зах.). Рус. калін., іван., уладз. *жу́парить, жупорить* 'тс'. Бел., рус., відаць, адлюстроўваюць кантамінацыю *жава́ць* і *жу́піць*. Параўн. яшчэ *жабанець* (гл.).

**Жу́пел** 'гарачая смала', 'пужала' (ТСБМ). Рус., укр. *жу́пел* 'тс', балг. уст. *жу́пел* 'сера'. Ст.-слав. **жоупелъ, жоупьлъ** 'сера'. Ст.-рус. *жупелъ* 'сера ці смала'. Ст.-рус. *жупелъ* 'сера ці смала' < ст.-слав. **жоупелъ, жоупьлъ** 'сера' ('нябесны агонь', сродак пакут') < ст.-в.-ням. *swëbal, swëfal* 'сера', прычым *-у-* тлумачыцца з лац. *sulfur* 'сера' ці яго адлюстравання ў рэтарам. *zuorpel* 'тс', што звязана, магчыма, з роллю баварскай місіі



ў стварэнні хрысціянскай літаратуры ў славян. Фасмер, 2, 67; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 298—299; Праабражэнскі, 1, 238; Саднік — Айцэтмюлер, Handwört., 341; Кіпарскі, Gemeinslav., 124.

**Жу́піць** 'размаўляць' (ТСБМ). Рус. алан. *жу́пить* 'крычаць (пра птушак)', *жупе́ть* 'спяваць (пра птушак)'. Трубачоў (Слав. языкозн., V, 179) лічыць прасл. дыялектызмам **župiti*. І.-е. корань **geu-* (Покарны, 1, 393, 403) суадносіцца з **gŏu-* (параўн. *гутарыць, гаварыць*), прадстаўлены яшчэ ў *жук, жузнець* (гл.). Фасмер, 2, 67 (з пытальнікам «да *жук?*»). Корань **geu* пашыраны элементам *-р-*.

**Жур** 'негусты аўсяны кісель' (ТСБМ), *журыха* 'тс', *журэнька* 'юха' (Касп.), *жур* 'назвы розных рэдкіх страў' (Сл. паўн.-зах.). Рус. смал., пск., цвяр. *жур* 'тс', укр. *жур* 'тс' (Жэлях.), польск. *żur* 'суп на аўсянай ці жытняй заквасцы або такая закваска', серб.-луж. *žur* 'кіслае цеста, квас', чэш. дыял. *žur* 'гразь, асадак' < 'кісель' (Махэк), славен. *žûr* 'сыроватка'. Ст.-рус. *журъ* 'рэдкая страва' (з XVI ст.). Паводле Брукнера, 669, Більфельдта, Die deutsche Lehnwörter im Obersorbischen, Leipzig, 1933, 297; Махэка$_2$, 731; Трубачова, Slavia, XXIX, 1960, с. 16, зах.-слав. < с.-в.-ням. *sûr* 'кіслае цеста' (суч. ням. *sauer* 'кіслы'). Лідэн (I F, 19, 344), Бернекер (I F, 10, 156) прымаюць слав. паходжанне, да гэтага асцярожна схіляецца Фасмер, 2, 67. Супрун (Бюлетин за съпоставително изследване на българския език с други езици, 1976, 5, 78—79) звяртае ўвагу, з аднаго боку, на наяўнасць у н.-луж. (паводле Мукі) у словах гэтага кораня паралельна са значэннем 'кіслаты' значэння 'цяжкасці', напр.,*žuriś se* 'скісацца; гневацца' і г. д., а з другога боку, на наяўнасць слоў са значэннем 'едкі' ў чэш. мове на базе кораня *žír* < **žur-* і слова *журавіна* 'кіслая ягада'. Магчыма, хаця і не абавязкова, што ў некаторых слав. семантычных адгалінаваннях слова *жур* адбываецца семантычнае ўзаемадзеянне запазычанага і слав. кораня. Для параўнання Фасмер прыводзіць нарв. *kφur* 'вязкая сырная маса', *kjōre* 'сыр у першай стадыі, калі малако яшчэ не закіпела'. Параўн. *журэць, журыцца*. Калекцыю дыял. значэнняў дае Козыраў, Очерки по сравнительно-исторической лексикологии русского і белорусского языков, 1970, с. 154.

**Жура́** 'цура' (Шат.), 'кісель' (Сл. паўн.-зах.). Рус. пск. *жура* 'нешта кіслае'. Гл. *жур*.

**Жураве́ль**$_1$ 'птушка Grus grus', *жура́ў* (ТСБМ), *жураве́й* (зэльв., Сцяц.), *жо́равель, жура́ўль, жора́ў* (Сл. паўн.-зах.) Рус. *жура́вль*, пск., пецярб., арханг., алан., валаг., цвяр., маск., дан., наўг., смал., пск., калуж., тул. *жу́рав*, уладз. *жураве́й*, дыял. *журавель* 'тс', укр. *жураве́ль, журав* 'тс', польск.

*żuraw*, в.-луж. *žoraw*, н.-луж. *žorawa*, чэш. *žeráv*, славен. *žerjàv*, серб.-харв. *жѐрав*, балг. *жѐрав* 'тс'. Ц.-слав. *жєравь*, *жєравль*, ст.-рус. *журавль*, *жѐравь*, *жаравль* 'тс'. Літ. *gervė̃*, лат. *dzērve*, ст.-прус. *gerwe*, лац. *grūs*, а таксама грэч. *γέρανος*, ням. *Krahnich*, арм. *kṙunk*, кімр. *garan* 'тс' адлюстроўваюць той самы і.-е. корань з рознай суфіксацыяй (*-u-* і *-n-*). Корань **ger-* меў гукапераймальны характар і значэнне 'крычаць'. Фасмер, 2, 678; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 299; Траўтман, 87; Тапароў, Е — Н, 223—227; Фрэнкель, 137; Мюленбах — Эндзелін, 1, 548; Вальдэ — Гофман, 1, 624; Покарны, 1, 383—384. Семерэні (ВЯ, 1967, 4, 16) паспрабаваў рэканструяваць злажэнне **gerā avis* літ. 'журавель — птушка', якое ў выніку сцягвання дало *gerāvis*. Так ці іначай прасл. **žerav-*, адкуль з суфіксам *-j-* ва ўсх.-слав. *жеравль* > *жеравель* > *жоравель* і да т. п. Узнікненне *-у-* не атрымала тлумачэння. Калі не ўбачаць тут адлюстравання фанетычных змен (зразумелых для польск., дзе, паводле арфаграфіі Брукнера, 666, *żóraw*), але няясных для ўсх. славян, бо тады ўсх.-слав. формы магчыма тлумачыць хіба што як запазычаныя з польск., магчыма выказаць дапушчэнне аб кантамінацыйным уздзеянні з *журба*$_1$, *журыцца*, паколькі ў народнай паэзіі *журавель* звязваецца з тугой і смуткам.

**Журавéль**$_2$ 'прыстасаванне пры калодзежы для даставання вады', *журáў* (ТСБМ). Рус. *журáвль*, дыял. *журáв*, *журавéль*, укр. *журавéль*, *журáв* (Грынч.), польск. *żuraw*, славац. *žeriav* 'тс', серб.-луж. *žorawa* 'від прадзільнага стрыжня', славен. *žerjáv* 'кран, лябёдка'. Ст.-рус. *жеравецъ* 'тс'. Форма *жураў* адлюстроўвае яшчэ прасл. ці ранні слав. сем. перанос паводле формы ад *жураў*, *журавель*$_1$. Аналагічны перанос адбыўся ў балт., ням., ст.-грэч., венг. Булахоўскі, Нариси з загального мовознавства$_2$, 1959, с. 13; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 229; Тапароў. Е — Н, 224.

**Журавéль**$_3$, *журáў* 'бутэлька на 3 літры' (Мат. Гом.). Відаць, сем. перанос паводле формы (высокая бутэлька).

**Журавíна**, *журавіны* 'ягада Oxycoccus' (ТСБМ), *жураўлíны* (Сл. паўн.-зах.; гродз., Нар. лекс., 42, 158), *журахлэны* (камян., Бел. мова і літ. у ВНУ, 1971, с. 203). Рус. дыял. *журавúна*, *журавúны*, *журавúка*, *журавлúна*, укр. *журавúна*, *журавлúна*, польск. *żurawina*, *żurachwina*, памор. *žuravína*, *žuravínə* 'тс', н.-луж. *žorawina*, *žorawa* 'журавіна'. Ст.-рус. *журавина* 'тс'. Лат. *dzērvene* 'журавіны'. Параўн. англ. *cran berry* 'тс', ням. дыял. *Kronsbeere*, *Kranzbeere* (пры англ. *crane*, ням. *Kranich* 'журавель'). Янкоўскі (Бел. мова$_3$, 230—231) тлумачыць *журавіны* як ягады на імшыстых балотах, дзе вадзіліся журавы,



жураўліныя ягады, з чым трэба згадзіцца. Фасмер, 2, 67; Брукнер, 666. Слова мае паўн.-слав. характар. Памор. знач. *žuravína* 'шчаўе' ўказвае на разуменне слова ў сувязі са смакам і са словам *žur* 'жур' і 'шчаўе'. Параўн. яшчэ чэш. *žíravina* (< *žuravina*) 'едкі матэрыял'. Аб невыключанасці такой версіі гл. Супрун, Бюлетин за съпост. изследване..., 1976, 5, 78—79.

**Жураló** 'ручай' (Гом., Янк. I). Гл. *жараló*.

**Жураýка**$_1$ 'калодка з адтулінай (дзіркай) у верхнім камені жорнаў, у якую ўстаўляецца млён' (Сл. паўн.-зах.; свісл., Шатал.), 'выемка ў ткацкім станку, куды закладаецца навой' (петрык., Шатал.). Рус. пск. *журавка*, *журавль* 'рукаятка руля, румпель'. Магчыма, перанос назвы птушкі, вядомы для намінацыі прылад у рус. дыялектах: кур. *журавéль* 'дэталь прасніцы — драўляная дошчачка', ленінгр. *журáв* 'верацяно'. Тут, аднак, акцэнтуецца наяўнасць адтуліны, дзіркі, выемкі, што зближае з назвамі самаробных цацак, зробленых з косці з дзіркай: *жужулачкі*, *журжа*$_1$, у той час як перанос назвы *журавель* хутчэй на доўгі, высокі прадмет. Можа, перанос паводле функцыі часткі прылады для калодзежа, але гэта менш верагодна. Няясна.

**Жураýка**$_2$ 'дзіцячая гульня' (Бяльк.). Рус. смал. *журáвль* 'абрадавая гульня для сустрэчы жураўлёў', укр. *журавéль* 'від танца', польск. дыял. *żóraw* 'гульня' (Карловіч). У бел. для назвы гульні выкарыстоўваецца форма ж. р. назвы птушкі. Цікава, што і ў балтыйцаў назва жураўля выкарыстоўваецца як назва гульні (Мюленбах — Эндзелін, 1, 548; LKŽ, 3, 272), а ў балт. мовах назва птушкі ж. р.

**Жýраць** 'прыгараць, абвугліваццa' (Шат.), *журэ́ць* 'тлець, слаба гарэць' (Сл. паўн.-зах.). Чэш. *žírati* 'распальвацца', *žířeti*, *žířiti* 'напальвацца, гарэць', балг. *жу̀равам*, *жу̀рна* 'моцна запякаць', дыял. *журя* 'пячы, жарыць, парыць', *журѐя* 'вянуць, сохнуць', *жу̀ре* 'моцна паліць'. БЕР (1, 561) этымалагізуе *журя* без уліку іншаслав. паралелей як кантамінацыю *жа̀ря* і *горя̀*. Махэк$_2$ (722) тлумачыць *žířeti* як форму з чаргаваннем галоснага да *žár*. Супрун (Бюлетин за съпоставително изследване на български език с други езици, 1976, 5, 74—76) звязвае *журацъ* з укр. *жевріти* 'тлець, слаба гарэць', якое Бузук (Записки іст.-філол. відділу ВУАН, 7—8, 1929) тлумачыў як перастаноўку з **жеравіти* (параўн. ст.-слав. **жєравик** 'вуголле'), а Ільінскі (там жа, 21—22, 1930—1931) звязваў з і.-е. **g̑u̯er-* 'палаць'. Па фанетычных прычынах апошняе дало б *з-*, а не *ж-*. Для прасл. *žur-* 'тлець' і.-е. адпаведнік можа быць толькі **geur-*. У Покарнага (1, 399) ёсць корань **g(e)u-lo-* 'жар; тлеючае вуголле', адкуль герм. словы для

вуголля (ням. *Kohle,* англ. *coal*), ірл. *gúal* 'вугаль'. Паводле Покарнага, арм. *krak* 'агонь, тлеючае вуголле' адлюстроўвае суфікс *-r-* замест *-l-* (пра функцыянальную адпаведнасць *l — r* Бенвяніст, Индоевр., 65): **geu-r-* 'жар' (гл. іншыя супастаўленні, Ачаран, 2, 678). Да гэтага **geur-* узыходзіць і слав. *žur-*, прадстаўленае ў *жураць.* Гл. *жуляць, журыцца, жэўрэць.*

**Журба́**$_1$ 'смутак'. Рус. дыял. паўд., дан., сарат., амур. *журба́* 'смутак, клопат', укр., *журба́, жур, журá* 'смутак', славен. *žûrba* 'паспешнасць, руплівасць', серб.-харв. *жу̏рба* 'паспешнасць'. Ст.-рус. *журба* 'дакаранне' (у Бярынды, 1627). Утворана з суфіксам *-ьba* ад дзеяслова *журыць, журыцца* (гл.), відаць, яшчэ ў ст.-рус. мове, паколькі ў паўд.-слав. слоў іншыя значэнні.

**Журба́**$_2$ 'гнаявая жыжка' (Сл. паўн.-зах). Кантамінацыя *жур, журка* (гл.) з *жабурынне* (гл.), *жабура.*

**Жу́ржа**$_1$ 'дзіцячая цацка: косць з парасячай ці авечай нагі, у якой пракручваецца дзірка, у дзірку зацягваецца нітка. Нітку накручваюць і расцягваюць; расцягваючыся, нітка раскручваецца і прыводзіць у рух костачку. Костачка круціцца і вурчыць, «журжыць»' (Бяльк.). Параўн. рус. раст. *журже́лка* 'дзіцячая цацка з косці', 'бабка для гульні'. Параўн. *жужу́лачкі* 'цацкі з касцей', *журайка* 'калодка з дзіркай у прыладах'. Тлумачэнне рэаліі вядзе да сувязі з дзеясловам **журжаць* (параўн. рус. варонеж., кур. *журжать* 'гусці'), але ці не народная гэта этымалогія, асабліва калі ўлічыць словы *журайка, жужулачкі?* Ці няма тут адлюстравання і.-е. **geu-* 'згінаць, скручваць' з пашырэннем *-r-* (Покарны, 1, 393—397)? Параўн. літ. *gauras,* лат. *gauri* 'валасы на целе', літ. 'ільняное валакно', с.-іран. *gūaire* 'кучары', нарв. *kaure* 'тс'. Няясна. Гл. яшчэ *жу́ржа*$_2$.

**Жу́ржа**$_2$ 'распусніца' (Бяльк.), 'непаседлівая жанчына' (Юрч., Нар. вытв. сл.). Рус. валаг., перм., сарат. *журжа* 'распусніца, каханка', без месца 'буркун', калуж. *журжавый* 'бурклівы'. Значэнне 'непаседлівасці', а таксама пашыранасць там жа, дзе *журжа*$_1$ цацка, што круціцца', вядзе да сцвярджэння аб сувязі гэтых амонімаў паводле «паводзін». Аднак рус. значэнне 'бурклівы' вядзе да магчымай сувязі з «гукавым» бокам цацкі, а пашырэнне на далёкіх рус. арэалах, дзе не зафіксавана адпаведная цацка, дазваляе нават меркаваць аб самастойным развіцці там слова *журжа* на базе дзеяслова тыпу *журить* з экспрэсіўным падваеннем зычнай: **журжить* 'бурчаць', а магчыма, і 'многа гаварыць'. Параўн. кубан. *журба* 'журлівы чалавек'. Калі ж *журжа*$_2$ — агульнае ўсх.-слав. слова, сувязь з *журжа*$_1$, відаць, другасная, а першаснае значэнне *журжа*$_2$, магчыма, 'каханка' ('тая, пра якую журбота, клопат,



туга'), адкуль 'распусніца'. Фіналь *-жа* можна разглядаць і як суфікс (параўн. *любжа* 'зёлкі для любві', Гарэц.; Сцяцко, Афікс. наз., 79).

**Жу́рка** 'пэўныя гатункі негустой стравы' (Сл. паўн.-зах., Шатал.),'гнаявая жыжка' (Сл. паўн.-зах.). Памянш. ад *жура, жур.* Для другога значэння параўн. чэш. *žur* 'гразь у вадаёме, асадак' (Малько, Географическая терминология чешского и словацкого языков, 1974, с. 94).

**Журма́н** 'хітрун' (Сл. паўн.-зах.). Фіналь *-ман* фіксуецца яшчэ ў некаторых бел. прастамоўных і дыялектных словах: *брэ́хман* 'брахун', *чу́хман* 'хто чухаецца', *лысма́н* 'лысы', *глушма́н* 'глухі', *рыжма́н* рыжы', *рэчма́н* 'плытагон' (Сцяцко, Афікс. наз., 54, 116, 160). Першы кампанент, магчыма, *жур-* (гл. *журба*$_1$) прадстаўлены і ў такіх значэннях, як *журлівы* 'сумны' і 'сварлівы', *журыць* 'дакараць'. Не выключана і ўспрыняцце хітрай, не сапраўднай *журбы* ў таго, каго называюць *журманам.* Але найбольш верагодна сувязь з рус. калуж. *журава́ть* 'гуляць, гарэзаваць (пра хлопца з дзяўчынай)', фанетычным варыянтам рус. дыял. *жировать* 'тс' (параўн. *жыр, жыраваць*$_1$; дзеяслоў фіксуецца ў Сл. паўн.-зах. у варыянце *журува́ць,* хоць і ў агульным значэнні 'харчавацца'), *журавли́вый* 'такі, што любіць пагуляць з дзяўчатамі', *жураво́й* 'незаконнанароджаны'.

**Журна́л** 'кніга запісаў', у пачатку XX ст. таксама 'часопіс' (Гіст. лекс., 264). Рус. *журна́л* першапачаткова (пачатак XVIII ст.) 'дзённік, кніга дзённых запісаў', потым (сярэдзіна XVIII ст.) 'літаратурнае выданне' (Біржакова, Очерки, 167). Франц. *journal* 'дзённы запіс', з XVII ст. 'выданне', Блох — Вартбург, 347). Слова пашыралася ў большасці еўрап., у тым ліку слав. моў. У бел. з рус.

**Журча́ць,** *журчэць* 'цурчаць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *журча́ть,* укр. *журча́ти* (параўн. *дзюрча́ти* 'тс'), в.-луж. *žurčeć* 'тс', славац. *žurčat'* 'тс'. Утворана ад гукапераймальнай асновы **geu-*, якая суадносіцца з **gōu-* (гл. *гук, гаварыць, гутарыць*) з пашырэннем *-r-* і суфіксальным *-k-* (як *гук*) > *-č-* перад *-ě-ti* Гл. *жук, жужэць.* Паводле Шанскага (1, Д, Е, Ж, 300), гукапераймальнае *журчь + ати* (параўн. *гурк, урчать, ворчать*). Праабражэнскі (1, 238—239), Фасмер (2, 68) указваюць на гукапераймальны характар слова.

**Журы́цца** 'сумаваць', *журы́ць* 'дакараць', *журлівы.* Рус. *жури́ть,* дыял. *жури́ться* 'тс', укр. *жури́ти* 'выклікаць сум', рэдк. 'дакараць', *жури́тися* 'сумаваць', *журли́вий,* ст.-польск. *żurzyć się* 'гневацца, злавацца', польск. дыял. *żurzyć się* 'спрачацца',

чэш. *žůřit* 'гневацца, сварыцца', славац. *žurit'* 'сварыцца; дакараць', н.-луж. *žuriś* 'рабіцца злым', *žuriś se* 'кіснуць, злавацца, гневацца', славен. *žúriti*₁ 'застаўляць', *žúriti se* 'паспяшаць, старацца', *žúriti*₂ 'ачышчаць ад скуры', серб.-харв. *жу̏рити* 'падганяць'. Ст.-рус. *журити* 'дакараць' (з 1673 г.). Фасмер (2, 68), Мартынаў — Міхневіч (Маладосць, 1970, 3, 145) прымаюць думку Развадоўскага (Wybór, 2, 172) пра сувязь *журыцца* з серб.-харв. *гу̏рати* 'пхаць', славен. *gúrati* 'напружваць, мучыць'. Развадоўскі лічыць роднасным гоц. *gáurjan* 'рабіць смутным' і ўзводзіць да і.-е. **geur-*. Магчыма лічыць, што гэта той жа корань, што ў слове *жураць* 'тлець' (гл.). Сувязь 'гаварыць' — 'гарэць' вядомая і для іншых выпадкаў, а Краўчук (Зб. Крапіве, 195—196) адзначыў яе для пары балг. *жевря се* 'хныкаць, выпрошваць', укр. *жеврі́ти* 'тлець', якая суадносіцца па кораню з *журыцца* — *жураць*. *Журыць* азначала першапачаткова моўную дзейнасць, а сувязь 'гарэць — паліць — пячы' з 'дакараць' — 'сумаваць' адлюстроўваецца і ў іншых выпадках. Супрун, Бюлетин за съпоставително изследване на български език с други езици, 1976, 5, 76—78; Непакупны, Балтійскі родичі слов'ян, 1979, 100—101. Гл. яшчэ Фасмер, 2, 68; Праабражэнскі, 1, 238—239; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 229; Пятлёва, Этимология, 1967, 178; Младэнаў, ГСУ ИФФ, 13—14 (1917/18), 61—62.

**Журэ́ць** 'разгарацца' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, кантамінацыя *жураць*₁ *(журэць)* і літ. *žioruoti* 'тлець, іскрыцца, разгарацца', на якое ўказвае Сл. паўн.-зах. (2, 160), паколькі слав. хутчэй не дае значэння 'разгарацца'. Літ слова Фрэнкель (1312) узводзіць да *žarà* 'зара', якое суадносіцца са слав. *зара*.

**Жуто́мік** 'суслік' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, запазычанне нейкай польск. формы з пачаткам *żółto-;* жоўты колер можа суадносіцца з суслікам.

**Жухаце́ць** 'гарэць, свяціць' (клец., любан., Жыв. сл.). Значэнне 'гарэць' прадстаўлена ў шэрагу слоў на *жу-: жураць, жуляць, журэць* (гл.). *-х-* тлумачыцца, відаць, экспрэсіўным пашырэннем кораня; *-ац-* адлюстроўвае суфікс *-ot-* са знач. 'аддзеяслоўная якасць', 'гарэнне, свячэнне'; *-ě-ti* > *-ець*. Не выключана і прамое далучэнне суфікса *-ацець* (параўн. *грукацець, тупацець, шапацець, бразгацець, ляскацець* з гукавымі значэннямі). Гл. *зіхацець*.

**Жу́хаць**₁ 'рэзка кідаць' (Юрч., Нар. вытв. сл.). Рус. перм. *жу́хнуть* 'моцна ўдарыць', укр. *жухну́ти* 'моцна кінуць' (Жэлях.), чэш. *žuchati* 'выдаваць глухі гук', славац. *žuchnút* 'упасці, бухнуць'. Махэк₂ (731) тлумачыць як утварэнне з *-s-* для



абазначэння інтэнсіва ад гукапераймальнага *žu-* (гл. *жук*). Пераход ад гуку да штуршка не выключаны, хаця і не вельмі пэўны. Параўн. яшчэ *жах* (у знач. 'удар'), *шугаць*.

***Жуха́ць**₂, *жуха́ты* 'мыць, праць, церці' (Клім.). Рус. бранск. *жу́хаться* 'цяжка і многа працаваць'. Відаць, адлюстроўвае корань **geu-* са знач. 'згінаць' (Покарны, 1, 393—398). *-х-* мае экспрэсіўны характар. Няясна.

**Жу́хлы** 'нясвежы, няяркі', *жу́хнуць* 'рабіцца жухлым' (ТСБМ). Рус. *жу́хлый, жу́хнуть*. Безлай (Radovi [Akademija Nauka i Umjetnosti Bosne i Hercegovine], XXXV, Odjeljenje društvenih nauka, knj. 12, 1969, 88) прапануе ўзводзіць рус. *жухнуть*, бел. *жухнуць* 'высыхаць', як і славен. дыял. *júhniti* 'буркнуць, пікнуць', да і.-е. **dheus-* 'пыліць, дуць,' якое дае побач з рэфлексам **dux* (гл. *дух)* яшчэ і рэфлекс **djux-*, што і даў *жухнуць*. Параўн. і.-е. назвы няяркіх фарбаў, якія дае Покарны (1, 270) пад **dheus-*, ст.-інд. *dhūsara* 'колер пылу', лац. *fuscus* 'цёмна-карычневы, жоўта-чорны', англ. *dusk* 'змрочны, цёмны. Для словаўтварэння з суфіксамі *-л-* (прыметнік) і *-ну-* (дзеяслоў) параўн. *бляклы, блякнуць*. Параўн. яшчэ *тусклы*.

**Жучкі́** 'сухія скваркі' (мядз., Нар. сл., 59). Параўн. рус. пенз. *жучо́к* 'шалупінне ў крупах'. Відаць, сем. перанос паводле формы (памянш. *жучок* ад *жук*₁ (гл.). Параўн., аднак, яшчэ рус. кур. *жу́рки,* балг. *журнулѝни* 'скваркі'; параўн. *журэць*.

**Жучо́к** 'шпілька для валасоў' (валож., Жд.). Сем. перанос памянш. *жучо́к* (гл. *жук*₁) паводле функцыі: захватвае валасы, як лапкі жука.

**Жу́чыць** 'дакараць' (Нас., Сл. паўн.-зах.). Рус. *жу́чить* 'тс'. Параўн. серб.-харв. *жу̏чити, жу́чити* 'рабіць горкім, мучыць' (відаць, ад *жу̑ч* 'жоўць, злосць'). Праабражэнскі (1, 239) звязваў *жучить* з *жгут*, што неверагодна. Мала верагодна і дапушчэнне Фасмера (2, 68) пра сувязь з *жуда, жуткий*. Шанскі (1, Д, Е, Ж, 301, ЭИРЯ, 3, 65) лічыць звязаным з рус. дыял. *жук* 'сварка, шум' (у СРНГ не зафіксавана) і *жу́ка́ть* 'дакараць, спрачацца, сварыцца, гаварыць ціха'. Гэта этымалогія мае больш падстаў. Ці не з польск. *zuczyć* 'навучыць' (у рус. тады з бел.)?

**Жушмень** 'быльнёг' (мсцісл., Юрч., Слова, 257, без націску). Суфікс *-мень,* які выдзяляецца яшчэ ў *глушме́нь, цясме́нь, сухме́нь, глухме́нь, слізме́нь* (Сцяцко, Афікс. наз., 116). Для кораня, відаць, трэба параўноўваць з *жужма*₂, дзе прадстаў-

лен і варыянт *жушма, жушмо* 'вязка льну, лазы'. *Жушмень*, магчыма, трэба разглядаць як вытворнае ад *жу́шма*.

**Жу́шчэрыць** 'жаваць' (Мат. Гом.). Рус. дыял. разан., пенз., сімб., сарат., уладз., казан., алан., урал., куйбыш., ніжнегар. *жу́щерить* 'есці, жаваць', разан., цвяр., маск., уладз. *жу́стерить*, арл. *жу́старить*, наўг., валаг. *жу́шкорить*, цвяр., наўг. *жухто́рить* 'тс'. Няясна, магчыма, вынік злажэння двух кораняў *жу-* (< **gi̯eu-*, гл. *жаваць*) і **(s)ker-* 'рэзаць' ці 'жорсткі, сухі, худы' альбо **(s)ter-* 'цвёрды'. Покарны, 1, 933, 938—939, 1022.

**Жыбінце́й** 'прыстасаванне для асвятлення лучынай' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *žibiñčius* 'тс'. Параўн. ст.-бел. (з 1519 г.) *жибентяй* 'асоба, адказная за асвятленне і ацяпленне' < літ. *žibintojas*. Карскі, Труды, 390; Яблонскіс, 268; Гіст. лекс., 148.

**Жыбу́лька** 'зябер, расліна Galeopsis L.', *жабор* 'тс', 'асцюк' (Сл. паўн.-зах.). З літ *žibulỹs* 'зябер' (Сл. паўн.-зах., 2, 160) + суф. *-ка*. Лаўчутэ, Сл. балт., 66. Гл. *зябер*.

**Жыбуры́**₁ 'жабурынне' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *жабур*. 'жабурынне', польск. *żybura* 'кепскі мутны напой'. Брукнер (669) лічыў польск. слова ўсх. элементам, спасылаючыся на серб.-харв. *џи̏бра*, балг. *джи́бри* 'жамерыны', якое ўзводзяць да цюрк. (Фасмер, Зб. Крэчмеру, 277; Фасмер, 2, 39), напр. тур. *cibre* (Скок, 1, 473; БЕР, 362). Не выключана, аднак, і сувязь з *жабурынне, жамерыны* (гл.).

**Жыбуры́**₂, *жабуро́к, жыбуркі, жабэ́ркі* 'кавалкі дрэва, цуркі' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *žobarai͂* 'сухія галіны' (Сл. паўн.-зах., 2, 130). Магчыма, аднак, і іншае тлумачэнне — з літ. *žiburys* 'факел, лучына'. Яблонскіс (269) прыводзіць адпаведны польск. прыклад з 1619 г.

**Жывaво́д** 'крыніца' (саліг., Нар. словатв., 108). Складанне з кампанентаў *жыв-, -а-(< -о-), вод-(вада);* параўн. рус. *живая вода* 'крынічная, праточная вада'. Гл. *жыватoк*.

**Жывагло́т** 'драпежнік, які глытае здабычу жыўцом', 'бязлітасны прыгнятальнік'. (ТСБМ). Рус. *живогло́т* 'тс'. Складанае слова з *жыв-, -а-(< -о-), глот (глъть)* з наступным пераносам значэння.

**Жывадзёр** 'жорсткі, бязлітасны, скупы чалавек' (ТСБМ). Рус. *живодер* 'асоба, што прафесійна займаецца забоем жывёл, здзіраннем з іх скуры, скуралуп', 'жорскі, бязлітасны, скупы чалавек', славац. (< рус.) *živoder* 'жывадзёр', славен. *živodèr* 'скуралуп', серб.-харв. *живо̀дер* 'скуралуп', балг. дыял. *живодерец, живодѐрник* 'ліхвяр'. Ст.-рус. *живодеръ* (1646 г.) 'скуралуп'. Захаванне ў бел. толькі пераноснага значэння ўказвае на магчымасць запазычання яго з рус. (як і славац.).



**Жывако́ст** 'расліна Symphytum L.' (БелСЭ), *жывако́снік* (Кіс.). Рус. *жи́вокость* (з 1790 г.) 'расліна Delphinium L.', дыял. *жи́воко́сть, жи́вокос, живоко́ст* — назва шэрагу раслін, у тым ліку Symphytum officinale L., Polygonum hydropiper L., Cynoglossum officinale L., Thalictrum minus L., Spiraea ulmaria L., Chelidonium majus L.', укр. *живокíст(ь)* 'symphytum L.', польск. *żywokost* 'Symphytum L.' Калі сучасны від слова не вынік народнай этымалогіі, можна тлумачыць *жывакост* як назву паводле лячэбных уласцівасцей расліны. Чэш. назва Symphytum — *kostival, valikost* тлумачылася яшчэ ў чэш. лекарскай кнізе Я. Чэрнага (1517) тым, што расліна «зламаныя косці зацвярджае», «раны зацягвае, закатвае (svaluje, zavaluje)». Махэк (Jména rostl., 191—192) замест сувязі з *val-* прапануе пераход *val-* < *bal-(ovati, balii)* 'лячыць'. З чэш. *kostival*, польск. *kosztywał*, славац. *kostiviar* — вынік імкнення да разумення другой часткі слова. Тады ў *жывакост* першая частка звязана з *жывіць* 'гоіць', а другая, як і ў чэш. назве,— з **kostь: *živi-kostь*. Можна адзначыць, што і рус. *живокость* — назва лекавай расліны *(рагулька)*. Польск. *żywokost* (з XV ст.). Лось (Сложные слова в польском языке. СПб, 1901, 104—105) не тлумачыў семантыку польск. слова, лічыў першую частку адпрыметнікавай, а не аддзеяслоўнай. Не выключана, што бел. (як і ўкр.) словы з польск., дзе калька з чэш. *valikost*, а рус. < бел., укр. Чэш. паходжанне тлумачыла б цвёрдасць канчатковага зычнага. Параўн. *жывіцельнік*.

**Жы́вапіс** 'від выяўленчага мастацтва' (ТСБМ). Рус. (з 1704 г.) *жи́вопись*, укр. *жи́вопис*, славен. *živopis* (< ст.-слав., Плетаршнік), серб.-харв. *жи̏вопи̑с*, балг. *живопи́с* (з 1843 г.), макед. *живопис* 'тс'. Ц.-слав., ст.-рус. *живописьць* (1097 г.), *живописъ* 'мастак', *живописати*. Рус., паводле Шанскага, славаўтваральная калька з грэч. ζωγραφία (Шанскі, РЯШ, 1956, 4, 57; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 290). Бел. слова, відаць, з рус. у XX ст.

**Жывапло́т** 'рад густа насаджаных кустоў або дрэў, якія ўтвараюць плот'. Укр. *живопліт*, польск. *żywopłot*, чэш. *živoplot* 'тс'. З польск. *żywopłot*, дзе з чэш., або ўласная калька франц. *haie vive*, адкуль калькавана рус. *живая изгородь* > > бел. *жывы плот*.

**Жывасі́л** 'расліна Inula helenum L.' (Шат.). Відаць, народна-этымалагічная перапрацоўка *дзівасіл* (рус. *девясил*) 'Inula L.', выкліканая асэнсаваннем *жывы* як цудадзейны (параўн. *жывая вада*).

**Жывасі́лам** 'гвалтоўна' (ТСБМ), *жывасі́ллю* 'тс' (Касп.).

Укр. _живосилом_ 'тс'. Прыслоўе ўтворана з тв. скл. наз. *_жывасіл_, не зафіксаванага ў суч. бел. мове (Шуба, Прыслоўе, 104), ці хутчэй з тв. скл. _сілам, сіллю;_ параўн. у Даля пск. _силóм,_ дыял. _сúлью_ ад наз. _сíло_ (гл.), да якога далучаецца першы кампанент _жыв-_.

**Жывасóл** 'сок з салёнага мяса, сала' (Шат.). Складанае слова паводле той самай мадэлі, што _разнасол_, дзе _жывы-_ ў знач. 'што мае адносіны да жывёл' _(жывая прырода, жывы куток)_.

**Жывасцёр** 'рыба Aspius rapax Leske' (Касп.). Відаць, перастаноўка з _жэраспер, жерaствень_. Гл. _жэрах_.

**Жыватніца** 'панос', 'з вялікім жыватом' (Сл. паўн.-зах.). Ад _жывот_ > _жыватны_ з суф. _-іца_ ці непасрэдна (у другім знач.) з суф. _-ніца_. Назвы хвароб тыпу _ветраніца, грудніца_ і назвы асоб тыпу _каравайніца, смятанніца_ гл. Сцяцко, Афікс. наз., 111, 163—164.

**Жыватóк** 'крынічнае месца' (жыт., Яшкін), 'часовае русла ракі' (палес., Талстой, Геогр.), _жыватóчына_ 'крынічнае месца', (слаўг., Яшкін). Укр. палес. _животьок_ 'дрыгва', _животочина_ 'крыніца' (Лысенка, СПГ). Ц.-слав., ст.-рус. _животочьный_ 'жыватворны, цудадзейны', ст.-рус. _животекущий_ (аб вадзе). _Жывая вада_ мае знач. 'цякучая, крынічная вада', а таксама казачнае 'цудадзейная вада'. Талстой (Геогр., 186) этымалагізуе _жыватoк_ ад _жывы_ і _ток_ 'цячэнне'; гэта не выклікае пярэчанняў. Гл. яшчэ _жывавод_.

**Жывéц**$_1$ 'жывая рыбка, якая насаджваецца на кручок пры лоўлі буйной драпежнай рыбы' (ТСБМ). Рус. _живéц_ 'жывая насадка (у тым ліку рыбка, чарвяк)', укр. _живéць_ 'насадка ў выглядзе рыбкі', польск. _żywiec_ 'насадка, жывая рыбка; жывёла, прызначаная для забою; расліна Dentaria', уст. 'чалавек жывога характару', 'жывая істота', славен. _žívec_ 'жывая істота', 'нерв', серб.-харв. _жи̏вац_ 'нерв', балг. _живéц_ 'пульс; цэнтр; завусеніца, мяса пад пазногцем'. Ст.-рус. _жцвецъ_ 'жывы чалавек'. Відаць, яшчэ прасл. утварэнне ад кораня *_živ-_ і суфікса *_-ьсь-_ (як *_starьсь_), які ўтвараў наз. ад прыметнікавых асноў. Значэнне, відаць, 'істота, прабываючая ў жывым стане' (у адрозненне ад *_mrьtvьсь_); першапачаткова магло не быць адрознення розных істот (параўн. *_junьсь_ 'малады бычок; юнак') з пазнейшай спецыялізацыяй.

**Жывéц**$_2$ 'прырослая частка пазногця' (Сл. паўн.-зах.). Польск. дыял. _żywiec_ 'частка цела вала, напр., пад хвастом', балг. дыял. _живéц_ 'мяса пад пазногцем', 'завусеніца', _жувéц_ 'белая частка ногця'. Параўн. серб.-харв. _жи̏вац_ 'нерв', балг. _живèц_ 'пульс', славен. _žívec_ 'нерв', укр. _живéць_ 'карэнні, парасткі, з якіх вырастаюць новыя расліны'. Відаць, рэфлекс прасл. *_živьсь_, маючага значэнне 'частка жывога цела', 'жывая частка цела (у супрацьпастаўленні пазногцю)', утворанага ад прыметніка *_živъ_ суфіксам *_-ьсь_.



**Жывéц**$_3$ 'пласт грунту, з якога б'е крыніца', 'месца, дзе сачыцца вада' (Яшкін), 'жоўты пясок', 'мох' (Бяльк.). Рус. табол., том., еніс., сіб. _живéц_ 'крыніца, каля якой збіраюцца рыбы', 'незамярзаючая рэчка', укр. _живéць_ 'крыніца', 'пласт грунту', польск. дыял. _żywiec_ 'неўражайны пласт грунту', в.-луж. _žiwc_ 'палявы шпат', чэш., славац. _živec_ 'тс', славен. _žívec_ 'палявы шпат'. Магчыма, познепраслав. утварэнне *_živ-ьсь_, дзе *_živ-_ выступае ў знач. 'ваданосны' (параўн. _жыватoк, жывавод_) для абазначэння 'крыніцы', 'ваданоснага слою грунту', адкуль перанос на пароду (пясок), на рэчку, балота (дзе расце мох).

**Жывéц**$_4$ 'дрэнна вырабленая скура' (Сл. паўн.-зах.). Рус. ярасл. _живéц_ 'жоўта-зялёны слой у скуры ў выніку недастатковага дублення', укр. _живéц_ 'слой у скуры'. Відаць, усх.-слав. утварэнне з суф. _-ьць_ ад прыметнікавай асновы _жив-_ у знач. 'не высахлы'.

**Жывéц**$_5$ 'шнур у ткацкім станку, да якога прывязваюць ніці' (Сл. паўн.-зах.). Рус. паўд. _живéц_ 'сырамятны рэмень, што прывязваюць да сядла ззаду', укр. дыял. _живéць_ 'раменьчык з драўляным кійком, што замацоўваюць да невада', 'кальцо ў ярме', 'раменьчык, вакол якога пляцецца пуга'. Усх.-слав. ці асобнае бел. утварэнне ад асновы _жыв-ы_ 'рухомы' з суфіксам _-ец (-ьць)_.

**Жывéц**$_6$ 'нявыляжалы лён' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. серб.-харв. _жи̏вица_ 'кастрыца', рус. ніжнегар. _живýга_ 'нявыляжалы лён'. Улічваючы іншаслав. суадносныя словы з тым жа коранем, але іншымі суфіксамі, відаць, уласна бел. утварэнне з суф. _-ец_ паводле тыпу _гнілец, сырэц_ (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 102). Аснова _жыв-ы_ бярэцца ў знач. 'не засохлы, не завялы' (ТСБМ).

**Жывёла** 'жывая істота', зборн. 'свойская скаціна' (ТСБМ). Польск. _żywioła_ 'свойская скаціна'. Параўн. славен. _živál_ 'жывёла'. Слав. мовы захоўваюць асобныя словы з суф. _-ela, -ola_ (напр., чэш. _mrtvola_ 'труп'). Аднак не хапае падстаў для атаясамлівання славен. слова з бел., хаця наяўнасць літ. _gývolis, gyvulỹs_ 'жывая істота, жывёла' ўказвае на магчымасць яшчэ прасл.-балт. узаемадзеяння (Безлай, Radovi XXXV, Odjeljenje društvenih nauka, 12. Sarajevo, 1969, 92) і нават уплыву. Ст.-бел. ведала _живиолъ, живелъ_ 'стыхія' (XVI ст.,

9. Зак. 2801

Скарына; Булыка, Запазыч., 114) з польск. *żywiol*, дзе, як сведчыць Брукнер (670), так у XVI ст. тлумачылі і лац. *animal* (а не толькі *element*). Таму бел. *жывёла*, відаць, таксама з польск. Лаўчутэ, Сл. балт., 45.

**Жывіца** 'смала'. Рус. *живица*, укр. *живиця*, польск. *żywica*, в.-луж. *žiwica*, чэш. *živice*, славац. *živica* 'смала', славен. *živica* 'корань', 'жываплот', 'крынічная вада', 'насмарк', серб.-харв. *живица* 'жываплот', 'кастрыца', 'палянка', 'рубец тканіны'. Ст.-рус. *живица* 'смала' (XVI ст.). Утворана ад кораня **živ-* суфіксам **-ic-a* ў прасл. мове, прычым у паўн. славян замацавалася значэнне 'смала', а паўд. славяне замацавалі і іншыя значэнні. Гэта можа сведчыць ці аб адносна познім (паўн.-слав.) утварэнні, ці аб дыфузнай першапачатковай семантыцы. Корань *жыв-* у *жывіца* суадносіцца са значэннем 'гаіць', паколькі *жывіца* мела лячэбнае значэнне. І.-е. корань **gᵘei-* 'жыць, гаіць'. Плевачава, SR Brno, 13, 1964, 25—33; Махэк₂, 728. Параўн. Скок, 3, 681. Сцяцко (Афікс. наз., 45) не ўказвае час утварэння і не дае семантычнага абгрунтавання. Іначай: *жывіца* роднаснае з арм. *kiv* 'смала' (Лідэн, Зб. Мікале, 119; Турнэйзен, Зб. Педэрсену, 301) з асобным і.е. коранем **gᵘiᵘ-* (Покарны, 1, 482), суадносным з *жаваць* (Фасмер, 2, 51); апошняе, паводле Покарнага, няпэўна. Гл. Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 289. Гіпотэза Плевачавай — Махэка не адкідвае суадносіны з арм *kiv*, аднак лічыць гэта слова паралельным утварэннем, што верагодна. Гл. *жывіць, жывы*.

**Жывіцельнік** (Кіс.), *жывацельнік* 'расліна Thalictrum aequilegifolium L., пылюшнік вадазборалісты' (Касп.). Па лекавых уласцівасцях расліны ад асновы дзеяслова *жывіць* 'гаіць' ці з суфіксамі *-цель (-tel-), -н- (-ьn-), -ік*, ці з другой складанай часткай *-tĕl-* (гл. *цела*) і суфіксамі *-ьн-ік*. У рус. самар. гаворках адзін з відаў Thalictrum мае назву *живокость* (гл. *жывакост*).

**Жывіць** 'быць крыніцай дзейнасці'. Рус. *живить* 'даваць жыццё, бадрасць', укр. *живити* 'забяспечваць жывыя арганізмы неабходнымі рэчывамі; падтрымліваць, натхняць', польск. *żywić* 'забяспечваць арганізм', 'адчуваць нешта', уст. 'аставіць кагосьці пры жыцці', в.-луж. *žiwić* 'карміць, харчаваць', чэш. *živiti* 'карміць', славац. *živit'* 'карміць, забяспечваць усім патрэбным', славен. *živíti* 'харчаваць, утрымліваць', серб.-харв. *живити* 'жыць'. Ст.-слав. **живити** 'ажывіць', 'пакінуць жывым', 'жыць з чагосьці'. Ст.-рус. *живити* 'даваць жыццё (1096 г.); зажыўляць, гаіць (1585 г.); здабываць сродкі існавання (XI—XII стст.)'. Прасл. утварэнне дзеяслова ад прыметніка **živ-* (гл. *жывы*) з суфіксам **-i-ti*, першапачатковае значэнне 'рабіць



жывым', адкуль і 'харчаваць', 'гаіць', 'натхняць' і г. д. Трэба адзначыць, што значэнні гэтыя прадстаўлены і ў гісторыі слова *жыць* (гл.).

**Жывот₁** уст. 'жыццё'. Рус. уст. *живот*, укр. уст. *живіт*, польск. кніжн. *żywot* 'жыццё', палаб. *zaivăt* 'цела, жыццё', чэш., славац. *život* 'жыццё', разм. 'частка цела', славен. *živòt* 'жыццё, цела, наследнік', серб.-харв. *живот* 'жыццё; цела, моц', балг. *живот*, макед. *живот* 'жыццё'. Ст.-слав. **животъ** 'жыццё', 'жывёла'. Ст.-рус. *животъ* 'жыццё', 'жывёла', 'здабытак', з XVI ст. 'жывот'. Ст.-бел. *живот* 'жыццё, маёмасць, жывот'. Літ. *gyvatà* 'жыццё; сядзіба; жыллё', ст.-прус. *giwato* 'жыццё', лац. *vita* (< **gᵘiᵘotā*) 'жыццё'; кімр. *bywyd*, ст.-інд. *jīvātu, jīvathaḥ* 'жыццё', ст.-грэч. βιοτή 'жыццё, сродкі для жыцця'. Прыклады сведчаць аб яшчэ і.-е. утварэнні з суф. **-t-* ад і.-е. кораня **gᵘei-* з нарашчэннем **u*: **guīᵘ*: **gᵘīᵘoto-s*, адкуль слав. **životъ* з першапачатковым значэннем 'жыццё'. Покарны, 1, 468—469; Фасмер, 2, 52; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 290; Мейе, Études, 292—293; БЕР, 1, 542; Брукнер, 670; Скок, 3, 681; Тапароў, Е — Н, 255—256; Траўтман, 76. Гл. *жывы, жыццё, жывот₂*.

**Жывот₂** 'частка цела'. Рус. *живот*, укр. *живіт*, польск. уст. дыял. *żywot* 'жывот', в.-луж. *žiwot* 'тс', н.-луж. *žywot* жывот, матка', палаб. *zaivăt* 'цела, жывот, жыццё', чэш., славац. *život* 'жыццё', разм. 'частка цела', славен. *žiwòt* 'жыццё, цела, наследнік', серб.-харв. *живот* 'жыццё; цела, моц'. Ст.-рус. (з XVI ст.) *живот* 'жывот'. Ст.-бел. *живот* 'жыццё; маёмасць; жывот'. Яшчэ ў прасл. перанос з **životъ* 'жыццё' (гл. *жывот₁*) на абазначэнне часткі цела (Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 290). Замацаванне ў функцыі абазначэння часткі цела, звязанае з пашырэннем выкарыстання для абазначэння паняцця «жыццё» іншых слоў (*жыццё, життя, жизнь*), адбылося ва ўсх.-слав. мовах, магчыма, не без уплыву эўфемістычных матываў (Ларын, История русского языка и общее языкознание, 1977, 113).

**Жывы**. Рус. *живой*, укр. *живий*, польск. *żywy*, в.-луж. *žiwy*, н.-луж. *žywy*, палаб. *zaive*, чэш., славац. *živý*, славен. *žîv*, серб.-харв. *жив*, балг., макед. *жив* 'жывы'. Ст.-слав. **живъ** 'жывы'. Ст.-рус. *живый* 'тс'. Літ. *gývas*, лат. *dzîvs*, лац. *vīvus*, кімр. *biw*, ст.-інд. *jīvá-* ст.-іран. *ǰīva-* 'жывы'. І.-е. **gᵘiᵘ-o-s* працягвае корань **gᵘī*, падоўжаны праз *u*. Покарны, 1, 467; Траўтман, 76; Фасмер, 2, 51—52; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 289; Булахаў, Гіст. прым., 3, 76—77. Гл. *жыць*.

**Жыг** 'імгненне', 'хуткі скачок, хуткі ўкус', 'нечаканы ўдар' (Нас.), 'хуткае запальванне' (Бяльк.). Рус. дыял. смал. *жиг*

'раптоўны рух; укус', славац. *žih* 'агонь, запал', славен. *žig* 'агонь, пажар', 'наганяй', серб.-харв. *жи̑г* 'кляймо, пячаць', уст. 'металічны прут для падпальвання марціры', балг. дыял., макед. *жиг* 'кляймо', 'жыгала', 'туга, сум'. Параўн. *жыга* 'хуткі чалавек', *жэг* 'імгненна, хутка' і іх іншаслав. адпаведнікі. Ад слова *жыгаць* 'бліскаць'='хутка гарэць', 'хутка свяціць', адкуль бярэцца сема 'хутка' (параўн. ням. *blitzen* 'бліскаць', *Blitz* 'маланка', *Blitzbote* 'хуткі кур'ер', параўнанне ў розных мовах, *як маланка* 'хуткі'), шляхам усячэння афіксальнай часткі дзеяслова і ўтварэння бязафікснага назоўніка. Лат. *žigls* 'хуткі', якое ўзводзяць да літ. *žygis* 'аднаразовы ход, паход, раз' (Мюленбах — Эндзелін, 4, 809; Фрэнкель, 1308), магло зазнаць (але не абавязкова) уплыў бел. *жыг*.

**Жы́га** 'надта хуткі чалавек', 'чалавек, які ўмешваецца ў чужыя справы' (Нас.). Параўн. рус. дыял. *жи́га* 'агонь', 'бізун', 'ваўчок', польск. дыял. *żega, żyga* 'хуткі чалавек'. Параўн. *жыг, жэг* і іх іншаслав. адпаведнікі. Бязафіксны наз. утвораны ад *жыгаць* 'бліскаць' шляхам усячэння афіксальнай часткі з абагульненнем семы хуткасці. У далейшым 'хуткі чалавек' атрымлівае значэнне 'неспакойны', адкуль і 'такі, што ўмешваецца ў чужыя справы'. Параўн. *жыгун*.

**Жыга́ла**$_1$ 'востры металічны прут, якім прапякаюць дзіркі ў дрэве, косці' (ТСБМ), *жага́ла* (Янк. II, Нар. сл., 225). Рус. дыял. сіб., пск., смал., самар., валаг. *жига́ло, жага́ло*, укр. *жига́ло*, польск. *żegadło*, в.-луж. *žahadło* 'тс', н.-луж. уст. *żegadło, żygadło* 'шып, восць, джала', славен. *žigálo* 'металічны прут для выпальвання'. Параўн. балг. *жѐгъл (жьо́галь)* 'жыгала', 'кол', макед. *жегла, жегол* 'жыгала'. Ст.-рус. *жигало, жегало* 'кадзільніца' (XII ст.), 'жыгала' (XVI ст.). Відаць, яшчэ прасл. утварэнне ад **žigati, *žegati* з суфіксам **-dlo*, мяркуючы па рус., укр., польск., в.-луж., славен. паралелях, ужо ў прасл. мела знач. 'прут для прапякання' (магчыма, побач з іншымі значэннямі). Выходнае значэнне дзеяслова 'абпальваць, апякаць' адлюстроўваецца і ў суч. бел. *жыгаць* (гл.), суфікс меў інструментальнае значэнне (Мейе, Études, 315—318).

**Жыга́ла**$_2$ 'джала' (Сл. паўн.-зах.). Рус. дыял. смал., пск., цвяр., наўг., ленінгр., кастр., яросл., валаг., арханг., паўн.-дзвін. *жи́га́ло*, цвяр., пск. *жага́ло* 'тс', укр. *жига́л* 'ўсё вострае' (Жэлях.), н.-луж. уст. *żegadło, żygadło* 'шып, восць, джала', в.-луж. *žahadło* 'джала', чэш., славац. *žihadlo* 'джала'. Прасл. інструментальны назоўнік з суф. **-dlo* ад дзеяслова **žigati, *žegati*, як і *жыгала*$_1$. Зважаючы на пашырэнне ў бел., рус., серб.-луж., чэш., славац., значэнне мела паўн.-слав. распаўсюд-



жанне і магло асноўвацца на значэннях дзеяслова *жыгаць* (гл.) 'апякаць > калоць > кусаць', адлюстраваных і ў суч. бел. Нельга, аднак, выключаць магчымасць пераносу яшчэ ў паўн.-слав. з назвы металічнага інструмента на джала, але гэта здаецца менш верагодным. *Жыгадла* (Сл. паўн.-зах.) з польск. *żegadło* дыял. 'джала'.

**Жыга́н** 'асмалены кіёк, качарга' (Бяльк.). Параўн. рус. дыял. *жиган* 'качагар, смуглы чалавек, хуліган'. Ад дзеяслова *жыгаць* (гл.) 'апякаць, абпальваць' з малапрадуктыўным рэгіянальным суфіксам *-ан* (Сцяцко, Афікс. наз., 26).

**Жыгаце́ць** 'гарэць, успыхваць' (зэльв., Нар. словатв., 16). Ад дзеяслова *жыгаць* 'бліскаць' з суфіксам *-ацець*, які выкарыстоўваецца для апісання многакратнага перарывістага дзеяння ў дзеясловах гучання і свячэння (параўн. *жухацець, грукацець, бразгацець, шаргацець* і інш.), ці праз прамежкавы этап — наз. з суф. **-ot- (> -ат- > -ац-)* са значэннем 'мнагакратнае ўспыхванне' **жы́гат*, адкуль з суф. *-ець* дзеяслоў.

**Жыга́ць** 'калоць, кусаць, апякаць, бліскаць', *жага́ць* (кліч., Жыв. сл., 126), *жэ́гаць* (барыс., Шатал.) 'бліскаць; смаліць', *жо́гаць* 'удараць' (КТС). Рус. дыял. *жи́гать, жага́ть* 'кусаць, джаліць, калоць; пячы (аб крапіве); кідаць, біць', укр. *жига́ти* 'апякаць; кусаць, калоць', в.-луж. *žahać* 'абпальваць, пратраўляць', чэш. *žihati* 'апальваць, распальваць, бліскаць', *žáhati* 'паліць, рабіць жар', славац. *žihat'* 'паліць, калоць, кусаць', *žíhat'* 'апякаць', славен. *-žagati, -žigati* (у прэфіксальных утварэннях), серб.-харв. *жи́гати* (у прэфікс. утварэннях *-жизати*) 'калоць (пра боль), пячы, паліць'. Ст.-слав. **-жизати, -жагати** (у спалучэнні з прэфіксамі) 'паліць, абпальваць'. Ст.-рус. *жигати* 'паліць', у прэфіксальных утварэннях таксама *-жизати, -жагати* 'паліць'. Параўн. палаб. *zazăt* 'паліць', н.-луж. *žagliś* 'гарэць', в.-луж. *žehlić* 'гарэць', рус. дыял. *жа́грить* 'моцна паліць (печ)', серб.-харв. *жа̏грити* 'паліць', польск. дыял. *żagawka* 'кусліваe насякомае'. Безлай (Jezik in slovstvo, 16, 1970/71, 4, 94—95) пастуліруе старажытнасць як *žigati*, так і *žagati*, што мае дастатковае абгрунтаванне, таму бел. *жыгаць* і *жагаць* не вынік нядаўніх фанетычных працэсаў, а рэфлекс старажытных форм. Паходжанне кораня няяснае. Лічаць з і.-е. **dheg$^{u}$h-* 'гарэць', аб чым гл. *жгаць*$_1$, аднак прапанаваныя рашэнні нельга лічыць канчатковымі. Вакалізм кораня ўказвае на розныя чаргаванні: **ē > *ě > *a; *ī > *i; *ĭ > ь > ∅ *ĕ > > e > e/o; ō > a: жэгаць, жагаць, жыгаць, жгаць, жэгаць*, укр. *згага* (гл. *жага*); два з іх прадстаўлены ў формах *жыгаць, жагаць*. Аб вакалізме *жегж* гл. яшчэ Іванаў, Славянский, балтийский і раннебалканский глагол, 1981, 129. Адносна

кансанантызму ці не трэба бачыць у *gēg- > *žag- і г. д. рэдуплікацыю кораня, выкліканую экспрэсіўна-інтэнсіфікуючымі момантамі? Такім коранем мог быць *g$^{u}$her- (параўн. *гарэць, грэць, гаршок, гарачы*), тым больш што *-р-* у серб.-харв. *жäгрити* 'паліць' тлумачаць (Скок, 3, 674) як «устаўное», магчыма, ад *грејати* 'грэць'; параўн. яшчэ *жэгліць*.

**Жыгу́н** 'няўрымслівы, неспакойны чалавек' (маладз., Янк. Мат., 98). Параўн. рус. дыял. смал. *жигу́н* 'гарэза, свавольнік', перм. 'насякомае, якое джаліць', тул. дыял. 'бізун' > назвы розных раслін, укр. *джигун* 'вісус, залётнік', 'гатунак ежы на квасе'. Ад дзеяслова *жыг-а-ць* 'бліскаць' з суфіксам *-ун* (як *вяртун, кульгун*). Іншае тлумачэнне (Лаўчутэ, Baltistica, VI (2), 199) з літ. *žygūnas* 'веставы, хадок' выклікае сумненні. Звычайна літ. аддзеяслоўныя назоўнікі на *-unas*, вядомыя літ. мове, а не дыялектам, маюць негатыўную афарбоўку, у дыялектах суфікс *-unas* амаль не выкарыстоўваецца, што дае падставу лічыць многія літ. словы на *-ūnas* слав. запазычаннямі (Атрэмбскі, Gramatyka, II, 208; Мартынаў, Дерив., 38). Апрача таго, сема хуткасці лягчэй тлумачыць развіццё значэння 'няўрымслівасці', чым значэнне 'хадака, веставога' (хаця і апошняе не выключаецца), а слова *жыгун* не стаіць асобна ў бел. мове, а мае шэраг паралелей: *жыг, жыга, жэг*.

**Жыгучка** 'пякучая крапіва'. Рус. дыял. кур., арл., варонеж., раст., краснадар., валаг., калін., том., смал. *жигу́чка*, укр. *жигу́чка* (Грынч.) 'тс'. Усх.-слав. наз. з суф. *-ка*(<*-ьka) ад асновы дзеепрыметніка *жигуч-*, утворанага ад дзеяслова *жиг-а-ти* (гл. *жыгаць*), у знач. 'апякаць'. Аналагічны корань у іншых назвах крапівы: *жаглійка, жыжка;* параўн. з польск. дыял. *żegawka*, рус. *жгучка* 'крапіва' і інш. Гл. *жгучка*.

**Жыд** уст. 'яўрэй' (Нас.). Рус., укр., балг., макед. *жид*, польск. *żyd*, в.-луж., чэш., славац., славен *žid*, н.-луж. *žyd*, серб.-харв. *жи̏д* 'тс'. Ст.-слав. **жидовинъ** 'яўрэй, іудзей'. Ст.-рус. *жидъ* (XII ст.), ст-бел. *жидъ* (Скарына). Агульнаслав. (да IX ст., ці прасл.?) запазычанне са ст.-італ. *giudio* < лац. *iudaeus* < грэч. ἰουδαῖος. Фанетычна *ži-* < *žu-*. Фасмер, 2, 53 (з літ.); Махэк$_2$, 727; Эрну — Мейе, 326.

**Жыдзі́на** 'тонкая жэрдка' (Нас., Касп.). Рус. том., кур. *жиди́нка*, смал. *жидчи́нка* 'тс'. Відаць, ад прыметніка *жыдкі* з суф. *-іна*, як *асавіна* 'асовая паляна' (аб гэтай мадэлі Сцяцко, Афікс. наз., 107—108). Прыметнік у знач. 'тонкі'.

**Жы́дкі** 'вадзяністы, негусты, тонкі'. Рус. *жи́дкий* 'вадкі', в.-луж. *židki* 'негусты', н.-луж. *žydki* 'тс', чэш. уст. *židký* 'вадкі', славен. *žîdek* 'негусты, вадкі, мяккі, слабы', серб.-харв.



*жи̏дак, жи̑дак* 'негусты, тонкі (пра сцябло і да т. п.)', балг. дыял. *жи́тък* 'вадзяністы, негусты'. Ц.-слав. *жидъкъ* 'вадкі'. Ст.-рус. *жидкий* 'негусты, вадкі'. Прасл. **židъkъ* утворана з суф. прыметніка **-ъk-* (як *салодкі* і інш.). І.-е. корань **g$^{u}$eid(h)* 'жыжа, гразь': грэч. δεῖσα 'гразь', арм. *gēj* 'рэдкі'. Покарны, 1, 469; Фасмер, 2, 53; БЕР, 1, 549. Непераканаўчыя паралелі з герм. і іншых і.-е. моў прыводзіў Младэнаў (160); цікавыя, але няпэўныя балт. паралелі (літ. *giẽdrùs, giẽdras* 'ясны, празрысты') дае Махэк$_2$ (727): іх адносяць да і.-е. кораня **g$^{u}$hei* (Покарны, 1, 488; Фрэнкель, 128), сувязь з якім слав. кораня семантычна няпэўная. Прапанова Ваяна (BSL, 31, 44) пра суадносіны **židъkъ* з **žica, *žila* (семантычна *вадкі — гнуткі*) не абгрунтоўвалася.

**Жыжа$_1$**, *жы́жка* 'цякучая сумесь вадкіх і цвёрдых рэчываў'. Рус. *жи́жа*. Ц.-слав. *жижда* 'вадкасць'. Ст.рус. *жижа* (1705 г.) 'жыжа'. Ад кораня **žid-* з суфіксам **ja: *židja*, адкуль заканамернае ўсх.-слав. *жижа*, ст.-слав. (> ц.-слав.) **жижда**.

**Жы́жа$_2$** дзіцяч. 'агонь'. Рус., укр. дзіцяч. *жи́жа*. Польск. дыял. *żyża* 'агонь', славац. дзіцяч. *žiža, žiž(i)* 'агонь, святло', серб.-харв. дзіцяч. *жи̑ж, жи̏жа* 'агонь, горача', *жи̑жа, жи̏жа* 'фокус, цэнтр (фіз. пункт)', 'свяцільнік, кадзіла'. Параўн. балг. *жижи̏* 'іскры', *жи̏жка* 'іскра', макед. *жеже* 'апякаць, пячы'. З кораня **žig-* (гл. *жыгаць, жгаць*) з дапамогай суфікса **-ja* таго ж, што ў *свяча, ежа: *žigja > *žiža*. Улічваючы дзіцячы характар слова, можна дапусціць і другасны паўтор *ж*, аднак наўрад ці гэта патрэбна ў свеце папярэдняга словаўтваральнага тлумачэння.

**Жы́жаўка** 'скула' (Клім.). Відаць, звязана з коранем дзеяслова *жыгаць* 'апякаць' (гл.). Паводле мадэлі *барадаўка* — назвы іншай балячкі; параўн. *жыжа$_2$*.

**Жы́жка$_1$** 'кроў' (Жд. 1). Рус. *жи́жка*, бранск., кур., варонеж., арл., тул., смал. 'вадкасць', смал. 'кроў'. Памянш. суфікс *-ка* ад наз. *жыжа$_1$* (гл.)

**Жы́жка$_2$** 'крапіва' (Жд. 2). Укр. дзіцяч. *жи́жка* 'ўсё гарачае і пякучае' (Грынч.), палес. *жи́жка, жі́жка* 'крапіва'. Ад кораня дзеяслова *жыгаць* 'апякаць' з суфіксам *-к-а* і марфаналагічным чаргаваннем *г/ж*. Параўн. і *жыжа$_2$*.

**Жызнь** 'жыццё' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *жизнь*, укр. уст. *жизнь* (Грынч.), балг. уст. *жизн, жи́зън* (Речник на редки, остарели и диалектни думи...), ст.-серб. *жизнь* (Данічыч) 'тс'. Ст.-слав. **жизнь** 'тс'. Ст.-рус. *жизнь* 'тс'. Ст.-бел. (Скарына) *жизнь* 'тс'. Ст.-рус. са ст.-слав., дзе ад *жи-* (гл. *жыць*) з суфіксам *-знь* (як *болѣзнь*). Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 292; Мейе, Études,

456; Вінаградаў, Лексикология и лексикография (Избр. труды), 1977, 15.

**Жы́ла** 'крывяносны сасуд', 'частка зямной кары, запоўненая пародай або вадой', 'асобны провад кабелю'. Рус., укр., балг., макед. *жила,* польск. *żyła,* в.-луж. *žila,* н.-луж. *žyła,* чэш. *žila,* славац. *žila,* славен. *žíla* 'жыла', серб.-харв. *жи̏ла* 'галінка кораня, жыла, бізун'. Ст.-слав. **жила** 'крывяносны сасуд', ст.-рус., ст.-бел. (Скарына) *жила* 'тс'. Літ. *gýsla,* ст.-прус. *-gislo* (у складаным слове *pettegislo),* лат. *dzīsla* 'жыла', арм. *ǰil* 'жыла', лац. *fīlum* 'нітка, валакно, тканъ; сухажылле'. І.-е. *$*g^{u}hislo$-,* адкуль балт., слав., а таксама арм. і лац. Покарны, 1, 489; Фасмер, 2, 54—55; Мейе. Études, 420; БЕР, 1, 545; Скок, 3, 680; Тапароў, Е — Н, 250—251; Траўтман, 87, 90; Ачаран$_2$, 4, 127; Вальдэ — Гофман, 497; Эрну — Мейе, 235. Таго ж кораня *жычка* (гл. Брукнер, 669 і наст.). Махэк$_2$ (727), як і некаторыя іншыя, спрабуе пашырыць кола і.-е. роднасных слоў герм., у прыватнасці ням. *Geissel* 'бізун', што, аднак, выклікае сумненні. Шанскі (1; Д, Е, Ж,) не выключае (спасылаючыся на Пагодзіна, Следы, 276) магчымасці сувязі *жыла* з *жыць.*

**Жы́ламаць** (Нас.). Гл. *жаламу́сцік.*

**Жылгу́ць,** *жэлгу́ць, жыгулі́* (усе з выбухным *г*), *жылбу́ць* 'парасткі вярбы' (Сл. паўн.-зах.). Польск. дыял. *żylgucie* 'галінкі для пляцення'. З літ. *žilgas* 'від вярбы' (Сл. паўн.-зах., 2, 166; Карловіч, 6, 453; Лаўчутэ, Сл. балт., 110).

**Жылі́на** 'трама, жэрдка' (палес., Нар. сл., 223). Рус. том. *жилинка* (націск?) 'тонкі прут'. Магчыма, утворана ад наз. *жыла* суфіксам *-ін-а* са знач. адзінкавасці (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 208—209). *Жыла* ў гэтым выпадку ў знач. 'галіны, жэрдкі'.

**Жы́ліцца** 'натужвацца'. Рус. *жи́литься,* славен. *žíliti* 'натужвацца', серб.-харв. *жи̏лити се* 'тс'. **Žiliti,* відаць, прасл. дзеяслоў ад наз. **žila* (гл. *жыла*) са знач. 'напружваць жылы' > 'натужвацца', асабліва са зваротным **sę.*

**Жыллё** 'месца, дзе жывуць', *жылец* 'жыхар'. Рус. *жилье, жилёц,* укр. *жилє́* (Жэлях.), *жиле́ць.* Ст.-рус. *жилье* 'жыллё' (з XVIII ст.), з XVI ст. 'работа з прадастаўленнем жылля', *жилец* (з XV ст.). Вытворныя на базе кораня дзеяслова *жыць* (гл.) з суфіксам элавага дзеепрыметніка *-л-* і адпаведным далейшым суфіксам (**-ij-e, *-ьсь*), відаць, яшчэ ў ст.-рус.

**Жы́пска** 'суп з мясам' (Жд. 3). Прыкладам мясны характар супу не пацвярджаецца. Можа, з польск. дыял. (?) **grzybska* *zupa?* Няясна.



**Жыр** 'кармленне жывёл, што гулліва забаўляюцца' (ТСБМ), дыял. *жыр* 'тлушч' (Сл. Паўн.-зах.). Рус. *жир* 'тлушч', дыял. арханг. 'месца кармлення рыбы', укр. *жир* 'тлушч', 'кармленне жывёлы', польск. *żyr, żer* 'кармленне і ежа жывёлы', в.-луж. *žeŕ,* чэш. *žír* 'тс', славац. *žír* 'тлушч', 'кармленне свінні ў лесе жалудамі', *žer* 'пажыранне раслін насякомымі; пасьба на апалых жалудах', славен. *žîr, žer* 'пасьба свінней у лесе; харч; ураджайнасць; плод; карысць', серб.-харв. *жи̑р* 'жолуд', балг. дыял. *жир* 'жолуд', 'тлушч', макед. *жир* 'жолуд'. Ст.-слав. **жиръ** 'паша'. Ст.-рус. *жир* 'багацце, жыллё, паша; тлушч'. Літ. *žyras* 'кармленне жывёл' < польск. (Фрэнкель, 1313) ці бел. Паводле Якабсона (Writings, 2, 627), да **žьrati, *žirati* (гл. *жэрці*), што прынялі Мартынаў — Міхневіч (Маладосць, 1969, 12, 140), якія лічаць менш верагоднай версію Міклашыча (411) аб суадноснасці *жыць — жыр* (як *піць — пір*), асцярожна падтрыманую Мейе (Études, 405). Фасмерам (2, 56) і прынятую Праабражэнскім (1, 233), Шанскім (1, Д, Е, Ж, 293), Іванавым (Слав. и балканское языкознание, 1975, 60), Скокам (3, 680—681), БЕР (1, 547). Непасрэдныя супастаўленні з іншымі і.-е. мовамі супярэчлівыя. Гл. літаратуру ў Фасмера, Скока, БЕР.

**Жыраво́** 'дрыгва' (Сцяшк. МГ). Паводле Талстога (Геогр., 187), верагодна ад *жыр* (параўн. рус. *жирная грязь*); іншыя супастаўленні Талстога са словамі *сало, маслявина* не абавязкова маюць дачыненне, паколькі бел. *жыр* звычайна абазначае кармленне, а не тлушч. Гл. яшчэ *жырны.*

**Жыра́нка** 'запалка' (Касп.). Відаць, кантамінацыя кораня *жар* (гл.) са старой назвай запалкі — *серя́нка,* зафіксаванай як наўг. у Даля на базе мадэлі назваў прадметаў на *-анка* тыпу *біянка* 'маслабойка', *раскладанка* і г. д., аб якіх Сцяцко, Афікс. наз., 28—29.

**Жы́рны** 'тлусты' (Юрч. Сін.). Магчыма, з рус. *жирный,* паколькі *жыр* у знач. 'тлушч' у бел. мове фіксуецца абмежавана. Параўн., аднак, чэш. *žirny* 'ўрадлівы (аб глебе)', славац. *žirny* 'ўраджайны', 'высокаякасны'. Ст.-рус. *жирный* (Сл. аб палку Ігаравым) 'густы'.

**Жыро́ўка** 'востраў' (Яшкін). Параўн. рус. алан. *жиро́вка* 'рыба, што нерастуе ў месцы, дзе яна звычайна водзіцца', *жирови́ще* 'месца, дзе жыруе рыба'. Відаць, першапачаткова не проста востраў, а такі, дзе адбываецца жыраванне (гл. *жыр*). Параўн. яшчэ *жыраво.*

**Жы́ршча** 'ржышча' (Сл. Паўн.-зах.). Метатэза з *ржы́шча.* Дакладная паралель у н.-луж. *žyršćo, ržyšćo* 'тс'.

**Жысць** 'жыццё' (Касп.). Рус. прастамоўн. *жисть*. Відаць, другаснае фарміраванне на базе *жизнь* > *жизь* > *жись* і **жить* 'жыццё' (ст.-слав. **жить** 'жыццё', рус. *пáжить* 'паша') ці хутчэй па суадноснасці з іншымі абстрактнымі назоўнікамі на *-сць* (< *-stь*): *грусть, страсть, честь*. У бел. магло быць запазычаным з рус. ці ўтворана на ўласнай глебе.

**Жы́та** 'расліна Secale, род з сям. злакавых'. Рус. *жи́то* 'мясцовая назва для жыта, ячменю або наогул для збожжа', укр. *жи́то* 'жыта', польск. *żyto* 'тс', в.-луж. *žito* 'жыта, збожжа', н.-луж. *žyto* 'збожжа, жыта', чэш. *žito* 'збожжа', дыял. 'пшаніца', славац. *žito* 'жыта', дыял. 'пшаніца', славен. *žito* 'збожжа, жыта', дыял. 'проса', серб.-харв. *жи̏то* 'збожжа; рытуальная ежа з пшаніцы', дыял. 'проса', балг. *жи́то* 'пшаніца', дыял. 'жыта', 'збожжа', макед. *жито* 'збожжа', 'пшаніца', 'куцця'. Ст.-слав. **жито** 'збожжа', 'плод'. Ст.-рус. *жито* 'збожжа', 'ячмень', 'багацце'. Ст.-прус. *geits* 'хлеб'. Шырокае першапачатковае значэнне прасл. **žito* 'злакавая расліна', 'збожжа', 'ежа з зерня' робіць бясспрэчнай сувязь *жыта* і *жыць*. **Žito* ўтворана ад кораня *$g^{u}i$*, *$g^{u}ei$-* (Покарны, I, 467—468) з суфіксацыяй *-*t*-: і.-е. *$g^{u}eito$-* (параўн. яшчэ кімер. *bwyd* 'ежа'). Пра суч. слав. значэнні слова гл. Клепікава, Усачова, ОЛА, 1965, 148—169. Праабражэнскі, I, 239; Фасмер, 2, 57; Шанскі, I, Д, Е, Ж, 294; Мейе, Études, 298; Ваян, RÉS, 41, 60; Махэк$_2$, 728; БЕР, I, 548; Скок, 3, 681; Траўтман, 82; Тапароў, Е — Н, 194—197.

**Жытло́** абл. 'жыллё'. Укр. *житло́* 'тс'. Суфікс *-ло* далучыўся да асновы *жит-*, выдзеленай у зах.-рус. з *жити, житие*, магчыма, пад уздзеяннем (па ўзору) *свѣтло* ці польск. слоў на *-tło*: уст. *miotło, wiertło*.

**Жыўку́н** 'верабей' (Ніканч.). Укр. палес. *живку́н, дживку́н, живку́н*. Відаць, з суфіксам *-ун* ад гукапераймальнага дзеяслова **жыўкаць* 'цыркаць'. Укр. *жевжик* 'свавольнік' і 'верабей' указвае і на магчымасць сувязі з коранем *жыв-ы* (гл.)

**Жыўцо́м** 'у жывым стане'. Рус. смал., пск., цвяр. *живцо́м*, укр. *живце́м* 'тс', польск. *żywcem* 'пры жыцці, не змяняючы'. Прыслоўе з тв. скл. слова *жывец*$_1$ 'жывы' (гл.).

**Жы́ўчык** 'прыкметнае біццё артэрыі, торганне павека', 'сперматазоід'. Рус. *жи́вчик* 'торганне павека, жылкі', 'рэзвы, шустры чалавек', 'сперматазоід', укр. *жи́вчик* 'жылачка, што торгаецца', 'вяртлявы чалавек', 'сперматазоід', польск. *żywczyk* памянш. ад *żywiec* 'насадка', дыял. 'жывы хлопец'. Параўн. балг. *живе́ц* 'пульс', серб.-харв. *жи̏вац* 'нерв', славен. *živec* 'жывая істота; нерв'. Памянш. ад бел. *жывец*$_2$ 'частка жывога цела' > 'частка пазногця' (адкуль 'артэрыя, біццё яе') і *жывец*$_1$ 'жывая рыбка' < 'жывая істота' (адкуль 'сперматазоід') утворана з дапамогай суфікса *-*ikъ* ад асновы **živьk-* (> **živьcь* па бадуэнаўскай палаталізацыі), відаць, яшчэ ў прасл. мове.



**Жы́хар.** Рус. смал., пск., наўг., пецярб., алан., калін., арханг., вяцк. *жи́харь, жи́хорь* 'тс' (і шэраг мясцовых семан. варыянтаў: 'гаспадар', 'дамасед', 'скупы', 'свавольнік', 'плясун', 'злы дух', 'птушка', 'сялянская гаспадарка', 'здаровая, буйная жывёла'). Фіксуецца з 1912 г. (Вярхоў, Назоўнікі на *-ар (-яр)* у бел. мове, 1970, 35). Утворана з суф. *-ар* ад дзеяслоўнай асновы **жых-*. Рус. *жиха́ть(ся)* мае знач. 'качацца, качаць, гнуць', у бел. адпаведны дзеяслоў не зафіксаваны. Паводле Мартынава — Міхневіча (Маладосць, 1969, 4, 136), суфікс *-ха-* ў дзеяслове *жихати* < *жити* ўказвае на інтэнсіўнасць дзеяння, як *грымець — грамыхаць*. Такое ўтварэнне не вельмі тыповае, таму не выключана і аналогія ці сувязь са *знахар* ад *знаць* (Фасмер, 2, 101) як табуістычнай назвай (параўн. рус. *жихарь* 'злы дух'). Параўн. і назвы асоб з арганічным *-х-: бляхар, кажухар*.

**Жыце́ц** 'расліна Phleum L.' (Нас.). Рус. *жите́ц* 'Bromus secalinus L.', укр. *житець* 'Bromus mollis L.' Ад асновы, прадстаўленай у слове *жыта* з суфіксам *-ец* (< *-ьць*): *житьць* > > *жыцец* на метанімічнай падставе.

**Жы́цік** 'расліна Lolium, род з сям. злакавых'. Параўн. польск. *życica* 'тс'. Ад. **žitъ* 'злак', утворанага, як і *жыта* (гл.), але аднесенага да м. р., з суфіксам *-ік* на метанімічнай падставе.

**Жы́ціца** 'расліна Bromus arvensis L.' (Касп.). Польск. *życica* 'расліна Lolium L.', дыял. 'Elymus L.' Ад асновы, прадстаўленай у слове *жыт-а* (гл.), з суфіксам *-іца* на метанімічнай падставе пераносу.

**Жыццё.** Рус. разм. *житьё*, укр. *життя*, польск. *życie* 'жыццё', в.-луж. *žiće* 'гаенне', н.-луж. *žyśe* 'гаенне', чэш. кніжн. *žití*, славац. кніжн. *žitie*, славен. *žitje*, серб.-харв. уст. паэт. *жи̏ħе*, балг. *житие*, 'жыццё', уст. 'жыццё'. Ст.-слав. **житиѥ** 'жыццё', 'жыллё', 'здабытак', 'істота'. Ст.-рус. *житие, житье* 'жыццё', 'здабытак', 'месца пражывання'. Як і запазыч. са ст.-слав., *жыціе* ўтворана ў прасл. ад асновы **žit-* (дзеепрыметнікавага характару) з дапамогай суфікса *-*ije(-ьje)* з абстрактным значэннем. Мейе, Études, 389; Фасмер, 2, 57. Шанскі (I, Д, Е, Ж) лічыць *-т-* ужо часткай суфікса. Рэканструкцыю ст.-рус. семантыкі і складу слоў са знач. 'жыццё' гл. Колесаў, Диалектная лексика, 1975, 60—75.

**Жыць.** Рус. *жить,* укр. *жи́ти,* польск. *żyć* 'жыць', в.-луж. *žić* 'загойвацца', уст. 'жыць', н.-луж. *žyś* 'загойвацца, цешыцца', чэш. *žíti* 'жыць', славац. *žiť* 'тс', славен. *žíti* 'жыць', серб.-харв. уст. *жи̏ти* 'жыць', балг. дыял. *жѝя* 'жыць', макед. (у складаных словах) *жи-* 'жыць'. Ст.-слав. **жити** 'жыць, ажыўляць, карыстацца з чагосьці', ст.-рус. *жити* 'жыць', 'быць', 'адбывацца', 'загойвацца'. Літ. *gýti* 'загойвацца', лат. *dzît* 'жыць', лац. *vita* 'жыццё', грэч. βιοτή 'жыццё' сродкі для жыцця'. І.-е. корань *$g^{u}$ẹi̯-: *$g^{u}$ī,* часта з пашырэннем *-u̯-: *$g^{u}$ī$^{u}$o-s* 'жывы', *$g^{u}$ī$^{u}$o-to-s* 'жывот' (гл.). Фасмер, 2, 52; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 294; Брукнер, 669; Махэк$_2$, 728; БЕР, 1, 549; Траўтман, 76; Покарны, 1, 467.

**Жы́чка** 'чырвоная стужка' (абл., ТСБМ). Рус. дыял. *жи́чка* 'ваўняная пража', 'суровая нітка', тул. *жи́ча* 'кайма, падшыўка', перм., сіб., кур., пенз. 'чырвоны гарус', укр. *жи́чка* 'чырвоная шарсцяная нітка', 'шарсцяная ці шаўковая тасьма', польск. *życzka* 'чырвоная стужка ці тасёмка', балг. *жичка* 'нітка' (Гераў). Параўн. славен. *žíca* 'дрот', серб.-харв. *жи̏ца* 'пасма, нітка, дрот, жыла', балг. *жѝца* 'дрот', разм. 'нітка', дыял. 'сцябло гарбуза, кавуна і г. д.', макед. *жица* 'нітка, дрот', 'слой зямлі', 'наследнік'. Прасл. **žika* > **žica* 'стужка, пасма, нітка'. Літ. *gijà* 'нітка ў аснове тканіны', лат. *dzija* 'тс', а таксама 'матуз для пад'ёму бортніка на дрэва', вед. *jiya* 'ціцева', ст.-іран. *ǰiyā* 'жыла', грэч. βιός 'лук'. Узыходзіць да таго ж і.-е. кораня, што *жыла* (гл.): **$g^{u}$heiə-,* **$g^{u}$hī-* 'жыла, стужка'. Покарны, 1, 489; Фасмер, 2, 57—58; БЕР, 1, 549; Брукнер, 669; Скок, 3, 679—680; Траўтман, 87. Корань *$g^{u}$hī-* атрымаў у слав. *-k-* (Мейе, Études, 209) і трансфармаваўся ў **ži-k-;* з памянш. суфіксам *-ьk-* атрымліваецца *жычка* (форм. *žica* мае *-c-* па бадуэнаўскай палаталізацыі). Аб прасл. **žica* ў суч. слав. мовах гл. Чумакова, Совещание по ОЛА (Ужгород, 25—28 сентября 1973 г.). Тезисы докладов. М., 1973, 80—82. Значэнне 'чырвоная стужка' ў бел., укр., польск. сфарміравана, відаць, не незалежна, не выключана, што распаўсюджана з польск.

**Жы́чыць** 'жадаць, віншаваць' (Нас., Сцяшк. МГ, Колас). Рус. дыял. варонеж. *жи́чить* 'пазычаць', разан. 'наказваць', укр. дыял. *жи́чити* 'жадаць, віншаваць', польск. *życzyć* 'прагнуць, жадаць камусьці ці сабе; віншаваць', в.-луж. *žičić* 'забяспечваць, даць, дазваляць', н.-луж. *žycyś* 'даваць, дазваляць, віншаваць', чэш. дыял. *žičiti* 'жадаць, віншаваць', славац. *žičiť* 'тс'. Ст.-бел. *жичити, зычити* (1526 г.), ст.-рус. *зычити* (1567 г.) у польскіх справах. Паводле Брукнера, 669; Голуба — Копечнага, 305; Махэка$_2$, 498, **požitčiti* (> *pożyczyć*) ад *poži-*



*tek* 'польза, карыстанне', адкуль (шляхам зваротнага словаўтварэння?) і *życzyć*. Бел., паводле Пальцава (Бел. лекс., 130), Булыкі (Запазыч., 114), з польск. яшчэ ў XVI ст.

**Жэ́бры** 'рэбры' (Сцяшк. МГ). З польск. *żebro* 'рабро'. Гл. *рабро.*

**Жэг** 'імгненна, хутка' (Сцяшк. МГ), гл. *жыг.* Рус. дыял. арл. *жёг* 'мучэнне', алан., урал. 'прайдзісвет', калуж., кур. 'круцель', чэш. *žeh* 'гарачыня, спёка, цеплыня', 'крэмацыя', 'гарачыня', славен. *žẹ́ga* 'гарачыня; наганяй', серб.-харв. *же̑г* 'трут', балг. дыял. *жег, жега* 'гарачыня', 'жыгала', макед. *жег* 'кляймо', *жега* 'гарачыня'. Ст.-слав. **жєга, жєгъ** 'гарачыня'. Параўн. *жыг, жыга* і іх іншаслав. адпаведнікі. Прыслоўе з бязафікснага наз., утворанага, як і *жыг,* ад дзеяслова *жэгаць, жыгаць* (< *жегати*) шляхам усячэння афіксальнай часткі. Значэнне *жэгаць* 'бліскаць' дало сему хуткасці, якая стала асноўнай.

**Жэ́гаць** 'бліскаць' (барыс., Шатал.). Рус. вяцк. *жёгать* 'паліць тытунь', чэш. *žehati* 'распальваць, паліць; бліскаць', макед. *жега* 'калоць, бліскаць'. Прасл. **žegati* прадстаўляе адно з чаргаваннеў вакалізму ў корані **ž*=*g*. Гл. *жыгаць, жгаць.*

**Жэ́гіні,** *жэ́гі, іжэ́гіні, жэйгіні, жагіны* 'прыстасаванне для сушкі снапоў і г. д.' (брасл., дрысен., шаркоўшч., міёр., ДАБМ, к. 234, каментарыі 789). З літ. *žaginỹs,* дыял. *žẽginis, žagỹs, žaiginỹs* 'тс' (лат. *žeģinis* < літ.). Маркунас — Відугірыс, Liet. kalb. klaus., 8, 233; Урбуціс, Baltistica, V(1), 60.

**Жэ́гліць** 'паліць' (шчуч., З нар. сл., 42). В.-луж. *žehlić* 'прасаваць', 'мігцець', *žehlić so* 'тлець', чэш. *žehliti* 'прасаваць', разм. 'скардзіцца', славац. *zehliť* 'прасаваць'. Улічваючы выбухны характар *г* і геаграфію, відаць, з польск., дзе зафіксавана *żeglić* 'слаба паліцца, тлець'. Паходжанне слова звязана з *жэгаць, жыгаць, жгаць* (гл.), прычым, калі дапускаць рэдуплікацыю, магчыма гаварыць і аб варыянтнасці *l-r* (параўн. серб.-харв. *жа̏грити* 'паліць', рус. дыял. *жа́грить* 'моцна паліць печ'), падобнай да вар'іравання *жураць — жуляць* (гл.).

**Жэ́дзень** 'невялікі стажок сена, саломы' (Сл. паўн.-зах.). Верагодна, з польск. (**rzedzień?* ад *rzadki* 'рэдкі' ці **rzędzień?* ад *rząd* 'рад'). Няясна.

**Жэ́жкі** 'гарачы' (камян., Шатал.). Укр. *жёжко* 'горача', *жижки́й* 'пякучы'. Ад кораня **žeg-* з суфіксам **ьk-* і пераходам **g* > *ž* Гл. *жыгаць, жгаць, жэгаць, жыжа$_2$.*

**Жэ́йгала** 'хто хутка гаворыць' (полац., Нар. лекс., 16). Верагодна, метатэза з *жэгайла,* дзе *-айла* суфікс (Сцяцко, Афікс. наз., 93—94), а *жэг-, жыг-* выступае ў знач. хуткіх

дзеянняў ('бліскаць', 'ударыць') і можа быць таксама ўжыта для акрэслення хуткай гаворкі.

**Жэ́мухі** 'адходы ад воску' (рагач., З нар. сл., 208). Ад кораня *жем-*, *жьм-* з суф. *-ух-*. Гл. *жамяра*$_1$, *жмаць*, *жаць*$_2$.

**Жэ́мчуг** 'перламутр у форме зярнят', фалькл. *зямчужны*. Рус. укр. *же́мчуг* 'тс'. Ст.-рус. *жьньчюгъ* (1161 г., Надп. на кр. Ефр. Полацкай), *женьчугъ* (Кірыла Тураўскі), *жемчюгъ* (пачатак XV ст.). Ст.-бел. *жемчугъ* (1503 г., Марч. дыс.). Ст.-рус. запазыч. з цюрк. Старэйшы запіс на крыжы Ефрасінні Полацкай адлюстроўвае старажытную форму (Менгес, Восточные элементы в «Слове о полку Игореве», 1979, 94). Ст.-цюрк. *jenčü* 'жэмчуг' < кіт. *чжэньчжу*, *čіnču* 'тс' (Др. тюрк., 256). Дабрадомаў, Бел. лекс., 42; Праабражэнскі, 1, 228; Фасмер, 2, 46; Меліяранскі, ИОРЯС, 7, 2, 287; Дабрадомаў, ИАН ОЛЯ, 1966, 1, 57—64; Менгес, там жа, 94—100. Ст.-рус. з нейкай архаічнай цюрк. мовы, аб чым дыскутуюць Дабрадомаў, Менгес. Форма з *з-*, паводле Дабрадомава адлюстроўвае незафіксаваную цюрк. крыніцу, а паводле Апеля (РФВ, 3, 87) — уздзеянне формы *зямля*.

**Жэ́мяць** 'драбяза (пра дзяцей)' (Шат.). Утворана ад кораня *жем-*, *жьм-* 'ціснуць' (гл. *жмаць*). Семантыка: 'драбяза (пра дзяцей)' < 'драбяза (наогул)' < 'дробныя адходы ад выціскання'. Параўн. *жамяра*$_2$, *жамярва*. Суфікс *-jadь, *-ědь меў значэнне зборнасці (параўн. *чэлядзь*). Слаўскі, Sł. prasłow., 1, 64. З гэтым жа суфіксам утворана карэліц. *жэ́мярацьь* 'драбяза' (З нар. сл., 89) ад асновы *жамяра*$_2$ (гл.). Недастаткова абгрунтавана думка Вяржбоўскага (дыс., 323), падтрыманая Лаўчутэ (Сл. балт., 54) пра літ. паходжанне (< літ. *žemùtis* 'дробненькі').

**Жэну́ць** 'гнаць' (Нас.). Відаць, недакладнае ўтварэнне інфінітыва ад *жену*, *женеш* замест *гнаць*; параўн., аднак, польск. *żenąć* 'гнаць'.

**Жэнь** 'матуз для пад'ёму бортніка на дрэва' (ельск., Анох.), 'прыстасаванне для гэтага ж' (КСТ). Рус. *жень* 'прыстасаванне (вяровачная лесвіца) для пад'ёму бортніка на дрэва' (Даль), 'матуз для пад'ёму бортніка на дрэва' (ніжнегар., кастрам.), укр. *жень* (Грынч.), палес. *жêнь*, *жінь*, *жинь* (Ніканчук, Матеріали до лексичного атласу укр. мови. Київ, 1979, с. 214—215) 'прыстасаванне для пад'ёму бортніка на дрэва', ст.-чэш. *žině* 'грубая нітка, матуз з воўны' (Махэк), славац. *žinka* 'матуз', славен. *žínjica* 'конскі волас, матуз з конскіх валасоў', серб.-харв. *žìnica* 'кайма' (RJA). Рэканструкцыя прасл. формы выклікае пэўныя цяжкасці: галосны мог бы быць *ě (укр. дыялекты



ведаюць на яго месцы не толькі *і*, але і *е*; славен. дыялекты ведаюць *і*). Гэтаму не пярэчыць і балт. *ei* ў роднасных утварэннях: літ. *geinỹs*, лат. *dzeinis* 'матуз для пад'ёму бортніка на дрэва'. Аднак *ē > *ě > *a (пасля *ž), а калі *ě < *oi, перад ім не ўзнікае *ž, а *dz > *z. Гэтаму адпавядае польск. *dzieńić* 'карыстацца дрэвам у бортніцтве' (SJP, 2, 582: пад *dzień* II), *dzianek* 'дрэва, якім карыстаюцца бортнікі', дыял. *dzianka* 'борць у старой сасне' (Карловіч). У форме *žěnь, што адлюстравалася ў бел., рус., укр., чэш., славац., славен., *ž узнікла, магчыма, пад уздзеяннем *žica; польск. *dzień* уступала ва ўзаемадзеянне з *dziać* (< *děti) 'рабіць' (у тым ліку вуллі ў дрэве), што садзейнічала захаванню *dz* у *dziany*, якое страчвала сувязь з *dzień* і атрымлівала з *dziać* (гл. Bartnictwo ў Глогера, Encyklopedia staropolska, 1, 121). На сувязь балт. слоў з рус. указана ўжо ў Мюленбаха — Эндзеліна (1, 540), а Махэк$_2$ (728) адзначыў роднаснасць ст.-чэш. і славац. з балт. і лац. *funis* 'канат, матуз' (дзе можа быць з *oi, Эрну — Мейе, 262). Тады *жэнь* роднаснае *жычка* (гл.), прычым можа ўзыходзіць да і.-е. кораня *g$^{u}$hei̯: g$^{u}$hi (Покарны, 1, 489) і рэканструявацца як *g$^{u}$hoi̯n-i-s. Гл. яшчэ *жыла*.

**Жэ́рабя** 'ўмоўны знак пры вызначэнні парадку, чарговасці і да т. п.' Балг. *жрѐбие* 'тс'. Параўн. рус. *жребий* (< ст.-сл.), дыял. *жёребей*, *жёребий*, укр. *же́реб* 'тс', *жеребíй* 'пэўная частка поля' (Жэлях.), славац. *žreb* 'жэрабя', 'латарэйны білет', славен. *žrêb* 'жэрабя', серб.-харв. *жрêб*, *жрŷјеб*, *ждрêб* 'тс', макед. *ждрêб* 'тс'. Ст.-слав. **жрѣбъ, жрѣбии** 'жэрабя'. Ст.-рус. *жеребей* 'жэрабя, доля, частка; карцечны шрот'. Ст.-прус. *girbin* 'лік'; параўн. літ. *ger̃bti* 'шанаваць' (Параўн. прасл. *čьtǫ 'шаную' і 'лічу'), ням. *kerben* 'рабіць зарубкі', грэч. *γράφω* 'пішу'. Першапачаткова *жэрабя* 'кавалак дрэва з зарубкай (надпісам, лікам)', ці 'адрэзак зямлі'. Бел. форма з суфіксам *-я* (< *-ę < *-ent) адлюстроўвае, відаць, невялікі памер гэтага кавалка шляхам аднясення да групы малых істот (і прадметаў). Зыходнае прасл. *žerb- < і.-е. *gerbh- 'рабіць рысы і г. д.' Покарны, 1, 392; Фасмер, 47—48; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 297; Скок, 3, 672—673; БЕР, 1, 554; Траўтман, 87; Тапароў, E — H, 242; Хэмп, Этимология, 1981, 37.

***Жэ́расць**, *жэ́росць*, *жо́рость* 'нятоўстае бервяно без сукоў, перакладзіна' (КСТ). Рус. дыял. *жёресть* 'тоўстая жэрдка', *жёредзь*, *жэрдзь* 'жэрдка'. Другасны паўнагалосны варыянт *жэрдзь* (гл.) з метатэзай канцавых зычных *д'з' > з'д'* і аглушэннем іх (*з'д' > с'т' > с'ц'*).

**Жэ́рах** 'рыба Aspius aspius', дыял. *жэ́расць*, *жэ́расель*, *жэ́расвель*, *жэ́раствень*, *жэ́распер*, *жэ́распень*, *шэ́распер* (Жу-

каў, Рыбы Белоруссии. Минск, 1965; БССР. Каротк. энц.). Рус. *жéрех*, дыял. *жэрёха, шéреспер, шелеспер, шелешпер, черех.* Іншыя слав. назвы і іх геаграфію гл. Усачова, Этимология, 1971, 164—173; іншамоўныя назвы: Ліндберг — Герд, Словарь, 136—138. Фасмер (2, 49), спасылаючыся на Лідэна і інш., імкнуўся даць паралелі з і.-е. моў: швед. *gārs*, нарв. *gjørs* 'ёрш, бычок', магчыма, ст.-інд. *jhaṣās* 'вялікая рыба'. Сабалеўскі (Лингвистические наблюдения, 1, 13), Гараеў (Доп., 2, 12), Шанскі (1, Д, Е, Ж, 286) звязваюць з *жэрці* праз *жер* 'ежа, апетыт'. Герд, Бел. лекс., 37—38. Герд (ЭИРЯ, 9, 47—48) этымалагізуе бел. формы, як кантамінацыю *жерех* (рус. < тат. на Волзе) і *распер* (параўн. польск. *rozpiór* 'Abramis bollerus', паводле Лінберга — Герда, і 'Aspius', балг. *распер*), якое, аднак, не этымалагізуецца. Калі гаварыць аб цюрк. крыніцы, трэба ўлічыць нетыповасць *ж* для тат., а таксама чув. *шерĕх* 'жэрах' (Ашмарын); не выключана, што тат., чув. < рус., патрэбна іх больш дакладная этымалагізацыя.

**Жэ́ргаць,** *жáргаць, жы́ргаць* 'пераступаць, пералазіць, скакаць, крочыць' (Сл. паўн.-зах.', мядз., Нар. словатв.). Зважаючы на выбухное *г* і распаўсюджанне, з літ. *žergti, žirgti* 'расставіць ногі; сесці на каня', аб якіх гл. Фрэнкель, 1301, 1303, 1291. Гл. Сл. паўн.-зах., 2, 173.

**Жэ́рдка,** *жэрдзь* 'ачышчаны ад галля ствол або галіна дрэва'. Рус. *жердь, жердка* 'тс', укр. *жéрдка* 'гарызантальная галінка', польск. *żerdź, żerdka* 'жэрдка', в.-луж. *žerdź* 'жэрдка; штанга', н.-луж. *žerdka, žerź* 'тс', чэш. *žerd', žerd'ka,* славац. *žrd', žŕdka,* славен. *žŕd, žŕdka,* серб.-харв. дыял. *жр̑т,* балг. дыял. *жерд, жърд, жърда* 'жэрдка'. Ст.-слав. **жръдь** 'кій, кап'ё', ст.-рус. *жердь* (XI ст. у копіі XV ст.). Прасл. **žьrdь* звязана чаргаваннем галоснага з **gordъ* (гл. *горад, азярод*); параўн. ст.-в.-ням. *gerta* 'прут'. Фасмер, 2, 47; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 285—286; Аткупшчыкоў, Из истории, 121; Георгіеў, Introduction to the History of the I. E. Languages, 1981, 44—45; БЕР, 1, 557; Скок, 602—604; Голуб — Копечны, 444; Покарны, 1, 444. І.-е. корань **gherdh-* 'ахватваць, гарадзіць'. Інакш Махэк$_2$, 726: **žьrd* звязана з *града*, рус. *гряда, грядка,* што менш верагодна, паколькі не тлумачыць адсутнасці насавога. Гл. яшчэ *жэрасць*.

**Жэ́рліца** 'рыбалоўная снасць'. Рус. літ. *жерлúца,* дыял. *жéрлица, жéрлúка* 'тс', укр. *жерлига* 'вялікая вуда' (Грынч.). Фасмер (2, 49) і Шанскі (Д, Е, Ж, 284) развіваюць дапушчэнне Праабражэнскага (1, 229) аб паходжанні ад *жерло* са знач. 'горла' (таго ж кораня) або 'вуда для лоўлі з жыўцом' ад *жэрці* з суф. *-ла* (< **-dlo*), улічваючы *жор* 'час, калі добра



бярэцца рыба'. Аднак і пры гэтых тлумачэннях не зусім ясная варыянтная суфіксацыя, а семантыка патрабуе далейшых удакладненняў і пацвярджэнняў. Трэба ўлічыць, што часцей назвы прадметаў на *-іца* ад прыметнікаў (параўн. *палéгліца* 'палеглая пшаніца', *кру́гліца* 'круглая ніва', гл. Сцяц., Афікс. наз., 110—111).

**Жэ́рці** 'прагна і многа есці', *жару́* (1 ас.). Рус. *жрать*, укр. *жéрти,* польск. *żerać, żreć,* в.-луж. *žrać, žeru,* н.-луж. *žraś, žeru,* чэш. *žráti, žeru,* славац. *žrat', žerú,* славен. *žreti, žrèm,* серб.-харв. *ждѐрати, ждѐрем* 'жэрці'. Ст.-рус. *жрати* 'жэрці' (XIV—XV стст. у копіі XVI ст.). Літ. *gérti,* лат. *dzert* 'піць', ст.-інд. *giráti* 'паглынаць', арм. *keri* 'я еў', грэч. *βορά* 'корм', лац. *vōro* 'паглынаю'. Прасл. **žer-ti* ці **žьr-ti, *žьr-a-ti, *žьr-ǫ* з і.-е. кораня **gᵘer-* 'паглынаць'. Праабражэнскі, 1, 236; Фасмер, 62—63 (дзе падкрэсліваецца іншы корань у ст.-слав. **жьрѣти** 'ахвяраваць'; гл. *жрэц*); Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 296; Брукнер, 666—667; Махэк$_2$, 730 (не адлучае ст.-слав. **жрѣти,** дае тлумачэнні зменам вакалізму); Голуб — Копечны, 447; Скок, 3, 673—674; Пятлёва, Этимология, 1967, 178; Траўтман, 89; Покарны, 1, 474—475.

**Жэст** 'рух рукі, галавы і г. д.' Рус., *жест,* польск. *gest.* Ст.-бел. *жестъ* з пачатку XVII ст. (Булыка, Запазыч.). Паколькі рус. *жест* у 20—30-я гады XVIII ст. (Біржакова, Очерки, 361), трэба лічыцца з самастойным шляхам запазычання з франц. *geste* < лац. *gestus* (з XV ст., Блох — Вартбург, 289), дзе ад *gerō* 'несці' (Эрну — Мейе, 273; Вальдэ — Гофман, 1, 595). Калі не з франц., то, можа, з іншай раманскай крыніцы, дзе *g* > *ž.*

**Жэсь** 'камяністая мель' (віц., Нар. сл., 214). Відаць, ад таго ж кораня, што і *жарства* (гл.), *жораст: *žьrs(t)-ь* з асновай на **-ĭ* > *-ь.*

**Жэ́ўжык** 'свавольнік, гарэза'. Рус. дыял. кур., зах., паўд., смал. *жéвжик* 'невялікі, але рухавы чалавек', *жéвжик* 'вяртлявы, рухавы чалавек', 'верабей', ст.-укр. з 1651 г. (Хрэст.). Усх.-слав. жартаўлівае (Булахоўскі, Нариси загального мовознавства, 1959, 108) слова можа быць узведзена да прасл. формы **žьv-,* што чаргуецца з **živ-* (гл. *жывы* і *жвавы*). Супрун, Бел.-польск. ізал., 126. У слове *жэ́ўжык* другое *ж,* відаць, у той ці іншай меры адлюстроўвае ўплыў першага *ж,* а значыць, можа разглядацца як рэдуплікацыйнае, што для жартаўлівага слова цалкам зразумела. Суфікс *ік* (> *-ык*) часта выкарыстоўваецца для назваў асоб.

**Жэ́ўлець** 'тлець' (КСТ). Варыянт адлюстравання і.-е. **geul-,* прадстаўленага таксама ў *жуляць* (гл.). Параўн. *жэ́ўрэць.*

**Жэ́ўрэць** 'тлець' (КСТ). Укр. *жеврiти* 'гарэць, тлець', дыял. 'гаварыць', балг. дыял. *жевря се* 'хныкаць, выпрошваць'. Варыянт адлюстравання ў бел. i.-е. кораня **geur*, які прадстаўлены таксама ў *жураць* (гл.). Параўн. *жэйлець, жуляць*. Супрун, Бюлетин за съпоставително изследване на български език с други езици, 1976, 5, 74—79, дзе адзначаецца i сувязь значэнняў 'гаварыць' — 'гарэць'.

**Жэч** 'рэч' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *rzecz* 'рэч'.

# З

**З**, *са*, прыназоўнiк. Рус. *с, из, со, изо*, дыял. *з*, укр. *з, iз, з, зо*, польск. *z, ze*, серб.-луж. *z, ze*, дыял. н.-луж. *zo*, чэш. *z, ze*, палаб. *sà*, славен. *s, sa, z, iz*, серб.-харв. *с, са, из*, балг. *с, със, из*, макед. *cà*, паэт. *с*, дыял. *из*. Ст.-слав. **из, съ**, ц.-слав. рэдк. таксама *з*, ст.-рус. *изъ, съ...*, ст.-бел. *из, с, з, зо, со, изо, ис*. Бел. прыназоўнiк *з/са* — вынiк аб'яднання прасл. **jьz* (> ст.-слав., рус. *из*) i **sъn* > *sъ*, што адбылося ва ўсiх зах.-слав., у славен. i серб.-харв. (чакаўскiх, кайкаўскiх) дыялектах, ва укр. i. бел. на базе фанетычнага, а таксама семантыка-сiнтаксiчнага падабенства. Першапачаткова **jьz* кiраваў родным склонам, а *sъn* — родным, творным i вiнавальным. У родным абодва прыназоўнiкi абазначалi крынiцу дзеяння (параўн. рус. *выйти из комнаты, сойти с крыши*), што i давала падставу аб'яднання. Аглушэнне *z* перад глухiмi (фанетычна яно адбываецца i ў бел., хаця арфаграфiчна захоўваецца *з*: *[с табóју]*) i азванчэнне *s* перад звонкiмi было фанетычным грунтам аб'яднання, якое, вiдаць, адбывалася канчаткова пасля падзення рэдукаваных i пераўтварэння **sъn* > *s*, хаця аглушэнне *jьz* адбывалася i да падзення рэдукаваных. Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў мовах, у якiх адбылося аб'яднанне **jьz* i **sъn*, аслаблена прадстаўлены займеннiкавыя формы з *n-* (што паўсталi ў вынiку пераразмеркавання прыназоўнiкаў **sъn, vъn*). Гэта можа тлумачыцца як паказчык ранняга аб'яднання *sъn* — *jьz* яшчэ ў перыяд да падзення рэдукаваных у вынiку дзейнiчання тэндэнцыi ўзыходзячай гучнасцi: спалучэнне **ŭn*, як вядома, магло даць **ъ*, а **jьz*, блiзкае семантычна да **sъ*, у вынiку аглушэння *-z* i страты *jь-* змешвалася з **sъ* у адзiны прыназоўнiк. Прасл. *jьz* < *ьz*; роднасныя i.-е. прыназ. лiт. *iš(iž)*, лат. *iz*, ст.-прус. *is* 'з, ад', лац. *ex*, ст.-грэч. ἐξ, ἐκ. ESSJ SG, 1, 81—82, дзе гл. iншую лiт-ру. Фасмер, 2, 119—120; Безлай, 1, 214—215. Прасл. *sъn* натыкаецца на цяжкасцi ў высвятленнi i.-е. родных форм, якiя iснуюць як пры супастаўленнi з лiт. *su* (параўн. прыстаўку *су-* < **sǫ*), так i з лац. *cum*, грэч. συν. Магчыма, што ў iм ужо аб'яднаны два асобныя i.-е. прыназоўнiкi **kom* i **som* (Мейе, BSL, 8, 110). Фасмер, 3, 539—540; ESSJ SG, 1, 254—255, дзе гл. iншую лiт-ру. Заслугоўвае ўвагi раз'ядненне прасл.**sъ* (з р. i вiн.) i *sъn* (з тв.) у Копечнага, Zákl zásoba, 358—359. Покарны (1, 292—293) дае для *jьz* i.-е. форму **eg'hs* 'з', а для *sъn* i.-е. **som, *sm̥*.

**За,** прыназоўнік. Рус., укр., серб.-харв., балг., макед. *за*, польск., серб.-луж., чэш., славац., славен. *za*, палаб. *zo*. Ст.-слав., ст.-рус., ст.-бел. *за*. Прасл. *za* не мае пэўнай і.-е. этымалогіі. Покарны (1, 451—452) звязвае з літ. дыял. *ažu, až* (літ. *už(u))*, лат. дыял. *az* (літ. *àiz*) і ўзводзіць да **g'hō* 'ззаду' (параўн. прасл. **za-dъ* і **na-dъ*). Фасмер (2, 69) услед за Эндзелінам (Darbu, 1, 323) указвае, што слав. *za* суадносіцца з балт. **ažuo*, як **na* з грэч. ἄνω. Сувязь з прэфіксам *vъz-* (>*уз-*) няпэўная, таксама як супастаўленні з арм. *za, əz, z*. Агляд літаратуры гл. у Фасмера, а таксама ў ESSJ SG, 1, 294.

**Забабо́ны** 'прымхі'. Рус. дыял. смал., бранск., прыбалт., паўн.-дзвін., урал. *забобо́ны*, укр. *забобо́ни*, польск. *zabobon*, славац. *zabobonky* (Калал) 'тс'. Ст.-рус. *забобоны* (XVII ст.) 'тс'. Параўн. укр. *бобони* 'забабоны' (Жэлях.), славац. *bobony* 'тс' (Калал), серб.-харв. *забоњити бобоњити* 'гучаць, балбатаць', *забоњити* 'пачаць балбатаць, гучаць', ст.-чэш. *bobonek, pobonek* 'забабоннае дзеянне'. Паводле Бернекера (1, 36—37), Фасмера (2, 70), гукапераймальнага характару (параўн. *балбатаць*, ням. *bebeln*, ст.-грэч. βαβάζω 'балбатаць'). Гэта прынялі Мартынаў — Міхневіч (Маладосць, 1969, 4, 136), указваючы на паралель *балабоніць*. Махэк$_2$ (58—59) высоўвае думку аб сувязі са ст.-чэш. *boniti*, дзе **bon-* з *-mon* (параўн. корань **men*, **mьn* у *памяць, помню*) і прэфіксам *po-*, што пераўтварыўся ў *bo-*. Коген (УЗ БГУ, 1, 191, 192) указвае на падваенне кораня *ба/бо*, што адзначаецца ў слове *байка*$_1$ (гл.). Магчыма, што паміж гукапераймайннем і ўтварэннем слова *bobniti* сапраўды трэба адзначыць пераходны этап, калі **bo*, **bol* мела значэнне 'гаварыць', таму магчыма аб'яднанне названых думак. Сцвярджэнне Брукнера (643) пра польск. паходжанне ўсх.-слав. форм непераканаўчае.

**Забабу́рка** 'складка' (Касп.) Безумоўна, звязана з асновай *бабур-*, прадстаўленай у назвах *бабур* 'акунь', *бабура* 'матыль; макрыца', *бабурка* 'пупышка' (гл. гэтыя словы), але семантычныя хады такой сувязі няясныя.

**Забáва** 'пацеха'. Рус., укр. *забáва* 'тс', польск. *zabawa* 'тс', 'таварыскі сход з мэтай забавы', в.-луж. *zabawa* 'пацеха', чэш., славац. *zábava* 'пацеха, сход', славен. *zabava* 'перашкода', 'забава', серб.-харв. *зáбава, зâбава* 'забава; прадмет, які дае пацеху', уст. 'цяжкасць', балг. *забáва* 'спазненне; пацеха', макед. *забава* 'пацеха'. Ст.-рус. *забава* 'затрымка; справа; пацеха' (XVII ст.). Прасл. імя *zabava* ўтворана ад дзеяслова *zabaviti(sę)* з дапамогай тэматычнага (асноваўтвараючага) *-a-*, якое потым ператварылася ў канчатак. Дзеяслоў узнік



у выніку прэфіксацыіі **za*+*baviti*+*sę*; гл. *бавіцца*$_1$. Параўн. Мельнічук, Этимология, 1967, 62—63.

**Зáбалаць,** *зáблаць, зáпалач, зáблач* (Мат. Гом., ЭШ), *зáблыць* 'каляровыя ніткі для вышывання' (Бяльк). Рус. бранск., смал., варонеж., кур. *зáболоть, зáблоть* 'чырвоныя ніткі для вышывання'. Параўн. рус. ярасл., пск. *заболокáть* 'пакрываць вышыўкай', пск. *зáблока*, ярасл. *зáболока* 'запінка', *бóлоком* 'наапашкі' (Даль), *оболочка* 'абалонка'. Бел. *бóлакі* 'воблакі' <**ob-volk-* (гл.) указвае на магчымасць паходжання слоў, што абазначаюць вышыўку з кораня **volk-* (гл. *валачы*) ці кантамінацыі кораня **volk-* і **bol-* (у *балонь, болона, абалонка*, гл.). Перанос націску на прэфікс указвае на зыходны цыркумфлекс у корані. Форму *зáблач* з **k* > *č* перад *-ь*, а *-ць* (рус. *-ть*) даводзіцца тлумачыць як суфікс (параўн. *борць, моц;* гл. SP, 2, 43). Форма *запалач* указвае на жывасць сувязей каранёў *bol-* і *pel-/pol-*, пра тоеснасць якіх меркаваў Махэк$_2$ (55) у сувязі з *blána*, супраць чаго Трубачоў, Эт. сл., 2, 178. Не выключаны старажытны, прасл. характар зыходнай формы *zabъltь* ці *zaboltь*.

**Забарбéць** 'забразгаць, забрынкаць' (Сл. паўн.-зах). *Забарбець* <літ. *barběti* 'бразгаць, брынкаць' (Сл. паўн.-зах., 180) гукапераймальнага характару (Фрэнкель, 35). Параўн. рус. вяцк. *забарáбаться* 'пачаць пэцкацца, пляскаючыся ў вадзе'.

**Забарсні** 'вяровачныя петлі, якімі лапаць прымацоўваюць да нагі' (ТСБМ). Параўн. рус. бранск., смал. *зáборстень* 'верхні край лапця', прыбалт. *заборска* 'шнурок для абутку', *заборсать* 'завязваць, зацягваць абору', в.-луж. *zabornicować* 'завязваць шнуркі'. Утворана з суфіксам *-ень* як назва прадмета дзеяння *забарсаць* 'завязваць, працягнуць абору ў лапці'. Гл. *барсаць, барскі, абора*.

**Забáць,** *зóбаць* 'кляваць' (Нас.). Рус. дыял. *зóбáть* 'кляваць, есці, грызці', укр. дыял. *зобáти* (Грынч.), польск. *dziobać*, дыял. *zobać* 'кляваць', чэш. *zobati*, славац. *zobat'*, славен. *zóbati* 'тс', серб.-харв. *зòбати*, балг. *зобам*, макед. *зоба* 'есці зерне'. Ст.-слав. **позобати, озобати, изобати**. Ст.-рус. *зобати* 'есці'. Адназоўнікавы дзеяслоў з суфіксам *-а-ць* ад наз. *зоб* (гл.).

**Забéл** 'зашчэп у бервяне пры адпілоўванні' (Бяльк). Рус. арханг. *забéл* 'ачышчаная ад кары вяршыня кала'. Бяссуфіксны наз. ад дзеяслова *забяліць*, як і *забел* 'дадатак у ежу' (Касп.). Параўн. чэш. *záběl* 'пена пры квашанні піва і інш.' Пры ачышчэнні ад кары дрэва робіцца белым, адкуль і *забел*. Гл. *белы*.

**Забёнка** 'невялікая кадка' (Касп.). Рус. дыял. паўн. *зобёнка* 'кош', краснаяр. 'каробка для солі', перм. 'кораб, кош', Ст.-рус. *зобенка* 'торба, кош, мера' (XVI ст.) памянш. з суф. *-к-* ад *зобня* 'тс', утворанага ад *зоб* 'сыпучы корм'. Гл. *зобка, зоб*.

**Забільдзець** 'загусці' (варонеж., Шатал.). З літ. *bildėti* 'стукаць, гучаць, грымець', у якім адбылася змена значэння (адкуль **більдзець*), да якога дададзены прэфікс *за-*. Лаўчутэ, Сл. балт., 99.

**Забо́ры** 'рушы', 'маршчыны' (Мат. Гом.). Рус. смал. *забор* 'зборкі ў адзенні', укр. *забо́рка* 'зборка' (Грынч.). Аддзеяслоўны бязафіксны назоўнік ад *забіра́ць*, г. зн. 'шыць, забіраючы частку тканіны ўдвая'. Параўн. *зборка* ад таго ж кораня, аднак з суфіксам *-к-а* ад дзеяслова *збіраць*.

**За́браўка** 'праём, паз у вушаку' (Мат. Гом.). Рус. с.-урал. *забро́вка* 'паліца над акном ці дзвярмі'. *За-* + *бро́ўка* 'карніз над дзвярмі'. Перанос націску на прэфікс вядомы ў паўд.-усх. бел. гаворках (параўн. *за́балацъ*).

**Забрыта́ць** 'надзець аброць' (ТСБМ). Рус. дыял. смал., кур., арл., варонеж., цвяр., тул. *забротáть* 'тс', смал., кур., тул. 'падпарадкавацца'. Утворана з прэфіксам *за-* ад *брытаць* (гл.), звязанага, відаць, з *аброць* (гл.), у якім выдзяляюць услед за Міклашычам (285) прэфікс **ob-* і корань **rъt-* (гл. *рот*).

**Забулды́га** 'гуляка'. Рус. *забулды́га* 'тс'. Паводле версіі Гараева (113), метатэза з *заблудыга*. Але наяўнасць рус. дыял. *булды́га*, смал., уладз., маск., ніжнегар. 'гуляка, п'яніца', сімб., калуж. 'грубіян, скандаліст', уладз. 'дубіна', калуж. 'высокае пустазелле', 'маслак', з якім, відаць, звязана *забулдыга*, робіць прапанову Гараева малаверагоднай (Фасмер, 2, 71). *Булдыга* ад *булда*, якое ў сваю чаргу ад *була* 'шышка, ком' (Шанскі, 2, З, 11) ці ў выніку кантамінацыі *булыга* і *балда* (Краўчук, БЛ, 1975, 7, 66—67). Дабрадомаў (Этимология, 1967, 260) кантамінацыю *булава* і *балда*, з аднаго боку, і *волдыга, забулдыга*, з другога, бачыць у самым слове *булдыга*, што выклікае сумненні. Бел. слова, магчыма, запазычана з рус., але, улічваючы пашырэнне ў смал. гаворках, магчыма, агульнае з рус. утварэнне. Гл. *булд-, булдава*.

**За́быль** 'у дастатку' (Касп.). Рус. *за́быль* 'праўда, сапраўды; тое, што забываецца'. Бел. дыял. значэнне можа быць выведзена ад рус. 'такая колькасць, што не трэба згадваць'. Тады ад *забыць* (гл.) з суфіксам *-ль*, як *гніль* ад *гніць*, *відаль* ад *відаць*; суфікс у бел. мове, па сведчанню Сцяцко (Афікс. наз.) — віц., маг. Сувязь з *зоб, зобка* 'кош' малаверагодная, таму што



патрабуе складанага тлумачэння націскнога *а* замест *о*. Іначай: *за* + *быль*. Гл. *адзабаль*; ESSJ SG, 2, 752.

**Забы́ць** 'перастаць помніць'. Рус. *забы́ть*, укр. *забу́ти* польск., в.-луж. *zabyć*, н.-луж. *zabyś* 'тс', палаб. *zobål-sa* 'забыў', чэш. *zabýti*, славац. кніжн. *zabyť*, славен. *zábiti*, серб.-харв. *за̀бити* 'забыць'. Ст.-слав. **забыти** 'забыць', ст.-рус. *забыти* 'тс' (з XI ст.), ст.-бел. *забыти* 'тс'. Прасл. *zabyti* < < *za* + *byti* (гл. *быць*). Шанскі (2, З, 12) лічыць, што ўнутраная форма слова звязана з уяўленнем аб забыванні як пераходзе з сапраўднага свету за яго межы. Але першаснае значэнне *быць*, відаць,'расці', 'узнікаць' (параўн. *быллё*), што дае падставу для ўяўлення аб іншым семантычным ходзе, адлюстраваным у выразе *быллём парасло*, г. зн. *забылася*.

**Забяро́ска** 'пакрыццё запоўненых мёдам сотаў воскам', *забярэ́сціць* 'зрабіць забяроску' (паст., З нар. сл.), *бярэ́шчаны* 'пакрыты слоем воску' (паст., Сл. паўн.-зах.). Відаць, звязваецца з *бяроста* (гл.) 'бярозавая кара, якая выкарыстоўвалася для розных кашоў, аплятання розных вырабаў.' Шырокае ўжыванне бяросты для аплятання стала падставай пераноснага выкарыстання слоў для абазначэння іншых спосабаў пакрыцця. Не выключана кантамінацыя з *берагчы* (гл.).

**Зава́да** 'загана; перашкода'. Рус. смал., укр. *зава́да*, польск., серб.-луж. *zawada* 'перашкода', чэш., славац. *závada* 'загана, перашкода', славен. *zavâda* 'сварка', серб.-харв. *за́вада, за̏вада* 'сварка'. ст.-бел. *завада* 'перашкода' (1407 г., Полац. грам.). Ц.-слав. *завадити* 'звязаць'. Прасл. *zavada* — аддзеяслоўнае імя ад прэфіксальнага дзеяслова *zavaditi* (гл. *вадзіць*$_1$) з асноваутвараючым *-а*, якое стала канчаткам.

**Завадэ́вуш** 'пачынальнік' (Бяльк.). Фанетыка (*-дэ-*) указвае на польск. паходжанне. Аднак Карловіч дае толькі *zawadjak* 'зачыншчык' (параўн. укр. *заводíй, заводíяка* 'тс'). У Дарашэўскага рад слоў на *-eusz*, у тым ліку прастамоўнага характару (*słabeusz, chudeusz, chłopeusz*), да якіх належыць, відаць, і **zawodeusz*, не адзначанае ў гэтым слоўніку. Параўн. *звадыяш*.

**Заваліна** 'гультай, абібок' (Сцяц.). Геаграфія (зэльв.) і націск указваюць на польск. паходжанне, дзе *zawalina* 'тое, што завальвае дарогу, перашкаджае'; параўн. *zawalidroga* 'той, хто перашкаджае, гультай, абібок', якое ўказвае на шлях семантычнай змены ў польск.

**Зава́ліна**, *зугва́ліна, загава́ліна, зуга́ліна* 'прызба' (Мат. Гом.). Рус. *зава́лина* 'насып вакол хаты для ўцяплення', цвяр., пск. 'лаўка на вуліцы каля варот', валаг. 'зямля, пакінутая

з-за нязручнасці карыстання ці бясплоднасці', калуж., бранск., смал. *загвалина, заговалина, заговальня* 'прызба', укр. уст. *зава́лина* 'руіна', польск. *zawalina* 'тое, што завальвае дарогу, перашкаджае', дыял. *zawalnia* 'насып вакол хаты ў выглядзе лаўкі'. Ст.-рус. пск. *завалина* 'прызба' (XV ст.). Утворана на базе дзеяслова *валіць*$_1$ (гл.), *заваліць* з суфіксам *-іна* (параўн. *абва́ліна* 'высокі бераг, дзе можа абвальвацца'), відаць, яшчэ ў ст.-рус. час. Формы *загаваліна, згваліна, згаліна* адлюстроўваюць, відаць, экспрэсіўны элемент (прэфікс?) *-г-, -го-*.

**За́вань,** *за́ваня, заво́нь, заво́ня* 'завадзь' (Сл. паўн.-зах., Мат. Гом., Касп.). Рус. пск., смал., калуж. *за́вонь,* смал. *за́воня* 'ціхае месца, затока ў рацэ'. Паводле Фасмера (2, 72), з **за-воднь* ад *вода*.

**Заваруха** 'сумятня'. Рус. дыял. *завару́ха* 'гатунак кашы; цеста; закваска;' літар. 'сумятня'. Пашыранае ў рус. дыялектах значэнне 'гатунак кашы' першаснае, 'сумятня' пераноснае (параўн. *заварыць кашу*). Паколькі ў бел. фіксуецца другаснае значэнне, магчыма, што слова запазычана з рус. Пры замацаванні гэтага значэння трэба ўлічваць і перан. *завіруха* 'сумятня', адзначанае ўжо Насовічам, якое магло кантамінавацца з *заваруха*. *Заваруха* ўтворана з суфіксам *-уха* ад дзеяслова *завары́ць (завари́ть)*.

**Заве́лькі** 'завялікі' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zawielki* 'тс': *za* 'надта' + *wielki* 'вялікі'.

**Заве́рыч** 'палка, адзін канец якой усаджаны ў вуха навоя, а другі ляжыць на падлозе, не даючы навою круціцца' (чырв.-слаб., З нар. лекс.). Польск. дыял. *zawiracz* 'частка красён'. Ад дзеяслова **заве́раць* (< польск. дыял. *zawierać* 'зачыняць, замыкаць') з суфіксам *-ыч,* які ўжываецца для ўтварэння назваў прылад (параўн. *зацёрыч, скопыч,* Сцяцко, Афікс. наз., 45).

**Заве́т** 'запавет'. Рус. *заве́т,* укр. *заві́т* 'тс', польск. дыял. *zawiat* 'заклад', чэш. *závět',* уст. *závět* 'запавет', славац. *závet,* славен. *zavèt,* серб.-харв. *за̏вет,* балг. кніжн. *завѐт,* макед. *завет* 'тс'. Ст.-слав., ст.-рус. *завѣтъ* 'умова, клятва, запавет, загад'. Бязафіксны аддзеяслоўны назоўнік агульнаслав. характару ад дзеяслова *zavětiti* 'накладваць абавязак, абяцаць, загадваць' < *větiti* 'ведаць'. Значэнне, а магчыма, і само слова замацаваліся, відаць, пад ст.-слав. уплывам (параўн. польск. семантыку і адсутнасць слова ў серб.-луж.). Словы таго ж кораня *веча, савет* (гл.). Шанскі, 2, З, 15—16; Фасмер, 1, 305; БЕР, 1, 574; Махэк$_2$, 687.



**Заве́я** 'мяцеліца'. Рус. дыял. *заве́я* 'тс', 'месца дзе кружыць вецер', укр. *заві́я* 'мяцеліца', польск. *zawieja* 'тс'; параўн. чэш., славац. *závěj,* славен. *zavèj* 'сумёт'.. Аддзеяслоўны наз. на *а-* ўтвораны ў паўн.-слав. мовах на базе прэфіксальнага **za-vě-ja-ti* (гл. *веяць*). Бел., укр. і польск., а таксама рус. дыял. прыбалт. факты магчыма трактаваць як звязаныя паміж сабой. Перм., арханг., урал *завея* 'месца, захаванае ад ветру' магло ўзнікнуць самастойна. Крыніцай польск. і зах., усх.-слав. з'явы можа быць як польск., так і «крэсовая» форма (чаму не пярэчыць ужыванне Міцкевічам); для высвятлення гэтага патрэбны звесткі аб пашырэнні слова ў народных гаворках, што для слова, замацаванага ў літ. мове, ускладнена.

**Завідаваць** 'зайздросціць' (Сл. паўн.-зах.), *за́відкі, заві́дна* (ТСБМ), *заві́дўшчы, заві́днік* (Нас.). Рус. *зави́довать,* укр. *зави́дувати,* н.-луж. *zawidowaś,* макед. *завидува* 'зайздросціць'; Параўн. польск.*zawidzieć,* чэш. *záviděti,* славац. *závidiet,* в.-луж. *zawidźeć,* славен. *zavideti,* серб.-харв. *за̀видети,* балг. *зави́ждам, завидя,* макед *завиди* 'тс'. Ст.-слав., ст.-рус., ст.-бел. (у Скарыны) **завидѣти** 'зайздросціць'. Верагодна, прасл. *zavidě-ti: za + viděti,* адкуль бязафіксны наз. *zavida.* Паводле Шанскага (ЭИРЯ, 2, 130—132), ад *завида* і ўтворана *завидовать,* якое фіксуецца з 1675 г. Бел. дыял. дзеяслоў можа быць запазычаны з рус., але магчыма і ўласнае развіццё, на што ўказваюць іншыя прыведзеныя формы: *заві́дкі,* мн. л. формы з суф. *-к-а* ад ст.-рус. *завида,* якое дало прыметнік *заві́дны* (Сл. паўн.-зах.), адкуль *заві́дна, заві́днік,* а таксама *заві́длівы* (Сл. паўн.-зах.). Форма *завидѣти* і падобныя тлумачацца ў Фасмера (2, 72), БЕР (1, 575), Скока (3, 567) з *видѣти;* іначай Махэк$_2$ (711—712), які бачыць тут кантамінацыю былога кораня **veid-* (гл. *від*$_1$) і **neid-* (параўн. ням. *neiden* 'зайздросціць'), што пацвярджаецца недастаткова. Побач з тлумачэннем формы *завидовать* Шанскім (2, З, 17) магчымы і вывад яе з *завидывать* як мнагакратнай (параўн. *видеть — видывать*) ці імперфектыўнай (параўн. *зачитать — зачитывать,* гл. Вінаградаў, Русский язык, 1947, 502). Трэба ўлічваць пры гэтым замацаванне *завидеть* у значэнні 'ўбачыць'.

**Завіру́ха** 'мяцеліца'. Рус. дыял. *завиру́ха, завирю́ха, заверю́ха, завертю́ха,* укр. *завірю́ха* 'тс', польск. *zawierucha* 'моцны вецер'. Улічваючы паўсюднае пашырэнне ў рус. гаворках, гэта ці польск. і ўсх.-слав. агульнае слова, ці слова, што распаўсюдзілася ў польск. з усх.-слав. «крэсаў». Утворана з суф. *-у́ха,* відаць, ад дзеяслоўнай асновы (Сцяцко, Афікс. наз., 72), але не зусім ясна якой. Рус. варонеж. *завертюха,* відаць, ад *завертеть,* але патрэбы ў выпадзенні *-т-* (> *-ц-*) у іншых выпадках няма; адпаведнага ж значэння ў дзеяслова *завирать*

у рус. дыялектах і самога дзеяслова ў бел. не зафіксавана (апрача, магчыма, *завира́ть* арханг. 'згортваць, закручваць', варонеж. 'аплятаць лапці вяроўкай').

**Завіха́цца** 'спяшацца працаваць' (Жд. 3). Рус. пск. *завиха́ться* 'качацца', бранск. 'ламацца, вярцецца, мітусіцца'. Ад *віхаць* (гл.) з прэфіксам *за-* і постфіксам *-ца* (< *-ся*).

**Завод**$_1$ 'прамысловае прадпрыемства'. Рус., укр. *заво́д*, чэш., славац. *závod*, в.-луж. *zawod*, балг. *заво́д* (< рус.), макед. *завод* 'тс', 'установа', серб.-харв., славен. *závod* 'установа', інстытут, выхаваўчая арганізацыя', чэш. *závod* 'інстытут', бел., рус., укр. *заво́д* 'гаспадарка па развядзенню жывёлы'. У іншых слав. мовах вядомы яшчэ некаторыя значэнні лексемы: польск. *zawód* 'прафесія', 'абман' (і ў славен.), 'спаборніцтва' (і ў славац.), 'пары' (н.-луж.), 'уводзіны' (в.-луж.), 'запіс, увядзенне' (серб.-харв.), 'частка лесу' (славен.), 'звычай' (рус., укр., чэш.) і інш. Параўн. і *завод*$_2$. Прасл. *zavodъ* (Копечны, Zákl. zásoba 424), відаць, азначала 'тое, што заведзена' і ўтворана як бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *zaved* + *ti*. Шляхам семантычнай спецыялізацыі замацоўваюцца розныя значэнні. Магчыма, што рус. значэнне 'прамысловае прадпрыемства' (з пачатку XVII ст.) аказала ўздзеянне на іншыя мовы, але не выключана і паралельнае развіццё. Шанскі, 2, З, 19; БЕР, 1, 567. Пра *завод* 'звычай' гл. Бернар, Зб. Раманскаму, 356.

**Заво́д**$_2$ 'прыстасаванне ў механізме, што прыводзіць яго ў дзеянне', 'тэрмін яго дзеяння'. Рус., укр. *заво́д* 'тс'; ці сюды славен. *závod* 'частка вадзянога млына, у якую паступае вада'? Як і *завод*$_1$, замацаванне асобных значэнняў лексемы, у тым ліку вядомых ст.-рус., прычым для бел., як і для завод$_1$, не выключаны рус. уплыў на гэта замацаванне. Зыходнае значэнне ў адрозненне ад *завод*$_1$ 'тое, што прыводзіць у дзеянне'.

**Заво́зна** 'многа'. Рус. дыял. *заво́зно* 'тс', укр. *заві́зно* 'многа; цяжка', польск. *zawoźno* 'многа (асабліва ў млыне)'. Шлях утварэння даволі складаны: *завозна* < *завозны* < *завоз* < *завезці* < *везці* (гл.), прычым адбываліся і пэўныя семантычныя змены.

**Заво́са** 'жалезная скобка, прымацаваная да падушкі восі, каб калясо не ўрэзвалася ў яе (вось)' (Нас.). Параўн. рус. арханг. *зао́сок* 'аснова з дрэва, на якой замацоўваецца жалезная частка восі', польск. *zaośnik* 'дэталь воза'. Відавочная сувязь з *за* і *вось* (гл.) не дае, аднак, яснасці наконт шляху словаўтварэння: канчатак *-а* ўказвае хутчэй на бязафіксны аддзеяслоўны наз., чым на прэфіксальны (параўн. *заплот*,



*запазуха*), мадэль *за* + аснова + *а* не адзначаецца. Можа, адлюстроўвае *воса* < *вось*? Ці не падвядзенне пад «мадэль» *атоса* (гл.)?

**За́вуч** 'загадчык навучальнай часткі школы'. З рус. *за́вуч* 'тс' — абрэвіятура сав. часу ад *заведующий учебной частью* (*работой*).

**Завы́ек** 'патыліца' (Нас.), *завы́к* (Касп.; форма *завы́ск* у Касп., відаць, памылка замест *завы́ек*). Рус. смал., цвяр., пск., калуж. *завы́ек*, польск. дыял. *zawyjek* 'тс'. Утворана ад *выя* 'шыя' (гл.) з конфіксам *за-ек*, магчыма, яшчэ ў ст.-рус.

**Зага́д** 'распараджэнне'. Рус. дыял. *зага́д*, кур., арл., смал., калуж., уладз., 'тое, што загадана, задума, намер', смал., зах. 'распараджэнне, наказ'. Бязафіксны наз. ад дзеяслова *загадаць* 'мець намер' > 'даручаць' > 'наказаць, распараджацца'. Толькі ў бел. літар. мове замацавалася знач. 'афіцыйнае распараджэнне', прычым яно звязана з адпаведным значэннем у дзеяслова, а таму замацаванне, відаць, адбывалася адначасова ў дзеяслове і назоўніку. Яшчэ ў Насовіча *зага́ды* 'затеи, выдумки', *зага́дывать* 'затевать', 'повелевать, управлять, распоряжаться', *зага́дчык* 'затейщик', 'распорядитель', *зага́дны* 'затейливый, загадочный'. Таму верагодна, што замацаванне сучасных значэнняў адбывалася ў асноўным у сав. час.

**За́гадзя**, драг. *завгы́дь, загоді́в* (З нар. сл.). Рус., укр. *за́годя* 'тс'. У выніку адвербіялізацыі дзеепрыслоўя да дзеяслова *загодити* ў ст.-рус. (Шуба, Прыслоўе, 178).

**Зага́на** 'недахоп', 'выгавар', дыял. маг. *загу́на* 'асуджэнне' (Юрч.). Рус. смал. *зага́на* 'недахоп', 'пакаранне'. Бязафіксны аддзеяслоўны (ад **заганіць*, параўн. укр. *зага́нити* 'асудзіць') назоўнік. Гл. *ганьба*.

**Загла́духа** 'зайздросніца' (Сцяшк.). Параўн. рус. урал. *загла́д* 'верхавод', *загла́дка* 'апошняя смачная ежа', *заглядчик* 'той, хто падглядвае'. Не выклікае сумненняў суфікс *-уха* і дзеяслоўны прэфікс *за-*, але няясны корань. Калі *гляд-* зразумела семантычна ад *заглядваць* > 'зайздросціць' (той жа ход, што *зайздросціць, завідаваць*, гл. гэтыя словы), тады пераход *л'* > *л* і націск незразумелыя. Калі ж ад *глад-* (параўн. *гладкі*), патрабуе тлумачэння семантычны бок.

**Загло́ба** 'зайздроснік' (Касп.) з польск. *zagłoba* 'гультай', якое тлумачыцца як перанос з *zagłoba* 'перашкода' ад *zagłobić* 'заклініць' (Брукнер, 643).

**Загне́т** 'прыпечак', *загне́тка, загне́так*. Рус. дыял. *загне́т*, *загнёт, загнёта, загнётка, загнёток* 'тс', 'месца ў вусці печы

для захавання жару і г. д.', укр. *загніт* 'вуголле для зарумяньвання хлеба' (Грынч.). Ст.-рус. (XVII ст.) *загнѣта* 'пярэдняя частка, вусце печы'. Усх.-слав. аддзеяслоўны назоўнік ад прэфіксальнага **загнѣтити* (*за* + *гнѣтити*, вядомае ў помніках з XII ст.) 'запальваць, распальваць', утвораны альбо з дапамогай асноваўтвараючага галоснага, альбо з суфіксам (*-ък-*). Першапачаткова, відаць, 'жар, вуголле, што захоўваліся для запальвання («запал»)'. Прасл. *gnětiti* 'распальваць' рэканструюецца на базе серб.-харв. *нетити*, славен. *nétiti*, чэш. *nítit*, польск. *niecić*, ст.-рус., ц.-слав. *гнѣтити*, рус. дыял. *гнети́ть* 'распальваць, запальваць', укр. *гніти́ти* 'падрумяньваць (хлеб)'. Прасл. параўноўваюць са ст.-прус. *knaistis* 'пажар', ст.-в.-ням. *gneista* 'іскра'.. Бернекер, 1, 312; Трубачоў, Эт. сл., 6, 168; Фасмер, 1, 421; Рудніцкі, 1, 657; Махэк$_2$, 400; Скок, 1, 379. Выказваецца думка (Трубачоў, Скок, Махэк) аб сувязі з дзеясловамі са значэннем 'церці' (ст.-в.-ням. *gnîtan*). Махэк звязвае з *гняды*. Але магчымы і больш шырокія параўнанні: з *гнеў, гніць, гной*, а магчыма, і *гнясці*, якія семантычна верагодна звязваюцца з агнём, жарам, а таксама з трэннем. Параўн. *гніць, гной*, а таксама *гнусны* (а магчыма, і *гніда*), што зводзяцца да і.-е. кораня **ghen-* 'расціраць, раздзіраць'. Покарны, 1, 437; Трубачоў, 6, 174; Булахаў, Веснік БДУ, 1972, 2, 66—67.

**Загугу́ля** 'бульбяная бабка' (Мат. Гом.). Рус. *загогу́ля* 'выгін, крывізна', дыял. 'патаўшчэнне', перан. дыял. 'нешта незвычайнае, манернае (выраз, чалавек)'. Фасмер (2, 73) тлумачыць *загогулина* з *гогуля*, якое параўноўваецца з польск. *gogółka* 'зерне плода' (у Слаўскага, 1, 310, *gogołka* 'завязь'). Для бел. значэння істотна ўлічыць рус. алан. *гого́лька* 'талакно на вадзе з маслам', *гого́лья* 'камячкі мукі ў рэдкім растворы з аўса для бліноў', балг. *гага́лка* 'від галубцоў' (Гераў). Слаўскі лічыць, што ў *gogołka* рэдуплікацыя тыпу *по-пел*. Сярод паралелей без рэдуплікацыі *галушка* (гл.). Першапачатковы корань, па Слаўскаму, **gol-* 'нешта голае'. Семантычна гэта не бездакорна. Параўн. яшчэ рус. дан. *гугу́ля* 'груз'. Ці не трэба ў назвах ежы ўбачыць значэнне 'нешта патоўшчанае, як гуз', якое можа быць зыходным і для назваў завязі ў польск. і чэш., мар. *gagałka* 'завязь', балг. дыял. *гага́лка* 'авечы кал у выглядзе галачак', *гоголица* 'друк з натуральнай булавешкай'? Параўн. таксама *гуля, гула, гуз, гала*. Тады рэдуплікацыя «ўзмацняе» першаснае значэнне 'патаўшчэнне, жаўлак, гуз', як і прэфіксацыя: *гу́ля* 'гуз, шар, гала' > *гугу́ля* > > *загугу́ля*. *Гуля, гула* з прасл. *gula*. Трубачоў, Эт. сл., 7, 169—170; БЕР, 1, 222, 259; Махэк$_2$, 148.

**Загэнсты** 'густаваты' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zagęsty* 'тс' (< *za* 'надта' + *gęsty*/ /*густы*, гл.).



**Зад.** Рус., укр., балг., макед. *зад*, польск., в.-луж., чэш. *zad* 'тс', славен. *zȃd* прыслоўе 'назад, ззаду', серб.-харв. *зȃд* 'задняя частка цела', балг., макед. (прысл., прыназ.) *зад* 'ззаду, услед за'. Ст.-слав. **зади** (прысл.) 'ззаду, назад'. Ст.-рус., ст.-бел. *задъ* 'задняя частка, задні бок розных прадметаў'. Прасл. *zadъ*. Праабражэнскі (1, 240) расчляняе *за-дъ* (як *пере-дъ*), параўн. *над-ъ, по-дъ*. Відэман, ВВ, 30, 222; Мейе, RES, 9, 127; Шанскі, 2, З, 27; БЕР, 1, 584—585; Махэк$_2$, 708; Покарны, 1, 452. Фасмер (2, 73), які схіляецца да гэтага пункту гледжання, дае і супастаўленні з авест. *zadah* грэч. χόδανος 'зад', арм. *jet* 'хвост' і інш.

**За́дарга** 'край' (Мат. Гом.). Рус. дыял. *задо́рга, за́дерга, за́дорога* 'прыступак, лесвіца, брус, поручні для таго, каб залазіць на печ', арханг., сіб. *за́дорога* 'частка пода печы па абодва бакі вусця па баках сярэдняй паласы', пск., цвяр. *за́дорга* 'паласа абапал дарогі'; параўн. *задорога* 'месца каля дарогі. узвышэнне каля дарогі', *за́дорожина* 'ўзвышэнне каля дарогі, плот, бервяно ў сцяне', ярасл. *за́дорожка* 'прыступак, поручні ў печы', чэш. *zádrh* 'нешта заторгнутае, паварот', славац. *zádrh* 'нешта заторгнутае, падрапанае', славен. *zadȓga* 'завязка', 'вусік у лазы', 'загар'. Відаць, бязафіксны наз. ад дзеяслова *zadьrgati* з дастаткова шырокім значэннем (гл. Трубачоў, Эт. сл., 5, 221).

**За́дздзя** 'ззаду' (Сл. паўн.-зах.). Дыял. утварэнне ад кораня слова *зад*: **jьz/sъ* + *zadija* (*zadije* ў р. скл.) > *ззадздзя* > > *задздзя*.

**За́досць** 'задавальненне (за абразу і г. д.)' (Нас.). З польск. дыял., а таксама ў фразеалагізмах *zadość* 'столькі, колькі трэба для задавальнення'. Параўн. укр. *задо́сить* 'тс'.

**Задры́па** 'неахайны чалавек' (ТСБМ). Рус. дыял. *задры́па, задри́па, задрёпа*; укр. *задрі́па, задрі́панець*. Усх.-слав. бязафіксны наз. ад дзеяслова *задрыпаць* 'запэцкаць', утворанага з прэфіксам *за-* ад *дрыпаць* 'пэцкаць', што мае шэраг іншаслав. паралелей, якія вядуць да рэканструкцыі семантыкі *dripati* 'раздзіраць' (SR, 4, 236); гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 5, 115.

**Задупкаваць** 'стаць на заднія ногі (пра каня)' (Сл. паўн.-зах.). Ад *дупка, дубкі, дуба, дыба*, 'дыбам, тарчма'.

**Зажве́рыць** 'ударыць, стукнуць' (смарг., Сл. паўн.-зах.). Відаць, з літ. *žveriáuti* 'паляваць' са зменай семантыкі і прэфіксам (як лакальнае запазычанне).

**Зазно́ба** 'жаль', 'прадмет жалю' (Нас.). Рус. *зазно́ба* 'каханне', 'каханая', уст. 'жаль', укр. *зазно́бка* 'шрам, апёк' (Жэлях.),

'засмучэнне'. Відаць, бяссуфіксны аддзеяслоўны наз. ад ст.-рус. *зазнобити* 'выклікаць абмарожанне (> боль)', які з прэфіксам *за-* ад *знобити* 'быць крыніцай холаду, уздзейнічаць холадам, абмарожваць, выклікаць дрыжыкі' (параўн. рус. *озноб*). Адсюль 'засмучэнне, жаль'. Пра рус. пераход да 'кахання' гл. Фасмер, 2, 74; Адзінцоў, Этимология, 1974, 117—120; Шанскі, 2, З, 31—32. Зубаты (Studie, I, 2, 179) параўноўвае бел. слова з *гнесці*, польск. *gnębić* 'прыгнятаць'. Гэта параўнанне мае сэнс толькі ў плане рэканструкцыі і.-е. кораня, але не непасрэдна на слав. грунце. Гл. *знібець, зяб.*

**Зайзаяр** 'саляная кіслата' (зах., Нар. словатв.). Кавальскі тэрмін з ням. *Salzsäure* 'тс' ці *salzsauer* 'салянакіслы'. Праз польск. (а магчыма і яўр.) пасрэдніцтва. Параўн. польск. *zajzajar.*

**Зайздросціць** 'перажываць раздражненне, выкліканае перавагай іншых'. Рус. беламор., арханг., пячор. *заздрить* 'убачыць', паўн.-дзвін. *зазрить* 'лічыць ганебным', укр. *заздрити* 'зайсдросціць', *заздріти* 'пабачыць', польск. *zazdrościć* 'зайздросціць', чэш. *zaříti* 'ўбачыць', славац. *zazriet'* 'глянуць, убачыць; глянуць варожа', дыял. *zazrost', zazdrost* 'зайздрасць', славен. *zazréti* 'ўбачыць', серб.-харв. *за̀зрети* 'ўбачыць; спужацца; выказаць незадавальненне'; параўн. балг. *за̀зор* 'сорам, жах', макед. *зазор* 'сорам'. Ст.-слав. **зазьрѣти** 'злавацца, дакараць, абурацца'. Ст.-рус. *зазьрѣти* 'ўбачыць' (XI ст.), 'зайздросціць' (XII ст.), 'дакараць' (XI ст.). Бел. форма, відаць, з польск. з устаўным *-й-*. У ст.-бел. з XVI ст.: *зайздрость, заздрость* (Крыўчык, Труды яз., 39). Польск. *zazdrościć* утворана ад наз. *zazdrość*, што ў сваю чаргу ўтвораны ад дзеясловаў, прадстаўленых формамі тыпу рус. дыял. *зазрить, заздрить* (дзе *-д-* устаўное), якія выніклі шляхам прэфіксацыі дзеяслова *зьрѣti* 'глядзець'.

**Закабаіна** 'невялікі заліў' (полац., З нар. сл.), *закабаліна* 'затока ў рацэ' (слаўг.), *закабень* 'месца, выбітае вадой на лузе, якое перашкаджае касьбе' (Яшкін), *закубань* 'затока ў рацэ' (Бяльк.). Словаўтварэнне сустракаецца ў геаграфічнай тэрміналогіі: за- + — + *-іна* ці *за-* + — + *-ень* (параўн. *западзіна*, укр. *закосень*). Корань прадстаўляе сабой варыянты тэрміна *кабаня* 'яма з вадой' (гл.); ва ўкр. гэты корань прадстаўлены і ў форме *кубаня* (Юркоўскі, Ukr. hydrogr., 72). Талстой, СГТ, 230—233; Нітшэ, 207; Варбат, Этимология, 1979, 36—37.

**Закал** перан. 'гарт' (Сл. паўн.-зах.): *«людзі старога закалу».* З рус. *закал* 'гарт' ад *закалять(ся)* 'гартавацца'; на запазычаны характар слова ўказвае адсутнасць зыходнага дзеяслова і іншых блізкіх слоў.



**Закала** 'помслівы чалавек' (мядз., Нар. словатв.). Рус. дыял. *закал* 'чалавек, што крыўдзіць слабых', пск. 'пятніца', урал. 'зух', польск. *zakał* 'чалавек, што кампраметуе блізкіх', *zakała* 'ганебная, кампраметуючая рэч', укр. уст. дыял. *закала* 'сорам' (Жэлях.), рус. кастр. *закала* 'неакуратнасць, нядбайнасць'. Ст.-польск. *zakał* (XIV ст.) 'пляма, бруд, загана'. Параўн. чэш., славац. *zákal* 'пакаламучанне вады, піва, віна'. Параўн. рус. арханг., алан. *закал* 'смелы, бывалы чалавек'. Назва чалавека з адмоўнай характарыстыкай узыходзіць, відаць, як семантычны перанос да адмоўнай назвы рэчы. Можна меркаваць аб двух вытоках такога пераносу: хлеб з закальцам (закалам) ганьбіць гаспадыню, адкуль ідзе семантычны шлях: 'закалец у хлебе' > 'нядбайнасць' > 'ганебная рэч', 'сорам' > > 'чалавек, што кампрамітуе блізкіх' > 'кепскі чалавек', у тым ліку 'помслівы', 'п'яніца' і г. д. 'Пакаламучанае віно' > 'кепскае віно' > 'кепская рэч' > 'кепскі чалавек'. Адносна другога шляху важна ўлічыць адцягненае, пераноснае ўжыванне слова ўжо ў XIV ст. у ст.-польск., якое можа ўзыходзіць да ст.-чэш. (суч. чэш. *zákal* тлумачыцца як аддзеяслоўны бязафіксны назоўнік ад *zakaliti* да *кал* 'бруд', параўн. *каламуціць*). Гл. *закалец*. Рус. *закал* 'смелы, бывалы чалавек', 'зух' можа быць непасрэдна ад *закалять(ся)* 'гартавацца, атрымліваць вопыт' і хутчэй не звязана са словамі са знач. адмоўнай характарыстыкі чалавека.

**Закалец** 'сыры, непрапечаны слой у хлебе', *закал* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *закал*, дыял. *закала*, укр. *закалець, закал*, польск. *zakalec, zakał*, чэш. разм. *zákalec, zakal*, н.-луж. *zakałka* 'тс'. Ст.-рус. *закала* 'закалец' (1662 г.). Паўн.-слав. абазначэнне непрапечанага слоя цеста над ніжняй скарынкай, які вынікае з-за таго, што цеста не падышло, звязана, відаць, з дзеясловам *zakaliti* 'падвергнуць уздзеянню цяпла (для гартавання і іншых мэт)': была ўжыта надта гарачая вада для запаркі ці печ была надта гарачая. *Zakaliti* ад *kaliti* 'гартаваць'. Гэта слова звязваецца з *калець* (гл.), *акалець*, паводле тэрмічнага ўздзеяння (Даль, 2, 582; Мейе, MSL, 14,373), ці з *кал* (гл.) паводле Махэка, LF, 65, 314—315 (пазней Махэк₂, 236, адмовіўся ад гэтай версіі, якую падтрымаў Слаўскі, 2, 29). Гл. Фасмер, 2, 168—169; Скок, 2, 21. *Закалец* утворана з суфіксам *-ец* (< *-ьць*) ад паўн.-слав. бязафікснага назоўніка, **zakala* ад дзеяслова *zakaliti*. Побач са слоем непрапечанага хлеба лексема *zakal(a)* у рус., польск., чэш. азначае яшчэ 'недапрацаваны цвёрды фрагмент скуры (падэшвы), які скрыпіць'. Параўн. яшчэ *закала.*

**Закамырдзіцца** 'надзьмуцца, пакрыўдзіцца' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. рус. стаўрап. *камызá* 'капрызнае дзіця', укр.

*закомезйтися* 'закапрызіць', *комезйтися, комизйтися* 'валтузіцца, марудзіць, крыўдзіцца'. *За-*, вядома, прэфіксальнае. Магчыма, што і *ка-/ко-* мае прэфіксальны характар. Тады трэба шукаць зыходны корань тыпу *мез-, мырз-* (*дз* < *з*, відаць, экспрэсіўны пераход, як і ўстаўка ці апушчэнне *-р-*). Можа, ён звязаны з рус. дыял. ніжнегар. *мырзать* 'поўзаць па падлозе' ці з рус. *мерзить*, укр. *мерзйти* 'адчуваць, выклікаць агіду'. Няясна.

**Закандры́чыць** 'зарэзаць' (Бяльк), *закандрэ́чыць* 'заціскаць, зацалаваць' (гродз., З нар. сл.). Рус. дыял. *закандры́чить*: пск. 'забіваць', смал. 'замучыць', калуж. 'заважнічаць'. Параўн. *заканды́чыць* 'замучыць' (Нас.). Апошняе ўтворана ад *кандычыць* 'трэсці, цягаць за валасы', *кандычыцца* 'мучыцца ў перадсмяротных сутаргах' (гл. *канды́чыць*) з прэфіксам *за-*. Форма *закандрычыць* уключае экспрэсіўную ўстаўку *-р-*.

**Закаса́ць** 'загнуўшы, узняць адзенне ўверх'. Рус. паўд.-зах. *зака́сывать*, укр. *закаса́ти* з польск. *zakasać* 'тс' (Слаўскі, 2, 92); у польск. слове вылучаецца прэфікс *za-*; корань *kas-/kos-* не захаваўся ў бел., але шырока прадстаўлены ў рус. (*касаться, коснуться*) і ўкр. (дыял.). Фасмер, 2, 206, 346. Такі ж характар мае *падкасаць*. Гл. *часаць, кахаць*.

**Закатру́піць,** *закатру́піті* 'забіць' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zakatrupić* 'тс', дзе *za-, ka-*, прэфіксальныя, а корань *trup-* (гл. *труп*).

**Заквэ́цаць** 'запэцкаць' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *закéўзаць* 'тс' (Сл. паўн.-зах.), рус. цвяр. *закéкать* 'тс'. Фанетыка бел. слова ўказвае на экспрэсіўны ці запазычаны характар. Ці не звязана з лат. *kvept, kvēpināt* 'закурваць, закурадымліваць'? Няясна.

**Закéлбаць** 'закілзаць, забрытаць' (Сл. паўн.-зах.). Калі не экспрэсіўная змена *закéлзаць* (гл. *кілзаць, гелзаць*; Лаўчутэ, Сл. балт., 102—103), можа, звязана з літ. *kílpa* 'пятля' (Сл. паўн.-зах., 2, 216). Няясна.

**За́кеизлы** 'цуглі' (малар., Нар. словатв.). Параўн. польск. *zakiełznąć* 'залажыць каню цуглі, закілзаць'. Відаць, метатэза *келзн* > *кензл*. Запазычана з зах.-балт. (*гельзаць, келзы* 'цуглі', гл. Лаўчутэ, Сл. балт., 102—103), не выключана ў даным выпадку польск. пасрэдніцтва.

**За́кла** 'закутак у хляве для малых свіней' (брагін., З нар. сл.), 'месца ў вуглу плота' (Мат. Гом.), 'выгін ракі' (стол., Яшкін). Укр. уст. дыял. *за́кла* 'крук' ('Haken', Жэлях.), *за́кло* 'частка зямлі, што ўдаецца ў чужую зямлю' (Грынч.). Нікан-чук (БЛ, 1974, 6, 71), улічваючы розныя значэнні слова



на Укр. Палессі, аб'ядноўвае *закло* са словамі *клін*, укр. *ікла*, рус. *клык*, якія генетычна звязвае з *калоць* (гл.) і прапануе рэканструяваць яго форму, як *закъло*. Гэта верагодна. Аналагічна на больш шырокім матэрыяле Варбат, Этимология, 1972, 49—53.

**Заклівіна** 'востраў пасярод ракі' (Сл. паўн.-зах.). Улічваючы адсутнасць паралеляў у сумежных мовах (у тым ліку ў Нітшэ і Юркоўскага), верагодна параўнанне ў Сл. паўн.-зах. (2, 218) з літ. *kliuvinỹs* 'перашкода', якое, аднак, не тлумачыць прэфікс.

***Заклíпацца,** *заклíпатісе* 'клясціся' (Сл. паўн.-зах.). Польск. разм. *zaklepać* 'зрабіць, абгаварыць, паабяцаць'. Відаць, бел. слова на польск. тэрыторыі з польск.

**Заклю́ка** 'памылка пры ўцягванні ніткі ў бёрда' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *клюка* 'дэталь ярма ў форме кручка', 'вочап у студні' і г. д. Рус. *заклюка* 'частка ворыва выгнутай формы', укр. *заклю́кати* 'заблытаць'. Укр. дзеяслоў дае верагодную падставу для тлумачэння бел. *заклюка* як аддзеяслоўнага бязафікснага наз. ад **заклюкаць* 'заблытаць', *клюка* 'нешта загнутае' (гл.).

**Закля́ва** 'завадзь' (Сл. паўн.-зах.). Няясна. Магчыма, ад *закла* з суф. *-'ава* (параўн. *качава* 'месца, дзе качаўся конь', Сцяцко, Афікс. наз., 34), але што выражае суфікс?

**Зако́н** 'устанаўленне'. Рус., укр. *зако́н*, польск. *zakon* 'царкоўная арганізацыя', уст. 'закон', серб.-луж. *zákon* 'закон', чэш., славац., славен. *zákon*, серб.-харв. *зáкон*, балг. *закòн*, макед. *закон* 'тс'. Ст.-слав. **законъ** 'закон, парадак'. Ст.-рус., ст.-бел. *законъ* 'закон, парадак, устанаўленне'. Прасл. імя, суадноснае па чаргаванню галоснага ў корані з *začęti* < **za-ken-ti* — *za-kon-ъ* (параўн. *кон, канец, пачатак*). Копечны, Zákl. *zásoba*, 421; Мейе, Études, 218; Фасмер, 2, 75; Шанскі, 2, З, 38. Не зусім ясны семантычны ход спрабаваў тлумачыць Махэк₂, 709: «ад нейкага *za-kon-ati* 'ўстанавіць'», што можна прыняць. Іншая версія, БЕР, 1, 592: прасл. *zakanъ* 'пачатак, аснова, прынцып'. С.-грэч., рум., алб. запазычылі слова *zakon* у знач. 'звычай'.

**Зако́т** 'франтон з бярвення' (ТСБМ). Рус. бранск. *зако́т* 'пярэдняя частка гары, вышкі', укр. *зако́т* 'адварот (чобата, рукава...)'. Відаць, зах.-рус. бязафіксны наз. ад дзеяслова *закотити* (параўн. укр. *законити* 'загарнуць (рукавы і г. д.)').

**Закро́п** 'прынада з пахучай травы для пчол' (Сл. паўн.-зах.). Паколькі *крапíць* (гл.) азначае 'абпырскваць вулей рэдкай прынадай' (Анох., 337), *закроп* трэба разглядаць як бязафік-

сны назоўнік ад дзеяслова *закрапіць*. Параўн. рус. дыял. *окроп*, укр. *окріп* 'кіпецень, вар' (гл. Фасмер, 3, 130—131).

**Закро́пка** 'працэс адкладання яек пчалінай маткай' (малар., Анох.). Наз. з суф. *-ка* ад дзеяслова *закрапі́ць* (< *за*+*крапіць* 'адкладваць яйкі', Анох.).

**Закры́пацца** 'заблытаць' (Сл. паўн.-зах.). *За*+*крыпаць*+*ца*; *крыпаць* 'блытаць' < літ. *krypúoti* (Лаўчутэ, Сл. балт., 69).

**Закуба́нь**, *зыкуба́нь* 'невялікая затока на рацэ' (Бяльк). Гл. *закаба́іна*. Пры функцыяніраванні слова не выключана другаснае супастаўленне з уласнай назвай р. *Кубань*.

**За́ла**, *зал* 'вялікі пакой'. Рус. *зал*, уст. *зала*, *зало*, укр. *зал*, *зала*, польск. *sala*, в.-луж. *sal*, *sala*, чэш. *sál*, славац. *sála*, серб.-харв. *са́ла*, балг. *за̀ла* < рус., макед. *сала*. У Бярынды (1627 г.) і ў ст.-бел. (1582 г.) *саля*. *Зала*, *зал* < рус. < ням. *Saal*. *Саля* < польск. < франц. ці іт. < герм. (франк., лангб.) *sala* 'дом, будова'. Шанскі, 2, З, 42; Фасмер, 2, 76; Біржакава, 362; Булыка, Запазыч., 293; Брукнер, 479.

**Зала́**$_1$ 'попел', 'луг', 'брудная вада, што застаецца пасля мыцця бялізны' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *зола́* 'попел', укр. *зола́* 'попел', 'луг', польск. *zola* 'луг з попелу', чэш. *zola* 'тс', славац. *zola* 'попел з вапнай (у гарбарскай справе)', с.-луж. *zola* 'луг', балг. уст. *зола̀* 'вада з попелам'. Параўн. літ. *žilas* 'шэры', лат. *zils* 'блакітны' і іншыя і.-е. словы; гл. *зялёны*. Зубаты, Studie, I, 1, 124; Траўтман, 365. Прасл. *zola* < і.-е. *g'hel- і інш. 'светлы, святлець, блішчаць'. Покарны, I, 430; Фасмер, 2, 103; Брукнер, 656; Шанскі, 2, З, 104. Думка Махэка$_2$ (718) пра запазыч. з ням. *Sole* 'салёная вада' не абгрунтаваная, паколькі слова мае агульнаслав. пашырэнне. Параўнанні са ст.-в.-ням. *kolo* 'вуглішча', ст.-інд. *jválati* 'гарыць', прапанаваныя Младэнавым (194), БЕР (1, 652), фанетычна недастаткова абгрунтаваныя, ням. *Kohle* хутчэй з і.-е. *g(e)u-l-o, Покарны, 1, 399; гл. *жураць*, *жуляць*. Гл. *заліць*$_2$.

**Зала́**$_2$ 'кепскае надвор'е з дажджом і снегам' (Касп.). Гл. *золь*$_1$.

**За́лаб** 'узяўшыся за чубы' (Шат., Сцяшк., Сцяц.). *За*+*лъбъ* (прыназ.+він. скл. наз.). Параўн. ст.-польск. *załeb* 'бойка'.

**За́леж** 'цалінная або ворная зямля, якая даўно не апрацоўвалася', *за́лях* (дакладней, відаць, *за́ляг*) 'аблога' (гродз., З нар. сл.). Рус. *за́лежь* 'тс'. Назоўнік ад дзеяслова *залегчы*/*залягаць*, у форме *залеж* з пераходам *г* > *ж* перад *-ь* па 1-й



палаталізацыі. Іншае значэнне *залеж* ('месца залягання выкапняў', 'заляжалы тавар'), магчыма, пад рус. уплывам.

**Зале́ць** 'мерзнуць' (ТСБМ). Дзеяслоў з суфіксам *-ець* ад наз. *золь*$_1$ (гл.).

**Залёты** 'імкненне выклікаць прыхільнасць з боку асобы іншага полу'. Укр. *зальо́ти* 'тс'. З польск. *zaloty* 'тс'. Паводле Брукнера (644), *о* незаканамерна з *ě*: *lětь* 'воля, магчымасць'. Гл. *адлёт*, *лець*. На запазычаны характар указвае ўкр. форма, а таксама фармальная і семантычная агульнасць польск., бел., укр. слоў. Параўн. з адрозненнямі чэш., славац. *zálety* 'залёты', рус. *залет* 'зух, удалец', *залётка* 'каханая', славен. *zalèt* 'забег, спроба', серб.-харв. *за́лет* 'разбег, размах'. Гл. *заляцацца*. Пра рус. *залётка* Адзінцоў, Этимология, 1974, 120—124.

**Залiва́цца** 'тлусцець' (Мат. Гом.), 'спяваць з пералівамі' (ТСБМ). Рус. *залива́ться* ў розных знач., у тым ліку 'спяваць пералівіста', укр. *залива́тися* 'пакрывацца вадкасцю', 'смяяцца', 'захлынацца'. Перан. ад *залівацца* 'пакрывацца вадкасцю', 'напаўняцца вадкасцю' (гл. *заліць*$_3$, *ліць*), для спеваў 'выдаваць гукі быццам бы такія, што пераліваюцца, як вадкасць', для 'тлусцець', 'набірацца тлушчу'.

***Залі́ць**$_1$, *золи́ць* 'дапякаць' (Нас.). Рус. наўг., валаг., ярасл., кастр., арханг., маск., сімб. *золи́ть* 'дапякаць', укр. *золи́ти* 'лаяць', славен. *zoliti* 'крычаць, бурчаць', балг. *золя́* 'пасыпаць (соллю, перцам)' (Гераў); параўн. серб.-харв. *зо̏љ*, *зо̏ља* 'аса' (якое, аднак, Скок, 3, 664, звязвае з гукапераймальным дзеясловам *zújati*). Вытворнае *назаля́ць* '(ТСБМ). Даль (1, 691) лічыў *золить* 'заліць$_1$' і 'заліць$_2$' значэннямі аднаго і таго ж слова. Тады *заліць*$_1$ — перанос ад *заліць*$_2$ 'апрацоўваць лугам'. Ці суадносіцца славен. слова з бел.,— няясна. Гл. яшчэ *зло*.

**Залі́ць**$_2$ 'апрацоўваць шкуры растворам вапны' (ТСБМ). Рус. *золи́ть*, укр. *золити* 'тс' і 'парыць бялізну ў растворы попелу', польск. *zolić* 'мачыць, парыць у попеле', 'пэцкаць', чэш. дыял. *zolit'* 'пэцкаць', н.-луж. *zoliś* 'мачыць, парыць у лузе'. Ст.-рус. *золити* 'тс' (XVII ст.). Дзеяслоў з суф. *-і-ць* ад наз *зала*$_1$ (гл.).

**Залі́ць**$_3$ 'пакрыць вадкасцю'. Рус. *зали́ть* 'тс', укр. *залити*, польск. *zalać* і г. д. Прэфіксальны вытворны: *за*+*ліць* (гл. *ліць*).

**Зало́жнік**$_1$ 'асоба, затрыманая ў якасці гарантыі (залогу)'. Рус., укр. *зало́жник*, балг. *зало̀жник*, макед. *заложник* 'тс'. Утворана ад прым. *заложны* (які ад *залогъ* — слова, вядомага яшчэ ў ст.-слав.) са знач. 'такі, што пакінуты ў залог' з дапамо-

гай суфікса *-ік* (гл. пра словаўтваральную мадэль Сцяцко, Афікс. наз., 104—105). Час утварэння — ст.-рус. ці нават позне-прасл., паколькі адпаведныя словы вядомы паўд.-слав. мовам. БЕР, 1, 595. Паводле Шанскага (2, З, 44), рус. слова утворана ад дзеяслова *заложить* 'аддаць у залог' з дапамогай суфікса *-ник*, аднак гэта азначала б позняе ўтварэнне слова.

**Залóжнік**$_2$ 'паліца для пасуды' (Жд. 1; круп., Нар. сл.), 'паліца з дзіркамі для лыжак' (пін., Нар. лекс., 108), *залэжнік, залажэ́тнік* 'паліца для посуду' (Сцяшк.). Рус. смал. *заложник* 'тс'. Назоўнікі з конфіксам *за-* + *-нік* абазначаюць прадметы, размешчаныя за тым, што названа ў аснове (Сцяц., Афікс. наз., 238). Таму, магчыма, слова ўтворана ад *лóжак*, а паліца змяшчалася за *ложкам* (?). Трэба адзначыць, што слова распаўсюджана шырэй, чым словатворчая мадэль, паводле Сцяцко (гом., маг.). Гл. *жаложнік*.

**Залóза** 'орган у арганізме, што выпрацоўвае ці выдаляе пэўныя рэчывы', *зáлзы, зэлзы* 'тс' (Сл. паўн.-зах.), *зóлзачка* (Жд. 2). Рус. *железá*, дыял. перм., паўн.-дзвін. *зáлезá*, укр. *зáлоза*, польск. *zołza* 'хвароба залоз', серб.-луж. *žałza*, чэш. *žláza*, славен. *žléza*, серб.-харв. *жлéзда, жлиjèзда*, балг. *жлезà*, макед. *жлезда*. Ц.-слав. *жлѣза* 'залоза'. Ст.-рус. *железа* 'тс' (XII ст.), 'чумны бубон, чума' (XIV ст.). Прасл. *želza*. Літ. *geležuonys* і інш. 'залозы', арм. *geɫj-k'* 'тс', грэч. *γογγρῶνη* 'апухлая залоза'. І.-е. **ghelg'h-* 'залоза'. Покарны, 1, 435; Фасмер, 2, 42; Скок, 3, 683—684; Брукнер, 656; Махэк$_2$, 729; Копечны, Zákl. zásoba, 435; Траўтман, 84; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 261. Трубачоў (ВСЯ, II, 34) указвае на агульнасць паходжання слоў *залоза* і *жалеза*. Няясным застаецца: *з-* у бел., укр., польск.; бел. націск (архаічны?), які не супадае з укр. і рус.; польск. *-ol-*. Ці сюды чэш. дыял. *hlíza* 'апухласць'?

**Залóм** 'паварот', 'выступ', 'заламаныя і звязаныя ў пук сцяблы жыта, ільну з мэтай наклікаць бяду на гаспадара поля' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *зáлім, залóм* 'тс', рус. кур., тамб., арл., зах., бранск., калуж., смал., цвяр., пск., пецярб., забайк. *залóм* 'некалькі скручаных сцяблоў жыта з мэтай злога чараўніцтва', польск. *załom* 'паварот'. Бязафіксны наз. ад *заламаць* (< *ламаць*).

**Залóўка**, *залвíца*, дыял. *завíца* 'мужава сястра'. Рус. *золóвка* 'тс', дыял. 'жонка брата', *зóлва, зóлвица* 'тс', укр. *зовúця* 'мужава сястра', польск. дыял. *zołwica, załwica*, чэш., славац. *zolvica*, славен. *zâlva, zâlvica*, серб.-харв. *зȁова, зȁовица*, балг. *зъ́лва* 'тс', дыял. 'дзяўчына, што спявае на вяселлі з боку жаніха', макед. *золва*. Ст.-рус. *золовка* (XVII ст.). Прасл. *zъlъva (zъly)*. Грэч. гамер. **γάλωϜος* 'мужава сястра', лац.



*glōs* 'мужава сястра', 'братава жонка'. І.-е. **g'(e)lōu-* 'мужава сястра'. Далейшая этымалогія няясная. Аскалі (KZ, 12, 319—321) выводзіў з **gel-* 'весяліцца, усміхацца', але гэта няпэўна. Бел. формы — ст.-рус. ці прасл. пашырэнне прасл. памянш. суфіксамі *-ка, -іца*. Фасмер 2, 103; Шанскі, 2, З, 105; Копечны, Zákl. zásoba, 431; Траўтман, 373; Покарны, 1, 367—368; Трубачоў, История терм., 136—137; Шаўр, Etymologie, 63; Лаўроўскі, Назв. родства. 73—77; Панюціч, Лексіка нар. гаворак, 1975, 49—50; Паўленка, Нарысы па бел. словаўтв., 1978, 51.

**Залп** 'адначасовы выстрал'. Як і ўкр., балг. у XX ст. з рус. *залп*, дзе з канца XVII ст. у форме *залб*, а з 1720-х гадоў у форме *залп* з ням. (Біржакова, Очерки, 120—121). Ням. *Salve* 'салют' з XVI ст. < франц. < лац. *salvē* 'віншую! будзь здаровы!' Дудэн, Herkunftswörterbuch, 585; Фасмер, 2, 76—77; Шанскі, 2, З, 44; БЕР, 1, 595; Блох — Вартбург, 563.

***Залпáць**, *залпáті* 'злапаць' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, метатэза ад *злапаць* 'тс' (гл. *лапаць*$_2$).

**Зáльва** 'маладое шчаўе каля хаты' (лях., Жыв. сл.). Магчыма, скажонае слова з кампанентам *зел'-* (гл. *зелле*). Можа, трэба ўлічыць лат. *zaļš* 'зялёны', у тым ліку *zaļ bariba* 'свежая агародніна'. Няясна.

**Зальгóўваць** 'браць на повад', 'падпарадкаваць' (мазыр., З нар. сл.). Апафанічны варыянт да *залыгаць* 'тс' (ТСБМ). Гл. *лыгаць*.

**Залютавáць** 'запаяць' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *залютувати* 'тс' (Грынч.). Утворана ад **лютаваць* з прэфіксам *за-*. *Лютаваць* (варыянт *літаваць*) 'паяць' < польск. *lutować* 'тс' < с.-в.-ням. *loeten*, ням. *löten* 'тс'.

**Заляцáцца** 'дагаджаць жанчыне з мэтай выклікаць прыхільнасць'. Рус. смал., паўд. *залицáться*, укр. *залиця́тися*, польск. *zalecać się* 'тс'. Зваротны дзеяслоў да *заляцаць* (гл.) з далейшай спецыялізацыяй значэння. Параўн. яшчэ *залёты*.

**Заляцáць** 'папярэджваць, запэўніваць' (Нас.). Суадносіцца з польск. *zalecać* 'рабіць', 'даручаць', дзе *-lecać* Слаўскі (4, 96) узвёў да прасл. *lětiti* 'даваць у апеку, даручаць' < прасл. *lětь* 'воля, дазвол'. Гл. *лець* (Нас.). Націск бел. слова ўказвае на бел. яго паходжанне, хаця нельга выключаць і запазычанне з польск. з пераносам націску. Параўн. ст.-бел. *залецати* 'рэкамендаваць' і шэраг вытворных, паводле Булыкі (Запазыч., 116), з польск.

**За́мак** 'умацаваны палац'. Рус., укр. *за́мок,* польск. *zamek,* н.-луж. *zamk,* чэш. *zámek,* славац. *zámok* 'замок', славен. *zamâk* 'аддалены куточак зямлі', балг. *за̀мък* 'замак' < рус., *за̀мка* 'месца ў цяні', 'закрытае месца', макед. *замок* 'замак'. Ст.-рус. *замокъ* 'замак' (XVI ст. у польскіх справах). Запазычана ў ст.-бел. (1494 г., Марч. дыс., 44) з польск. (на што ўказвае націск) < чэш., дзе калька ням. *Schloss* 'замак', 'замок' (Мельнікаў, Slavia, 36, 1967, 101—102). Фасмер, 2, 77; Шанскі, 2, З, 47; БЕР, 1, 599.

**Зама́н** 'фальшывая прычына' 'чары' (Сл. паўн.-зах.). Рус. тул., пск. *зама́н* 'абман'. Аддзеяслоўны бязафіксны наз., утвораны ад *за-ман-уць, за-ман-іць* 'прывабіць'. Гл. *маніць.*

**Замбо́ліць,** *замбалі́ць* 'гаварыць не тое, што трэба' (воран., Сл. паўн.-зах.). Хутчэй за ўсё з гіпатэтычнага польск. (незафіксаванага) **zębolić* (з *zęby* 'зубы'). Параўн. рус. валаг. *зубо́рить* 'жартаваць'.

**Замгнуць** 'задрамаць на адно імгненне, сплюшчыць вочы, засынаючы' (ТСБМ). Рус. варонеж. *замгну́ть* 'тс', укр. *замгну́ти* 'задрамаць ненадоўга' (Грынч.), славен. *zamígniti* 'злёгку задрамаць'. Усх.-слав. формы адлюстроўваюць **за-мьг-ну-ти,* дзе корань *мьг-* з чаргаваннем галоснага; гл. *міг.* Славен. форма з іншай ступенню чаргавання, як і чэш. *zamihnouti se* 'рынуцца, з'явіцца на імгненне', утварылася аўтаномна.

**За́мець** 'мяцеліца'. Рус. арл., кур., цвяр., бранск., тамб., пенз., варонеж. *за́меть,* укр. *заме́та, за́метіль* 'тс', польск. *zamieć* 'тс', 'сумёт', чэш. *zámět',* славац. *zámet* 'тс', н.-луж. *zámet* 'замяценне снегам, пяском і інш.', славен. *zamèt, zámet,* серб.-харв. *за̏мет* 'сумёт'. Ц.-слав. *заметъ* 'мноства' (Бярында). Назоўнік ад дзеяслова *zametati* з абстрактным значэннем на *-ь.* Форма і значэнне супадаюць толькі ў рус. і бел., што можа ўказваць на дыялектны характар прасл. слова ці на позняе замацаванне значэння.

**Замёт** 'агароджа з тонкага бярвення, закладзенага ў шулы' (ТСБМ). Рус. дыял. *замёт* 'тс', укр. кіеўск., падольск. *заме́т* 'тс', польск. *zamiot* 'тс', балг. *замет* 'тс'. Ст.-рус. *заме́ть* (XVI ст.) 'замёт'. Гом. *зямёт* 'агароджа з бярвенняў' (Янк. Мат.), відаць, у выніку асіміляцыі *з* > *з'* пад уздзеяннем *м'*. Ст.-рус. *заметати* і ст.-польск. *zamiotać* мелі знач. 'закідаць' (XIV ст.), а пазней і 'зрабіць агароджу' (XVI ст.), што можна лічыць развіццём ранейшага (агароджа > вал). Таму *замёт* — бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *заметати.*

**Замі́наць** 'перашкаджаць'. Рус. *замина́ть* 'перашкаджаць, прыпыняць', укр. *замина́ти (розмову)* 'прыпыняць (размову)', балг. *замина̀вам* 'ад'язджаць', макед. *замине* 'ад'язджаць, мінаць'. Ст.-рус. *заминати* 'ўтойваць, перашкаджаць (XVII ст.). Параўн. рус. *зами́нка* 'затрымка'. Значэнне 'перашкаджаць' у кораня, прадстаўленага ў дзеяслове *мі́наць* 'праходзіць' (гл.), вынікае пры спалучэнні з прэфіксам *за-,* які мае шмат значэнняў, у тым ліку і значэнні прасторавага абмежавання (В. С. Ільїн, Префікси в сучасній українській мові, 1953, 87—94). Копечны, Zákl. zásoba, 206; Фасмер, 2, 624.

**Замо́ва** 'заклінанне'. Укр. *замо́ва* 'тс', польск. уст. *zamowa* 'закляцце', н.-луж. *zamołwa* 'прабачэнне, абаронная прамова', чэш. уст. *zámluva* 'заказ, клятва'. Параўн. рус. паўн.-дзвін. *замо́вка* 'заступніцтва словам', пецярб. *замовле́ние* 'замова'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова **замовити* > *замовіць* 'выклікаць мовай чароўную дзею', утворанага ад кораня, прадстаўленага ў *мова* (гл.).

**Замо́жны** 'багаты'. Рус. паўд., смал., бранск. *замо́жный, заможно́й,* укр. *замо́жний* 'тс', польск. *zamożny* 'тс', серб.-луж. *zamožny* 'заможны, здольны', чэш., славац. *zamožny,* славен. *zamǫ́žen,* балг. *заможен* 'багаты'. Параўн. ст.-польск. *zamożysty* 'заможны', *zamóc* 'узмацніць, дапамагчы' (XVII ст.). Слова ўтворана, відаць, з суфіксам *-ьn-* і адпаведным чаргаваннем *g — ž* ад бязафікснага назоўніка *zamoga* < *za+mog-ti* 'ўзмацніць' (гл. *магчы*). Булахаў, Гіст. прыметнікаў, 3, 1973, 140: *заможны* — прыставачнае ўтварэнне ад той жа асновы, што і ст.-бел. *можный* 'багаты' (гл. *можны*).

**Замо́к** 'прыстасаванне для запірання'. Рус., укр. *замо́к,* польск. *zamek,* серб.-луж. *zamk,* чэш. *zámek,* славац. *zámka, zámok* 'тс', славен. *zamka* 'пятля', серб.-харв. *за̂мка* 'пастка, пятля', балг. дыял. *за̀мка* 'вузел', 'пятля', макед. *замка* 'сіло, пастка'. Ст.-слав. **замъкнѫти** 'замкнуць', ц.-слав. *замъкъ* 'замок'. Ст.-рус. *замъкъ* (XII ст.) 'замок'. Ст.-бел. *замок* (Скарына). Паўн.-слав. бязафіксны назоўнік *zamъkъ* ад дзеяслова *za-mъk-nǫ-ti* (гл. *імкнуць*), дзе прэфікс надаваў значэнне абмежавання (як у *замінаць*).

**За́мхі** 'пушок, які аддзяляецца ў працэсе ткання' (в.-дзвін., Шатал.). Відаць, да *мох* (гл.).

**За́мша,** *замш* 'від апрацаванай скуры'. Рус., укр. *за́мша,* польск. *zamsz* 'тс', чэш. *zámiš* 'тс', славац. *zamša* 'слой скуры пад верхнім слоем'. Ст.-рус. *замша* 'замша' (1635 г.). Ст.-бел. *замешъ, замшъ* (з 1552 г.); *замшовый* (1540 г.) < с.-в.-ням. *saemisch leder* 'замшавая скура', дзе *saemisch* < франц. *chamois* 'серна' (?) праз польск. Фасмер, 2, 77; Шанскі, 2, З, 48. Там прыводзяцца іншыя версіі, якія прызнаюцца няўдалымі.

**Замухры́шка** 'неахайны, непрыглядны чалавек', *замухрысты* (Колас). Рус. *замухры́шка* < *замухры́жка* < *замухры́га* < < *мухры́га* 'неахайны чалавек, ашуканец' < *му́хрый* 'кепскі, кволы, мізэрны'. Шанскі, 2, З, 48. Апошні прыметнік пакуль што не растлумачаны. Фасмер (3, 19) звязваў *мухрыга* з *мухлевать*, што неабгрунтавана. Ці не трэба ў элеменце *мухр-* убачыць сувязь з *махор, махры* ('непрычасаны', 'у абшарпаным адзенні'), што, паводле Фасмера (2, 666), звязваецца з *мох*, але, можа, зазнала ўздзеянне назвы тканіны, вядомай з XVI ст., як *мухояр* 'тканіна з ангорскай воўны ці з яе дадаткам', запазычанай з араб. *muḫajjar*, магчыма, у іншым фанетычным выглядзе (параўн. пазнейшыя запазычанні таго ж слова праз франц. *муар* і праз англ. *махер*)? Параўн. варонеж. *замухры́житься* 'растрапацца, запэцкацца' і пск. *заму́хлить* 'растрапаць, узлахмаціць'.

**Замэ́дзгаць** 'забрудзіць' (ТСБМ). Рус. *замы́згать*, укр. чарніг. *зами́згати* (Грынч.) 'тс'. Прэфіксальны дзеяслоў ад *мыдзгаць* 'пэцкаць, пэцкацца' (гл.) з пераменай галоснага, магчыма, ў сувязі з *пэ́цкаць*.

**Зана́дра** 'каўнер, выраз у кашулі' (Нас.). Са ст.-польск. *zanadra* (суч. *zanadrze*) 'пазуха', дзе (як і ў славац. *zaňadrie* 'тс') з *za* + *nadr-*. Гл. *нетры*.

**За́ніц** 'дарма', 'многа' (Шат.). Рус. (у Літве) *за́ниц* 'тс' (< бел. ці польск.). З *за ніц* 'за нішто'; *ніц* < польск. *nic* 'нішто, нічога'. Націск на першым складзе можа ўказваць на польск. паходжанне слова ў цэлым.

**Заніце́ць** 'стаць тонкім, кволым (пра расліны)' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, з *ніць* (гл.) 'стаць тонкім, як ніць' (параўн. *ніткаваты*).

**Зано́даць** 'змучыць' (Сл. паўн.-зах.). Ад *нодаць* 'псаваць' (Касп.). Параўн. *знодаць*.

**Зано́за** 'туга, жаль, сум' (Нас.), 'прут для замацавання ярма; кіёк для замацавання века на кубле','палачка для пляцення лапцей', 'стрэмка' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *зано́за* 'стрэмка', раст., дан., кур., арл., паўд.-зах. 'частка ярма', укр. *зано́за* 'кіёк для замацавання ярма', польск. дыял. *zanoza* 'затычка ў ярме', *zanozka, zanoże* 'тс'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *zanoziti* 'праткнуць, пракалоць' са спецыялізацыяй значэнняў; Шанскі, 2, З, 50. Значэнне 'туга' < 'тое, што баліць, трывожыць' < 'стрэмка'. У *za-noz-iti* той жа корань, што ў *нож, нізка* (гл.).

**Зано́рысты** 'пакручасты; дрэва, якое цяжка раскалоць' (Сл. паўн.-зах.). Магчымыя версіі: да *нора́ў*, г. зн. дрэва «з норавам»?, да *нора* 'дупло'?, да **норити* (гл. *ныраць*) 'дрэва, што было патоплена'? Няясна.



**Заняпа́д** 'упадак'. Укр. *занепа́д* 'тс'. Параўн. рус. бранск., смал., кур., арл. *занепасть* 'зрабіцца слабым, хваравітым'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова **занепадати, *занепад + + ти* > **занепасти*. Складанасць у сумяшчэнні значэння кораня *(пад-)* і кампанента *не-*, якое дае 'не падаць', што не адказвае сапраўднаму значэнню слова (прэфікс *за-* азначае пачатковы этап ці завяршэнне дзеяння, а таму ў гэтых разважаннях неістотны); параўн. рус. *за-не-мочь*. Калі ўлічыць наяўнасць рус. варонеж., бранск., кур., уладз., ярасл., кубан. *занапастить(ся)* 'мець напасці, г. зн. непрыемнасці; знікнуць, замучыць, страціць', відаць, трэба ўводзіць слова да **занапасти*, у якім потым адбылася ўзмацняючая народна-этымалагічная замена *на* > *не*: **занепасти*.

**Заня́так** 'справа; урок'. Ад дзеяслова **za(n)ę-ti* ўтварыўся дзеепрыемнік **zanęt-*, да якога далучаны суфікс *-ък-ъ*, у той час як рус., укр. формы *занятие (-я), заняття* утвораны з суф. **-ij-e*, як і ў польск. (без *-n-*, што ўстаўлялася пад уплывам прэфіксаў **sъn-, *kъn-*) *zajęcie* 'тс'. Аснова **za(n)-ę-* ўключае корань **ę-//*im-//*em-*; гл. *узяць, ёмкі* і інш.

**Запавет** 'наказ патомкам'. Укр. *запові́т* 'тс'. Параўн. ст.-слав. **заповѣдь** 'запаведзь', ст.-рус. *заповѣдь* 'запаведзь, запавет, забарона'. Зах.-рус. кантамінацыя *завет* і *запаведзь*. Параўн. рус. варонеж. *за́повесть* 'запавет', серб.-харв. *за̏повест* і славен. *zapovẹ̑st* 'загад, запаведзь' < *zapovědtь* з суфіксам *-tь*, як *vědtь* > *весць*. У *завет* (гл.) той жа корань, што ў *веча* (гл.), у *запаведзь — ведаць* (гл.) (< *vědati* > *po-vědati* > > *za-povědati* > *zapověd-ь*).

**За́пан** 'фартух' (Жд. 2, Мат. Гом.), *запо́н, запо́нка* 'тс' (Мат. Гом.). Рус. дыял. *за́по́н* 'фартух', укр. *запо́на* 'заслона; пакрывала; засцежка; перашкода', польск. *zapona* 'засцежка, заслона', чэш. *zápona, zápon* 'засцежка, заслона', славац. *zápona* 'засцежка, фартух', славен. *zapòn, zapôna* 'засцежка', серб.-харв. *за̏пон(а)* 'засцежка; затрымка'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова **zapenti* (> *zapęti*) з чаргаваннем *e/o*. *Za-pęti* — прэфіксальнае ўтварэнне ад *pęti* (гл. $пяць_2$, *апона*). Варыянты націску ў рус., бел. звязаны з наяўнасцю ці адсутнасцю дзеяння закона Шахматава ў розных дыялектах. Форма *запо́нка* мае суфікс *-к-а*, утворана пазней ад *запона*. Фасмер, 2, 78; Брукнер, 645.

**Запа́с** 'прыгатаванае на будучае'. Рус., укр. *запа́с*, польск. *zapas* 'тс'. Ст.-рус. *запасъ* 'запас' (XV ст.). Параўн. польск.

*zapas,* чэш., славац. *zápas* 'спаборніцтва', серб.-харв. *за̀пас* 'тое, што ахапляецца адным закідам мярэжы'. Балг., макед. *запас* 'рэзерв' (ваен.) < рус., БЕР, 1, 601. Серб.-харв. ад *за̀пасати* 'змяшчаць нешта вакол пояса' (гл. *пас*$_1$ 'пояс'), 'абкружаць'. Такога ж паходжання (ад 'брацца за пояс, пас') чэш., славац., польск. Махэк$_2$, 709, Брукнер, 645. Рус. *запас* Праабражэнскі (1, 242; 2, 22), як і *спасать, опасный,* звязвае з *пасти* (гл. *пасвіць*), таксама Фасмер, 2, 78. Шанскі (2, З, 52) удакладняе: ад *пасти* 'берагчы, захоўваць'. Гэта магчыма. Аднак нельга выключаць і паходжання ўсх.-слав. і польск. слоў ад таго ж кораня *пас* 'пояс': 'вогненны запас для агнястрэльнай зброі' (адно са старажытных значэнняў), як і *прыпас* 'тое, што знаходзіцца за поясам' з далейшым развіццём значэння. У карысць гэтага, між іншым рус. *запас* 'улоў з рыбалоўнай снасці' (Даль).

**За́паст** 'без перадышкі' (Сл. паўн.-зах.). Кантэкст прыкладаў у слоўніку не пацвярджае дакладнасці ўказанага значэння: «*Два дні запаст рубілі*». Не выключаны перанос ад **за-пост* 'загавіны' (*запусты*) > 'спачатку' ці скажэнне слова *запас* або польск. *zápas* 'запас', 'спаборніцтва'. Няясна.

**Запрэ́нткі** 'вельмі хуткі' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *za* 'надта' + *prędki* 'хуткі' (Сл. паўн.-зах., 2, 243). Відаць, да гэтага ж кораня і *запрэ́ндзіцца* 'ўздумаць', але прыклад «*Як яму запрэндзіцца, дык і загізуя*» (Сл. паўн.-зах.) можна тлумачыць інакш 'як яму заспяшаецца, дык і рване': ад *pręd-* утворана *prędzić* 'хутка рухацца, спяшацца', а потым дадаецца *-ца* < *się* і *за-* < *za-*.

**Зара́,** *зо́ры* 'яркая афарбоўка гарызонта пры ўсходзе і заходзе сонца', 'зорка'. Рус. *заря, зори* 'афарбоўка гарызонта', дыял. пенз., кур. *утренняя, вечерняя заря* 'планета Венера', укр. *зоря* 'зорка', 'афарбоўка гарызонта', польск. *zorza,* уст. *zarza,* н.-луж. *zořa,* в.-луж. *zerja* 'афарбоўка гарызонта', палаб. *zöri,* 'тс', чэш. *zora* 'зара', *záře, zář* 'святло', славац. *zora* 'афарбоўка гарызонта', славен. *zárja, zórja* 'тс', серб.-харв. *зо̏ра* 'тс', балг. *заря, зора̀, за̀ра* 'тс', макед. *зора.* Ст.-слав. **зарꙗ** 'святло, ззянне'. Ст.-рус. *заря, зара* 'святло, зара' (XI ст.). Таго ж і.-е. кораня, што *зрок, зрэнка* (гл.): **g'her-* 'ззяць, блішчаць'. Прасл. *zora, zara* (адкуль з суфіксам *-j-a: zarja* > рус. *заря* і інш.) мае роднасныя: літ. *žarijà* 'гарачае вуголле', ст.-прус. *sari* 'жар', літ. *žarà* 'зара', англ. *gray* 'шары'. Пра семантычнае адрозненне *зоря, заря* гл. Якабсон, Writings, 2, 628; Фасмер, 2, 81; Шанскі, 2, З, 61; Траўтман, 336; Покарны, 1, 441—442; БЕР, 1, 654—655; Скок, 3, 660; Махэк$_2$, 710. У зах.-рус. адбылася семантычная дыферэнцыяцыя 'зорка' і 'афарбоўка



неба', прычым першае значэнне замацавалася за лексемай бел. *зорка* (гл.), укр. *зірка.*

**Зара́д** 'пэўная колькасць выбуховага рэчыва ці электрычнасці'. Рус., укр., балг. (< рус.) *заря́д* 'тс'. Ст.-рус. *зарядъ* 'умова', 'колькасць дробу для выстралу' (XVII ст.). Утворана як бязафіксны назоўнік ад *зарядити* 'закласці боепрыпас' (XVII ст.), прэфіксальнага дзеяслова, ад ст.-рус. *рядити* 'рабіць, рыхтаваць, кіраваць' < *рядъ,* гл. *рад.* Шанскі, 2, З, 61. Словы гэтай мадэлі ў іншых слав. мовах маюць іншыя значэнні, напр. польск. *zarząd* 'кіраўніцтва', славен. *záred* 'парыў; маладняк', што зыходзяць з таго ж прасл. *rędъ.*

**За́раз** 'цяпер', дыял. *за́ра, за́рэ* (Сл. паўн.-зах.). Рус. дыял. *за́ра́з,* укр. *за́раз,* польск. *zaraz* 'тс', н.-луж. *zaraz* 'сабля, кінжал, нож', в.-луж. *zaraz* 'удар', чэш. *zaráz,* славац. *zaraz* 'цяпер', чэш., славац. *záraz* 'удар; ураженне'. Ст.-рус. *заразъ* 'адразу' (Курбскі). Націск указвае на магчымасць запазычання з польск., паколькі ў асноўным слова пашырана ў зах.-слав. мовах, дзе ўтворана з прыназоўніка *za* і назоўніка *raz* (гл. *раз*). Зыходнае значэнне 'за адзін удар, узмах' (Брукнер, 645). Параўн. яшчэ і польск. *teraz* 'зараз'.

**Зара́за** 'інфекцыя'. Рус., укр. *зара́за,* польск. *zaraza* 'тс', чэш., славац. *zárazа* 'паразітная расліна Orobanche', чэш. уст. 'заразная хвароба', серб.-харв. *за̑раза, за̀раза* 'інфекцыя', балг. *зара̀за,* макед. *зараза* 'тс'. Ст.-рус. *зараза* 'зараза' (XVII ст.). Параўн. ст.-слав. **заразити** 'перарваць, спыніць', ц.-слав., ст.-рус., ст.-бел. (з XV ст.) *заразити* 'паразіць' (у тым ліку хваробай). *Зараза* — бязафіксны наз. ад дзеяслова *заразити* (*за* + *разити* < *razъ,* гл. *раз*). Іншыя версіі (з ісп. < араб.-тур. ці арм. паралелямі) неверагодныя. Трубачоў, Доп., 2, 79; Шанскі, 2, З, 59; БЕР, 1, 607; Скок, 3, 116.

**Зарazíха** 'расліна-паразіт Orobanche L.' Рус., укр. *зарази́ха* 'тс'. Параўн. польск. *zaraza,* чэш., славац. *záraza* 'тс'. Паводле Махэка (Jména rostl., 217), чэш. з польск. Зважаючы на паразітны характар расліны, відаць, вытворны назоўнік з суф. *-іха* ад *зараза* (гл.).

**За́раць** 'прыстасаванне для сушкі бобу' (шчуч., Сл. паўн.-зах.). Параўн. *зарадзіць* 'закласці ў азярод': «*У зараць убіў калы і палажыў жэрдзя, і зарадзіў боп*» (Сл. паўн.-зах.), таму, відаць, *зарадзь.* Форма гэта — варыянт да *азярод* (рус. дыял. *зоро́д, за́род* 'сцірта сена, месца для захавання сена, прыстасаванне для сушкі сена', *зоро́дить* 'укладваць снапы ў зород'). Пра адлюстраванне розных ступеней аблаўта і іншыя гіпотэзы гл. *азярод.* Пачатковае *а-* мела прэфіксальны характар і магло адсутнічаць. Балт. паходжанне недастаткова аргументаванае для

*азярод* (Лаўчутэ, Сл. балт., 137), неверагодна для *зараць*. Бернштэйн (Фонетика, 152), відаць, справядліва гаварыў пра дублетнасць і.-е. *g'hord-/ghord-* і яго прасл. адлюстраванне *zord-/gord-*. Форма *зáрадзь* з націскам на першым складзе другасная: *zord-* > *зóрод-* > *зородúти* > *зарадзíць* > *зáрадзь*. Шахматаў (Очерк древн. периода, 153) адзначае, што, паколькі *зарод* мае *а* і ў окаючых дыялектах, магчымы ўплыў прэфікса *за-*.

**Зарóк** 'абяцанне не рабіць што-н.' Рус. *зарóк*, укр. *зарíк*, *зарóк* 'тс', серб.-харв. *зáрок* 'спрэчка, заклад'. Ст.-слав. **зарокъ** 'устанаўленне'. Ст.-рус. *зарокъ* 'запаведзь, урок, папрок, тэрмін'. Параўн. ст.-слав. **зарєщи** 'забараніць, загадаць'. Утворана як назоўнік на *-ъ* ад *зарекати* з чаргаваннем галоснага, магчыма, у ст.-слав. мове, адкуль у ст.-рус. (> рус., укр., бел.), дзе развіваецца менавіта ст.-слав. значэнне ў адрозненне ад серб.-харв., дзе значэнне 'забарона' архаічнае. Не выключана і самастойнае развіццё ўсх.-слав. слоў на што можа ўказваць рус. дыял. *зарок* 'фізічны недахоп у чалавека, жывёлы'; параўн. *парок*. Шанскі, 2, З, 60. Параўн. *папрок, рэч, урок*.

**Зарýка** 'гарантыя'. Рус. прастамоўн. *зарýка* 'падтрымка', укр. *зарýка* 'гарантыя, падтрымка', польск. *zaręka*, в.-луж. *zaruka*, чэш., славац. *záruka* 'тс', славен. *zarǫ̑ka, zaroka* 'заручаны', серб.-харв. *зâруке* 'заручаны'. Параўн. ст.-рус. *заручити* 'заверыць асабістым подпісам' (XVII ст.), ст.-бел. *заручити* 'заручыць' (Скарына). Бязафіксны прасл. назоўнік ад *zarǫčiti* (< *rǫčiti* < *rǫk-i-ti*, гл. *рука*) 'тое, за што (у чым) даюць руку'.

***Зарыць**, *зорыты* 'спаліць (на сонцы збожжа)' (кобр., Жыв. сл.), *зорытысь* 'даспяваць', 'загараць' (драг., Клім.). Рус. дыял. *зóрить* 'пакідаць на корані для даспявання, даспяваць'. Славен. *zoríti* 'рабіць спелым', серб.-харв. *зòрити* 'стаць спелым'. Ц.-слав. *зорити* 'даць даспець'. Таго ж кораня, што рус. *зреть* 'спець' з іншай ступенню чаргавання галоснага: **zьr-/*zor-* з і.-е. **g'er-* 'спець, старэць, церці': грэч. γέρων 'стары', ням. *Kerl* уст. 'стары чалавек', да гэтага ж кораня *зерне*. Старое значэнне захавалася ў *зорытысь* 'даспяваць', адкуль 'спаліць (тое, што раскладзена на сонцы для даспявання)'. Фасмер, 2, 104—105; Траўтман, 371—372; Покарны, 1, 390—391; БЕР, 1, 656. А. Ф. Жураўлёў (пісьм. паведамл.), указваючы на абрад выстаўлення зерня для даспявання пад свет зорак, дапускае магчымасць сувязі з *зорка, зорыць* (гл.).

**Зáсаб** 'разам'. Польск. *zasób* 'запас', 'залежы мінералаў', серб.-луж. *zasobu* 'хутка, адзін за адным', серб.-харв. *зáсоб, зàсобице* 'адзін за адным'. Ст.-рус. *засобь* 'зноў', 'асобна' (XVI ст.). Серб.-луж., серб.-харв., ст.-рус. > бел. словы ўказваюць на магчымасць яшчэ прасл. адвербіяльнага выразу *za sobь, za sobǫ* (параўн. *o-sobь* > ст.-слав. **особь**, гл. *асоба*), што складаўся з прыназоўніка *za* (гл. *за*) і каранёвага **sob-* (гл. *сябе*), прадстаўленага ў форме він. скл. ад формы назоўніка на **-ĭ: sobь;* першаснае значэнне захавана ў серб.-луж., серб.-харв.

**Засáда** 'скрытае месца; спосаб, людзі, што выкарыстоўваюцца для нечаканага нападу'. Рус., укр. *засáда* 'тс', польск. *zasada* 'аснова, прынцып', в.-луж. *zasada* 'аснова', 'усаджванне за кімсьці, чымсьці', чэш., славац. *zásada* 'аснова, прынцып', 'пастка', серб.-харв. *зâсада* 'прынцып', балг. *засàда* 'засада'. Ст.-рус. *засада* 'атрад войска для абароны ці нападу' (XVI ст.). Бязафіксны назоўнік з тэматычным *-а* ад дзеяслова *zasěsti* (< *za-sěd-ti*, гл. *сядзець*) і чаргаваннем галоснага з далейшай спецыялізацыяй значэння: 'месца і людзі, што сядзяць у гэтым месцы для нечаканага нападу' > 'спосаб такога нападу'. Лядзяева, Вестник МГУ, 1959, 4, 171; Шанскі, 2, З, 61.

**Засéк** 'месца для захавання збожжа, мукі ў свірне, клеці'. Рус. дыял. *зáсéк* 'тс', укр. *зáсік* 'тс', польск. *zasiek* 'тс', 'засека', чэш., славац. *zásek* 'засека', чэш. таксама 'ўдар тапаром; надрэз, зроблены такім чынам', славен. *zasèk* 'засека', 'удар тапаром', серб.-харв. *зáсек* 'надрэз', макед. *засек* 'тс', 'хвароба хатняй жывёлы'. Ст.-рус. *засѣкъ* 'засек' (XV ст.), ст.-бел. *засѣкъ* 'тс' (XVI ст.). Утворана ў прасл. ад *zasěkati, zasěkti*, (< *za-sěk-ti*, гл. *сячы*) са спецыялізацыяй значэння, першапачаткова, відаць, 'тое, што засякаецца' > 'агароджа'; параўн. *асек*. Параўн. XII научно-методич. конф. северо-западной зоны. Л., 1970, с. 91.

**Засéка** 'ўмацаванне з дрэў'. Рус. *зáсéка*, укр. *засíка*, польск. *zasieka, zasiek* 'тс', чэш. *zaseka, zásek*, славац. *zásek* 'тс', славен. *zasę̂ka* 'засека', 'зарубка на дрэве', серб.-харв. *зăсека, зâсека* 'засека', балг. *засèка* 'тс', макед. *засека* 'месца са ссечанымі дрэвамі ў лесе; нагрувашчаныя дрэвы для перашкоды'. Ст.-рус. *засѣка* 'абарончае збудаванне з дрэў' (XVI ст.). Прасл. *zasěka* бязафіксны назоўнік ад *zasěkati*, утворанага на базе *sek-ti*, гл. *сячы*, што атрымаў спецыялізаванае значэнне (Шанскі, 2, З, 61).

**Зáсень** 'месца, закрытае ад сонца', 'сенцы'. Рус. уладз., цвяр., пск., прыбалт. *зáсéнь*, серб.-харв. *зáсен* 'тс'. Ст.-рус. *засѣнь* 'ценістае месца' (XVI ст.). Усх.-слав. (а з улікам серб.-харв., магчыма, прасл.) назоўнік з прэфіксальным *за-* і каранёвым *сѣнь* (гл. *сенцы*). Значэнне у далейшым разгалінавалася.

**Засётак** 'загародка (па абодва бакі ёўні)' (Мат. Гом.).

Слова, відаць, звязана з *асець* (гл.); *ё* (як і ў *асётны*, Нас.) можа быць другасным. Мяркулава (Этимология, 1980, 87—89) звязвае з рус. пячорск. *осетоваться* 'пасяліцца' (тады, магчыма, і з *посетить*) і адабрае супастаўленне *асець* з лат. *sēta* 'агароджа, сялянскі двор'.

**Заскару́злы** 'шурпаты, закаснелы'. Рус. *заскорузлый* 'тс'. Параўн. укр. *заскору́блий, зашкарублий* 'тс', польск. *zaskorupieć* 'пакрывацца шкарлупінай; стаць цвёрдым, як шкарлупіна', *zaskorupiały*, серб.-харв. *заскору́пати(се)* 'пакрывацца шкарлупой'. *Заскарузлы* — элавы дзеепрыметнік ад **заскарузнуць* (< *за*+*скарузнуць*; Даль: *скору́знуть* 'сохнуць і пакрывацца трэшчынамі'). Дзеяслоў ад назоўніка таго ж кораня, што *скура, кара*, гл. Бел. форма, магчыма, з рус. Паходжанне *-уз-* няяснае. Шанскі, 2, З, 62.

**Заске́ма** 'клопат', 'чалавек, што перашкаджае', 'скупы' (Сл. паўн.-зах.). Аддзеяслоўны бязафіксны назоўнік ад **заскеміць* 'зашчаміць', гл. *заскеміцца*. Семантыка: 'клопат' < 'перашкода' < 'тое, што зашчамляе' > 'той, хто зашчамляе' > 'скупы'. Параўн. аднакарэннае *аскома* са значэннем 'прагнасць'.

**Заске́міцца** 'зажмурыцца' (Сл. паўн.-зах.). Зваротны да **заскеміць* варыянт да *зашчаміць* (гл. *шчаміць*). Семантычна сувязь празрыстая: 'заціснуць'. Захаванне *е* пад націскам можа тлумачыцца тым, што *е* < **ě*, тады *ск* захавалася, паводле гіпотэзы Якабсона (IJSLP, 1/2, 270), перад **oi* > **ě*. З тым жа коранем, відаць, *аскома* (гл.). Фасмер, 4, 502; Праабражэнскі, I, 662—663. У і.-е прадстаўлены розныя ступені чаргавання галоснага і розныя зычныя падаўжэнні кораня **skēi-* 'рэзаць, дзяліць'. Покарны, I, 919—922. Параўн. *аскепак*.

**Засклёп** 'запоўненыя мёдам соты, якія запячатаны воскам' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *за́склеп* 'пакрыццё скляпеннем', 'пабудова вусенем кокана' (Жэлях.), польск. *zasklep* 'воск, якім пчолы заляпляюць шчыліны ў вуллях, васковыя крышачкі ў сотах', 'кокан'. Бязафіксны наз. ад **zasklepti* (параўн. *засклёпіць, заскляпі́ць* 'запячатаць соты', 'склеіць', рус. кур. *засклёпи́ть* 'зрабіць скляпенне ў печы' і чэш., славац. адпаведнікі), утворанага з коранем **sklep-*. Гл. *склеп*.

**Заслóн₁** 'атрад для аховы галоўнай часткі войска'. Рус. *заслóн*, укр. *заслі́н, заслóн* 'тс', славен. *zaslòn* 'тое, што засланяе, заслона', серб.-харв. *за́слон* 'тс', балг. *заслòн* 'сховішча'. Ст.-рус. *заслонъ* 'заслонка' (XVI ст.). Сучаснае бел. *заслон* 'атрад', відаць, з рус., дзе адбылася спецыялізацыя значэння слова, утворанага як бязафіксны назоўнік ад *заслоняти* 'закрываць, прыкрываць'. Шанскі, 2, З, 62. Гл. *заслона*.



**Заслóн₂** 'лаўка'. Гл. *аслон, услон*.

**Заслона** 'тое, што прыкрывае, засланяе'. Рус. уст. дыял., укр. *заслóна*, польск. *zasłona* 'тс', чэш. уст. *zásłona*, сучаснае *záclona* 'заслона', славац. *zaclona*, в.-луж. *zasłona* 'тс', славен. *zaslǫ̂na* 'заслонка'. Ст.-рус. *заслона* 'ахова' (XVI ст.). Як і *заслон₁* (гл.), утворана як бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *zasloniti* < **za*+*sloniti*. Гл. *сланяцца, аслон*.

**Засмя́гнуць**, *засма́гнуць* 'звянуць, высахнуць'. Рус., кур., смал. *засмягнуть* 'пакрыцца гноем, каростай', 'высахнуць', бранск. *засма́гнуть* 'высахнуць', укр. *засма́гнути* 'загарэць (на сонцы)', 'запякацца; пакрывацца налётам ад смагі (пра губы)', чэш. *zasmahnouti* 'засмажыць да карычневага колеру'. Гл. *смягнуць, смага*.

**Заста́ва** 'месца ўезду ў мясцовасць і яго ахова'. Рус., укр. *застава* 'тс', укр. яшчэ 'залог; харугва', польск. *zastawa* 'заслон', уст. 'залог', 'сталовы прыбор', 'плаціна', серб.-луж. *zastawa* 'шчыт (у плаціне)', в.-луж. яшчэ 'залог', чэш. *zástava* 'залог', кніжн. 'сцяг, харугва', 'натуральная перашкода з дрэў, крыг і г. д.', славац. *zástava* 'сцяг', уст. 'залог', славен. *zastâva* 'сцяг', 'залог', 'укладка', серб.-харв. *за̏става, за̑става* 'сцяг', балг. *заста̀ва* 'застава', 'хмара, што закрывае сонца'. Ст.-рус. *застава* 'атрад, які ахоўвае войска на маршы ці на месцы' (XII—XV стст.), 'пост пры ўездзе ў мясцовасць' (XVI—XVII стст.). Утворана ў прасл. з тэмай *-а* ад дзеяслова *zastaviti*, прэфіксальнага вытворнага ад *staviti* (гл. *ставіць*) 'ставіць нешта на шляху, выстаўляць нешта' з далейшай спецыялізацыяй значэння ва ўсх.-слав. мовах (> балг.). Шанскі, 2, З, 63; БЕР, 1, 611.

**За́ступ** 'рыдлёўка, жалязняк'. Рус., укр. *за́ступ* 'тс'. Польск. *zastup* 'тс' (з рус.; Дарашэўскі, 10, 795), *zastęp* 'група людзей', 'ахоўны вал', серб.-луж. *zastup* 'уваход', чэш., славац. *zástup* 'мноства, група людзей, наогул нейкіх элементаў', славен. *zastòp* 'уваход', прадстаўніцтва', 'розум, сэнс'. Ст.-слав. **застѫпъ** 'дапамога, абарона; натоўп'. Ст.-рус. *заступъ* 'абарона' (XII ст.), 'рыдлёўка' (XVI ст.). Верагодна, што бел. і ўкр. *заступ* 'рыдлёўка' з рус., дзе значэнне тлумачыцца тым, што пры працы з гэтым відам лапаты на яе *наступаюць* нагой. Таму бязафіксны наз. ад *заступати* (гл. *ступаць*). Шанскі, 2, З, 66—67; Праабражэнскі, 2, 408.

**Засце́нак₁** 'месца жорсткіх катаванняў у Маскоўскай Русі' (> 'месца катаванняў'). Рус. *застéнок* 'тс', дыял. 'перагародка', 'месца каля дома', польск. уст. *zaścianek* 'засек', 'часовы карцэр, адгароджаны ў хаце'. Параўн. *засценок₂*, дзе іншыя

слав. адпаведнікі. Бел. *засцéнак*$_1$ з рус., дзе адбывалася семантычная спецыялізацыя на базе 'месца за сценкай', Шанскі, 2, З, 64.

**Засцéнак**$_2$ 'хутар дробнай шляхты, якая арэндавала землі, што не ўвайшлі ў сялянскія надзелы ў Рэчы Паспалітай пасля 1557 г.' Рус. смал. *застéнок* 'неакрэсленая мера плошчы', 'палоска нівы', валаг., смал. 'месца каля дома', польск. *zaścianek* 'вёска, хутар, у якой жыве дробная шляхта', чэш. *zástěnek* 'закутак, месца за сценкай, тэраса'. Ст.-рус. *застѣнокъ* 'частка царквы' (XI ст.), 'месца паміж дзвюма сценамі ўмацаванага горада' (XVII ст.). Значэнне *засценак*$_2$ указвае на польск. як крыніцу запазычання з далейшым падвядзеннем пад усх.-слав. мадэль (*ě > e*). Утворана, відаць, у зах.-слав. ад *stěna* (гл. *сцяна*) конфіксам *za- + -ъkъ (параўн. *завулак, засенак, закамінак, застрэшак*, Сцяцко, Афікс. наз., 237).

**Засцíгнуць** 'раптоўна захапіць, застаць'. Рус. *застигнуть*, укр. *застúгти, застúгну*, польск. *zaścignąć*, чэш. *zastihnouti*, славац. *zastihnúť* 'тс', славен. *zastígniti* 'дацягнуць', балг. *застúгна* 'дагнаць, застаць'. Ст.-рус. *застичи, застиг-* 'знайсці, застаць' (XVI ст.), ст.-бел. *застичи* 'тс' (Скарына). Прасл. прэфіксальны дзеяслоў. Прасл. *stignǫti* звязана (з чаргаваннем галоснага) з *сцёжка* (гл.), узыходзіць да і.-е. *steigh- 'ісці, падымацца', літ. *staigà* 'знянацку', лат. *stiga* 'след', ням. *steigen* 'уздымацца' і інш. Покарны, 1, 1017—1018; Фасмер, 3, 780.

**Зáсціць** 'затуляць, засланяць'. Рус. *зáстить*, укр. *зáстити, зáстувати* 'тс'. Параўн. чэш. *zastíniti*, славац. *zastienit'*. Ст.-рус. *застѣнити* 'загарадзіць'. Магчыма, ператварэнне *застѣнити* (Праабражэнскі, 1, 243; Фасмер, 2, 81); Развадоўскі (1, 243; Зб. Ягічу, 309) удакладніў: *засціць* < *zastьniti*; Шанскі (2, З, 65) як другаснае ад *застень* 'той хто залежыць' < 'цень'. Аднак і *zastěnь, stěnь* 'цень' не маюць дакладнай этымалогіі. Апрача літ.-ры, указанай у Шанскага, Фасмера, гл. яшчэ Аткупшчыкоў (Из истории, 237—238), які звязвае гэта слова з *stьg- (гл. *сцёжка*), *стѣна;* Махэк$_2$, 578 (*stín*) з *sěnь, těnь* (гл. *сенцы, цень*); Саднік — Айцэтмюлер, Handwört., 299; Эндзелін, Darbu, III, 2, 332.

**Зáтаўка** 'заправа з свінога сала'. Рус. смал., зах.-бранск. *зáтолка*, калуж., смал. *зáтолóка, зáтолоча* 'тс'. Параўн. *затаўчы* 'заправіць'. рус. смал., кур. *затолочь* 'тс', укр. *затóвкувати* 'тс'. *Зáтаўка* бязафіксны назоўнік ад *затаўчы* (< *za-tълk-ti), утворанага прэфіксам *за-* ад *таўчы* 'раздрабняць' (гл.), магчыма, яшчэ ў ст.-рус. мове. Радыёнава (УЗ Ленінгр. ПИ, 144, 283) тлумачыць бранск. *за-толк-а* 'тоўчанае свіное сала', дзе этымалогія актуалізуецца (Лекс. Палесся, 135).



**Зáтвералы** 'дыяфрагма (анат.)' (воран., Сл. паўн.-зах.). Паводле Грынавецкене і інш., з літ. дыял. *žutvèralaĩ (ažutvèralaĩ* ці *užutvèralaĩ)* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 258; Лаўчутэ, Сл. балт., 73). Трэба, аднак, улічыць ст.-польск. *zatwierać* 'зачыняць' кантамінацыя *zawierać, zatworzyć, otwierać*, на базе чаго магло ўтварыцца з суф. *-л-* слав. слова *zatwierała (затверáла);* параўн. *падмятала, танцавала* (Сцяцко, Афікс. наз., 48). Таму балт. паходжанне не абавязкова для тлумачэння, а паколькі агентыўнае значэнне, здаецца, больш тыповае для слав., а не для балт. утварэнняў, можа дапускаць дыял. бел. утварэнне (на базе запазычанага польск. дзеяслова) ці запазычанне з польск. дыял.

**Затвóр** 'канструкцыя для закрывання і адкрывання апаратуры' з рус. *затвор* 'тс'. Параўн. укр. *затвор* 'тс', польск. *zatwór* 'прыстасаванне для замыкання', чэш. *zátvor* 'прыстасаванне для закрыцця', 'зняволенне', славац. *zátvor* 'засаўка', 'забарона распараджацца маёмасцю', 'зняволенне', славен. *zatvór* 'замок, затвор у млыне', серб.-харв. *зáтвор* 'турма', 'закрыванне', балг. *затвóр* 'турма', 'частка агнястрэльнай зброі'. Ст.-слав. **затворъ** 'замок, засаўка'. Ст.-рус. *затворъ, затвора* 'замок, засаўка', 'асада, турма, прабыванне ў турме', 'дзверы, вароты'. Спецыялізацыя значэння адбывалася, відаць, у рус. мове, хаця агульная база яго была ўжо ў прасл. Прасл. *zatvorъ* утворана з чаргаваннем галоснага ад *zatverti*, дзе *-t-* адцягнена ад *otverti*, а корань *ver-* той самы, што ў *верая* (гл.). Фасмер, 2, 82; Шанскі, 2, З, 67—68.

**Зáтка** 'корак' (Сл. паўн.-зах.). Польск. дыял. *zatka* 'прылада ў ярме', чэш., славац. *zátka*, серб.-харв. *зȁтка*, балг. *зáтка* 'корак'. Параўн. і *зáтык* 'шпень' блізкага ўтварэння, а таксама *зáткала* (гл.). Прасл. *zatъka* — бязафіксны наз. ад дзеясловаў *za-tъk-nǫ-ti, za-tyk-a-ti* (гл. *тыкаць*). БЕР, 1, 613.

**Зáткала** 'затычка' (ТСБМ), 'мех з саломаю ці скрутак ануч, якім затыкалі дзірку для дыму ў курнай хаце' (Янк. II). Укр. дыял. уст. *заткало* 'тс' (Грынч., Жэлях.). Ад дзеяслова *заткаць (заткнуць, гл. тыкаць)* з суфіксам *-ла*. Параўн. *затка, затвералы*.

**Затóе,** злучнік 'аднак', 'таму'. Рус. *зато*, укр. *зате*, чэш., славац. *zato* 'тс', славен. *zatôje* < *za todje 'для таго', *zatô* 'таму', серб.-харв. *зȁто* 'тс', балг. *затовá, затýй* 'тс', макед. *затоа* 'таму'. Складаны злучнік з прыназоўнікам *за* (< *za*) і займеннікам *тое (to + je)*, гл. *за, той*. ESSJ, SGZ, 2, 757.

**Затóка** 'невялікі заліў'. Рус. смал. *затóка* 'багністы луг, месца, якое затапляецца паводкай', цвяр. *заток* 'заліў', укр. *затока* 'тс', польск. *zatoka* 'заліў', 'паглыбленне, паварот', чэш.,

славац. *zátoka* 'заліў', славен. *zatòk* 'невялікі заліў', 'пухліна', серб.-харв. *зȁтока* 'заліў', балг. дыял. *зáток* 'тс'. Ст.-рус. *затокъ*, *затока* 'тс' (XVII ст.). Прасл. бязафіксны назоўнік ад *za-tek-ti* (гл. *цячы*) з чаргаваннем галосных *e—o*. БЕР, 1, 613; Нітшэ, 297; Юркоўскі, Ukr. hydrogr., 85.

**Затóн** 'невялікі заліў, завадзь'. Рус., укр. *затон* 'заліў з мала рухомай вадой; завадзь', польск. *zatona* 'тс', н.-луж. *zatoń* 'бездань, яма ў вадзе, дрыгва', чэш. *zátoň*, *zátuň* 'заліў, мель', славац. *zátoň* 'ціхае месца', славен *zatòn* 'заход сонца', 'заліў', 'востраў', 'балота', серб.-харв. *зȁтон* 'заліў', балг. (у тапонімах) *затóн*. Ст.-рус. *затонъ* 'затон' (з XV ст.). Прасл. *zaton*, *za-topn-ъ*, відаць, ад *za-top-nǫ-ti*, магчыма, пры ўздзеянні *top-nja* > *тоня* (гл.) з першасным значэннем 'месца, што затапляецца'. Гл. *тапіць*, *тануць*. Фасмер, 2, 83; Шанскі, 2, З, 69; Аткупшчыкоў, Из истории, 234; Талстой, СГТ, 170; БЕР, 1, 613; Нітшэ, 297; Шутц, Georgaph., 83; Юркоўскі. Ukr. hydrogr., 85.

**Затóр**$_1$ 'скучанасць людзей, сродкаў транспарту, крыгі і выкліканая ёю затрымка руху'. Рус., укр. *затор*, польск. *zator* 'тс', славен. *zatór* 'пагібель, прыгнечанне', серб.-харв. *зȁтор* 'пагібель', макед. *затор* 'знішчэнне'. Ст.-рус. *заторъ* 'затор$_1$' (XVII ст.). Параўн. балг. дыял. *затра* 'згуба'. Прасл. *zatorъ* < <*za-ter-ti* (гл. *церці*) як бязафіксны аддзеяслоўны назоўнік з чаргаваннем галосных; першаснае значэнне 'тое, што трэцца'. Параўн. рус. *тор* 'дарога, людпае месца', *торить* 'пракладваць дарогу' (Фасмер, 4, 81). Гл. *затóр*$_2$.

**Затóр**$_2$ 'сумесь для браджэння пры вырабе гарэлкі, піва і г. д.' Рус., укр. *затор* 'тс', польск. *zacier*, уст. *zator*. Ст.-рус. *заторъ* 'затор' (XVII ст.). Бязафіксны назоўнік з чаргаваннем галоснага ад дзеяслова *za-ter-ti* (гл. *церці*) з першасным значэннем 'тое, што заціраецца' (параўн. *зацірка*) паўн.-слав. пашырэння. Гл. *затóр*$_1$.

**Затóрыч** 'выраз, паз, у які ўстаўляецца дно бочкі' (Мат. Гом.). Параўн. *утора* 'тс', рус., укр. *утор*, польск. *wątor*, чэш. *útor* і г. д. Прасл. *ǫtorъ*. Чэш. дыял. *zátor* 'падмыты бераг'. Форма *заторыч* пацвярджае корань *тор-* у слове *утора* (гл.); *тор-* суадносяць з *церці* < *ter-/ /tьr-* (Фасмер, 4, 175), прычым Махэк$_2$ (672) указвае, што ён меў значэнне 'рэзаць' (ст.-чэш. *tříti*). *Заторыч* утворана з суф. *-ыч* < *-ićь*, які далучаўся да аддзеяслоўнай з чаргаваннем галоснага асновы **zator-*. Час утварэння слова няясны. Параўн. *зачыр*.

**Затхлы** 'з пахам гнілі, нясвежасці'. Рус. *затхлый*, укр. *затхлий*, чэш. *zatchlý*, *zatuchlý* 'тс', славен. *zatǫhel* 'з пахам вільготнасці, сыры'. Ст.-рус. *затхлый* (XVII ст.), *затхліна*, *затхоль* (XVI ст.). Параўн. польск. *zatchnąć* 'рабіць цяжкім дыханне'. Дзеепрыеміiк на *-l-* ад дзеяслова *za-tъx-nǫ-ti* (*затхнуць*, гл. *тхнуць*) 'пачаць непрыемна пахнуць', магчыма, яшчэ прасл. паходжання. Параўн. Шанскі, 2, З, 70; Фасмер, 2, 83.

**Заўзяты** 'ўпарты, напорысты, напружаны'. Рус. *завзятый*, укр. *завзятий*, польск. *zawzięty* 'тс', славац. *zavzatý* 'тс'; параўн. славен. *zavzęten* 'дзіўны, цудоўны; цяжкі на пад'ём'. Паводле формы, дзеепрыметнік на *-l-* ад **za+vъz-ę-ti* (гл. *узяць*), утвораны хутчэй за ўсё на польск. глебе, дзе вядомае і цяпер *zawziąć* 'узяць' у ст.-польск. мела шырокае ўжыванне з далейшым развіццём значэння 'ўзяты' > 'захоплены' (у прамым і пераносным сэнсе) > 'упарты'. З польск. у бел., укр. > рус., а таксама славац. Фасмер, 2, 72; Брукнер, 640. Славен. мае іншае значэнне і ўтварэнне і можа лічыцца асобным словам.

**Заўсёды**, дыял. *заўсягдá*, *заўсягды* (Сл. паўн.-зах.). Рус. тамб., варонеж. *завсегды́*, дыял. *завсёгда*, *завсёгды*, *завсéгды*, *завсегды*, укр. *зáвжди*, дыял. *завсігди*, польск. дыял. *zawszegdy*, *zawszedy*, серб.-харв. *зȁсвагда*, *зȁсвакад(а)* 'тс'. Ст.-рус. *завсегда* (XV—XVI стст.). Параўн. польск. *zawsze* 'заўсёды', балг. *зáвсе* 'назаўсёды', рус. *всегда* і інш. З *za+vьsь-gъda* з тым, што другі элемент, можа, меў форму **vьse*, а трэці — *gъdy*, дзе *za* прыназ. (гл. *за*), *vьsь* займеннік (гл. *увесь*), а кампанент *gъd-* азначаў у шэрагу прыслоўяў і прыназоўнікаў час (гл. яшчэ *тады*) і, магчыма, суадносіцца з *год* (гл.) ці шэрагам і.-е. слоў, што маюць знач. 'калі': ст.-інд. *kadā́*, літ. *kadà*, лат. *kad*, ст.-прус. *kaden*. ESSJ SG, 2, 748—750; Фасмер, 1, 362—363; Траўтман, 111; Тапароў, I — K, 117—119; Шанскі, 2, З, 21; Шуба. Прыслоўе, 60.

**Зáўтра**, *зáўтрае* 'ў наступны дзень'. Рус. *зáвтра*, дыял. *зáвтро*, *зáвтре*, *зáвтрее*, *зáвтрие*, укр. *зáвтра* 'тс', в.-луж. *zajutřa* 'раніцой', н.-луж. *zajtša*, *zajtšo* 'раніцой; заўтра', палаб. *zojautra/zojaitra*, *jautra* 'тс', чэш. *zítra*, *zejtra*, славац. *zajtra*, славен. *zȃjtra*, серб.-харв. *зȁјутрађе* 'тс', макед. *заутре* 'паслязаўтра'. Ст.-слав. **заоутра** 'заўтра'. Ст.-рус. *заутра*, *завтра*, *заутро* 'заўтра, з раніцы' (XIV ст.). Прасл. *za*+р. скл. *utro*: *zautra* ці *utrije*(<*utr+ij-e*): *zautrija* з пэўнымі фанетычнымі зменамі (*u* > *ў*) і кантамінацыяй абедзвюх форм у *заўтрае*. Праабражэнскі, 1, 240; Фасмер, 2, 73; Шанскі, 2, З, 21—22; Махэк$_2$, 707; Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 395. Прасл. *utro*, *jutro* 'раніца' не мае агульнапрынятай дакладнай этымалогіі (параўноўваюць з літ. *aušrà* 'зара' і з шэрагам інш. і.-е. слоў, аднак недастаткова абгрунтавана). Гл. Фасмер, 4, 176.

**Зáўтрік** 'снеданне' (Бяльк.). З рус. *завтрак* 'тс', якое разгля-

даецца як другаснае значэнне слова, што першасна азначала 'тое, што будзе пасля раніцы *(утра)*'. Шанскі, 2, 3, 22. *Завтрак* са ст.-рус. *заутрокъ, завтрокъ* ад *заутра* (гл. *заўтра*). Фасмер, 2, 73; Булахоўскі, Вибр. пр., 3, 357; Лекс. Палесся, 91.

**Заўфа́ны** 'шустры' (ашм., Сл. паўн.-зах.). Сем. развіццё запазычанага з польск. *zaufany* 'заслугоўваючы давер'я' > > 'хутка выконваючы даручанае' > 'хуткі', 'шустры' (з *ufać* 'давяраць' < *upъvati* > рус. *уповать;* Брукнер, 592; Фасмер, 4, 164). Гл. яшчэ *зухвал.*

**Заўча́сна**, дыял. *заўча́су* (Сл. паўн.-зах.). Укр. *завчасно, завчасу,* польск. *za wcześnie, zawczas(u),* чэш. *zavčasu* 'заўчасна'. славац. *zavčas(u)* 'хутка', н.-луж. *zawcasa* 'своечасова, рана'. *Заўчасна* ад прыметніка *заўчасны,* утворанага з прыслоўя (ці прыслоўнага выразу) *заўчасу (za+vъ-čas-u)* ці *za+vъ-časъ;* параўн. *у час* 'своечасова'. Пашырэнне на зах.-слав., бел. і ўкр. тэрыторыях можа тлумачыцца ці як агульная інавацыя для моў, у якіх *час* (гл.) атрымала значэнне 'tempus' у адрозненне ад моў, дзе гэту функцыю маюць словы тыпу рус. *время* (параўн. *вовремя, заблаговременно*), альбо як запазычанне ў бел. і ўкр. з польск., дзе зах.-слав. форма. У карысць апошняга можа сведчыць выкарыстанне *за* ў знач. 'надта'. Брукнер, 646, 73.

**Заўчора** 'два дні таму назад'. Рус. дыял. *завчера, завчёра* 'тс', польск. *zawczora(j),* славац. *zavčerom,* в.-луж. *zawčerawšim,* балг. *за́вчера,* макед. *завчара* 'тс'. Спалучэнне прыназоўніка *за* і прыслоўя *ўчора* (гл.). Шуба, Прыслоўе, 162.

**За́ўшэ,** *завша* 'заўсёды' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zawsze* 'тс', *zawszegdy* (той самай структуры, што *заўсёды,* гл.).

**За́хад** 'захад сонца, іншых свяціл; краіна свету'. Рус. *заход* 'захад сонца, свяціл', укр. *за́хід* 'тс', *за́хід* 'краіна свету', польск. *zachód* 'час захаду сонца, краіна свету', 'клопат', н.-луж. *zachod* 'мінулае', в.-луж. *zachod* 'увахол', чэш. уст. дыял. *záchod* 'захад (сонца)', чэш., славац. *záchod* 'туалет', славен. *zahòd* 'захад (сонца), краіна свету', 'абход', 'клазет', серб.-харв. *за̏ход* 'захад (сонца), краіна свету', 'клазет', балг. *за́ход* 'увахол', 'клазет'. Ст.-слав. **заходъ** 'захад сонца', 'клазет'. Ст.-рус. *заходъ* 'захад сонца', 'клазет'. Бязафіксны назоўнік, суадносны з *ходъ* (гл. *ход*), утвораны, відаць, з чаргаваннем галоснага ад дзеяслова *za-xed-ti* (*x* < *s* пасля *i, u, r* у прэфіксах *pri-, u-, per-,* а потым *x* > *š* перад *e: za-šed-ti;* параўн. рус. *зашедший, восшествие*). Знач. 'краіна свету', магчыма, замацавалася пад польск. уздзеяннем. Брукнер, 181; Фасмер, 4, 252—253; Шанскі, 2, 3, 72, 73.



**Захалу́жжа** 'закутак' (Мат. Гом.). Параўн. рус. *захолустье,* дыял. валаг. *захалу́зье,* цвяр. *захолужье.* Конфікс *za-+-ije* з коранем *xalǫg-* (гл. *халуга*) дае *za-xalǫz-ije,* адкуль *захалужжа.* Фасмер, 2, 83; Шанскі, 2, 3, 73; Львоў, ЭИРЯ, 1, 32.

**За́хва** 'прыстасаванне для прымацавання лодкі падчас рыбалкі (калы, убітыя на глыбокім месцы ракі)' (Касп.). З суфіксам *-ва* ўтвараюцца некаторыя назвы месц, прылад: *пратва* 'месца для прання', *брытва, кочва* 'выкачанае месца' (Сцяцко, Афікс. наз., 34). Аднак элемент *зах-* не тлумачыцца. Магчыма, тут сувязь з *захватваць* (як *пошва* 'навалачка' з *пашыць, пашываць*), менш верагодна сувязь з *захаваць.* Няясна.

**Захлупіцца** 'захлынацца' (Янк. II). Рус. *захлупить* 'закрываць', *захлупаться* 'заблытацца', славен. *zahlúpniti* 'задыхнуцца (парай)', балг. *захлупям, захлупвам* 'накрыць, закрыць'. Параўн. славац. *zachlipnat'* 'захлынацца'. Наўрад ці выклікае сумненні сувязь з *захлынацца, хлынуць.* Не абгрунтоўваецца семантычна сувязь з *хлупы* 'пахілы' (гл.). Параўн. славен. *hlûp* 'пара, смурод', *hlópati* 'дыхаць з цяжкасцю'. Няясна.

**Захлына́цца.** Рус. зах.-бранск. *захлыну́ться,* укр. *захлина́тися* 'тс', славен. *zahlíniti* 'тс', *zahlípiti* 'зрабіць так, каб захлынуўся'. *За+хлын-а-цца,* гл. *хлынуць* 'ліцца', адкуль 'заліцца'? Параўн. славац. *zachlipnút' si* 'захлынуцца', рус. *захлебнуться* 'тс', польск. *zachłysnąć się* 'тс', *захлупіцца.* Хаця сувязь з *хлынуць* наўрад ці выклікае сумненні, наяўнасць шэрагу паралельных утварэнняў патрабуе далейшага ўдакладнення кораня. Гл. Фасмер, 4, 247.

**Захля́нуць** 'пахудзець' (Касп.). Рус. варонеж., зах.-бранск., дан. *захлять* 'стаць хваравітым, спакутаваць', укр. *захля́нути, захля́ти* 'аслабець, пахудзець', польск. дыял. *zachlać* 'аслабець ад п'янства' (параўн. *chlać* 'піць (гарэлку)'), *zachłysnąć się* і да т. п., гл. *захлынацца.* Паколькі *хлынуць* і *хлянуць* блізказначныя, звязаныя праз значэнне 'цячы' *(«хлянула кроў з носа»,* Нас.), магчыма, 'аслабець' не толькі ад п'янства, але і ад крывацёку і г. д. Няясна. Гл. *хлянуць.*

**Захмандра́ць** 'запэцкаць' (Нас.). Няясна. Ці не памылка чытання, замест *захлюндраць: хлюндра* 'неахайны чалавек (жанчына)' фіксавалася неаднаразова (Нас., Касп., Шат., Яўс.; навагр., З нар. сл.; в.-дзвін., Шатал.) і этымалагізавалася (Шат., 295) з польск. *flondra, flundra.* Насовіч дае *хлюндрыць* 'пэцкаць', вытворнае ад *хлюндра.*

**Захухмо́леўшы** 'маркотна, самотна' (Жд. 2). Параўн. чэш. *zachumlati* 'схавацца', славац. *chuchma* 'дурная, бесталковая жанчына'. Няясна.

**Заца́мар** 'від малатка' (Сл. паўн.-зах.). З ням *Satzhammer* 'тс'.

**Заці́нглівы** 'наравісты'(Сл. паўн.-зах.). З бел. афіксацыяй да запазыч. асновы *цінг-* (<літ. *tingùs* 'гультаяваты'), на што ўказвае выбухное *г* (Сл. паўн.-зах., 2, 266).

**Заце́й,** *зацёй* 'падахвочванне' (Нас.). Рус. *затея,* уст. *затей,* пск., смал. *затев,* укр. *затія,* уст. *затіва* (Грынч.). Ст.-рус. *затѣй, затѣя* (XVII ст.). Утворана бязафіксным шляхам у ст.-рус. ад *затѣяти, затѣвати* (XVI, XVII стст.), прэфіксальнага да **тѣвати* (параўн. *выцяваць* 'выдумляць', *выцяванне* 'выдумка', Нас.). Корань параўноўваюць з *таіць* (гл.) са зменай *ai — ě* (Гараеў, 114; Ілліч-Світыч, ВЯ, 1959, 2, 7—8) з лат. *tĩtît* 'злаваць, раздражняць', *titinât* 'тс' (Мюленбах — Эндзелін, IV, 207—208; Фасмер, 2, 82) ці разглядаюць як пераафармленне *дѣяти* (Гараеў, 114; КЭСРЯ, 159). Першая гіпотэза здаецца больш пераканаўчай.

**Зацяць** 'заціснуць, сцяць'. Рус. бранск., *затя́ть* 'сціснуць вусны, сцяўшы зубы'. Гл. *цяць* (Нас.).

**За́чы** 'завочна' (Нас.). З **за очи* са сцягненнем галосных.

**Зачы́р** 'паз у ніжняй частцы бочкі, цэбра' (гродз., З нар. сл.). Паводле формы, бязафіксны наз. ад дзеяслова *зачырыць* (Касп.), *зачырці.* Знач. кораня *чыр-* павінна быць 'рэзаць'. Сапраўды, у Насовіча маем *чыркаць (нажом)* 'рэзаць', *чыркануць* 'рэзануць'. Гэта, відаць, варыянт і.-е. кораня **(s)ker-* 'рэзаць' (Покарны, 1, 938 і наст.), да якога з рознымі чаргаваннямі ўзыходзяць, магчыма, *куртаты, курносы, чарот* (гл.), рус. *черта, чертить,* літ. *kertù, kir̃sti* 'сячы, ударыць' і які мае тут форму *čir-* (параўн. *čersti,* Трубачоў, Эт. сл., 4, 75—76); гл. яшчэ Фасмер, 4, 349.

**Зашабасце́ць** 'зашумець' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *шабасцець.*

**Зашквірэ́цца** 'заплакаць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *шквірэцца.*

**Зашкру́мгацца** 'зашавяліцца' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *шкрумгацца.*

**Зашля́паць** 'наслядзіць' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *шляпаць, шлёпаць.* Рус. *зашаляпать* 'пачаць ісці па гразі'.

**За́шчык** 'укол' (Сл. паўн.-зах.; смарг., Нар. словатв.). З польск. *zastrzyk* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 272).

**За́шчыт** 'франтон' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. ст.-польск. *zaszczyt* 'заслона'. Бел. рэгіянальнае слова, відаць, з польск. Корань гл. *шчыт.*

**Зашчы́та** 'абарона; абаронца' (Сл. паўн.-зах.). З рус. *защита* 'абарона' (*за+щит-и-ти,* адкуль бязафіксным шляхам *за+ +щит+а*) Гл. *шчыт.*



**Зашыпу́ліць** 'засмеціць' (воран., Сл. паўн.-зах.). Суфіксальна-прэфіксальны дзеяслоў, утвораны ў сувязі з асновай *шыпул-,* запазычанай з літ. *šipulỹs* 'трэска' (Сл. паўн.-зах., 2, 273).

**Заю́ха** 'нервовы чалавек' (Касп.). На базе дзеяслова **заюшыць* і прыметніка **заюшны* (гл. *заюшна*) з уяўным суфіксам *-уха* і далейшай зменай значэння 'люты чалавек' > > 'нервовы чалавек'. Суфікс *-уха* ўтварае асабовыя назоўнікі ж. і агульн. р. ад прыметнікаў і назоўнікаў: *таўстуха, праступха, змяюха, бабуха* 'някемлівы чалавек' (Сцяц., Афікс. наз., 124, 175).

**Заю́шна** 'заўзята' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *заюшитися* 'станавіцца лютым', *заюшити* 'паліцца (пра кроў)', польск. *zajuszyć* 'заліць крывёй, раздражніць, раздражніцца', ст.-польск. *zajuszyć* 'раз'юшыцца', *zajuszony* 'раз'юшаны, н.-луж. *zajušyś* 'запэцкаць гнаявой жыжкай (юшкай)', чэш. *zajíšiti* 'развесці юшкай'. Параўн. *юшыць* 'біць па вушах' (Нас.). Відаць, зыходным трэба лічыць *юшка* 'кроў' <'жыжка', 'суп', вядомае шэрагу слав. моў, а не *ихо* 'вуха', дзе звычайна пратэтычнае *v-,* а не *j-.* Ст.-польск. *juszyć* 'крываваць' добра перадае пераходную семантычную ступень, адкуль і *zajuszyć.* Паколькі чэш. і серб.-луж. маюць іншую семантычную спецыялізацыю гэтага дзеяслова, можна меркаваць, што бел. і ўкр. словы з польск., прычым адрыў ад грунту вёў да далейшай спецыялізацыі значэння: 'ударыць да крыві' > 'станавіцца лютым'. На базе дзеяслова **заюшыць* утвараўся дзеепрыметнік *заюшаны,* як і *раз'юшаны* ад *раз'юшыць.* Гэты дзеепрыметнік мог потым фанетычна змяніцца ў *заюшны* ў выніку страты ненаціскнога *а,* адкуль і прыслоўе. Не выключана і прамое ўтварэнне прыметніка ад дзеяслова. Гл. *заюха.*

**За́ядзі** 'мыт' (Сл. паўн.-зах.). Рус. наўг. *заеди* 'астаткі ежы ў кутках рота', 'мыт', іван. *за́едень,* самар., урал. *за́едни,* урал., краснаяр. *за́еды,* наўг. *заеды* 'мыт', наўг., алан., чаляб. *за́едь* 'камень на зубах у каня', укр. *заї́ди* 'мыт'. Магчыма узвесці ўсх.-слав. слова (**за-ѣд-* з рознымі фармантамі: *-а, -ь, -ьнь*) да дзеяслова *заѣд-а-ти* (з коранем *ѣд-,* гл. *есці*) паводле ўяўлення пра паходжанне 'мыта' ад 'заядання'. Параўн. блізкае структурна славен. *zajêd(a)* 'заліў, грот' на базе пераносу значэння дзеяслова. Параўн. яшчэ літ. **žaizdà* 'рана' <**žaidda* (Буга, Rinkt., 1, 292; Фрэнкель, 1285; Покарны, I, 425, усе без слав. паралелей), што, аднак, няпэўна, бо пры суадноснасці з і.-е. **g'hei-* чакалася б **zajьd-* ці **zěd-,* а не

*za(j)ěd-*. Да семантыкі гл. яшчэ Аткупшчыкоў. Зб. памяці Ларына, 206.

**За́яц**$_1$ 'звярок сямейства Leporidae', *заю́к, за́йка* (Нас.). Рус. *заяц, зайка*, дыял. пск. *зай*, укр. *заєць*, польск. *zając*, в.-луж. *zajac*, н.-луж. *zajec*, палаб. *zojąc*, чэш. *zajíc*, славац. *zajac*, славен. *zȃjec*, серб.-харв. *зе̑ц, за̏јко*, балг. *за́ек*, дыял. *за́як, за́енц, за̀ец, зайц, заяц, зек, зак, зо́ек, за́йо, зае́*, макед. *зајак*, дыял. *заек*. Ст.-слав. **заѩць** 'заяц'. Ст.-рус. *заяць, заець* (XI ст.) 'заяц'. Прасл. аснова **zaj-*, да якой дадаваліся розныя суфіксы: *-ęсь* (як у *месяц*) > *-яц,-ikъ, -ьk-a* і інш. Шанскі, 2, 3, 75. Махэк$_2$, 709 (за ім Голуб — Копечны, 430; Скок, 3, 647—648), звязваў гэту аснову з *ззяць*$_2$ (гл.) паводле адкрытых *(ззяючых)* вачэй, што недастаткова абгрунтавана. Верагодна роднаснае літ *zuĩkis*, лат. *zaķis* 'заяц' бел. *зайка*. Фрэнкель, 1281. Праз першапачатковае значэнне 'скакун' звязваюць з і.-е. **g'hei-* 'жвава рухацца' (Покарны, I, 424—425, без слав. прыкладаў): літ. *žáidžiu, žáisti* 'скакаць', ст.-інд. *háyaḥ*, арм. *ji* 'конь'. Праабражэнскі, I, 244; Фасмер, 2, 84; Саднік — Айцэтмюлер, Handwört., 336. Агляд іншых гіпотэз гл. у Фасмера. Канчатковага этымалагічнага рашэння яшчэ няма.

**За́яц**$_2$ 'безбілетны пасажыр'. Рус. *заяц*, укр. *заєць* 'тс'. Згадка ў трылогіі Коласа: *«зайцаў»*, як іх там называлі (чыгуначнікі), як і аналагічнае ўжыванне ў Чэхава, указвае, што перанос назвы жывёлы (гл. *за́яц*$_1$) на безбілетніка замацаваўся каля пералому XIX—XX стст. Паводле Фасмера (2, 84), па прымеце жвавасці, а магчыма, і па прызнаку палахлівасці (да рэчы абедзве гэтыя прыметы сталі асновай для пераносу *сонечны зайчык* у бел., рус., укр., польск.). Наогул перанос назвы *заяц* на чалавека вядомы ў розных мовах, але не ў значэнні, 'безбілетны пасажыр, наведвальнік'.

**Зба́бець**, *зба́біць* 'звянуць' (Сл. паўн.-зах.). Ад *ба́бець* 'маршчыніцца, карабаціцца' (гл.) з прэфіксам *з-*.

**Збабэ́ніць**, *збаба́ніць* (Сл. паўн.-зах.), *збабэнчыць* (слонім., Нар. лекс.) 'ударыць'. Польск. *zbębnić* 'склікаць шляхам удару ў бубен, гонг', уст. 'ударыць' (Sł. Wil.). Відаць, *збэбніць* < < польск. з далейшымі зменамі ў фанетыцы. Параўн. *бэбушыць*.

**Збавёны** 'святы' (Нас.). З польск. *zbawiony* 'выратаваны', 'блажэнны'. Гл. *збаўляць*.

**Збае̄даць** 'згубіць', брэсц., капыл. *збіёдаць* (Янк. Мат., Жыв. сл., Нар. лекс.), *збаёдаваць* 'сапсаваць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. бранск. *збеёдавать* 'згубіць, знішчыць'. Параўн. *байдосаваць* 'біць байды', 'займацца глупствам' (Нас.), *байдосіць* 'біць' ад *байда* 'паля' (гл.). Польск. *bajda, bajęda* 'несур'ёзнае апавяданне'. Гл. *байды біць;* параўн. *байда* 'хлусня', *байдзіць* 'страшыць' (Сл. паўн.-зах.). Можа, 'зрабіць байду, г. зн. нявартую рэч' > 'сапсаваць'. Няясна.



**Збамбе́рыць** 'падняць вялікае, цяжкае (на плечы, воз)', 'успухнуць' (Сцяц.), *збабэнчыць* 'ускінуць на плечы', 'уздуць (пра жывот)', *збэнчыць* 'успучыць' (Сл. паўн.-зах.), 'уздуцца, узлавацца' (слонім., Нар. лекс.). Наўрад ці трэба аддзяляць ад *бамбэлак* 'жывот, барабан' (гл.), 'надзьмуты мачавы пузыр жывёлы' (Сл. паўн.-зах.), польск. *bąbel* 'пухір, уздуцце', адкуль дакладна бел. *бомбаль* 'пузыр' (ваўк., даецца паводле Лаўчутэ, Сл. балт., 62). Суадноснасць бел. слоў магчыма з-за экспрэсіўнага характару, але няпэўная. Лаўчутэ (Сл. балт., 98) *збамбэрыць* лічыць запазычаннем з балт. слова з коранем **bamb-* (параўн. літ. *bam̃bti* 'таўсцець, пухнуць, надувацца'), што не выключаецца, але хутчэй як крыніца кантамінацыі. Больш цяжка растлумачыць бел. значэнне 'падняць', якое, як і 'ўздуцца', аб'ядноўвае абодва дзеясловы. Да гэтых цяжкасцей дадаецца яшчэ *абамбе́рыць* 'дрэнна пастрыгчы' (гл.), *узбамберыць* 'залезці, набіць' (слонім., Жыв. сл.), адкуль, відаць, і *збамберыць* 'падняць'. Магчыма, знач. 'падняць' трэба выдзеліць. *Абамберыць* 'пастрыгчы нагала' (жыт., Жыв. сл.), можа, да значэння, 'пухнуць' > 'пухір' (параўн. *бамбэлак*). Няясна.

**Збан**, *жбан* 'гліняная пасудзіна'. Рус. *жбан*, укр. *дзбан, збан*, польск. *dzban*, чэш., славац. *džbán* 'тс', серб.-харв. *жба̏н, жба̏њ* 'драўляная пасудзіна', балг. *джиба́н, джуба́н* 'тс'. Ст.-рус. *жбанъ* (XVII ст.). Ц.-слав. *жбаньць, чбанъ, чванъ* (Міклашыч, Lex. palaeosl.). Ст.-бел. (1582 г.) *збанокъ (< збанъ)*. Параўн. ст.-рус. *чьванъ* (1119 г.), *чьбанъ* (1144 г.), ст.-чэш. *čbán, dčbán, žban*, ст.-польск. *czban, dzban, zban*. Прасл., верагодна, **čьbanъ*. Зыходная форма пацвярджаецца венг. *czóban* 'драўляная пасудзіна для піцця', якое лічаць запазычаным са слав. (Бернекер, I, 165; Скок, 3, 672; параўн. MESz, I, 545). **Čьbanъ* нельга адрываць ад групы слав. слоў, прадстаўленых бел. *цабэрак* (гл.). **Čьbanъ* пры выпадзенні *ь* і азванчэнні *č* перайшло ў *džbanъ*, адкуль *жбан*. Форму *dzban* Слаўскі (I, 188) лічыць вынікам мазурэння. Тады бел. і ўкр. *збан* з польск. Для **čьbanъ* Фасмер (2, 3—37) схільны прыняць сувязь з літ. *kìbti* 'вісець' (*збан* быццам бы 'пасудзіна для вісення'), што адкідваў Бернекер, I, 165. Младэнаў (РФВ, 62, 261) параўноўваў з грэч. *κύμβη* 'чаша, човен', лац. *cumba* 'човен', ст.-інд. *kumbhás* 'гаршчок' і інш. (і.-е. **kum-bh*, варыянт **keu-bh*, да якога *кубак*, Покарны, I, 591). Гэта

асцярожна прымаюць Шанскі, 1, Ж, 278—279; Праабражэнскі, 1, 223; БЕР, 1, 361—362. Слаўскі (1, 187—188) параўноўвае з літ. *kibìris* 'вядро', лат. *ciba* 'драўляная пасудзіна', што прымае Шанскі. Махэк$_2$ (138) параўноўвае з грэч. ἴβανος 'збан'. Голуб — Копечны (112) параўноўваюць (наўрад ці абгрунтавана) з *карчма* (і ст.-рус. назвай пасудзіны *корчага*) і пішуць пра манг. крыніцу (якую?). Этымалогія Ільінскага (AfslPh, 34, 4) *čьbanъ* < **bъčьvanъ* аднадушна адкінута. Думка Аткупшчыкова (Из истории, 174—175) ст.-рус. *чь-б-анъ* суадносіцца з і.-е. коранем **(s)ker-* 'рэзаць', цікавая семантычна, патрабуе абгрунтавання і тлумачэння *-b-*. Іншую літ-ру гл. у Фасмера, Скока. Няясна.

**Збанітава́ць** 'зняважыць, аблаяць' (Сл. паўн.-зах.). Ст.-бел. *банитовати* 'выганяць', ст.-польск. *banitować* 'тс' (Булыка, Запазыч., 36); прэфіксацыя *з-(<*jьz-)* фактычна паўтарае ўжо наяўную ў корані семантыку. Польск. *banita* 'выгнанец' < < с.-лац. *bannitus* 'прыгавораны на выгнанне' (SWO, 68).

**Збаўля́ць** 'вызваляць, ратаваць' (Нас.). Рус. *избавлять* 'тс', укр. *збавляти* 'змяншаць, траціць', параўн. *вибаваляти* 'ратаваць', польск. *zbawiać* 'вызваляць, ратаваць', 'адабраць', чэш. *zbaviti*, славац. *zbavit'*, славен. *izbáviti*, серб.-харв. *ѝзбављати*, балг. *избàвям*, макед. *избави*. Ст.-слав. **избавлꙗти**. Ст.-рус. *избавляти*. Ст.-бел. *избавляти*, *збавляти* (Скарына). Параўн. ст.-бел. *выбавити* (Скарына). Наяўнасць паралельнай формы з *вы-* дае падставу лічыць рус. *избавить* стараславянізмам (Шанскі, 2, И, 19). Узвышаная семантыка, чаргаванне *збавіць* — *збаўляць* у карысць ст.-слав., а не польск. паходжання бел. лексемы. Разам з тым нельга выключыць агульнаслав. і прасл. характар лексемы. *Jьz-bav-i-ti* — прэфіксальнае ўтварэнне; *bav-* — каўзатыў да *byti*. Гл. *бавіцца*, *быць*, Саднік — Айцэтмюлер, Handwört., 219—220; БЕР, 2, 16; Саднік — Айцэтмюлер, 1, 101.

**Збло́ціць** 'змучыць, зняважыць' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zbłocić* 'запэцкаць балотам, граззю', прэфіксальнага адназоўнікавага дзеяслова да *błoto* 'гразь'; гл. *балота*.

**Зблы́ндацца** 'ўступіць у любоўную сувязь' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *блы́ндаць* 'бадзяцца' з тлумачэннем праз лат. *bliñda* 'бадзяга, валацуга'. Але прыведзенае значэнне таксама нагадвае польск. *błądzić* 'блудзіць', якое магло ў сувязі з экспрэсіўным значэннем змяніцца па форме. Параўн. яшчэ *блэ́ндаць*.

**Збо́жжа** 'хлебныя расліны, зерне'. Рус. зах., паўд., бранск. *сбожье*, *збо́жье* 'тс', укр. *збіжжя* 'тс', 'маёмасць', польск. *zboże* 'збожжа', в.-луж. *zbožo*, н.-луж. *zbóžo* 'шчасце, дабрабыт', чэш. *zboží* 'тавар, маёмасць', дыял. 'збожжа', славац. *zbožie* 'збожжа'. Ст.-бел. *збоже* (Александрыя). Ст.-укр. *збожє* (XV ст.). Паўн.-слав. *sъbožьje* параўноўваюць са ст.-інд. *subhágas* 'які прыносіць шчасце', авест. *hubaγa* 'шчаслівы'. Фасмер, 2, 84—85. Брукнер (647) лічыць, што ўкр. < польск., паколькі толькі ў польск. (з зах.-слав.) значэнне агульнага багацця перайшло на с.-г. тавары. Улічваючы, што ва ўкр. вядома значэнне 'маёмасць', адно з агульных для іншых слав. моў, наўрад ці абавязкова ўкр., бел. і дыял. рус., запазычаныя з польск., тым больш што слова фіксуецца яшчэ ў XV ст., хаця, паводле Брукнера, земляробчае значэнне ў польск. з XVI ст. Таму прасл. дыял *sъbožьje*, паводле Махэка$_2$ (712), адцягнены назоўнік ад прыметніка *sъbogъ*, што дакладна адпавядае прыведзеным паралелям са ст.-інд., авест. Гл. *бог*, *убогі* (як антонім). Пра ст.-бел. *збоже* гл. Шадурскі, дыс.



**Збоіч** 'планка для ўмацавання красён' (Сл. паўн.-зах.). Укр. *збоїч* 'тс' (Грынч.) 'прылада для патаўшчэння палатна'. Аддзеяслоўны назоўнік з чаргаваннем галоснага ад *збіць* (*sъ-biti*) 'паяднаць'; гл. *біць*, *бой*. Параўн. у Даля тлумачэнне: *сбойник* 'усякая прылада для шчыльнага збою, змацаванне чаго-н.' «*Варстат збіваецца збоічамі*». Суф. *-іч*, як і ў некаторых іншых назвах прылад (Сцяц., Афікс. наз., 45). Параўн. *збовіч* 'навой; вал, па якому ідзе палатно пры тканні' (Сл. паўн.-зах.), дзе няясна *-в-* і семантыка; магчыма, нейкая кантамінацыя.

**Збратдзеці** 'дваюрадныя стрыечныя браты, сёстры' (Нас., Сл. паўн.-зах.). Зрашчэнне дакладна перадае значэнне (стрый — брат бацькі): дзеці братоў. *З-*, відаць, указвае на паходжанне, *брат* можна тлумачыць як стары р. скл. мн. л. слова *брат* ('з братоў дзеці').

**Зброд** 'бязладнае зборышча выпадковых людзей' (ТСБМ), 'зборышча бадзяг', 'свавольнік' (Нас.). Рус. *сброд* 'тс', укр. *збрід* 'зборышча бадзяг'. *Sъbrodъ* — аблаўтная форма назоўніка да дзеяслова *bred-ti* (*брасці*, гл. *брадзіць*, *брод*). КЭСРЯ, 401. *Збродзень* 'свавольнік' з суфіксам *-ень* да таго ж кораня; параўн. рус. *сбродни* 'бадзягі', ст.-рус. XV ст. *събродьнь* 'бадзяга' (Сразн.). Параўн. развіццё знач. у чэш. *zbrodeň*, *zbrodně*, польск. *zbrodnia* 'злачынства', адкуль ст.-бел. (XVI ст.) *збродня*, *збродзень* і суч. дыял. *збродня* 'злачынства' (Булыка, Запазыч., 118). Брукнер (648) тлумачыў *zbrodnia* як 'адход ад броду', г. зн. 'дарогі', што наўрад ці дакладна. Хутчэй тут пераход ад назвы сукупнасці бадзяг на ўчынак, які яны могуць зрабіць.

**Зброй** 'свавольнік' (Нас.). Параўн. *брой*, *бройка* 'тс' (Нас.);

гл. *броіць* 'сваволіць', адкуль з прэфіксам *зброіць*. Прасл. корань **broj-* ітэратыў да *briti* (гл. *брыць*) 'рэзаць'. Магчыма, аднак, што ў *зброй* адлюстравалася ўздзеянне (кантамінацыя) слоў з тым самым значэннем *зброд* (гл.) і *збой* (ст.-рус. XV ст. *събои* 'разбойнік', укр. *збій*, польск. *zbój* 'разбойнік', чэш., славац. *zboj* 'разбой', бел. *збойца* 'разбойнік' (Нас.), дзе корань *бой, біць*, гл.).

**Збро́я** 'прылада для нападу ці абароны'. Укр. *зброя* 'тс'. Польск. (з XIV ст.) *zbroja* 'панцыр, браня ў старых рыцараў і іх коней', чэш., славац. *zbroj* 'абароннае адзенне'. Ст.-бел., ст.-укр. *зброя* (XVI ст.) 'зброя', 'браня' (Сінаніма славенарос.), *збройныи* (Александрыя). Параўн. в.-луж. *zbroić*, н.-луж. *zbrojś* 'прыводзіць у беспарадак, спусташаць', рус. ніжнегар. *сбройный* 'сварлівы, свавольны'. Саднік — Айцэтмюлер (1, 416—417) суадносяць з *broj-* 'рэзаць' (гл. *броіць, брыць*), дапускаючы ўздзеянне кораня *bor-* (гл. *бароцца*), адкуль польск. *broń* > > бел. *бронь* (гл.). Гэта дапушчэнне больш прымальнае, калі лічыць польск. *zbroja* крыніцай бел., укр. слоў. Голуб — Копечны (77) не лічацца з такім уздзеяннем, выводзячы *brojiti, zbrojiti, zbroj* з *broj-*. Махэк$_2$ (68), наадварот, адносіць гэтыя словы да кораня *bor-* з метатэзай. Мартынаў — Міхневіч (Маладосць, 1969, 4, 136) узводзяць *зброя* да і.-е. кораня **bhrei-* 'востры, рэзаць' і лічаць, што польск. *zbroja* запазычана з бел. ці ўкр. Апошняе малаверагодна, калі ўлічваць наяўнасць слова ў чэш., славац. і фіксацыю *zbroja* у польск. з XIV ст. Адваротная накіраванасць запазычання ці падыход да слова як прасл. дыялектызма, што адлюстроўваўся ў польск., укр., бел., чэш., славац., здаюцца больш. адпаведнымі. У карысць польск. паходжання бел., укр. слоў адсутнасць фіксацыі ў ст.-рус. мове, дзе наогул ваенная лексіка прадстаўлена добра. Пра польск. *zbroja* падрабязна Астроўска, JP, 32, 112—117; ст.-бел. ужыванне слова апісвае Крыўчык, Труды яз., 34—35.

**Збрусава́ць** 'патаўсцець, зацвярдзець', *збруснець* 'зацвярдзець' (Сл. паўн.-зах.). Параўн. *брусянець* 'напухнуць', *бруз-нуць* 'таўсцець'. Значэнне 'зацвярдзець' — абазначэнне з'явы, што адбываецца побач з напуханнем, а 'патаўсцець' — фактычна сінонім да 'напухаць'. Не выключаны пры фарміраванні значэння 'зацвярдзець' народна-этымалагічныя асацыяцыі з *брус* (гл.). Гл. таксама Лучыц-Федарэц (Бел.-рус. ізал., 64)

**Збру́я** 'прыналежнасці для запрагання коней'. Рус. *сбруя*, укр. *збруя* 'тс', 'прыстасаванне для промыслу і г. д.' Дыял. *збруя* 'пасаг' (Жд. 2). З польск. *zbroja, zbrój* уст. 'ахоўнае пакрыццё для коней' з далейшым развіццём значэння і кантамінацыяй формы. Фасмер, 3, 568; Праабражэнскі, 1, 244; КЭСРЯ, 401.



**Збрэзь** 'так поўна, што пераліваецца' (К рч. Фраз. 3). Рус. бранск. *збрэзь* 'з верхам'. Няясна. Да кораняў *бераг, берагчы?* Параўн. польск. дыял. *zbereź* (< усх.-слав.?): *zberezie wyprawiać* 'даказваць', «*chowajcie mi go przy malej zberezie*» (Карловіч), літ. *išbrė̃žti* 'начарціць, правесці лінію', *užbrė̃žti* 'намеціць'. Параўн. бранск. *брэзко́тка* 'невялікая конусападобная торбачка са званочкам для збору грошай у царкве', адкуль *брэзкальные деньги* 'грошы, сабраныя такім чынам' (Растаргуеў. Бранск.).

**Збуза́ць** 'перашкодзіць' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, звязана з *бузаваць* 'біць, лупцаваць', *буза* 'скандал' (гл.). Параўн. рус. дыял. *избуздать, избузовать*, 'пабіць, адлупцаваць'.

**Збу́цвець**, *збутле́ць, збутне́ць, збутве́ць* 'згнісці, сапрэць, струхлець' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, да *буцвець*, звязанага з *батва* (гл.).

**Збыткі** 'жарт' (Сцяц.), слонім. 'кпіны' (Нар. лекс.). Параўн. *збытак* 'лішак'. Параўн. рус. *избыток* 'лішак', укр. *збитки* 'страты, шкода', дыял. 'жарты', польск. *zbytki* 'свавольства', *zbytek* 'лішак', 'рэч, без якой можна абысціся', чэш. *zbytek* 'лішак', славац. уст. *zbytok* 'тс', серб.-луж. *zbytk* 'тс'. Значэнне 'жарт', відаць, лакальнае развіццё знач. 'свавольства', таму, магчыма, з польск. Гл. *быць*.

**Збэ́йсаць** 'згубіць', мсцісл. 'дарэмна растраціць' (Юрч. Фраз. 2), *збайса́ць* 'згубіць, аддаць, знасіць' (Мат. Гом.), 'здратаваць, стаптаць, знішчыць' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, ад *бэйбас, байбак* 'гультай' (гл.): **з-бэйбас-аць* 'прагультаяваць'? Параўн. яшчэ лат. *bèigts* 'закончаны, згублены, мёртвы', *beĩgas* 'канец, смерць'. Гл. яшчэ *збэ́рсаць*.

**Збэ́рсаць** 'скруціць, зматаць' (Сл. паўн.-зах.), слонім. 'зрабіць кепска, сапсаваць' (Нар. лекс.). Гл. *барсаць*. Лаўчутэ (Сл. балт., 100—101) прапануе аддзяляць *бэрсаць* 'рабіць кепска, псаваць' ад *барсаць* 'працягваць аборы ў лапці', але *бэрсаць* і 'блытаць (ніткі)', а таму такое раздзяленне няпэўнае.

**Зва́га** 'спрыт, спраўнасць' (Нас.). Рус. смал. *зва́га* 'павага', укр. *зва́га* 'рашучасць, смеласць'. Як і *адвага* (гл.), *павага, увага* да кораня *вага* (гл.) з прэфіксам *з-*; хутчэй назоўнік на базе прэфіксальнага дзеяслова *зважаць* 'звяртаць увагу' з чаргаваннем зычнага.

**Звагу́ль** 'дубец' (Сл. паўн.-зах.). З літ. *žvagùlis* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 282). Параўн. *брызгуль*.

**Звадыяш** 'зводнік, падбухторшчык', дыял. *звадун, звод* 'тс' (Касп.). Параўн. рус. *сводня, сводник* 'асобы, што выступаюць

пасрэднікамі' (у тым ліку, паводле Даля, 'злачынных сувязей'), укр. *звідник* 'абманшчык' (Грынч.), уст. дыял. *зводи́тель* 'спакуснік', польск. дыял. *zwodzijasz, zwodzijaś* 'птушка ляляк, Caprimulgus europaeus, якая водзіць людзей па лесе', 'падманшчык' (1 красавіка — dzień św. Zwodzijasa) (Карловіч), ст.-польск. *zwodzicz, zwodca* 'баламут, падманшчык' (Рэчак). Параўн. бел. *звада* 'спрэчка' (Мікуцкі, Полымя, 1971, 8, 251), *звадзіць* 'пасварыць' (Багушэвіч, Мар. дыс., 176). Паводле Мартынава — Міхневіча (Маладосць, 1969, 9, 149), да кораня *вад-* (гл. *вадзіць*). Аднак у словатворчых адносінах дакладней Сцяцко (Афікс. наз., 32—33): *звадыяш* ад *зводнік*. Сувязь з *вадзіць* пазнейшая. Зважаючы на бел.-польск. пашырэнне, хутчэй тут запазычанне, верагодна, з польск. у бел. Ад *зводзіць* з суфіксам *-ун* утворана *звадун*, што тыпова для бел. словаўтварэння. *Звод* можа быць рэфлексам старога ўтварэння з аблаўтам ад *sъved-ti* (рус. *свести*) у спецыфічным значэнні, адкуль потым адназоўнікавы дзеяслоў *зводзіць*, але магчыма і больш новае, другаснае ўтварэнне ад гэтага дзеяслова, утворанага на базе *звод* з шырокім значэннем.

**Зваць** 'клікаць'. Рус. *звать*, укр. *зва́ти*, польск. *zwać* 'называць', палаб. *züvĕ* 'ён кліча', чэш. *zvati*, славац. *zvat'*, славен. *zváti*, серб.-харв. *зва̏ти*, балг. *зова*. Ст.-слав. **зъвати** 'клікаць, называць'. Ст.-рус. *звати* 'тс'. Ст.-бел. *звати* 'тс' (Скарына). Прасл. *zъvati* роднаснае літ. *žavėti* 'зачараваць', лат. *zavêt* 'замаўляць', ст.-інд. *hávatē* 'кліча', авест. *zavaiti* 'тс', якія адлюстроўваюць і.-е. **g'hau̯-, *g'hau̯ə-* 'клікаць'. Покарны, 1, 413; Траўтман, 367; Фасмер, 2, 85; Шанскі, 2, З, 75—76; Махэк$_2$, 720; Голуб — Копечны, 440; Скок, 3, 666; БЕР, 1, 651.

**Зве́дкі** 'адведзіны' (Нас.). Параўн. у Даля *свѣдать* 'праведаць', укр. *звіди, звідини* 'разведка', польск. *zwiady* 'адведзіны', дыял. 'заручыны', чэш. *zvěd(y)* 'разведка', славац. *zvedy* 'тс'. У бел., рус., польск. значэнне візіту, у той час як іншыя прыклады хутчэй пра атрыманне інфармацыі. Як і *адведкі, вячоркі* (гл.), утворана ад дзеяслова *зведваць* з суф. *-к-і* (параўн. *зажынкі, дасеўкі, памінкі*, Сцяцко, Афікс. наз., 48). Дзеясловы з *-ведаць* у значэнні 'нанесці візіт' шырока вядомы ва ўсх.-слав. мовах (рус. *проведать, наведать*, укр. *відвідати, звідати, навідати*), таму няма падставы лічыць іх запазычанымі з польск. (гл. *адведаць*).

**Звер** 'дзікая жывёла'. Рус. *зверь*, укр. *звір*, польск. *zwierz*, в.-луж. *zwěrjo*, н.-луж. *zwěŕe*, чэш. *zvěř*, славац. *zver*, славен. *zvȇr*, серб.-харв. *зве̑р звије̑р*, балг. *звяр*, макед. *ѕвер*. Ст.-слав. **звѣрь.** Ст.-рус. *звѣрь*. Ст.-бел. *звер* (Скарына). Прасл. *zvěrь* < < і.-е. *g'hu̯ēr-* 'дзікая жывёла': літ. *žvėris*, лат. *zvērs*, ст.-прус. він. скл. мн. л. *swirins*, грэч. *θήρ, -ος* 'звер', лац. *ferus* 'дзікі'. Фасмер, 2, 87; Шанскі, 2, З, 79; БЕР, 1, 625; Скок, 3, 666—667; Голуб — Копечны, 440; Махэк$_2$, 720; Копечны, Zákl. zásoba, 429; Траўтман, 374—375; Покарны, 1, 493.



**Звíвач**, *звітач* 'дрэва з пакручастымі валокнамі' (КСТ). Да *віць* > *звіць* з суфіксам *-ач*. Аснова ў першым выпадку *звіваць*, у другім дзеепрыметнік *звіты*.

**Звíжаня** 'хрысціянскае свята 14 верасня' (Сл. паўн.-зах.) < < рус. *воздвижение* (крыжа гасподня) < ст.-слав. **въздвижєник** 'тс' з фанетычнымі спрашчэннямі. Параўн. у рус. дыялектах *здви́женье* 'тс'.

**Звіндава́цца** 'скурчыцца' (Сл. паўн.-зах.). *Віндава́цца* < < польск. *windować się* 'цяжка ўздымацца', адкуль, магчыма, пераноснае значэнне 'стаміўшыся, згарнуцца', 'скурчыцца'. Прыклад *«Чалавек звіндуецца, ледзь умейсціцца і ляжыць так»* можна, аднак, зразумець і ў значэнні 'ўздымацца'. Гл. *вінда*.

**Звіне́ць** 'утвараць металічны гук'. Рус. *звенеть*, укр. *дзвеніти, звеніти*, палаб. *zvane* 'звініць' (3 ас.), славен. *zvęniti*. Ст.-слав. **звенѣти.** Ст.-рус. *звенѣти*. Ст.-бел. *звинети* (Скарына). Прасл. *zvьněti* (або *zvъněti*, Копечны, Zákl. zásoba, 430) > чэш. *zníti*, славац. *zniet'* 'звінець' і інш. Прасл. слова мае спрэчныя суадносіны з і.-е. (Фасмер, 2, 86—88; Шанскі, 2, З, 77; Голуб — Копечны, 438). Першая магчымасць: *zvьněti* < і.-е. **g'hu̯en-* 'гучаць': літ. *žvéngti*, лат. *zviegt* 'іржаць', алб. *zë* 'голас' (Покарны, 1, 490; Траўтман, 374; Скок, 3, 668). Іншая магчымасць: і.-е. корань *su̯en-* 'гучаць', ст.-інд. *svanati* 'гучыць', лац. *sono* 'гучу'. Махэк$_2$ (717—718) пачатковае *z* замест *s* тлумачыць уздзеяннем *зваць* (гл.), *звяк* (гл.), які тады ўзводзіцца да **g'hu̯en-* (БЕР, 1, 623). Гл. *звяга, звон, звяк*.

**Звон** 'ударны сігнальны інструмент; гук гэтага інструмента'. Рус. *звон* 'від гуку', дыял. 'прыстасаванне', укр. *дзвін* 'звон', польск. *dzwon*, в.-луж. *zwon*, н.-луж. *zwón* 'тс', палаб. *zünĕ* 'mit Glocken läuten' ('званіць у званы'), чэш., славац. *zvon*, славен. *zvȏn*, серб.-харв. *зво̏но, зво̑н, зво̑н* 'звон', балг. *звон* 'прыстасаванне; гук', *звън* 'гук', макед. *ѕвоно* 'звон'. Ст.-слав. **звонъ** 'тс'. Ст.-рус. *звонъ* 'тс'. Прасл. *zvonь* — аблаўтны бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *zvьněti* (гл. *звінець*). Ст.-бел. і дыял. форма *дзвонъ* < польск. (Булыка, Запазыч., 94), Шанскі, 2, З, 79; Копечны, Zákl., zásoba 430.

**Зво́нку** 'са знешняга боку'. Н.-луж. *zwenka*, в.-луж. *zwonka*, чэш. *zvenku*, славац. *zvonka, zvonku*, славен. *zúnaj, zúna* (< *iz vunaj, iz vuna*), серб.-харв. *сва̀на*, балг. *из вън, извънка* 'звонку'. Параўн. у складаных словах серб.-харв. *изван-*, макед.

*извон-* 'незвычайны'. Ст.-слав. **извъноу, извънъ, извънѫдоу.** Ст.-рус. *извъну* (1076 г.). Прасл. *jьz-vъn-ъk-a;* гл. *з, вон, вонка.*

**Звы́клы** 'які стаў прывычкай'. Рус. *свыклый* (Даль), укр. *звиклий,* польск. *zwykły,* чэш. *zvyklý* 'тс', серб.-харв. *сви̏кло* 'як па звычцы'. Ст.-рус. *звыклый* (1613 г.). Ст.-бел. *звыклыи* (XV ст.). Прасл. элавы дзеепрыметнік **sъvyk-l-ъ* да прэфіксальнага дзеяслова *sъ-vyknǫti,* гл. *выкнуць.* Паводле Булыкі (Запазыч.,119), з польск. Гэта не выключана, але наяўнасць рус. і серб.-харв. форм паказвае магчымасць і рэфлексацыі прасл. слова. Параўн. *звычай.*

**Звы́чай** 'прыняты парадак; прывычка'. Рус. паўд. *свы́чай,* укр. *зви́чай,* польск. *zwyczaj,* славац. *zvyčaj.* Ст.-бел. *звычай* (Скарына), ст.-рус. *звычай* (1609 г.), **съвычаи** (XII ст.), ст.-бел. *звычай.* З суф. *-ějь* (гл. Слаўскі, SP, 1, 86—87) ад дзеяслова *sъ-vyk-nǫ-ti* (гл. *выкнуць*). Улічваючы ст.-рус. *съвычаи* (XII ст.), наўрад ці ст.-бел. *звычай* паланізм (Булыка, Запазыч., 119). Сцяцко, Афікс. наз., 23., Гл. *звыклы.*

**Звэ́ндацца** 'здохнуць' (Сл. паўн.-зах.). Наўрад ці звязана з ням. *Ende* 'канец', як лічаць складальнікі Сл. паўн.-зах., 2, 289: значэнне недакладнае, няясна *в.* Хутчэй трэба параўнаць *вэндзацца* 'бадзяцца' (гл.), якое, магчыма, звязана з *wędrować* (гл. *вандраваць*).

**Звя́га** 'прыстасаванне; надакучлівы брэх сабакі', маг. 'брахлівы сабака; пра чалавека' (Янк. Мат.). Рус. дыял. *звя́га,* смал., пск. 'гаўканне; брэх лісы', 'сварка', 'бурчанне', вяцк. 'надакучлівы чалавек', цвяр., пск., алан. 'пустаслоў', укр. *звяга́* 'гаўканне, сварка'. Ст.-рус. *звяга* 'непатрэбная балбатня' (Курбскі, XVI—XVII стст.). Прасл. дыял. *zvęga* 'ўзыходзіць да і.-е. кораня **g'hцen-* з балта-слав. падаўжэннем *-g-*. Роднасныя літ. *žvéngti,* лат. *zviegt* 'іржаць'. Гл. *звяк, звінець.* Покарны, 1, 491; Траўтман, 374; Фасмер, 2 88.

**Звязда́** 'зорка' (назва рэспубліканскай газеты) з рус. *звезда* < прасл. *gvězda,* роднаснага літ. *žvaigzdẽ* 'зорка', ст.-прус. *svāigstan* 'ззянне, святло, бляск'. Іншыя этымалогіі і літ-ру гл. Фасмер, 2, 85—86; Шанскі, 2, 3, 76. Параўн. *святло, кветка.* Рус. слова *звезда* выкарыстоўвалася як назва рэвалюцыйнай газеты. Гэта назва прынята была для мінскай газеты, якая (1917—1924 гг.) выдавалася на рус. мове, а з 1924 г. на бел. мове, прычым назва была захавана.

**Звяк** 'металічны ці шкляны гук'. Рус. *звяк,* укр. *дзвяк,* польск. *dźwięk,* славен. *zvèk,* серб.-харв. *звѐк, звѐка,* балг. *звек,* макед. *звек.* Ц.-слав. *звѧкъ* 'гук' (XIV ст.). Ст.-рус. *звякъ* (XVI ст.). Прасл. *zvękъ* узыходзіць да і.-е. кораня



**g'hцen-* 'гучаць' з падаўжэннем *k* (як і *zvǫkъ* > рус. *звук*). Покарны, 1, 491; Траўтман, 374; Махэк$_2$, 720; Фасмер, 2, 88; Шанскі, 2, 3, 81. Гл. *звінець, звяга.*

**Звяно́** 'састаўная частка'. Рус. *звено́* 'тс', н.-луж. *zwěno// zẃeno* 'вобад (кола)', в.-луж. *zwjeno* 'тс', палаб. *zvenü* 'тс', балг. *звено* (< рус.) 'частка ланцуга', 'група супрацоўнікаў'. Ст.-рус. *звено* 'частка' (XVI ст.). Параўн. *звенякі́, званке́* 'частка кола' (Сл. паўн.-зах.). Паводле Даля (1, 672), суадносіцца з *звінець* (гл.), гэта развіў Аткупшчыкоў (ЭИРЯ, 5, 81—83), які прапануе *zven-n-ja* 'назва звякаючых прыкрас' (чаму лепш можна суадносіць не з *звінець,* а з *звяк(аць)?*). Іншыя этымалогіі малаверагодныя. Шанскі, 2, 3, 77—38; Фасмер, 2, 86—87. Гл. *звякаць.*

**Зга́га,** *за́га, за́ға* 'пякотка' (Сл. паўн.-зах.). Рус. перм., ярасл., сарат., астрах. *изга́га,* пск. *зга́га* 'тс', наўг. *зга́га* 'рвота', укр. *зга́га* 'смага', 'жаданне', 'пякотка', польск., н.-луж. *zgaga,* славац. *zhaha, zaha,* славен. *(i)zgāga,* серб.-харв. *zgȁga,* балг. *(и)згàга,* макед. дыял. *згага* 'пякотка'. Ц.-слав. *изгага* 'пякотка' (Міклашыч, Lex. palaeosl.). Ст.-рус. *изгага* (1534 г.). Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *jьz-gěg-ti* з аблаўтам: *jьz-gog-a* > *jьzgaga* > *згага.* Дзеяслоўны корань прадстаўлены ў шэрагу слоў *жгаць, жэгаць;* гл. *жага.* Фасмер, 2, 121; Скок, 653.

**Згару́сціць** 'зрабіць абы-як', 'прыдбаць з цяжкасцю' (ТСБМ), 'зваліць у кучу', 'сабраць' (Янк. I, II Жд. 3), *згарушчыць* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, да *згарнуць* і *грувасціць.* Гл. *гарнуць.*

**Згвы́ліць** 'плакаць' (Касп.). Звонкі варыянт *сквіл* 'піск' (гл.), як *аскрак — возгры* і г. д.

**Зге́ліць** 'званітаваць' (Сл. паўн.-зах.). Прэфіксальны дзеяслоў *геліць* 'балець, нудзіць, ванітаваць', відаць, з літ. *gélti* 'ныць' (Сл. паўн.-зах., 1, 440; Лаўчутэ, Сл. балт., 29).

**Зглама́здаць** 'зрабіць абы-як', *зглама́здаць* (Бяльк., Юрч.). Да *глама́здаць* 'няўмела рабіць, плесці, шыць' (Юрч.); параўн. *гламазда* 'нязграбная рэч, няўклюда' (ТСБМ).

**Згнэ́піць** 'скамячыць' (Сл. паўн.-зах.). Магчыма, ад *гнэ́біць,* зафіксаванага ў тым жа рэгіёне са значэннем 'прыгнятаць, крыўдзіць' (польск. *gnębić*), не выключана сувязь з літ. *knėbli* 'шчыпаць' (Сл. паўн.-зах., 2, 293).

**Зго́да** 'лад'. Рус. *сго́да* 'шчасце' (Даль), укр. *зго́да,* польск. *zgoda,* чэш. *shoda,* славац. *zhoda* 'лад', н.-луж. *zgoda* 'добрае надвор'е', славен. *zgóda* 'выпадак', серб.-харв. *згȍда* 'выпадак,

11. Зак. 2801

умова, зручнасць', балг. *згода* 'зручныя абставіны, выпадак', 'згода', макед. *згода* 'зручнасць, выпадак'. Ц.-слав. (серб.) *съгода* 'выпадак' (Міклашыч, Lex. palaeosl., Данічыч). Ст.-рус. *згода* (1493 г., у «польск. справах») 'умова, згода'. Ст.-бел., ст.-укр. *згода* 'мір' (Сінаніма). Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *sъ-god-i-ti (sę)* (гл. *год, гадзіцца*), які меў шырокае кола значэнняў, у тым ліку 'згаджацца, быць падыходзячым, траплядца'. Бел. значэнне ўказвае, верагодна, на польск.-укр.-бел.-славац. арэал, магчыма, хаця і не абавязкова пад польск. уплывам ці з польск. мовы.

**Згойшыць** 'растраціць; распрадаць' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, звязана з *гойсаць* 'хутка, мітусліза рухацца', 'раз'язджаць, бегаць у пошуках чагосці ці без мэты' (гл.) з прэфіксам *з-* і спарадычнай зменай *с/ш*.

**Зго́мгаць** 'з'есці' (Сл. паўн.-зах.). Выраз экспрэсіўны, адкуль *г;* магчыма, звязана з *гамаць* 'есці' (гл.).

**Зго́мтаць** 'украсці', 'скамячыць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. калым. *сго́мтать* 'скамячыць'. Другое значэнне гэтага экспрэсіўнага слова ўказвае на магчымасць сувязі з коранем *ком-* (*скамячыць;* параўн. рус. *скомкать*), тады першае можна тлумачыць як 'скамячыўшы, схаваць' і 'ўкрасці'. Фанетыка: азванчэнне *ск-* у *зг-*, магчыма, экспрэсіўна ці ў выніку асіміляцыі *-к-* да прэфіксальнага *з-; т* замест *к*, як экспрэсіўная дысіміляцыя ці проста субстытуцыя.

**Згон** 'адкрытае месца для зборышча', 'вялікая колькасць' (Юрч. Вытв.). Рус. паўд.-зах. *сгон,* паводле Даля, 'агульная праца, што не залічваецца да чарговай паншчыны', жалі і касілі *сгоном.* Аддзеяслоўны бязафіксны наз. *съгонъ* ад *съгоняти* (гл. *гнаць*).

**Згра́бны** 'прыгожы' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zgrabny* 'тс'. Гл. *граблі, грэбці.*

**Згра́я** 'група сабак, ваўкоў' > 'банда'. Укр. *згра́я* 'тс', польск. *zgraja* 'натоўп; зграя'. Відаць, бел., укр. < польск., дзе, магчыма, ад *zgrać się* 'дапасавацца, дастасавацца адзін да аднаго для музычнага ці наогул тэатральнага выступлення, спартыўнай гульні' з суфіксам *-j-a.* Няясна.

**Згры́жа,** *згрі́жа* 'штодзённая лаянка' (Нас.). Укр. *згрі́жа, згризá* 'душэўная мука' (Жэлях.). Параўн. укр. *згризота* (= *гризота*) 'душэўная му́ка', польск. *zgryz, zgryzoty* 'клопат, засмучэнне', славац. *zhryz* 'сварка'. Параўн. *грыжа* (гл.) і балг. *грижа* 'клопат'. Ад дзеяслова *з-грыз-ці* (гл. *грызці*) з суфіксам *-j-a* (як *грыжа* ад *грызці*) і пераходам значэння балг. тыпу,



аднак з захаваннем семантычнай сувязі з дзеясловам *грызціся* 'лаяцца'.

**Згрызо́та** 'пераджыванне' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zgryzota* 'тс', на што ўказвае выбухное *г.* Параўн. *згрыжа,* але суфікс тут *-ot-a.*

**Згрыя́нт** 'натоўп' (Сл. паўн.-зах.). Парўн. польск. дыял. *zgryjatyka* 'музыка', магчыма, ад *zgrywać się* 'сыгрывацца, дабівацца агульнага гучання ў аркестры, іграць разам' з наўмысна іншамоўным суфіксам *-ant.* У значэнні і з'яўленні *-j-* магла адлюстравацца кантамінацыя з *зграя.* Выбухное *г* указвае на іншамоўны (польскі) характар слова. Параўн. яшчэ *гранда* 'кампанія' (польск. *granda* 'грамада', Сл. паўн.-зах.).

**Згрэйзаць** 'зрабіць, напісаць абы-як' (Сл. паўн.-зах.) Параўн. літ. *grevezóti* 'тс' (Сл. паўн.-зах., 2, 296), а таксама *greĩtai* 'хутка' (гл. *грэйма*).

**Здайна́** 'нагбом' (слонім., Нар. лекс.). *З* + р. скл. назоўніка **dojьnъ/o,* з якім звязаны вытворныя *даёнка, дайніца* 'пасудзіна для даення'.

**Здань** 'прывід', *зданнё* 'ўява', *зда́нне* 'меркаванне' (Нас.), *здання* 'прывід' (Сл. паўн.-зах.). Ц.-слав. *зьдань* 'пабудова'. *Здань* — назоўнік на *-ь* (< **ĭ*) ад дзеепрыметніка на *-н-* да дзеяслова *zьd-ati* 'стварыць', як дыял. *драны* 'дранка' ад **dьrati,* рус. *рвань* ад *rъvati. Зданнё, зданне, здання* адлюстроўваюць фанетычныя варыянты ўтворанага з суф. *-ьje* прасл. *zьd-an-ьje* (польск. *zdanie* 'думка, сказ', чэш. *zdání,* славац. *zdanie* 'ўява', рус. *зда́ние* < ст.-слав. **зьданиꙗ** 'будова, стварэнне' і інш.). Семантыка 'стварэнне' > 'ўява' > 'прывід' цяжкасцей не выклікае. Прасл. *zьd-* адлюстроўваецца ў ц.-слав. *зьдъ* 'гліна', чэш. *zed* 'каменная сцяна', польск. *zdun* > бел. дыял. *здун* 'ганчар', славен. *zídati* 'класці сцяну', балг. *зи́дам* 'будаваць', рус. *зодчий* 'архітэктар' (апошнія з чаргаваннем галоснага). Літ. *žiedžiù, žiẽsti* 'фармаваць, ляпіць', лат. *ziest* 'абмазваць глінай' разам са слав. даюць балта-слав. корань **g'heidh-,* утвораны, паводле Покарнага (1, 245), перастаноўкай з **dheig'h-* (адкуль *дзяжа,* гл.) 'мясіць гліну, цеста'. Параўн. гоц. *deigan* 'мясіць', ст.-інд. *dēhmi* 'абмазваць', грэч. τεῖχος 'каменная сцяна', лац. *fingō* 'мажу, фармую', *figura* (> бел. *фігура*). Меркаванне Мартынава — Міхневіча (Маладосць, 1969, 5, 42) аб тым, што *здань* < *sъdati sę* 'здавацца' (г. зн. 'прывідзіцца') патрабуе ўдакладнення ў часткі архетыпу формы: не *sъdati,* а *zьdati.* Пра корань гл. Фасмер, 2, 89; Шанскі, 2, З, 81; Махэк$_2$, 714; Скок, 3, 653—654; БЕР, 1, 639; Траўтман, 367.

**Здаро́вы,** *здаро́ўе.* Рус. *здоро́вый, здоро́вье,* укр. *здоро́вий, здоро́в'я,* польск. *zdrowy, zdrowie,* серб.-луж. *strowy,* в.-луж. *strowjo,* н.-луж. *strowje,* уст. *zdrowy,* чэш., славац. *zdravý,* чэш. *zdraví,* славац. *zdravie,* славен. *zdrȃv, zdrȃvje,* серб.-харв. *здра̑в, здра̑вље,* балг. *здрав, здра̀ве,* макед. *здрав, здравје.* Ст.-слав. **съдравъ, съдравие.** Ст.-рус. *здоровый, съдоровие, здоровье* (1151 г.). Прасл. *sъ-dorv-ъ, sъdorv-ьje.* Ў формах з пачатковым *z-* асіміляцыя па звонкасці пасля страты **ъ**; у формах з *s-*, відаць, асіміляцыя па глухасці (магчыма, аднак, што тут іншы корань; гл. Фасмер, 3 768). Элемент *sъ-* меў, паводле Бадуэна дэ Куртэнэ (Зб. Брукнеру, 221), суадносіны са ст.-інд. *su* 'добры'. Элемент *dorv-* < і.-е. **deru-* 'дрэва' (гл. *дрэва*), 'добры, здаровы, як дрэва'. Фасмер, 2, 91; Шанскі, 2, 3, 82; Мартынаў — Міхневіч, Маладосць, 1969, 12, 140; Скок, 3, 646; Покарны, 1, 216. Іншую этымалогію прапануе Ондруш, JČ, 9 (1958), 147—148: *zdorv-* < *storv-* < *sorv-* < і.-е. **sol-v-* (лац. *salvus* 'здаровы' і інш.). Гэту этымалогію прыняў у другім выданні Махэк$_2$, 713. Супраць яе Ваян, RES, 41 (1962), 169; Трубачоў, Дополн., 2, 91. Іншыя тлумачэнні ў Фасмера. Булахаў (Прыметнік, 3, 77—80) прасочвае развіццё якасных адценняў слова *здаровы* ў бел. мове.

**Зда́рыцца** 'адбыцца'. Укр. уст. *зда́ритися* 'ўдавацца' (Жэлях.), польск. *zdarzyć się* 'адбыцца', н.-луж. *zdariś se* 'ўдавацца', чэш. *zdařiti se,* славац. *zdarit' sa.* Традыцыйнае тлумачэнне ад **darъ** < *dati* (Бернекер, 1, 179; Брукнер, 649; Голуб — Копечны, 434) з улікам чэш. разм. прывітання *na zdar* 'на шчасце, на здароўе' выклікае семантычныя цяжкасці — перш за ўсё значэнне прэфікса, складаны шлях утварэння *zdar* (*da-ti* > *darъ* > *dariti* > *sъdariti* > *sъdarъ?*), няпоўную вытлумачальнасць семантыкі ў цэлым. На гэта звярнуў увагу Зубаты (1, 1, 131—138), прапануючы сувязь з іншым **dar-*, якое прадстаўлена ва *ўдар, ударыць* (паводле Фасмера, 4, 149, да *драць,* гл.), што падтрымлівае Махэк$_2$, 110—111. Гэта, аднак, не рашае праблемы. Магчыма, трэба шукаць яе рашэння ў суадносінах з карнямі, што маюць значэнне 'тварыць'. Магчыма, *zьdariti* ('стварыцца' >) 'адбыцца' < *zьdarъ* 'стварэнне' < *zьdati* 'тварыць' (< 'будаваць' < 'ляпіць'). Пра корань гл. *здань.* Іншае тлумачэнне праз суадноснасць з і.-е. **dher-, *dherə-* 'трымаць' (Покарны, 1, 253), прадстаўленым літ. *derė́ti* 'быць патрэбным', *darýti* 'рабіць', лат. *derêt, darît* 'тс'; семантычны ход: 'атрымацца' > 'адбыцца' ці 'зрабіцца' > 'адбыцца'. Патрэбны далейшыя даследаванні.

**Здзек** 'зняважлівыя паводзіны'. Рус. зах.-бранск. *здёки* 'здзекі'. Параўн. рус. смал., пск., калін., зах.-бранск. *здекаться* 'свавольнічаць, насміхацца, здзекавацца', алан. *здекнуться* 'ўперціся', валаг. *дековаться* 'здзекавацца'. Рус. *издеваться* традыцыйна ўзводзіцца да *jьz-dě-va-ti-sę* з коранем *dě-*, як у *дзець* (гл.), семантычна праз ц.-слав. выраз *издѣти имѧ* 'даць (утварыць) імя, мянушку' (Зубаты, 1, 1, 93) ці праз сувязь з *раздевать:* 'зняважыць, зняўшы адзенне' (Пізані, Paideia, 8, 1953, 2, 112). Ст.-слав. **издѣвати (издѣти)** азначала 'зрабіць, утварыць', што з дадаткам значэння 'выносіць' захавалася ў ц.-слав. **издѣти, издѣвати.** Значэнне 'рабіць, утварыць' адлюстроўваецца не ў *дзець,* а ў іншых адгалінаваннях кораня *dě-* (гл. *дзея*). Але магчыма звязаць *здзек* і з іншым коранем, што мае значэнне 'ствараць', **zьd-* (гл. *здань*). Бел. *здзек* утворана з суфіксам *-к-* (як *знак, язык,* гл. Мейе, Études, 335—337) ад дзеяслоўнай асновы *jьz-dě-ti* ці *zьd-ě-ti.* (Фасмер, 2, 122; Шанскі, 2, И, 30).



**Здо́лець,** *здале́ць* 'магчы, змагчы'. Параўн. *до́ліць* 'перамагаць' (Нас.). Рус. пск. *сдолять, сдолить* 'перамагчы', пск., цвяр., дан. *здо́лить,* смал., прыбалт. *вздо́леть* 'тс', укр. *здола́ти, здолі́ти* 'перамагчы', польск. *zdoleć* 'змагчы', чэш. *zdolati, zdoliti* 'змагчы, перамагчы', славац. *zdolat'* 'тс'. Ст.-рус. *съдолѣти* 'перамагчы, умацавацца' (XIV ст.). Прасл. (паўн.) *sъ-doliti, *sъdolěti* — прэфіксальны адыменны дзеяслоў з коранем *dol-* (гл. *дол*) і значэнне 'змясціць унізе — паваліць', адкуль перан. 'перамагчы' (параўн. рус. *одолеть,* укр. *подолати* 'тс') > 'змагчы'. Трубачоў, Эт. сл., 5, 62; Трубачоў, Дополн., 1, 525 (*долі́ть* 'перамагаць', *doliti*). Інакш менш верагодна: ад *доля* праз значэнне 'дзяліць'. Бернекер, 1, 206—207; Фасмер, 1, 525; Слаўскі, 4, 63; Брукнер, 92; Голуб — Копечны, 104. Яшчэ інакш: да і.-е. кораня **dher-* 'трымаць', 'падтрымліваць', Махэк$_2$, 123. Але Покарны (1, 252—253) не ўказвае фармацый на *-l-* з гэтым коранем; таму патрэбна дадатковая аргументацыя.

**Здо́льны** 'такі, што ўмее ці можа што-н. рабіць, таленавіты'. Польск. *zdolny,* чэш., славац. *zdolný* 'тс', славен. *zdǫljnji* 'ніжні' (< *zdolu* 'знізу'). Бел. *здо́льны,* відаць, з польск. *zdolny,* утворанага ад *zdoleć* 'змагчы' — дзеяслова, пашыранага ў гэтым знач. у зах.-слав., пры дапамозе суф. *-n-*. Параўн. *здолець.*

**Здор** 'нутраное свіное сала'. Рус. *сдор* (Даль), укр. *здір* 'тс'. Бязафіксны назоўнік з аблаўтам ад *здзерці, здзіраць* (гл. *дзерці*) 'тое, што здзіраецца'. Фасмер, 9, 586; Лекс. Палесся, 132—136.

**Здра́вы** 'моцны, дужы' (красл., Сл. паўн.-зах.). Развіццё значэння, адзначаемае таксама для *здаровы* (гл.) на бел. глебе ў запазычанага рус. ці ц.-слав. *здравый* (< ст.-слав.

*съдравъ*), вядомага яшчэ ў ст.-бел. помніках (Булахаў, Прыметнік, 3, 79—80).

**Здра́да** 'пераход на бок ворага'. Рус. смал., варонеж., паўд., зах. *зра́да*, укр. *зра́да* 'здрада', польск. *zdrada*, чэш., славац. *zrada*. Ст.-бел. *здрада, зрада* (з 1509 г.). У Насовіча *здра́да* 'здрада', але *зра́да* 'агульная згода', 'змова', 'здрада'. Форма з устаўным *-д-* толькі ў бел. і польск., верагодна, бел. *здрада* < польск. *zdrada* ўжо ў ст.-бел. (Булыка, Запазыч., 120). Форма ўключае корань *rad-* 'савет' (гл. *рада*), прэфікс *з-* (<**jьz-*), відаць, гэта аддзеяслоўны (*jьzraditi*) назоўнік. Параўн. ням. з блізкай унутранай формай *Ver-rat* 'здрада'='раз+рада'. Значэнні 'згода', 'змова' звязаны з унутранай формай. У групе *zr-d* устаўное (Карскі, 1, 353) у выніку ўяўнай архаізацыі. *Здрадца* з суф. *-ца* (Гіст. лекс., 99), як і *здрада*, з польск. у ст.-бел. Меркаванне пра *рад* <**rẹd* (Крыўчык, Труды яз., 35) не адпавядае зах.-слав. фактам, дзе *rad* не можа быць з *rẹd*. Брукнер, 650; Голуб — Копечны, 439; Махэк$_2$, 505; Фасмер, 2, 105.

**Здра́стваваць** 'вітаць' (Сл. паўн.-зах.) < рус. пск. *здравствовать* 'тс', утворанага другасна ад *здравствуй* (і іншыя формы) у якасці прывітання: 'гаварыць здравствуй'. Параўн. рус. *поздравствоваться*, укр. *поздоровкатися* 'павітацца'. Першаснае *съдравьствовати* 'быць здаровым' фіксуецца ўжо ў Астраміравым евангеллі. Фасмер, 2, 90.

**Здро** 'ніжняя частка снапа' (драг., Нар. лекс.). Адзіная фіксацыя без ілюстрацый. Калі гэта не памылка, звязана з *пуздра* (гл.) словам, што азначае ў рус. (*пуздро*) між іншым, 'ніжнюю частку тулава жывёлы' (Даль) ці як яго скарачэнне, ці як складаная частка (*пу(з)+здро?*).

**Здро́вя** 'здароўе' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zdrowie* (гл. *здаровы, здравы*); *здровый* вядома ўжо ст.-бел. (Булыка, Запазыч., 120; Булахаў, Прыметнік, 3, 80).

**Здрой** 'крыніца' (Сл. паўн.-зах.), *здруй* (Бельск. пав., Яшкін) 'тс'. Ст.-бел. *здрой* 'тс' з польск. *zdrój* 'крыніца'. Булыка, Запазыч., 120. *Zdrój* з устаўным *d* і менай *o*>*ó* (чэш., славац. *zdroj* < польск. у XIX ст.) з *jьz-roj-ь* (як і ц.-слав. *изрой* 'семязвяржэнне', Міклашыч, Lex. palaeosl.), аддзеяслоўнага (*jьz-ri-nǫ-ti*) назоўніка з чаргаваннем галосных *i* — *oi* — *ě* (параўн. *рэяць*) у корані (гл. *рой, рынуць*). Форма *зрой* (Сл. паўн.-зах.) хутчэй за ўсё з другасным спрашчэннем групы зычных. Формы *здрай* (Сл. паўн.-зах.), *здра́я* (Яшкін) адлюстроўваюць нейкія народна-этымалагічныя збліжэнні (можа, з *рай?*). Брукнер, 650; Голуб — Копечны, 434; Махэк$_2$, 713; Фасмер, 3, 496.



**Здрок** 'авадзень' (Сл. паўн.-зах., Янк. III), *здрык* 'тс' (рэч., Нар. сл.). Рус. зах. бранск *здрык* 'страказа'. Бязафіксны назоўнік ад прэфіксальнага дзеяслова **з-драчыць* (гл. *драчыць* 'свярбець').

**Здуду́ліцца** 'скурчыцца' (Сл. паўн.-зах.). Рус. тул. *издудо́лить* 'высмактаць, змучыць', славац. *zdudliť* 'скурчыць', *zdúdliťsa, zdudliť sa* 'скурчыцца'. Параўн. рус. дыял. *дудо́лить(ся)* 'піць, ссаць многа, доўга', славац. *dudlať* 'выдаваць гукі бульканні', 'мармытаць', рус. смал. *дудо́ля* 'дзіця, што яшчэ ссе'. Насуперак Фасмеру (1, 550) звязана, відаць, з *дуда* (гл.) (якое ў дыялектах мае значэнне 'соска' (кур.) звязана з рус. дыял. *дудить* 'доўга і многа смактаць'), з суф. *-уля/уль* (Сцяцко, Афікс. наз., 67) ад дзеяслова ўтвараецца назоўнік **дуд-уля/*дуд-уль*, на базе гэтага дзеяслоў **дудуліць*, адкуль з прэфіксам *з-* (<*jьz-*) **здудуліць* 'выссаць' > 'зрабіць скурчаным', адкуль *здудуліцца* 'скурчыцца'.

**Здуле́ць** 'сапрэць' (Сл.-паўн.-зах.). З прэфіксам *з-* ад *дулець* 'тлець; пыліць' (гл.), якое мае паралель у рус. *дулеть*, смал., арл. 'гарэць, тлець', а таксама ў літ. *dūlėti* 'прэць, тлець'.

**Здух**, *зду́хавіна*$_1$ 'ўпадзіна ў баку каровы' (Сл. паўн.-зах.). Рус. амур., кастр. *зду́хі* 'грудзі, лёгкія, жывот', сіб. *взду́хи* 'лёгкія, грудзі', валаг. *вздух* 'бок судна', укр. *зду́хи, зду́ховина, зду́хвина* 'месца ў частцы цела паміж рэбрамі і жыватом' (СУМ, Грынч.), *здухи* 'газы, што выходзяць з арганізма' (Жэлях.). Звязана з *дух* (гл.), адно са значэнняў якога 'дыханне', відаць, праз прэфіксальна-суфіксальны дзеяслоў **въз-дух-а-ти* > **уздухаць* > **здухаць*, ад якога бязафіксны наз. *здух* (і *здуха*) і з суф. *-іна здух-ав-іна* (*-ав-* прыметнікавы суфікс) са значэннем 'прадмет, для якога адзначанае дзеянне тыповае'.

**Зду́ха** 'дрыгва' (Сл. паўн.-зах.; пруж., ДАБМ, 685), *здухавіна*$_2$ 'нізкае вільготнае месца' (Нас.), 'падзолістая глеба' (Сл. паўн.-зах.), *здыховина* 'дрыгва' (ганц., ДАБМ, 754). Укр. дыял. *здухо́вина* 'багна', серб.-харв. *ѝздуха* 'непрыкметная трэшчына ў русле, што ўцягвае рачную ваду'. Насуперак Юркоўскаму (Ukr. hydrogr., 164) прэфікс хутчэй не *sъ-*, а *jьz-* (параўн. серб.-харв.) ці *vъz-* (параўн. *здух*). Трэба пагадзіцца з Талстым (СГТ, 185), што тэрмін непасрэдна звязаны з анатамічным тэрмінам (гл. *здух*) паводле падобнасці знешняга дзеяння.

**Зды́мак** 'знімак'. Параўн. рус. *снимок*, укр. *зні́мок*, польск. *zdjęcie* і г. д. Першасна *sъn-jьm+ъkъ* ад *sъn-jьm+ti* > > *sъnęti*. У польск. форма з эпентэтычным *-d-* ад XVII ст,

(Брукнер, 650). Бел. форма, відаць, кантамінацыя *знімак* і *zdjęcie*.

**Зе́бра.** З рус. *зебра* 'тс' (з польск. было б *зэ-*), дзе з англ. ці франц. *zebra* ў XVIII ст. (фіксацыя 1792 г.). У англ., франц. з 1600 г., у партуг., ісп. ужо ў XVI ст. ці з лац. *equiferus* 'дзікі конь', ці са слова аднаго з паўд.-афр. плямён. Фасмер, 2, 91; Шанскі, 2, З, 83; Блох — Вартбург, 673; Окс. сл., 3868 (11, 87); Махэк$_2$, 714. Перан. *зебра* 'паласа дарогі для пераходу пешых', паводле афарбоўкі, у 60—70-я гады XX ст.

**Зе́брыкі** 'расліна братаўка дуброўная (брат-сястра), Melampyrum nemorosum L.?' (ельск., Жыв. сл.). Параўн. рус. дан. *зе́брик* 'шчарбіна'. Паколькі ў кветак зебрыка адзначаюцца зубцы, якія таксама бываюць факультатыўна ў асновы лісткоў, відаць, бел. назва расліны звязана з рус. *зебрик* 'шчарбіна', якое, відаць, суадносіцца з *зе́бры* 'жабры', 'сківіцы' паводле формы, вядомых у тых жа гаворках (параўн. і бел. *зябры*); гл. *жабры*. Назва зубца з памяншальным суфіксам *-ик* > *-ык*, а назва расліны па мн. л., магчыма, у сувязі з парнай назвай *брат з сястрою, Иван да Марья* і г. д. Трубачоў, Дополн., 2, 91. Гл. *зябер*.

**З'е́д** 'шрам' (Мат. Гом.). Відаць, бяссуфіксны назоўнік ад *з'есці, jьz-ěd-ti* 'сапсаваць, грызучы'. Корань **ěd-*. Гл. *ежа*.

**Зе́кры** 'вочы' абл. (ТСБМ), тураў. *зе́кра* 'пашча (у рыбы), губы'. Ст.-рус. *зекрый* 'блакітнавокі' (XIII—XV стст.), *изекрый* (XV ст.) 'блакітны, блакітнавокі'. Параўн. *зікраты, зіграты, зеграты* 'вірлавокі', *зэ́гры* 'вочы' (Сл. паўн.-зах.). Укр. уст. дыял. *зі́кри* 'касыя вочы' (Жэлях.), *зі́кратий* 'белавокі' (Грынч.). Аднясенне да кораня *зірк, зрок* (гл.) з метатэзай выклікае пэўныя цяжкасці (Фасмер, 2, 92, 94). Няясна.

**Зе́лкі** 'лекавыя травы'. Рус. урал. *зело́к* 'прут', ярасл. 'трава', *зё́лки* (Літ ССР) 'хвошч', польск. *ziołko* 'трава', *ziele* 'трава, лекавая трава', серб.-луж. *zełko* 'траўка', славен. *zêlka* 'Kräutchen', балг. *зѐлка* 'качан капусты', макед. *зелка* 'капуста, качан капусты'. Ст.-рус. *зелка* 'траўка' (XVI ст.). Прасл. **zel + ъk-a* з тым жа коранем, што ў *зелле, зялёны* (гл.): прасл. **zel-* < < і.-е. **g'hl-* і суфіксам *-ъk-a*. БЕР, 1, 633. Параўн. Трубачоў, ЭИРЯ, 2, 36—37.

**Зе́лле** 'травы'. Рус. *зе́лье* уст. 'травы', суч. 'настой на травах', прастамоўн. 'гарэлка, тытунь', уст. 'порах', укр. *зі́лля* 'травы', 'настой, тытунь, гарэлка', 'непрыемныя людзі'. Польск. *ziele* 'травы', 'лекавыя травы', серб.-луж. *zelo, zele*, палаб. *zile* 'трава', чэш. *zelí* 'капуста', уст. 'трава', славац. дыял. *zelie* 'капуста', славен. *zêlje* 'капуста', 'трава (у наменклатурных



складаных назвах)', серб.-харв. *зе̑ље* 'зелле', назвы некаторых ядомых раслін (капуста, шчаўе і інш.), балг. *зѐле* 'капуста', макед. *зелје* 'шпінат' (а таксама іншая зеляніна). Ст.-слав. **зєлиѥ** 'расліна'. Ст.-рус. *зелие, зелье* 'трава, расліна', 'лекавыя травы', 'атрута', 'порах', 'прыправы'. Прасл. **zel-ьje* з тым жа коранем **zel-* < і.-е. **g'hl*, што ў *зялёны* (гл.) і зборным суфіксам *-ьje*. Параўн. літ. *žolė*, лат. *zâle* 'трава, зелле'. Шанскі, 2, З, 85; Фасмер, 2, 92—93; Праабражэнскі, 1, 248—249; Траўтман, 365; БЕР, 1, 631.

**Зе́льна$_1$** 'тлумна', *зялі́цца* 'тлуміцца' (бялын., Яўс.). Рус. перм., пск., тамб., арл. *зе́льно* 'вельмі, надта'. Выходзячы з рус. значэння відаць, суадносіцца з **zělo* 'вельмі' (адкуль і прыслоўе *дазела* 'вельмі' (Нас.) < **do zěla*): прыметнік з суфіксам *-ьn-*, прыслоўе, ад якога на *-а*, а таксама дзеяслоў на *-i-ti sę* > *-іцца*. Прасл. *zěl-* (ст.-слав. **ѕѣлъ**, славен. *zelô*, ст.-чэш. *zielo* 'вельмі') да і.-е. кораня **g'hoilo-* 'моцны, вясёлы, жвавы' (Покарны, 1, 452): літ. *gailùs* 'злосны, востры', лат. *gails* 'юрлівы', ст.-в.-ням. *geil* 'тс' і інш. Фасмер, 2, 92; Шанскі, 2, З, 85; Львоў, ДС ИЯ, 8, 88—100; Траўтман, 75.

**Зе́льна$_2$**, *зельна свята, зелна* 'спас' (Сл. паўн.-зах.). Польск. *Matka Boska Zielna* 'назва каталіцкага свята 15 жніўня', відаць, крыніца бел. слова (і злучэння). Адпаведная праваслаўная назва — *Прачыста* < *пръ̇чистая, аспожка* (гл.) > *спожка*. Параўн. Грынблат, Белор., 257. Польск. уст. *zielny* ад *ziele* 'зелле', гл. *зелле* з прыметнікавым суф. *-n-*.

***Зелянчу́к,** *зеленчу́к* 'недаспелы плод' (жыт., Нар. словатв.). Рус. куйбыш. *зеленчу́к* 'тс', літарат. 'дабраполь, Galeobdolon Adans', кур., разан., тамб. 'маладая жывёліна', балг. *зеленчу́к* 'агародніна'. Ад прыметніка *зялёны* (гл.) з суфіксам *-чук* (Сцяцко, Афікс. наз., 126, дзе, аднак, недакладна форма, значэнне, рэгіён і прымета, пакладзеная ў аснову намінацыі). Ці можна лічыць лексему прасл. дыял.— няясна.

***Зеляпа́н,** *зелепа́н* 'малы шчупак' (жыт., Нар. словатв.). Утворана з суфіксам *-ан* (Сцяцко, Афікс. наз., 26) ад кораня **зелеп-*, пра які гл. *зялепаць*. Больш пашырана *зяле́пуха* 'недаспелы плод' (гл.), таму магчыма, што назва малой рыбы — перанос з назвы плода. Не выключана і самастойнае ўтварэнне паводле прыметы 'малы', 'малады', ці 'зеленаваты'. Няясна.

**Земя́кі** 'бульба' (Сцяшк.). З польск. дыял. *ziemiaki*, літ. *ziemniaki* 'тс', утворанага на базе калькі назвы бульбы ў некаторых еўрап. мовах са значэннем 'земляны яблык' франц. *pomme de terre* з 1655 г. для абазначэння земляной грушы, тапінамбура, Helianthus tuberosus, а з другой палавіны

XVIII ст.— бульба, ням. дыял. *Erdapfel*, гал. *aardappel*) з прыметнікавай асновы *ziem(-ьn)-* (ад *ziem-ia*, гл. *зямля*) з суфіксам *-iak*.

**Зеніт** 'найвышэйшы пункт неба'. З рус. *зенит* 'тс', запазычанага, верагодна, у XVII ст. з лац. *zenith* < араб. *senit*, *sinit* 'кірунак, дарога'. Шанскі, 2, З, 89; Фасмер, 2, 94; Біржакава, 362; Куціна, Формиров., 122; Крукоўскі, Уплыў, 90.

**Зе́нка** 'зрэнка' (Бяльк.), *зе́нкі* 'зрэнкі' (Касп.), 'вочы' (Жд. 2), *зелкі* (?) 'вочы' (Яўс.). Рус. дыял. *зе́нки, зе́ньки* 'зрэнкі', укр. *зі́ньки*. З суфіксам *-к-а* ўтворана ад незахаванага ст.-рус. **зѣна* (адкуль і *зяніца*, гл.), што адлюстроўвае прасл. *zěna*, якое ўтворана з суфіксам *-n-* ад кораня *zě-*, звязанага з *ззяць, зяваць* (гл.). Фасмер, 2, 94; Шанскі, 2, З, 89; Саднік — Айцэтмюлер, 336; Скок, 3, 656; БЕР, 1, 635; Махэк$_2$, 714; Копечны, Slavia, 29 (1960), 187. Гл. *зрэнка*.

**Зер** 'зрок', 'лямпачка-капцілка', *зе́ра* 'агонь, святло' (Бяльк.). Рус. смал. *зер* 'агонь на насу лодкі пры начной лоўлі рыбы', *зёр* 'прасвет у лесе'. Адлюстроўвае корань **zьr-* (гл. *зрок, зрэнкі*) са знач. 'тое, што відна'.

**Зе́рбы** 'вісячыя нарасты пад шыяй у кабана' (КСТ). Відаць, метатэза з *зебры* (гл. *жабры, зебрыкі*).

**Зе́рка** 'ядро арэха', 'семя садавіны'. Ад асновы *зерне*: **зернко* з выпадзеннем *-н-*.

**Зеркі** 'вочы', 'іскры', 'зоркі' (Нас.). Відаць, утворана ад **zьr-* з суф. *-ък-*; корань, прадстаўлены ў *зрэнкі, зрок*, мае значэнне 'глядзець'.

**Зе́рне** 'семя; крупінка'. Рус. *зерно́*, укр. *зерно́, зе́рня́*, польск. *ziarno*, н.-луж. *zerno* 'зерне', 'збожжа', в.-луж. *zorno*, палаб. *źornü* 'зерне', чэш., славац. *zrno* 'зерне', 'збожжа', чэш. *zrní*, славац. *zrnie* зборн. 'зерне', славен. *zrnǫ, zrne, zrnje* зборн. 'зерне', 'зерне (асобнае)', серб.-харв. *зр̏но*, зборн. *зр̏ње*, балг. *зъ́рно*, макед. *зрно* 'зерне (асобнае)'. Ст.-слав. **зрьно** 'зерне'. Ст.-рус. *зерно* (XI ст.). Форма *зерне* першапачаткова была зборнай на *-ьje* ад *zьrn-o*: *zьrn-ьje* ці памяншальнай формай на *-ęt-*: *zьrn-ę* (параўн. другасныя памянш. *зе́рнетка* і *зярня́тка*). Аснова *zьrn-* родная літ. *žirnis* 'гарошына', лат. *zir̃ns*, ст.-прус. *syrne*, ням. *Korn*, лац. *grānum* 'зерне'. Фасмер, 2, 95—96, Шанскі, 2, З, 90; Махэк$_2$, 719; Скок, 3, 662—663. *Zьrn-* утворана з суфіксам *-n-* ад і.-е. кораня **g'r̥-* (гл. Покарны, 1, 390—391, дзе, аднак, слав. форм з *-n-* няма), які прадстаўлены ў рус. *зреть* 'спець' (гл. *зары́ць*). Траўтман, 372; Фартунатаў, AfslPh, 4, 587; Мейе, Études, 447.



**Зеў** 'адтуліна (з рота ў глотку)'. Рус. *зев* 'тс', уст. 'рот', укр. *зів* 'тс', дыял. 'рот', 'зябры', 'кут паміж ніткамі', польск. уст. *ziew* 'зеў, пазяханне', 'кут паміж ніткамі ў ткацкім станку'; чэш. *zev, zeva* 'адтуліна', славен. *zẹ̀v, zệv* 'зеў', серб.-харв. *зе̑в, зи̏јев* 'адкрытыя вусны, адтуліна, позех', балг., макед. *зев* 'адтуліна'. Параўн. *зе́ва, зяво́, зявэ́, зя́вы* 'прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы', *зе́вы, зя́вы, зявэ́* 'рот, пашча' (Сл. паўн.-зах.), *зяву́* 'прамежак паміж ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок' (брагін., Нар. сл.), *зі́вы* 'тс' (пін., Нар. лекс.), *зева, зява* 'тс' (Мат. Гом.). Прасл. *zěvъ* 'адтуліна' ўтворана ад дзеяслова *zě-va-ti* (гл. *зяваць*) бязафіксным спосабам. Родныя словы *ззяць*$_1$, *зяхаць*. Фасмер, 2, 91; Скок, 3, 656. Паводле Шанскага (2, З, 83), *зеў* ад кораня **zě-* з суфіксам *-vъ* (як рус. *сев, гнев*), а *зевать* ад *зев*.

**Зе́ўра** 'прорва, адтуліна', *зяўры* 'губы' (лаг., Сл. паўн.-зах.). З суфіксам *-р-*, які выступае ў назвах частак цела (*рабро*, дыял. *бядро*), ад *зеў* (< *зяваць*). Гл. *зяўна́*.

**Зефір** 'лёгкі ветрык', 'гатунак тканіны', 'гатунак цукеркі'. Рус. *зефи́р*, укр. *зефір* 'тс'. Ст.-рус. *зефиръ* 'вецер' (з XII ст.) з грэч. ζέφυρος 'заходні вецер'. Націск у рус. з франц. *zephir* (< лац. *zephyrus* < грэч.) з канца XVIII — пачатку XIX ст. (Булахоўскі, РЯШ, 1954, 4, 12; Шанскі, 2, З, 91). Такі ж націск у першай бел. фіксацыі ў «Энеідзе навыварат»: *зяхвір* (Шакун, Труды яз., 109). Фасмер, 2, 96; Гіст. лекс., 126; Блок — Вартбург, 673. Значэнне 'лёгкая тканіна' (< 'адзенне'), верагодна, з зах.-еўрап. моў у XIX ст. у рус. > бел. Відаць, не раней і назва цукеркі. Абодва пераносы паводле лёгкасці.

**Зе́ціць**, *зітаць* 'прасіць' (арг., Фасмер, Этюды). Рус. арг. *зетить* 'гаварыць, прасіць', укр. арг. *зітати, зэтать* 'прасіць', польск. арг. *zitać* 'гаварыць'. З грэч. ζητῶ 'прашу'. Бандалетаў, Этимология, 1980, 71; Фасмер, Этюды, 3, 63. Параўн. яшчэ рус. *зе́тить* 'падглядваць, глядзець', якое Шанскі (2, З, 89) звязвае з *зеница, зиять*.

**Зёл** 'туман, які напускаюць чараўнікі', 'падман' (Нас.). Можа, ад *зелкі* 'зелле, адурманьваючыя рэчывы'. Параўн. яшчэ рус. ярасл. *зёл* 'злы'.

**Ззяць**$_1$ 'быць адкрытым (пра адтуліну)'. Рус. *зия́ть*, укр. *зя́яти, зія́ти* 'тс'; польск. *ziać* 'цяжка дыхаць', 'ззяць', чэш. *zeti, záti* 'ззяць, глядзець', славац. *ziat'* 'ззяць, адкрыць рот (пра жывёл)', славен. *zijáti* 'трымаць рот адкрытым, крычаць', серб.-харв. *зѝјати* 'тупа глядзець, пазяхаць', 'мець вялікую адтуліну', балг. *зѐя* 'быць адкрытым (аб дзвярах, труне, ране)', макед. *зјае* 'быць адкрытым'. Ст.-слав. **зиꙗти.** Ст.-рус. *зияти*

'раскрывацца; раскрываць вусны'. Прасл. *zьj-a-ti* < *zĭi̯-a-*, адна з умлаўтных форм і.-е **g'hei-* 'быць пустым', літ. *žióti* 'раскрываць рот', лат. *žavât* 'тс', ст.-інд. *vi-haya* 'пустата', лац. *hio*, ст.-в.-ням. *geinōn, ginen* 'ззяю', грэч. χαίνω, χάσκω 'ззяю, пазяхаю'. Фасмер, 2, 98; Шанскі 2, 3, 93; БЕР, 1, 638; Скок, 3, 656; Махэк$_2$, 711; Траўтман, 368; Покарны I, 419 (без слав. прыкладаў). Гл. *зяваць*.

**Ззяць**$_2$ 'ярка свяціць'. Рус. *сиять*, перм., вят., свярдл., табол., том. *зьять, зьяяти, зиять*, укр. *сяяти, сяти* 'тс', славен. *sijáti*, серб.-харв. *сѝјати, sjȁti*, балг. *сияя*. Ст.-слав. **сиıати**. Ст.-рус. *сияти*. Бел. (і рус. дыял.) форма мае звонкае *з* замест этымалагічнага *с*, верагодна, пад уплывам *ззяць*$_1$, у выніку кантамінацыі ('быць адкрытым' — 'свяціць'). Параўн. *зіхацець* і *зяхаць*. Прасл. *sьjati* < *sĭi̯-a-* належыць, відавочна, да і.-е. **sk'ī-* (і інш.) 'ясны; цень', адкуль і *sěпь* (гл. *сенцы*); лат. *seja* 'цень, адлюстраванне, твар' (?), гоц. *skeirs* 'ясны', *skeinan* 'свяціць, блішчаць', ням. *scheinen* 'тс', ст.-грэч. σκιά 'цень'. Фасмер, 3, 629—630; Саднік — Айцэтмюлер, Handwört., 300; Скок, 247—248; Траўтман, 304; Мюленбах — Эндзелін, 3, 96; Покарны, I, 917—918.

***Зівачы́**, *зівачэ́* анат. 'міндаліны' (Сл. паўн.-зах.). Ад *зеў* з суф. *-ач* (форма мн. л.).

**Зігза́г** 'ломаная лінія'. З рус. *зигзаг* 'тс' (з 1803 г., *зикзак* — з 1780 г., *сиксак* — з 1750—1760 гг.), франц. *zigzag* 'тс' (з 1680 г., з 1662 г. — у тапоніме), ням. *Zickzack* 'тс' (каля 1700 г.). Формы *сиксак, зикзак* у рус. ваенных дакументах для абазначэння формы акопаў з ням., дзе фіксуецца і *Sicksac*. Ням. *Zickzack* (першасна ў вышэй указ. ваенным значэнні) лічаць падваеннем *Zacke* 'зубец' паводле мадэлі *Wirwarr* і г. д. Біржакава, 122, 277; Шанскі, 2, 3, 91; Фасмер, 2, 96; Даза, 761 (у ням. гукапераймальнае?); Паўль, Wörterb., 767. Блок — Вартбург (673), грунтуючыся на ранняй фіксацыі ў франц. і спасылаючыся на мадэль *tic-tac* (цік-так), не лічаць, што франц. < ням., у карысць чаго і ням. напісанне пры першай лексікаграфічнай фіксацыі (1727 г.) *sicsac* (Клюге, 435).

**Зі́каць** 'груба пакрыкваць' (слонім. клец., Жыв. сл.). Рус. дыял. *зыкать* 'крычаць', 'бегаць ад укусаў' (ад *зык*$_1$ 'рэзкі гук' і *зык*$_2$ 'авадзень' > 'непакой ад аваднёў'), *зикать* 'бегаць ад укусаў', укр. *зи́кати* 'крычаць'. *Зікаць*, відаць, кантамінацыя не поўнасцю зафіксаваных у бел. мове форм і значэнняў, адпаведных рус.: *зыкаць* дало значэнне 'крычаць', а *зікаць* — форму. Параўн. *зыкацца*.

**Зілязе́нь** 'качар' (віц., Нар. сл.), (тураў.) *зелезён* 'тс'.



Форма з азванчэннем першага зычнага ўзыходзіць да ўсх.-слав. *селезень* < *selzěпь* < *selg-*. Прасл. *selg-* насуперак Фасмеру (3, 595) цалкам рэальна давала і ўсх.-слав. *солог‑* у злучэнні *гуска сологая* ў Наўг. грамаце на бяросце № 330. Пачатковае *з-* магло ўзнікнуць пад уздзеяннем наступнага *-з-* у выніку дыстантнай асіміляцыі.

**Зіма́** 'халодная пара года'. Рус., укр. *зима́*, польск. *zima* 'тс', серб.-луж. *zyma*, палаб. *zaima*, чэш. *zima*, славац. *zima* 'зіма, холад', славен. *zíma*, серб.-харв. *зи̏ма* 'тс', балг. *зима* 'пара года', макед. *зима* 'тс'. Ст.-слав. **зима**, ст.-рус. *зима*. Прасл. *zima* 'зіма' < і.-е. **g'hei-m-* 'зіма'. літ. *žiemà*, лат. *ziema*, ст.-прус. *semo* 'зіма', грэч. χεῖμα 'зіма, холад', хец. *gimmanza* 'зіма'. І.-е. корань суаднасіцца з **g'heu-* 'ліць', г. зн. зіма першасна была часам, калі ліў дождж, а потым 'час снегу' (Трубачоў, ВСЯ, 2, 29—31). Фасмер, 2, 97; Шанскі, 2, 3, 92; ESSJ, пробны сшытак, 103—111 (дзе ўказваецца на сувязь з *zęb-*); Махэк$_2$, 715; Скок, 3, 655; БЕР, I, 641; Траўтман, 367—368; Покарны, 425. Пра *зима* ў ст.-рус., укр. гл. Вялкіна, Исслед. по словообр. и лекс., 200; Качарган, Мовознавство, 1970, 6, 48.

**Зі́мны** 'халодны' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zimny* 'тс' ад *zima* 'зіма' (гл.) з суфіксам *-n-*. Булахаў, Прыметнік, 3, 86.

**Зіпу́н** 'даўняя верхняя вопратка'. Рус. *зипун*. Ст.-рус. *зипунъ* (1583 г.), *зипунецъ* (1577 г.), *зипунишко* (1568 г.). Ст.-бел. *зипунъ* (1552 г.). Верагодна, з новагрэч. ζιπούνι < венец. *zipón* < іт. *giubbone* (параўн. *юбка*). Фасмер, Этюды, 63—64; Булыка, Запазыч., 122; Шанскі, 2, 3, 92. Менш верагодная думка, што *зіпун* < тур. *zubun, zybun*. Шыпава, Сл. тюрк., 139; Кубанава. О тюркизмах русской диалектной лексики, 1967, 32—34. Супраць Фасмер, 2, 98 (дзе іншая літ.-ра). Дзмітрыеў (Строй, 534, 558, 565) не ўключыў слова ў спісы цюркізмаў.

**Зірк** 'пагляд', *зірк! зір!* — выклічнік (ЭШ, рук.). Рус. дыял. *зырк* дзеяслоўны выклічнік 'глянь', укр. *зірк!, зирк!* 'тс', польск. *zerk* 'пагляд'. Параўн. макед. *sирканье* 'падглядванне ў адтуліну'. Параўн. ст.-рус. *зеркало, зеркило* (XVI—XVII стст.); ст.-слав. **зръцало** 'люстра'. Ад прасл. 'кораня *zьr-* (гл. *зрок, зрэнкі*) у ступені *zir-* з суфіксам *-kъ* ці без яго. Таго ж кораня *зара* (гл.). І.-е. **g'her-* 'свяціць (прамяніцца), блішчаць': літ. *žerė́ti* 'блішчаць', англ. *gray* 'шэры', ст.-ірл. *grían* 'сонца'. Покарны, I, 441—442; Траўтман, 336; Фасмер, 2, 105—106; Шанскі, 2, 3, 110—111.

**Зірну́ць** 'паглядзець', *зіркнуць* (Багушэвіч, Мар. дыс.). Рус. кур., арл., калуж. *зырнуть* 'кінуць хуткі, кароткі пагляд', дыял.

*зы́ркнуть,* укр. *зирну́ти, зи́ркнути,* польск. *zerknąć, zerkać, zierkać* 'тс', серб.-харв. *зи̏рнути, зи̏ркати, зи̏рати* 'тс', макед. *зирне* 'зірнуць'. Параўн. ст.-слав. прэфіксальныя **назирати, объзирати, призирати, зазирати** і інш., ст.-рус. *подъзирати, узирати* і інш. Ад *zir-* ці *zirk-* (гл. *зірк*) з суфіксам *-nǫ-* (калі з *zirk-, -k-* у групе зычных можа выпасці).

**Зіхаце́ць** 'блішчаць, пераліваццa' (ТСБМ), *зехаце́ць* 'часта дыхаць, раскрываючы пашчу' (Сл. паўн.-зах.). Відаць, тут адбываецца далейшае сумяшчэнне каранёў, прадстаўленых у *ззяць*$_2$ 'блішчаць' і *ззяць*$_1$ 'быць адкрытым' (адкуль *зяваць*). З *ззяць*$_1$ суадносіцца *зяхаць* (гл.) і *зіхаць* (гл.). Ад дзеяслова з суф. *-ot-* утвараецца назоўнік (параўн. *рогат*) *zěxot-,* ад якога з суф. *-ě-ti* — дзеяслоў *zěxotěti* > *зехацець,* які ўжываецца ў абодвух значэннях. Параўн. *жухацець* 'гарэць, свяціць'.

**Зі́хаць** 'абглядаць' (жлоб., Жыв. сл.). Рус. цвяр. *зёхать, зе́хать* 'глядзець'. Суадносіцца, відаць, з *ззяць*$_1$ 'быць адкрытым' (тут пра вочы), але магчыма і сувязь з *ззяць*$_2$ 'блішчаць, свяціць'. Пра элемент *х* гл. *зяхаць.* Параўн. яшчэ *зяваць.*

**Зла́кі** 'сямейства хлебных раслін'. Рус., укр. *зла́ки* 'тс', балг. *злак* 'зеляніна, трава'. Ст.-слав. **злакъ.** Ст.-рус. *злакъ* (1096 г.). У бел. (і рус.) кніжным шляхам са ст.-слав. У рус. ярасл., валаг., урал. зафіксавана *зело́к,* якое лічаць усх.-слав. адпаведнікам *злак.* Няясна, аднак, як *зелок* < *zolkъ* (ці як *злак* < *zelkъ?*). Параўн. *зелкі.* Верагодна, што *злак* < *zol-k-ъ,* дзе *-k-* — дэтэрмінант (як у *знак* і г. д.), а *zol-/zel-* суадносіцца з *зялёны, зелле* (гл.). Фасмер, 2, 99; Шанскі, 2, З 93; Трубачоў, Проспект, 90—91; Трубачоў, ЭИРЯ, 2, 36—37.

**Злачы́нец** 'той, хто парушыў закон'. Укр. *злочи́нець,* польск. *złoczyńca,* чэш., слав. *zločinec,* ст.-чэш. *zločincě,* н.-луж. уст. *złocyńc,* славен. *zločínec,* серб.-харв. *злочи̏нац,* балг. уст. кніжн. *злочинец,* макед. *злочинец* 'тс'. Ст.-рус. (XVII ст.) *злочинецъ.* Ст.-бел. (1529 г.) *злочинца* < польск. (Булыка, Запазыч., 123). Параўн. укр. *зло́чин,* польск. *złoczyn,* чэш., славац. *zločin,* серб.-харв. *зло̏чӣн, зло̀чин,* макед. *злочин* 'злачынства', славен. *zločìn* 'злачынства, злачынец'. Ад прасл. дыял. складанага слова *zъlo+čin-* (*činъ* 'дзеянне' < *činiti* 'рабіць', параўн. *учынак,* гл. *чын*) утвораны агентыўны назоўнік з паўн.-слав. суфіксам **-ьca* (параўн. ст.-чэш., польск., ст.-бел.) ці *-ьсь.* Паколькі ва ўсх.-слав. не пашырана слова **злочинъ* (верагодна, укр. < польск.), магчыма, што *злачынец* (і ўкр. *злочинець*) — пераафармленне запазычанага з польск. (чэш.?) *злачынца* паводле больш звычайнай мадэлі на *-ец.*

**Зла́шча** 'асабліва' (Бяльк., Шат., Абабурка, Дыялектызмы), *звла́шча* 'быццам бы' (Нас.). З польск. *zwłaszcza* 'з асаблівым улікам, перад усім, тым больш' яшчэ ў ст.-бел., дзе *звлаща* (Гіст. лекс., 90, 93) і *злаща* (1598 г. Булыка, Запазыч., 119).



**Злі́гла** 'цёпла' (Сцяшк.). Параўн. укр. *злиг(ну)ти* 'памяншыцца (пра мароз)' (Грынч.). Прыслоўе ад элавага дзеепрыметніка да дзеяслова **злігнуць* 'пацяплець'. Верагодна, звязана з *льга, лёгкі* (гл.) з чаргаваннем галоснага: *з-ліг-ну-ць.* Сувязь з балт. формамі (пра якую гл. *адліга*) можа быць генетычнай, а не сведчыць пра запазычанне насуперак Лаўчутэ, Сл. балт., 18 і наст.

**Злі́пух** 'ніжняя скарынка хлеба з прысохшым попелам', 'худая істота' (Юрч. Вытв., без націску), *злі́пуш, злі́пушак* 'нараст у хлебе пры выпечцы' (Нас.). Ад дзеяслова *злі́пнуцца* (< *sъ-lip-nǫ-ti sę,* гл. *ліпнуць*) ці **зліпці(ся)* з суфіксам *-ух, -уш* для абазначэння прадмета — выніку дзеяння.

**Зло.** Рус., укр., балг., макед. *зло,* польск., в.-луж. *zło,* чэш. славац. *zlo,* славен. *zlộ* 'тс', серб.-харв. *зло̑* 'злая справа, няўдача, хвароба'. Ц.-слав. **зло** 'зло, цяжкасці' (Міклашыч, Lex. paleosl.). Ст.-рус. *зло* 'зло, грэх, няшчасце'. Прасл. *zъlo* Субстантываваная форма н. р. кароткага прыметніка *злы* (гл.) у адцягненым значэнні (параўн. *дабро*). Шанскі, 2, З, 93—94.

**Зло́дзей** 'той, хто крадзе'. Рус. *злоде́й* 'ліхадзей, злачынец', укр. *зло́дій* 'злодзей', польск. *złodziej* 'тс', уст. 'злачынца', в.-луж. дыял. *złodźij,* н.-луж. *złoźej* 'злодзей, злачынец', чэш. *zloděj* 'злодзей', славац. *zlodej* 'злодзей, несумленны чалавек', славен. *zlộdej* 'злы; чорт', балг. *злоде́й* 'злачынец', макед. *злодеј* 'тс'. Ст.-слав. **зълодѣи** 'злачынец'. Ст.-рус. *зълодѣи, злодѣй* (1076 г.) 'злачынец', 'вораг'. Прасл. *zъlo-dějь* — складанае слова ад *zъlo* (гл. *зло*) і *dějati* (гл. *дзея* і інш.); параўн. *злачынец, чарадзей, дабрадзей.* Шанскі, 2, З, 94; Фасмер, 2, 99. Націск у бел., верагодна, пад польск. уплывам, як і канкрэтызацыя значэння.

**Злот,** *злоты* 'польская грашовая адзінка', адкуль 'манета вартасцю 15 кап'. (Нас., Бяльк.) і г. д. З польск. *złoty* 'грашовая адзінка (< 'залаты', гл. *золата*). *Злот,* відаць, утварэнне назоўніка шляхам усячэння для падвядзення пад тып назвы іншых грашовых адзінак (*рубель, дукат, талер* і г. д.).

**Злы.** Рус. *злой,* укр. *злий* 'тс', польск., серб.-луж. *zły* 'кепскі, злы', чэш., славац. *zlý* 'тс', славен. *zál, zèl* 'злы', 'някепскі', серб.-харв. *зао,* балг. *зъл,* макед. *зол.* Ст.-слав. **зълъ** 'кепскі, злы'. Ст.-рус. *зълый* 'кепскі, злы', 'варожы, грэшны' (XI—XII стст.). Прасл. *zъlъ,* верагодна, мела значэнне 'кепскі', адкуль потым развіваліся іншыя значэнні. Выводзяць з і.-е.

*g'hu̯el 'згінацца (у тым ліку духоўна)', да якога адносяць іран. zūr 'хлусня', ст.-грэч. φαλός 'дурны', φῆλος 'зманлівы', лац. fallo 'падманваю', літ. atžūlas 'цвёрды, злы'. Шанскі, 2, З, 95; Фасмер, 2, 99 (дзе і літ-ра); Махэк$_2$, 716; Скок, 3, 642—643; БЕР, 1, 663—664; Абаеў, Этимология, 1966, 252; Траўтман, 372—373; Покарны, I, 489—490. Пра ст.-бел. ужыванне слова гл. Булахаў, Прыметнік, 3, 87—89.

**Злы́дзень** 'шкодны чалавек, ліхадзей', 'нягоды, бяда' (ТСБМ), *злы́дня* 'бядота' (Бяльк.), *злы́дні* 'бядота, недахваткі' (Нас.). Рус. *злы́день,* арх., валаг., паўн.-дзвін., омск., карэльск, тул., цвяр., арл., варонеж, кур. 'злы чалавек', урал. 'махляр', валаг. 'скнара', алан., вяцк., перм., урал., сарат., варонеж., калуж., пск. 'гультай', кур., арл., калуж., бранск., смал., варонеж., вяцк., перм., 'бядняк, жабрак', *злы́дни* тамб. 'інтрыгі, свавольствы', паўн., зах., паўд.-смал., арл., том., сіб. 'цяжкі час, беднасць', укр. *злúдень* 'бядняк', *злúдні* 'нягоды, бяда'. Польск. zɫydnia 'бяда' < укр. (Дарашэўскі, 10, 1172). Усх.-слав. спалучэнне *злы дни* 'цяжкія дні'. Параўн. пералік 'злых дзён' у старых календарах (Трыфуновіч, Азбучник српских средњовековних књижевних појмова 1974, 94—95), адкуль *злыдні* з далейшым граматычным пераафармленнем на адз. л. *(злыдня, злыдзень)* і семантычнай зменай: 'кепскі час' > 'цяжкі час' > 'ліха, бяда' > 'чалавек, што церпіць бяду, ліха' ці 'ліхадзей'. Гл. *злы, дзень.* параўн. *добры дзень.*

**Злы́дкі** 'нязручныя сані' (вілен. Кіркор). З літ. *slides* 'лыжы' ці *šlė̃dės* 'гатунак саней' з суфіксацыяй *(-к-)* і зменай пачатковага зычнага на *з-*. Лаўчутэ, Сл. балт., 111.

**Злэўдзіць** 'украсці (іран.)' (Юрч. Сін.). Гл. *лэўдзіць* 'красці' (Нас.).

**Зляб** 'непрыглядны, мізэрны чалавек', *зляболка* 'непрыглядная жанчына' (бялын., Яўс.), *злеб* 'сноб' (Касп., значэнне недакладнае; прыклад: *«зьлеб ты пракляты, што мучыш?»*). З лат. *žlēba* 'непрыглядны чалавек' (Лаўчутэ, Сл. балт., 111). Лат. *ž* змянілася на *з'*. Параўн. яшчэ *жлоб.*

**Зляк** 'спалох' (Мат. Гом.), *злёк* 'тс'. Рус. калуж. *зля́ка* 'спалох'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *з-лякаць, з-лякацца* (гл. *лякаць*).

**Змага́цца** 'адстойваць, спаборнічаць, імкнуцца перамагчы'. Укр. *змагáтися* 'тс', польск. *zmagać się* 'змагчы, імкнуцца перамагчы', в.-луж. (ці сюды?) *zmahać* 'хваляваца (аб вадзе), развявацца (аб флагу)', н.-луж. *zmogniś se* 'мацавацца, акрыяць', чэш. *zmáhati* 'перамагаць', *zmáhati se* 'авалодваць (пра цялесныя і духоўныя станы)', уст. 'напружвацца', славац.



*zmáhat' sa* 'павялічвацца, умацоўвацца, набываць магчымасць', славен. *zmâgati* 'змагчы, дапамагаць', *zmâgati se* 'перамагаць, перамагацца', серб.-харв. *смáгати, смо̀ħи* 'змагчы, саўладаць, мець у дастатку', балг. *смо̀гвам,* макед. *смогне* 'змагчы'. Ст.-рус. *съмогати* 'дапамагаць' (XVI ст.). Прасл. *sъmagati (sę)* з коранем *mag-/mog-,* гл. *магчы;* прэфікс *sъ* дае значэнне 'змагчы', а чаргаванне *o/a* пераводзіць дзеяслоў у незакончанае трыванне, выражае працягласць дзеяння.

**Зман** 'падман'. Параўн. ст.-рус. *изманити* 'паабяцаць' (1651 г.), балг. *изма̀ма,* макед. *измама* 'падман, ілюзія', польск. *zmanić* 'падмануць'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова **з-маніць,* гл. *маніць.*

**Змартве́нне,** *змартве́ня* 'гора' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zmartwienie* 'непрыемнасць' ад *z-martw-ić* 'стаць прычынай смутку', уст. 'забіць'. Корань *martw-* гл. *мёртвы.*

**Зматажы́цца** 'налегчы' (Сл. паўн.-зах.). Прыклад: *«індычка зматажылася на гусяня і пашла комкаючы»* (шчуч.). Улічваючы геаграфію, верагодна, з літ. Крыніцай можа быць *matažgóti, matarúoti, matašką́oti* 'махаць', *sumatažgóti* 'пачаць рухацца, махаць'.

**Зме́на** 'прамежак часу' (ТСБМ), 'зменнае поле', 'здрада' (Нас.), рус. *смéна,* укр. *змíна,* польск. *zmiana* 'змяненне', 'прамежак часу', чэш. *změna* 'змяненне', славац. *zmena* 'тс', славен. *zmêna* 'дамоўленасць, размова, гульня; змяненне', серб.-харв. *смје̏на* 'змяненне; змена', балг. *смя̀на* 'тс', макед. *смена* 'тс'. Параўн. ст.-рус. *съмѣнити* 'змяніць' (1331 г.), *измѣнити* 'змяніць' (1076 г.), 'здрадзіць' (1076 г.), *измѣна* 'змяненне', 'замена', 'здрада' (XI ст.). Параўн. серб.-луж. *změnić, změniś* 'змяніць'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *змяняць,* у якім кантамінаваліся дзве прэфіксальныя формы: *sъ-mėn'ati* і *jьz-mėn'ati;* першае значэнне ад першай, інш., асабліва апошняе, верагодна, ад другой. Але магчыма, што значэнне 'здрада' з рус. Корань *mėn-* гл. *мена.*

**Зместі** 'тэма, сутнасць'. Укр. *зміст.* Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *змѣщати* (Сіноніма) 'умяшчаць' ад кораня *mėst-* (гл. *места*) с суфіксам *-ja-* і прэфіксам *з-* < **sъ-*. Тэрмін замацаваўся ў пачатку XX ст., у прыватнасці ў творах М. Багдановіча (1911 г.). Жаўтобрух (Мова укр. періодичної преси, 1970, 160) фіксуе ўкр. *зміст* у 1909 г. Не выключаны ўкр. уплыў на замацаванне ці ўтварэнне тэрміна ў бел., паколькі цяжка ўявіць незалежнасць гэтых слоў. Першаснае (магчыма, не актуалізаванае) значэнне 'тое, што змяшчаецца ў нейкай з'яве'.

**Зміньдзюк** 'скнара' (Касп.). Утворана з суфіксам *-ýк* ад асновы дзеяслова *жміндзіць (> *зміндзіць)*; гл. гэты дзеяслоў.

**Змóва** 'тайны згавор'. Рус. уст. абл. *смóлва* 'гутарка; угавор', укр. *змóва* 'змова', польск. *zmowa* 'тс', славац. *zmluva* 'пагадненне'. Ст.-бел. *змова* (Александрыя), *змовца* (Гіст. лекс., 99). Прасл. дыял. *sъmḷva* — бяссуфіксны наз. ад дзеяслова *sъ-mъl-vjati* з коранем *mъlv-* (гл. *мова*). Ст.-бел. *змовца* (XVII ст.) з польск. (Булыка, Запазыч., 123), хаця і суадносіцца са *змова*, якое можа быць і вынікам унутранага развіцця.

**Змóга** 'здольнасць, магчымасць'. Рус. абл. *смóга* 'тс', укр. *змóга* 'тс', в.-луж. *zmoha* 'хваля'. Параўн. ст.-рус. *съмогати* 'дапамагаць' (XVI ст.). Бяссуфіксны наз. ад дзеяслова *съмогати*, відаць, у больш шырокім, чым зафіксавана ў ст.-рус., значэнні (параўн. н.-луж. *zmognuś se* 'мацавацца, акрыяць'). Корань *mog-* гл. *магчы*.

**Змрок** 'адсутнасць святла'. Укр. *змрок, змрíк* 'прыцемак', польск. *zmrok* 'час ад заходу сонца да ночы', славац. *zmrk* 'змрок'; параўн. макед. дыял. *смркне се* 'змрачнець', балг. *смрачвам се* 'цямнець'. Ц.-слав. *съмрькати* 'змрачнець'. Прасл. корань *mork-* (гл. *марока*) у значэнні 'цемната' даваў дзеяслоў, які мог прыняць прэфікс *sъ-*, з польск. запазычана бел. (і укр.) форма з *-ro-* (параўн. *марока*, рус. *обморок* з *-oro-*).

**Змяя́**, *змей*. Рус. *змея́, змей*, укр. *змія́, змій*, польск. *żmija* 'змяя', в.-луж. *zmij*, 'змей, дракон', *zmija* 'гадзюка', н.-луж. *zmija* 'змяя', чэш. *zmije*, уст. *zmij*, славац. *zmija*, славен. *zmîja* 'змяя, дракон', *zmij, zmâj* 'дракон', серб.-харв. *змùја* 'змяя', *змâј* 'змей, дракон', балг. *змия, змей*, макед. *змија, змеј* 'змяя, змей'. Ст.-слав. **змиꙗ, змии**. Ст.-рус. *змѣй, змьй* (XII ст.), *змѣя* (XIV ст.). Прасл. *zmьja, *zmьjь* узводзяць да таго ж кораня, што *зямля* (гл.), як табуістычную назву са значэннем 'зямны гад' ці 'які поўзае па зямлі'. Суфікс *-jь* утвараў назоўнік м. р., адкуль ж. р. утвараўся фармантам *-a*. Праабражэнскі, 1, 253; Фасмер, 2, 100; Шанскі, 2, З, 99; Махэк$_2$, 717; Скок, 3, 657; БЕР, 1, 648; Саднік — Айцэтмюлер, Handwört., 337; Копечны, Zákl. zásoba, 426; Покарны, 1, 415; Мейе, Ét., 248, 393.

**Зна́йда**, *знайдýк* 'падкідыш' (Сл. паўн.-зах.), 'той, што знаходзіць ці кажа, што знаходзіць' (Нас.), укр. *зна́йда* 'падкідыш', польск. *znajda* 'тс'. Ад дзеяслова *знайсці, знайду (з+найсці*, гл. *найсці)* без суфікса ці з суфіксам *-ук*.

**Знак** 'умоўнае абазначэнне'. Рус., укр., балг. макед. *знак*, польск., чэш., славац. *znak*, славен., серб.-харв. *znâk*. Ц.-слав., ст.-рус. *знакъ*. Прасл. *zna-kъ* ад кораня *zna-* з суф. *-kъ* (як *гук* і г. д.). Гл. *знаць*.



**Знаць** 'ведаць'. Рус. *знать*, укр. *зна́ти*, польск., в.-луж. *znać*, н.-луж. *znaś*, палаб. *znot*, чэш. *znáti*, славац. *znat'*, славен. *znáti*, серб.-харв. *знâти*, балг. *зна́я, знам*, макед. *знае*. Ст.-слав., ст.-рус. *знати* 'ведаць'. Прасл. *zna-ti* < і.-е. **g'en-*, **g'no-* 'ведаць': літ. *žinóti*, лат. *zinât* 'ведаць', ст.-прус. *po-sinna* 'пазнаю', ням. *kennen* 'ведаць', лац. *co-gnosco* 'пазнаю', ст.-інд. *jānâmi* 'ведаю', грэч. γιγνώσκω 'пазнаю' і інш. Фасмер, 2, 100—101; Махэк$_2$, 717; БЕР, 1, 650; Траўтман, 371; Покарны, 1, 376. І.-е. **g'en-* 'ведаць' ад і.-е. **g'en-* 'нараджаць' праз значэнні 'нараджацца, быць родзічам' > 'ведаць чалавека'. Трубачоў, История, 154—157; Шанскі, 2, З, 101; іншы ход той жа сувязі: праз 'нараджаць' > 'прымаць' > 'даведвацца' (Скок, 3, 658—659). Гл. яшчэ *зяць*.

**Знéцікі** 'знянацку' (Нас., Мат. Гом.), *знецíйка* 'тс' (Бяльк.). Рус. смал. *знéтики*, зах., смал. *знéтику* 'тс', укр. *знéтельки* 'тс' (Жэлях.); параўн. в.-луж. *znětka* 'з сучаснага моманту'. *Знецікі* < *знецíйкі* ў выніку сцягвання; **знецíйкі* і *знéцíйка* — спалучэнні прыназ. *з* з р. скл. назоўніка **нецíйка*, **нецівак* < *nečevъkъ* 'бяспамяцтва', суадносным з *нячывіль* (гл.). Гл. *знячэйку*. Мяркулава, Этимология, 1977, 91.

**Знéшні** 'вонкавы'. Параўн. ст.-слав., ст.-рус. *извънъ, извнѣ* 'звонку'. Прыметнік утворан суфіксам *-шн-і* (Грам. бел. мовы. Марфалогія, 221) ад асновы прыслоўя *jьz-vъn-ě* > **звне* > *зне*, дзе ўтрачаны *в* паміж зычнымі, а *е* < *ě* — былы канчатак месн. скл. (аналагічную мадэль мела *звонку* < < *jьz-vъn-ъk-u*).

**Знібéць** 'аднастайна, тупа балець' (Юрч. Сін., Мат. Гом.), *знібíла* 'ныцік, плакса' (Юрч. Вытв.), — у Юрчанкі без націску. Рус. *знобить* 'адчуваць холад', смал. *знобéть* 'пакутаваць', смал., паўд.-сіб., алан., ярасл., паўн. *знобúть* 'пакутаваць', укр. *знобúти* 'прастуджваць', польск. дыял. *znobić* 'халадзіць', чэш. *znobiti* 'астуджаць; адчуваць холад', славац. *znobit'* 'марозіць, халадзіць'. Ст.-рус. *знобити* 'марозіць, халадзіць' (XII ~ XVII стст.). Параўн. балг. дыял. *знòба* 'хваравіты стан'. У бел. захавалася форма з дзеяслоўным вакалізмам у адрозненне ад адназоўнікавай формы тыпу рус. *знобить*, якая прадстаўлена ў *зазноба* (гл.). Бел. і рус. дыял. значэнне 'балець' магчыма разглядаць як пашырэнне значэння 'адчуваць холад', якое можа лічыцца першасным. *Znobiti* 'марозіць' звязваюць з *zębъ* (гл. *зяб*$_1$). Міклашыч, 401; Фасмер, 2, 101; БЕР, 1, 650; тут магла быць метатэза **zenb-* > **zneb-* (?). У супастаўленне ўключаюць *зіма* (гл.). Праабражэнскі, 254; Махэк$_2$,

707—708. Выдзяляюць прасл. корань **zьn-*, да якога далучаецца суфікс *-ob-a* (але як тады быць з бел. формай?). Шанскі, 2, З, 102; Скок, 3, 659. Параўноўваюць з і.-е. **g'en-* 'нарадзіць, нарадзіцца'. Трубачоў, ВЯ, 1957, 2, 90; Трубачоў, Ист. терм., 153—154. Не выключана энатыясемічная сувязь з *znojь* (гл. *зноіць*); гл. *зазноба*. Адзінцоў, Этимология, 1974, 117—120. Няясна.

**Зніка́ць** 'пераставаць існаваць'. Рус. *сника́ть* 'панікаць', укр. *зникати* 'знікаць', польск. *znikać* 'тс', чэш. кніжн. *znikati*, славац. уст. *zniknút*, славен. *zniknìti* 'прайсці', 'знікнуць', *izníkniti* 'знікнуць', серб.-харв. *ѝзникнути* 'ўзысці (пра расліну)', 'узнікнуць, 'з'явіцца', балг. *изнѝквам* 'узнікнуць, панікнуць', макед. *изникне* 'ўзнікнуць', 'узыйсці'. Ц.-слав. *изникнѫти* 'ўзнікнуць', '*съникнѫти* 'заглядваць уперад', *съницати* 'наглядаць' (Міклашыч, Lex. paleosl.), ст.-рус. *изницати* 'ўзнікаць'. З прэфіксам *z-* (*<jьz* ці *sъn-*) ад дзеяслова *nikati* (гл. *нікнуць*).

**Зніч** 'святы агонь у язычнікаў'. Польск. *znicz* 'надгробнае полымя', чэш. *znič* 'святы агонь у старажытных літвінаў і славян'. Верагодна, таго ж кораня, што і *зноіць* (гл.): *zněti, zniti, znoi-(>znojь)* 'гарэць' з суф. *-čь*, які ўтвараў назвы прадметаў паводле дзеяння (Сцяцко, Афікс. наз., 45; Слаўскі, SP, 1, 102), як *biti* — *bičь*.

**Зні́чка** 'падаючая зорка' (ТСБМ), 'блукаючы агонь; асоба, што з'яўляецца ненадоўга' (Нас.). Памянш. назоўнік з суф. *-к-а* ад *зніч* (гл.).

**Зно́даць** 'сапсаваць, знішчыць' (мядз., Нар. словатв.). Ад *нодаць* 'псаваць' (Касп.). Параўн. *занодаць*.

**Зно́іць** 'падбухторваць' (мазыр., ЭШ). Рус., пск., цвяр., кастр. *знойть* 'тлець, гарэць, паліць', чэш. *znojiti*, славац. *znojit' (sa)*, н.-луж. *znojś*, славен. *znojìti* 'пацець', серб.-харв. *знòјити се* 'пацець', 'цяжка працаваць', балг. уст. *зноя се* 'пацею; макед. *знои се* 'пацее'. Ст.-рус. *зноити* 'паддавацца ўздзеянню гарачыні'. Параўн. ст.-слав. **знои** гарачыня', ц.-слав. *зноение* 'пот', ст.-рус. *зной* 'гарачыня', 'гарачка'. Бел. дыял. значэнне пераноснае, на базе значэння 'паліць — гарэць', 'падпальваць'. *Зноіць* — дзеяслоў з суфіксам *-i-ti* ад *znojь*, якое разглядаецца як назоўнік, звязаны з дзеясловам *zněti* 'гарэць' (*<znoịti*); параўн. рус. дыял. *знеть, зне́ять, знить* 'гарэць, тлець', чэш. *znět'*, рус. *зной*, серб.-харв., славен. *znôj*, 'гарачыня, пот', чэш., славац. *znoj* 'гарачыня, пот', польск. *znój* 'гарачыня', далейшая этымалогія няпэўная. Параўнанні з *гніць* — *гной* недастаткова інфарматыўныя, паколькі і гэта пара не мае цалкам пэўных і.-е. паралелей. Фасмер, 2, 101; Шанскі, 2,



З, 103; Махэк$_2$, 717; Скок, 3, 659; Саднік — Айцэтмюлер, Handwört., 337. Гл. *зніч, загнет*.

**Зноў,** *ізно́ў* (Багдановіч), дыял. *зной* (Жд. 1). Рус. *сно́ва, сы́знова*, пск., смал. *изно́в*, смал. *изно́ву*, бранск. *изновь*, укр. *знов, ізно́в, знову, ізно́ву*, польск. *znów, znowu*, чэш. *znova, znovu*, славац. *znova, znovu*, паэт. *znov*, серб.-луж. *znowa*, славен. *iznôva, iznòv*, серб.-харв. *ѝзнова*, балг. *изнòво*. Ст.-слав. **изнова**. Ст.-рус. *изнова* (XIV ст.). Прасл. *jьz-nova* ўяўляе сабой спалучэнне прыназоўніка з р. скл. прыметніка *nov-* (гл. *новы*), апошні галосны (канчатак р. скл.) рэдукуецца ці страчваецца ў сувязі з дээтымалагізацыяй (Шуба, Прыслоўе, 111).

**Знудзіць** 'зрабіцца блага, вырваць'. Рус. дыял. *зну́дить* смал. 'давесці да благога стану', цвяр., пск. 'балець, ламаць', укр. *зну́дити* 'надакучыць', 'апрыкраць', польск. *znudzić* 'надакучыць', чэш. *znuditi*, славац. *znudit'* 'тс', серб.-харв. *сну̏ждити се* 'надакучыць, выклікаць кепскі настрой', макед. *снужди се* 'надакучыць'. Ц.-слав. *изнѫдити* 'выганяць, вырываць'. Прасл. *jьz-nud-i-ti* — прэфіксальны дзеяслоў; гл. *нудзіць* 'адчуваць млосны стан'.

**Знушча́цца** 'здзекавацца' (Жд. 2; Мат. Гом.; ЭШ), *змушча́цца* 'тс' (Жд. 2). Рус. зах. бранск. *знущаться* 'тс', паўд. *змущаться* 'тс', вяцк., смал. *змуща́ть* 'схіляць, спакушаць, падбухторваць, нацкаваць', укр. *знуща́тися* 'здзекавацца'. Булахоўскі (Питання, 65; Вибр., 2, 71) выводзіў укр. *знуща́тися* з **згнущатися*. Трубачоў (Проспект, 83—84) рэканструюе прасл. дыял. *sъn-uščati (sę)* і, параўноўваючы з польск. *poduszczać* 'падбухторваць', выводзіць бяспрэфіксны дзеяслоў *uščati < ustjati* ад *usta* (гл. *вусны*) і дае для дзеяслова балт. паралелі: літ. дыял. *áuščioti* 'балбатаць, гаварыць', лат. *aũšât* 'балбатаць'. Параўн. і Трубачоў, Слав. языкозн., V, 179. Мартынаў (Бел.-укр. ізал., 48; Лекс. Палесся, 13—14) далучае да гэтых паралелей мін.-маладз. *ушчуваць* 'лаяць', *ушчувацца* 'крыўдзіцца', а таксама ст.-рус. *наустити* (параўн. і рус. *наущать*), рэканструюе ўсх.-балт. **san-austjati* і лічыць, што яно пранікла ў бел., укр. Трэба, аднак, улічыць, што *наустити* не ст.-рус., а ст.-слав. факт, прадстаўлены ў Зогр. і Мар. евангеллях, таму тут больш верогодна не пранікненне, а генетычная роднаснасць (як мяркуе Трубачоў). У бел., відаць, адбываецца ўзаемадзеянне *знушчацца* і *змушчацца* (параўн. рус. *смущаться* да *смутить*, гл. *муціць*), якое першасна мела значэнне 'выклікаць непакой'. Ці не трэба ўлічыць пры тлумачэнні польск. уст. *znękać* 'засмучаць, знясільваць', в.-луж. *znućić* 'прымусіць'? Параўн. таксама бел. *знішчыць*, укр. *знищи-*

*ти* 'спыніць існаванне' і ст.-рус. *изнищити* 'зрабіць жабраком'. Семантычны бок цікавай гіпотэзы Трубачова патрабуе ўдакладненняў, сярод якіх магчыма і ўздзеянне ўказаных слоў.

**Знявага** 'абраза'. Укр. *зневáга* 'тс'. Рус. дыял. *изневáга* ніжнегар., урал. 'насілле, няволя, прыціск', урал. 'непрыемнасць', польск. *zniewaga* 'знявага'. Параўн. чэш. *znevážiti*, славац. *znevažit'* 'пазбавіць важнасці', рус. смал. *зневáжить* 'зняважыць, абразіць'. Аддзеяслоўны бязафіксны назоўнік ад *зневáжаць (з -не- < jьz-ne-)* з коранем *vag-* (гл. *вага*); параўн. антанімічную пару *паважáць — павáга*. Значэнне аб'ядноўвае польск., бел., укр. мовы; крыніцай могуць быць як укр., бел. (паколькі існуе рус. іншазначная паралель; параўн. і *знямога* без польск. паралелі), так і польск. (наяўнасць ст.-польск. *znieważca* 'хто не паважае багоў', чэш., славац.).

**Знямóга** 'стан крайняй стомленасці'. Укр. *знемóга* 'бяссілле', балг. *изнемòга* 'знямога'. Параўн. ст.-слав. **изнемагати**. Ст.-рус. *изнемогати* 'знемагаць', ст.-польск. *zniemóc, sniemóc* 'тс'. Бязафіксны назоўнік ад дзеяслова *jьz-ne-mog-a-ti* з коранем **mog-*; гл. *магчы*, верагодна, прасл. рэгіянальнага пашырэння (параўн. яшчэ рус. *изнеможéние*, польск. *zniemożenie*, в.-луж. *zniemoženje*, серб.-харв. *изнѐмоглост* 'знямога').

**Знянáцку** 'раптоўна'. Рус. бранск. *изненачку*. Укр. *зненáцька*, польск. *znienacka*, чэш. *znenadaja, znenadajky* 'нечакана', славац. *znenazdajky* 'зразу', славен. *iznenâda, iznenâde*, серб.-харв. *ӣзненāткē, ӣзненāда, изнѐнађено* 'нечакана', балг. *изненàда* 'нечаканая падзея, пачуццё', макед. *изненада* 'тс'. Паводле Мартынава — Міхневіча (Маладосць, 1970, 3, 145), Брукнера (665), бел. (і ўкр.) з польск., дзе на месцы **dě-* (параўн. *надзея*) фанетычна выступае *с*. Не выключана і запазычанне ў польск. з укр., бел. Прасл. дыял. *jьz-ne-na-dě-j-ьk-y* (аддзеяслоўны назоўнік **naděja > naděјьka*, гл. *надзея*).

**Зняць** 'дастаць, здзець'. Рус. *снять*, укр. *зня́ти*, польск. *zdjąć* 'тс', в.-луж. *zjeć* 'абагульніць, падвесці вынікі', *zejeć* 'зняць', н.-луж. *zjeś* 'зняць, забраць', чэш. *sejmouti. sníti*, славац. *sňat'*, славен. *snéti*, серб.-харв. *снéти, снȇти, снијѐти*, балг. *снѝмам, снѐма* 'тс', макед. *снема* 'знікнуць'. Ст.-слав. **сънѧти** 'зняць'. Ст.-рус. *съняти* 'зняць'. Прэфіксальны дзеяслоў прасл. *sъn-ę-ti*, дзе корань *ę-/im-/ьm-*, прадстаўлены ва *ўзяць, прымаць, мець* і інш., *-n-* — частка прэфікса. Не выключана, што бел. і ўкр. словы пад уплывам рус. Гл. *мець*.

**Знячэ́ўку** 'нечакана, мімаволі' (ТСБМ), *знячы́вілі* 'стрымгалоў, мімаволі' (Нас., Байк. і Некр.). Параўн. укр. *зничéв'я, зневéв'я* 'ад нечага рабіць, нечакана, без прычыны'. Форма *знячэўку* — спалучэнне прыназоўніка *з* з р. скл. назоўніка **нячэвак*. Паводле Шубы (Прыслоўе, 112), у форме *знячэўкі* адлюстроўваецца дээтымалагізацыя канчатка; магчыма і інакш: паралельная форма назоўніка ж. р. **нячэўка*. Гэты назоўнік памянш. да *нячы́віль* (гл.). Гл. яшчэ *знецікі*. Мяркулава, Этимология, 1977, 91.



**Зоб** 'валлё, валляк' (Бельк.). Рус. *зоб*, укр. уст. *зоб* 'тс' (Жэлях.), ст.-польск. *zob* 'корм для птушак', чэш. *zob* 'корм для птушак', славац. *zob* 'дзюба; дзёўбанне', н.-луж. *zob* 'дзюба', славен. *zȍb* 'цвёрды корм', серб.-харв. *зȍб* 'гатунак жыта, авёс (на корм)', балг. *зоб* 'зерне для корму жывёлы'. Ц.-слав. *зобь* 'авёс'. Ст.-рус. *зобъ* 'корм' (XII~XVI стст.), 'валлё' (XVII ст.). Прасл. *zobъ* 'корм', *zobati* 'есці'. Параўн. літ. **žẽbeti* 'есці', лат. *zebenieks* 'мех з аўсом', ст.-інд. *já(m)bhate* 'хапае', ірл. *gop* 'рот, дзюба', ням. *Kiefer* 'дзюба', ст.-англ. *cealf* 'сківіца'.І.-е. **g'ebh-* 'дзюба, рот, есці'. Покарны (1, 382) сюды ж адносіць *жабры* (гл.). Шанскі, 2, З, 103; Фасмер, 2, 102; Махэк$_2$, 718; Скок, 3, 659—660; БЕР, 1, 650—651; Траўтман, 364.

**Зóбка** 'аброчная торба' (Сцяц.). Рус. арл., свярдл., бранск. *зобка* 'кош'. Ад *зоб* (гл.) з суфіксам *-к-а;* значэнне: 'зерне (корм)' > 'месца для корму' > 'кош' > 'торба'. Аналагічнае развіццё значэння ў лат. *zebenieks* 'торба з аўсом для каня'. Сцяцко, Словаўтв., 109.

**Зода** 'сода' (брасл., Сл. паўн.-зах.). Звонкі пачатак у выніку індывідуальнага азванчэння агульнабел. *с-* ці не пад уздзеяннем ням. *Soda* з пачатковым *[z-]?*

**Зóлак** 'пачатак світання'. Рус. пск. *зóлок* 'тс'. Паводле Даля (1, 691), таго ж кораня, што *золата, жоўты*. Тады тую ж форму мае *злак, злакі* (гл.). Семантычная сувязь з і.-е. коранем **g'hlō'*, да якога ўзводзяцца *зялёны, залá*$_1$, *золата*, верагодная, тым больш што ў сям'і гэтых слоў ст.-англ. *glōm* 'прыцемак, паўсвятло' (у *жоўты* корань пачынаўся з **g-*). Шыманскі, RS, 40, 1, 43—45; Коген, Запіскі, 2, 9, 88.

**Зóлата**. Рус., укр. *зóлото*, польск., серб.-луж. *złoto*, палаб. *zlåtă*, чэш., славац., *zlato*, славен. *zlató*, серб.-харв. *злâто*, балг. *злàто*, макед. *злато*. Ст.-слав. **злато**. Ст.-рус. *золото* (1339 г.). Ст.-бел. *золото* (Марч., дыс.), *злото* < польск. (Гіст. лекс., 92, XV ст.; Булыка, Запазыч.), *злато* < ст.-слав. Прасл. *zolto* < і.-е. **g'hlo-, *g'hel-*: літ. дыял. *žel̃tas* 'залаты', лат. *zèlts* 'золата, залаты', ням. *Gold* 'тс', ст.-інд. *hiranyam*, ст.-іран. *zaranya* 'золата'. Шанскі, 2, З, 105; Фасмер, 2, 103—104; Махэк$_2$, 716; Скок, 3, 656—657; БЕР, 1, 644—645; Траўтман, 368; Покарны, 1, 430. Пра развіццё значэння ў ст.-бел. прыметніка *золотый* гл. Булахаў, Прыметнік, 3, 89—90.

**Зо́лкі** 'сыры, пранізлівы'. Рус. арханг. *золкóй* 'кіслы'. Прыметнік ад *zol-* (гл. *золь*$_1$) з суфіксам *-ъk-*. Трубачоў, Слав. языкозн., V, 179.

**Золь**$_1$ 'сырое, пранізлівае надвор'е', дыял. *залá* (Касп.), *залінá* (Сл. паўн.-зах.). Укр. *золá* 'сыры халодны вецер'. Прасл. дыялектызмы *zolь, zola,* роднасныя ням. *kühl* 'прахалодны', лац. *gelū* 'холад, мароз'. І.-е. **gel(ə)-* 'холад(на), замярзаць'. Трубачоў, Слав. языкозн., V, 179; Покарны, I, 365—366. Аднак *zolь* можа тлумачыцца з **g'-*, а не з **g-*, таму трэба, відаць, рэканструяваць і.-е. корань, прыклады для якога даюцца ў Покарнага толькі з моў *kentum,* як **g'el(ə)-*.

**Золь**$_2$ 'калоідная сістэма з дробных часціц у нейкім іншым асяроддзі' (БРС, БелСЭ). Інтэрнацыяналізм на базе скарочанага лац. *solutio* 'раствор'. Пачатковае *з-* указвае на верагоднасць ням. пасрэдніцтва для рус. (як і польск.), адкуль у бел.

**Зо́на.** Рус., укр. *зóна,* польск. *żona.* З франц. *zone* (< лац. *zona* < грэч. ζώνη 'пас') ці з лац. праз рус. (ці польск.). У рус. з XVII ст., у бел., верагóдна, у XX ст. Шанскі, 2, З, 107; Фасмер, 2, 104; Блок — Вартбург, 651. Ням. пасрэдніцтва менш верагодна: іншае вымаўленне пачатковага зычнага (Біржакава, Очерки, 362).

**Зо́рка** 'нябеснае цела'. Рус. *зóрька* 'зара', наўг., бранск. 'зорка', укр. *зíрка* 'зорка'. Параўн. польск. *zorza* 'зара, зорка', чэш. *zora* 'ранішняя зорка'. Памянш. ад *зара* < *зора* (ці *зоря*) з суфіксам *-к-а.* Параўн. з іншымі суфіксамі балг. *зорнúца,* серб.-харв. *зóрњача,* славен. *zorníca, zorjeníca* 'ранішняя зорка; Венера'. Значэнне *зара* (гл.) 'ранішняе святло' дало падставу для дыферэнцыяцыі значэнняў гэтага слова: 'афарбоўка неба' і 'зорка'. Для далейшай дыферэнцыяцыі важным было замацаванне суфіксальных утварэнняў для назвы адной ранішняй зоркі, а потым і зоркі наогул. Булахоўскі (Труди філол. ф-ту ХДУ, 3, 1956, 62) адзначыў, што ў ст.-рус. адбывалася дыферэнцыяцыя *заря* 'святло', *зоря* 'зорка'.

**Зо́рыць** 'глядзець', *зáрыцца* 'квапіцца, заглядацца на чужое' (маг. віц., Шат.; Мат. Маг.; З нар. сл.; Шатал.; Нар. сл.). Рус. *зáриться* 'заглядацца', пск., маск., сіб. *зáрить* 'глядзець, шукаць вачыма'; дыял. *зóрить* 'глядзець, сачыць, наглядаць', укр. *зорúти* 'глядзець, сачыць вачыма', *зарúти ся* 'заглядацца' (Жэлях.). Славен. *zóriti* 'глядзець, сачыць вачыма'. Таго ж кораня, што *зрок, зрэнкі,* але з іншай ступенню чаргавання галоснага *(zьr-/zor-;* параўн. *узор, надзор).* Прасл. корань *zьr/zor-* узыходзіць да і.-е. **g'her-* 'прамянець, блішчаць': літ. *žerė́ti* 'блішчаць'; параўн. *зара.* Фасмер, 2, 104; Траўтман,



366; Покарны, I, 441—442; Варбат, Этимология, 1980, 32. Семантычны пераход 'глядзець' — 'квапіцца, заглядацца на чужое' прадстаўлен у *зайздросціць,* рус. *видеть — завидовать* і інш. Супрун, Полесье и этногенез славян, 1983, 61.

***Зра,** *зря* 'дарма' (Бяльк.). З рус. *зря* 'тс' (гл. Шанскі, 2, З, 111) — дзеепрыслоўе ад *зреть* 'глядзець' (гл. *зрэнкі, зорыць*).

**Зраз** 'прышчэпак' (Жыт., Нар. словатв.). Як і ўст. укр. *зраз* 'тс' (Грынч.), з польск. *zraz* 'тс', дзе ўзводзіцца да *raz* (Брукнер, 454), г. зн. да кораня *рэзаць* з прэфіксам *z-*. Гл. *зразы.*

**Зра́зы** 'гатунак катлет'. Як і рус. *зразы,* укр. *зрáзи,* чэш. *zraz* 'тс' з польск. *zrazy* 'тс', дзе ўзводзіцца, як і *zraz* (> *зраз,* гл.), да *raz-* (корань *рэзаць*). Параўн. славен. *zrézek* 'шніцэль' з аналагічнай унутранай формай, верагодна, калькіруючай ням. *Schnitzel.*

**Зраніць,** *зрóніваць* 'заўчасна нарадзіць нежывое дзіця' (Нас.). Рус. валаг. *изронять* 'страціць', вяцк. *изронúть* 'пражыць у бядзе'. укр. *зронúти* 'не ўтрымаць, упусціць', 'сказаць', польск. *zronić* 'упусціць', 'нарадзіць заўчасна', чэш. *zroniti* 'змачыць (слязьмі, потам)', славац. *zroniť* 'скінуць уніз, забіць', в.-луж. *zronić* 'упусціць', н-луж. *zroniś* 'упусціць, рассыпаць', серб.-харв. *изрòнити* 'выйсці з-пад вады на паверхню', 'выйсці на свет', 'узнікнуць', 'праліць, прасыпаць', балг. *изрòнвам(се)* 'крышу на дробныя часцінкі', 'падаю (пра лісце, пот, зерне, слёзы)', макед. *изрони* 'тс'. Ст.-рус. *изронити* 'дазволіць упасці, утраціць' (XII ст.). Прасл. *jьz-ron-i-ti* верагодна, мела значэнне 'ўпусціць, праліць, прасыпаць', якое развілося ў бел., польск. да значэння 'нарадзіць заўчасна' (аналагічнае развіццё ў *выкінуць*).

**Зрачы,** *зракýць* (3 ас. мн. л.), *зрок* (прош. ч. адз. л.) 'пашкодзіць дурным вокам, сурочыць' (Сл. паўн.-зах.). Укр. уст. *зречú* 'сказаць', *зректúся* 'адракацца', польск. *zrzec się* 'адмовіцца, адрачыся', чэш. *zříci se* 'тс', славац. *zriecť sa* 'тс', в.-луж. *zrěčeć* 'пагутарыць, абмеркаваць, дамовіцца', славен. *izréči* 'выгаварыць, выказаць', серб.-харв. *изрѐћи, ѝзрећи* 'выказаць, аб'явіць', макед. *изрече* 'тс'. Ст.-слав. **издрешти** 'выказаць'. Ст.-рус. *изречи* 'тс' (XI—XII стст.). Бел. дыял. *зрачы,* верагодна, з *jьz-rek-ti* (корань *rek-,* гл. *рэч*) мае асаблівае семантычнае развіццё: відаць, *jьz-rek-ti* 'выказаць' азначала 'выказаць словы, што могуць пашкодзіць' (параўн. таго ж кораня *сурочыць*), а потым наогул 'зрабіць шкоду без фізічнага ўздзеяння'.

**Зрок** 'здольнасць бачыць; погляд'. Чэш., славац. *zrak* 'тс',

славен. *zrâk* 'паветра, прамень', серб.-харв. *зра̑к* 'паветра', *зра̑к, зра̑ка* 'прамень, святло', балг. *зрак* 'прамень, святло' перан. 'зрок', макед. *зрак* 'прамень, святло', дыял. 'погляд'. Ст.-слав. **зракъ** 'зрок'. Ст.-рус. *зракъ* 'выгляд, вобраз; зрок'. Рус. *зрак* > *зрачок* Фасмер (2, 105) лічыць стараславянізмам, прыводзячы ўсх-слав. форму *зорок;* Шанскі, 2, З, 109. Тады *зрок* трэба лічыць паланізмам, які адлюстроўвае польск. літ. *wzrok* 'здольнасць бачыць, погляд', уст. 'вока'. Пачатковае *w-* магло быць утрачана ў бел., калі ўлічваць *взрокъ* у Скарыны, у Александрыі (Булыка, Запазыч., 62). Але і ў ст.-польск. была форма *zrok* (Рэчак), якая і магла адлюстравацца ў бел. літ. форме. Корань той самы, што *зрэнкі, зара, зарыць* (гл.). Копечны, Zákl. zásoba 429—30.

**Зрудлінка** 'крынічка' (Сл. паўн.-зах.). Памянш. ад *зрудла* < польск. *źródło* 'крыніца'. Гл. *жарало.*

**Зру́чны**. Рус. *сру́чный* 'зручны, спрытны' (Даль), укр. *зру́чний* 'зручны', польск. *zręczny* 'спрытны, зграбны', чэш. *zručný* 'спрытны, зручны', славац. *zručný* 'спрытны', в.-луж. *zručny* 'тс', балг. *сръчен* 'спрытны'. Ст.-рус. (XI ст.) *сържчание* 'ўзнагарода, дар'. Прасл. *sъ-rǫč-ьn-*. Паводле Мартынава — Міхневіча (Маладосць, 1969, 7, 150), прыметнік утваран са спалучэння *з рукі.* Паколькі слова прадстаўлена ва ўсіх групах слав. моў, у гэтым выпадку зыходны выраз *sъ(n) rǫky* павінен быць аднесен да прасл. перыяду. Аб корані гл. *рука.*

**Зрын** 'зрок' (лід., Сл. паўн.-зах.). Прыклад *«зрын яго ні свеціць, ніскі на вочы»* не даказвае тоеснасці значэння *зрын* — *зрок.* Утварэнне з таго ж кораня, але з нетыповым афармленнем (суфіксацыяй *-inъ, -ynъ?*); параўн. *дрын, плын.* Параўн. яшчэ *зрынка́ты* 'зіркаты' (Сцяшк.).

**Зрэ́б'е** 'грубая кудзеля, якая аддзяляецца пры трапанні льну; палатно з такой кудзелі' (ТСБМ). Славац. *zrebe* 'другаякасная пража', славен. *izgrebî* 'тс'. Ц.-слав. *изгребик* 'кудзеля', ст.-слав. **изгрєбь**. Параўн. *зрэбя, зрабіна́, згрэбліна, згрэбніны* (Сл. паўн.-зах.). Ст.-рус. *изгребье* 'тс'. Ст.-бел. *згребнина* (1540, Марч., дыс.). Ад дзеяслова *jьz-greb-ati* з суф. *-ije:* *jьzgrebije* з далейшай стратай між зычнымі *-g-* і пачатковага *jь-* Гл. яшчэ *грэбці.*

**Зрэ́бны** 'суровы' < **изгребьнъ* (гл. *зрэб'е*), ужо з XIV—XV стст. *jьz-greb-ьn-ъ.*

***Зрэдзь,** *зрэць* 'зрэдку' (Сл. паўн.-зах.). Рус. цвяр. *изредь* 'тс'. З *jьzrědь* (параўн. у Міклашыча, Lex. palaeosl.: *извѣсть, изобиль, изржчь, издржчь, изрѧдь,* нескланяльны прыметнік *исплънь*) са стратай пачатковага *jь-* (гл. *з*).



**Зрэ́дку,** *зрадка́* (Сл. паўн.-зах.) утворана прыстаўкай *з-* + + амярцвелая форма р. скл.. кароткай формы прым. *рэдкі* (Гл. Шуба, Прыслоўе, 128), відаць, яшчэ прасл. характару (параўн. рус. *и́зредка,* укр. *зрі́дка,* балг. *изря́дко,* польск. *z rzadka* і інш.).

**Зрэ́нка** 'адтуліна ў радужнай аболонцы'. Укр. уст. абл. *зрінка, здрі́нка* 'тс' (Грынч.). Параўн. польск. *źrenica* 'зрэнка', славац. *zrenica,* славен. *zrenica.* Ад дзеяслова *zьrěti* 'глядзець, бачыць' утвораны дзеепрыметнік на *-n-,* адкуль далей з суфіксам *-ъk-* > *zьrěnka* > *зрэнка.* Параўн. рус. (< ст.-слав.) *зрение* (< *zьrěn+ije*) з той жа вытворнай асновай. Утварэнне зах.-рус. Не выключана сувязь з *зенка* 'тс', як і ў форм на *-ica* з *зеница.* Гл. *зрок, зара, зарыць.*

**Зрэх** 'агрэх' (Сл. паўн.-зах.) *З+грэх* з выпадзеннем *г;* параўн. *заўгрэх* 'тс'. Гл. *арэх*₁.

**Зуб**₁. Рус., укр. *зуб,* польск. *ząb,* луж., чэш., славац. *zub,* палаб. *zǫb,* славен. *zôb,* серб.-харв. *зу̑б,* балг. *зъб,* макед. *заб.* Ст.-слав. **зѫбъ,** ст.-рус. *зубъ* (XI—XII стст.). Прасл. **zǫbъ* 'зуб' < і.-е. **g'embh-, g'm̥bh-, g'ombho-s* 'зуб': ст.-інд. *jámbhatē* 'хапаць', літ. *žembiù* 'разразаю', ст.-інд. *jámbha-ḥ* 'зуб', грэч. γόμφος 'тс', алб. *dhëmb*'тс', лат. *zùobs* 'тс', літ. *žam̃bas* 'востры вугал', ст.-в-.ням. *kamb,* суч. *Kamm* 'грэбень', тах. А *kam,* В *keme* 'зуб'. Роднаснае ст.-слав. **зѫб-сти** 'прарастаць', прадзіраць', гл. *зя́бліва.* Трубачоў (ВЯ, 1957, 2, 90) узводзіць прасл. форму да і.-е. **g'on-bhos* 'выступ, тое, што вырасла' ад **g'en-* 'нарадзіцца'. Шанскі, 2, З, 111; Фасмер, 2, 106; БЕР, 1, 660—662; Скок, 3, 663; Траўтман, 369; Покарны, 369.

**Зуб**₂ 'памылка пры тканні' (чэрв., Нар. лекс.; Жд. 1). Рус. *зуб* смал. 'паласа каляровай тканіны', краснаяр. 'прамежкі ў бёрдзе, скрозь якія працягваюць ніткі', пск., цвяр. *зубок* 'тры ніткі ў ткацкай аснове', польск. *ząb* 'нешта ў выглядзе кліна, зуба'. Такое ж значэнне, як у польск., вядома ў іншых слав. мовах. Бел. і рус. значэнні — фіксацыя аднаго з пераносных значэнняў *зуб*₁.

**Зубе́ль,** *зубля́, зу́блэнь, зубі́ло* 'яловае галлё ці рыззё на палцы для падкурвання пчол' (Анох.), *зубе́ль, зу́бяль* 'дымар для падкурвання пчол' (чачэр., Жыв. сл.; рагач., З нар. сл.). Славен. *zúbelj* 'полымя', *zúblja* 'факел', серб.-харв. *зу̑бља* 'тс'. Міклашыч (404) звязваў з літ. *žiburỹs* 'святло, полымя' (якое звязана з *žibė́ti* 'блішчаць, прамянець', на што ўказаў Безлай (IX seminar slovenskega jezika..., 1973, 12). Фрэнкель (1304), аднак, іх не спалучае, а этымалогію літ. слова лічыць няяснай). Скок (3, 664) параўноўвае са ст.-ісл. *kafli* 'палена',

ням. *Kabel* 'падрыхтаванае дрэва' і ўзводзіць да і.-е. **g'ebh-* 'кавалак дрэва' (Покарны, 1, 353, без слав. прыкладаў). Але слав. і балт. вакалізм у гэтым выпадку не тлумачыцца; спасылка на варыянт **g'ombh-*, апрача гіпатэтычнасці такой сувязі, не тлумачыць славен. *-u-* (замест чаканага *-o-*). Безлай рэканструюе для балт. **g'ōibh-* (зыходзячы з формы, дадзенай Міклашычам, *žiuburўs*), а для слав. **g'oubh-;* такой формы Покарны не дае. І.-е. праформа патрабуе далейшага вывучэння. Супрун, Полесье и этногенез славян, 1983, 61.

**Зубр** 'Bison bonasus'. Рус., укр. *зубр,* польск. *żubr,* в.-луж., чэш. *zubr,* славац. *zubor,* славен. *zǫ̂ber,* серб.-харв. *зу̏бар, зу̀бāр,* балг. *зубър.* Ц.-слав. *зѫбрь.* Ст.-бел. *зубр* (Александрыя). Версія пра запазыч. *зубр* з ятвяж. **sumbris,* літ. *stum̃bras,* лат. *sumbrs* (Буга, Rinkt., 1, 378—380; 2, 678—679 — пры кантамінацыі з *зуб;* Вяржбоўскі, Весці АН БССР, 1960, 3, 125—132) выклікае пярэчанні (Лаўчутэ, Сл. балт., 142). Фасмер (2, 107) указвае на верагоднасць першаснай (а не другаснай) сувязі з *зуб.* Іванаў (Этимология, 1975, 157) прапануе каўк. паралелі слову *зубр,* прымаючы сувязь **zǫbъ — *zǫbrъ.* Патрэбны далейшыя даследаванні.

**Зубы́**$_1$ 'карункі, звязаныя зубцамі' (навагр., Нар. сл.), *зубэ* 'карункі' (дзятл., Сл. паўн.-зах.). Рус. разан. *зубья,* ніжнегар. *зубцы́* 'тс', н.-луж. *zubki* 'карункі на жаночых сукнях'. Перанос па падобнасці знешняга выгляду на карункі ад *зуб*$_1$ з афармленнем па мн. л.

**Зубы́**$_2$ 'спарыння' (пухав., Жыв. сл.), *зуб* 'буйное чорнае зерне ў жыце' (чэрв., Нар. лекс.). Слова *зуб*$_1$ уваходзіць у шэраг назваў раслін у слав. мовах, напр. у чэш., славен., верагодна, па падобнасці лісця ці насення. Бел. *зубы* паводле формы ражкоў, што ўзнікаюць на жыце і ў іншых каласах замест зярнят (хвароба злакаў Claviceps purpurea). Лекс. Палесся, 71.

**Зудзе́ць** 'свярбець; ныць, ламаць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *зудеть* 'свярбець', 'гусці', варонеж. 'бурчаць'. Ст.-рус. (XVII ст.) *зудити* 'дакучаць камусьці'. Праабражэнскі (1, 258) выказаў думку пра гукапераймальны характар: гудзенне настырных насякомых, напр. камароў, укусы якіх выклікаюць сверб. Мяркулава (Этимология, 1970, 183—184) супраць гукапераймальнага тлумачэння, паколькі іншыя назвы хвароб негукапераймальныя. Не пераканаўчае семантычна і фанетычна меркаванне аб запазычаным характары слова з манг. *ǯudar* 'брудны' (Праабражэнскі, 1, 258). Абаеў (1, 372) дапускае магчымасць запазычання са ст.-асец. (скіфск.) **ǯoǯun* > асец. *dūdyn* 'свярбець, пячы (пра скуру)', што выклікае пярэчанні Мяркулавай



(адсутнасць ва ўкр.). Параўноўваюць з літ. *žaudus* 'зласлівы, раздражнёны', магчыма, яшчэ ст.-ісл. *kaun* 'нарыў'. Фасмер, 2, 108; Фрэнкель, 1293. Аднак пэўнай і.-е. этымалогіі гэта не дае. Няясна.

**Зуёк** 'птушка Charadrius dubius ці Charadrius hiaticula'. Рус. *зуёк; зуй* 'тс', у гаворках таксама назва іншых птушак (Tringa minuta, T. temincei, Totanus calidris, T. fuscus і інш.), серб.-харв. *зу̑јак* 'жук Scarabeus stercoririus'. Ст.-рус. *зуй* 'назва птушкі' (XVII ст.). *Зуёк* памянш. да *зуй,* назвы птушкі, верагодна, гукапераймальнай (параўн. серб.-харв. *зу̑ј* 'гудзенне', *зык.* Гараеў, 119; Фасмер, 2, 108; Шанскі, 2, З, 114; Антропаў, дыс. Праабражэнскі пярэчыць Гараеву, але этымалогіі не дае). Младэнаў (ССУ ИФФ, 13—14 (1917/18), 64) услед за Міклашычам (404) падводзіць пад корань **zu-* < і.-е. **g'heu̯-, *g'hou̯-* (параўн. *зваць*), у Покарнага (1, 413) **g'hau-, *g'hau̯ə-* 'крычаць, зваць', прычым піша, што гэта можа быць гукапераймальнае слова. Скок (3, 664) лічыць *zûjati* гукапераймальным, адкуль і *зујак.* Параўн. яшчэ з *зуй*$_1$, *зуй*$_2$.

**Зу́зліць** 'плакаць, ныць' (ашмян., Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. уст. дыял. *зу́зи, зу́зни* 'шум, гоман' (Жэлях.). Верагодна, гукапераймальнае, магчыма, з літ. *zū̃zti* 'гусці' > **зусці* > **зузла* 'той, хто гудзіць (ные)' > *зузліць* 'ныць'. Параўн. *зурзаць, зюзюкаць.*

**Зуй**$_1$ 'адыход пры часанні воўны' (карэліц., Жыв. сл.). Ці не з літ. *zuĩkis* 'заяц', паколькі *заяц* між іншым 'раменьчык, з дапамогай якога звязваюць часткі хамута' ў рус. гаворках, сумежных з БССР. Але гэта мала верагодна. Звязана з *зуёк* (гл.)? Няясна.

**Зуй**$_2$ 'хітры; кволы чалавек' (Касп.). Рус. *зуй,* арханг., пенз. 'рухавае, жвавае дзіця', перм. 'бойкі чалавек', зах.-бранск. 'пануры, маўклівы чалавек', яраcл., калуж. 'хітры чалавек, зух'. Розныя значэнні і шырокая тэрыторыя распаўсюджання не даюць пэўна выдзеліць цэнтральную сему (рухавасць?) і паставіць пытанне пра запазычаны характар слова (літ. *zuĩkis* 'заяц', *zùiti* 'рухацца, шукаць'?). Ці звязана з *зуёк?* Параўн. *зух.* Няясна.

**Зу́ндаль** 'маўклівы чалавек' (Жд. 3), 'вялікі і лянівы чалавек' (Касп.). Параўн. рус. перм. *зе́ндель* 'лянівы, маларухомы чалавек'. Рус. забайк. *зундогло́, зунтогло́* 'брахун; цяльпук' не сюды (СНРГ, 12, 24: з бурацк.). Параўн. прозвішча *Зу́нда* (ад апелятыва **зунда* '?', Бірыла, Бел. антр., 2, 161). Няясна. Магчыма, з ням. *Sünde,* ідыш *zind* 'грэх', *Sünder, zindler* 'грэшнік'. Параўн. яшчэ ням. *Gesindel* 'зброд', ідыш іранічн.

*gezindl* 'група людзей', прычым трэба ўлічваць, што ў яўр. дыялектах значныя хістанні галосных.

**Зу́па** 'суп' (Сл. паўн.-зах.). Укр. дыял. *зу́па*. З польск. *zupa* < ням. *Suppe* 'тс'. Гл. *суп*.

**Зу́рзаць,** *зурзець, зурзіць* 'бубніць, бурчаць', *зу́рза* 'буркун, плакса', *зу́рзала* 'плакса' (Сл. паўн.-зах.). Польск. (?) дыял. *zur-zać* 'пішчаць, капрызіць' («з Літвы», Карловіч). З літ. *zúrza* 'буркун', *zur̃zti* 'гусці' гукапераймальнага паходжання (Фрэнкель, 1280, 1281). Сл. паўн.-зах., 2, 330; Лаўчутэ, Сл. балт., 66. *Зурзала* на бел. глебе з суф. *-л-а* ад дзеяслова.

**Зуры́ць** 'гнаць' (Шат.; мазыр., ЭШ). Чэш. *zuřiti* 'гневацца; выступаць супраць каго-н.', славац. *zúriť* 'гневацца'. Трубачоў (Слав. языкозн., V, 179) параўноўвае бел. і чэш. лексемы, прапануе прасл. дыялектызм *zuriti* і піша пра генетычную сувязь з літ. *žiaurùs* 'люты, жорсткі'. Аб літ. слове гл. Фрэнкель, 1303 і 514. Іначай Махэк$_2$ (719—720), які звязвае чэш. слова з польск. *żurzyć* 'гневацца' (гл. *журыцца*); Копечны (440), тлумачыць *zuřiti* < *zořiti* да і.-е. **g'her-* 'моцна жадаць'. Няясна.

**Зусі́м** дыял. *заўсем, заўсём* (Сл. паўн.-зах.). Рус. зах.-бранск. *зусим* 'тс', укр. *зо́всім, зусі́м* 'тс'. Параўн. рус. *совсем*, бел. уст. дыял. *саўсім, саўсем*. Спалучэнне прыназоўніка *з* (*с* < *sъn*) з тв. скл. адз. л. займенніка *увéсь* (< *vьsь*). Шуба, Прыслоўе, 149.

**Зух** 'хват'. Рус. дан., смал., укр. *зух*, польск. *zuch* (> чэш. *zuch*). Польск. *zuch*, якое, верагодна, з'яўляецца крыніцай усх.-слав. слоў, паводле Брукнера (657), скарачэнне ад *zuch-wały* (гл. *зу́хвал*). Параўн. рус. дыял. вяцк., перм., паўд.-дзвін., урал. *зу́хать, зу́хнуть* 'крычаць', аднак іншы рэгіён пашырэння не дазваляе гаварыць пра дзеясловў як крыніцу назоўніка.

**Зухва́л** 'свавольнік' (Нас.). Укр. *зухва́лець* 'тс', *зухва́лий* 'свавольны', польск. *zuchwały* 'свавольны, смелы'. Верагодна, *зухва́лы* 'дзёрзкі', ст.-бел. *зуфалы* і іншыя з польск. (Булыка, Запазыч., 124). Андзел (Укр. слов'янознавство, 3, 113) лічыць, што *зуфальство* ў Скарыны з чэш. Магчыма. *Зухвал* утворана шляхам адсячэння суфікса *-ец/-ца* ці ад прыметніка на бел. глебе (націск!). Польск. *zuchwały, zuchwalec*, н.-луж. *zuchwały, zufały*, ст.-чэш. *zúfalý, zúfalec* 'тс'. Паводле Брукнера (657), польск. з **z-upwały* 'такі, што страціў давер' (*upwę, ufanie*), дзе корань **pъw-* той самы, што ў *пэўны* (гл.).

**Зыб** 'лёгкае хістанне воднай паверхні'. Рус. *зыбь*. Ст.-рус. *зыбь* (XVI ст.). Ад дзеяслова *зыбаць* (гл.) з тэматычным *-ь* (< **-ĭ*).



**Зы́баць** 'гушкаць'. Рус. *зы́бить*, дыял. *зы́бать* 'тс', палаб. *zâibi-să* 'гушкаецца' (3 ас.), славен. *zíbati* 'гушкаць' (у тым ліку ў калысцы), серб.-харв. *зи̏бати* 'гушкаць'. Ст.-слав., ст.-рус. *зыбати*. Прасл. *zybati*, верагодна, суадносіцца з арм. *cip*, *cip'* 'зыб' (Сараджава, Этимология, 1976, 64—66); да і.-е. асновы **g'ūb-* (да якой можна ўзвесці *зыбаць*), магчыма, адносіцца нарв. дыял. *gŏp* 'бездань'. Больш надзейных і.-е. паралелей яшчэ не выяўлена. Фасмер, 2, 109; Шанскі, 2, З, 114; Куркіна, Этымалогія, 1967, 140, 143; Макіенка, Вопр. географии, № 81, 75; Скок, 3, 653, дзе іншая літ-ра. Спробы этымалогіі арм. слоў: Ачаран, 3, 474—475.

**Зыгава́ць** 'уцякаць ад насякомых', *зыкава́ць* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). Ад *зык*$_2$ (гл.) утвараецца *зыкаць, зыкацца* 'бегаць ад укусаў насякомых', адкуль з суфіксам *-ва-* і *зыкаваць, зыкавацца*. Форма з *г* экспрэсіўна-ўмацаваны варыянт *зыкаваць*.

**Зыз** 'паклёп' (тураў., КСТ). Верагодна, гукапераймальнае (параўн. *зы́зкаць* 'жужжэць'). Няясна.

**Зы́зма** 'прагны чалавек' (паст., Сл. паўн.-зах.), *зызмар* 'скупы чалавек' (Мат. Маг.). Параўн. славен. *zízati* 'ссаць (грудзі)'. З суфіксам *-ма* ўтвараецца назоўнік ад дзеяслова са значэннем 'суб'ект дзеяння' (*жужма* 'насякомае', *дуйма* 'мяцеліца', Сцяцко, Афікс. наз., 54), але зыходная аснова няясная.

**Зы́знуць** 'ударыць', 'апухаць' (Шат.). Укр. *дзи́знути* 'хутка пранесціся, праляцець (пра камень)'. Параўн. *азызнуць* 'азябнуць', *азызаць* 'апухаць' (гл.). Параўн. славац. *zízať* 'паглядваць', славен. *zízati* 'ссаць, асабліва грудзі'. Можа, 'ударыць так, што зрабіць касавокім', 'апухнуць так, што зрабіцца касавокім'. Гл. *зызы*. Няясна.

**Зы́зы** 'стан абуранасці, злосці' (слонім., Нар. лекс.). Параўн. рус. дыял. *зы́зый*, укр. *зи́зий*, польск. *zyz* 'касавокі'. Можа, 'абураны да таго, што яго перакасіла'. Няясна.

**Зык**$_1$ 'рэзкі гук' (ТСБМ). Рус. *зык*, укр. *зик* 'тс'. Серб.-луж. *zyk* *zuk* 'гук', чэш. *zuk* 'кароткі гук здзіўлення', серб.-харв. *зи̏к* 'піск'. Ст.-рус. *зыкъ* (XVII ст.). Верагодна, прасл. дыял. *zy-kъ* уключае суфікс *-k-ъ* (як *znakъ*), а аснову трэба рэканструяваць, як **zy-* < і.-е. *g'hū-* (гл. Покарны, 1, 413), варыянт **g'hau-, g'hauə-* 'крычаць, зваць', да якой узыходзіць *zъvati* (параўн. *рык* і *раўці*): авест. *zūta-* 'пазваны', арм. *n-zovk'* 'праклянцце'. Фасмер, 2, 109. Іначай, як гукапераймальны, тлумачаць корань Праабражэнскі (1, 259) і Шанскі (2, З, 115) (пад *зыкать*, але пад *зычный* дапускае сувязь з *звук, звать, зуд, зуёк*). Міклашыч (404) звязваў са *звінець*. Тэрміналагічнае

(лінгв.) ужыванне *зык* 'гук' адносіцца да пачатку XX ст. Красней, Лекс. і грам., 19. Лоеў. *зык* 'нагавор' (Янк.) — развіццё значэння ад 'гук'.

**Зык$_2$** 'від авадня', 'перыяд і стан узбуджэння кароў ад укусаў насякомых' (Сл. паўн.-зах.; гарадоц., Нар. лекс.), *зыкі* 'беганне кароў ад укусу аваднёў'. Рус. зах. бранск., дан., краснадар. 'авадзень', варонеж., кур., калуж., кубан., смал. 'непакой жывёлы ад укусаў аваднёў', смал. *зыкú* 'перыяд узбуджэння жывёлы ад свербу, выкліканага аваднямі', кур., смал. *зык* 'гудзенне насякомых', укр. *дзиз* 'авадзень'. Параўн. рус. дыял. *бзык* 'дзіўныя паводзіны; непакой ад укусу аваднёў; авадзень', *дзык, зик* 'тс'. Гукапераймальнае (на што ўказвае, між іншым, варыянтнасць *зык, бзык, зик, дзиз, дзык*), верагодна, аформленае суфіксам *-к* (параўн. *бык*); развіццё значэння, відаць, 'гудзенне' > 'суб'ект гудзення' > 'стан жывёлы' (праз выраз тыпу ***напаў зык***) > 'час такога стану'.

**Зыкаўка** 'страказа' (Мат. Маг.), *зыкалка* (Бяльк.). Рус. смал. *зыкалка* 'тс'. Ад *зыкацца* 'насіцца' (гл.) з суфіксам *-(а)-лк-а* (*-алка* > *-аўка*, як *волк* > *воўк*). Сцяцко, Афікс. наз., 51. Параўн. *зык$_2$*.

**Зыкацца** 'бегаць, насіцца' (Мат. Маг.). Рус. дыял. *зыкаться*, арл. 'непакоіцца падчас цечкі', пецярб. 'лягацца', *зúкать* смал., кур., арл., калуж. 'бегаць (пра жывёлу, у тым ліку калі яе кусаюць авадні)', смал. 'бегаць, скакаць (пра моладзь)', *зыкать* дыял. 'бегаць (пра жывёлу)', 'біць'. Ад гукапераймальнага *зык$_2$* (гл.) 'авадзень' > 'непакой жывёлы': 'беганне' з дзеяслоўным суф. *-а-цца* < *-a-ti sę.

**Зыльба** 'даўганогі' (Інстр. лекс.). З літ. дыял. *dzìlbis* 'высокі, няўклюдны чалавек'. Лаўчутэ, Сл. балт., 111.

**Зымсік** 'карніз у мураваных збудаваннях, у печы' (маладз., гродз., Янк. Маг.; Мат. Гом.). Рус. арханг. *зы́мза* 'карніз уздоўж унутраных сцен, пад акном, паліца', *зы́нза* 'тс', польск. *gzyms* 'карніз', *gzymsik* (< ням. *Gesims*, Дарашэўскі, 2, 1394). Бел. форма з польск. са стратай пачатковага *g-*. Рус. можа быць незалежнай з ням. ці перанесенай з польск. праз бел. Параўн. *гзымс* (у Ц. Гартнага).

**Зымша** 'выступ у коміне, на які кладуць запалкі' (петрык., Шатал.). Верагодна, утворана на базе *зымсік* 'карніз у печы' з суфіксам *-ш-а*; параўн. *зы́бша* 'дрыгва'.

**Зынуць** 'пабегчы (пра жывёлу)' (Мат. Гом.). Верагодна, ад *зыкнуць 'бегаць ад укусаў насякомых' (вядомага ў рус. гаворках у форме *зыкнуть*) са стратай *к* (параўн. *цягнуць* > *цянуць* і да т. п.). Гл. *зыгаваць*.



**Зыр$_1$** 'адкрытае месца'. Параўн. укр. *зір* 'зрок'. Апафанічны варыянт кораня, прадстаўленага ў *зрок, зрэнка, зара, зорка* (гл.) са ступенню *і* > *у*.

**Зыр$_2$** 'халодны, пранізлівы вецер', *зы́рыць* 'прыпякаць (пра мароз)', *зы́рка* 'горача' (Сл. паўн.-зах.), *зыр* 'гарачыня, спёка, жар' (тураў., ТС). Верагодна, перанос ад *зыр$_1$*, на што ўказваюць антанімічныя значэнні ў розных рэгіёнах.

**Зыск** 'выгода, карысць' (Сцяц., Шат.), 'права спагнання' (Нас.). Рус. перм., свярдл. *зыск* 'іск', укр. *зиск* 'прыбытак', польск. *zysk* 'прыбытак', 'карысць', чэш., славац. *zisk* 'тс'. Ст.-бел. *зыскъ* (XV ст.) < польск. (Булыка, Запазыч., 124). У карысць разгляду бел. слова як паланізма — яго семантыка. Польск. *zysk* < *vъziskъ* (са стратай пачатковага *vъ-*) бязафікснага наз. ад дзеяслова *vъz-iskati*, дзе корань *isk- < *jьsk- (параўн. *іск*).

**Зы́чныя** лінгв. 'клас гукаў'. Рус. *зы́чный*, укр. *зи́чний* 'гучны'. Магчыма, у сувязі з *зык* 'гук', прынятым у некаторых крыніцах пачатку XX ст. Замацаваўся тэрмін, верагодна, у пачатку 1920-х гадоў.

**Зы́чыць** 'выказваць пажаданні' (ТСБМ). Рус. паўд., зах., кур. *зычить* 'тс', арханг., цвяр., арэнб., вяцк., свярдл. 'крычаць', ярасл., калуж. 'плакаць', укр. *зи́чити* 'выказваць пажаданні', польск. *życzyć* 'зычыць', чэш. *žičiti* 'тс', славац. *žičiť*. Ст.-бел. *зычити, жичити*, ст.-рус. *зычити* (1567 г.) у польск. справах. Як і варыянт *жычыць* (гл.), з польск. у XV—XVI стст. Пальцаў, Лінгв. дасл., 209; Булыка, Запазыч., 114. Форма з *з-* адлюстроўвае, відаць, мазуруканне ў мове-крыніцы.

**Зэгар** 'гадзіннік' (Нас.), *загарак* 'тс' (Сл. паўн.-зах.). З польск. *zegar, zegarek* 'тс' (< ням. *Seiger* 'вадзяны ці пясочны гадзіннік' у XVI ст., Брукнер, 651), ужо ў ст.-бел. *закгаръ* (1510 г.). (Булыка, Запазыч., 121; Гіст. лекс., 115).

**Зэ́гры** 'вочы' (Сл. паўн.-зах.). Верагодна, эмацыянальны варыянт да *зекры* 'тс' (гл.).

**Зэдаль** 'услон'. З польск. *zedel, zydel* < с.-в.-ням. *sidel* (Дарашэўскі, 10, 1372).

**Зэ́нзэль** 'расліна таемнік лускаваты, Lathraea squamaria L.' (бяроз., Нар. лекс.). Параўн. укр. *зе́нджул* 'гатунак расліны' (Грынч.). Рус. *зензеве́ль* 'расліна пярэступ, Bryonia L.', *зеньзибе́ль* 'імбір', *зинзивей* 'мальва (Malva rotundifolia, M. silvestris)'. Верагодна, варыянт гэтай назвы, якую выводзяць з іт. *zenzovero* 'імбір' ці тур. *zencefil* (дыял. *zendžebil*) < араб. <

< палі *siṅgivera* < ст.-інд. *çṛṅgavēram* 'свежы імбір'. Фасмер, 2, 94, 97.

**Зэс** 'пранізлівы холад' (Сл. паўн.-зах.). Верагодна, гукавы варыянт **зыз* 'холад' да ***азызнуць*** 'азябнуць' (гл.); параўн. яшчэ дзіцяч. *зюзя* 'холад' (гл.). Няясна.

**З'ю́дзіць** 'успудзіць, сагнаць з месца, падбухторыць' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *съютáжить, съюртить* 'сагнаць, ссыпаць у кучу' (Даль). Гл. *юдзіць* 'зводзіць; павучаць, падказваць'.

**Зюзь** 'п'яніца' (Нас.). Рус. *зюзя* 'тс', укр. *«змерз, напився як зюзя»?* Параўн. рус. дыял. *зюзлить (суслить?), зю́зить, зюзюкать* 'піць'. Верагодна, гукавобразнае слова, магчыма, з кантамінацыямі. Гл. яшчэ *зязюліць* 'піць', *зюзя* 'холад', *зюзюкаць* 'гаварыць'.

**Зю-зю-зю** 'выклічнік для падзывання качак' (смарг., Шатал.). Параўн. перм., вяцк., наўг. *зю* 'слова для адгону свіней'. Верагодна, скарачэнне ад *дзюбаць, дзюба.*

**Зюзю́каць** 'весці лагодную размову' (чавус., Нар. сл.), *зю́каць* 'тс', 'гаварыць пaціху' (Нас., Юрч.). Рус. калуж. *зюзю́кать* 'гаварыць шапялявячы, картава', пск. 'піць (віно)', *зюкать* калуж., смал., зах.-бранск., зах. 'размаўляць', кур., арханг. 'шаптацца', пск. 'піць', пск., цвяр. 'біць'. Верагодна, анаматапея. Фасмер, 2, 110: *зюзюка.* Параўн. *зузліць.*

**Зю́зя** (дзіцяч.) 'холад' (Нас., Шат.; брэсц., Нар. лекс.), 'агонь' (Сл. паўн.-зах., прыклад: *«не ідзі, там зюзя»* не пацвярджае значэнне). Рус. дыял. дзіцяч. *зюзя* 'холад', укр. *«змерз як зюзя»?* Анаматапея ці аформленае пад дзіцячую фанетыку *сцюжа.* 'Агонь' (калі так) — энантыясемічны перанос паводле функцыянальнай падобнасці.

**Зюрыць,** *зазюрыць* 'убачыць' (Касп.) < літ. *žiūrė́ti* 'бачыць'. Лаўчутэ, Сл. балт., 111.

**Зя́бер** 'расліна Galeopsis', *жáбер* (Жд. 2) 'Scróphularia nodosa', *жабóр* 'Galeopsis', 'асцюк' (Сл. паўн.-зах.). Рус. смал., цвяр., арл. *зя́бер, зя́бирь, зя́берь,* маск., *жáбер,* маск., вяцк., цвяр., іркуцк., табол. *жабрéй* 'тс' (апошняе і ў функцыі назваў іншых раслін), укр. *жабрíй* 'тс', польск. уст. *zibrz,* н.-луж. *zyber* 'тс', в.-луж. уст. *zabr, zabrij,* славац. дыял. *ziabor* 'Galeopsis', 'Lamium' (Калал), чэш. уст. *žabr* (Махэк, Jména rostl., 196) 'Galeopsis', славен. *zę̂brot* 'тс', *zęber* 'нейкая трава', серб.-харв. *срба* 'Galeopsis', балг. *жабрей* 'Linaria'. Верагодна, перанос, паводле знешняга выгляду кветкі ці лісця, ад *жабры* (гл.) ці вытворнай ад *жаба*$_{1,2}$ (гл.) назвы хваробы тыпу ст.-чэш. *žáber* (Плевачава, Этимология, 1966, 90—96; там іншая літ-ра). Параўн. ням. назву 'Scrophularia' *Sauwurz* 'свіное зелле'; гэтай травой лячылі свінку (заўшніцу), якая мае сярод іншых і назву, звязаную са словам *жаба* як назву пухліны на горле, шыі (Махэк, Jména rostl., 211; Мяркулава, Этимология, 1963, 76). Трэба ўлічыць пры гэтым, што ў дыялектах сустракаецца форма *зябры* 'жабры' (але не тыпова **зяба* 'жаба'). Варыяцыя *зябер — жабер,* як і *жабры — зябры,* не растлумачана. Буліч (ИОРЯС, 10, 2, 428), матывуючы назву тым, што Galeopsis мае зубавідныя чашачкі, калючая (параўн. прыклад у Сл. паўн.-зах.: *зябра калючая*), звязваў яе са словам *зуб* (**zęb-* — **zǫb-*). Гэта падтрымлівае Фасмер, 2, 111. Ільінскі (ИОРЯС, 24, 1, 125) высунуў ідэю кантамінацыі *зуб* і *жабры.* Няясна. Параўн. яшчэ *жыбулька.*



**Зя́бліва** 'асенняе ўзорванне поля, а таксама поле, узаранае з восені пад веснавую сяўбу', *зяб, зя́бля, дзя́бля* (Выг., Лекс. Пал.), *зя́блі, зя́бра, зя́бліна* (Сл. паўн.-зах.), *зя́бла, зя́бер* (Нас.). Рус. *зябь,* дыял. *зябль, зя́бель,* укр. *зяб* 'тс'. Параўн. *зя́бліць,* дыял. *зя́брыць,* рус. *зя́бить, зя́блить* 'рыхтаваць (узорваць) пад зябліва'. Параўн. у рус. гаворках *зя́бель* 'расліны, збожжа, пабітае марозам на полі' (арханг., алан., пск., смал.) і наогул 'замарожаная рэч, дрэва', 'сцюжа', 'гніль (у дрэве)', 'дрыгва'. Даль (1, 698—699) аднёс *зябь, зябль, зя́блина* да кораня *зябнуть* паводле семантычнага ходу: поле, пакінутае на зіму *зябнуць.* Таксама Міклашыч, 401. Але, калі ўлічыць, што гэта можа быць і 'азімы пасеў' (пабіты марозам), ці не трэба звязваць са старажытным значэннем *zęb-ti* > ст.-слав. **зѧти** 'рваць', **прозѧбати** 'прарастаць', як 'рунь', 'усходы'. Няпэўна. Плевачава, Этимология, 1966, 94; Фасмер, 2, 110—111; Шанскі, 2, 3, 116; Трубачоў, ВЯ, 1957, 2, 89. Параўн. *зябнуць, зуб.*

**Зя̀бнуць** 'мёрзнуць'. Рус. *зя́бнуть,* польск. *ziębnąć,* в.-луж. *zebać,* чэш. *zábnouti,* славац. *ziabnut',* славен. *zę̂bsti* 'тс', серб.-харв. *зе̏бнути,* балг. *зѐбна* 'тс'. Ст.-рус. *зябнути* 'мёрзнуць' (XVI ст.). Параўн. ст.-рус. *зябнути* 'прарастаць'. Прасл. *zęb-nǫ-ti.* Параўн. літ. *žem̃bti* 'рэзаць', *žembė́ti* 'прарастаць', алб. *dhëmp* 'баліць'. Фасмер (2, 11), Шанскі (2, 3, 115—116) звязваюць з **zęb-* і **zǫb-* (гл. *зуб, зябліва*). Семантычна — праз 'баліць' (Скок, 3, 651) ці, больш верагодна, праз 'рыхтаваць пад зябліва' > 'араць у халодную пару' > 'мёрзнуць' (Трубачоў, ВЯ, 1957, 2, 89). І.-е. корань, паводле Трубачова, **g'en* 'нарадзіцца' з пашырэннем *-*bh-;* гл. у Покарнага, I, 369, **g'embh-.* БЕР, 1, 629—630; Трубачоў, История терм., 153.

**З'я́ва** 'падзея, факт'. Укр. *з'я́ва* 'тс', польск. *zjawa* 'здань', рэдк. 'з'яўленне', в.-луж. *zjaw* 'з'ява', славац. *zjav* 'тс'. Параўн.

ц.-слав. *изъявити* 'з'явіцца', ст.-рус. *изъявити* 'выявіць, паказаць', 'аб'явіць'. Бяссуфіксны наз. ад дзеяслова *з'яўляцца* — *з'явіцца* (< *jьz-javiti sę*). Значэнне замацавана ў бел. мове, верагодна, пад укр. уплывам у XX ст. У рус., польск. іншае афармленне таго ж кораня: *явление, zjawisko*. Параўн. *аб'ява*. Гл. *ява*.

**Зява́ць** 'міжвольна ўдыхаць паветра'. Рус. *зева́ть*, укр. *зіва́ти*, польск. *ziewać*, н.-луж. *zewaś*, чэш. *zívati*, славац. *zívat'* 'тс', славен. *zẹ̑vati* 'трымаць вусны адкрытымі, крычаць', серб.-харв. *зе̏вати* 'трымаць вусны адкрытымі, зяваць', 'ззяць'. Ц.-слав. *зѣвнѫти*. Ст.-рус. *зѣвати* (XVIII ст.). Ад і.-е. **g'hēi-* 'быць пустым' > прасл. **zě-* з дадаткам дзеяслоўнага ітэратыўнага суф. *-va-*: *zěvati*. Пра корань гл. *ззяць*$_1$. Слав. слова мае балт. адпаведнікі: літ. *žióvauti*, лат. *žàvât* 'ззяць, зяваць' (лат. *ž* не тлумачаць Мюленбах — Эндзелін, 4, 798 і 795; Фрэнкель, 1312; Траўтман, 368). Фасмер, 2, 91. Шанскі (2, З, 84) тлумачыць *зевать* ад *зев* (гл. *зеў*).

**Зязю́ліць** 'біць', 'піць гарэлку' (Нас.), *зязюлець* 'рабіцца мутным, шэрым' (Нас.). Словы са значэннем 'зязюля' маюць у розных мовах шмат пераносных значэнняў, звязаных з павер'ямі, а таксама гукавобразнымі ўявамі. Трэба ўлічыць *зюзь*, рус. *зюзю́кать* 'піць'. Для «птушынай» семантыкі 'піць' параўн. *савець, салавець*. У выніку ўзаемадзеяння, з аднаго боку, гукавобразных уяўленняў, а з другога боку, уяўленняў аб суаднасінах выгукаў зязюлі з ударамі і ўзніклі значэнні, звязаныя таксама з указаным (гукавобразным) рус. словам. Насовіч (223) этымалагізуе *зязюлець* 'рабіцца шэрым, падобным да колеру зязюлі'. Гэта таксама ўваходзіць, верагодна, у сінкрэтычнае вобразнае знач. слова і яго станаўленне.

**Зязю́ля** 'птушка Cuculus', дыял. *зязю́лька, зогзу́ля, зеўзю́лка, зовзуля, зяўзуля*. Рус. кур., бранск. *зязю́ля*, зах., паўд., кур., цвяр., табол., прыбалт. *зозу́ля*, укр. *зозу́ля*, дыял. *зезу́ля*, ст.-польск. *gżegżołka*, палаб. *zūzaicka* (< **zoručьka*), чэш. нар. *žežulka, žežhulka, zezulka*, славац. дыял. *žežhulica* (Калал). Ст.-рус. *жегъзуля, жегозуля, зегзица, зегула* (XIV ст.). Геаграфію і формы *зязюля* гл. ДАБМ, к. 309. *Зязюля* < *зезюля* < < *зезуля* < *зегзуля* (параўн. ст.-рус. *зегзица*) < прасл. дыял. *žegъzulja*. Літ. *gegužė, gegužis*, лат. *dzeguze*, ст.-прус. *geguse* 'зязюля', літ. *gegužėlė* 'заразіха' разам са слав. коранем **žegъz-* дазваляюць рэканструяваць балта-слав. **gegug'-* і гаварыць аб агульнай суфіксацыі (*-ėle, -ul'a*). Пра суфікс *-la* гл. Слаўскі, SP, 1, 110—111. Да і.-е. адпаведнікаў балт. і слав. форм адносяць герм: ст.-ісл. *gaukr*, ст.-в.-ням. *gouh* 'зязюля'. Тады і.-е. праформа з **gh: *gheghūg-*. Калі сюды ням. *Kuckuck*,



і.-е. з **g*. Ясна, што анаматапея аказвала моцнае ўздзеянне на лёс кораня. І.-е. аснова тлумачыцца як узнікшая ў выніку рэдуплікацыі. Калі падвоены (часткова) элемент *ghug'-* назва, роднасная іншым назвам птушак: літ. *gužas* 'бусел'; параўн. рус. дыял. *черногуз*, укр. *чорногуз* 'тс'. Трубачоў, КСИС, 25, 99; Клепікава, ВСЯ, 5, 162. Але семантычны ход патрабуе ў гэтым выпадку ўдакладнення. Магчыма, у і.-е. назве *зязюлі* падваенне гукапераймальнага элемента **ghe-*, як у *гагара, гогаль* (Покарны, 1, 407). Параўн. назвы зязюлі ў іншых мовах з гукапераймальным паўторам тыпаў *ku-ku, gu-gu*, напр. кірг. *kükük*, тур. *guguk*, груз. *guguli*, кабардз. *k'əgugw*, венг. *kakuk*, у тым ліку ў і.-е.: лат. *cuculus*, асец. *gakkuk, guguk* і інш. На слав. глебе першае **g-* (< *gh-?*) палаталізавалася ў **ž-*, а потым адбылася дыстантная асіміляцыя *-ž-* да апошняга *-z-* < *-g'-* (*-g'h-?*). Другое *-g-* было ўтрачана ў спалучэнні зычных у некаторых дыялектах (у іншых захавалася). Габаўшчяк (ОЛА, 1973, 23—25) паказаў, што тэрыторыя пашырэння назвы тыпу *зязюля* ахоплівае перш за ўсё ўкр. і бел. мовы, а таму думка Арлова (Слово о полку Игореве$_2$. М., 1946, 131—133) пра зах.-слав. запазычанне ва ўсх.-слав., падтрыманая Булахоўскім (Избр. тр., 3, 258—259), не можа быць прынята. Пра балт. адпаведнікі і і.-е. форму гл. Траўтман, 81; Фрэнкель, 142—143; Тапароў, E — H, 189—191. Параўн. яшчэ Абаеў, 1, 506; Шантрэн, 553—554; Эрну — Мейе, 154. Аб слав. формах Фасмер, 2, 91—92; Сабалеўскі, Лекции, 143; Махэк$_2$, 726; Будзішэўска, Słown., 97; Струтынскі, Nazwy 44—45, 88, 148—149, карта; Непакупны, Baltistica, XI (2), 139—140. Польск. дыял. *zieziula* з укр. і бел. Дзендзялеўскі, Паралелі, 62—63; Пальцаў, Тэзісы дакл. маладых вучоных, 1970, 37. Параўн. Антропаў, дыс., 258—259.

**Зялёза** 'жалеза' (Багушэвіч, Мар. дыс.). Рус. дыял. *зелёзо*, укр. *залізо*. Прасл. *želězo* (гл. *жалеза*$_1$). Формы на *з-* у выніку дыстантнай асіміляцыі, як *зязюля, залоза* (Сабалеўскі, Лекции, 143; Трубачоў, ВСЯ, 2 (1957), 31), ці ў сувязі з вар'іраваннем **gh — *g'h*. Параўн. яшчэ Іванаў, История славянских и балканских названий металлов, 1983, 100—101.

**Зялёпаць** 'ціўкаць, пішчаць (пра куранят)' (ашмян., Сл. паўн.-зах.). Параўн. укр. *желіпнути* 'гучна закрычаць', *желіпати* 'есці'. Магчыма, прасл. дыялектызм *zelp-a-ti*. Параўн. літ. *želpùoti* 'балбатаць', якое, паводле Бугі (Фрэнкель, 1296), роднаснае санскр. *jálpati* 'мармытаць, гаварыць'. Параўн. у Покарнага (1, 428) і.-е. корань **ghel-* з падаўжэннем *-b-, -bh-*: с.-в.-ням. *gelpfen* 'крычаць, спяваць, прасіць'. Махэк$_2$ (200) адносіў сюды чэш. *chlubiti se*, польск. *chlubić się* 'ганарыцца', дзе дапускаў змену *ch* < *g*; паводле Покарнага, сюды літ.

*gulbinti* 'хваліць', рус. (без падаўжэння *-b-*) *галиться* 'высмейваць'. Калі дапусціць, што корань меў варыянт *g'hel-* (як *g'hel- 'блішчаць', прадстаўлены ў *зялены, зала, золата*, магчыма, меў варыянт **ghel-*, што даў *жоўты*), ён мог быць падоўжаны *-p-* і даць **g'hel-p*, адкуль *зялепаць* і інш. Іншая магчымасць — дапушчэнне старажытнага сінкрэтызму свячэння і гучання ў значэнні кораня *g'hel-* 'блішчаць' (гл. *зялёны*), да гэтага схіляюць словы *зялепуха, зеляпан* (гл.), што захоўваюць, відаць, сувязь з *зялёны*. Супрун, Baltistica XX (1), 1984, 65—67. Няясна.

**Зялéпуха** 'недаспелы плод', гродз. 'хваравіты чалавек' (Сцяц.), мсцісл. *зеляпýха* 'недаспелы плод' (Юрч.). Рус. дыял. *зелéпуха, зелёпуха, зелепýха, зелéпýх, зелепýга*, укр. *зелепýга, зелепýш* 'тс'. Ад кораня **зелеп-* з суф. *-уха* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 71). Пра магчымае паходжанне кораня гл. *зялепаць*. Калі ён звязаны з фарбай — ад колеру плода, аднак нельга выключыць і сувязь з «гукавым» значэннем дзеяслова, калі ўлічыць, што ён азначае ў балт. і слав. гукі малых птушак, дзяцей, пра прадстаўленне аб няспеласці; параўн. *зелянан* 'малы шчупак'. Няясна.

**Зялёны.** Рус. *зеленый*, укр. *зелéний*, польск. *zielony*, серб.-луж. *zeleny*, чэш., славац. *zelený*, славен. *zelèn*, серб.-харв. *зѐлен*, балг. *зелèн*, макед. *зелен*. Ст.-слав., ст.-рус., ст.-бел. *зеленъ*. Прасл. *zelenъ* адлюстроўвае суфіксальнае (з прыметнікавым суфіксам *-en-*) развіццё кораня **zel*, прадстаўленага ў *зелле, зелкі*. І.-е. корань мае від **g'hel-*; у іншых і.-е. мовах розныя галосныя элементы (**g'hlō-*, як грэч. χλωρός 'жоўта-зялёны'; параўн. χολέρα 'халера'). Форма з *-е-* ў балт. словах са знач. 'зелянець': літ. *žélti*, лат. *zeľt*. Параўн. літ. *žãlias*, лат. *zal'š*, ст.-прус. *saligan* 'зялёны', авест. *zaranya* 'золата', *zairi* 'жоўты', ст.-в.-ням. *gluoen* 'гарэць', ням. *glühen* 'блішчэць'. Таго ж кораня *залá, золата*. Фасмер, 2, 92; Шанскі, 2, З, 84; БЕР, 1, 632; Скок, 3, 648; Голуб — Копечны, 435; Саднік — Айцэтмюлер, 336; Махэк$_2$, 714; Траўтман, 364—365; Покарны, 1, 429—430; Сураўцава, ЭИРЯ, 8, 151—152. Параўн. *жоўты, жоўкнуць*, дзе варыянты гэтага кораня.

**Зялíць** 'надакучаць, дурыць (у выразе *зяліць галаву*)' (бялын., Янк. Мат.). В.-луж. *zelić* 'крычаць, праклінаць, лаяцца'. Шустэр — Шэўц (Этимология, 1970, 89), які не ведаў бел. адпаведнік, збліжаў в.-луж. слова з і.-е. коранем **gal-* 'крычаць' (Покарны, 1, 250) і параўноўваў з улікам чаргавання галосных, а потым зычных з бел. *галіць* 'падганяць', рус. *галиться* 'насміхацца', чэш. *hálití* 'гучна смяяцца'. Наяўнасць бел. адпаведніка можа і падмацаваць прасл. этымалогію, але, магчыма,



тут больш новае ўтварэнне — дзеяслоў ад *зелле* (в.-луж. *zelo* 'лячэбная расліна') 'уздзейнічаць зеллем'. Параўн. *соль* і *саліць* (перан.). Нельга выключаць і адасобленасці бел. і в.-луж. лексем. Параўн. яшчэ *заліць*$_1$.

**Зямéц** 'пчаляр'. Ад **zem-* (гл. *зямля*) з суфікса *-ец* паводле спосабу размяшчэння вулляў на зямлі, а не на борцевых дрэвах (Нас., 208; Сл. паўн.-зах.; Мацкевіч, З нар. сл., 210). Слова пашырана ў мін., маг., гом. гаворках.

**Зямлá.** Рус., укр. *землá*, польск. *ziemia*, серб.-луж. *zemja*, палаб. *zĭmă*, чэш. *země*, славац. *zem*, славен. *zémlja*, серб.-харв. *зѐмља*, балг. *земя*, макед. *земја*. Ст.-слав., ст.-рус. *землꙗ*. Прасл. *zem-ja* (параўн. корань **zem-*: *зямны, чарназём*), літ. *žẽmė*, лат. *zeme*, ст.-прус. *semme* 'зямля', сюды ж літ. *žẽmas*, лат. *zems* 'нізкі', ст.-перс. *zam* 'зямля', грэч. χαμαί 'на зямлі', χαμηλός 'нізкі', лац. *humus* 'зямля, грунт'. І.-е. **g'hđem* 'зямля' (Покарны, 1, 414) ці **dh(e)g'hom* (Іванаў, ВСЯ, 2, 8, па Крэчмеру) з улікам хец. *dakam*, тах. А *tkam*, тах. В *keṃ*, грэч. χθών 'зямля'. Шанскі, 2, З, 87; Фасмер, 2, 93; Мартынаў, Лекс. взаим., 143; Махэк$_2$, 714; Скок, 3, 649—650; БЕР, 1, 634—635; Траўтман, 369.

**Зяніца** 'зрэнка'. Рус. *зенúца*, укр. *зінúця*, чэш. *zenice*, славен. *zęnica*, серб.-харв. *зѐница, зјѐница*, балг. *зенѝца*, макед. *зеница*. Ст.-слав., ст.-рус. *зѣница*. Прасл. *zěnica* ад *zěn-a* з суф. *-ica*. Пра **zěn-* гл. *зенкі*; гл. яшчэ *ззяць, зрэнкі*. БЕР, 1, 635.

**Зяпа** 'пашча'. Рус. дыял. *зяпа* калуж. 'рот', дан. 'крыклівы чалавек', серб.-харв. *зјâп* 'адтуліна'. Параўн. *zienáti* 'ледзь дыхаць' (Сл. паўн.-зах.), віц. *зінáць* 'раўці' (Касп.). Параўн. славац. *ziapat'* 'крычаць, раўці', балг. *зяпам* 'стаю з адкрытымі вуснамі', макед. *зјапа* 'ззяць (быць адкрытым)', рус. *зя́пать, зепáть* 'зяваць, крычаць', укр. *зінáти* 'крычаць', польск. *ziepać, zipać* 'цяжка дыхаць'. *Зяпа* — бязафіксны назоўнік ад дзеяслова **зяпáць* 'адкрываць (пашчу)' < прасл. *zěpati*. Параўн. літ. *žiopsóti* 'быць разявакай', ст.-ісл. *geipa* 'балбатаць', нарв. *geipa* 'адкрываць', ням. *geifen, geipen* 'быць разявакай'. І.-е. аснова тая ж, што ў *зяваць, ззяць, зяхаць* (гл.) з пашырэннем *-p-*: **g'hoi-p-*, **g'hei-p-*. Фасмер, 2, 94—95; БЕР, 1, 671.

**Зяўнó**, *зяўнá, зя́ўны, зя́ўні* 'сківіца, рот' (Сл. паўн.-зах.). Утворана з суфіксам *-н-* (як *калена, руно*, ст.-слав. **стьгно**) ад *зеў* (< *зяваць*), гл. Славен. аднаназоўнікавы дзеяслоў *zęvniti* 'зяваць' указвае на магчымасць, што *-н-* было яшчэ ў прасл. мове. Літ. *žiànos* 'жабры', дыял. 'рот, губы' — роднаснае ўтварэнне. Параўн. *зеўра* з суфіксам *-р-*.

**Зяўрыць**, *зéўраць* 'быць адкрытым (пра адтуліну)' (ТСБМ.

З нар. сл., Жыв. сл.). Рус. маск., заурал. *зеврить* 'сачыць'. Ад назоўніка *зеўра* 'адтуліна' з адназоўнікавым дзеяслоўным суфіксам *-i-ti* > *-ыць* (адлюстраваным у безнаціскным складзе як *-аць*). Параўн. *зеў, ззяць.*

**Зяхáць** 'зяваць' (ТСБМ), 'цяжка дыхаць' (Сцяшк.). Рус. дыял. *зехáть* пск., цвяр. 'крычаць', пск. 'ілгаць, трызніць', цвяр. *зѐхать, зёхать* 'глядзець'; параўн. укр. *позіхáти* 'зяваць', славен. *zéhati* 'зяваць'. Ст.-рус. *зеха* 'разява' (1679 г.). Прасл. *zěxati* ўтворана на той самай аснове, што *ževati* (гл. *зяваць*): **zě-* < і.-е. **g'hoi-, g'hēi-* 'быць пустым' прадстаўлены і ў *ззяць.* Паводле Скока (3, 656), зычны *x* < і.-е. **sk,* адлюстраванага ў лац. *hisco* 'раскрывацца'. Не выключана, што *x* з аорыста.

**Зяць** 'муж дачкі'. Рус., укр. *зять* 'муж дачкі, сястры, залоўкі', польск. *zięć,* палаб. *zqt,* чэш. *zeť,* славац. *zat',* славен. *zèt* 'муж дачкі', серб.-харв. *зе̏т,* балг., макед. *зет* 'муж дачкі ці сястры'. Ст.-слав. **зѧть.** Ст.-рус. *зять.* Прасл. *zętь.* Літ. *žéntas* 'зяць', лат. *znuôts* 'зяць, сваяк', грэч. *γνωτός* 'сваяк, брат', ст.-інд. *jñātíṣ* 'сваяк'. Да і.-е. **g'en-* 'нараджаць', адкуль **g'enət-.* Трубачоў, История терм., 128—131; Фасмер, 2, 112; Шанскі, 2, З, 116; Махэк$_2$, 715; Скок, 3, 651—652; БЕР, 1, 636—637. Шаўр (Etymologie, 56—59) звяртае ўвагу на верагоднасць сувязі **zęt-* з пастуляваным Іллічам — Світычам (Проблемы индоевр. языкозн., 1964, 7) і.-е. **g'am-* 'жаніцца', не выключаючы разам з тым сувязі з і.-е. **g'en(ə)* 'нарадзіць — ведаць ад нараджэння', на якую ўказваў Ісачанка, Зб. Гаўранку, 125—127. Трэба ўлічваць гіпатэтычнасць пабудовы Ілліча — Світыча, які лічыў, магчыма, што і.-е. корань < сяміцк. **ḏ-m,* які этымалагізуецца праз 'запрагаць'.

# І

**І**$_1$ злучнік. Рус., серб.-харв., балг., макед. *u,* укр., польск., в.-луж., н.-луж., чэш., славац., славен. *i.* Бліжэйшыя і.-е. паралелі: гоц. *ei* 'каб', грэч. *εἰ* 'калі', *εἶτα* 'пасля'. Тады *і < і.-е. **ei,* месн. скл. адз. л. займеннага кораня **e-/o-,* гл. Бернекер, 1, 415; Фасмер, 2, 112-113; Трубачоў, Эт. сл., 8, 167; Покарны, 1, 283. Іншыя версіі менш верагодныя. Параўноўваюць з семантычна тоеснымі літ. *ir̃,* лат. *ir,* ст.-прус. *ir* (Эндзелін, Слав.-балт. эт., 136; Мюленбах — Эндзелін, 1, 708). Яшчэ больш праблематычная версія Зубатага (JF, 4, 1894, 470—472), які звязвае *i* з усх.-літ. *ē̃* 'але', ст.-літ. *ē̃* 'тс' < і.е. **ēd* (абл. ад **e-*). Брукнер (189) прыцягвае літ. *jeĩ* 'калі'. Параўн. яшчэ Махэк$_2$, 212—213.

**І**$_2$ выклічнік (выражае высокую ступень якога-н. пачуцця). Рус. дыял., серб.-харв., макед. *u,* укр., польск., чэш., славац., славен. *i.* Сустракаецца ў іншых і.-е. мовах: ням. *i,* лат. *i,* рум. *i.* Гл. Махэк$_2$, 212; Безлай, 1, 208; Слаўскі, 1, 443, там жа агляд літ.-ры.

**Íбіс** 'птушка атрада галянастых' (ТСБМ). Запазычана праз пасрэдніцтва рус. *úбис* з лац. *ibis* < грэч. *ἶβις* < ст.-егіп. Фасмер, 2, 113; Шанскі, 2, І, 3.

**Íбут** 'бугай вялікі, Botaurus stellaris L; бугай малы, Ixobrychus minutus L' (стол., Ніканчук, 450). Відаць, гукапераймальнае, звязанае з перадачай крыку бугая *ы-ых-прумбб, ы-ых-прумбб* (Федз.— Доўб., 234). Не выключана кантамінацыя з *íбіс* (гл.)

**Íвалга** 'птушка жоўты дрозд, Oriolus galbula' (ТСБМ), *íвал* (Мат. Гом.), *íвельга, íвега* (Маш., 18, 19). Рус. *úволга* 'жоўты дрозд, Oriolus galbula', укр. *íволга* 'тс', польск. *wilga, wiwielga* 'тс', чэш. *vlha* 'Merops apiaster', славац. *vlha* 'івалга', славен. *vólga* 'тс', серб.-харв. *вȕга* 'рэмез', балг. *авлúга* 'івалга'. Ст.-слав. **влъга,** ст.-рус. *иволга, ивлъга.* Прасл. **vьlga* ці, паводле Трубачова (Эт. сл., 8, 251—252), **jьvьlga* мае адпаведнікі ў балт. і герм. арэалах. Пачатковае *i-* тлумачаць як пратэзу (Брукнер, 621) ці як прыіменную прыстаўку **jь-* (Петарсан, 52; Трубачоў, Этимология, 1970, 19—20). Этымалогія не зусім ясная. Згодна з найбольш прынятай версіяй, роднаснае

прасл. *vьlg- 'вільгаць': у гэтай птушцы бачаць прадвесніцу дажджу. Семантычная паралель — ням. *Regenpfeifer* 'івалга', 'сявец'. Гл. Брукнер, 621; БЕР, 1, 2; Трубачоў, Этимология. 1970, 19—20. Магчыма, гэта больш позняе пераасэнсаванне народна-этымалагічнага характару (Махэк$_2$, 694). З семантычнага боку верагодна сувязь з авест. *vārə(n)gan* 'нейкая птушка', польск. *wołać* 'клікаць, крычаць'. Гл. Эндзелін, IF, 33, 126; Шпэхт, Der Ursprung, 172; Фасмер, 2, 114—115. Ці не сюды імя язычаскага бога *Сварогъ* у сувязі з міфалагічнымі ўяўленнямі аб вогненнай птушцы? Іншыя тлумачэнні: Махэк$_2$ (694) звязвае *vьlga з ням. дыял. *Wide — walch* 'івалга' і лац. *galbula* 'тс', якія з «праеўрапейскага» *valgā (з метатэзай *galv-). Супастаўленне са швейц.-ням. *Wiede — walch* прыводзіць Булахоўскага (ВЯ, 1968, 4, 104) да рэканструкцыі слав. *ivo-vьlga. Наўрад ці магчыма прыняць і тлумачэнне Младэнава (2), які параўноўваў з грэч. αὐλέω 'іграць на жалейцы', αὐλός 'жалейка', хаця да гэтага супастаўлення звяртаюцца зноў у сувязі з думкай аб гукапераймальным характары слав. слова (Антропаў, дыс.). Усечаная форма *івал* — карэлят м. р. Гл. *іваўка*.

**Іва́н-ды-Ма́р'я** 'расліна Melampyrum nemorosum' (Кіс.). Рус. *Ива́н-да-Ма́рья* (з XVIII ст.); гл. Шанскі, 2, I, 4—5. Назва тлумачыцца спалучэннем двух процілеглых колераў у гэтай расліне, параўн. ням. *Tag und Nacht* 'Melampyrum nemorosum', бел. *брат-сястра,* рус. *брат и сестра,* укр. *брат-і-сестра,* польск. *brat-siostra* 'тс' і звязаныя з раслінай Melampyrum паданні аб перуновай кветцы, аб Іване і Мар'і — браце і сястры. Падрабязней гл. Фасмер, 2, 114; Шанскі, 2, I, 4—5.

**Іване́ц** 'расліна Melampyrum nemorosum' (Кіс.), 'кветкі, якія рвалі на Івана-Купалу і ставілі на кут' (Інстр. II). Утварэнне ад *Іван* пры дапамозе суф. *-ец*. Семантычная мадэль 'уласнае імя' — 'назва расліны' сустракаецца даволі часта. Слав. мовы ведаюць шматлікія назвы раслін, якія паходзяць ад уласнага імя Іван (Праабражэнскі, 1, 263). Параўн. бел. *іва́нькавы шапачкі* 'званочкі' (Касп.), *іва́нава галава́* 'званочак персікалісты і гарычка лёгачная' (дзісн., Жыв. сл., 201; Бейл., 422).

**Іва́н-трава́** 'кветкі, якія рвалі на Івана-Купалу і ставілі на кут' (Сцяшк. МГ). Назва *ива́н-трава́* шырока вядома ў рус. гаворках: кур. 'Chrysanthemum Leucanthemum', алан., дан. 'Epilobium angustifolium', наўг. 'Pedicularis palustris', перм. 'Centaurea sibirica', укр. *іва́н-зілля* 'расліна Hysopus offic'. (Грынч.); параўн. таксама рус. *ива́н-чай,* укр. *іва́н-чай*. Відаць, узыходзіць да выразу **Івань трава,* утворанага паводле архаічнай мадэлі «прыналежны прыметнік + назоўнік»; аб структуры гэтай мадэлі гл. Мяркулава, Очерки, 130.



**Іва́нчык$_1$** 'конік лугавы, Saxicola rubetra' (Бел. нав. тэрм., 12, 32), *іва́ньчык* 'салавей' (Мат. Гом). Рус. дыял. *ива́нчик* калуж. 'птушка-рыбалоў', дан. 'сінічка', укр. *івано́к* 'зімародак' (Грынч.). Утворана ад уласнага імя *Іван* з памянш. суф. *-чык,* на які накладваецца гукапераймальны элемент (Антропаў, дыс.).

**Іва́нчык$_2$** 'страўнік свінні, напханы мясам і правялены' (Вешт., 379). Утварэнне з суф. *-чык* ад уласнага імя *Іван*. Семантычная матывацыя застаецца няяснай.

**Іві́на** 'Salix caprea' (Нас. Доп., Кліх., Бяльк., Кіс.), *іва* (Бяс., 114). Рус. *и́ва,* укр. *и́ва, ги́ва* (Грынч.), польск. *iwa, iwina,* дыял. *wiwa,* в.-луж. *jiwa,* н.-луж. *wiwa,* палаб. *jeivó,* чэш. *jíva,* славац. *iva,* славен. *íva,* серб.-харв. *ӥва,* балг. *и́ва,* макед. *ива*. Прасл. **iva*/**jьva* (Трубачоў, Эт. сл., 8, 248) мае шматлікія адпаведнікі ў і.-е. мовах: літ. *ievà* 'чаромха', лат. *iẽva* 'тс', прус. *iuwis* 'ціс', ст.-в.-ням. *iwa* 'тс', ірл. *eo* 'тс', грэч. ὄα, οἴη 'Sorbus', арм. *aigi* 'вінаграднік' (апошнія з вакалізмам *-o-*). Звязваюць з і.-е. **ei̯-u̯o-* 'чырванаваты' (Покарны I, 297; Слаўскі, 1, 473—474; Тапароў, 3, 100—101). Адсюль розныя значэнні ў і.-е. арэале: 'чаромха', 'ціс' ад колеру драўніны; 'рабіна', 'вінаград' па афарбоўцы ягад. Скок (1, 737) першасным лічыць значэнне 'ягада'. Гл. яшчэ Бернекер, 1, 438; Мейе, MSL, 14, 1906—1908, 479; Машынскі, *Pierw.*, 61; Клюге, 153; Фасмер, 2, 113; Безлай, 1, 214. Махэк$_2$ (230) супастаўляе з ням. *Weide* 'вярба', грэч. ἰτέα 'тс' < «праеўрапейскага» **vīteuā*. Трубачоў (Эт. сл., 8, 249), прымаючы збліжэнне з ням. *Weide,* прапануе звязаць з і.-е. коранем **u̯i-*/**u̯ei̯-* 'віць', адкуль **u̯ei̯-u̯ā* > **ei̯-u̯ā*. Бел. *івіна* ўтворана ад *іва* суф. *-ін-а,* які падкрэслівае значэнне асобнай адзінкі.

**Ї́вянь** 'белая намаразь, якой пакрываюцца дрэвы зімой' (навагр., Жыв. сл., 11). Рус. цвяр., наўг., калуж., пецярб. *и́вень,* калуж. *ивеньё,* славен. *ívje,* параўн. рус. *индеве́ть, иневе́ть* < **ивенеть*. Гл. *іней, віня*. Славен.-усх.-слав. формы даюць магчымасць Трубачову (Эт. сл., 8, 236) рэканструяваць ранняе прасл. **jьvьnь*. Слаўскі (1, 458), наадварот, лічыць формы з *iv-* пазнейшымі, прычым не выключае магчымасць кантамінацыі з **iva*. Гл. Безлай, 1, 211.

**Івярэ́нь** 'пень' (Мат. Гом.), 'трэска' (Маш., 74), *івірынь* 'старчаком' (Бяльк.). Рус. дыял. *и́верень* 'асколак', 'вырваны кусок', 'зарубка на бервяне', 'няроўнасць, шурпатасць на вычасаным дрэве', 'загана, шчарбіна, трэшчына (на посудзе)',

'выгіб, зігзаг', *івор* 'кусок, частка, асколак чаго-н.', *івернем* 'зігзагам, выгібам', 'няроўна', укр. *іверь* 'зарубка ўпоперак дрэва', *іверень* 'трэска, адсечаная ўпоперак дрэва' (Грынч.), польск. *wiór* 'трэска', 'стружка', палаб. *jėver* 'трэска', чэш. дыял. *iver* 'тс', славац. *iver* 'абрубак, трэска', славен. *ivêr* 'трэска, абрэзак', серб.-харв. *ѝвêр* 'трэска', балг. *ивер* 'тс', макед. *ивер, иверка* 'тс'. Ст.-рус. *иверень* 'трэска, асколак', 'вырваны ці выразаны кусок' (XVII ст.), ст.-бел. *иверь, иверень* 'асколак, трэска' (Гарб.). Вытворныя формы на *-ень* толькі на ўсходзе слав. тэрыторыі. Прасл. _*jьverъ_ (Трубачоў, Эт. сл., 8, 250—251) ці _*iverъ_ звязваюць з _*verti_ (гл. *вярцець*). Бернекер, 1, 439; Трубачоў, Этимология 1970, 18. Супастаўленне са ст.-інд. *vr̥çcáti* 'адсякае, коле, валіць' (Гараеў, 120; Младэнаў, 196) выклікае пярэчанні фанетычнага характару. Махэк$_2$ (213) недастаткова абгрунтавана прапануе сувязь з *iskat'* 'шчапаць', адсюль *i-ver-o,* дзе корань *i* < *iz-* < *eiz-* < < *eiǵ* + суф. *-ver-*. Дыскутуецца і паходжанне пачатковага *i-*: у ім бачаць прыстаўку _*jь_ (Трубачоў, Эт. сл., 8, 251), пратэзу (Бернекер, 1, 439; Міклашыч, 97, з сумненнем) ці, што мала верагодна, прыдыхальны *i-* (Брукнер, 623).

**Іга**$_1$ 'ярмо для запрагання валоў' (мін., Жыв. сл., 42). Рус. *иго* 'прыгнёт', уст. 'ярмо', укр. *іго* 'ярмо', польск. *jugo* 'ярмо, перакладзіна ў санях', палаб. *jaid'ü* 'прыгнёт, ярмо', чэш. *jho* 'тс', славен. *igô* 'прыгнёт, валоўе ярмо', серб.-харв. уст. *иго* 'прыгнёт, ярмо', балг. *иго* 'прыгнёт', макед. *иго* 'прыгнёт, ярмо'. Ст.-слав., ст.-рус. *иго* 'прыгнёт, ярмо'. Прасл. _*jьgo_ < _*i̯ugom_ узыходзіць да і.-е. _*i̯eu̯-g-_ 'звязваць'; параўн. і.-е. матэрыял: літ. *jùngas* 'ярмо' (*n* — пад уплывам дзеяслова *jùngti* 'злучаць, запрагаць'), ст.-інд. *yugám* 'ярмо', *junákti* 'запрагаць, спалучаць', лац. *iugum* 'ярмо', *iungō* 'звязваць, злучаць', грэч. ζυγόν 'ярмо', ζεύγνῡμι 'запрагаць, спалучаць', хец. *i̯ukan* 'ярмо', гоц. *juk* 'тс', арм. *luc* 'тс', авест. *yaog-* 'запрагаць'. Бернекер, 1, 421—422; Покарны, 1, 508—509; Фасмер, 2, 115—116; Слаўскі, 1, 445—446; Безлай, 1, 208; Трубачоў, Эт. сл., 206—208, там жа падрабязны агляд літ-ры. Этнаграфічны бок гл. Машынскі, Kultura, 647—656.

**Іга́**$_2$ 'злая жанчына' (Нас.). Гл. *яга*.

**І-га-га́** 'гукі для перадачы конскага ржання' (Шат.). Гукапераймальнае.

**Ігаць** 'медная ступка' (Інстр. I). Рус. тамб., смал. *иготь* 'ступа, ступка', смал. *иготка* 'маленькая ступа, ступка'. Ст.-рус. *иготь, игота, иготья* 'металічная ці каменная ступка, ручная ступа' з с.-грэч. ἰγδί(ον). Бернекер, 1, 421; Праабражэнскі, 1, 264; Фасмер, 2, 116.



**Ігла́,** *іголка* (ТСБМ), *голка* (стаўб., Нар. лексіка, 157). Рус. *игла́, иго́лка,* укр. *ігла́, го́лка,* польск. *igła,* в.-луж. *jehła,* н.-луж. *gła,* палаб. *jâgla,* чэш. *jehla,* славац. *ihla,* славен. *ígla,* серб.-харв. *ѝгла,* балг. *игла́,* макед. *игла,* ц.-слав., ст.-рус. *игла,* ст.-бел. *игла* — усе са значэннем 'прылада для шыцця'. З іншай семантыкай рус. смал. *иго́лка* 'кінжал', польск. *igła* 'шпілька', славен. *igla* 'шворан, прут', балг. *игла́* 'пруток'. Найбольш верагодна сувязь прасл. _*jьgъla_ з _*jьgo_ 'ярмо' (гл. *іга*$_1$). Махэк$_2$ (220—221) рэканструюе _*jug — ulā_ ад і.-е. _*jugo-m,_ абапіраючыся на значэнне славац. дыял. *jehlice* 'палка, якая прасоўваецца праз канцы ярма для замацавання яго на шыі жывёлы', параўн. грэч. ζεύγλη 'рэмень вакол шыі жывёлы як частка ярма', лац. *iugulae* 'пояс Арыёна'. Адсюль першапачатковае значэнне 'змацавальная жэрдка, планка, перакладзіна', Трубачоў, Эт. сл., 8, 213—214. Старыя семантычныя сувязі захавала не толькі славац. лексема, арэал распаўсюджання старажытнага значэння больш шырокі, параўн. рус. дыял. *игла́* 'рухомая на восі сярэдняя частка спражкі, якая прасоўваецца ў дзірку рэменя (у вупражы, поясе і г. д.)', 'частка воза', вельмі часта з рознымі варыяцыямі 'перакладзіна, якой змацоўваюцца дошкі, бярвенні плыта, драўляныя сцены і г. д.', славен. *ígla* 'клін праз ярмо', *ígelj, ígelje* 'частка ярма' (Безлай, 1, 208), ст.-рус. *игла* 'бервяно, брус, жэрдка для змацавання драўляных сцен' (XVII ст.). Гэты ж семантычны цэнтр асноўны для вытворнага _*jьgъlica_ (гл. *ігліца*). І.-е. сувязі менш ясныя ці зусім няпэўныя. Параўноўваюць са ст.-прус. *ayculo* 'ігла' < _*aigulā_ (Міклашыч, 95; Слаўскі, 1, 443—445; Тапароў, А — Д, 59, сюды ж літ. *aĩgara, aĩgaras* 'саломінка', *áigyti* 'калоць', 'басці') і грэч. αἰχμή 'вастрыё', αἶκλοι 'вастрыё кап'я' (БЕР, 2, 56; Фасмер, 2, 115, з заўвагай аб немагчымасці аддзяліць гэтыя паралелі ад балт. слоў са значэннем 'ражон, пожаг': літ. *iẽšmas,* ст.-прус. *aysmis*). Далей, кімр. *gwnīo* 'шыць', ірл. *conōigim* 'шыю' (Цупіца, KZ, 37, 392; Мікала, RS, 1, 5—6). Сувязь з лац. *aeger* 'хворы, які пакутуе', польск. *jędza* 'ведзьма, фурыя' (Бернекер, 1, 423; Брукнер, 189), відаць, памылковая. Няпэўнае супастаўленне са ст.-ісл. *igull,* ням. *Igell* 'вожык', слав. _*ežь_ (Младэнаў, 196). Іншыя версіі: сувязь з грэч. ὀβολός 'манета' (Мейе, BSL, 24, 1924, 137), супастаўленне з грэч. βέλος 'страла, кап'ё', βελόνη 'вастрыё, ігла', літ. *geluonìs* 'джала' (Педарсан, KZ, 39, 393).

**Ігліца** 'іголкападобнае лісце хвойных дрэў і кустоў' (ТСБМ, Сцяшк. МГ, Янк. I, Янк. III), 'папярочны драўляны брусок, якім змацоўваюцца дзвярныя дошкі' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк. МГ., Касп., Янк. III, Мат. Маг., Інстр. I, Інстр. II, В. В., 107), 'брусок, што злучае брусы з зубамі ў баране, праходзячы праз

іх' (Бяльк.), 'планка (у табурэтцы, стале)' (Сцяц.), 'драўляны ручны чаўнок для вязання рыбалоўных сецей' (Крыв., 167). Рус. дыял. *иглица,* церск., урал. 'ігла для шыцця', церск., сарат., наўг., урал., перм., цюмен. 'ігла для вязання сецей', кастр. 'доўгі завостраны драўляны цвік', тамб. 'жэрдка ў загарадзі, поручнях і г. д.', паўд. 'папярочныя брусы бараны', дан., паўд., смал., урал., разан. 'папярочны брусок, якім змацоўваюцца дошкі' і іншыя вельмі блізкія значэнні: укр. *глиця* 'драўляная ігла', 'хвоя, шыпулькі хвойнага дрэва', 'баляса, слуп у поручнях, загарадзі', 'папярочная злучальная жэрдка', 'кладка' (Грынч.), польск. *iglica* 'ігла, вязальная спіца', 'вастрыё, верхавіна, пік', 'жалезны кол', н.-луж. *jeglica* 'іголка', чэш. *jehlice* 'іголка, шпілька', 'спіца', славац. *ihlica* 'ігла, шпілька', 'спіца', 'драўляны ці металічны прут для замацавання ярма на шыі жывёлы', славен. *iglica* 'іголка', 'жалезны шворан у возе', 'прут, які змацоўвае часткі ярма', серб.-харв. *иглица* 'іголка', 'ступенька, перакладзіна', балг. *иглица* 'іголка'. Ст.-рус. *иглица* 'драўляныя брускі, якія выкарыстоўваюць пры будаўніцтве памяшканняў', 'пякучы валасок некаторых раслін' (XVII ст.). Прасл. утварэнне з суф. *-ica* ад **jьgъla* (гл. *ігла*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 214—215. Семантычны зрух у напрамку 'змацавальная жэрдка, перакладзіна, палка'→'завостраная на канцы палка'→'іголка'→'лісце хвойных дрэў' (па падабенству).

**Іглíчыць** 'змацоўваць з дапамогай іглíцы' (ТСБМ), 'злучаць дошкі' (Інстр. II); параўн. рус. смал. *игличить* 'рабіць што-н. з дошак пры дапамозе набіўных дошчачак'. Ад *іглíца* (гл.).

**Ігнараваць.** Запазычанне з польск. мовы ў пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 260; Гіст. мовы, 2, 143). Першакрыніца: лац. *ignoro* 'не ведаю'. Шанскі, 2, І, 6—7; SWO, 296.

**Ігрá.** Рус. *игрá* 'ігра', дыял. 'гулянне моладзі', 'урачыстасць', 'вяселле', 'скокі, танцы', укр. *гра, ігрá,* польск. *gra,* уст. *igra* 'тс', в.-луж. *hra* 'тс', н.-луж. *gra, igra* 'тс', чэш., славац. *hra* 'ігра, забаўка, пацеха', 'жарт', славен. *ígra* 'ігра', серб.-харв. *ѝгра* 'тс', балг. *игрá* 'ігра, пацеха', макед. *игра* 'тс'. Ст.-слав., ст.-рус. *игра* 'пацеха, танец', 'ігра', ст.-бел. *игра* 'ігра, забава' (Скарына). І.-е. сувязі не зусім ясныя. Магчыма, прасл. **jьgra* мела рытуальнае і сакральнае значэнне. Сінкрэтычнасць семантыкі слав. слова і збліжэнне са ст.-інд. *yájati* 'шанаваць бажаство', грэч. ἅγιος 'свяшчэнны' даюць падставу для такога меркавання (Патабня, РФВ, 6, 1881, 3, 150—153). Тапароў (Этимология, 1977, 15—17), вяртаючыся да этымалогіі Патабні, звязвае **jьg-ra* з ідэяй сакральнай адзначанасці і шанавання, прызнаючы, аднак, фанетычныя цяжкасці ўзвядзення слав. слова да і.-е. **i̯ag-* 'рэлігійнае шанаванне'. Семантычную і фармальную аргументацыю гл. яшчэ Трубачоў, Эт. сл., 8, 208—210. Іншыя супастаўленні: ст.-інд. *éjati, ī́jati* 'рухацца' (Бернекер, 1, 422; Траўтман, 103), літ. *áikštytis* 'капрызіць, дурэць', *áikštis* 'прыхамаць', лат. *aĩkstîtiês* 'крычаць, шумець', ст.-ісл. *eikinn* 'дзікі, люты, моцны' (Фасмер, 2, 116), ст.-інд. *iṅgati* 'рухацца' (Махэк₂, 181). Згодна з найбольш прынятай версіяй, пачатковае значэнне 'рух у танцы, скокі' (Слаўскі, 1, 331—332). Скок (1, 711) прыводзіць у якасці семантычнай паралелі ст.-в.-ням. *spilōn* 'жвава рухацца' — ням. *spielen* 'іграць'. Прапанова Ланта аб сувязі з гняздом рус. *ерзать* выклікае пярэчанні семантычнага і фармальнага характару (гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 209).



**Ігрáць** 'выконваць што-н. на музычным інструменце', 'выступаць на сцэне, у кіно', 'гуляць', 'блішчаць', 'быць у бадзёрым, узбуджаным стане' (ТСБМ), 'бегаць (пра карову)' (Мат. Гом.), 'цвісці' (Бяльк., Выг. дыс.), 'спяваць' (Касп.; Рам., 8, 554), 'спарвацца (аб птушках)' (Некр.), 'буяніць, сварыцца, бурна выказваць пачуцці незадавальнення' (Шат., Янк. III). Рус. *игрáть* 'іграць', дыял. 'танцаваць, скакаць', 'спяваць' (вельмі шырока ў гаворках), арханг., смал., разан.' здзекавацца, зларадніча́ць', разан. 'аб злучцы жывёлы', укр. *грáти* 'іграць', 'рабіць хуткія, рэзкія рухі', 'брадзіць (аб мёдзе, піве)' (Грынч.), польск. *grać, igrać* 'іграць', в.-луж. *hrać* 'тс', н.-луж. *graś, jgraś* 'тс', палаб. *jaigrojǫ* 'тс', чэш. *hráti* 'іграць, забаўляцца', славац. *hrat'* 'тс', *ihrat'* іграць, хістацца, пераліваццa', славен. *igráti* 'іграць', серб.-харв. *ѝграти* 'скакаць, іграць', балг. *игрáя* 'тс', макед. *игра* 'тс'. Ст.-слав., ст.-рус., ст.-бел. *играти* 'забаўляцца, іграць'. Прасл. **jьgrati*, дзеяслоў на *-ati* ад **jьgra* (гл. *ігра*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 210—211.

**Ігрáч** 'музыка' (Бяльк., Жд. 2, Інстр. III). Рус. дан. *игрáчки* 'песенніцы', укр. *ігрáч, грач* 'ігрок, музыка' (Грынч.), польск. *gracz* 'ігрок, музыка, артыст', в.-луж. *hračk* 'ігрок', н.-луж. *grac* 'тс', чэш. *hráč* 'тс', славац. *hráč* 'ігрок, музыка', славен. *igráč* 'ігрок, артыст', серб.-харв. *ѝгра̄ч* 'ігрок, танцор', балг. *игрáч* 'тс', макед. *играч* 'тс'. Ст.-бел. *играч* 'музыка' (Скарына). Прасл. утварэнне з суф. Nomina agentis *-ačь* ад **jьgrati* (гл. *іграць*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 210. Параўн. *ігрэц.*

**Ігрýша,** *ігрýшына. і-* пратэтычнае. Гл. *груша.*

**Ігрýшка** 'вазон', 'від хатніх кветак' (Бір. Дзярж.), Лексіка-семантычны тып утварэння ад *ігруша* (гл.) з памянш. суф. *-к-а.*

**Ігрушó** 'сухое грушавае галлё' (ушац., Нар. лексіка, 7). Утварэнне ад *ігруша* (гл.) з суф. *-j-o* (са значэннем сукупнасці), які ў выніку асіміляцыі дае падаўжэнне *-ш-*, як *колля, сучча, елле* і г. д. Сцяцко, Афікс. наз., 204.

**Ігры́шча** 'вечарынка моладзі з песнямі, музыкай і скокамі' (Бяльк., Шат., Інстр. II), 'танцы, скокі' (Сцяшк. МГ), 'вясковыя вячоркі, забаўныя зборышчы' (Мал.). Рус. дыял. *и́грище* 'гулянне моладзі з песнямі і скокамі', 'вечарынка моладзі', 'калядпае гулянне, калядная гульня', 'месца гуляння, гульняў', укр. *грúще, ігрúще* 'месца для гульні; святочныя забавы моладзі' (Грынч.), польск. *igrzysko* 'барацьба, спаборніцтва', 'забаўныя мерапрыемствы з музыкай і танцамі', 'відовішча', чэш. *hřiště* 'месца для гульняў і спорту', славац. *ihrisko* 'тс', славен. *igrišče* 'тс', серб.-харв. *ѝгрūште* 'тс', балг. *игрúще* 'тс', макед. *игрище, игралиште* 'тс'. Ст.-слав. **игрище** 'арэна', **игрища** мн. 'забавы', ст.-рус. *игрище* 'забава, відовішча', 'месца гульняў, відовішчаў'. Ст.-бел. *игриско* 'гульня, турнір' (1677 г.) з польск. (Булыка, Запазыч.). Прасл. **jьgrišče* ўтворана ад **jьgrati* (гл. *іграць*) з суф. *-išče;* параўн. *зборышча, гульбішча, явішча.* Гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 211—212; Слаўскі, 1, 446—447. Ад *ігрышча* з суф. *-нік ігрышчнік* 'удзельнік сялянскага каляднага гульбішча' (Нас. Доп.).

**Ігрэ́ц** 'ігрок' (Гарэц., Касп., Др.-Падб.), 'музыка' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Інстр. III). Рус. дыял. *игрéц* 'нячысты ці злы дух, бес; дамавы' (шырока ў гаворках), тамб., вяц. 'мянушка грубага, нявыхаванага чалавека', пенз. 'спявак', дан., разан. 'параліч', укр. *грець* 'апаплексічны ўдар, параліч', уст. 'музыка, ігрок', польск. уст. *igrzec* 'вандроўны артыст, камедыянт', в.-луж. *herc* 'музы́ка', н.-луж. *gerc* 'ігрок', 'музы́ка', чэш., славац. *herec* 'артыст', славен. *igr̀c, igrèc* 'ігрок', 'музы́ка', серб.-харв. уст. *ѝграц, игарац* 'ігрок', балг. *игрéц* 'артыст'. Ц.-слав. *игрьць* 'акцёр, скамарох', ст.-рус. *игрецъ* 'танцор, скамарох', 'музы́ка', 'артыст', 'спакуснік, д'ябал', 'ігрок'. Ад **jьgrati* (гл. *іграць*) з дапамогай суф. Nomina agentis *-ьсь* у прасл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 212—213; Слаўскі, 1, 446. Параўн. *іграч.*

**Ігу́мен,** *ігу́менця* 'настаяцель (настаяцельніца) праваслаўнага манастыра'. Ст.-бел. *игуменъ* (Гіст. лекс., 121) < ст.-рус. *игуменъ* (XI ст., Сразн.) < ст.-слав. **игоуменъ** < грэч. ἡγούμενος 'кіраўнік, вядучы'. Фасмер, 2, 117; Шанскі, 2, I, 8.

**Ігуме́нша** 'жанчына (тоўстая, непаваротлівая)' (Мат. Гом.). Фемінатыў на *-ш-а* ад *ігумен* (гл.). Семантычны зрух у напрамку 'жонка ігумена'→'увогуле тоўстая непаваротлівая жанчына'; параўн. падобную трансфармацыю калуж. *úгумен* 'жартаўлівая назва старога чалавека'.

**Іґы́** 'так' (брэсц., Нар. лексіка, 77), 'ага, але' (стаўб., Нар. лексіка, 158; Мат. Маг.), рус. дан. *игú* 'але', варонеж. *игы́* 'але, добра, так', укр. *ігí* 'цьфу'. З *і-гы,* дзе *і* (гл. $I_2$) выступае



ў функцыі выклічніка, *гы* < *га* (гл.) пад уплывам пачатковага *і-*. Гл. *ага.*

**Іда́,** 'яда, харчы, страва' (Бяльк.), укр. *ідá* (Грынч.). Гл. *яда.*

**Ідал** 'язычаскае бажаство; прадмет абажання або нізкапаклонства; нягоднік' (ТСБМ), 'чорт, д'ябал' (Нас., Касп., Шат.), *ідыл* 'чорт' (Бяльк.), *ідальшчына* 'недарэчнасць, чартаўшчына' (Нас.); параўн. рус. *úдол* 'ідал, балван' (Даль), смал. 'лаянка', *úдольщина* 'недарэчнасць', укр. *ідол* 'аб недарэчным, дурным або бяздушным чалавеку', *úдал* 'ідал, чорт' (Грынч.). Ст.-бел. *идолъ* 'язычаскае бажаство' (Скарына; Гіст. лекс., 121) < ст.-рус. *идолъ* 'язычаскае бажаство' (XI ст., Сразн.), 'лаянка' (XVII ст.) < ст.-слав. **идолъ** 'бажок, кумір'. Першакрыніца: грэч. εἴδωλον 'вобраз, падабенства, малюнак'. Фасмер, 2, 117; Шанскі, 2, I, 14. *Ідалапаклóннік, ідалапаклóнства* — паўкалькі грэч. εἰδωλολάτρης, εἰδωλολατρεία. Шанскі, там жа, 14—15.

**Іджа** 'вось жа' (Бяльк.), зах.-бранск. *úджа* 'тс'. З *і-ад-жа?* Гл. *аджа.*

**Ідзе́** 'дзе' (Нас., Бяльк.; Оч. В. Бел. 1892, 2, 201). Магчымы два тлумачэнні. Бел. лексема можа ўзыходзіць да прасл. **jьde* з займ. **jь* і энкліт. часц. *-de,* адкуль рус. дыял. *идé* 'дзе', 'куды', 'як', чэш. уст. *jdeže* 'дзе', ст.-слав. **иде** 'дзе, калі', ст.-рус. *идѣ* 'дзе, калі' (XI ст.). І.-е. адпаведнасці: ст.-інд. *ihá* < **idhe,* авест. *iδa-,* грэч. ἴϑα-, лац. *ibi-* ва ўказальнай функцыі. Гл. Бернекер, 1, 418; Фасмер, 2, 117; Трубачоў, Эт. сл., 8, 206. Іншая мажлівасць: *і-* мае пратэтычны характар, што падмацоўвае ст.-бел. *игдѣ* (Гіст. лекс., 54, прыстаўны галосны); параўн. таксама ўкр. *ігде.* Гл. *дзе.*

***Ідзяннё,** *ідзяньнё* 'страва, ежа' (Гарэц.), *едзéнне* (Вешт., 376), *ядзéнне* (Шат.), рус. смал. *идиньé,* укр. *іде́ння, іда́ння* (Грынч.). Утварэнне з суф. *-енне (-яннё)* ад асновы цяп. ч. мн. л. *яд-* дзеяслова *есці* (гл.). Адсюль розныя фанетычныя варыянты ў бел. гаворках. Гл. Сцяцко, Афікс. наз., 56.

**Ідло** 'ежа' (брэсц., Жыв. сл., 245), 'апетыт' (брэсц., Нар. лексіка, 77), укр. дыял. *ї́дло́* 'ежа', чэш. *jídlo* 'страва, ежа'. У брэсц. гаворках *-і-* на месцы старога *-ě-; -dl-,* відаць, пад польск. уплывам; параўн. польск. *jadło* < **ědlo,* адкуль *-dl-* таксама ва ўкр. *ї́дло* (як Слаўскі, 1, 485).

**Ідні́шча** (Бяльк.). *І-* пратэтычнае. Гл. *днішча.*

**Ідыёма.** Запазычана ў XX ст., відаць, праз польск. мову (не перадаецца дзеканне) з грэч. ἰδίωμα 'своеасаблівы выраз'. SWO, 296. Форма з *-а* на канцы слова пад рус. уплывам.

**Ідыёт.** Праз польск. *idiota* (параўн. *ідзівóт* (Бяльк.) з рус.). З лац. *idiōta* 'недасведчаны, невук, прасталюдзін, прасцяк' < < грэч. ἰδιώτης 'прыватная асоба, міранін, прасцяк' ад ἴδιος 'прыватны, уласны, асаблівы'. Слаўскі, I, 443; Шанскі, 2, I, 14. Пад рус. уплывам усякаецца *-а* на канцы слова.

**Ідылія.** Запазычанне з грэч. εἰδύλλιον 'карцінка' (ад εἶδος 'вобраз') праз польск. *idylla*. Для рус., дзе ў пачатку XVIII ст. *идиллия* і *идилля,* таксама магчыма польск. пасрэдніцтва (Біржакова, Очерки, 362; Шанскі, 2, I, 13). Форма на *-ія* пад рус. уплывам.

**Ідэáл.** Запазычанне пачатку XX ст. Фанетычная форма (адсутнасць дзекання) сведчыць хутчэй аб польск. (Гіст. лекс., 261; Гіст. мовы, 2, 144), чым аб рус. пасрэдніцтве (як Крукоўскі, Уплыў, 77; Гіст. лекс., 272), але націск. Польск. *ideal* з лац. *idealis* 'ідэальны' (SWO, 295). За польск. пасрэдніцтва дзеяслова *ідэалізавáць* суф. *-аваць.*

**Ідэ́я.** З польск. мовы ў пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 261; Гіст. мовы, 2, 144). Крукоўскі (Уплыў, 77), Бурак (Суч. бел. мова, 1975, 25) мяркуюць аб рус. пасрэдніцтве, але супраць адсутнасць дзекання; параўн. *ідзéя* (Яруш.) пад рус. уплывам. Польск. *idea* < лац. *idea* < грэч. ἰδέα 'выгляд, вобраз' (SWO, 294). Для рус., дзе з апошняга дзесяцігоддзя XVII ст. (Біржакова, Очерки, 154), таксама зазначаюць польск. пасрэдніцтва. Шанскі, 2, I, 12; Фасмер, 2, 117 (ці зах.-еўрап.).

**Іерáрх** 'назва епіскапа', *іерáрхія* 'парадак падпарадкавання ніжэйшых званняў вышэйшым па строга вызначаных ступенях'. Крыніца: грэч. ἱεράρχης (ἱερός 'свяшчэнны'+ἀρχή 'улада'), адкуль суфіксальнае ўтварэнне ἱεραρχία. Шанскі, 2, I, 16. Ст.-бел. *иерархъ, иерархия* з 1601 г. (Булыка, Лекс. запазыч., 183) са ст.-рус. Няма падстаў лічыць паўторна запазычаным з рус. у XX ст. (як Крукоўскі, Уплыў, 77).

**Іерэ́й** 'назва свяшчэнніка ў праваслаўнай царкве'. Ст.-рус. *иереи* < ст.-слав. **иереи** < грэч. ἱερεύς. Фасмер, 2, 118; Шанскі, 2, I, 16. Гл. *архірэй.*

**Іж** прыслоўе 'аж', злучнік 'нават аж' (Шат.). З $i_1$ (гл.) і *жа* (гл.). Параўн. *аж.*

**Íжа** 'ежа' (Вешт., 376), смал. *íжа.* Гл. *ежа.*

**Іжóкіла** 'калючая трава' (Бяльк.). Няясна.

**Іжэ́гіні** 'прыстасаванне для сушкі снапоў' (ДАБМ, 789). *І-* пратэтычнае. Гл. *жэгіні.*

**Іжэ́ўка** 'від паляўнічай стрэльбы па месцы вырабу' (Інстр.



II). Кандэнсат двухкампанентнага словазлучэння *іжэ́ўская стрэ́льба* з суф. *-к-а.*

**Із** 'з' (Бяльк., Шат., Кліх.). Гл. *з.*

**Ізáбаль** 'сапраўды' (Касп.); параўн. рус. сіб. *изáболь, изáбыль* 'правільна, сапраўды', *изáбольшный* 'сапраўдны, непадроблены', *изáбыль* 'праўда, ісціна'. Гл. *адзабаль.*

**Ізалявáць.** Праз польск. *izolować* з франц. *isoler,* якое ўзыходзіць да вульг.-лац. *isula* < лац. *insula* 'востраў'. SWO 319; Шанскі, 2, I, 39.

**Ізбá** 'жылы драўляны будынак' (Інстр. I, 49), 'маленькая хата, жылы будынак меншага памеру' (Лекс. Палесся, 154), 'хата-чытальня' (Сцяшк. МГ). У сучаснай бел. мове выціснута словам *хата,* але ст.-бел. *изба* мела цэлы комплекс значэнняў: 'жылы будынак', 'пакой у хаце', 'кладоўка', 'памяшканне для чэлядзі і інш.' (КГС). Рус. *избá* 'драўляная сялянская хата', дыял. 'жылы будынак з аднаго пакоя (з рускай печчу)', 'частка жылля, якая ацяпляецца', 'пакой', 'гара, вышкі', 'жыллё з гліны, саману і г. д. (у адрозненне ад цагельных і драўляных дамоў)', польск. *izba* 'пакой', в.-луж. *jstwa, stwa* 'тс', н.-луж. *śpa* 'святліца, вялікі пакой', палаб. *jåzba* 'гасцiная', чэш. *jizba* 'жылое памяшканне, пакой', славац. *izba* 'тс', славен. *îzba* 'пакой', 'гара, вышкі', *jêzba* 'сталовая', серб.-харв. уст. *ȉзба* 'пакой', 'святліца', балг. *úзба* 'падвал, склеп', 'хаціна, зямлянка', макед. дыял. *изба, визба* 'склеп'. Ст.-слав. **истъба** 'пакой', ст.-рус. *истьба, изъба, изба* 'драўляны будынак', 'частка дома, пакой'. Пэўнай этымалогіі няма. У адных тлумачэннях прасл. **jьstъba* выступае як запазычанне, у другіх — як спрадвечна слав. слова. Найбольш пашырана версія аб запазычанні з герм. **stuba* (ст.-в.-ням. *stuba* 'цёплае памяшканне, лазня', ст.-ісл. *stofa, stufa* 'лазня з печчу'), але ў гэтым выпадку няма тлумачэння для пачатковага *jь-*. Гл. Міклашыч, 97; Уленбек, *AfslPh,* 15, 1893, 487; Бернекер, I, 436—438. Больш абгрунтавана Мейе (BSL, 29, 1929, 211), Махэк$_2$ (230), Трубачоў (Эт. сл., 8, 243—245), якія бачаць крыніцу запазычання ў раман. арэале; параўн. франц. *étuve,* італ. *stufa,* ісп. *estufa,* праванс. *éstuba* 'лазня, апарня' < **estūfa* (скарачэнне *ū* > *ŭ* яшчэ ў нар.-лац.). Спроба аб'яднання абедзвюх крыніц падана ў Слаўскага, I, 475—476; Etnografia polska, 1960, 351—354. Тлумачэнне слова на слав. глебе належыць Мартынаву, Лекс. взаим., 122—125: **jьstъba* 'нерухомая маёмасць, гаспадарка' < **istъ-ba* звязваецца з гняздом **istъ* (гл. *існы*). Гёрнер (ZfslPh, 32, 1965, 332) прыцягвае сюды прасл. **ьstěja/ *ěstěja* 'печ, вогнеахвярнік' і лічыць семантычную адзнаку 'ацяплення' зыходнай для слав. **jьstъba;* параўн. народна-эты-

малагічнае збліжэнне з *istopiti. Інакш Мядзведзева (Праблемы мовы і літаратуры, 1972, 103—114) выяўляе ў *jьstъba корань *stьb-, як у *сцябло, ствол*. Этнаграфічны аспект гл. А. С. Харузін, Славянское жилище, 1907. Гл. *істопка*.

**Ізба́ч** 'загадчык хаты-чытальні' (Сцяшк. МГ). Ад *ізба* (гл.) *(чытальня)* з суф. *-ач*. З рус. мовы ў сав. час. Шанскі, 2, І, 19—20.

**Ізбе́г** 'уцякач' (Нас.), параўн. рус. арханг., паўн. *избе́г воды* 'канец адліву', ст.-рус. *избѣгъ* 'уцёкі' (1340 г.), 'праход у гарах; месца, дзе можна выйсці'. Відаць, працягвае ст.-рус. *избѣгъ* — бязафіксавае ўтварэнне ад *избегати* 'ўцякаць'. Гл. *бег*. У бел. мове перанос назвы дзеяння на асобу па яе схільнасці да адпаведнага дзеяння.

**Ізве́чны** 'вечны' (Нас.). Са ст.-рус. *извѣчныи* (канец XIV ст.), утворанага ад прыслоўя *извѣку* з суф. *-ьн-* (Шанскі, 2, І, 23).

**Ізві́х** (Шн., 2, 538). Гл. *звіх*.

**Ізві́ць** 'звіць' (Шат.). Гл. *віць*$_2$.

**Ізво́знік** 'рамізнік' (Нас.), 'возчык бярвенняў і г. д.' (Касп.), рус. дыял. *изво́зник*, ст.-рус. *извозникъ, ізвоздникъ, извожникъ* 'перавозчык'. Усх.-слав. утварэнне ад *извозъ* 'перавозка' з суф. Nomina agentis *-ник*. Гл. паралельнае *ізвозчык, візнік*.

**Ізво́зчык** 'возчык, рамізнік' (Бяльк.), рус. *изво́зчик*, дыял. *изво́щик*, укр. *зво́щик*, ст.-рус. *извощикъ, извозщик* 'перавозчык, рамізнік'. Утворана ад *извозъ* 'перавозка' з суф. Nomina agentis *-чик*. Гл. Шанскі, 2, І, 25—26. Параўн. *ізвознік*.

**Ізгаро́да** 'загарадзь' (Касп.), рус. дыял. *изгоро́да* 'тс'. Працягваюць ст.-рус. *изгорода*, утворанае ад дзеяслова *изгородити* 'загарадзіць' з суф. *-а*. Шанскі, 2, І, 27. Суфіксальны дублет да *изгородь*; параўн. *загарадзь*.

***Ізгі́дзіць**, *ізгы́дыты* 'зганіць, абгаварыць' (брэсц., Нар. лексіка, 77). Ад *гідкі* (гл.).

**Ізгі́нуць** 'прапасці' (Нас., Касп.), 'быць украдзеным' (Нас.); параўн. рус. дыял. *изги́нуть* 'знікнуць, прапасці', 'згінуць', ст.-рус. *изгинути* 'згінуць, загінуць', 'адпасці, знікнуць'. Гл. *згінуць*.

**Ізго́й** 'чалавек, ад якога ўсе адхіліліся, які страціў сваё становішча ў грамадстве; адшчапенец'. Рус. *изго́й*, укр. *ізго́й*, ст.-рус. *изгои* 'чалавек, які страціў сувязь са сваім саслоўем (селянін, які адкупіўся на волю; князь, які страціў княства; купец, які разарыўся)'. Бязафіксавае ўтварэнне ад **изгоити* 'выжыць, выгнаць' з *из-* + *гоити* 'жывіць'. У сіб. гаворках



захавалася *изго́ить* са значэннямі 'паправіць, адрамантаваць, уладзіць', 'адмыць, адчысціць' і 'запэцкаць, сапсаваць', параўн. *выжыць* 'выгнаць' і 'ўцалець'. У якасці аналогіі ст.-рус. *изгои* 'выжыты з роду' ад *изгоити* 'выжыць'. Фасмер (2, 121—122) прыводзіць серб.-харв. *ѝзрод* 'вырадак' ад *изро̏дити* 'вырадзіцца', рус. *издо́й* 'жывёла, якую перасталі даіць' ад *издоить* 'выдаіць'. Гл. яшчэ Праабражэнскі, 1, 138; Шанскі, 2, І, 26—27.

**Ізгубі́ць** 'згубіць' (Шат.). *І-* пратэтычнае. Гл. *губіць*.

**Ізда́цца** (Бяльк.). *І-* мае пратэтычны характар. Гл. *здацца*.

***Ізздзе́лаць**, *іздзе́лыць* 'зрабіць' (Бяльк.). Пад рус. уплывам, прыстаўное *-і-*.

**Із'е́сці** 'з'есці' (Нас., Сцяшк. МГ). Пратэза *і-*. Гл. *есці*.

**Ізма́лку** 'змалку, з малых гадоў' (Бяльк.). Гл. *змалку*, *і-* пратэтычнае.

***Ізмарась**, *изморось* 'шэрань, іней, намаразь' (Яруш.). Відаць, са ст.-рус. **изморозь* ці пад уплывам рус. *и́зморозь*, утворанага прэфіксальна-суфіксальным шляхам, як *непагадзь*, *прысцень*, *узбалаць* і г. д. (Сцяцко, Афікс. наз., 273—274). Шанскі (2, І, 35) бачыць у ім прэфіксальнае ўтварэнне ад *морозь*. Гл. *мароз*.

**Ізмы́лішча** 'абрывісты бераг, падмыты вадой' (Касп.); параўн. рус. дыял. *измывной (песок)* 'вымыўны, які вымываецца вадой', *измывчивая (волна)* 'падмываючая бераг, вымываючая пласты' (Даль). Утворана ад дзеяслова *змыць* (*і-* мае пратэтычны характар) пры дапамозе суф. *-лішч-а*, як *мачылішча*, *мачулішча* 'месца, дзе мочаць лён', *мучылішча* 'катавальня'. Сцяцко, Афікс. наз., 50.

**Ізмэ́нчыць** 'замучыць' (Жд. 3). Пратэтычнае *і-* + *змэнчыць* (з польск. *zmęczyć*). Гл. *мэнчыць*.

**Ізнасі́цца** 'знасіцца, падрацца ад ужывання (пра адзежу)' (Бяльк.). Рус. *износи́ться*, ст.-рус. *износитися*. Параўн. *знасіцца*, *і-* можа быць пратэтычным.

**Ізне́цількі** 'раптам, нечакана, знянацку' (Бяльк.), *зьне́цiйка*, *зьняце́йку* 'тс' (Бяльк.). Рус. смал. *зне́цильку* 'тс'. Мяркулава (Этимология. 1977, 88—92) звязвае са ст.-рус. *нецевенье*, *нецевелье* 'прытомнасць' (< прасл. **pečevenьje*, **pečevelь*), якое захавалася ў пск., смал. і калуж. гаворках. Сюды ж бел. *зьнячы́вілі* 'несвядома; кулём, стрымгалоў' (Байк. і Некр., Бяльк.), *знечы́вили* (Нас.), *знячэ́йку* 'знянацку, нечакана; выпадкова, мімаволі' (ТСБМ), смал. *знечи́виле* 'несвядома, неабдумана', укр. *знече́в'я* 'нечакана, знянацку' (Грынч.), да якіх

Мяркулава прыцягвае бел. дыял. *чо́віць* 'рупіцца, дбаць'. Семантычная трансфармацыя 'непрытомнасць'→'раптам, нечакана' праз ступень 'несвядома', якую адлюстроўвае бел. *зьнячы́валі*. Аднак Мяркулава не ўлічвае існаванне форм з *-т-*: зах.-рус. *зне́тику, зне́тики* 'знянацку, раптам, нечакана', укр. *зне́тельки* 'тс' (Грынч.). Ці не сюды рус. пск., цвяр. *изне́тить* 'знішчыць, звесці; прамантачыць', пск., цвяр., арханг., паўн.-дзвін. *изне́титься* 'разбурыцца; знікнуць; знішчыцца', пск., цвяр., зах.-бранск. *зне́титься* 'збяднець, згалець; знікнуць', вяц. *изне́товать* 'страціць, зрасходаваць; звесці', маск. *из-не́ту* 'без прычыны', якія паказваюць на магчымую сувязь са ст.-рус. *нетъ?*

**Ізно́ў**, *ізну́* (гродз., Нар. лексіка, 42). *Зноў* (гл.) з прыстаўным *і-*.

**Ізра́да** 'здрада' (Нас.), *израдонька* (Булг., 195), *зра́да* (Бяльк.). Рус. зах. *зра́да*, укр. *зра́да*, ст.-рус. *израда* (1447 г.). З польск. з фанетычнымі зменамі, *і-* пратэтычнае. Гл. *здрада*.

**Ізра́на** 'рана', 'раней часу' (Нас.). Рус. дыял. *изра́на*, ст.-рус. *изра́нья* 'рана, з самага ранку'. *І-* можна тлумачыць як пратэзу; параўн. *зранку, зрання*. Аднак не выключана, што бел. слова ўзыходзіць да ст.-рус. *изранья*, зафіксаванага з XIII ст.

**Ізрэ́б'е** 'валакно, якое засталося пасля ачоскі льну', 'палатно з гэтага валакна' (Касп.). Рус. дыял. *изгре́бье, изгре́б, изгреба* са шматлікімі суфіксальнымі варыянтамі 'ачоскі льну; валакно льну з аноскаў', 'палатно з ільняных ачоскаў', *изгре́бовать* 'часаць лён упершыню' (наўг.), укр. *згрі́б'я, б'я* 'пакулле, ачоскі' (Грынч.), ст.-рус. *изгреби, изгребие* (XIII ст.) 'пакулле, ачоскі льну, канапель', 'грубыя адходы льну і канапель'. Ад ст.-рус. *изгребие* — прэфіксальна-суфіксальнага наз. з коранем *-греб-* (гл. *грэбці*) са стратай *-г-* у кансанантнай групе. Гл. *зрэб'е*.

**Ізумруд**. Першакрыніца: грэч. σμάραγδος. У ст.-бел. *шмарагдъ, шмаракгдъ* (1518 г.) < ст.-польск. *szmaragd* (Булыка, Лекс. запазыч., 141; Гіст. лекс., 94). Ст.-бел. *смарагдъ, змарагдъ, измарагдъ* < ст.-рус. *смарагдъ, змарагдъ, измарагдъ* (Булыка, там жа). *Ізумруд* нясе адбітак цюрк. пасрэдніцтва: ст.-рус. *изумрудъ* < тур. *zümrüd* < перс.-араб. *zumurrud* < < з грэч. Гл. Праабражэнскі, 1, 226; Фасмер, 2, 123—124; Шанскі, 2, І, 44.

**Ізюбр** 'млекакормячая жывёліна сямейства аленевых; разнавіднасць марала' (ТСБМ). Рус. *изю́бр*, укр. *ізю́бр*. Ст.-рус. *изубръ, изубрь* вядома з XVII ст., вытворнае *изубрина* 'мяса ізюбра' — з 1495 г. Слова не мае пэўнай этымалогіі. Фасмер (2, 124) лічыць роднасным *зубр* (параўн. асабліва ст.-рус. *изубръ*), але гэтае тлумачэнне выклікае цяжкасці фанетычнага і семантычнага характару. Гл. яшчэ Шанскі, 2, І, 45.



**Ік**$_1$ прысл. (Бяльк., Шат.), смал. *ик*. Гл. *як*.

**Ік**$_2$ прым. (Шат., Жд. II), зах.-бранск. *ик*. Пратэтычнае *і-*. Гл. *к*.

**Ік**$_3$ 'пра іканне' (мсцісл., Нар. лексіка, 176). Ад *ікаць* (гл.).

**Іка́віца** 'ікаўка' (Мат. Гом.). Балг. *ика́вица*, макед. *икавица*. Прасл. утварэнне з суф. *-vica* ад **jьkati* (гл. *ікаць*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 216. Параўн. *ікаўка, ікотка*.

**Ікаво́** 'якое' (Бяльк.), 'як?' (Нас.), смал. *иково́, икова́* 'тс'. *Як* (гл.) + *ав-о*.

**Ікано́м** 'кіраўнік маёнтка', 'аканом у кляштары', 'ашчадны гаспадар' (Нас.), *ікано́мія* 'гаспода, панскі двор' (Бяльк.), ст.-бел. *икономъ, иконома* 'эканом, загадчык гаспадаркі'. Формы з пачатковым *і-*, відаць, са ст.-рус. *икономъ, икономия* (XI—XII стст.) < грэч. οἰκονόμος, οἰκονομία. Гл. Фасмер, 2, 125. Няма падстаў прыцягваць польск. *ekonom* для тлумачэння ст.-бел. *икономъ*, як Булыка, Запазыч. Гл. *аканом*.

**Ікатні́к** 'гарліца' (Мат. Гом.). Утворана суфіксам *-ік* ад прыметніка **ікатны*, як іншыя назвы зёлак паводле іх прызначэння: *сардэчнік, нырачнік* (Сцяцко, Афікс. наз., 106). Па народнаму павер'ю, гэта расліна лечыць іканне; параўн. рус. арханг. *ико́тник* 'трава, якой лечацца ад нервовага істэрычнага захворвання — ікаўкі', укр. *икавка* 'расліна Berteroa incana' (Грынч.). Семантычная мадэль «назва расліны па хваробе, якую яна лечыць» сустракаецца даволі часта.

**Іка́ўка** (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Гарэц., Мал., Грыг.), *і́калка* (Мат. Гом.). Рус. зах.-бранск. *ика́лка*, укр. *ікавка, гикавка*, польск. *ikawka*, в.-луж. *hikawka*, серб.-харв. *ѝкавка*. Ад **jьkati* (гл. *ікаць*) з суф. *-ъka* ў прасл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 216. Параўн. *ікавіца, ікотка*.

**Іка́ць**. Рус. *ика́ть*, укр. *іка́ти, гика́ти*, польск. дыял. *ikać*, в.-луж. *hikać*, н.-луж. *hikaś* 'глытаць, адрыгваць', чэш. *jíkati* 'ікаць, заікацца', славац. дыял. *ikat'* 'заікацца', славен *hîkati, îkati* 'рыдаць', серб.-харв. *ѝцати се*, балг. *и́кам*, макед. *ика*. Прасл. **jьkati* гукапераймальнага паходжання. Праабражэнскі, 1, 263; Фасмер, 2, 124—125; Трубачоў, Эт. сл., 8, 215—216. Гл. *ікавіца, ікаўка, ікотка*.

**Ікза́га** 'металічная барана' (петрык., Выг. дыс.). Ці не звязана з *зігзаг* (гл.)? Няясна.

**Іко́л**, *ікла́*, мн. *і́клы* 'клык' (ТСБМ, Шатэр., Сцяшк. МГ, Мат.

Гом., Інстр. II), *ікла* (Янк. II), *ікло, ікол* 'звярыны клык' (Дразд.), *ікол*, мн. *іклэ́* 'кутні зуб' (Сцяшк. МГ). Рус. *клык*, дыял. кур. *úклы* 'іклы', 'шпоры ў пеўня', укр. *ікло*, польск. *kieł*, н.-луж. *keł*, палаб. мн. *klâi̯*, чэш., славац. *kel*, славен. *kel*, серб.-харв. *кȁљак, кȁљац*, Ст.-рус. *клык, клы* 'іклы, зубы ў каня, па якіх вызначаюць яго ўзрост' (XVII ст.). Ст.-бел. *келъ* (1516 г.) са ст.-польск. *kieł* (Булыка, Лекс. запазыч., 142). Бліжэйшыя адпаведнасці: літ. *kùlti*, лат. *kul̃t* 'біць, малаціць'. Прасл. **kъlъ* ад **kolti* (гл. *калоць*), зыходнае значэнне 'колючы, раздзіраючы'. Бернекер, 1, 660—661; Праабражэнскі, 1, 318; Брукнер, 227; Фасмер, 2, 255—256; Слаўскі, 2, 142—143. Семантычная трансфармацыя, як у слав. **zǫbъ* — **zęti* 'разрываць', ням. *Hauer, Hauzahn* 'клык' — *hauen* 'рубіць, біць, сячы' (Слаўскі, там жа). Інача́й Махэк$_2$ (248—249): *kel*$_1$ 'ікол' і *kel*$_2$ 'расток' звязвае з **kъlěti(sę)* 'прабіцца (на свет)'.

**Іко́на**. Ст.-рус. *икона* < ст.-слав. **икона** < с.-грэч. εἰκόνα ад ст.-грэч. εἰκών 'малюнак, абраз, падабенства'. Фасмер, 2, 125; Шанскі, 2, I, 46.

**Іко́тка** (Нас., Касп., Мат. Гом.). Рус. *ико́тка*, дыял. смал., пск. *ико́тка*. Утварэнне з суф. *-k-a* ад **jьkota*, якое Трубачоў (Эт. сл., 8, 216—217) лічыць прасл. вытворным ад **jьkati* (гл. *ікаць*) + суф. *-ota*. Параўн. *ікавіца, ікаўка*.

**Ікра́**$_1$ (рыбная). Рус. *икра́*, укр. *ікра́*, польск. *ikra*, в.-луж. *jikra, jikrno, jerk*, н.-луж. *jark*, палаб. *jåkră*, чэш. *jikry*, славац. *ikry*, славен. *íkra*, серб.-харв. *ȉкра*, балг. *úкра*, макед. *икра*, ст.-слав., ст.-рус. *икра*. Мае дакладныя паралелі ў літ. *ìkrai*, лат. *ikri*, ірл. *iuchair, iuchrach* (з **ikōr*) 'ікра'. Балт. формы, магчыма, са слав. (Трубачоў, Эт. сл., 8, 219). Згодна з найбольш прынятай версіяй, прасл. **jьkra* роднаснае і.-е. назвам печані: літ. *jãknos, jẽknos*, лат. *aknas*, ст.-інд. *yákṛt, yaknás*, авест. *yākarə*, грэч. ἧπαρ, ἥπατος, лац. *iecur, iecinoris*. Старая аснова на *-r/-n* і.-е. **i̯ekᵘ-*. Патабня, РФВ, 6, 1881, 153; Фасмер, 2, 125; Покарны, I, 504; Трубачоў, Эт. сл., 8, 217—220 (з літ-рай).

**Ікра́**$_2$ 'галёнка' (леп., навагр., крыч., узд., КЭС), *ікра* (Інстр. I), толькі мн. *ікры* (Мат. Гом.). Рус. *икра́*, укр. *ікра́* 'кароўе вымя' (Грынч.), польск. дыял. *ikro*, чэш. дыял. *ikro*, славац. дыял. *ikra, ikro*, славен. *ikrna noga*, балг. *úкра*, макед. дыял. *икра*. У якасці адпаведнасцей прыводзяць ст.-літ. *ikru*, усх.-літ. *ìkrai*, лат. *ikri*, ст.-прус. *yccroy*, ірл. *orca?* Найбольш верагоднай належыць прызнаць этымалагічную сувязь *ікра*$_1$ і *ікра*$_2$. Фасмер, 2, 125—126. Брукнер (190) і Слаўскі (1, 447—448) зыходнай лічаць семантычную адзнаку 'набуханне, уздутасці'; параўн. ст.-польск. і дыял. *kra* 'пухліна'; Трубачоў, Эт. сл., 8, 217—220; Безлай, 1, 209. У шмат якіх мовах значэнні 'ікра рыбы' і 'лытка' перадаюцца адной лексемай; гл. Каліма, *ZfslPh*, 9, 1932, 376—378. У гэтым метанімічным пераносе, відаць, можна бачыць семасіялагічную заканамернасць. Не здаецца пераканаўчым збліжэнне з грэч. ἴκριον 'дошка, бэлька' (Беценбергер, ВВ, 27, 1902, 162; Голуб — Копечны, 154; БЕР, 2, 63) і лац. *ocrea* 'галёнка, халява' (Гараеў, 122; Махэк$_2$, 226—227).



**Ікра́з** (Нас., Бяльк.). Гл. *якраз*.

**Ікра́к** 'селядзец з ікрой' (Бяс., 308). Польск. *ikrzak* 'рыба з ікрой'. Утворана ад *ікраны* (гл. *ікра*$_1$) суфіксам *-ак*, параўн. *ікрач*.

***Ікра́нік**, *ікрянік* 'мускулісты, ікрысты, з вялікімі ікрамі' (Бяльк.); параўн. рус. перм. *икря́ник* 'таўстун, здаравяка'. Ад *ікра*$_2$ (гл.) + суф. *-нік* ці ад **ікраны* 'мускулісты, з вялікімі ікрамі' з суф. *-ік*.

**Ікра́ч** 'ікра рыбы' (навагр., Жыв. сл., 11). Відаць, 'рыба з ікрой'; параўн. в.-луж. *jikrnač* 'самка рыбы', чэш. *jikrnáč, jikernáč* 'рыба з ікрой', славац. *ikráč, ikernáč*, серб.-харв. *ӣкрāш* 'тс'. Вытворнае ад *ікраны* (гл. *ікра*$_1$) з суф. *-ач*, як *рагач* 'алень', *барадач* 'казёл', *вусач* 'від рыбы' (Сцяцко, Афікс. наз., 96). Параўн. *ікрак*.

**Ікура́т** (Нас.). Гл. *акурат*.

**Іл**$_1$ 'адкладанні найдрабнейшых часцінак мінеральных і арганічных рэчываў на дне вадаёмаў' (ТСБМ). Рус. *ил* 'тс', дыял. церск., уладз. 'гліна', дан. 'топкая балотная гразь', урал. 'вельмі мелкі наждак, падобны на рачны ці азёрны іл', польск. *ił* 'гліна', в.-луж. *jił* 'гліна, гразь', чэш. *jíl* 'гліна', славац. *íl* 'тс', славен. *íl* 'іл, гліна', серб.-харв. уст. *ȉl* 'гліна' (XVI ст.), балг. *ил* 'іл, ціна', ст.-слав., ст.-рус. *илъ* 'гліна, іл'. Прасл. **jьlъ* (старая *ŭ-* аснова, параўн. ст.-бел. *иловатыи*, рус. дыял. *илова́й* 'мелкая і балоцістая затока', 'балота, багна', славен. *ílovica* 'гліна, суглінак', серб.-харв. *ȉловача* 'гліна', балг. *иловица* 'багністая глеба', макед. *иловица* 'гліна') звязваюць з лат. *ils* 'вельмі цёмны', грэч. ἰλύς, р. скл. -ύος 'іл, ціна, гразь' < і.-е. **ilu-*. Гл. Бернекер, 1, 424; Фасмер, 2, 126; Покарны, I, 499; Безлай, 1, 209; Трубачоў, Эт. сл., 8, 221—222, дзе іншая літ-ра.

**Іл**$_2$ 'крухмал' (віц., полац., Нар. сл., 94, 198). Семантычны перанос паводле спосабу прыгатавання, калі крухмал адкладваецца падобна ілу; параўн. рус. смал. *ил* 'бульбяны крухмал', калін. 'хлебны іл, хлебная гушча, якая застаецца пасля варкі піва'.

**Іла́га** 'яловы лес, ельнік' (в.-дзвін., Нар. сл., 146). Ад *ель* (гл.) з нерэгулярным суф. *-аг-а*. Гл. Сцяцко, Афікс. наз., 207.

13. Зак. 2801

**Ілга́ць** 'гаварыць няпраўду; выдумваць, хлусіць' (ТСБМ), *іўга́ць* (Бяльк.). Рус. *лгать*, зах.-рус. *илга́ть*, польск. *łgać*, в.-луж. *łhać*, н.-луж. *łdhaś*, *łgaś*, палаб. *lâzĕs*, чэш. *lháti*, славац. *lhat'*, славен. *lagati*, серб.-харв. *ла̀гати*, балг. *лъжа*, макед. *лаже*. Ст.-слав., ст.-рус. *лъгати*, ст.-бел. *илгати*, *лгати*. *І*- мае пратэтычны характар (Карскі, 1, 262). Прасл. **lъgati*, **lъžǫ* мае дакладныя адпаведнікі ў герм. мовах: гоц. *liugan* 'ілгаць', ст.-в.-ням. *liogan* 'тс', *lugî* 'хлусня' < і.-е. **leugh-*. Гл. Покарны, I, 686—687; Бернекер, 1, 751; Фасмер, 2, 469; Слаўскі, 5, 119—122. Іншыя і.-е. паралелі выклікаюць сумненні: ст.-літ. *łúginaitė* 'здрадніцкі' (Атрэмбскі, LP, 1, 138), літ. *lūgóti* 'прасіць', лат. *lùgt* 'тс' (Мюленбах — Эндзелін, 2, 517—518; Покарны, I, 686—687). Гл. *ілгун*, *ілжа*, *ілжэц*.

**Ілгу́н**, *ілгу́ння* 'няпраўдзівы чалавек, выдумшчык, хлус' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Нас., Яруш.). Рус. *лгун*. Утворана ад *ілгаць* (гл.) з суф. *-ун* паводле мадэлі *маўкун*, *гаварун*, *вяртун*, *ядун* і г. д. (Сцяцко, Афікс. наз., 68). Параўн. *ілжэц*.

**Ілжа́** 'няпраўда, выдумка, хлусня' (ТСБМ). Рус. *ложь*, укр. *лжа*, польск. *łeż*, уст. і дыял. *łga*, в.-луж. *łža*, н.-луж. *łdža*, чэш., славац. *lež*, славен. *laž*, серб.-харв. *ла̑ж*, балг. *лъжа́*, макед. *лага*, ст.-слав., ст.-рус. *лъжь*, *лъжа*, ст.-бел. *лож*, *лжя*. *І*- мае пратэтычны характар. Прасл. **lъgja* ўтворана ад дзеяслова **lъgati* (гл. *ілгаць*) з суф. *-j-a*.

**Ілжэ́ц** 'ілгун' (Грыг.). Рус. *лжец*, укр. *лжець*. Улічваючы адзінкавасць бел. прыкладу, можна меркаваць аб уплыве рус. *лжец*, утворанага ад *ложь* (гл. *ілжа*) суфіксам *-ец*; параўн. *ілгун*.

**Іліі́ць** 'ухіляцца, рабіць выкруты; круціцца, быць неспакойным; моцна дамагацца, настойваць' (Нас.), 'круціцца' (Гарэц.). Рус. *юли́ть*, дан. *и́лить* 'падаваць мяч у гульні'. Найбольш верагодна этымалагічная сувязь з *віць* (гл.); параўн. *віліць*, *вілядь*. Не выключана таксама магчымасць супастаўлення з *вір*₁, *вірыць* (гл.). Іншыя тлумачэнні слова *юлить* у рус. мове выклікаюць пярэчанні фармальнага і семантычнага характару; гл. крытычныя заўвагі Фасмера (4, 529—530). Гл. *ілка*.

**І́лка** 'лапта, дзіцячая гульня з мячом', 'палка, якой б'юць мяч у гульні ў лапту' (Бяльк.; Рам., 8, 576). Ад *іліць* (гл.) з суф. *-к-а*, які характарызуе прадмет паводле яго прызначэння.

**Ілкну́ць** 'глынуць' (Нас.). Пратэза *і-*. Гл. *лыкаць*.

**Іллёў воз** 'сузор'е Вялікай Мядзведзіцы' (Касп.). Ад *Ілья* *(грамавержац)* + *воз* (гл.).

**Іллі́ барада́** 'нязжаты касмык жыта, які пакідалі на полі' (Інстр. II). У рускіх вядома абазначэнне апошняй жмені каласоў *«Волосу на бородку»*, у сербаў *божја брада* (Б. А. Рыбакоў, Язычество древних славян, 1981, 425). Рэлікт старога язычніцкага абраду, дзе імя Ілья сведчыць аб больш познім хрысціянскім напластаванні. З *Ілья* і *барада* (гл.); параўн. *лібарада*.



**Іллі́нка** 'грушавае дрэва, плады якога паспяваюць к Ільіну дню, 20 ліпеня' (Нас.); параўн. рус. бранск. *ильи́нка* 'гатунак груш, паспяваючых к Ільіну дню', серб.-харв. *ѝлӣњача* 'грушы і яблыкі, якія паспяваюць к Ільіну дню', балг. *или́нкы* 'тс'. Утворана сцяжэннем словазлучэння *Іллін дзень* з суф. *-к-а*, які шырока выкарыстоўваецца ў назвах гатункаў яблык і груш *(антонаўка*, *віноўка*, *цукроўка* і г. д.).

**Ілля́к** 'лівень' (Жд. 2). Відаць, кантамінацыя імя *Ілья* з дзеясловам *ліць* (гл.); параўн., з аднаго боку, формы *іллю* (Нас.), зах.-бранск. *иллить* 'ліць', з другога, народныя ўяўленні аб залішняй вільгаці на *Ільін дзень (прыдзе Ілья, прынясе гніл-ля)*. Утварэнне з суф. *-як* па ўзору *імжак*, *буяк* 'моцны вецер', *мігак* 'маланка' (Сцяцко, Афікс. наз., 24).

**Ілу́ха** 'зацірка на малацэ з крухмалу і яец' (полац., Нар. сл., 198). Вытворнае ад *іл*₂ (гл.) з суф. *-ух-а*, прадуктыўным у гаворках у назвах яды і пітва; параўн. *цяртуха*, *сівуха*, *аржануха* і да т. п.

**Ільві́ца**. Фемінатыў з суф. *-іц-а* да *леў* (гл.), *і-* пратэтычнае.

**Ільвяня́**, *ільвянё*. Ад *леў* (гл.) + суф. *-ян-я* *(-ян-ё)* з пратэзай *і-*. Агульнабел. тып для ўтварэння назоўнікаў, якія абазначаюць дзіцянят жывёл і птушак.

**Ільга́**, *льга* 'можна, магчыма' (ТСБМ, Мал., Гарэц.), *льга* 'магчымасць, ільгота' (Нас.). Рус. дыял. *льга* 'лёгкасць, абляг-чэнне; ільгота', 'магчыма', пск. *ильзя́* 'магчыма', чэш. *lze* 'можна', славац. уст. *l'za*, *l'zā* 'можна, магчыма', ст.-слав. **льза** 'магчымасць', **льзѣ** 'можна', ст.-рус. *льзѣ*, *льзя* 'магчыма', *льга* 'карысць'; параўн. яшчэ ўкр. *пільга* 'льгота', польск. *ulga* 'аблягчэнне; ільгота'. Вельмі шырока ўжываецца з адмоўем: бел. *не́льга*, рус. *нельзя́* і г. д. Утворана ад кораня *lьg-* (параўн. *лёгкі*, *ільгота*) з пратэзай *і-*. Першапачатковае значэнне прасл. **lьga*, відаць, 'лёгкасць, магчымасць'. Гл. Бернекер, 1, 753; Брукнер, 304; Махэк₂, 346; Фасмер, 2, 543; Слаўскі, 4, 85—87 (з літ-рай).

**Ільго́та**, *льго́та* 'палёгка ў выкананні якіх-н. абавязкаў' (ТСБМ). Рус. *льго́та* 'тс', дыял. *ильго́та*, *лего́та* 'лёгкасць', 'ільгота', 'вызваленне, свабода', укр. *ві́льгота* 'прыволле, ільгота', ст.-рус. *льгота* 'аблягчэнне, вызваленне', 'зручнасць, здаво-

ленне', 'ільгота'. Пратэтычнае *і-*. Утворана ад кораня *льг-* з суф. *-ота* ў ст.-рус. Фасмер, 2, 543; КЭСРЯ, 250. Гл. *лёгкі, ільга, вільгота₂*.

**Ільдзіна** 'кавалак, глыба лёду; крыга' (ТСБМ, Інстр. I). Ад *лёд* (гл.) з суф. адзінкавасці *-ін-а, і-* пратэтычнае.

**Ілька** 'драпежны пушны звярок сямейства куніцавых' (ТСБМ). Рус. *илька*, укр. *ілька*. Запазычанне з н.-ням. *ilk* 'тхор', с.-н.-ням. *ilke, illike* (Фасмер, 2, 127) праз рус. мову.

**Ільма́** 'вялікае лісцевае дрэва з каштоўнай драўніҷай' (ТСБМ), *ільма́к* (Бяльк., Кіс.), *ільм* (Інстр. II), *ільміна* (Грыг.); параўн. тапонім *Ільмовікі* (міёр., Жучкевіч, Слов.). Рус. *ильм*, дыял. *и́лем, ильми́на*, укр. *ільм, ільма, льом*, польск. *ilm, ilma*, н.-луж. *lom, ẃelm, welm*, палаб. *jēlmă*, чэш. *jilm, jilma*, ст.-рус. *ильм, илемъ, ильма*. Параўноўваюць з лац. *ulmus*, ст.-в.-ням. *elmboum*, с.-в.-ням. *ilme*, ст.-ісл. *almr*, англ. *elm* (Фасмер, 2, 126—127; Шанскі, 2, I, 52). Трубачоў (Эт. сл., 8, 222—223) узводзіць прасл. **jьlьmъ* да і.-е **u̯el-/*ŭl-/*u̯l̥-* 'рваць, драць' з суф. *-mo-*. Разам з тым існуе думка аб запазычаным характары слав. слова (са ст.-в.-ням. ці с.-в.-ням.), гл. Міклашыч, 95; Уленбек, AfslPh, 15, 1893, 487; Бернекер, 1, 424—425; Праабражэнскі, 1, 268; Махэк₂, 227; Машынскі, Pierw., 288. Бел. *ільма, ільм*, відаць, працягваюць ст.-рус. формы. Утварэнне з суф. *-ак* уласна бел.

**Ільнішча** 'поле, з якога сабралі лён або на якім папярэдняй культурай быў лён' (ТСБМ, Мат., Юрч., Мат. Гом., Янк. II); параўн. рус. дыял. *льни́ще, ильни́ще*, укр. *льони́ще*, польск. *lnisko*, в.-луж. *lenišćo*, чэш. *lniště*, дыял. *leniště*, славен. *laníšče*, серб.-харв. *ла̀ниште*, балг. *лёнище*, макед. *лениште*. Агульнаслав. арэал пашырэння дазваляе меркаваць аб прасл. утварэнні з суф. *-išče* ад **lьnъ* (гл. *лён*); параўн. *ільнянішча*.

**Ільну́ць** 'гарнуцца, ліпнуць' (Нас., Касп.), 'аказваць прыхільнасць' (Нас.). Карскі (1, 262) адзначае ненародны характар слова. Рус. *льнуть*, смал. *ильна́ти, ильну́ть*, укр. *линути*, чэш. *lnouti*, славац. *l'núť*, серб.-харв. *при̏днути*. Ст.-слав. **прильнѫти**, ст.-рус. *льнути*. Пратэза *і-*. Ступень чаргавання да *ліпнуць* (гл.): прасл. **lьpnǫti* са спрашчэннем *pn* > *n*, Бернекер, 1, 754; Праабражэнскі, 1, 455—456; Махэк₂, 337—338; Фасмер, 2, 543.

**Ільня́ненне** 'трава, якая застаецца на льняным полі пасля таго, як выберуць лён' (Жд. 2). Кандэнсат састаўной назвы *ільняное поле* з суф. *-енн-е*, як *макавенне, гуркавенне* і г. д.

**Ільня́нішча** 'поле, з якога сабралі лён або на якім папярэдняй культурай быў лён' (ТСБМ, Мат. Гом., Жыв. сл., 149, любан.), *ільля́нішча* (полац., Нар. лексіка, 140); параўн. рус. дыял. *илля́нище, льня́нище*. Утворана сцяжэннем атрыбутыўнай канструкцыі *ільняное поле* з суф. *-ішч-а* па ўзору *канаплянішча, жытнішча, бульбянішча*.



**Ільслі́вы**, *ільслівасць* (Др.-Падб., Гарэц.) у выніку метатэзы з *лісліві* (гл.).

**Ільсні́цца**, *льсні́цца* 'блішчаць, адсвечваць (пра гладкую паверхню)' (ТСБМ). Рус. *лосни́ться*, укр. *лисні́ти, лисни́тися*, дыял. *лі́скати*, польск. *łyskać*, ст.-чэш. *lščieti sě*, чэш. *lesknouti se*, славац. *lesknúť sa*, славен. *lesketati se*, серб.-харв. *љѐскати се*, балг. *лъщя́*, макед. дыял. *лашти*. Ст.-слав. **льштати сѧ**, ст.-рус. *льщатися*, ст.-бел. *ильснутися* (Скарына). З прасл. **lьsknǫti (sę)*, суадноснага з **lьskěti (sę)*, *і-* пратэтычнае. Прасл. **lьsk-* < **lъsk-* (відаць, у выніку кантамінацыі з *blьsk-*) звязваецца з іншымі абазначэннямі святла, якія ўзыходзяць да і.-е. **leuk-/*louk-*; параўн. *луч, луна*. Праабражэнскі, 1, 470; Фасмер, 2, 521; Махэк₂, 327.

**Ільха́** (Ліс.). Гл. *вольха*.

**Ільцы́** (Касп.). Фанетычны варыянт *лейцы* (гл.).

**Ілю́зія**. Першакрыніца: лац. *illusio* 'іронія, насмешка'. У бел. мову слова магло трапіць як праз польск., так і праз рус. мову (Крукоўскі, Уплыў, 77). Для рус., дзе з сярэдзіны XIX ст., Фасмер (2, 127) таксама меркаваў аб польск. пасрэдніцтве; супраць Шанскі (2, I, 49—50), які называе франц. крыніцу.

**Ілюміна́цыя**, *ілюмінава́ць*, ст.-бел. *иллуминованый* (1619 г.), *иллюминовати* 'высвятляць' (1697 г.). З лац. *illuminatio* 'асвятленне', *illuminare* 'рабіць светлым, асвятляць' праз польск. *iluminacja, iluminować* (Булыка, Запазыч.; SWO, 297). Рус. пасрэдніцтва (Крукоўскі, Уплыў, 77) верагодна для сучаснага значэння 'святочнае асвятленне'. У рус. мове *иллюмина́ция* з пачатку XVIII ст. з польскай ці заходнееўрапейскіх моў (Біржакова, Очерки, 362; Шанскі, 2, I, 50; Фасмер, 2, 127); для дзеяслова *иллюминировать (иллуминовать)* магчыма ўкраінска-беларускае пасрэдніцтва (Шанскі, 2, I, 51).

**Ілюстра́тар**. Ст.-бел. *иллюстраторъ, олюстраторъ* 'рэвізор' (1710 г.) запазычана з лацінскага праз польскае пасрэдніцтва (Булыка, Лекс. запазыч., 23) ці непасрэдна (Булыка, Запазыч.). Сучасная семантычная структура сфарміравалася, відаць, пад уплывам рускай мовы, для якой адпаведную ролю адыгралі нямецкая ці французская. Крыніца: лац. *illustrator* 'той, хто асвятляе'. Дзеяслоў *ілюстрава́ць* з лац. *illustrare* 'асвятляць, упрыгожваць' праз польск. *ilustrować*. Тым жа

шляхам *ілюстрацыя* з лац. *illustratio* 'выява, жывое апісанне'. Гл. SWO, 297—298; Фасмер, 2, 127; Шанскі, 2, I, 51—52.

**Імаве́рны** 'праўдападобны, магчымы, верагодны', *імаве́рнасць* (ТСБМ, Гарэц.). Рус. дыял. *имове́рный, имове́рность, имове́рие* 'тс', укр. *імові́рний* 'магчымы', уст. 'даверлівы', *імові́рність*. Ст.-рус. *имовѣрный* 'пэўны, верагодны', *имовѣрство, имовѣрие*, першая фіксацыя ў Кнігах Законных... XII—XIII стст. (спіс XV ст.). Ст.-слав., ст.-рус. *имати вѣроу* з'яўляецца ў евангеллях для перадачы грэч. πιστεύειν. Беларуская лексема генетычна звязана са ст.-рус. *имовѣрный*, словаўтваральнай калькай грэч. εὔπιστος; параўн. аналагічную структуру ст.-рус. *достоиновѣрный* < ст.-слав. **достоиновѣрьнъ,** калька грэч. ἀξιόπιστος (Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 174).

**І́масць** уст. 'форма ветлівага звароту' (ТСБМ, БРС, Гарэц.), іран. 'пра жонку блізка знаёмага субяседніка' (ТСБМ), 'важная асоба' (Марц.), *імо́сценька* 'ваша міласць' (Касп.). Сюды ж *імо́стачка* 'галубка, сястрычка' (Некр., 223) як форма ветлівага звароту з суф. *-ачк-а*. Запазычанне з польск. *imość* < < *jejmość* < *jej miłość* 'яе міласць' (Слаўскі, 1, 452); параўн. *ягомасць*. *Імысь* 'пападдзя' (Оч. В. Бел., 1893, 152) — далейшая ступень скарачэння з канкрэтызацыяй семантыкі.

**Іма́ць** 'браць, прымаць', 'мець' (Байк. і Некр.), 'браць, хапаць', 'біць', 'мець' (Нас.), 'браць, мець, перахапіць' (Др.-Падб.), 'браць, мець, разумець' (Гарэц.), *імя́ць* 'браць' (Касп.), *іма́цца* 'брацца', 'разумець' (Нас.). Рус. дыял. *има́ть* 'браць', 'лавіць, хапаць', 'уладаць, мець', 'мець намер, жаданне рабіць што-н.; хацець'; укр. *іма́ти* 'браць, узяць, злавіць, хапаць, схапіць' (Грынч.), польск. уст. *imać* 'браць, хапаць', в.-луж. *jimać* 'чапаць, хапаць', н.-луж. *jimaś* 'браць, хапаць', палаб. *jaimăt* 'хапаць, лавіць', чэш. *jímati* 'браць, хапаць', славац. *jímat'* 'мець', серб.-харв. *ѝмати* 'тс', балг. *и́мам* 'тс', макед. *има* 'тс'. Ст.-слав. **имати** 'хапаць, схопліваць, лавіць, збіраць', ст.-рус. *имати* 'браць, збіраць, здабываць, захопліваць', ст.-бел. *имати* 'мець; браць; лічыць, прымаць' (Скарына). Ступень чаргавання да *мець* (гл.). Прасл. ітэратыў **jьmati (sę)* утвораны ад **ęti*, **jьmǫ* (параўн. *няць, узяць*), якое ўзыходзіць да і.-е. **em-*; параўн. літ. *im̃ti, im̃ti*, лат. *jęmu, jem̃t*, ст.-прус. *īmt*, лац. *emō, emere* з тоеснай семантыкай; гл. Бернекер, 1, 425; Фасмер, 2, 128; Слаўскі, 1, 450—451; Трубачоў, Эт. сл., 6, 71; 8, 224—225; Тапароў, 3, 47—49. У апазіцыі **ęti*- — **jьmati* бачаць адбітак семантычнага супрацьпастаўлення стану ('мець, уладаць') і актыўнага дзеяння ('браць, захопліваць'); гл. Шанскі, 2, I, 54; Скок, 1, 716 і Безлай, 1, 210, дзе семантычныя паралелі.



**Імбі́р** 'трапічная травяністая расліна з мясістым коранем, багатым на эфірны алей' (ТСБМ), *інбе́р* (Бяльк.). Ст.-бел. *имберъ (имбаръ, имбиръ, инберъ, инкберъ)* 1498 г. < ст.-польск. *imbier, inbir, ingbier* < с.-в.-ням. *ingebër, ingewër, imbër* < лац. *zingiber* < с.-грэч. ζυγγίβερις < ст.-інд. *śṛṅgaveram* (літаральна 'рогападобны'); гл. Булыка, Лекс. запазыч., 150; Слаўскі, 1, 451. Для рус. *имби́рь, инби́рь*, укр. *імби́р* таксама пасрэднік польская мова (Праабражэнскі, 1, 271; Фасмер, 2, 129); з польск. і літ. *im̃bieras* (Скарджус, *Slav.*, 84).

**Імбры́чак** 'чайнік для заваркі чаю' (ТСБМ, БРС, Бяльк., Арх. Бяльк., Сцяшк. МГ, Касп., Мат. Гом., Гарэц., Інстр. I; В. В., 114), *індры́чак* (гом., Нар. слова, 160). З польск. памянш. *imbryczek* 'чайнік' (літ. *im̃brikas*, укр. *імбрик* < польск. *imbryk*); у польскую мову слова трапіла з тур. *ibrik*, адкуль таксама серб.-харв. *ѝбрӣк* 'збан для вады', балг. *ибри́к* 'збан для ўмывання', макед. *ибрик* 'збан'; тур. *ibrik* < перс. *ābrīz* (з *āb* 'вада' і *rithen* 'ліць'). Гэта пасудзіна мела першапачатково рытуальнае значэнне ў мусульманскім рэлігійным абрадзе, гл. Слаўскі, 1, 452; Скок, 1, 704; БЕР, 2, 2.

**Імгла́** 'дробны дождж, імжа', 'туман, смуга' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк. МГ, Яруш, Інстр. I), *імла́* (Кліх., Сцяшк. МГ, Мат. Гродз.); параўн. зах.-бранск., смал. *имгла́* 'тс'. Рус. *мгла*, укр. *мла, імла́*, польск. *mgła*, в.-луж., н.-луж. *mła*, палаб. *mâglă*, чэш. *mlha*, уст. і дыял. *mhla*, славац. *hmla*, славен. *megla*, серб.-харв. *мàгла*, балг. *мъгла́*, макед. *магла*, ст.-слав., ст.-рус. *мьгла* — усе са значэннем 'туман, смуга'. Прасл. **mьgla* ўзыходзіць да і.-е. **meigh-* 'станавіцца цёмным' (параўн. *міг*) з фармантам *-l-* (гл. Мейе, *Études*, 418); параўн. генетычна роднасныя літ. *miglà*, лат. *migla*, грэч. ὀμίχλη, алб. *mjégullë* 'туман', нідэрл. *miggelen* 'імжэць', ст.-інд. *mih-* 'дождж', *mēghás* 'воблака', авест. *maēγa-* 'тс', перс. *mēγ-* 'тс', арм. *mēg* 'туман', англа-сакс. *mist* 'тс'. Гл. Покарны, I, 712; Праабражэнскі, 1, 518; Фасмер, 2, 587—588; Махэк$_2$, 368; Скок, 2, 353. Беларуская лексема з пратэтычным *і-*; форма *імла* са спрашчэннем кансанантнай групы. Гл. *імгліць, імжа*$_1$.

**Імглі́ць,** *імглі́цца* 'імжэць' (ТСБМ), *імлі́ць* (Сцяшк. МГ), *імле́ць* (Сцяц.) са стратай *-г-* у кансанантнай групе; форма *і́ліць* (Бяльк.), відаць, пад уплывам дзеяслова *ліць*. Рус. дыял. *мглить*, польск. *mglić, mgleć*, в.-луж. *miholić*, чэш. *mlholiti, mrholiti*, славац. *hmlit' sa*, славен. *megliti se*, серб.-харв. *мàглити се*, балг. *мъгле́я се*, макед. *магли се*. Прасл. дзеяслоў на *-iti* ад **mьgla* (гл. *імгла*), суадносны з *імжыць* (гл.).

**Імгне́нне** 'міг, момант' (ТСБМ, Яруш.). З польск. *mgnienie*, таго ж кораня, што і *міг* (гл.), з пратэзай *і-*. Вядома яшчэ

ў старабеларускай мове XVI ст. як кампанент выразу *въ мгненіи ока* («Катэхізіс» С. Буднага).

**Іменна.** З рус. *и́менно* (у пісьменнасці з XVI ст.), утворанага ад ст.-рус. *именьныи* 'уласны' (гл. *імя*); параўн. ням. *namentlich* (Фасмер, 2, 129; КЭСРЯ, 176).

**Іме́нне** 'імя, мянушка, прозвішча' (ТСБМ, Нас.), *іме́ньня* (дзісн., Нар. сл., 113), *мэ́ньне* (стол., Нар. лексіка, 126); параўн. рус. смал. *йме́нье*, укр. *іме́ння, йме́ння*. Утворана ад асновы ўскосных склонаў *імен-* (гл. *імя*) з суф. *-j-e*.

**Іме́цца,** *йме́цца* 'верыцца' (Нас., Касп.). Зваротны дзеяслоў ад *мець* (гл.) з пратэзай *і-*. Семантычныя змены ў сувязі са значэннем 'прымаецца, бярэцца (на веру)'.

**Імжа́**$_1$ 'імгла, дробны дождж' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Гарэц., Др.-Падб.), *імга́* 'тс' (ТСБМ). Рус. дыял. *мга, имга́, имжа́, имжи́ца, мжи́ца, мжи́чка*, укр. *мжа, мжи́чка*, польск. *mżawka*, чэш. *mžička*, дыял. *mžitka*. Ад *імжыць* (гл.). Відаць, ужо ў прасл. **mьga* 'імжа, дробны дождж' поруч з **mьgla* 'туман, малапразрыстае паветра' (гл. *імгла*), Мяркулава, Этимология. 1973, 59. *Імжа́ка* (ТСБМ, Мядзв., Шат., Касп., Янк. III; маг., Янк. Мат., 28), *мжа́ка, мжак* (Мат. Маг.) утворана суфіксам *-ак-а* ад *імжыць*. *Імжэ́нь* (Мат. Маг.)— вытворнае з суф. *-энь*.

**Імжа́**$_2$ 'незлічоная колькасць чаго-н.' у кантэксце: *«што ймжы рыбы»* (маст., Весці, 4, 1969, 129). Утворана лексіка-семантычным шляхам ад *імжа*$_1$; параўн. паралелізм семантычнай структуры слав. **tьma*: 'цемра' і 'процьма'.

**Імжы́ць,** *імжы́цца, імжэ́ць* 'ісці, падаць, асядаць дробнымі каплямі (пра дождж)' (ТСБМ, БРС, Яруш., Гарэц., Шат., Касп., Бяльк.). Рус. дыял. *имжи́ть, мжить*, укр. *імжи́ти, мжи́ти*, польск. *mżyć*, чэш. *mžiti*. Прасл. *mьgiti* > **mьžiti*, Махэк$_2$, 386. Гл. *імгліць, імжа*$_1$.

**Імкну́цца,** *імкну́ць* 'хутка рухацца, накіроўвацца куды-н.', 'старацца трапіць куды-н., быць дзе-н. або стаць кім-н.', 'настойліва дамагацца чаго-н.' (ТСБМ). Рус. *-мкнуть* толькі ў складзе прэфіксальных утварэнняў: *примкнуть, сомкнуть, замкнуть, отомкнуть* і г. д. Укр. *імкну́ти* 'скеміць', польск. *mknąć* 'імчацца', чэш. уст. *mknouti se* 'прыціскацца', славен. *mákniti* 'ссунуць, пасунуць, зрушыць', серб.-харв. *ма̀кнути* 'тс', балг. *мъ́кна* 'цягнуць, валачы', ц.-слав. *мъкнѫти сѧ* 'хутка рухацца'. Прасл. дзеяслоў **mъknǫti (sę)*, суадносны з **mъkěti* (гл. *імчаць*), генетычна роднасны літ. *mùkti, munkù, mukaũ* 'вызваляцца, бегчы, выслізгвацца', лат. *mukt* 'змахнуць, саслізнуць, уцячы, выслізгнуць', на іншай ступені чаргавання: літ. *maũkti, maukiù, maukiaũ* 'цягнуць, сцягнуць', ст.-інд. *muñcáti, mucáti* 'вызваляе,



выпускае', авест. *framuxti-* 'збавенне'. Праабражэнскі, 1, 540—541; Фасмер, 2, 631. Назоўнік *імкне́нне*, відаць, пад уплывам польск. *mknienie* з пратэзай *і-*.

**Імне** 'вымя' (Ліс.). Ад *вымя* (гл.) са стратай *в-* у пачатку слова; параўн. рус. дыял. *и́мя* 'вымя', балг. дыял. *и́ме* 'тс'; *-н-* з асновы ўскосных склонаў.

**Імпарт** 'увоз у якую-н. краіну тавараў з-за мяжы' (ТСБМ). Запазычанне з англ. *import* праз рус. мову ў XX ст. (Шанскі, 2, I, 60).

**Імпера́тар.** Ст.-бел. *императоръ* (з пачатку XVII ст.) запазычана з польск. *imperator*, дзе з лац. *imperator* ад *imperare* 'кіраваць, загадваць' (Булыка, Лекс. запазыч., 26; SWO, 300). Тым жа шляхам *імпе́рыя* з лац. *imperia*. Для рус. *импера́тор, импе́рия* польская — таксама мова-пасрэднік (Фасмер, 2, 129; Шанскі, 2, I, 58, 59).

**Імперыялізм.** Крыніцай можа быць польская ці руская мова, дзе ў XIX ст. з англ. *imperialism* (Шанскі, 2, I, 58).

**Імпэ́т** 'разгон, парывістасць, імклівасць, напор, націск' (ТСБМ, БРС, Касп., Бяльк., Нас., Гарэц., Яруш.), 'пах, дух' (ТСБМ), 'ахвота, жаданне' (Бір. Дзярж., Бяльк.), 'выбух, паветраны штуршок, выбухная хваля' (Касп.; брэсц., Жыв. сл., 164), 'энергія чалавека' (брэсц., Жыв. сл., 164), *ймпэтъ, йнпэтъ* 'цяжкі дух' (Мал.), *імпа́т* 'паветра, пах, спецыфічны дух' (Сцяц.; стаўб., Жыв. сл., 71), 'парыў (паветра)' (Сцяц.), 'цяжкі дух, смурод' (слонім., Нар. лексіка, 52); параўн. зах.-бранск. *и́мпет, и́нпет* 'напор, напружанне; цяжкае паветра, цяжкі дух' (Растаргуеў, Бранск.). Ст.-бел. *импетъ* 'напор, націск' (1674 г.) з польск. *impet* < лац. *impetus* 'парыў, разбег, напор' (Булыка, Запазыч.; SWO, 300). Няма падстаў лічыць, што лексема была забыта і зноў увайшла ў бел. мову ў пачатку XX ст. (як Гіст. лекс., 259). З польскай таксама рус. дыял. *и́мпет* 'удар, напор, імклівасць; ударная сіла' (у рускай пісьменнасці з 1718 г., Біржакова, Очерки, 363), укр. *і́мпет* 'моцны націск, парыў, сіла'. У сучасных беларускіх гаворках семантычны аб'ём слова значна пашырыўся. Схему семантычнага развіцця, відаць, можна ўявіць такім чынам: 'парыў'→'парыў (паветра)'→'паветра'→'пах, дух'→'цяжкі дух, смурод'. Далейшая ступень канкрэтызацыі — *імпа́т* 'адзежа з-пад хворага' (Жд. 2), дзе семантычны перанос звязаны, напэўна, са спецыфічным пахам адзення хворага чалавека.

**Імсці́ць** 'помсціць' (Янк. I). Беспрэфіксальнае ўтварэнне з пратэзай *і-*. Гл. *помста*.

**Імча́цца,** *імча́ць* 'вельмі хутка перамяшчацца, ехаць, бегчы;

несціся' (ТСБМ). Рус. *мчать, мчáться,* укр. *мчáти, мчáтися* 'тс', ст.-чэш. *mčieti* 'несці, цягнуць', ст.-слав. **мъчати** 'кідаць'. Прасл. дзеяслоў ***тъkěti*, суадносны з ***тъknǫti* (гл. *імкнуц-ца*), Фасмер, 3, 22; КЭСРЯ, 277. Пачатковае *і-* мае пратэтычны характар (Карскі, 1, 262).

**Імшá** 'каталіцкая абедня' (ТСБМ, БРС, Яруш., Шат.). *І-* пратэтычнае. Ст.-бел. *миша, имша* (канец XV ст.) запазычана са ст.-польск. *msza* < ст.-чэш. *mše,* якое ўзыходзіць да ст.-в.-ням. *missa, mēssa* з лац. *missa* (Булыка, Лекс. запазыч., 183; Брукнер, 347).

**Імшáнік** 'уцепленае памяшканне для зімоўкі пчол' (ТСБМ), рус., укр. *омшáник* 'тс'. Ад *імшаны* з суф. *-ік;* гл. *мох, амшалы.*

**Імшáра** 'мохавае балота' (ТСБМ, Касп.), 'зараснік' (Яруш.), *імшáр* (Др.-Падб.) 'месца, дзе расце толькі арэшнік' (Жд. 2), *імшарына* 'невялікі ўчастак мохавага балота сярод поля або лесу', *імшáрнік* 'мохавае балота' (парыц., Янк. Мат., 165). Рус. дыял. *мшáра, мшáрина, мшáрник,* польск. *mszar.* Магчыма, запазычанне з польск. *mszar* 'мохавае балота'. Але можна дапусціць і паралельнае ўтварэнне беларускага і польскага слоў. Беларуская суфіксацыя *-ына, -нік;* прыстаўное *і-*. Гіст. мовы (II, 137) разглядае як уласнабеларускае ўтварэнне пачатку XX ст. Гл. *мох.*

**Імшáрнік,** *імшáр* 'махавік' (стол., Жыв. сл., 189; Нар. лексіка, 125). Утворана ад *імшара* (гл.) з суф. *-нік* ці ад ***імшарны* суф. *-ік*. Назва паводле месца росту; параўн. *махавік,* рус. *болотовик* і да т. п.

**Імшáрніца** 'Andromeda polifolia' (БРС, Кіс., БелСЭ). Утворана ад *імшара* (гл.) з суф. *-ніца.* Назва абумоўлена тым, што андрамеда расце на балотах; параўн. рус. дыял. *мошнíк, мшáнка,* укр. *мшедь,* польск. *mszak.*

**Імшарэ́ць** 'шарэць' (Жд. 3). Відаць, у выніку кантамінацыі з *імшара* (гл.) ад *шарэць.*

**Імшы́ць**₁ 'перакладваць мохам' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Шат., Гарэц., Янк. Ш; маг., Янк. Мат., 28), рус. *мшить* (у рускай пісьменнасці *имшити* з 1705 г.), укр. *імшúти, мшúти* (Грынч.), польск. *mszyć.* Ад *мох* (гл.) з прыстаўным *і-*.

**Імшы́ць**₂ 'шукаць' (Жд. 2). Аказіяналізм, узнікшы, відаць, у выніку семантычных пераўтварэнняў. Магчыма, звязана з *мох* (гл.) з зыходнай семантыкай 'шукаць (ці хаваць?) у моху'. Няясна.

**Імшэ́ль** 'дробны дождж' (Мат. Гом.). З ***імжэ́ль;* параўн. зах.-бранск. *имжéль* 'тс'. Утварэнне з суф. *-эль* ад *імжыць* (гл.).



**Імшэ́нь** 'пограб' (Бяльк.). Утворана суфіксам *-энь* ад *імшыць* (гл.).

**Імя́.** Рус. *úмя,* укр. *ім'я́,* польск. *imię,* в.-луж. *mjeno,* н.-луж. *mě,* палаб. *jeimą,* чэш. *jméno,* славац. *meno,* славен. *imê,* серб.-харв. *ûмē,* балг. *úме,* макед. *име,* ст.-слав., ст.-рус. **имѧ**, ст.-бел. *имя.* Бліжэйшыя і.-е. адпаведнасці: ст.-прус. *emmens, emnes,* алб. *emër, emën,* ст.-ірл. *ainmm.* Далей, з іншым вакалізмам: ст.-інд. *nāma,* авест. *nāma,* ст.-перс. *nāman-,* арм. *anun,* грэч. ὄνομα, лац. *nōmen,* гоц. *namo,* хец. *lāman.* Прасл. ***jьmę* ўзыходзіць да і.-е. ***n̥men-* з ***enmen-,* якое трактуюць як утварэнне ад прыназ. ***en-* 'у, унутры' з суф. *-men-*. Адсюль семантычная інтэрпрэтацыя імені як таго, што ўкладваецца, ускладаецца, накладаецца. Гл. Фасмер, 2, 129—130; Слаўскі, 1, 454—455; Тапароў, 2, 28—30; Трубачоў, Эт. сл., 8, 227—228, дзе іншая літ-ра. Іначай Махэк₂ (230—231): звязвае з і.-е. ***genə-* 'ведаць', што мала верагодна. Версія пра сувязь з ***jęti*, ***jьmǫ* (Шуман, AfslPh, 30, 1909, 302; Ісачанка, Studie a práce linguistické, 1, 1954, 127—129, *jьm-men* 'прыняты знак' як тэрмін радавога грамадства) таксама непераканаўчая.

***Імяла,** *ймяла,* н. р. (стаўб., Нар. лексіка, 158). Гл. *амела.*

**Імянíны.** Рус. *именúны,* укр. *іменúни,* польск. *imieniny,* в.-луж. *mjeniny,* чэш. *jmeniny,* славац. *meniny.* Ст.-рус. *именины* зафіксавана ў летапісе пад 1097 г. (спіс XV ст.). Ад асновы *jьmen-* (гл. *імя*) з суфіксам *-iny,* які ўтварае назоўнікі pluralia tantum са значэннем абрадаў, урачыстасці; параўн. *радзіны, адведзіны, хрысціны, зімовіны, праводзіны* і да т. п. Гл. Шанскі, 2, I, 53; Слаўскі, 1, 454.

**Інáкш** прыслоўе 'іншым спосабам, па-другому, не так' (ТСБМ, Гарэц., Яруш., Касп., Шат.), *інáк* (Нас.), *інáчай* (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Бяльк.), *нáчэ* (лельч., Нар. лексіка, 132). Рус. *инáче,* дыял. *инáко,* укр. *інáк, інáко, інáкше,* польск. *inaczej,* уст. і дыял. *inak,* в.-луж. *hinak,* н.-луж. *hynak. hynacej,* чэш. *jinak, jináč,* славац. *ináč, inak, inakšie,* славен. *inako,* серб.-харв. *ùнāко, ùнāче,* балг. *úнак, úначе,* макед. *инаку.* Ст.-слав. **инако**, ст.-рус. *инакъ, инако, иначе,* ст.-бел. *иначеи* (Скарына). Прасл. ***jьnako*, ***jьnakje* ад ***jьnakъ* 'іншы' (гл. *інакшы, іншы*). Фасмер, 2, 130; Шанскі, 2, I, 65—66; Трубачоў, Эт. сл., 8, 230; Слаўскі, 1, 456. У бел. *інакш* *-ш-* з суфікса вышэйшай ступені. Лексема *інáчай* сфарміравалася, відаць, пад уплывам польскай формы з суфіксальным *-ějь.* Сюды ж *інáчыць* 'рабіць інакшым, другім; змяняць' (ТСБМ, Нас.), дыял. *іначасць* (у «Соках цаліны» Ц. Гартнага; Гіст. мовы, II, 238).

**Іна́кшы** 'другі', 'які-н., некаторы' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Мал., Касп., Шат.), *іна́чшы* (Мал.). Рус. *ина́кий*, укр. *іна́кший*, польск. *inaki*, уст. *inakszy*, в.-луж. *hinaši*, н.-луж. *hynakšy*, чэш. *jinaký, jinačí*, славац. *inakší*, славен. *inâk*, серб.-харв. *ȉnâk*, балг. *и́накъв*, макед. *инаков*, ст.-рус. *инакыи*. Прасл. вытворнае з суф. *-akъ* ад **inъ* (гл. *іншы*), дакладна адпаведнае літ. *vienókas, vienókis* 'аднолькавы', гоц. *ainaha* 'адзіны', ірл. *oenach* 'сход, рынак'. Гл. Фасмер, 2, 130; Трубачоў, Эт. сл., 8, 230; Шанскі, 2, I, 65; Слаўскі, I, 456. Форма *інакшы* з суфіксам вышэйшай ступені *-šy*. Сюды ж *іна́кшыць* 'змяняць' (Касп., Нас.). Гл. *інакш*.

**Інба́р** 'будынак для збожжа, розных тавараў, свіран' (Бяльк.), 'клець' (Мат. Гом.), ст.-бел. *имбаръ, инбаръ*. Гл. *амбар*.

**Інвалі́д**. Першакрыніца: лац. *invalidus* 'бяссільны, нядужы'. Для беларускай пасрэднікам магла быць руская (Крукоўскі, Уплыў, 72) ці польская мова. У рускай *инвалид* у першай палавіне XVIII ст. з франц. *invalide* (Шанскі, 2, I, 66; Фасмер, 2, 130; Біржакова, Очерки, 363). На карысць польскай крыніцы ст.-бел. *инвалидовати* 'адмяняць' (1637 г.) < ст.-польск. *inwalidować* < с.-лац. *invalidare* (Булыка, Лекс. запазыч., 30). У польскай была вядома форма *inwalid* без *-a* на канцы слова.

***Інвэ́нцыя,** *інвэ́ньція* 'імкненне што-н. зрабіць, звычайна дрэннае' (Бяльк.). Ст.-бел. *инвенция* 'знаходлівасць, вынаходлівасць' (сярэдзіна XVII ст.) запазычана са ст.-польск. *inwencyja*, якое з лац. *inventio* (Булыка, Лекс. запазыч., 131). У рускай *инвенция* з 1705 г. таксама праз польскае пасрэдніцтва (Біржакова, Очерки, 363; Фасмер, 2, 130). Семантычныя змены на беларускай глебе.

**Інга** 'гульня ў мяч' (Шпіл.). Няяснае слова.

**Інге́рка** 'доўгае паліто ў мяшчанак' (Бяльк.). Запазычанне з польск. *węgierka*. Гл. *ангерка*.

**І́ндрык** 'франт' (Грыг.). Экспрэсіўнае слова, узнікшае, відаць, у выніку кантамінацыйных пераўтварэнняў. Магчыма, кантамінацыя *індык* (гл.) і **фендрык;* параўн. рус. *фендрик* 'малады чалавек з прэтэнзіямі' (польск. *fendrych* < ням. *Fähnrich* 'прапаршчык').

**Інды́к**, *інды́чка, індычаня́, індычанё* (ТСБМ), *індзю́чка* (Мат. Гом.), *індычáціна* 'індычае мяса' (Жд. 2). Ст.-бел. *индыкъ, индикъ* (1688 г.) запазычана з польск. *indyk*, дзе з лац. *indicus* 'індыйскі', паколькі птушку завезлі ў XVI ст. з Вест-Індыі (Булыка, Лекс. запазыч., 143; Слаўскі, I, 457). Для рус. *индюк* (XIX ст.) польская была таксама мовай-пасрэднікам (Праабражэнскі, I, 271; Фасмер, 2, 132; Шанскі, 2, I, 75).



**Інды́кі** 'кветкі, просты агародны гваздзік' (Нас.). Метафарычны перанос з *індык;* форма мн. л. шырока ўжываецца ў народнай наменклатуры раслін; параўн. паралельную рускую назву *петушки* (Мяркулава, Очерки, 136).

**І́ней** (ТСБМ, Яруш., Шат., Сцяшк. МГ, Інстр. I), *іня, віня* (Сцяшк. МГ), *инь* (Яруш.), *е́ный* (брэсц., Нар. лексіка, 75). Рус. *иней*, дыял. *и́ня, и́ней*, укр. *іній*, польск. дыял. *inej*, чэш. *jíní*, славац. *inovať*, славен. *ȋnje*, серб.-харв. *и̏ње*, балг. *и́ней*, макед. дыял. *ина*. Ст.-слав. **иний, иникъ**, ст.-рус. *иней, иний*, ст.-бел. *инеи*. Адзіная пэўная адпаведнасць — літ. *ýnis*, хаця не выключана магчымасць запазычання са славянскага (як Бернекер, I, 432; Трубачоў, Эт. сл., 8, 236). Надзейнай этымалогіі няма. Прасл. **jьnьjь* звязвалі з ням. *Eis*, ст.-сканд. *íss* 'лёд' (Педарсан, MPKI, I, 2, 171), ст.-інд. *énī* 'бліскучы' (Младэнаў, 223). Гл. яшчэ Фасмер, 2, 132—133; Слаўскі, I, 458—459; Махэк$_2$, 227; Скок, I, 727. Трубачоў (Славянское языкознание, 1968, 378) паспрабаваў супаставіць **jьnьjь* з **jьnъ* 'адзін'. Рэканструяваная пры гэтым семантыка — 'адзін мароз, першы мароз'. Зрэшты Трубачоў (Эт. сл., 8, 236) зазначае слабыя бакі гэтага этымалагічнага рашэння і прапаноўвае іншае тлумачэнне: прасл. **jьvьnь* (гл. *івянь*) звязвае з **jьva* 'край, паласа' < і.-е. **ei̯-u̯-ā* ад **ei̯-* 'ісці' (250). Безлай (I, 211) мяркуе аб запазычанні з субстрату.

**Інжыне́р.** Запазычанне з польск. *inżynier*, націск пад рускім уплывам. У польск. з франц. *ingénieur* (SWO, 315), якое ўзыходзіць да лац. *ingenium* 'вынаходлівасць, трапная выдумка'. Ст.-бел. *инъенеръ* (1601 г.) са ст.-польск. *ingenier* (Булыка, Лекс. запазыч., 91). У рускай мове *инженер* (XVII ст.) таксама запазычана праз польскае пасрэдніцтва; гл. Шанскі, 2, I, 76—77; Біржакова, Очерки, 363; супраць Фасмер (2, 133) называе нямецкую крыніцу. Недакладна Гіст. лекс., (245) адносіць да неалагізмаў XIX ст.; Крукоўскі (Уплыў, 77) лічыць запазычаным з рускай.

**Інжы́р,** рус. *инжи́р*, укр. *інжи́р*. Запазычанне з цюркскіх моў. Фасмер, 2, 133; Шанскі, 2, I, 77; Крукоўскі, Уплыў, 73 (праз рускую мову).

**Ініцыя́лы.** Запазычана праз рускую мову (Крукоўскі, Уплыў, 77). У рускай з канца XIX ст. з франц. *initial* 'пачатковы' < лац. *initialis* 'тс' (Шанскі, 2, I, 77).

**Іно́гды** 'іншы раз, часам' (Байк. і Некр., Нас., Бяльк.), *і́нагды* (Шат.), *іно́ды* (Касп.), *інады* 'калі-н'. (палес., З нар.

сл., 264). Рус. *иногда́*, дыял. *и́ногды́, иноды, иноди́*, укр. дыял. *и́ногді, и́ноді*, ст.-польск. *inegdy, inedy*, н.-луж. *hynga*, чэш. *jindy* 'ў другі раз', славац. уст. *inogda* 'часам', *indy* 'ў другі раз', славен. *înda* 'тс', серб.-харв. уст. *inda, inagda, inogda* 'тс'. Ст.-слав. **иногда, инъгда** 'калісьці, некалі', 'у другі раз', ст.-рус. *иногда* 'калісьці, некалі', 'аднойчы', 'у другі раз', 'часам', *иногды* 'часам', 'перш'. Ст.-бел. *иногды* 'раней, перш' (Скарына); форма *инекгды* (канец XV ст.) запазычана са ст.-польск. *inegdy* (Булыка, Лекс. запазыч., 200). Прасл. **jьnogъda* ўтворана ад **jьnъ* (гл. *іншы*) з фармантам *-gъda*. Адносна апошняй часткі складання няма адзінага тлумачэння. Верагодней за ўсё, з энклітык *-gъ* і *-da* (Трубачоў, Эт. сл., 8, 231—232; Слаўскі, 1, 458). Фасмер (2, 134) бачыць тут абагульненае **kъda*. Інакш разглядае Мейе (MSL, 13, 29): рэдукцыя формы р. скл. прасл. **godъ*.

**Іно́ся** 'не так, інакш' (Касп.), 'няхай' (Нас., Грыг.), 'іншая справа' (Нас., Яруш., Др.-Падб.), 'калі ласка' (Нас). Рус. смал., арл., калуж. *и́но́сь* 'добра, калі ласка', смал. *ина́себе* 'няхай', укр. дыял. *іно́се, іно́сь* 'няхай так; згодзен'. Складанне з *іно* і зваротнай часціцы *-ся*; параўн. рус. дыял. *и́но́* 'часам', 'толькі', 'добра', 'пасля', 'некалі', злучн. 'ці', 'але', 'так што', 'калі', укр. *іно́* 'толькі', польск. дыял. *ino* 'толькі, так', злучн. 'толькі што, ледзь толькі', ст.-рус. *ино* злучн. 'а, і', 'але', 'таму што'. *Ino* тлумачыцца неадназначна. Найбольш верагодна этымалагічная сувязь з **jьnъ* (гл. *іншы*), Бернекер, 1, 431; Праабражэнскі, 1, 271; Слаўскі, 1, 462. Фасмер (2, 133) вылучае два кампаненты: *i+no*. Недакладна Гіст. мовы (II, 248) разглядае *іноса* як уласную словатворчасць Ул. Дубоўкі.

**Інспе́ктар.** Крыніца: лац. *inspector* ад *inspectare* 'наглядаць'. Ст.-бел. *инспекторъ* 'настаўнік, выхавальнік' (1638 г.) < ст.-польск. *inspektor* (Булыка, Лекс. запазыч., 159; Гіст. лекс., 107). Для рускай (XVII ст.) мяркуюць аб польскім ці нямецкім пасрэдніцтве (Фасмер, 2, 135; Шанскі, 2, I, 85—86).

**Інстру́кцыя.** Запазычанне з лац. *instructio* 'настаўленне' праз польскае пасрэдніцтва. Ст.-бел. *инструкция, инструкцыя* 'інструкцыя, настаўленне' (1522 г.), як і рус. *инструкция* (XVII ст.), са ст.-польск. *instrukcyja* (Булыка, Лекс. запазыч., 30; Фасмер, 2, 135; Шанскі, 2, I, 89). Меркаванне аб перапынку ва ўжыванні слова і паўторным запазычанні з рускай (як Крукоўскі, Уплыў, 78; Гіст. лекс., 233) неабгрунтаванае.

**Інструме́нт.** Ст.-бел. *инструментъ* (1565 г.) 'інструмент, прылада', 'музычны інструмент', 'спосаб, сродак' (Булыка, Лекс. запазыч., 187). Ужо ў старабеларускай сфарміравалася семантычная структура, вядомая сучаснай беларускай мове. Насовіч



прыводзіць два значэнні: 'музычная прылада', 'усякая прылада'. Запазычана з польск., дзе *instrument* з лац. *instrumentum* 'інструмент, прылада'. Націск на апошнім складзе пад уплывам рускай мовы; параўн. *інстру́мант* (Касп.). Рус. *инструмент* (XVII ст.) таксама з польск.; націск на апошнім складзе ў выніку ўздзеяння нямецкай мовы (Шанскі, 2, I, 89). Няма падстаў для сцвярджэння аб паўторным запазычанні з рускай у XX ст. (як Крукоўскі, Уплыў, 83; Гіст. лекс., 233, для *інструментальны*).

**Інсты́нкт** 'неўсвядомленая цяга, імкненне да чаго-н.', 'чуццё, прадчуванне чаго-н.' (ТСБМ), *инсты́кт* 'унушэнне', 'цяга, унутранае пабуджэнне' (Нас). Ст.-бел. *инстинктъ, инстиктъ, инстынктъ* 'пабуджэнне, чуццё' (1620 г.) (Булыка, Лекс. запазыч., 136; Гіст. лекс., 108). Запазычанне з лац. *instinctus* 'пабуджэнне' праз польск. *instynkt* (XVII ст.). Рус. *инсти́нкт* у XVIII ст. праз нямецкую (Фасмер, 2, 135; Шанскі, 2, I, 87). Памылковае дапушчэнне аб запазычанні з рус. у пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 252, 272; Крукоўскі, Уплыў, 77), паколькі слова зафіксавана ў ст.-бел. мове і лексікаграфічных крыніцах XIX ст., аднак замацаванне слова ў навуковай тэрміналогіі адбылося, безумоўна, пад рускім уплывам; параўн. таксама націск.

**Інстыту́т** (ТСБМ), *інсціту́т* (Сцяшк. МГ). У пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 241) з рускай (Крукоўскі, Уплыў, 77), дзе ўпершыню ў помніках 1771—1773 гг. (Біржакова, Очерки, 363). У рускай з франц. *institut*, якое ўзыходзіць да лац. *institutum* 'устанаўленне, установа' (Шанскі, 2, I, 87).

**Інтарэ́с** 'увага, цікавасць да каго-, чаго-н.', 'імкненні, мэты; патрэбы', 'карысць, сэнс' (ТСБМ, Касп.), *интэре́съ* 'справа, патрэба' (Нас.), *інтэ́рас* 'справа, дзелавая патрэба', 'занятак гандлем; крама' (ТСБМ), 'выгадная справа' (Шат.), 'зацікаўленасць' (Касп.). Ст.-бел. *интересъ* 'карысць, здзелка' (1568 г.) запазычана з польск. *interes; интересоватисе* 'займацца фінансавай справай, старацца' (1686 г.) < польск. *interesować się* (Булыка, Лекс. запазыч., 80, 81). Польск. *interes* 'інтарэс, зацікаўленасць', 'справа', 'гандлёвая справа', 'карысць' праз ням. *Interesse* ўзыходзіць да с.-лац. *interesse* 'мець важнае значэнне', 'прымаць удзел' (субстантыў ужываўся як юрыдычны тэрмін, адкуль значэнне 'выгада, карысць'); гл. Слаўскі, 1, 464. У рускую мову слова трапіла ў Пятроўскую эпоху праз польскую ці нямецкую з першапачатковым значэннем 'выгада, справа, карысць' (Шанскі, 2, I, 97—98; Фасмер, 2, 136); значэнне 'ўвага, зацікаўленасць; займальнасць' (1777 г.) пад уплывам франц. *intérêt* (Біржакова, Очерки, 261, 364). Бел. *інтэ́рас*

паказвае на польскую крыніцу (параўн. семантыку, націск). Форма *інтарэс* замацавалася пад уплывам рускай мовы.

**Інток,** *инточек* 'ручай, ручаёк' (Гарб.). Запазычанне з літ. *intakas* 'прыток' у ст.-бел. мове.

**Інтрыга.** Запазычанне з франц. *intrigue*, якое ўзыходзіць да лац. *intricare* 'заблытваць'. Для беларускай крыніцай можа быць польская ці руская мова (Крукоўскі, Уплыў, 77). У рускай (першая фіксацыя 1710 г., Біржакова, Очерки, 364), відаць, праз польскае ці нямецкае пасрэдніцтва (Фасмер, 2, 136; Шанскі, 2, I, 104).

**Інтурусіца** 'лухта, глупства' (Касп.). Бясспрэчна, звязана з рус. *турусы* 'лухта, балбатня', галоўным чынам у выразах *турусы на колёсах; подпускать турусы (на колёсах); нести турусы (на колёсах)*, дыял. *турусить* 'казаць лухту, хлусіць, вярзці глупства', 'трызніць у сне'. Гэтыя выразы звычайна тлумачаць назвы асаднай вежы, якая рухаецца на колах, паколькі расказы аб ёй лічыліся неверагоднымі. Далей зблiжаюць са ст.-рус. *тарасъ* 'падкатны зруб, які ўжываўся для абароны і асады горада' (XVI ст.) (Праабражэнскі, 2, 21; КЭСРЯ, 455), запазычаным з польск. *taras* 'насып, вал; укрыцце, загарода; тэраса', якое ўзыходзіць да лац. *terrācea* праз франц. ці ням. пасрэдніцтва (Кіпарскі, ВЯ, 1956, 5, 138). Аднак збліжэнне з *тарасы* выклікае фанетычныя цяжкасці і не з'яўляецца неабходным, тым больш што *турусы* можна звязаць непасрэдна з лац. *turris* 'вежа' (гл. заўвагу Трубачова, Дополн., 4, 125). Пачатковае *ін-* у беларускім слове не зусім яснае. Магчыма, вынік кантамінацыі з **інтруз*, якое пранікла ва ўсходнеславянскія гаворкі з польск. *intruz* 'нахабнік, назойлівы чалавек', 'выскачка' (Слаўскі, I, 465). Не выключана, што *ін-* асэнсоўваецца як прэфіксальны элемент, адносна словаўтварэння і семантыкі параўн. *алесіца* (гл.) < *акалесіца*.

**Інтэлéкт.** З рускай мовы ў пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 272; Крукоўскі, Уплыў, 77). Рус. *интеллéкт* (першая трэць XIX ст.) з лац. *intellectus* 'разуменне, розум' праз французскае ці нямецкае пасрэдніцтва (Шанскі, 2, I, 92).

**Інтэлігéнцыя.** Крыніца: лац. *intelligentia* 'разуменне'. Значэнне 'грамадскі слой людзей, якія прафесіянальна займаюцца разумовай працай' сфарміравалася раней, відаць, у польск. мове (першапачаткова *inteligencja* 'цямлівасць, кемнасць'), адкуль трапіла ў рус. у сярэдзіне XIX ст.; да гэтага часу рус. *интеллигéнция* ўжывалася ў значэнні 'разумнасць, свядомасць, дзейнасць розуму' (Вінаградаў, Этимология. 1964, 111—113; Шанскі, 2, I, 94). З рускай слова запазычана ў зах.-еўрап. мовы (Баравы, Путь слова, 330). У беларускай *інтэлігенцыя* ў пачатку XX ст. з рускай мовы (Крукоўскі, Уплыў, 77). Паводле Шанскага (2, I, 94), *интеллигéнт* — зваротнае ўтварэнне ад *интеллигенция*.



**Інфармáцыя.** Запазычанне з лац. *informatio* 'ўяўленне аб чым-н.' праз польскае пасрэдніцтва (SWO, 305). Тым жа шляхам рус. *информация* (з 1702 г.) (Фасмер, 2, 136; Шанскі, 2, I, 108; Біржакова, Очерки, 364, поруч з польскай называе беларускую і ўкраінскую як магчымыя крыніцы запазычання). Ст.-бел. *информация, информацыя* 'разуменне, высвятленне, паведамленне' (1588 г.) са ст.-польск. *informacyja;* дзеяслоў *информовати* 'інфармаваць, асвядомліваць' (1588 г.) < ст.-польск. *informować* < лац. *informare* (Булыка, Лекс. запазыч., 49). Недакладна Крукоўскі (Уплыў, 77), які лічыць слова новым запазычаннем з рускай.

***Інцык,** *úнцик* 'тайнік, патаемнік' (Шпіл.). Няяснае слова. Можа, звязана з ням. *Winkel* 'кут'.

**Íнчыма** 'стары шынель і наогул усякая старая адзежа' (Шпіл.). Відаць, форма р. скл. назоўніка *айчым* (гл.), часткова перааформленая фанетычна ў пачатку слова. Першапачатковае значэнне 'адзежа, якая належыць айчыму'.

**Íншы** 'другі', 'які-н., некаторы' (ТСБМ), *інны* (Нас., Шат., Жд. 3; крыч., Жыв. сл., 130). Рус. *инóй*, дыял. *úный, úнный, úнший*, укр. *íнший*, дыял. *íний*, польск. *inny, inszy*, в.-луж. уст. *jiny*, н.-луж. уст. *jiny, hyny*, чэш. *jiný*, дыял. *jinší*, славац. *iný, inší*, славен. *in*, серб.-харв. *ӣн*, балг. *ин, úный*. Ст.-слав. **инъ** 'некаторы', 'другі', ст.-рус. *инъ, иныи, инъшии* 'тс', ст.-бел. *иншии, ин, иныи* 'тс'. Прасл. **jьnъ/*inъ* роднаснае літ. *vienas*, лат. *viẽns*, ст.-прус. *ains*, ст.-лац. *oinos*, лац. *ūnus* 'адзін', грэч. οἶνος, οἴνη 'адно ачко на іральнай косці', гоц. *ains*, ст.-ірл. *ōen*, ст.-в.-ням. *ein* 'адзін'; сюды ж, відаць, літ. *ìnas* 'сапраўдны', якое, адначак, трактуецца неадназначна; узыходзіць да і.-е. **oino-/*eino-* 'адзін'; параўн. ст.-слав. **инокъ, иноходь, иночѧдь, инорогъ,** серб.-харв. *ин̏косан* 'адзінокі', захаваўшыя зыходную семантыку. Семантычная трансфармацыя 'адзін'→'другі' адбылася праз семантычнае звяно 'некаторы, нейкі'. Гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 233—234 (з літ-рай); Фасмер, 2, 134—135; Шанскі, 2, I, 81—82; Слаўскі, I, 460—462; Махэк$_2$, 227; Безлай, 1, 211; Покарны, I, 286. Іншыя этымалагічныя прапановы малапераканаўчыя. Міклашыч (96), а затым Мейе (Études, 159, 433) адрознівалі *jьnъ* 'адзін' і *inъ* 'іншы', прычым апошняе Мейе звязваў са ст.-інд. *anyás* 'іншы'. Остэн-Сакен (JF, 33, 1914, 271) параўноўваў з грэч. ἐ-κεῖνος, лац. *e-quidem* 'вядома, сапраўды'. Бернекер (I, 432) звязваў з зай-

меннікам *і-* ў грэч. ἴα 'адна', ἰός 'адзін, той'. Хірт (PBB, 23, 1898, 333) бачыў у славянскім слове запазычанне з гоц. *ains*. Форма *іншы* ўтворана суфіксам вышэйшай ступені *-šу* (Слаўскі, I, 463—464). Адсюль дзеяслоў *і́ншыць, іншэ́ць* (Нас.).

**Іпадро́м.** Запазычана з грэч. ἱππόδρομος (ἵππος 'конь' і δρόμος 'рысталішча') у старажытнарускай мове (Шанскі, 2, I, 112). Ст.-рус. *иподромъ, иподромие* (у Ізборніку Святаслава 1073 г.) > ст.-бел. *иподромъ, иппадромъ* (Булыка, Запазыч.). Фасмер (2, 137) памылкова называе французскую крыніцу.

**Іравы́й** 'яравы' (Бяльк.). Гл. *яравы*.

**Ірад** 'мучыцель, кат' (ТСБМ), *і́род* 'вораг, бязбожны чалавек; скупы, скнара; няверны, яўрэй' (Нас.), *і́родка* 'бязбожная жанчына' (Нас.), *і́рода* 'яўрэй' (Мядзв.). Рус. *и́род* 'мучыцель, кат', дыял. 'скупы', укр. *і́род* 'бязлітасны, жорсткі чалавек, кат', *и́род* 'ліхадзей, чорт' (Грынч.). Ад імені цара Іудзеі *Ірада* (грэч. Ἡρῴδης), які паказваецца ў Евангеллі жорсткім, бязлітасным чалавекам (Фасмер, 2, 139; Шанскі, 2, I, 114).

**Ірва́лка** 'машына, якая бярэ (вырывае) лён' (Янк. III). Утворана ад *ірваць*$_1$ (гл.) суфіксам *-лк-а* па ўзору *малацілка, абівалка, мяшалка* і да т. п. (Сцяцко, Афікс. наз., 51).

**Ірва́ць**$_1$, *рваць* 'вырываць, зрываць; разрываць' (ТСБМ, Нас., Шат.), *ірва́цца, рва́цца* 'разрывацца, узрывацца; старацца вызваліцца, вырвацца' (ТСБМ, Нас.), 'крычаць' (Юрч. Сін., 231), 'кідацца' (Нас.). Рус. *рвать*, дыял. *ирва́ть*, укр. *ірва́ти, рва́ти*, польск. *rwać*, в.-луж. *rwać*, н.-луж. *rwaś*, палаб. *råvat*, чэш. *rváti*, славац. *rvát'*, славен. *ruvati, rvati* 'вырываць', серб.-харв. *р̏вати се* 'змагацца', балг. *ръвам, ръфам* 'кусаць, ірваць'. Ст.-слав., ст.-рус. *ръвати* 'рваць, зрываць'. Пачатковае *і-* мае пратэтычны характар. Прасл. *rъvati, *rujǫ генетычна роднаснае літ. *ráuti, raũju* 'вырываць', *ravė́ti, raviù* 'палоць', лат. *ravêt* 'тс', ст.-інд. *rávati* 'разбівае, дробіць', грэч. ἐρυσίχθων 'разграбаючы зямлю', лац. *ruō, -ere* 'разрываць, раскопваць', *rutrum* 'рыдлёўка', ірл. *ruam* 'жалязняк, рыдлёўка', якія ўзыходзяць да і.-е. *reu- 'разрываць, рыць'. Гл. Покарны, I, 868; Праабражэнскі, 1, 187—189; Брукнер, 470; Фасмер, 3, 452 (з літ-рай). Махэк$_2$ (526) рэканструюе і.-е. *rou-mi < *rouə-mi з зыходнай семантыкай 'вырываць з зямлі'. Параўн. *рыць*.

**Ірва́ць**$_2$ 'ванітаваць' (ТСБМ, Бяльк., Касп.). Аддзеяслоўны назоўнік *ірво́та* (Нас., Касп., Мат. Гом.); параўн. рус. *рвать* 'ванітаваць' — *рвота*. Ад *ірваць*$_1$ (гл.).

**Ірга́** 'Amelanchier Medik'. (Кіс.). Запазычанне з манг. *irgai*,



калм. *jarγä* 'хмызняк з вельмі цвёрдай драўнінай' (Фасмер, 2, 137) праз рус. мову, адкуль таксама ўкр. *ірга́*, польск. *irga*.

**Іргі́ня** 'вяргіня, кветкавы куст і сама кветка' (Бяльк.). Ад *вяргіня* (гл.) з фанетычнымі зменамі ў пачатку слова.

**Ірда́нь** 'рэлігійны абрад асвячэння вады' (Бяльк.), 'месца, дзе ў дзень богаяўлення асвячаюць ваду' (Нас.). Рус. *иорда́нь* 'месца на рацэ, дзе праводзяць асвячэнне вады і некаторыя царкоўныя святы', дыял. 'вадохрышча', 'палонка', *ирда́н, ирда́нь* 'месца на рацэ, возеры ці сажалцы для царкоўнага абраду асвячэння вады', 'палонка', 'чысты ручай, крыніца', *ерда́нь* 'палонка', укр. дыял. *ирда́нь* 'месца на рацэ, дзе асвячаюць ваду ў дзень богаяўлення'. У рускай пісьменнасці *иердань, иордань, ердань* 'палонка з памостам і часовай капліцай для вяршэння абраду асвячэння вады і купання' з XVI ст. Утворана ад назвы ракі *Іардан* (грэч. Ἰορδάνης), у якой, паводле евангельскага падання, хрысціўся Ісус Хрыстос. Гл. Фасмер, 2, 23.

**Ірдзе́ль** 'чырванашчокі, чырванатвары' (Нас., Гарэц., Яруш., Бяльк.), 'пыхаючы здароўем' (Нас., Касп.), 'чырвань' (Др.-Падб.), *ірдзе́нь* 'чырванашчокі, чырванатвары, часцей аб мужчыне' (Нас.). Утворана суфіксам *-ель* ад *ірдзець* (гл.) (Карскі, I, 262) ці ад *ірдзяны*, як *таўсцель, крывель, гарбель* і да т. п. (Сцяцко, Афікс. наз., 98).

**Ірдзе́ст**, *рдзест* 'вадзяная кветкавая расліна з доўгім сцяблом і невялікім, звычайна падводным лісцем; урэчнік' (ТСБМ), *дрост, драсён* 'расліна Polygonum L.' (Байк. і Некр.). Рус. *рдест*, укр. *рдест, рде́сник* 'тс', *де́рес* 'расліна драсён, Polygonum', польск. *rdest, drest* 'расліна Nectris', в.-луж. *drěst, dróst* 'расліна Bidens tripartita', н.-луж. *drest* 'ірдзест, Potamogeton natans L., Polygonum persicaria L.', чэш. *rdesno, rdest* 'расліна *Polygonum*', славац. уст. *rdest, rdesno* 'ірдзест Potamogeton', славен. *rdésen* 'расліна драсён, Polygonum', серб.-харв. *дресан* 'расліна Polygonum persicaria'. Бел. *ірдзест* з прыстаўным *і-* з рус. *рдест*, якое з польск. *rdest*. Праславянская форма рэканструюецца неадназначна. Фасмер (3, 452) прапануе як магчымую праформу *rъdъstъ, адкуль звычайна збліжэнне з *rъděti, *rъdja (гл. *ірдзець, іржа*$_1$), Міклашыч, 284; Брукнер, 455. Найбольш верагодна рэканструкцыя *drěstъ, *drěstьnъ (першапачаткова прыметнік), звязаных з дзеясловам *dristati, паколькі корань раслін сямейства ірдзеставых выкарыстоўваецца як страўнікавы сродак; параўн. рус. *завязный корень, животный корень*, серб.-харв. *желудњак* і да т. п. (Мяркулава, Очерки, 41—42; Трубачоў, Эт. сл., 5, 110—111). Махэк$_2$ (510), Jména rostl. (86), Голуб — Копечны (310) зы-

ходзяць з першапачатковага *nerstъ і звязваюць з нерастам. Іншыя версіі (збліжэнне з грэч. ῥόδον 'роза' і г. д.) гл. Фасмер, там жа.

**Ірдзе́ць**, *ірдзе́цца* 'вылучацца сваім ярка-чырвоным колерам; чырванець' (ТСБМ, Шат.), *ірдзі́цца* 'тс' (Гарэц.), *ірдзе́цца* 'чырванець, гарэць чырванню; чырванець, наліваючыся кроўю (твар) ад злосці' (Янк. II), *ірдзі́ць* 'злавацца' (Мат. Маг.). Рус. *рдеть, рде́ться* 'чырванець', укр. *рди́тися* 'гарачыцца', чэш. *rdíti se* 'чырванець', славен. *rdeti* 'тс'. Ст.-слав. **рьдѣти сѧ** 'чырванець', ст.-рус. *ръдѣтисѧ* 'чырванець', 'быць румяным, квітнеючым', 'чырванець, саромецца'. Прасл. *rъděti ўзыходзіць да і.-е. кораня *reudh-/*roudh- 'чырвоны'; параўн. лац. *rubēre*, ст.-в.-ням. *irrotên* 'чырванець' (падрабязней агульны і.-е. фон гл. *іржа*$_1$). Гл. Покарны, I, 872—873; Фасмер, 3, 453; КЭСРЯ, 386; Махэк$_2$, 510; Голуб — Копечны, 310; Бахіліна, История цветообозначений, 125—134, дзе шлях семантычнага развіцця ў рускай мове. З іншым вакалізмам гл. *руда, руды, рыжы*.

**Іржа́**$_1$ 'чырвона-буры налёт на паверхні жалеза; прымесь вокіслаў жалеза ў балотнай вадзе; жоўта-аранжавыя плямы на паверхні раслін' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., Бяльк.), *іржаве́ц, іржа́віньня* 'тс' (Бяльк.), *іржаві́нне* 'балота з іржавай вадой' (ТСБМ, Нас.), *іржаве́ць*. Рус. *ржа, ржа́вчина,* дыял. *ржа́* 'ржа', *ржа́вец* 'топкае месца, якое змяшчае многа жалезнай руды', 'балота з жоўта-бурай вадой', укр. *ржа, іржа́,* польск. *rdza,* в.-луж. *zerz, zerzawc,* н.-луж. *rza,* ст.-чэш. *rzě,* чэш. *rez,* славац. *hrdza,* славен. *rja,* серб.-харв. *р̏ђа,* балг. *ръжда́,* макед. *'рѓа.* Ст.-слав. **ръжда**, ст.-рус. *ръжа.* Пачатковае *і-* пратэтычнае. Прасл. *rъdja роднаснае літ. *rùdas* 'буры', *rūdìs* 'іржа', лат. *ruds* 'чырванаваты', ст.-інд. *rudhirās* 'чырвоны, крывавы', грэч. ἐρυθρός 'чырвоны', ἐρυσίβη 'іржа (на хлебе)', лац. *ruber* 'чырвоны', гоц. *rauþs* 'тс', с.-в.-ням. *rot* 'іржа'; узыходзяць да і.-е. *reudh-/*roudh- 'чырвоны'. Гл. Покарны, I, 872—873; Махэк$_2$, 513; Фасмер, 3, 480, дзе іншая літ-ра. На іншай ступені чаргавання гл. *ірдзець, руда, руды.*

**Іржа́**$_2$ 'жыта' адзначана толькі ў слоўніку Бялькевіча (агульнабел. *жыта*), аднак прыметнік *іржаны́, аржаны́* (гл.) пашыраны па ўсёй беларускай тэрыторыі. Вытворнае *іржа́ніца* 'жытняк' (Сл. паўн.-зах.). Рус. *рожь,* укр. *рож,* польск. *reż,* в.-луж. *rož, rožka,* н.-луж. *rež,* палаб. *råz,* чэш. *rež,* славац. *raž,* славен. *rž,* серб.-харв. *ра̑ж,* балг. *ръж,* макед. *'рж.* Беларуская форма з пратэзай *і-*. Прасл. *rъžь мае дакладныя адпаведнікі ў балтыйскіх і германскіх мовах: літ. *rugỹs,* лат. *rudzis,* ст.-прус. *rugis,* ст.-ісл. *rugr,* ст.-сакс. *roggo.* Гл. Фасмер, 3, 493—494; Праабражэнскі, I, 210—211; Махэк$_2$, 513. Версія пра запазычанне з цюркскіх ці фінскіх моў (Шрадар — Нерынг, 2, 266) непераканаўчая. Агляд іншых прапаноў гл. Фасмер, там жа.



**Іржа́нішча** 'ржаное поле' (Шат.). Утворана сцяжэннем састаўной назвы *іржаное поле* з суф. *-ішча;* параўн. *ільняні́шча.*

**Іржа́ць** 'абзывацца ржаннем (пра каня); гучна, нястрымана смяяцца, рагатаць' (ТСБМ, Бяс., Нас., Шат., Касп., Сцяшк. МГ), *ірза́ць* (Гарэц., Бяльк., Касп., Шат., Жд. 2), *іржа́нне* 'крык каня, конскі голас; гучны, нястрыманы рогат' (ТСБМ, Нас.), *ірза́ньня* 'тс' (Бяльк.). Рус. *ржать,* дыял. смал., зах.-бранск. *иржа́ть, ирза́ть,* укр. *ржа́ти, іржа́ти,* польск. *rżeć,* чэш. *ržáti,* славац. *erdžat', hržat',* славен. *rzati,* серб.-харв. *р̏зати,* макед. *'ржи.* Ст.-слав. **ръзати**, ст.-рус. *ръзати, ръжати.* Беларуская форма з прыстаўным *і-*. Прасл. *rъzati: -ž- пад уплывам форм цяп. ч. *rъžǫ. Бліжэйшыя паралелі: грэч. ἐρυγόντα, ἐρύγμηλος 'равучы', лац. *rūgiō, -īre,* с.-ірл. *rucht* 'роў, выццё', узыходзяць да і.-е. *reug̑-* (Покарны, I, 867). Дзеяслоў гукапераймальнага характару. Гл. Праабражэнскі, I, 201—202; Брукнер, 478; Махэк$_2$, 528; Фасмер, 3, 480—481. Параўн. *рыкаць.* Значэнне 'смяяцца' другаснае, утворанае ад значэння 'абзывацца ржаннем (пра каня)'; параўн. аналагічную семантычную структуру слав. *regotati (гл. *рагатаць*). Семантычна адрозніваюцца *іржа́ць* 'настойліва, назойліва прасіць, патрабаваць, дабівацца' (Нас.), *ірза́ць* 'дурэць, гойсаць, сваволіць' (Юрч.). Мяркулава (Этимология. 1974, 63) звязвае гэтыя значэнні са страчаным семантычным звяном 'знаходзіцца ў перыядзе цечкі', вядомым шмат якім славянскім дзеясловам гукапераймальнага характару. Старая семантыка захавалася ў н.-луж. *ryžaś* 'знаходзіцца ў перыядзе цечкі', 'скакаць, бегаць, лютаваць', *ryžaty* 'шумны, юрлівы, які знаходзіцца ў перыядзе цечкі', 'моцна жадаючы чаго-н., прагны да чаго.-н.'; параўн. аналагічную семантычную трансфармацыю в.-луж. *rjut* 'спешка; моцнае жаданне' (*ruja 'цечка').

**Іржы́шча** 'астаткі сцяблоў ад зжатага збожжа на полі; зжатае поле' (ТСБМ, Нас., Мал., Гарэц., Грыг., Бяльк., Касп., Шат., Сцяшк. Мг, Сл. паўн.-зах.). Рус. *ржи́ще,* укр. *ржа́нище,* польск. *rżysko,* в.-луж. *ržišćo,* н.-луж. *ržyšćo,* чэш. *režniště, režnisko,* славац. *ražnište, ražnisko,* славен. *ržišče,* серб.-харв. *ра̏жиште,* макед. *'ржиште,* ст.-рус. *ръжище.* Праславянскае вытворнае з суф. *-išče* ад *rъžь (гл. *іржа*$_2$). З іншай суфіксацыяй: *іржэ́нне* (Мат. Маг., Сл. паўн.-зах.) з суф. *-энн-е; іржэ́ўнік* (ТСБМ, Касп., Шат., Янк. II; парыц., Янк. Мат., 165) з фармантам *-эўнік* па ўзору *гарбузоўнік, гуркоўнік, бульбоўнік* (Сцяцко, Афікс. наз., 171).

**Ірзы** 'смех, рогат' (Бяльк.), *і́рзы* 'жарты, гульні, рогат'

(Растаргуеў, Бранск.). Ад *ірзаць* 'смяяцца, рагатаць' (гл. *іржаць*).

**Ірмус** 'вырвас, жулік, нахабны чалавек' (Бяльк.). Штучная лацінізаваная форма не зусім яснага паходжання. Магчыма, з **ірвус* ад *ірваць* (гл.) (суф. *-ус* звычайна далучаецца да дзеяслоўных асноў); параўн. *выpва, выpвас*. Субстытуцыя *-м-* замест *-в-* цалкам магчыма, улічваючы экспрэсію значэння. Нельга выключыць і магчымую сувязь з рус. смал. *и́мус* 'бядовы, вельмі здольны да чаго-н.' (Дабр.); параўн. таксама смал., сіб. *иму́н* 'жвавы, бядовы, спрытны', 'знаўца, майстар сваёй справы', смал. *иму́* 'адолею, пакару' ад *імаць* (гл.). Але застаецца няясным з'яўленне *-р-* (ці не звязана з рус. дыял. *ир* 'злосць', 'злосны, з'едлівы чалавек', *ирипе́с* 'сваволыйк, задзіра', ст.-рус. *иръ* 'болька, струп; скула'?).

**Ірмя́к** 'армяк, суконная верхняя доўгая вопратка' (Бяльк., Мат. Маг., Сл. паўн.-зах.). Гл. *армяк*.

**Ірны корань** 'Acorus calamus L.' (Кіс.). Рус. *и́рный ко́рень*, дыял. *ир* 'расліна Acorus calamus L.', *ирь* 'расліна Acorus verus L.', укр. дыял. *ір* 'аер'. У рускай пісьменнасці *иръ, ирово корение* 'аер' зафіксавана з XVII ст. Форма *ир* — скарачэнне ад *аир*, запазычанне з тур. *âgir* < грэч. ἄχορος (Мяркулава, Очерки, 55). Гл. *аер*.

**Іро́нія.** Крыніца запазычання: грэч. εἰρωνεία 'пытанне', потым 'пытанне, якое ставіць у тупік', 'тонкая насмешка', адкуль лац. *ironia* У бел. мову слова трапіла праз рус. (Крукоўскі, Уплыў, 77). У рус. з 10-х гадоў XVIII ст. (Біржакова, Очерки, 365) з польск., улічваючы націск (Фасмер (2, 139) не выключае магчымасці французскага ці нямецкага пасрэдніцтва, Шанскі (2, І, 114—115) называе французскую крыніцу).

**Ірты** 'лыжы' (Гарэц., Касп., Бяльк.; Маш., 26). Рус. арл., смал. *и́рты* 'лыжы'; параўн. таксама славен. *rtíče* 'сані'. Ст.-рус. *рты* 'лыжы' зафіксавана ў Ніканаўскім летапісе пад 1444 г. (спіс XVI ст.). Бел. лексема з прыстаўным *і-* ўзыходзіць да ст.-рус. *рты* і генетычна звязана з **rъtъ* (гл. *рот*). Назва паводле формы загнутых і завостраных спераду палазоў; параўн. ст.-рус. *рътъ* 'верх', 'пярэдняя частка, нос у карабля', славен. *ȓt* 'вастрыё', 'мыс', серб.-харв. *ȓт* 'верхавіна, вострая частка якога-н. прадмета', 'мыс', балг. *рът* 'узгорак, узвышша', макед. *'рт* 'мыс'. Гл. *нарты*.

**Ірунда́** 'глупства' (Бяльк.). З рус. *ерунда́* (першая фіксацыя — 1845 г.), якое ўзнікла ў мове семінарыстаў з лац. *gerundium* 'герундый' (Фасмер, 2, 26; Шанскі, 1, Д, Е, Ж, 263).

**Ірха** 'вузенькая палоска скуры або аўчыны, якая закладваецца ў шво кажуха, рукавіцы і інш.', 'тасёмка або вузкая палоска аўчыны, якой абшываюць край адзення або абутку для ўпрыгожання; аблямоўка' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Сцяшк. МГ, Янк. І; брэсц., Янк. Мат., 124; Сл. паўн.-зах., Мядзв., Грыг.), *ірха́* (Мат. Гродз.), *ірша́* (Касп.), *іршы́ць* 'закладваць у шво ірху; аблямоўваць, абшываць край чаго-н. ірхой' (ТСБМ, Нас.). Ст.-бел. *ирха, ерха* 'двухбаковая замша' (1582 г.) запазычана са ст.-польск. *ircha, jercha* (Булыка, Лекс. запазыч., 106). З польск. таксама рус. дыял. *и́рха, и́рга* 'вырабленая скура', 'аблямоўка футрам', укр. дыял. *ирха* 'вырабленая скура'. Польск. *ircha* 'гатунак замшы, мякка вырабленая скура', в.-луж. *jěrcha*, чэш. *jircha*, славац. *ircha* 'тс', славен. *írh, írha* 'гатунак скуры', *irhovîna* 'замша, аленевая скура', серб.-харв. *ѝра* 'вырабленая авечая скура' ўзыходзяць да с.-в.-ням. *irch, erch*, ст.-в.-ням. *irach* 'белая дубленая скура' ад лац. *hircus* 'казёл'. Гл. Праабражэнскі, 1, 273—274; Фасмер, 2, 139; Брукнер, 193; Слаўскі, 1, 465; Махэк$_2$, 227; Скок, 1, 728; Безлай, 1, 212.



**Іршаве́йка** 'рыбалоўная сетка з малымі вочкамі ў сеткавым палатне' (віц., Нар. лексіка, 34). Мабыць, кандэнсат словазлучэння *варшаўская сетка* з суф. *-ейк-а*, часткова пераафармлены фанетычна ў пачатку слова.

**Іск** 'пчаліная разведка' (Шат., Сцяшк. МГ, Сл. паўн.-зах., Інстр. І; слаўг., Нар. сл., 244), 'новы рой' (Жд. 3); параўн. рус. смал. *иск*, пск. *иска́* 'пчолы, якія шукаюць месца для новага аддзяліўшага рою'. Бязафікснае ўтварэнне ад *іскаць* (гл.); параўн. *скаль*. Сюды ж *іскаваць* 'шукаць, разведваць', *іскавы́* 'пошукавы' (Сл. паўн.-зах.).

**Іска́ць** 'шукаць' (Бяльк., Юрч. Сін., Сл. паўн.-зах.), *іска́ць, іска́цца* 'шукаць у галаве' (Шат., Касп.). У літ. мове выціснута агульнабел. *шукаць*. Рус. *иска́ть* 'шукаць', дыял. *иска́ться* 'шукаць у галаве', укр. дыял. *ська́ти* 'шукаць у галаве', польск. *iskać* 'шукаць вошы', ст.-чэш. *jiskati* 'шукаць', славац. *iskat'* 'шукаць у галаве', славен. *iskáti* 'шукаць', серб.-харв. *ѝскати* 'жадаць', 'шукаць', балг. *и́скам* 'жадаць', 'прасіць', 'патрабаваць', макед. дыял. *иска* 'хацець'. Ст.-слав. **искати** 'шукаць', 'імкнуцца, хацець', 'прасіць', ст.-рус. *искати* 'шукаць', 'імкнуцца, хацець', 'дамагацца', 'прасіць', ст.-бел. *искати* 'шукаць'. Прасл. **jьskati* працягвае і.-е. **ais-* 'жадаць, хацець, шукаць, патрабаваць' (Покарны, I, 16); параўн. літ. *ieškóti* 'шукаць', лат. *iẽskât* 'шукаць вошы', ст.-інд. *iccháti*, авест. *isaiti* 'шукаць, жадаць', ст.-в.-ням. *eiskōn*, ням. *heischen* 'патрабаваць', англасакс. *āscian*, англ. *to ask* 'пытацца'. Гл. Фасмер, 2, 139—140; Слаўскі, 1, 729—730; Безлай, 1, 212; Трубачоў, Эт. сл., 8, 238—239, дзе агляд літ-ры.

**Іскра**$_1$ 'маленькая часцінка распаленага або палаючага рэчыва, яркі зіхатлівы водбліск, бліскучая кропка' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Яруш., Сл. паўн.-зах., Бяс.), *скра* (Нас.), зборн. *іскырья* (Бяльк.). Рус. *и́скра*, дыял. *и́скорье, искорьё*, укр. *іскра, скра*, польск. *iskra*, уст. і дыял. *skra*, в.-луж. *škra*, н.-луж. *škŕa*, палаб. *jåskra*, чэш. *jiskra*, славац. *iskra*, славен. *ískra*, серб.-харв. *ѝскра*, балг. *и́скра*, макед. *искра*. Ст.-слав., ст.-рус., ст.-бел. *искра*. Прасл. *jьskra роднаснае *ěsk- з суфіксальнай варыяцыяй *-r-/-n-* (гл. *яскравы, ясны*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 239—240; Фасмер, 2, 140; Безлай, 1, 213; Слаўскі, 1, 467 (першапачаткова прыметнік з суф. *-ro-*). Іншыя спробы этымалагічнага тлумачэння выклікаюць сумненні: 1) сувязь з грэч. *ἐσχάρα* 'ачаг' (Казлоўскі, AfsPh, 11, 1888, 389); 2) збліжэнне са ст.-в.-ням. *asca*, гоц. *azgō* 'попел' < і.-е. *ǎs- 'гарэць, палаць' (Ільінскі, РФВ, 65, 1911, 218—221); 3) метатэза *ísk-rā: лац. *sci-nt-illa* (Атрэмбскі, Studia indoeuropeistyczne, 26); 4) супастаўленне з літ. *iš-skrieti* 'вылецець' (параўн. *крыло*), адкуль выходнае значэнне 'вылятаючая з агню часцінка' (Махэк$_2$, 227).

**Іскра**$_2$ 'гваздзік, Dianthus deltoides L.' (Кіс.), *іскарка* 'гваздзік, Dianthus L.' (Інстр. II). Метафарычны перанос з *іскра*$_1$ (гл.); назва кветкі паводле яркай афарбоўкі. Гэта ўстойлівая метафарычная назва шырока вядома ў слав. арэале; параўн. укр. дыял. *искорник* 'расліна Ranunculus acris', польск. дыял. *skierka* 'расліна *Aster amellus*', чэш. дыял. *jiskerka* 'маргарытка', славац. дыял. *iskra* 'тс', славен. *iskra* 'bellis perennis', *iskrica* 'bellis perennis', 'primula pubescens', 'primula auricula', серб.-харв. *ѝскрица* 'астра дзікая'.

**Існава́нне** 'наяўнасць чаго-н., каго-н. у рэальнасці, быццё; жыццё, спосаб жыцця' (ТСБМ), *істнава́ньне* (Гарэц.). Часткова калька па ўзору польск. *istnienie* ў пачатку XX ст. (Гіст. лекс., 256; Гіст. мовы, 2, 141); параўн. укр. *існува́ння*. Гл. *існы*.

**Існасць** 'сутнасць' (ТСБМ, Бяльк.), 'праўда' (Інстр. III), *істасьць* 'сутнасць' (Касп.), *и́стосць* 'шчырасць' (Нас.); параўн. рус. дыял. *и́стость* 'ісціна; уласцівасць, якасць, стан існага', *и́стоть* 'сапраўднасць, сутнасць'. Ст.-бел. *истность* у першых друкаваных кнігах (Гіст. мовы, 1, 295) з польск. *istność* 'сутнасць' ад *istny* (гл. *існы*).

**Існы** 'сапраўдны, рэальны' (ТСБМ), *істны* (Гарэц., Др.-Падб.), *истный, истый* (Яруш.). Рус. *и́стый*, дыял. *и́стный*, укр. *істий, істний*, польск. *istny*, уст. *isty*, в.-луж. *wěsty*, н.-луж. *wěsty*, уст. *jisty*, чэш. *jistý*, славац. *istý*, славен. *ísti*, серб.-харв. *ѝсти*, балг., макед. *ист*. Ст.-слав. **истъ** 'існы, сапраўдны', 'гэты, той', ст.-рус. *истый* 'той самы; сам', 'існы, сапраўдны', ст.-бел. *истый* 'сапраўдны', *исте, исто* 'сапраўды'. Няма неабходнасці



прыцягваць польск. *isty* для тлумачэння ст.-бел. *истый* 'сапраўдны, праўдзівы', як Булыка, Запазыч. Бел. *існы* ўзыходзіць да *jьstъ з суф. *-ьnъ* з далейшым спрашчэннем кансанантнай групы. Бясспрэчнай этымалогіі няма. Са шматлікіх версій вылучаецца меркаванне Тапарова (КСИС, 25, 1958, 80—86) 'аб роднасці з лац. *iste* 'гэты, той'. Гэта збліжэнне добра тлумачыць семантыку і займенную форму слав. слова: *is-to- 'той самы, іменна той'. Іншыя прапановы менш верагодныя. Супастаўленне з коранем *es- 'быць' (Міклашыч, 105; Мёль, MSL, 7, 1891, 357—358; Брукнер, 193—194, семантычна вельмі прывабнае, выклікае фанетычныя і акцэнталагічныя цяжкасці (Брандт, РФВ, 22, 134; Мейе, MSL, 14, 336). Бернекер (1, 435—436) тлумачыць як складанне з *jьz(iz) + sto- (ад *stā- 'стаяць'); параўн. лац. *ex-sistere* 'існаваць'. *Jьstъ збліжаюць таксама з лат. *īsts, īstens* 'існы, сапраўдны' (Буга, РФВ, 70, 1913, 252—253), літ. *ýsčias* 'яўны, ясны' (Мюленбах — Эндзелін, 1, 838; Ваян, RÉS, 11, 1931, 174). Станг (Norsk Tidskrift for Sprogvidenskap, 15, 343—351) параўноўвае са ст.-інд. *īśe* 'уладаць', гоц. *aigin* 'уласнасць', адкуль выходнае значэнне 'уласны'. Махэк$_2$ (228) раздзяляе *jistý* 'пэўны' і *ten jistý* 'той самы' і апошняе звязвае са слав. *jьsto 'нырка', хец. *ištanza-* 'душа', ням. *Geist* 'дух'. Параўн. яшчэ Безлай (1, 213), які прапаноўвае як магчымую рэканструкцыю *(v)istъ. Больш падрабязны агляд этымалагічных тлумачэнняў гл. Трубачоў, Эт. сл., 8, 246—247; Фасмер, 2, 144; Слаўскі, 1, 468—469.

**Іспата́каць** 'зрасходваць, выдаткаваць' (чэрв., Сл. паўн.-зах.); параўн. рус. *поток* у выразе *поток и разграбление* 'поўнае разарэнне, разбурэнне, знішчэнне', першапачаткова — мера пакарання ў старажытнарускай феадальнай дзяржаве, якая заключалася ў выгнанні з адабраннем маёмасці (ССРЛЯ), уст. *поточить* 'раскрасці, разграбіць', ст.-рус. *потокъ, поточеник* 'выгнанне, ссылка, зняволенне', *поточити* 'саслаць у зняволенне, выгнаць'. Прэфіксальнае ўтварэнне ад *točiti (гл. *тачыць*). Фасмер, 3, 345.

**Іспа́шка** 'від арэнды зямлі, пры якой плацяць часткай атрыманага ўраджаю' (полац., Нар. лексіка, 140), *испа́шь* 'псаванне скацінай засеянага поля' (Нас.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне. Гл. *пахаць*.

**Іспіца** (Касп., Сл. паўн.-зах.) з пратэтычным і-. Гл. *спіца*.

**Іспо́д** 'ніз' (Др.-Падб., Гарэц., Касп.), 'дно (падлога) у печцы' (Гарэц., Касп.), 'ніжняя частка якой-н. пасудзіны' (Нас. Доп.), *іспо́т* 'под' (Сл. паўн.-зах.). Рус. дыял. *и́спо́д* 'падкладка адзення', 'ніз', 'дно чаго-н.', 'чарэнь', 'падлога'. Ст.-рус. *исподъ* 'ніз', 'выварат, спод', 'адваротны бок якой-н. рэчы', 'ніжняе

адзенне, бялізна', *исподь* 'ніз' адзначана з XI ст. (першая фіксацыя ў Ізборніку Святаслава 1076 г.). Утворана шляхам зрашчэння складанага прыназоўніка *из (ис)— подъ* у ст.-рус. мове. Гл. *спод, исподні.*

**Іспо́дак** 'сподак' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Касп., Бяльк., Сл. паўн.-зах.), 'ніжняя частка малой пасудзіны' (Нас.). Утворана ад *іспод* (гл.) з суф. *-ак.* Гл. *сподак.*

**Іспо́дка,** звычайна мн. *іспо́дкі* 'вязаныя рукавіцы' (Нас., Касп., Бяльк.), *іспо́дка, іспо́тка* 'рукавіца' (Гарэц., Мат. Маг., Сл. паўн.-зах.; дзісн., Нар. сл., 113), *іспо́тка* 'рукавіца з адным пальцам' (докш., Янк. Мат., 72; ДАБМ, к. 333). У рускіх гаворках *испо́дка́* 'вязаная рукавіца, якая звычайна надзяваецца падыспад другой — скуранoй рукавіцы'. Ст.-рус. *исподки* 'ніжнія рукавіцы, панчохі, якія надзяваюцца падыспад другіх (верхніх)' адзначана з XVI ст. Назва звязана з тым, што *іспoдкі* надзяваюцца падыспад другіх (верхніх) рукавіц, пашытых звычайна са скуры ці аўчыны (гл. Груцо, Бел. мова, 1965, 130). Кандэнсат словазлучэння *іспoднія рукавіцы.* Гл. *іспoдні.*

**Іспо́дні** 'ніжні' (Касп., Бяльк., Сл. паўн.-зах.), 'ніжні, нацельны' (Мат. Маг.). Рус. дыял. і уст. *испо́дний* 'ніжні, нацельны'. Ст.-слав. **исподьнь** 'ніжні', ст.-рус. *исподнии* 'ніжні, нацельны'. Прыметнік, вытворны з суф. *-ьнъ* ад *исподъ* (гл. *іспoд*). Гл. *сподні.*

**Іспо́днік,** *іспо́дня* 'ніжняя спадніца' (Касп.), 'жаночая кашуля з белага паркалю' (Жд. 3), *іспо́днікі* 'сподні, кальсоны' (Бяльк.); параўн. рус. дыял. *испо́дник, испо́дня* 'ніжняя спадніца,' *испо́дница, испо́дка* 'ніжняе адзенне, бялізна', ст.-рус. *исподникъ* 'адзенне, якое надзяваецца пад што-н.' Утворана сцяжэннем атрыбутыўных словазлучэнняў *іспoдняя спадніца, кашуля* і г. д. Аналагічна *іспо́днік* 'ніжні камень у жорнах' (Сл. паўн.-зах.). Гл. *іспoдні.*

**Іспо́л** 'палавіна ўраджаю, якая аддавалася за арандаваную зямлю' (Сл. паўн.-зах.), 'частка ракі ўверх па цячэнню ад плаціны' (Касп.); параўн. у Даля: *и́спола, и́сполу* 'напалавіну, папалам'. Звязана са ст.-рус. *исполу* 'напалавіну' (з XIII ст.). Ст.-слав. **исполоу** толькі ў выразе **исполоу оумрътвити** 'напалавіну ўмярцвіць'. Вынік зрашчэння прыназоўніка *изъ* і назоўніка *полъ* 'палавіна' (Шанскі, 2, I, 126). Гл. *палавіна.*

**Іспра́ва** 'папраўка, выпраўленне', 'выкананне' (Нас.). Рус. дыял. *испра́ва* 'папраўка' (Даль), перм. 'папраўленне абставін жыцця' (СРНГ). Узыходзяць да ст.-рус. *исправа* (XII ст., са значэннем 'выпраўленне, папраўка' з 1626 г.) ад *исправи-ти* < ст.-слав. **исправити** (калька ст.-грэч. κατ-ορθόω, дзе κατ- **ис**-ὀρθόω-**правлю**), гл. Шанскі, 2, I, 127.



**Іспуга́цца** 'спужацца' (Сл. паўн.-зах.). З рус. *испуга́ться.* Гл. *пужаць.*

**Іспы́т** 'праверка ведаў, экзамен', 'выпрабаванне, праверка' (ТСБМ, Гарэц.). Рус. *испыта́ние* 'праверка, даследаванне', 'экзамен', 'цяжкае перажыванне, няшчасце, жыццёвая нягода', дыял. *испы́т* 'спроба, проба', *испы́тка* 'выпрабаванне, праверка', 'спроба', укр. *і́спит* 'выпрабаванне', 'экзамен', *іспіта́ння* 'выпрабаванне', серб.-харв. *ѝспит* 'экзамен', 'допыт', 'заручыны', балг. *и́зпит* 'экзамен', 'выпрабаванне', макед. *испит* 'тс'. Ст.-рус. *испытъ* 'расследаванне, дазнанне', 'проба, праверка' < ст.-слав. **испытъ** 'выпрабаванне, даследаванне' поруч з *испытание* 'выпрабаванне, даследаванне, расследаванне'. Бязафікснае ўтварэнне ад **испытати** (відаць, калька ст.-грэч. ἐξ-ετάξω 'даследаваць, выпрабоўваць' з ἐξ- **-ис-,** ἐτάξω- **пытаю**), гл. Шанскі, 2, I, 128.

**Іспячы́** 'спячы' (Сл. паўн.-зах.), магчыма, пад уплывам рус. *испе́чь* ці ўтварэнне з пратэтычным *і-* (гл. *пячы*).

**Ісса́ць** (Шат.) з пратэзай *і-*. Гл. *ссаць.*

**І́ста** 'асноўны капітал' (Гарэц.), 'сутнасць' (Гарэц., Др.-Падб.). Рус. дыял. і уст. *и́сто, и́стое* 'наяўныя грошы, капітал', укр. дыял. *і́сте, і́ста* 'капітал, асноўны капітал'. Ст.-рус. *исто* 'капітал, сума займа', *истое* 'сума займа' ў «Рускай праўдзе». Ад **jьstъ* (гл. *існы*).

**І́сткі** 'ніткі' (Мат. Гом.), 'ніткі, адрэзаныя ад красён пасля ткання палатна' (Інстр. II). Рус. тамб. *и́стка* 'незатканы астатак асновы пры тканні палатна', смал. *и́стки* 'ніткі, адрэзаныя ад красён пасля ткання палатна', *иска* кур. 'маленькі маток нітак', калуж. 'асноўная пража, якая засталася ад палатна'. У ст.-рус. пісьменнасці *истка* 'вытканая палоска матэрыі, якая выкарыстоўваецца ў якасці аздаблення' з першай палавіны XVII ст. Утворана ад *истъкати* 'саткаць, выткаць' (гл. *ткаць.*).

**Істо́пка** 'памяшканне для захавання агародніны і іншых прадуктаў' (ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк., Сл. паўн.-зах., Інстр. I, Мядзв.;Янк. Мат., 72; Кольб., 52), *істо́бка* 'тс' (Мат. Гом.; Янк. Мат., 87), *ісьцё́пка* 'тс' (Касп.), *істо́пка* 'насціл (у гумне з жэрдак)' (Мат. Гом.). Вядома на ўсёй беларускай тэрыторыі (гл. ДАБМ, к. 240). Рус. дыял. *и́сто́пка* 'хата, хацінка', 'гара', *исто́бка* 'кладоўка', *истё́бка* 'сутарэнне', 'склеп', 'кладоўка', 'хацінка паляўнічага ў лесе', *истё́бок* 'гара', *и́зобка́* 'хата', 'святліца'; укр. дыял. *стё́бка* 'кладоўка (якая ацяпляецца зімой)', *сте́пка* 'рублены свіран з печчу, які замяняе склеп'

(Грынч.), *вістебка* 'абагравальная зімой камора ці кладоўка' (Лысенка, ССП), польск. дыял. *izdebka* 'пакой', 'камера, келля', чэш. дыял. *istevka* 'лядоўнік на млыне'. Ст.-рус. *истобка, истопка, издебка* 'хата, хацінка, маленькае памяшканне ў хаце', 'лазня'. Ст.-бел. *издопъка* 'дом, жыллё', 'кладоўка, спіжарня' (гл. Лекс. Палесся, 154). Утворана ад **jьstъba* (гл. *ізба*) з суф. *-ъka* ў прасл. (Трубачоў, Эт. сл., 8, 245). Форма *ісьцёпка,* відаць, пад уплывам народна-этымалагічнага збліжэння з *тапіць, цёплы.*

**Істо́та** 'жывы арганізм; чалавек або жывёліна' (ТСБМ, Сл. паўн.-зах., Гарэц., Др.-Падб.), 'сутнасць, суць' (Др.-Падб., Гарэц.), *исто́та* 'сапраўднае становішча чаго-н.' (Нас.). Рус. дыял. *исто́та* 'існасць, сутнасць' (Даль), укр. *істо́та* 'істота', польск. *istota* 'сутнасць, істота', чэш. *jistota* 'пэўнасць, дакладнасць', славен. *istota* 'ідэнтычнасць'. Ст.-бел. *истота* 'сутнасць' (1522 г.) з польск. *istota* (Булыка, Запазыч.). Слаўскі (1, 470) лічыць прасл. утварэннем з суф. *-ota* ад **jьstъ* (гл. *існы*) з зыходным значэннем 'сапраўднасць, рэчаіснасць'.

**Істо́чка** 'крыніца' (Прышч. дыс., 136), *іcточнік (водны)* (Інстр. I). Рус. *исто́чник,* балг. *и́зточник.* Ст.-рус. *источникъ* запазычана са ст.-слав. **источьникъ** 'крыніца', утворанага ад дзеяслова **источити** 'выліць, выцечы' (Шанскі, 2, I, 134). Бел. суфіксацыя *-к-а.* Гл. *выток, цячы.*

**Істрабля́ць** 'знішчаць' (Сл. паўн.-зах.). З рус. *истребля́ть.*

**Істра́ва** 'ўсякая вараная ежа, прыгатаваная з агародніны' (Мядзв.). *І-* пратэтычнае. Гл. *страва.*

**Істра́ціць** 'загубіць' у кантэксце: *»баба не любіла дзѣта,... и хотѣла, кабъ яго истраціць»* (мін., Шн., 2, 219). Рус. дыял. *истра́тить* 'загубіць, знішчыць'; параўн. смал.: *«Мачеха дитенка истратила»* (СРНГ). Працягвае ст.-рус. *истратити* 'загубіць, знішчыць' ці ўтворана ад *страціць* (гл.) з прыстаўным *і-.*

**Істро́п** 'кроква' (Касп.), 'кроква, страха' (Нас.). Форма з прыстаўным *і-.* Гл. *строп.*

**Істру́б** 'зруб' (Нас., Касп., Юрч., Мат. Гом.; Растаргуеў, Бранск.), *изру́бъ* (Шн., 2, 382). У рускіх гаворках з тым жа значэннем *истру́б, изру́б, исру́б.* У рускай пісьменнасці *иструбъ* 'зруб' адзначана з XVII ст. Варыянт з устаўным *-т-* і пратэтычным *і-.* Гл. *зруб, рубіць.*

**Істры́ць** 'вастрыць' (Нас., Юрч., Сін., Сл. паўн.-зах.); параўн. рус. смал. *истри́ть* 'вастрыць', *и́стра* 'працэс вастрэння нажоў, тапароў' (Дабр.). Гл. *вастрыць, востры.*

**Істу́жка,** *сту́жка* 'палоска каляровай тканіны, якая скарыстоўваецца для ўпрыгожання, аблямоўкі і іншых мэт', 'доўгая вузкая палоска з якога-н. матэрыялу, якая служыць для тэхнічных і іншых патрэб' (ТСБМ, Касп., Бяльк., Мядзв., Жд. 2, Інстр. I). Рус. смал. *сту́жка, исту́жка* 'істужка', укр. *стьо́жка* 'тс', польск. *wstęga, wstążka* 'істу́жка, палоска', в.-луж. уст. *stuha* 'істужка, шнурок, завязка', н.-луж. *stuga* 'шнурок, рэмень', ст.-чэш. *vztúha,* чэш. *stuha, stužka* 'істужка', славац. *stuha, stužka, stuhľa* 'істужка, палоска, пояс', славен. *stôgla* 'шнурок, раменьчык'. Ст.-рус. *сътуга* 'звязка, скрэпа'. Прасл. **sъtǫga,* корань **-tǫg-/*-tęg-,* гл. *тугі, цягнуць, цяга* (Фасмер, 3, 786; Брукнер, 635). Махэк₂ (590) прапаноўвае праформу **vъstęga,* дзе *vъs-* паказвае напрамак дагары. Бел. суфіксацыя *-к-а; і-* пратэтычнае.



**Іс́ца** 'стрыгучы лішай' (Бяльк.), 'падскурны сверб падэшвы ці далоні' (Нас., Касп.). Фанетычны варыянт *асца* (гл.).

**Існе́ц** 'асоба, якая прад'яўляе іск' (ТСБМ). Рус. *исте́ц* 'тс', польск. *iściec* 'уладальнік', 'крэдытор', 'даўжнік', 'паручыцель', 'сведка', ст.-чэш. *jistec* 'уладальнік, крэдытор', 'даўжнік', 'абвінаваўца, ісцец', серб.-харв. *и̏стац* 'законнае дзіця', 'раўня', балг. *ище́ц* 'ісцец'. Ст.-рус. *истецъ* 'ісцец', 'адказчык', ст.-бел. *истец* 'тс'. Прасл. вытворнае з суф. *-ьсь* ад **jьstъ* (гл. *існы*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 247; Фасмер, 2, 142; Слаўскі, 1, 471.

**Існі́** (ТСБМ, Бяльк., Шат., Нас., Сл. паўн.-зах.), *іці́* (Нас., Бяльк., Шат., Сл. паўн.-зах.), *іці́ць* (Нас., Бяльк., Юрч., Мат. Маг.). Рус. *идти́,* дыял. пск. *исти́,* укр. *іти́,* польск. *iść,* в.-луж. *hić,* н.-луж. *hyś,* палаб. *ait,* чэш. *jíti,* славац. *ísť,* славен. *íti,* серб.-харв. *ӣħи,* балг. *и́да,* макед. *иде.* Ст.-слав. **ити,** ст.-рус. *итти, ити, итить,* ст.-бел. *ити.* Прасл. **jьti,* **jьdǫ* — рэфлекс і.-е. **ei̯-* 'ісці'; параўн. літ. *eĩti,* лат. *iêt,* ст.-прус. *ēit,* ст.-інд. *éti,* авест. *aēiti,* ст.-перс. *aitiy,* грэч. εἶμι, лац. *ire,* гоц. *iddja* 'ішоў', тахар. *i-.* Гл. Покарны, I, 293—294; Трубачоў, Эт. сл., 8, 247—248 (з літ-рай); Фасмер, 2, 117—118; Слаўскі, 1, 472—473; Махэк₂, 229 (суфіксальнае *-d-* звязвае з і.-е. **i-dhi,* загадны лад); Скок, 1, 707—708; Безлай, 1, 213—214. Зблíжэнне з выклічнікам *ei!* (Крэчмер, Glotta, 13, 137) няпэўнае. Бел. *іс-ці* < **id-ti.*

**Існі́зна** 'справядлівая справа, справядлівы іск, сапраўдная прыналежнасць' (Нас.). Ст.-бел. *истизна* 'наяўныя грошы, наогул наяўнасць чаго-н.' (Гарб.), 'уласнасць' (1547 г., Булыка, Лекс. запазыч., 78) запазычана са ст.-польск. *iścizna* 'капітал, наяўнасць, уласнасць; істотная праўда, рэчаіснасць'. З польскага таксама ўкр. *исти́зна* 'сапраўдная сума' (Жэлях.). Слаўскі (1, 472) лічыць паўн.-слав. утварэннем з суф. *-izna* ад **jьstъ* (гл. *існы*).

**Ісціна** 'праўда' (ТСБМ, Бяльк.), 'пазыка без працэнтных нарашчэнняў або сума чыстага падатку без пені' (Бяльк.), 'ісцінны, сапраўдны доўг' (Шат.), *истина* 'чысты капітал' (Шн., 2, 403), *ісцинна* 'праўда', 'сапраўдная колькасць чаго-н. узятага ці пазычанага' (Нас.). Рус. *истина* 'праўда', дыял. *истинник* 'наяўныя грошы, капітал', 'першапачатковая сума крэдыту без працэнтаў', укр. *істина* 'капітал, асноўны капітал', 'ісціна' (Грынч.), польск. *iścina* 'сапраўднасць, сутнасць', 'уласнасць', 'наяўнасць', чэш. *jistina* 'наяўнасць, капітал', славац. *istina* 'тс', славен. *ȋstina* 'праўда', 'асноўны капітал', серб.-харв. *ѝстина* 'праўда', балг. *истина* 'тс', макед. *истина* 'тс'. Ст.-слав. **истина** 'праўда, сапраўднасць', 'дакладнасць', ст.-рус. *истина, истинна* 'праўда', 'сапраўднасць', 'справядлівасць', 'сапраўдная колькасць тавараў, грошай (без прыбытку)', ст.-бел. *истина* 'праўда'. Прасл. вытворнае з суф. *-ina* (Мейе, Études, 450—452) ад **jьstъ* (гл. *існы*). Трубачоў, Эт. сл., 8, 242; Фасмер, 2, 142; Слаўскі, 1, 472 (семантычны пераход 'правільнасць, праўда'→'рэч правільная, сапраўдная, істотная, галоўная, якая забяспечвае'; параўн. лац. *capitalis* 'галоўны' — *капітал*); Шанскі, 2, I, 131 (запазычанне са ст.-слав.). Няма падстаў лічыць бел. слова запазычаным з рускай (як Крукоўскі, Уплыў, 34).

**Ісціць** 'выконваць', 'аддаваць узятую ці пазычаную колькасць', 'задавальняць', 'рабіць па чыстаму сумленню' (Нас.), *ісціцца* 'здзяйсняцца' (Нас., Яруш.), 'выплачваць свой доўг' (Нас.). ст.-бел. *истити* 'забяспечваць, выплачваць' (1492 г.) запазычана са ст.-польск. *iścić* (Булыка, Лекс. запазыч., 78). Адносна семантыкі і словаўтварэння польскага слова гл. Слаўскі, 1, 471.

**Іў** выклічнік 'ужываецца гукапераймальна для перадачы голасу каня пры брыканні' (ТСБМ, Шат.), параўн. рус. дыял. *ивка* 'аб кані (у мове дзяцей)', *ивкать* 'іржаць', 'пакрыкваць на коней'. Гукапераймальнае.

**Іўка** 'павека' (карэліц., Сл. паўн.-зах.). Збліжаюць з літ. *vókas* 'абалонка' (там жа).

**Іўчык** 'назва птушкі' (Бяльк., Сцяц.), *ічык* 'птушка (лясны свістун)' (Мат. Гом.). Відаць, птушка Saxicola rubetra L. (Антропаў, дыс.). Гукапераймальнае: *іў-чык;* параўн. прыклад у Сцяцко: *«Гэты йіўчык усё кажа: іў-чык-іўчык-чык, жыве ў балоце»;* параўн. *ечык, ёўчык.*

**Іхні** займ. 'які належыць ім' (ТСБМ, Шат., Нас.), *іхны* 'тс' (ТСБМ, Бяльк.), *іхі* 'тс' (Сл. паўн.-зах.), *ихный* 'ім уласцівы' (Нас.). Рус. дыял. *ихний, ихный, ихий* 'іх' (у рускай пісьменнасці з XVII ст.), укр. *іхній* 'тс'. Вытворнае з суф. *-н-* (<*ьнъ*) ад *іх,* формы р. скл. мн. л. прасл. займ. **jь* (гл. *ён*). Гл. Фасмер, 2, 145.



**Іцвіна** 'адзін з двух драцяных цяжоў, якія злучаюць галоўкі саней з пярэднімі капыламі' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Шат., Юрч.). Рус. дыял. *итвина* 'прут, тонкая палачка', пск., смал. 'папярочны брус, які злучае ўгары палазы саней' (улічваючы геаграфічнае пашырэнне, магчыма, з беларускай), *витвина* 'сцябло, ліст каранеплодных раслін', 'прут, тонкая палачка', 'вялікая галінка', *витлина* 'бацвінне бульбы, гароху'. Польск. *witwina* 'парода вярбы'. Звязана з **viti*, **větvь* (з вакалізмам **vit-;* параўн. польск. *witka,* славен. *vȋtva*). Праабражэнскі, 1, 86; Фасмер, 1, 321. Адносна агульнай і.-е. карціны гл. *ветка*$_1$. Параўн. яшчэ семантычна і фармальна блізкія *віціна*$_1$, *вица.*

**Іцык** 'беларускі танец' (Мядзв.); параўн. рус. смал. *ицыки* 'назва адной з нядаўніх гульняў сярод сялян'. Утворана, відаць, ад яўр. уласнага імя *Іцык,* але семантычная матывацыя застаецца няяснай.

**Ічай** 'адтуліна ў верхнім камені жорнаў, куды засыпаюць збожжа' (Інстр. III, Сл. паўн.-зах.), *ічаіна, ічая* (Сл. паўн.-зах.). Гл. *вечай, вячай, ячай.*

**Ічмень** (Сл. паўн.-зах.). Фанетычны варыянт *ячмень* (гл.).

**Іш** выклічнік 'бач' (Бяльк.). З рус. *ишь* (першая фіксацыя ў Слоўніку Даля 1863 г.), якое ўзыходзіць да *вишь* — вынік скарачэння з *видишь* ці, што менш верагодна, са ст.-рус. формы загаднага ладу *вижь.* Гл. Праабражэнскі, 1, 277; Фасмер, 2, 146; Шанскі, 2, I, 140.

**Ішак.** Рус. *ишак,* укр. *ішак,* серб.-харв. *ешек.* Слова цюркскага паходжання. У беларускай праз рускую (на магчымасць гэтага ўказвае Крукоўскі, Уплыў, 73). У рускай адзначана з XVII ст., у форме *ишечькъ* — з 1567 г. Звычайна лічаць запазычаннем з тур., азерб. *äşäk,* тат. *işäk* 'асёл' (Радлаў, Опыт, 1, 905—906, 1552; Фасмер, 2, 146). Па фанетычных і экстралінгвістычных прычынах Дзмітрыеў (Тюрк. эл., 24) называе Каўказ як больш верагодную тэрыторыю запазычання. Гл. яшчэ Шанскі, 2, I, 140. У серб.-харв. мове з турэцкага (Скок, 1, 495).

**Ішчэ** (Шат., Бяльк., Янк. II, Сл. паўн.-зах.). Фанетычны варыянт *яшчэ* (гл.).